АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МОВАЗНАЎСТВА ІМЯ ЯКУБА КОЛАСА

# ФАНЕТЫКА беларускай літаратурнай мовы

МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1989

ББК 81.2 Бел-1
Ф 21

Книга содержит описание звукового строя современного белорусского литературного языка. Даются артикуляционные и акустические характеристики белорусских звуков, их фонологическая интерпретация, а также приводятся данные по восприятию разных звуковых единиц носителями белорусского языка. Впервые в белорусской фонетике обобщаются сведения о сочетаемости звуков в исконно белорусской и заимствованной лексике. Книга иллюстрирована.

Рассчитана на языковедов, преподавателей и студентов филологических факультетов, учителей средних школ.

Аўтары:

В. Р. Бурлыка (р. 2 § 12), Л. Ц. Выгонная (Уводзіны § 5—7, р. 4 § 1—19, р. 5, 6), Г. В. Лосік (р. 3 § 2, 3, 5, 10—12, р. 4 § 20—22), А. І. Падлужны (Уводзіны § 1—4, 8, р. 1, 2 § 1—11, р. 3 § 1—4, 6—9, р. 7)

Рэдактар

д-р філал. навук А. І. Падлужны

Рэцэнзенты:

канд. філал. навук Л. М. Грыгор'ева,
канд. філал. навук Я. М. Камароўскі,
канд. філал. навук Ф. Д. Клімчук

**Фанетыка** беларускай літаратурнай мовы / І. Р. Бурлыка, Л. Ц.
Ф 21 Выгонная, Г. В. Лосік, А. І. Падлужны; Рэд. А. І. Падлужны.— Мн.: Навука і тэхніка, 1989.— 335 с.
ISBN 5-343-00292-7.

Фонетика белорусского литературного языка.

Кніга змяшчае апісанне гукавога ладу сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Даюцца артыкуляцыйныя і акустычныя характарыстыкі беларускіх гукаў, іх фаналагічная інтэрпрэтацыя, а таксама прыводзяцца даныя па ўспрыманню розных гукавых адзінак носьбітамі беларускай мовы. Упершыню ў беларускай фанетыцы абагульняюцца звесткі аб спалучэнні гукаў у спрадвечна беларускай і запазычанай лексіцы. Кніга ілюстравана.

Разлічана на мовазнаўцаў, выкладчыкаў і студэнтаў філалагічных факультэтаў, настаўнікаў сярэдніх школ.

**Ф** $\frac{4602020100-056}{М 316(03)-89}$ **109—88**

**ББК 81.2 Бел-1**

ISBN 5-343-00292-7.

# УВОДЗІНЫ

## § 1. ВУСНАЯ МОВА У ПРАЦЭСЕ КАМУНІКАЦЫІ

Моўныя зносіны паміж людзьмі з дапамогай вуснай мовы складаюцца з асобных камунікатыўных актаў. У кожным такім акце ўдзельнічаюць гаворачая асоба і слухач, якія мяняюцца ролямі. Паміж імі адбываецца абмен інфармацыяй. Інфармацыя, якую хоча перадаць гаворачая асоба, фарміруецца ў мозгу і праходзіць там пэўныя этапы апрацоўкі, перш чым на яе аснове будзе створана вуснае выказванне, якое затым трапляе ў вуха слухача ў выглядзе гукавой хвалі. Яе дастаткова, каб зразумець сэнс сказанага (рыс. 1). Гукавая хваля выступае толькі як матэрыяльны носьбіт інфармацыі, бо сама інфармацыя (або сэнс) знаходзіцца па-за ёй, а іменна ў мозгу, дзе яна звязана асацыятыўнай сувяззю з гэтым матэрыяльным носьбітам. Узаемаразуменне дасягаецца ў той ступені, у якой супадаюць асацыятыўныя сувязі паміж сэнсам і яго матэрыяльным носьбітам ва ўдзельнікаў камунікацыі.

Можна дапусціць, што сэнс, які з'яўляецца мэтай камунікацыі, захоўваецца ў мозгу ў выглядзе пэўнага абстрактнага запісу. Пра гэта сведчыць, напрыклад, такі факт, што адзін і той жа змест можна перадаць рознымі слоўнымі сродкамі. Змест праслуханага апавядання або лекцыі мы звычайна перадаём «сваімі словамі» з любой ступенню падрабязнасці. Гэта немагчыма было б зрабіць, каб ён быў запісаны ў памяці ў форме, як мы яго пачулі.

Для паспяховых моўных зносін у памяці гаворачай асобы і слухача павінен быць слоўнік. Магчыма, гэта слоўнік марфем, якія з дапамогай граматыкі пры камунікацыі афармляюцца ў словы. Сапраўды, у радзе выпадкаў нават ніколі не чутае слова становіцца зразумелым на аснове яго марфемнай будовы. Такім шляхам разумеюцца аказіяналізмы (словы, створаныя ў сувязі з канкрэтнай сітуацыяй), якія мы знаходзім і ў паэтычнай мове і якія не з'яўляюцца рэдкасцю ў гутарковай мове. Відавочна, «словы» памяці не разгорнуты ў часе і не маюць гукавой абалонкі.

Для таго каб перадаць сэнс, словы павінны быць арганізаваны ў больш буйныя адзінкі па правілах граматыкі. Граматычнае афармленне і фарміраванне слоў адбываецца паралельна, бо іх выбар азначае і наданне ім пэўнага граматычнага значэння, а ўключэнне іх у фразу суправаджаецца выбарам форм. Пры гэтым абавязкова ўлічваецца сінанімічнасць граматычных сродкаў.

На наступным этапе адбываецца разгортванне выказвання ў часе, калі сціслае апісанне пераўтвараецца ў ланцужок фанем на аснове правіл, якія дазваляюць або забараняюць пэўную паслядоўнасць фанем. Для гэтага ў памяці носьбітаў мовы павінны быць фанемны алфавіт (або код) і правілы кадзіравання. Фанемны алфавіт прадугледж-

вае дыскрэтнасць (раздзельнасць) яго элементаў. Гэта азначае, што паміж двума суседнімі элементамі не можа быць ніякіх прамежкавых элементаў, бо яны павінны адрозні-вацца адзін ад аднаго.

У далейшым, для таго каб рэалізаваць закадзіраванае паведамленне, неабходна падаць нервовыя каманды на органы мовы. У выніку іх дзеяння ў адпаведнасці з пададзенымі камандамі ўтвараецца гукавая хваля, якая і з'яўляецца знешнім выражэннем вуснай мовы.

Праз паветранае асяроддзе гукавая хваля дасягае вуха слухача, дзе пераўтвараецца ў нервовыя імпульсы, якія апрацоўваюцца ў мозгу слухача ў парадку, адваротным апісанаму вышэй. Аднак відавочна адна істотная асаблівасць. Яна вынікае з таго, што слуханне з'яўляецца працэсам, накіраваным на дасягненне разумення сэнсу. Гэта азначае, што ўсе астатнія этапы з'яўляюцца сродкамі дасягнення мэты. Таму яны выкарыстоўваюцца толькі ў той ступені, у якой гэта неабходна, каб з найменшымі намаганнямі зразумець сэнс. У выніку на кожным з указаных этапаў поўны аналіз неабавязковы. Але, калі ўзнікае неабходнасць, павінна быць магчымасць звярнуцца да таго або іншага этапу, каб ажыццявіць больш дэталёвы аналіз. Таму першапачатковая інфармацыя аб паведамленні павінна пэўны час захоўвацца ў памяці і сцірацца з яе пасля таго, як будзе запісаны канчаткова зразумелы сэнс.

Часцей за ўсё слухач дае пацвярджэнне разумення прынятага вуснага паведамлення, г. зн. паміж гаворачай асобай і слухачом існуе адваротная сувязь. Адсутнасць такой адваротнай сувязі ўскладняе працэс гаварэння, паколькі ў такім выпадку гаворачая асоба павінна прадугледзець усе магчымыя непаразуменні, якія могуць узнікнуць у слухача ў сувязі са сказаным, калі яна хоча, каб яе зразумелі. Найлепш паразуменне дасягаецца ў дыялогу, у працэсе якога ўдакладняецца ўсё неабходнае аб прадмеце гутаркі. Ва ўстанаўленні адваротнай сувязі зацікаўлены абодва ўдзельнікі камунікацыі, аднак больш зацікаўленым з'яўляецца слухач.

Гаварэнне ад пачатку і да канца прасякнута адваротнымі сувязямі і без іх не можа ажыццявіцца. Акт гаварэння ўяўляе сабой у мініяцюры ўвесь камунікатыўны працэс, бо гаворачая асоба слухае сябе і кантралюе, як удалося рэалізаваць перадачу сэнсу на ўсіх этапах. Заўважаныя памылкі адразу выпраўля-




Рыс. 1. Схема працэсу моўнай камунікацыі

юцца: перафразуецца паведамленне, калі здалося, што не так падабраны словы; выпраўляюцца формы слоў, мяняецца іх парадак, калі заўважаны памылкі на граматычным узроўні; робяцца паўторы, калі гаворачая асоба адчула, што нешта не так вымаўлена.

Прамым доказам існавання адваротнай сувязі паміж фанемным кодам і яго рэалізацыяй у гукавой хвалі з'яўляецца штучнае заіканне (эфект Лі). Яно ўзнікае тады, калі чалавек чуе сказанае ім з затрымкай у часе ад 1/5 да 2/5 секунды, і выражаецца ў тым, што чалавек пачынае паўтараць толькі што сказаны склад, пакуль яго не пачуе. У іншых выпадках празмерна расцягваюцца галосныя гукі, што прыводзіць да значных скажэнняў інтанацыі. Немагчымасць кантролю ў выпадку адсутнасці слыху прыводзіць да страты вуснай мовы. Калі слых згублены ў раннім дзяцінстве, чалавек становіцца нямым. Страта слыху дарослым прыводзіць да значнага пагаршэння яго мовы. Калі чалавек гаворыць у шуме, ён значна павялічвае сілу свайго голасу (эфект Ламбарда). Можна штучна стварыць умовы, калі гаворачая асоба будзе чуць сваю мову з пэўнымі частотнымі скажэннямі. Тады і гаварыць яна будзе са скажэннямі (эфект Тамаціса).

## § 2. ВУСНАЯ І ПІСЬМОВАЯ МОВА

З аналізу камунікатыўнага працэсу вынікае, што матэрыяльным сродкам, з дапамогай якога ажыццяўляюцца моўныя зносіны, можа быць не толькі гукавая хваля. І сапраўды, глуханямыя ажыццяўляюць зносіны ў сваім асяроддзі з дапамогай жэстаў і дактыльнай мовы, сляпыя карыстаюцца азбукай Бройля, якую яны ўспрымаюць пальцамі. Нарэшце, чалавек з даўніх часоў карыстаецца пісьмовай формай мовы. Можна ўявіць сабе ў якасці пераносчыкаў моўнай інфармацыі і іншыя віды матэрыі, даступныя органам пачуццяў чалавека.

Але найбольш дасканалым сродкам зносін з'яўляецца вусная мова. Па-першае, для яе ўтварэння выкарыстоўваюцца органы, якія не заняты ў працэсе працоўнай дзейнасці. Па-другое, толькі гукавымі сігналамі можна абменьвацца ў выпадках, калі ўдзельнікі камунікатыўнага акту не бачаць адзін аднаго (напрыклад, у цемры) або калі ўдзельнікаў камунікацыі больш чым два. Таму, акрамя пісьмовай мовы, іншыя віды зносін выкарыстоўваюцца толькі пры спецыфічных абставінах камунікацыі (напрыклад, жэставая мова — пры адсутнасці слыху і г. д.).

Вусная мова натуральна стала вядучым сродкам зносін. Яе ўзнікненне цесна звязана з развіццём і ўдасканаленнем гукавых сродкаў сігналізацыі, якія задоўга да з'яўлення чалавека былі шырока распаўсюджаны ў жывёльным свеце, з эвалюцыяй органаў мовы і членараздзельным вымаўленнем гукаў. Ф. Энгельс піша, што патрэба сказаць нешта адзін аднаму стварыла сабе свой орган. Неразвітая гартань малпы паволі, але няўхільна ператваралася для ўсё больш развітой мадуляцыі, а органы рота паступова навучаліся вымаўляць адзін членараздзельны гук за другім. Паступовае развіццё мовы суправаджалася ўдасканаленнем органа слыху, якое прывяло да таго, што мова і ўсе астатнія гукавыя сігналы пачалі ўспрымацца па-рознаму.

Відавочным недахопам вуснай мовы з'яўляецца тое, што яна не захоўваецца ў часе, абмежавана ў прасторы. Грамафоны, патэфоны і магнітафоны, якія дазваляюць кансерваваць вусную мову, паявіліся параўнальна нядаўна. Уся ж папярэдняя гісторыя не ведала гэтых сродкаў. Таму вялікім адкрыццём чалавецтва з'явілася вынаходства пісьма. Пісьмовая форма мовы да-

зваляе захаваць моўную інфармацыю ў часе, перадаваць яе на любыя адлегласці. Каштоўныя ўласцівасці пісьмовай формы мовы забяспечвалі ёй усё большую і большую ролю ў жыцці грамадства. У цяперашні час яе значэнне настолькі павялічылася, што мы не можам і мысліць сябе без яе існавання, яна пранікла ва ўсе сферы чалавечай дзейнасці. Пісьмовая мова стала ў наш час адной з важнейшых форм зносін людзей, нягледзячы на тое, што на гэты сродак зносін чалавецтва траціць значна больш намаганняў, чым на вусную. Дастаткова прыпомніць, што толькі на матэрыял для яе — паперу працуюць цэлыя галіны прамысловасці. Калі дадаць сюды кнігадрукаванне і яго абслугоўванне, абучэнне кожнага чалавека грамаце, дык становіцца відавочным, што за захаванне мовы ў прасторы і часе чалавек плаціць не так і мала.

Пісьмовая мова служыць не толькі сродкам зносін паміж людзьмі, якія складаюць грамадства ў той або іншы час, але і звязвае пакаленні. Праз яе мы знаёмімся з вопытам папярэдніх эпох, што забяспечвае далейшы прагрэс. У пісьмовай мове замацоўваюцца вынікі разумовай дзейнасці людзей і праз кнігі становяцца набыткам мільёнаў. Пісьмовая мова дазваляе захаваць творы мастацкай літаратуры ў тым выглядзе, у якім яны былі створаны мастакамі слова розных эпох.

Такім чынам, ужо ў функцыях вуснай і пісьмовай мовы ёсць адрозненні, дзякуючы чаму гэтыя формы не супрацьстаяць, а дапаўняюць адна адну. Калі вусная мова больш звязана з сітуацыяй, дык пісьмовая значна менш сітуацыйна абмежавана. Пры вусным маўленні звычайна ў наяўнасці абодва ўдзельнікі камунікатыўнага працэсу, пры пісьмовым — адрасат звычайна аддалены ад карэспандэнта. Іменна таму пісьмовая мова патрабуе больш пільнай апрацоўкі: карэспандэнт павінен прадугледзець усе непаразуменні, якія могуць узнікнуць пры чытанні; у большасці выпадкаў, калі не ставіцца спецыяльная мэта, неабходна пазбегнуць і двухсэнсоўнага разумення. Для стварэння пісьмовых тэкстаў затрачваецца значна больш часу, бо фарміраванне іх знакаў не такая лёгкая справа, як утварэнне знакаў вуснай мовы. Пісьмовая мова ствараецца ў адрыве ад вытворчага працэсу, патрабуе дадатковых прылад, у той час як вусная мова можа функцыянiраваць і ў час вытворчага працэсу. Ёсць адрозненні ў засваенні абедзвюх форм.

Большасць моў у цяперашні час карыстаецца літарным пісьмом. Пісьмовую мову трэба разглядаць як вытворную ад вуснай, бо графічныя сродкі непасрэдна не звязваюцца з паняццямі, а прызначаны для адлюстравання вуснай мовы. Таму звычайна разуменню пісьмовай мовы папярэднічае разуменне вуснай. Толькі ў выпадку з глуханямымі пісьмовая мова можа непасрэдна звязвацца з адлюстраваннем рэчаіснасці, а не вуснай мовы. Тое ж часам бывае і з разуменнем замежнай мовы, калі яна засвойваецца толькі праз пісьмовыя тэксты, але звычайна і ў гэтым выпадку яны пераводзяцца ў вусную форму, хоць і недакладна, бо разуменне пісьма адбываецца праз чытанне. Літар і знакаў прыпынку зусім недастаткова, каб з дакладнасцю перадаць усе гукавыя сродкі, якія звязаны з інфармацыяй. Значная частка іх у пісьмовай форме перадаецца лексічнымі сродкамі. У гэтым сэнсе пісьмовая мова з'яўляецца значна менш эканомнай, чым вусная. Будучы другаснай, пісьмовая мова тым не менш аказвае ўплыў на вусную, асабліва ў сувязі з развіццём сродкаў масавай камунікацыі (радыё, тэлебачанне). Пры масавай камунікацыі адбываецца такі ж разрыў паміж гаворачай асобай і слухачамі, як паміж адрасатам і карэспандэнтам, што прымушае загадзя рыхтаваць прамову ў

пісьмовай форме. Чытанне таксама пакідае свой след на вусным маўленні.

Агульным для абедзвюх форм мовы з'яўляецца тое, што адна і другая — матэрыяльныя носьбіты моўнай інфармацыі. Для таго каб выконваць гэту ролю, яны павінны быць арганізаваны пэўным чынам. У вуснай мове гукавая хваля павінна быць арганізавана так, каб забяспечыць яе ўспрыманне па дыскрэтных элементах, якія атаясамліваюцца з элементамі фанемнага кода. Пісьмовая мова прадстаўлена дыскрэтнымі элементамі алфавіту. Як на вуснай, так і на пісьмовай мове ляжыць адбітак індывідуальнасці таго, хто яе ўтварае. Аднак агульныя рысы пісьмовай і вуснай мовы рэалізуюцца празнымі матэрыяльнымі сродкамі, і іх арганізацыя істотна адрозніваецца. Таму і апісанні вуснай і пісьмовай форм мовы не супадаюць. Для тэарэтычных і рада практычных мэт, у тым ліку і для навучання мове, найбольш важнае значэнне мае апісанне вуснай формы мовы. Яно ўзрастае ў сувязі з тым, што пісьмовая мова не можа быць навукова прадстаўлена без папярэдняга ўсебаковага вывучэння вуснай мовы.

## § 3. ВУСНАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ І ДЫЯЛЕКТНАЯ МОВА

Беларуская мова — гэта адзінства, у склад якога ўваходзяць дыялекты і літаратурная мова, якая цалкам не супадае ні з адным з дыялектаў і з'яўляецца якасна новай з'явай у параўнанні з імі. Дыялекты, або мясцовыя гаворкі, распаўсюджаны на абмежаванай тэрыторыі і выкарыстоўваюцца галоўным чынам для зносін людзей у бытавой сферы. Яны звычайна не маюць пісьмовай формы і адрозніваюцца паміж сабой у галіне фанетыкі, лексікі, марфалогіі, сінтаксісу. Але гэтыя адрозненні паміж дыялектамі адной мовы значна меншыя, чым паміж дзвюма нацыянальнымі мовамі.

Літаратурная мова выкарыстоўваецца для зносін усіх людзей нацыі. Яна мае вусную і пісьмовую форму, а сферы і функцыі яе выкарыстання значна шырэйшыя, чым дыялектаў. Літаратурная мова выступае як форма нацыянальнай культуры. Гэта — мова мастацкай літаратуры і навукі. Яна абслугоўвае ўсіх членаў нацыі ва ўсіх сферах вытворчасці і грамадскага жыцця. Для таго каб выконваць свае функцыі, літаратурная мова падпарадкоўваецца строгім нормам, якія распрацоўваюцца і абгрунтоўваюцца вучонымі-лінгвістамі. Асабліва гэта відавочна на пісьмовай форме мовы, якая цалкам рэгламентуецца правіламі арфаграфіі і пунктуацыі, слоўнікамі і граматыкамі.

Вусная літаратурная мова рэгламентуецца правіламі арфаэпіі. Яе граматычныя формы, словаўжыванне, сінтаксіс падпарадкоўваюцца тым жа правілам, якім падпарадкоўваецца і пісьмовая мова. Таму вусная літаратурная мова — гэта мова адукаваных людзей. Разам з пісьмовай яна выконвае самыя розныя функцыі і абслугоўвае розныя сферы дзейнасці, у сувязі з чым у ёй выпрацоўваюцца функцыянальныя стылі: дзелавы, навуковы, публіцыстычны, стыль мастацкай літаратуры, якія адрозніваюцца паміж сабой у розных адносінах.

Вусная беларуская мова характарызуецца тым, што яе розныя дыялектныя варыянты і літаратурная мова адносна блізкія паміж сабой. Носьбіты розных дыялектаў без асаблівых цяжкасцей разумеюць адзін аднаго, як кожны з іх без спецыяльнага навучання разумее і літаратурную мову. Гэта азначае, што агульнае ў іх значна пераважае над своеасаблівым.

Большасць насельніцтва нашай рэспублікі валодае таксама і рускай літаратурнай мовай, якая выкарыстоўваецца не толькі як сродак міжнацыянальных зносін, але шырока распаўсюджана і як сродак зносін унутры нацыі. Асабліва гэта датычыць гарадскога насельніцтва, якое стала двухмоўным яшчэ да рэвалюцыі. У сувязі з гэтым назіраецца тэндэнцыя да паступовага размежавання сфер ужывання беларускай і рускай мовы. У афіцыйна-дзелавой сферы пераважае руская мова, у той час як у сферы, звязанай з мастацкай літаратурай, пануючае становішча беларускай мовы бясспрэчна. Пісьмовая форма беларускай літаратурнай мовы распаўсюджана шырэй, чым вусная.

Вусная літаратурная мова і дыялекты цесна ўзаемадзейнічаюць. З аднаго боку, дзякуючы сродкам масавай камунікацыі (радыё, тэлебачанне) літаратурнае вымаўленне аказвае моцны ўплыў на дыялектнае. Носьбіты дыялектнага маўлення паступова пазбаўляюцца выразных і найбольш яркіх фанетычных адрозненняў, якія характарызуюць іх дыялект, пашыраюць лексічны склад сваёй мовы. Межы паміж асобнымі мясцовымі гаворкамі становяцца ўсё больш расплывістымі і неакрэсленымі. З другога боку, несумненны ўплыў аказваюць і дыялекты на літаратурную мову. Звычайна носьбіты літаратурнага маўлення — гэта былыя прадстаўнікі дыялектнага маўлення. Паколькі фанетычны бок мовы не знаходзіцца ў цэнтры ўвагі пры камунікацыі, асобныя дыялектныя рысы захоўваюцца ў многіх людзей на доўгія гады і могуць нават перадавацца наступнаму пакаленню. З-за гэтага паміж літаратурным і дыялектным вымаўленнем няма рэзкай мяжы, узнікаюць шматлікія «адхіленні» ад літаратурных норм, супраць якіх вядзецца пастаянная барацьба.

Безумоўна, барацьба за чысціню літаратурнай мовы неабходна, бо адсутнасць строгіх норм збядняе выразныя сродкі вуснай мовы і замаруджвае працэс стылявой дыферэнцыяцыі вымаўлення (гукавая стылістыка), што неабходна, каб яна (літаратурная мова) стала дасканалай формай нацыянальнай культуры. Як форма культуры (у прыватнасці, тэатральнай) вусная мова з'яўляецца не толькі сродкам перадачы сэнсавай інфармацыі.

У кожным выказванні, акрамя сэнсавай, перадаецца інфармацыя аб гаворачай асобе. Маюцца на ўвазе сродкі чыста ўмоўнага характару, напрыклад захаваныя ў вымаўленні дыялектныя асаблівасці, па якіх можна вызначыць паходжанне чалавека, або асаблівасці ў вымаўленні пажылых і маладых людзей, людзей рознага сацыяльнага становішча. Адступленне ад вымаўленчых норм прыводзіць да таго, што слухачы перастаюць рэагаваць на гэтыя сродкі. У выніку пры ўвасабленні вобразаў на сцэне часта атрымліваецца, што мова герояў не адпавядае іх характару, бо ненарматыўнае вымаўленне часам успрымаецца як сродак, які характарызуе чалавека.

Акрамя сродкаў, што характарызуюць асобу, у вуснай мове ёсць і спецыяльныя сродкі для таго, каб выклікаць у чытачоў пэўныя пачуцці. Тут маюцца на ўвазе толькі ўмоўныя сродкі, калі гаворачая асоба можа і не перажываць пэўнае пачуццё, а толькі імкнецца выклікаць яго ў субяседніка. Напрыклад, яшчэ Я. Ф. Карскі адзначаў, што ў беларускай мове для выражэння высокай ступені якасці выкарыстоўваецца расцягванне націскнога галоснага і нават пасля яго можа быць маленькая паўза: *вялі-і...зны, паўню-ю...ткі.* Для ўзмацнення значэння якога-небудзь слова разам з узмацняльнымі часціцамі ўжываецца расцягванне як націскнога галоснага, так і суседніх з ім зычных: *чэ-эрці, няхай т-табе.* Шырока выкарыстоўваюцца для гэтых мэт інтанацыйныя сродкі. Вывучэнне гэтых сродкаў і ўмелае іх

выкарыстанне спрыяла б павышэнню якасці вуснай мовы. Зразумела, што іх невычэрпнай крыніцай з'яўляецца дыялектная мова.

Стылістычная дыферэнцыяцыя магчыма толькі тады, калі выпрацавана пэўнае нейтральнае вымаўленне, якое найбольш поўна перадае толькі сэнсавую інфармацыю, пазбягае перадачы ўмоўных сродкаў характарыстыкі гаворачай асобы, не накіравана на выкліканне пэўных пачуццяў у слухача. Рэальна такое вымаўленне амаль не сустракаецца, але паняцце аб ім павінен мець кожны, хто хоча эфектыўна карыстацца вуснай моваи. Для таго каб такое паняцце склалася, патрэбна добра ведаць усе разнавіднасці вуснай нацыянальнай мовы.

## § 4. ФАНЕТЫКА, ЯЕ ПРАДМЕТ І МЕТАДЫ ДАСЛЕДАВАННЯ

Ф а н е т ы к а (ад грэч. phōneticos — гукавы) — раздзел мовазнаўства, які вывучае гукавыя сродкі мовы. Фанетыка даследуе гукавы састаў вуснай мовы, націск, склад, інтанацыю, змяненні гукаў у слове і больш буйных адзінках маўлення. Акрамя таго, паколькі літарнае пісьмо з'яўляецца вытворнай формай ад вуснай мовы, у кампетэнцыю фанетыкі ўваходзіць рад пытанняў з тэорыі пісьма, якую немагчыма зразумець без уліку асаблівасцей вуснай мовы. Гэта мае асаблівае дачыненне да беларускай пісьмовай мовы, у якой значную ролю адыгрывае так званы фанетычны прынцып арфаграфіі. Гукі як дыскрэтныя адзінкі вывучае сегментная фанетыка. Гукавымі сродкамі, якія ахопліваюць некалькі сегментаў (напрыклад, інтанацыя, націск), займаецца супрасегментная, або прасадычная, фанетыка. Цэнтральнае месца ў фанетыцы займае вывучэнне гукавога складу. З аналізу камунікатыўнага працэсу вынікае, што гукавую матэрыю мовы трэба вывучаць у чатырох аспектах, каб зразумець, як яна выкарыстоўваецца для перадачы моўнай інфармацыі і якое яе месца ў агульнай будове мовы.

Органы мовы павінны заняць пэўнае становішча, каб утварыўся пэўны гук. Неабходна вывучыць як самі гэтыя тыповыя становішчы для кожнага гука, так і рухі органаў мовы, з дапамогай якіх яны дасягаюцца. Гэта і ёсць артыкуляцыйны аспект, а раздзел фанетыкі, які звязаны з ім, называецца *артыкуляцыйнай* фанетыкай.

У выніку дзеяння органаў мовы ўзнікае гукавая хваля, якая дасягае вуха слухача. Як матэрыяльны пераносчык інфармацыі яна павінна быць нейкім чынам арганізавана. Таму ўзнікае неабходнасць вывучаць будову гукавой хвалі ў чыста фізічным, акустычным плане, чым і займаецца *акустычная* фанетыка.

Слухач з дапамогай свайго органа слыху і вышэйшай нервовай сістэмы на аснове гукавой хвалі стварае суб'ектыўны вобраз пачутага, успрымае гукавую хвалю як паслядоўнасць асобных (дыскрэтных) элементаў, якія звычайна і называюць гукамі. Відавочна, што гук як паняцце фізічнае і гук як вынік успрымання фізічнай з'явы нятоесныя. Таму гукавую матэрыю мовы неабходна вывучаць з пункту погляду яе ўспрымання. Раздзел фанетыкі, які гэтым займаецца, толькі яшчэ складваецца і атрымаў назву *перцэптыўнай* фанетыкі.

Нарэшце, як ужо гаварылася, пры моўнай камунікацыі гукі самі па сабе з'яўляюцца толькі сродкамі, з дапамогай якіх удзельнікі камунікацыі дасягаюць узаемаразумення. На пытанні, як выкарыстоўваюцца ў камунікатыўным працэсе гукі, якую функцыю яны выконваюць і як выконваюць, можна адказаць толькі шляхам вывучэння гукавой матэрыі мовы ў функцыянальным аспекце. Гэты аспект разглядаецца ў *фаналогіі.*

Розныя аспекты гукавой матэрыі мовы абумоўліваюць і наяўнасць розных метадаў фанетычных даследаванняў. Іх можна падзяліць на дзве групы. Да першай групы належаць метады артыкуляцыйнай і акустычнай фанетыкі. Гэтыя раздзелы вывучаюць аб'екты, якія даступны непасрэднаму назіранню. Таму метад назірання займае вядучае становішча пры вывучэнні артыкуляцыі і акустыкі гукаў. Прымяняецца таксама метад мадэліравання. Асаблівасці метадаў, якія выкарыстоўваюцца ў перцэптыўнай фанетыцы і фаналогіі, вынікаюць з таго, што гэтыя раздзелы маюць справу з аб'ектамі, якія недаступны непасрэднаму назіранню. І вядучае становішча тут займаюць метады эксперымента і мадэліравання. У фаналогіі разнавіднасцю метаду мадэліравання з'яўляюцца дыстрыбуцыйны метад і метад мінімальных пар. Зразумела, што прымяняецца і назіранне, хоць яго прымяненне і абмежавана ў сувязі з асаблівасцямі аб'ектаў вывучэння.

Метад назірання мае тры разнавіднасці: непасрэднае назіранне з дапамогай органаў пачуццяў, інструментальнае назіранне і саманазіранне.

Непасрэднае назіранне дазваляе сабраць звесткі аб артыкуляцыях губ, шырыні раскрыцця рота, да некаторай ступені можна назіраць і за кончыкам языка. Непасрэднаму назіранню даступны таксама зафіксаваныя з дапамогай прыстасаванняў ваганні гукавой хвалі, яе спектр. Для фіксацыі бачымых з'яў прымяняюцца фотаапараты і кінакамеры, асцылографы і спектрографы. Атрыманыя матэрыялы дазваляюць праводзіць вымярэнні тых велічынь, якія могуць цікавіць даследчыка. Візуальным назіраннем шырока карыстаюцца глуханямыя (чытанне з губ) пры зносінах з нармальна гаворачымі людзьмі. Развіццё назіральных здольнасцей у некаторых выпадках можа замяніць да 70% гукавой інфармацыі. Вось чаму бачанне твару гаворачага значна аблягчае слуханне.

Назіранні з дапамогай тактыльнага аналізатара (вібрааналізатара) дазваляюць значна пашырыць інфармацыю, якая паступае праз орган зроку. Калі пакласці палец на кадык, то лёгка адрозніць гукі, якія ўтвараюцца з удзелам галасавых звязак (бо будзе адчувацца дрыжанне) і без іх удзелу. Добра адрозніваюцца глухія і звонкія гукі, калі пакласці руку на цемя. Палец на кадыку добра адчувае рух яго кнізу пры вымаўленні фарынгальнага [ɦ] (напрыклад, у слове *ага*) і кверху пры вымаўленні заднеязычнага фрыкатыўнага [г]. Толькі з дапамогай тактыльнага аналізатара ўстанаўліваецца моўная сувязь са слепаглуханямымі, што сведчыць аб значнасці інфармацыі, якая паступае праз гэты сенсорны канал.

Назіранне з дапамогай органа слыху дазваляе здабыць каштоўныя звесткі аб акустыцы гукаў. Пры наяўнасці адпаведных якасцей слыху і трэніроўкі чалавек здольны вызначыць вышыню гукаў, а тым самым і частату асноўнага тону, вышыню вядучай фарманты галосных. Фактычна на слыхавым назіранні заснавана і камертонная методыка, якая да з'яўлення спектрографаў шырока прымянялася ў фанетыцы.

Пры саманазіранні выкарыстоўваецца мускульнае пачуццё. Яно паддаецца трэніроўцы, і кожны можа дасягнуць значных поспехаў у яго развіцці. З дапамогай уласнага мускульнага пачуцця можна вызначыць шмат асаблівасцей работы языка, месца ўтварэння перашкоды, ступень і месца пад'ёму языка пры ўтварэнні галосных гукаў. Але ўсе гэтыя назіранні адносяцца толькі да ўласнага вымаўлення. Вымаўленне іншага чалавека можна даследаваць з дапамогай саманазірання толькі ў тым выпадку, калі вывучышся дакладна імітаваць яго мову. Каштоў-

насць гэтага метаду не столькі ў тым, што з яго дапамогай здабываюцца звесткі для навуковага апісання гукаў, колькі ў тым, што ён дае амаль адзіны шлях навучыць вымаўляць гукі патрэбным чынам пры вывучэнні замежнай мовы і засваенні літаратурнага вымаўлення.

Найбольш дакладным пры вывучэнні артыкуляцыі і акустыкі гукаў з'яўляецца інструментальнае назіранне. Месца артыкуляцыі зычных вызначаецца з дапамогай палатаграфавання. Існуюць тры разнавіднасці гэтага метаду: непрамое, прамое і дынамічнае. Пры непрамым палатаграфаванні ў зубапратэзнай майстэрні робіцца штучнае паднябенне — дакладная копія паднябення чалавека, артыкуляцыю якога трэба вывучыць. Паверхня штучнага паднябення пакрываецца лёгка змываемай фарбай, напрыклад парашком актывіраванага вугалю, разведзеным у вадзе. Затым яго ўстаўляюць у рот інфарматара такім чынам, каб яно шчыльна прылягло да натуральнага паднябення. Рот у гэты час застаецца адкрытым. Затым чалавек вымаўляе патрэбны гук, склад або слова і зноў раскрывае рот. Штучнае паднябенне вымаецца. Месцы, дзе язык дакрануўся да яго, аказваюцца незафарбаванымі. З атрыманай палатаграмы робіцца фотаздымак, з якога на кальку пераносіцца схематычны адбітак. На ім адлюстроўваюцца контуры зубоў, паднябенне і месцы, дзе дакрануўся да яго язык у час артыкуляцыі.

Пры прамым палатаграфаванні натуральнае паднябенне з дапамогай пульверызатара зафарбоўваецца тым жа растворам актывіраванага вугалю. Пасля таго як вымаўлен патрэбны гук, паднябенне фатаграфуецца з дапамогай фотапалатографа, які ўяўляе сабой сістэму люстэркаў, звязаных з фотаапаратам такім чынам, што калі адно з іх уставіць у рот, дык можна фатаграфаваць








Рыс. 2. Здымак паднябення і палатаграма, здымак языка і лінгваграма, здымак ніжняга паднябення і адантаграма

паднябенне, язык або ніжнія зубы з унутранага боку. З фатаграфіі робіцца схема, як і пры непрамым палатаграфаванні. У залежнасці ад таго, што фатаграфуецца, адрозніваюць палатаграмы (паднябенне і верхнія зубы), лінгваграмы (язык) і адантаграмы (ніжнія зубы) (рыс. 2).

Каб адлюстраваць дынаміку ўтварэння гукаў, выкарыстоўваецца дынамічнае палатаграфаванне. На





Рыс. 3. Рэнтгеназдымак і рэнтгенаграма

с' ц' в' а

р дж а

ц'

Рыс. 4. Асцылаграма слова [с'ц'в'арджац']. На ёй відаць адрозненні гукаў па амплітудзе і наяўнасці шуму або перыядычных ваганняў. Унізе — шкала часу: адно дзяленне — 2 мілісекунды (мс)

штучным паднябенні робяцца металічныя кантакты, пры дакрананні да якіх замыкаецца электрычны ланцуг. Электрычныя датчыкі прымацоўваюцца таксама да губ і гартані. Праходжанне электрычнага току ў розных месцах моўнага апарату фіксуецца пры дапамозе шматканальнага асцылографа, што дае магчымасць вызначыць, у якім месцы і ў які адрэзак часу органы мовы датыкаліся адзін да аднаго. На гэтай аснове і робіцца заключэнне, як разгортваюцца рухі органаў мовы ў часе.

Аднак не ўсю інфармацыю можна атрымаць з дапамогай палатаграфавання. Таму шырокае распаўсюджанне ў фанетыцы мае метад рэнтгенаграфіі. Існуе шэраг разнавіднасцей гэтага метаду.

Пры статычным рэнтгенаграфаванні робіцца адзін рэнтгеназдымак на гук. Таму слова ў якасці эксперыментальнага матэрыялу выкарыстоўваць нельга. Для таго каб здымак прыйшоўся якраз на момант гучання, прыходзіцца зацягваць вымаўленне гука. Гэта выклікае асаблівую складанасць здымкі артыкуляцыі выбухных, афрыкатыўных і дрыжачых зычных. Атрыманыя здымкі цяжка суаднесці з асобнымі фазамі гукаў. Таму найбольш цікавыя вынікі статычнае рэнтгенаграфаванне дае толькі для галосных, фрыкатыўных і некаторых санорных.

Кінарэнтгенаграфія пазбаўлена гэтых недахопаў і ўсё шырэй выкарыстоўваецца ў артыкуляцыйнай фанетыцы. Зручнасць кінарэнтгена заключаецца ў тым, што артыкуляцыю гукаў можна здымаць у розных фанетычных умовах у звязнай мове. Адпаведная частата кадраў дазваляе атрымаць некалькі здымкаў на працягу вымаўлення аднаго гука. Адначасова з кінарэнтгенам эксперыментальныя словы і фразы запісваюцца на магнітную стужку, што дапамагае вызначыць, які момант гучання адлюстроўвае той або іншы кадр. На кожным кадры відаць станові́шча ўсіх органаў мовы, аднак здымак перагружаны і шматлікімі дэталямі, якія не маюць значэння для артыкуляцый. Таму ў фанетыцы прынята рабіць са здымкаў схемы, якія называюцца рэнтгенаграмамі. На іх абводзяцца контуры губ, верхняй і ніжняй сківіц, паднябення (цвёрдага і мяккага), языка (рыс. 3).

У акустычнай фанетыцы з метадаў інструментальнага назірання найбольш распаўсюджанымі з'яўляюцца асцылаграфаванне і спектраграфія. Абодва гэтыя метады зводзяцца да графічнага запісу моўнага сігналу. Пры асцылаграфаванні запісваецца на кінастужку або паперу змяненне ціску перад мікрафонам у часе, што адпавядае форме гукавой хвалі. На асцылаграме адлюстроўваецца змяненне амплітуды ваганняў, працягласць асобных элементаў, характар ваганняў (рыс. 4).




Рыс. 5. Дынамічная спектраграма склада [ф'а]. Па вертыкалі абазначана велічыня частаты ў кілагерцах (кГц); па гарызанталі — час у мс; ніжэй дадзены падзел на гукі

Спектраграмы адлюстроўваюць спектр ваганняў. Для фанетыкі ўяўляюць цікавасць тры спектральныя характарыстыкі: частата, амплітуда, час. У сувязі з гэтым выкарыстоўваюцца спектраграмы, на якіх адлюстроўваюцца амплітуда і частата або частата, амплітуда і час. Спектраграма, на якой адлюстроўваюцца ўсе тры параметры, называецца «бачымай мовай». На такой спектраграме частата фіксуецца па восі ардынат, час — па восі абсцыс, а велічыня амплітуды перадаецца ступенню пачарнення ліній (рыс. 5). Спектраграмы, якія адлюстроўваюць частату і велічыню амплітуды, часта называюць зрэзамі, бо яны робяцца толькі ў пэўныя моманты часу.

Метад эксперымента заключаецца ў тым, што слухачу або групе слухачоў прапануецца вынесці ацэнку моўнаму сігналу з пэўнымі зменнымі параметрамі. У залежнасці ад характару ацэнак носьбітаў мовы можна зрабіць заключэнне адносна ўласцівасцей суб'ектыўнага вобраза пачутага. У ходзе эксперымента можа змяняцца не моўны матэрыял, а ўмовы, у якіх адбываецца гаварэнне або слуханне. Напрыклад, можна ўзнавіць эфект фарсіравання голасу, калі гаворачай асобе праз навушнікі падаваць дастаткова моцны шум.

Мадэліраванне бывае матэматычным і фізічным. Абодва гэтыя віды прымяняюцца ў фанетыцы. Напрыклад, у 1933 г. была пабудавана механічная мадэль моўнага апарату, якая мела клавішнае кіраванне і магла вымаўляць звязныя фразы. Гэта фізічная мадэль. Рознага роду сінтэзатары мовы (гаворачыя машыны) з'яўляюцца таксама фізічнымі мадэлямі, але тут ствараюцца не механічныя прыстасаванні, а электрычныя машыны, якія па спецыяльнай праграме выдаюць такі ж сігнал, як і моўны апарат чалавека. Тыповым прыкладам матэматычнай мадэлі з'яўляецца статыстычная мадэль частотнасці гукаў, складоў або слоў.

Блізкім да метаду мадэліравання з'яўляецца дыстрыбуцыйны метад у фаналогіі. У аснове яго ляжыць вызначэнне, згодна з якім два фанетычныя элементы, якія ніколі не сустракаюцца ў адной і той жа фанетычнай пазіцыі, адносяцца да адной фанемы. Каб скараціць работу пры аналізе, можна падабраць папарна такія словы (мінімальныя пары), якія адрозніваліся б толькі адным гукам. У такім выпадку набор усіх магчымых для данай мовы мінімальных пар будзе не чым іншым, як мадэллю фаналагічнай сістэмы.

## § 5. ФАНЕТЫКА СЯРОД ЛІНГВІСТЫЧНЫХ ДЫСЦЫПЛІН

Сярод лінгвістычных дысцыплін фанетыка займае асаблівае месца. Гэта выклікана ў першую чаргу тым, што яна адзіная галіна ў мовазнаўстве, якая вывучае выключна вусную мову. Усе астатнія пераважна зарыентаваны на яе пісьмовую форму. Лексікалогія, марфалогія, сінтаксіс вывучаюць розныя моўныя катэгорыі і сродкі іх выражэння ў сувязі з перадачай сэнсавай інфармацыі ў працэсе камунікацыі. Фізічнае ўвасабленне адзінак, якія даследуюцца ў кожным з гэтых раздзелаў, не мае для іх прынцыповага значэння, хаця б з-за таго, што яны маюць адразу дзве формы — вусную і пісьмовую. Па-іншаму складваюцца абставіны ў фанетыцы, бо яна вывучае такія моўныя сродкі, якія пазбаўлены самастойнага значэння.

Асновай існавання фаналагічных сістэм з'яўляюцца гукі маўлення, фізічная прырода якіх характарызуе матэрыяльны субстрат гукавога ладу мовы. У адрозненне ад прыродазнаўчага даследавання ў фанетыцы высвятленне спецыфікі фізічнай рэалізацыі гукаў маўлення вядзецца з улікам іх функцыі як

дыскрэтных адзінак, якія з'яўляюцца сацыяльна значымымі элементамі моўнай сістэмы. Артыкуляцыйна-акустычнае апісанне гукаў дапамагае вырашыць, з дапамогай якіх фізічных прыкмет гукі маўлення функцыяніруюць у фаналагічнай сістэме. Лічыцца, што кожны з гукаў маўлення ў пэўным выглядзе замацаваны ў свядомасці носьбітаў мовы і карэкціруецца з дапамогай узаемадзеяння слыхавых і маўленчых звычак гаворачага.

Цікавасць да фізічнага і фізіялагічнага аспектаў гукавога ладу мовы прыводзіць да таго, што фанетыка карыстаецца данымі такіх навук, як фізіка і фізіялогія. Аднак сувязі з нелінгвістычнымі дысцыплінамі не прадугледжваюць выхаду фанетыкі з кола лінгвістычных навук. Вызначэнне фізічных якасцей гукаў маўлення неабходна не як самамэта, а як сродак для параўнальнага апісання гукавых з'яў, існуючых у розных фанетычных сістэмах, а таксама для паказу фанетычнага ладу мовы або пэўнай гаворкі.

Увага да «знешняга» афармлення слоў і словазлучэнняў тлумачыцца тым, што «жывы фанетычны працэс суправаджае кожны акт гаварэння. Ён прысутнічае ў канстытутыўным «імкненні гаворачага» захоўваць кадыфікаваны правіламі мовы стэрэатып знешняга афармлення слова, аднак з допускам той ступені прасадычнай варыятыўнасці вуснага слова, якая не выходзіць за межы моўных норм» [1]. Такім чынам, у моўнай сістэме прысутнічае некалькі паралельных фанетычных элементаў, якія або аднолькава дапушчальны, або розняцца ў прасадычных, стылістычных і іншых адносінах. Таму сама фізічная рэалізацыя фаналагічна значымых элементаў таксама з'яўляецца аб'ектам, маючым лінгвістычнае значэнне.

Дэталізаванае вызначэнне ролі асобных элементаў і іх прыкмет у сістэме дапамагае асэнсаваць жывыя фанетычныя працэсы, садзейнічае фіксацыі гукавых адрозненняў, прадугледжвае наступнае сістэматычнае апісанне гукавога ладу мовы і вызначэнне фаналагічнай сутнасці існуючых адрозненняў. Без рэгістрацыі знешніх якасцей гукавых кантрастаў нельга вырашыць, ці дастатковыя яны для стварэння фаналагічных проціпастаўленняў або ўсведамляюцца носьбітамі мовы як маючыя экстралінгвістычную функцыю. У гэтай сувязі «ўзнікае задача супастаўлення фізіялагічных парогаў успрымання розных кампанентаў якасцей гукаў маўлення і парогаў фаналагічнага ўспрымання гукавых якасцей у аднародным асяроддзі носьбітаў моўнай сістэмы» [2].

Без уліку фізічных асаблівасцей фанетычных з'яў цяжка ахарактарызаваць сітуацыю пры розных відах інтэрферэнцыі моўных сістэм, а яна, як вядома, у наш час набывае асаблівую актуальнасць. Акрэсленне фізічных якасцей гукаў маўлення звязана з вызначэннем канстытутыўных і інтэгральных дыферэнцыяльных прыкмет гукавых адзінак.

Хаця фанетыка і вывучае гукі маўлення, якія, як і іншыя гукі, аналізуюцца ў акустыцы і фізіялогіі, яна даследуе іх выключна як моўную з'яву [3]. Якраз фанетыка павінна выявіць, якія акустыка-артыкуляцыйныя і перцэптыўныя асаблівасці робяць гукі ўласна гукамі мовы. Л. У. Шчэрба падкрэсліваў: «Некаторым здаецца, што можна займацца фаналогіяй у адрыве ад фанетыкі. Гэта немагчыма, як немагчыма займацца функцыяй якой-небудзь формы ў адрыве ад канкрэтных выпадкаў яе ўжывання ў маўленні» [4].

---

[1] Физические основы современных фонетических процессов в русских говорах. М., 1978. С. 9—10.

[2] Физические основы современных фонетических процессов... С. 16.

[3] Зиндер Л. Р. Общая фонетика. М., 1979. С. 7.

[4] Щерба Л. В. Очередные проблемы языковедения // Языковая система и речевая деятельность. Л., 1974. С. 58.

Супраць падзелу фаналогіі і фанетыкі на не звязаныя паміж сабой асобныя лінгвістычныя дысцыпліны выказваліся многія лінгвісты. Такія думкі можна знайсці ў Б. Мальмберга, Г. Хамарстрэма, Л. Р. Зіндэра і А. А. Рэфармацкага. Апошні сцвярджае, што «ўвесь сэнс фаналагічнага аспекту ў фанетыцы іменна ў тым, каб не аддаваць фанетыку прыродазнаўству, а зразумець гукі, з'явы фізічныя, у якасці абавязковага элемента мовы як грамадскай з'явы» [5].

Пытанне аб месцы фанетыкі ў сістэме моўных дысцыплін атрымлівае ў мовазнаўстве рознае вырашэнне. Фанетыка разглядаецца або як частка граматыкі нароўні з сінтаксісам і марфалогіяй, або як самастойная дысцыпліна, якая стаіць, як і лексіка, асобна ад граматыкі. Л. Р. Зіндэр лічыць мэтазгодным аддзяляць фанетыку асобных моў ад граматыкі і лексікалогіі, хаця і падкрэслівае, што існуюць сувязі паміж фанетыкай і граматычным ладам мовы, а таксама паміж фанетыкай і слоўнікам, фанетыкай і сінтаксісам [6].

Уключэнне фанетыкі ў граматыку таксама мае працяглую традыцыю. Вучэнне аб гуках і аб іх гісторыі было абавязковай часткай усіх параўнальных, а таксама апісальных граматык. У граматыку ўключалі фанетыку В. А. Багародзіцкі [7], І. І. Мешчанінаў [8] і Я. Ф. Карскі [9]. З граматыкай фанетыку радніць тое, што яны вывучаюць структуру мовы, пэўную абмежаваную колькасць адзінак і агульных катэгорый, якія паўтараюцца, утвараючы складаную сістэму. «Гэтым фанетыка і граматыка ў роўнай ступені і прынцыпова адрозніваюцца ад лексікалогіі, якая вывучае канкрэтны інвентар лексічных адзінак мовы, што налічваюць дзесяткі тысяч і практычна не паддаюцца вылічэнню» [10].

На думку Л. У. Шчэрбы, «фанетыку зручней за ўсё... адносіць да граматыкі, хаця яна несумненна займае ў гэтай апошняй сваё асобнае месца» [11].

З практычных меркаванняў фанетыку зручна разглядаць у сувязі з граматыкай. Як сцвярджаў Я. Ф. Карскі, «ведаць гукі і іх змяненне, ведаць формы слоў — яшчэ не значыць ведаць мову. Апошнюю мы спасцігнем толькі тады, калі грунтоўна ўсвядомім сабе значэнне як асобных гукаў, так і асабліва форм слоў, іх адносіны да нашага маўлення» [12].

Уключэнне фанетыкі ў граматыку не перашкаджае таму разуменню фанетыкі як самастойнай лінгвістычнай дысцыпліны, якое адпавядае сучасным навуковым поглядам і садзейнічае больш паглыбленай распрацоўцы яе асноўных праблем. Аднак, хаця ў лінгвістычнай практыцы такое ўключэнне існуе працяглы час, трэба прызнаць, што ізамарфізм фанетычных з'яў і заканамернасцей з марфалагічнымі і сінтаксічнымі яшчэ не вызначаны і што разгорнутае, усебаковае тэарэтычнае абгрунтаванне таго, чаму фанетыка ўваходзіць у граматыку, не зроблена.

Гукавыя асаблівасці беларускай мовы пачалі адлюстроўвацца практычна з узнікненнем першых граматык, якія змяшчалі звесткі аб ас-

---

[5] Реформатский А. А. О соотношении фонетики и грамматики (морфологии) // Вопр. грамматического строя. М., 1955. С. 93.

[6] Зиндер Л. Р. Общая фонетика. С. 13—14.

[7] Богородицкий В. А. Общий курс русской грамматики. М.; Л., 1935. С. 4. 12.

[8] Мещанинов И. И. Общее языкознание. Л., 1940. С. 36—37.

[9] Карский Е. Ф. Белорусы. Т. II. Язык белорусского народа. М., 1955. Вып. 1.

[10] Аванесов Р. И. Фонетика современного русского литературного языка. М., 1956. С. 14.

[11] Щерба Л. В. Очередные проблемы языковедения. С. 14.

[12] Карский Е. Ф. Белорусы. Варшава, 1912. Т. II, вып. 3. С. 3.

ноўных рысах беларускага літаратурнага вымаўлення. У вучэбных дапаможніках таксама апісанне беларускіх гукаў робіцца ў фанетыцы як раздзеле граматыкі. Найбольш значнымі апісаннямі такога тыпу з'яўляюцца апісанні асаблівасцей беларускага маўлення, зробленыя М. В. Бірылам[13], Ф. М. Янкоўскім[14], А. І. Падлужным[15].

[13] Курс сучаснай беларускай літаратурнай мовы: Фанетыка, арфаграфія, лексікалогія. Мн., 1961.

[14] Янкоўскі Ф. М. Роднае слова. Мн., 1972.

[15] Беларуская граматыка. Ч. 1. Фаналогія. Арфаэпія. Марфалогія. Словаўтварэнне. Націск. Мн., 1985.

## § 6. СУАДНОСІНЫ ФАНЕТЫКІ З НЯМОВАЗНАЎЧЫМІ НАВУКАМІ

Фанетыка звязана з цэлым радам дысцыплін, перш за ўсё з тымі, чые даныя яна выкарыстоўвае ў сваіх мэтах. З розных бакоў дапамагаюць фанетыцы акустыка, анатомія, фізіялогія і псіхалогія.

Сувязі з акустыкай абумоўлены як агульнасцю прадмета даследавання, так і тым, што ў эксперыментальнай фанетыцы выкарыстоўваецца разнастайная апаратура для запісу і аналізу гукаў. Веданне асаблівасцей яе функцыяніравання неабходна пры правядзенні фанетычных даследаванняў. Вядома, што кожны прыбор прыстасаваны да рэгістрацыі або аналізу якога-небудзь аднаго або некалькіх, але далёка не ўсіх параметраў маўлення. Акрамя таго, нават самая дасканалая апаратура ўносіць большыя ці меншыя скажэнні, якія трэба ўлічваць, каб непазбежныя хібы вымярэння істотна не скажалі аб'ектыўную карціну. Даследчыкі павінны ўлічваць гэтыя недакладнасці і адпаведным чынам карэкціраваць атрыманыя паказчыкі. Зразумела, нельга патрабаваць, каб фанетык дасканала ведаў складаную сучасную апаратуру, але ён павінен разумець прынцыпы яе работы. У радзе выпадкаў пры даследаванні гукавых з'яў не ўсе прыборы характарызуюцца дастатковай дакладнасцю вымярэння, іх даныя аказваюцца больш грубымі, чым тыя, што атрымліваюцца пры аналізе на слых.

Даволі часта атрымліваецца такая сітуацыя, пры якой прыборы адлюстроўваюць толькі агульную карціну, з якой цяжка вылучыць патрэбны паказчык. Складанай самастойнай задачай з'яўляецца вызначэнне суадносін атрыманых акустычных паказчыкаў з перцэптыўнымі характарыстыкамі моўнай адзінкі.

Веданне гэтых асаблівасцей выкарыстання акустычных прыбораў павінна служыць перасцярогай ад павярхоўнай інтэрпрэтацыі паказанняў апаратуры, ад скажэння рэалістычнага абагульнення з'яў.

Асаблівасцю выкарыстання акустычнай апаратуры трэба лічыць таксама і тое, што яе прымяненне будзе мэтазгодным толькі тады, калі атрыманыя з яе дапамогай спектраграмы, асцылаграмы, інтанаграмы будуць дастаткова інфарматыўнымі і колькасна значнымі і не будуць адыгрываць ролю простых ілюстрацый. Асноўныя характарыстыкі беларускай мовы з пункту погляду акустыкі моўнага сігналу і яго ўспрымання былі вызначаны ў «Нарысе акустычнай фанетыкі беларускай мовы»[16].

Развіццё аўтаматыкі, кібернетыкі і тэорыі інфармацыі патрабуе больш паглыбленага вывучэння моўных сігналаў у параўнанні з тымі даследаваннямі, якія ёсць зараз у распараджэнні сучаснай лінгвістыкі. Атрыманне акустычных характарыстык гукаў маўлення і іх лінгвістычнае тлумачэнне, усведамленне іх ролі ў

[16] Падлужны А. І. Нарыс акустычнай фанетыкі беларускай мовы. Мн., 1977.

працэсе перцэпцыі на матэрыяле розных моў павінна дапамагчы стварэнню агульнай тэорыі ўспрымання маўлення і агульнай акустычнай тэорыі моваўтварэння.

Інструментальнае вывучэнне гукаў маўлення прыцягвае фанетыкаў таксама таму, што яно дазваляе не толькі выявіць тую або іншую з'яву, але і вызначыць яе колькасна. Колькасная характарыстыка гукаў маўлення патрабуецца і для лінгвістаў, і для акустыкаў, і для інжынераў сувязі. Пры перадачы маўлення па каналах сувязі яно разглядаецца як карысны сігнал, што перадаецца на фоне перашкод.

Зразумела, што ўзаемадзеянне лінгвістыкі і акустыкі, якое пачалося параўнальна нядаўна, прывяло толькі да першых каштоўных здабыткаў і ў будучым можа значна ўзбагаціць фанетычныя веды. Больш традыцыйным і таму больш распрацаваным з'яўляецца аналіз артыкуляцыі гукаў маўлення, які прыцягвае ўвагу не толькі лінгвістаў, але і фізіёлагаў.

Разнастайныя звесткі аб будове і асаблівасцях работы органаў маўлення, якія ўжо атрыманы лінгвістамі і якія яшчэ будуць атрыманы, маюць каштоўнасць і для вырашэння цэлага рада ўласна анатама-фізіялагічных пытанняў. Разам з тым веданне даных фізіялогіі неабходна для стварэння больш поўнага і больш правільнага апісання гукаўтварэння. Першая артыкуляцыйна-фізіялагічная класіфікацыя гукаў беларускай мовы, праведзеная шляхам выкарыстання аб'ектыўных метадаў, выканана А. І. Падлужным і В. М. Чэкманам [17].

Разнастайныя сувязі фанетыка мае з псіхалогіяй. Так, фанетычныя працэсы і працэсы распазнавання слыхавых вобразаў праходзяць у мозгу, у псіхіцы чалавека. Таму лінгвістычныя канцэпцыі служаць для абгрунтавання дапушчэнняў аб працэсах апрацоўкі моўных сігналаў чалавекам.

Акрамя таго, аб'ектыўныя акустычныя адрозненні паміж гукамі толькі тады робяцца функцыянальна значнымі, калі яны ўспрымаюцца носьбітамі мовы. Гэтым тлумачыцца выкарыстанне ў эксперыментальнай фанетыцы розных па сваёй сутнасці псіхалагічных методык, з дапамогай якіх вызначаюцца пэўныя ацэнкі фанетычных з'яў носьбітамі мовы. Іх індывідуальныя псіхалагічныя асаблівасці і спецыфіку моўных паводзін чалавека ў пэўных сітуацыях трэба ўлічваць на ўсіх этапах работы з вусным маўленнем. У эксперыментальнай частцы фанетыка карыстаецца данымі псіхалогіі асобы, бо ў гучанні моўнага сігналу знаходзіць сваё адлюстраванне эмацыянальная рэактыўнасць гаворачага [18].

---

[17] Падлужны А. І., Чэкман В. М. Гукі беларускай мовы. Мн., 1973.

[18] Галунов В. И. Речь, эмоции и личность: проблемы и перспективы // Речь, эмоции и личность. Л., 1978.

## § 7. ПРАКТЫЧНАЕ ЗНАЧЭННЕ ФАНЕТЫКІ

Фанетыка мае вялікае практычнае значэнне, бо яе даныя выкарыстоўваюцца ў самых разнастайных галінах чалавечай дзейнасці. Найбольш традыцыйным і распрацаваным з'яўляецца выкарыстанне фанетычных ведаў у методыцы выкладання мовы, пры навучанні чытанню і пісьму. Прыгадаем думку А. А. Рэфармацкага: «Не ведаючы фанетыкі, нельга зразумець і сучаснае пісьмо, нельга правільна разабрацца і ў граматыцы, сапраўды, у школе, дзе фанетыцы надаюць вельмі мала ўвагі, блытаюць гукі і літары» [19]. Рацыянальнае навучанне арфаграфіі магчыма толькі пры дастатковым разуменні адрозненняў паміж гукавой і пісьмовай формамі мовы. У гэтых мэтах звесткі па беларускай

---

[19] Реформатский А. А. Введение в языкознание. М., 1967. С. 153.

фанетыцы выкарыстоўваюцца метадыстамі [20].

Адной з найбольш важных практычных задач фанетыкі з'яўляецца таксама пытанне аб нарматыўнасці маўлення. Арфаэпія вызначае межы дапушчальнай варыятыўнасці пры вымаўленні пэўных гукаў, структуру фанетычнага слова, месца націску і суадносіны націскных і ненаціскных складоў, правілы чытання, г. зн. вызначае, як чытаюцца літары і іх спалучэнні ў тых выпадках, калі пісьмо недастаткова дакладна адлюстроўвае вымаўленне.

Вельмі важным з'яўляецца выкарыстанне фанетычных даных і псіхалінгвістычных методык для вызначэння асаблівасцей перцэптыўнай базы вучняў, якія жывуць у дыялектным асяроддзі. Такіх вучняў трэба вучыць правільна чуць літаратурнае маўленне.

У эксперыментах, праведзеных з носьбітамі беларускай мовы, былі вызначаны выпадкі неадрознення [у] і [ы], [а] ў ненаціскных складах выхадцамі з укаючых гаворак; адзначана неадрозненне таксама [ʼі] і [ʼе] значнай групай аўдытараў і іншыя дыялектныя рысы ў перцэпцыі моўнага матэрыялу асобамі, якія авалодалі літаратурнай мовай [21].

Для высвятлення таго, ці адрозніваюць звонкія і глухія зычныя вучні, якія жывуць у дыялектным асяроддзі, дзе такога проціпастаўлення няма, А. І. Падлужны прапаноўвае прымяненне АВХ методыкі [22]. Псіхалінгвістычныя тэсты дапамагаюць выявіць псіхалагічна рэальныя кантрасты ў індывідуальнай мове і дазваляюць прагназіраваць памылкі, абумоўленыя фаналагічнай сістэмай. Абапіраючыся на атрыманыя даныя, можна ўлічваць асаблівасці фанетыкі вучня пры навучанні яго пісьму, аддаючы перавагу або рабоце над арфаграфічнымі правіламі, або рабоце над вымаўленнем.

Многія тэарэтычныя палажэнні і практычныя назіранні фанетыкі выкарыстоўваюцца спецыялістамі па выразнаму чытанню і сцэнічнаму мастацтву. Авалоданне прафесійным майстэрствам сцэнічнага і вакальнага маўлення драматычнымі акцёрамі і спевакамі патрабуе ўдасканальвання гукавышыннага, дынамічнага і тэмбральнага дыяпазону голасу, бо яны вызначаюць яго тып і эстэтычныя якасці. Практыка паказала значную залежнасць прафесійнага ўдасканальвання голасу ад слыху чалавека. Таму пры падрыхтоўцы акцёраў выкарыстоўваюцца метады аналізу іх слыху і голасу, якія прымяняюцца ў сучаснай эксперыментальнай фанетыцы [23].

Разам з тым у тэорыі сцэнічнага маўлення адлюстраваны вопыт, карысны для фанетыкі. Іменна ў працах па публічнаму маўленню асэнсаваны і часткова апісаны такія з'явы, як моўная мелодыя, паўза, тэмп, рытм, чляненне моўнай плыні, таму што для акцёра і чытальніка інтанацыя з'яўляецца выключна важным сродкам перадачы яго творчых задум.

На падставе назіранняў над звычайным і сцэнічным маўленнем у падручніках па выразнаму чытанню апісваецца інтанацыя. У гэтых працах фармулююцца правілы выкарыстання інтанацыі пры чытанні пісьмовага тэксту. Яны змяшчаюць вельмі багаты і цікавы фактычны матэрыял [24], але яго асэнсаванне,

---

[20] Падгайскі Л. П. Вывучэнне беларускай мовы ў пачатковых класах. Мн., 1975.

[21] Галосныя беларускай мовы. Мн., 1975.

[22] Падлужны А. І. Нарыс акустычнай фанетыкі... С. 123—124.

[23] Киселев А. Н., Пронина М. П., Тарасов В. И. Корреляция слуха и голоса актеров драмы и актеров музыкальной комедии // Тез. докл. и сообщ. Всесоюзной школы-семинара по пробл. «Исследование речи». Л., 1981. С. 46—48.

[24] Каляда А. Выразнае чытанне. Мн., 1970; яго ж. Выразнае чытанне сатырычных вершаў, баек і драматычных твораў. Мн., 1973.

на жаль, часам адстае ад вынікаў лінгвістычных даследаванняў.

Цікавасць да вывучэння фанетыкі мастацкага маўлення абумоўлена таксама ўсё ўзрастаючай роляй вуснага слова як сродку ўздзеяння на пачуцці і свядомасць людзей. Авалоданне моўнай культурай разглядаецца як адзін з аспектаў павышэння агульнай культуры чалавека.

Сацыялінгвістычныя методыкі дазваляюць вызначыць, якія экстралінгвістычныя фактары моўных зносін абумоўліваюць варыятыўнасць існуючых фанетычных сродкаў кожнай мовы.

Цікавасць да фанетыкі традыцыйна і для літаратуразнаўства. У працах, у якіх аналізуецца мова мастацкай літаратуры, даследуюцца рытмічныя і інтанацыйныя асаблівасці аўтарскага маўлення. Асабліва важнае значэнне набывае вывучэнне характару акцэнтуацыі, паўзацыі і рытмічнасці маўлення пры аналізе паэзіі.

Фанетычныя даныя прыцягваюцца пры правядзенні даследаванняў слыху мовы. Як вядома, моўная аўдыяметрыя выкарыстоўваецца пры дыягностыцы цэлага рада захворванняў, а таксама пры рашэнні пытанняў прафесійнага адбору і экспертызы. Толькі ўспрыманне вуснага маўлення з'яўляецца канчатковым крытэрыем функцыянальнай ацэнкі слыху.

Для паляпшэння аталарынгалагічнай службы рэспублікі ў 1975 г. калектывам аўтараў былі зроблены табліцы аднаскладовых беларускіх слоў для моўнай аўдыяметрыі і даследавання вастрыні слыху шэптавай мовай [25]. Раней у Беларусі для гэтых мэт выкарыстоўваліся табліцы рускіх слоў, складзеныя рознымі аўтарамі. Але ў медыцынскай практыцы было заўважана, што для людзей, якія сістэматычна карыстаюцца беларускай мовай, яны непаказальны. Пры даследаванні слыху па табліцах аднаскладовых беларускіх слоў, як паказалі вопыты, разборлівасць мовы павышаецца на 10—15% у здаровых людзей і на 20—25% пры розных парушэннях слыху, што несумненна ўносіць істотныя карэктывы ў вызначэнне паказанняў да лячэння, ацэнку яго вынікаў, вырашэнне пытанняў урачэбна-працоўнай экспертызы і пратэзавання слыху.

Сурдапедагогіка будуецца таксама на фанетычнай аснове. Пры гэтым акустыка-фізіялагічныя пытанні рэабілітацыі глухіх людзей і тых, хто слаба чуе, сутыкаюцца з фанетычнымі і больш шырокімі лінгвістычнымі праблемамі. Дыягностыка парушэнняў фанематычнага слыху і пошук рацыянальных шляхоў фарміравання вымаўлення ў выпадках адхілення ў развіцці функцыі слыхавога аналізатара звязаны з пабудовай дасканалых лінгвістычных мадэлей з улікам з'яў каартыкуляцыі, дэфармацыі часавай структуры гукавога ладу, заканамернасці ўзнікнення моўных памылак, якія назіраюцца пры парушэнні маўлення.

Для высвятлення патафізіялагічных механізмаў моўных парушэнняў неабходна тэорыя ўспрымання і ўтварэння маўлення ў здаровых носьбітаў мовы. Гэта тэорыя распрацоўваецца прадстаўнікамі розных спецыяльнасцей. Але зараз яна яшчэ не ў стане растлумачыць усе эксперыментальныя даныя, атрыманыя на здаровых асобах і на хворых з рознымі моўнымі парушэннямі. Тым не менш ужо і зараз існуюць значныя магчымасці ўкаранення дасягненняў, атрыманых пры вывучэнні маўлення, у практыку аднаўлення мовы пры яе паталагічных станах. Так, вызначаны ўплыў цэлага рада лінгвістычных (і ў тым ліку фанетычных) фактараў на ўспрыманне маўлення пры розных ступенях тугавухасці. Сярод най-

---

[25] Склют И. А., Подлужный А. И., Стасенко Е. П. Односложные белорусские слова для речевой аудиометрии и исследования остроты слуха шепотной речью // Здравоохранение Белоруссии. 1975. № 13. С. 68—71.

больш значных фактараў, пацверджаных эксперыментамі многіх замежных і айчынных аўтараў, такія, як даўжыня слова, яго рытмічная структура, суб'ектыўная частотнасць, пачатковая і канцавая фанема слова, якасць націскнога галоснага і інш.[26]

Разбурэнне маўлення — гэта цяжкая сацыяльная з'ява, якая адмоўна адбіваецца на фарміраванні асобы хворага аднолькава і ў выпадку паталогіі слыхавога, і ў выпадку паталогіі моўнарухальнага аналізатара. Цяжкасці пры аднаўленні маўлення ў значнай групы хворых (прыроджаныя шчыліны паднябення, захворванне лор-органаў, іх пашкоджанне і г. д.) выкліканы цэлым радам прычын. Гэта і адсутнасць тэхнічных сродкаў, якія дазваляюць вызначыць стан артыкуляторных органаў перад лячэннем, і адсутнасць аб'ектыўных сродкаў для ацэнкі праведзенага хірургічнага, артапедычнага і лагапедычнага лячэння, і нарэшце, абмежаваныя магчымасці прагнозу развіцця кампенсаторных механізмаў маўлення. Зараз прапануецца параўноўваць маўленне перад пратэзаваннем і пасля яго на аснове спектральнага аналізу. Па-ранейшаму важнымі застаюцца метады слыхавых экспертных ацэнак аднаўленага маўлення, якія грунтуюцца на фанетычных даных.

Для фанапедыі і лагапедыі — дысцыплін, якія займаюцца выпраўленнем недахопаў вымаўлення і лячэннем розных форм афазіі, неабходна веданне механізма вымаўлення і вызначэнне функцыянальнай значнасці таго, што вымаўляецца. Такія веды дапамагаюць адрозніць істотныя і неістотныя адхіленні ў маўленні хворага і, такім чынам, знайсці эфектыўны шлях для іх пераадолення.

Фанетыка больш за іншыя лінгвістычныя напрамкі дапамагае рашэнню цэлага рада тэхнічных задач. У тэлефаніі і радыётэлефаніі актуальным з'яўляецца пытанне вызначэння разборлівасці маўлення пры яго перадачы па каналах сувязі. Велічыня фанетычнай і сэнсавай інфармацыі, якая перадаецца па каналах сувязі, залежыць ад якасных і колькасных характарыстык паведамлення і асаблівасцей моўнага слыху. Таму на падставе ўліку статыстычных уласцівасцей маўлення і слыху якасць перадачы маўлення ацэньваецца шляхам вымярэння разборлівасці (так званым метадам артыкуляцыі). Гэты метад дазваляе праводзіць выпрабаванні спецыяльнай апаратуры і каналаў сувязі, ацэньваць іх магчымасці. Пры такіх выпрабаваннях улічваецца здольнасць канала перадаваць моўныя адзінкі рознай даўжыні: фразы, словы, склады. Асноўнае значэнне ў такіх выпрабаваннях маюць гукавыя якасці гэтых адзінак, таму, зразумела, што сам іх адбор павінен адлюстроўваць гукавы лад мовы і існуючыя ў ім фанетычныя заканамернасці. Разам з тым для таго каб правільна ацаніць, якія скажэнні ў перададзены матэрыял унесены каналамі сувязі, трэба праводзіць фанетычны аналіз атрыманага слухачом моўнага матэрыялу.

Лінгвістычны падыход неабходны і для правядзення ацэнкі натуральнасці маўлення, перададзенага па каналу сувязі. Патрабаванне натуральнасці прадугледжвае тое, што выкарыстанне апаратуры садзейнічае не толькі аднаўленню сэнсу выказвання, якое паступіла па каналу, але і атрыманню слухачом іншых звестак, такіх, як інтанацыя паведамлення, тэмбр, індывідуальныя асаблівасці галасоў, эмацыянальныя

---

[26] Федина З. И., Рудая Г. Е. О влиянии лингвистических факторов на восприятие речи при тугоухости // Общая и прикладная психолингвистика. М., 1973; Нейман Л. В. Восприятие звуков речи тугоухими и глухонемыми детьми // Учебно-воспитательная работа в специальных школах. Л., 1958. Вып. 41; Зиндер Л. Р. Русские артикуляционные таблицы // Тр. ВКАС. Л., 1951. Вып. 29—30 і інш.

паказчыкі ў маўленні і да т. п. Зразумела, што гэта патрабаванне з'яўляецца першачарговым для апаратуры, якая прызначана для мастацкага аднаўлення маўлення (напрыклад, у радыёвяшчанні), і другасным для тэлефоннай і радыётэлефоннай апаратуры агульнага карыстання.

Акрамя таго, на працягу апошніх 10—15 гадоў у сувязі з хуткім развіццём кібернетыкі і робататэхнікі паступова сфарміраваўся навуковы напрамак, які ставіць сваёй мэтай распрацоўку сістэмы, здольнай разумець маўленне. Мяркуецца, што такая сістэма можа быць функцыянальнай мадэллю жывога прататыпа. Яе задача — часткова ўзнаўляць тыя пераўтварэнні інфармацыі, якія ажыццяўляюцца ў жывой сістэме. Каб мадэль працавала, перш за ўсё трэба высветліць аснову разумення маўлення і распрацаваць агульную структуру мадэлі, здольнай у прынцыпе вырашыць пастаўленыя задачы. Але на цяперашнім этапе распрацоўкі праблемы асноўныя звесткі, якія павінны ўлічвацца, датычацца якасцей моўнага сігналу і арганізацыі мовы. Пры пабудове мадэлі неабходна карыстацца радам дапушчэнняў, правамернасць якіх можна праверыць на жывой сістэме. Варта шукаць такі варыянт, які найлепш дапасуецца з ужо атрыманымі эксперыментальнымі данымі. Разам з тым неабходна працягваць збіранне звестак па фанетыцы розных моў. Таму праблема аўтаматычнага распазнавання маўлення распрацоўваецца па раду навуковых напрамкаў, якія датычацца першапачатковай апрацоўкі моўных сігналаў, тэхнічнай рэалізацыі сістэм распазнавання, даследавання механізма ўспрымання, і таксама фанетычных і лінгвістычных аспектаў у сістэмах разумення маўлення[27].

На бліжэйшыя гады актуальнай застаецца праблема стварэння сістэм распазнавання і сэнсавай інтэрпрэтацыі злітнага маўлення, здольных забяспечыць вусны дыялог чалавека з ЭВМ на натуральнай або штучнай мове з абмежаваным слоўнікам, які змяшчае некалькі тысяч слоў. Зразумела, што ён зарыентаваны на вузкія прадметныя вобласці. Прыкладам можа быць мова пытанняў у інфармацыйна-даведачную службу аэрапорта аб руху самалётаў або мова заданняў ЭВМ на вылічэнне матэматычных выражэнняў[28]. Пры стварэнні чалавека-машынных сістэм неабходна сканструяваць прыбор, які здольны адрозніць моўны сігнал ад іншых гукавых сігналаў і атаясаміць яго з пэўным закладзеным у яго памяць эталонам. Зусім неабавязкова, каб праводзіўся паэлементны аналіз паведамлення па лінгвістычных адзінках. Але і пры такім падыходзе «ўяўляецца мэтазгодным выкарыстоўваць заключаны ў мове код, выпрацаваны на працягу шматвяковай эвалюцыі чалавека»[29].

У другіх выпадках ставіцца задача стварэння сістэмы распазнавання і сэнсавай інтэрпрэтацыі злітнага маўлення ў поўным аб'ёме, г. зн. трэба навучыць машыну ўспрымаць звычайнае, нічым не абмежаванае маўленне. Такая задача больш складаная, і некаторым даследчыкам яе пастаноўка «ўяўляецца хоць і правамернай, але не падрыхтаванай»[30].

Трэба прызнаць, што для распазнавання маўлення ў поўным сэнсе гэтага слова патрэбны значныя і шматбаковыя лінгвістычныя веды. Пры такім падыходзе выключнае

---

[27] Загоруйко Н. Г. Автоматическое распознавание слуховых образов // Психологический журнал. 1985. № 1. Т. 6; Винцюк Т. К. Анализ, распознавание и интерпретация речевых сигналов. Киев, 1987.

[28] Винцюк Т. К. Два основных пути создания систем распознавания и смысловой интерпретации слитной речи // АРСО-11. С. 221—225.

[29] Зиндер Л. Р. Общая фонетика. С. 16.

[30] Винцюк Т. К. Два основных пути создания систем распознавания и смысловой интерпретации слитной речи. С. 221.

значэнне мае вылучэнне моўных адзінак і іх лінгвістычных прыкмет, што таксама, як і сегментацыя моўнай плыні, з'яўляецца пераважна мовазнаўчай праблемай.

Калі аўтаматычнае распазнаванне разглядаецца як аналаг натуральнага працэсу моўнай камунікацыі, «пры якім маўленне, закадзіраванае (зразумела, неасэнсавана) гаворачым па законах данай мовы, дэкадзіруецца слухачом па тых жа законах» [31], тады відавочнымі робяцца неабходныя для яго правядзення лінгвістычныя перадумовы. Сапраўды, стваральнікам сістэмы «чалавек — машына» трэба вызначыць спецыфічныя асаблівасці пэўнай мовы. Такім чынам, і пры распазнаванні абмежаванага спіса лексем, і пры распазнаванні злітнага маўлення лінгвістычныя праблемы, і асабліва фанетычныя, маюць вельмі важнае значэнне.

Сярод іх па-ранейшаму актуальнымі застаюцца такія, як залежнасць агульнага часу вымаўлення сінтагмы ад яе даўжыні; акустычная рэалізацыя асімілятыўных з'яў у спалучэннях зычных; змяненне акцэнтна-рытмічнай структуры слова ў моўнай плыні; асаблівасці структуры склада; часавая структура маўлення; пошук фізічных карэлятаў слоўнага націску і інш. Бясспрэчным з'яўляецца неабходнасць фанетычных даных і пры стварэнні «гаворачых машын». Правілы для сінтэзатара павінны адлюстроўваць уласцівы той ці іншай мове дыяпазон рэалізацый акустычных прыкмет з улікам канкрэтных стыляў маўлення. У аснову разліковых формул для сінтэзу кладуцца вынікі эксперыментальных даследаванняў акустычных (фармантных) параметраў маўлення, праводзяцца даследаванні сегментных і прасадычных адзінак. З дапамогай сінтэзатараў атрымана беларуская, руская, украінская, эстонская і замежныя мовы.

Акрамя таго, атрыманае пры сінтэзе маўленне павінна прайсці ацэнку ў слухачоў, якія вызначаць яго натуральнасць. Для гэтага неабходна праводзіць тэсціраванне штучнага маўлення з дапамогай інфармантаў — носьбітаў пэўнай мовы. Такая ацэнка разборлівасці сінтэзаванай мовы дапамагае вызначыць і якасць сінтэзу наогул, і недахопы пры ўтварэнні машынай асобных элементаў маўлення [32].

Фанетычныя даныя выкарыстоўваюцца і стваральнікамі сістэм, здольных ідэнтыфікаваць дыктараў па голасу [33]. Для работ такога тыпу важным аказваецца даследаванне спектральных, часавых і амплітудных параметраў моўнага сігналу. Асаблівае значэнне набываюць прасадычныя характарыстыкі маўлення, у якіх адбіваецца індывідуальнасць гаворачай асобы. На падставе атрыманых эксперыментальных даных канструююць сістэмы аўтаматычнай ідэнтыфікацыі і верыфікацыі галасоў.

Асобай галіной прымянення фанетычных даных з'яўляецца стварэнне прыстасаванняў для ацэнкі эмацыянальнага стану чалавека па яго маўленню. У якасці прыкмет, па якіх можна меркаваць аб эмоцыях гаворачай асобы, выкарыстоўваюцца тэмпаральныя характарыстыкі (тэмп артыкулявання, працягласць так званага чыстага маўлення, колькасць паўз), а таксама інтанацыйныя паказчыкі [34]. Выяўленне і апісанне разнастайных акустычных індыкатараў эмоцый гаворачай асобы працягваецца і прыводзіць ужо зараз да

[31] Зиндер Л. Р. Общая фонетика. С. 17.

[32] Зиновьева Н. В., Хитина М. В. К вопросу о разборчивости автоматического синтеза речи // АРСО-11. С. 150—152.

[33] Рамишвили Г. С. Речевой сигнал и индивидуальность голоса. Тбилиси, 1976.

[34] Носенко Э. Л., Чугай А. А., Карпов О. Н. Система автоматического определения эмоционального состояния человека по акустическим и темпоральным характеристикам речи // Речь и эмоции: Материалы симпозиума 11—14 ноября 1974 г. Л., 1975.

стварэння сістэм кантролю і распазнавання эмацыянальнага стану аператараў [35]. Гэта вельмі важна ў эмацыягенных сітуацыях, у рабоце касманаўтаў, пілотаў, дыспетчараў.

У крыміналістыцы і судовай псіхалогіі маўленне з'яўляецца крыніцай інфармацыі ў следчым працэсе, пры верыфікацыі паведамленняў абвінавачанага і сведак. Псіхалінгвістычны аспект праблемы аб'ектыўнасці і дакладнасці ў савецкім судаводстве таксама прыцягвае зараз пільную ўвагу даследчыкаў.

У крыміналістычнай практыцы асаблівасці вуснага маўлення могуць быць выкарыстаны для вызначэння пэўных рыс гаворачага. Іх прымяненне стымулюецца зараз пашыранасцю розных тэхнічных сродкаў гукаперадачы і гуказапісу. Акрамя таго, аналіз маўлення — сродак прамой ідэнтыфікацыі асобы злачынцы ў тых выпадках, калі па нейкіх прычынах не могуць быць улічаны іншыя фізічныя асаблівасці. Існуе цэлы рад індывідуальных прыкмет вуснага маўлення, важных для крыміналістыкі: голас (яго характарыстыкі, звязаныя з тэмбрам, вышынёю, гучнасцю, інтэнсіўнасцю), інтанацыя, звязаная і з асаблівасцямі асобы, і з яе псіхічным станам у момант маўлення [36].

З інтанацыяй звязаны індывідуальны тэмп маўлення; характар, даўжыня і размеркаванне паўз; характар і ступень лагічнай выдзеленасці асобных элементаў выказвання, ступень фанетычнай рэдукцыі і інш.

З ліку групавых фанетычных прыкмет маўлення пры вядзенні дазнання ўлічваюцца дыялектныя рысы, а таксама іншамоўны акцэнт, што дазваляе з пераменнай ступенню дакладнасці вызначыць паходжанне данага чалавека. Кваліфікаваная лінгвістычная экспертыза маўлення дазваляе на падставе ўліку ўзроўню моўнай культуры, колькасці няправільнасцей у адзінку часу і на адзінку тэксту і тых прыкмет, якія мімавольна адлюстроўваюцца ў спантанным маўленні, вызначыць нацыянальную або дыялектную прыналежнасць асобы, а таксама двухмоўнасць і шматмоўнасць у тым выпадку, калі яны ўтойваюцца ад следства.

Вядома таксама, што ў маўленні абвінавачанага і сведкі ў сітуацыі допыту асаблівую значнасць набывае інтанацыя і лагічны націск. Таму патрабуецца дакладны запіс інтанацыйна багатага тэксту эмацыянальнага маўлення, каб у пратаколе не сказіўся сэнс выказванняў. Такім чынам, канкрэтныя вынікі фанетычных даследаванняў знаходзяць шырокія разнастайныя сферы ўжытку.

[35] Нушикян Э. А. Спектральные характеристики эмоционально окрашенной речи // АРСО-11. С. 188.

[36] Леонтьев А. А., Шахнарович А. М., Батов В. И. Речь в криминалистике и судебной психологии. М., 1977.

## § 8. ТРАНСКРЫПЦЫЯ

Асаблівасцю вуснай мовы з'яўляецца яе імгненнасць. Таму пры даследаванні ўзнікае патрэба ў захаванні яе ў часе, для чаго існуе рад тэхнічных спосабаў і сродкаў. Найбольш распаўсюджанымі і даступнымі з іх зараз з'яўляюцца механічны і электрамагнітны запісы вуснай мовы. З дапамогай механічнага спосабу ажыццяўляецца запіс на грампласцінкі, а пры электрамагнітным спосабе запіс робіцца на ферамагнітную стужку. У кіно шырока выкарыстоўваецца таксама запіс, заснаваны на фотаэфекце. Ёсць і іншыя спосабы, якія дазваляюць не толькі нязменна захоўваць вусную мову, але і шматразова яе ўзнаўляць.

Сутнасць усіх гэтых спосабаў запісу заключаецца ў тым, што з дапамогай розных пераўтваральнікаў

на пэўным матэрыяле перадаецца форма гукавой хвалі, якая ўзнікае пры моваўтварэнні. У час узнаўленне гэта форма пераўтвараецца ў адваротным парадку, у выніку чаго ўзнікае гукавая хваля, аднолькавая з запісанай. Ступень яе супадзення з запісанай цалкам вызначаецца якасцю апаратуры, з дапамогай якой робіцца запіс і ўзнаўленне.

Зусім відавочна, што пры вывучэнні фанетыкі любой мовы шырока выкарыстоўваюцца толькі найбольш даступныя запісы вуснай мовы: магнітафонны і грамзапіс. Асабліва зручны магнітафонны запіс, бо яго можна рабіць самому і захоўваць доўгі час. Што да грампласцінак, дык з запісамі беларускай мовы іх шмат выпускае ўсесаюзная фірма «Мелодыя». Гэта фонахрэстаматыі для ўсіх класаў сярэдняй школы, дадаткі да кніг па выразнаму чытанню, дыкцыі і арфаэпіі. Каштоўнасць грампласцінак для заняткаў па фанетыцы заключаецца ў тым, што на іх звычайна зафіксавана ўзорнае маўленне прафесіянальных дыктараў.

У фанетыцы агульнапрынятым спосабам падачы вуснай мовы з'яўляецца транскрыпцыя. Шырокае прымяненне транскрыпцыі тлумачыцца тым, што яна не патрабуе ніякіх спецыяльных прыстасаванняў і можа выдавацца друкарскім спосабам, бо нагадвае звычайнае пісьмо, толькі заснаванае не на арфаграфічных правілах, а на адназначнай адпаведнасці літар і гукаў, якой няма пры звычайным пісьме. Сапраўды, у беларускім пісьме літара *д* можа перадаваць гук [д] *(дым, дом)*, [т] *(сад* [сат]), [ч] *(адчуць* [аччуц']), [ц] *(на кладцы* [клаццы]), [ц'] *(адцерці* [ац'ц'ерц'і]), [дз'] *(паддзімаць* [падз'дз'імац']). Транскрыпцыйны знак *д* заўсёды абазначае толькі гук [д]. Каб адрозніць транскрыпцыйнае напісанне ад арфаграфічнага, яно бярэцца ў квадратныя дужкі, як гэта зроблена ў вышэйпрыведзеных прыкладах.

Для ажыццяўлення транскрыпцыі ўжываецца набор транскрыпцыйных знакаў, кожнаму з якіх надаецца пэўнае гукавое значэнне. Гэта можна зрабіць рознымі шляхамі, але звычайна або падаецца агульнаўжывальнае слова з вядомай мовы, у якім ёсць гук, які адпавядае данаму знаку фанетычнай транскрыпцыі, або пералічаюцца ўсе істотныя артыкуляцыйныя прыкметы, характэрныя для данага гука. Ніжэй значэнне транскрыпцыйных знакаў будзе раскрывацца праз ключавыя словы беларускай мовы, але ў далейшым іх змест будзе ахарактарызаваны і артыкуляцыйна.

Транскрыпцыя, як і іншыя віды запісу мовы, павінна забяспечваць узнаўленне запісанага такім чынам, каб узноўленае цалкам адпавядала арыгіналу. Але поўнага супадзення вуснай мовы з транскрыпцыяй дасягнуць немагчыма, таму што ў фанетычнай транскрыпцыі запісваецца не само выказванне як з'ява фізічная, а яго аналіз, зроблены з дапамогай органа слыху фанетыста. Гэты аналіз можна рабіць у фанетычных або фаналагічных тэрмінах. Тут асабліва важна адзначыць, што транскрыпцыя — гэта знакавая сістэма, як і пісьмовая форма мовы. Таму для яе ажыццяўлення, акрамя засваення гукавога значэння літар, трэба навучыцца слухаць, не звяртаючы ўвагі на сэнс, умець імітаваць пачутае. Трэніроўка для кожнага пачынаючага неабходна таму, што напачатку кожны схільны атаясамліваць незнаёмыя гукі з ужо знаёмымі. Гэта лёгка выяўляецца, калі прапанаваць затранскрыбіраваць невялікі кавалак малавядомай мовы і параўнаць атрыманую транскрыпцыю з навуковай. Вельмі цяжка дабіцца, каб розныя людзі транскрыбіравалі адно і тое ж выказванне аднолькава.

Для тых, хто валодае мовай, звычайна дастаткова фаналагічнай транскрыпцыі, бо носьбіт мовы лёгка ўзнаўляе ўсе асаблівасці гукаў,

звязаныя з іх фанетычным акружэннем. У радзе выпадкаў неабходны значна больш падрабязны запіс, у прыватнасці калі сістэма фанем невядома і яе трэба ўстанавіць (напрыклад, пры запісах невядомай мовы або гаворкі), калі тое, што запісваецца, настолькі хаатычнае, што адразу цяжка зразумець сістэму (спантанная гутарковая мова), калі сістэма вядома, але ставіцца задача даследаваць якраз несістэмныя моманты (варыянтнасць гукаў, фанетыка пры блізкароднасным білінгвізме, параўнанне блізкародназных моў і дыялектаў і г. д.). Чым больш падрабязная транскрыпцыя, тым яе цяжэй рабіць. Таму звычайна транскрыбіруюцца толькі невялікія кавалкі вусных выказванняў. У кнізе часцей за ўсё будзе выкарыстоўвацца спрошчаная фанетычная транскрыпцыя, якая абапіраецца на беларускі алфавіт. У сувязі з тым што ў многіх выпадках узнікае патрэба ў перадачы беларускай мо-

Табліца 1. **Знакі фанетычнай транскрыпцыі для запісу вуснай мовы**

| Знак фанетычнай транскрыпцыі | Варыянты знака транскрыпцыі, якія сустракаюцца ў літаратуры | Адпаведны знак Міжнароднага фанетычнага алфавіту | Ключавое слова | Заўвагі |
|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| а | | a | *абапал* | |
| о | | o | *бок* | |
| ы | и | ɨ | *сыр* | |
| у | | u | *тут* | |
| ô | | ø ọ | | Сустракаецца ў паўднёва-заходніх гаворках, нагадвае [у] |
| е | э | ẹ | *эра* | Варыянт [э] выкарыстоўваецца пасля цвёрдых зычных |
| ê | | ẹ | | Сустракаецца ў паўднёва-заходніх гаворках, нагадвае [і] |
| ъ | | ə | | Вельмі кароткі галосны, які можа мець адценні галосных ня верхняга пад'ёму |
| й | | j | *яма* [йама] | |
| ў | | w | *даў* | |
| п | | p | *пах* | |
| б | | b | *бок* | |
| ф | | f | *форма* | |
| ■ | | v | *выць* | |
| м | | m | *маці* | |
| т | | t | *ток* | |
| д | | d | *дом* | |
| с | | s | *сад* | |
| з | | z | *зара* | |
| ■ | | n | *нара* | |
| ш | | š | *шар* | |
| ж | | ž | *жара* | |
| ч | | t͡š | *чаша* | |
| дж | | d͡ž | *сяджу* | Дужка пад літарамі абазначае, што гэта афрыката |
| ц | | t͡s | *цана* | |
| дз | | d͡z | *дзвынкаць* | |
| р | | r | *рот* | |
| л | | l | *лодка* | |
| к | | k | *каша* | |
| g | | g | *gанак* | |
| х | | x | *хата* | |
| г | | ɣ | *гнаць* | |
| h | | h | *ага* | |

вы ў міжнароднай фанетычнай транскрыпцыі, побач з беларускімі знакамі падаюцца адпаведныя знакі Міжнароднага фанетычнага алфавіта (табл. 1).

Падваенне і падоўжанне зычных абазначаецца двухкроп'ем пасля адпаведнага знака — [с:].

Палаталізацыя (мяккасць) зычных абазначаецца коскай зверху справа ад знака — [с']. Націск абазначаецца знакам акута над галосным націскнога склада — [саро́ка].

У далейшым значэнне транскрыпцыйных знакаў будзе раскрыта таксама і праз тыя артыкуляцыі, якія неабходны для ўтварэння адпаведнага гука. Яны будуць суаднесены таксама і з сегментамі гукавой хвалі, на аснове якіх утвараецца той або іншы гук.

# Раздзел 1

## АРТЫКУЛЯЦЫЙНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА ГУКАЎ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

### § 1.1. МОЎНЫ АПАРАТ

Прырода не надзяліла чалавека якімі-небудзь спецыяльнымі органамі, прызначанымі толькі для стварэння вуснага маўлення (за выключэннем хіба галасавых звязак). Моўным апаратам, або моўнымі органамі, умоўна называюць органы чалавечага цела, якія, выконваючы пэўныя фізіялагічныя функцыі, прымаюць удзел таксама і ва ўтварэнні гукаў.

У залежнасці ад той ролі, якую адыгрываюць асобныя часткі моўнага апарату ва ўтварэнні гукаў, іх падзяляюць на дыхальны апарат і органы маўлення.

Фізіялагічная функцыя *дыхальнага апарату* — забяспечваць абмен газамі паміж асяроддзем і арганізмам. Дыханне — жыццёва неабходная для арганізма функцыя дыхальнага апарату. Пабочная яго функцыя — утварэнне фанацыі — не з'яўляецца жыццёва неабходнай. Яна развілася ў чалавека параўнальна позна. Цікава адзначыць, што некаторыя ніжэйшыя жывёлы (напрыклад, рыбы, насякомыя) выкарыстоўваюць для ўтварэння гукаў іншыя мускульныя сістэмы, зусім не звязаныя з дыханнем.

Дыхальны апарат складаецца з лёгкіх, бронхаў і дыхальнага горла (трахеі). Лёгкія ўяўляюць сабой мноства альвеол (пузыркоў), якія аплецены вельмі тонкімі крывяноснымі сасудамі. Ад кожнай альвеолы адыходзяць тонкія бронхі, якія злучаюцца ва ўсё больш тоўстыя, аж пакуль не злучацца ў дзве вялікія бронхі, што адыходзяць ад кожнага лёгкага. Бронхі маюць мускулатуру, якая дазваляе ім сціскацца і расшырацца. Абедзве бронхі зліваюцца ў трахею — трубку, утвораную паўкальцавымі храсткамі. Храсткі не даюць сціскацца трахеі, спадаць пры выдыху. Дзякуючы гэтаму дыхальны шлях застаецца ўвесь час адкрытым. На выдыху ў трахеі ствараецца паветраны ціск, неабходны для ўтварэння гукаў.

Актыўны ўдзел у працэсе дыхання прымае грудная клетка. Яна ўтвараецца 12 парамі рэбраў і дыяфрагмай. Ззаду рэбры прымацаваны да хрыбетніка, спераду 10 верхніх пар прымацаваны храсткамі да груднoй касці. Дыяфрагма адгароджвае грудную клетку знізу ад брушной поласці. Рухомасць груднoй клеткі забяспечваецца мускулатурай, якая ідзе ад хрыбетніка да рэбраў, міжрэбернымі мышцамі і мускулатурай дыяфрагмы, якая з'яўляецца найбольш важнай рухаючай сілай пры дыханні. У час удыху канцы рэбраў падымаюцца ўверх, дыяфрагма сціскаецца, прагінаючыся ўніз у сваёй сярэдняй частцы. У выніку аб'ём груднoй клеткі павялічваецца і праз трахею і бронхі паветра ўсмоктваецца лёгкімі. У час выдыху выдыхальная мускулатура апускае рэбры, мышцы дыяфрагмы расслабляюцца, і яна прагінаецца ўнутр груднoй клеткі. Паветра пры гэтым па дыхальных

шляхах выштурхоўваецца з арганізма.

Працэс удыхання і выдыхання паветра з'яўляецца адвольным і аўтаматычным і рэгулюецца дыхальным цэнтрам мозгу. Мазгавы цэнтр кіруецца тымі хімічнымі паказаннямі аб патрэбе арганізма ў паветры, якія паступаюць да яго з крыві. Гэтым вызначаецца глыбіня і рытм дыхання. Чым больш у крыві вуглякіслага газу, тым глыбей і часцей становіцца дыханне. Ад волі чалавека гэты працэс не залежыць. Спыніць дыханне па сваёй волі без спецыяльнай трэніроўкі можна толькі на вельмі кароткі час.

Пры звычайных умовах працягласць удыху і выдыху прыблізна роўная. За мінуту чалавек робіць каля 20 удыхаў і выдыхаў. Істотнае значэнне для гукаўтварэння мае той факт, што ў час выдыху ў лёгкіх усё ж застаецца значная колькасць паветра. Фактычна іменна гэта дало магчымасць выкарыстоўваць дыхальны апарат для ўтварэння фанацыі. У час гаварэння чалавек карыстаецца так званым моўным дыханнем. Сутнасць яго заключаецца ў тым, што выдых зацягваецца на значна большы час, чым удых. Якраз на выдыху і ўтвараюцца гукі мовы. Удых для гукаўтварэння амаль не выкарыстоўваецца (толькі ў некаторых мовах свету асобныя гукі ўтвараюцца на ўдыху).

Каб уявіць, як вымаўляюцца гукі на ўдыху, можна параўнаць, напрыклад, слова *цаца* (утвараецца на выдыху) і падзыўное слова для свіней *цо-цо-цо* (утвараецца на ўдыху). У працэсе фанацыі наступае момант, калі неабходна зрабіць удых. У сувязі з гэтым у вуснай мове ўзнікаюць так званыя фізіялагічныя паўзы. Пры запісах у студыйных умовах у моманты набору паветра добра чуваць спецыфічны лёгкі шум паміж асобнымі адрэзкамі выказвання.

У рэгуляцыі энергіі пры моўным дыханні вядучая роля належыць дыяфрагме. Яе работу М. І. Жынкін характарызуе наступным чынам: «У працэсе моўнага вымаўлення дыяфрагма на выдыху робіць рэзкія і яскрава бачныя ўдыхальныя і выдыхальныя рухі. Яна мадулюе з пэўнай амплітудай на кожным моўным гуку, то падымаючыся ўверх, то апускаючыся ўніз, пры гэтым экспірацыя не спыняецца»[1]. Гэтыя рухі дыяфрагмы ў час выдыху залежаць ад характару гукаў, якія ўваходзяць у вымаўлены склад або слова. Імі рэгулюецца акустычная магутнасць гукаў, а таксама ў некаторай ступені квантаванне мовы на склады.

Такім чынам, дыхальны апарат забяспечвае працэс маўлення паветрам і энергіяй, неабходнай для яго руху, і ў некаторай ступені вызначае квантаванне моўнай плыні.

Да *органаў маўлення* адносяцца гартань, глотка, поласць носа і поласць рота, язык і губы. Глотку і поласці носа і рота называюць надстаўной трубой, паколькі яны размешчаны над крыніцай голасу.

Крыніца голасу — галасавыя звязкі — знаходзіцца ў гартані, якая складаецца з шэрага рухомых храсткоў, што забяспечвае нацяжэнне галасавых звязак і адкрыццё галасавой шчыліны. Асновай гартані з'яўляецца пярсцёнкападобны храсток. Ён ляжыць на верхнім кольцы трахеі. Такую назву гэты храсток атрымаў за форму пярсцёнка. Сваёй пячаткай (шырокай часткай) ён звернуты назад, а абручом (вузкай часткай) — наперад (рыс. 6, *5*).

Над пярсцёнкападобным храстком размешчаны шчытападобны храсток. Ён складаецца з дзвюх пласцінак няправільнай чатырохвугольнай формы (рыс. 6, *4*). Гэтыя пласцінкі (шчыткі) спераду злучаны паміж сабою нерухома пад вуглом 90° у мужчын і 120° у жанчын. Верхняя частка гэтага злучэння выступае ў мужчын у выглядзе кады-

---

[1] Жинкин Н. И. Механизмы речи. М., 1958. С. 286.

ка, ці адамава яблыка. Ззаду пласціны шчытападобнага храстка маюць па два вертыкальна размешчаныя адросткі — «рогі». Верхнія «рогі» злучаны звязкамі з пад'язычнай косцю, з якой злучаны таксама ўвесь верхні край шчытападобнага храстка пры дапамозе перапонкі. Ніжнія




Рыс. 6. *1* — выгляд гартані спераду: а) пад'язычная костка, б) шчытападобны храсток, в) пярсцёнкападобны храсток, г) трахея; *2* — надгартаннік; *3* — пірамідальны храсток; *4* — шчытападобны храсток; *5* — пярсцёнкападобны храсток

(больш кароткія) «рогі» злучаны суставамі з пячаткай пярсцёнкападобнага храстка, з якім злучана таксама пры дапамозе перапонкі ўся ніжняя частка шчытападобнага храстка. Дзякуючы перапоначным злучэнням гартань «сядзіць» на трахеі ў выглядзе лейкі, накіраванай сваёй пашыранай часткай кверху.

Гартань можа рухацца ўверх і ўніз. Гэты рух ажыццяўляюць шчыта-пад'язычныя, грудзіна-шчытападобныя і шчытапярсцёнкападобныя мышцы. Шчыта-пад'язычныя мышцы злучаюць пласціны шчытападобнага храстка з пад'язычнай косцю. Грудзіна-шчытападобныя мышцы злучаюць шчытападобны храсток з груднай косцю і рухаюць гартань у вертыкальным напрамку. Рухі гартані ўверх і ўніз рэгулююць аб'ём глоткі, што мае вялікае значэнне для фарміравання спектра гукаў.

На верхняй частцы пячаткі пярсцёнкападобнага храстка размешчаны два пірамідальныя храсткі (рыс. 6, *3*). Сваёй формай яны падобны на невялікія трохгранныя пірамідкі. На кожным з іх зверху знаходзіцца па адным невялікім сантарыніевым храстку, з якімі яны цесна злучаны. Пірамідальныя храсткі могуць рухацца па пячатцы наперад і назад, а таксама ўправа і ўлева і могуць паварочвацца вакол сваёй вертыкальнай восі. Гэтыя складаныя рухі ажыццяўляюцца пад уздзеяннем унутранай мускулатуры гартані, і дзякуючы ім паміж пірамідальнымі храсткамі можа раскрывацца або закрывацца шчыліна. На пярэдніх ніжніх частках пірамідальных храсткоў маюцца невялікія выступы — галасавыя адросткі.

Зверху гартань прыкрываецца надгартаннікам. Гэта храсток, які па форме нагадвае ліст дрэва. Сваёй вузкай часткай ён упіраецца ў верхні выраз вугла, утворанага пласцінкамі шчытападобнага храстка. Яго шырокая частка накіравана назад, у поласць глоткі. З шчытападобным храстком надгартаннік злучаны звязкай і дзвюма шчытанадгартаннымі мышцамі, якія падымаюць шырокую частку надгартанніка. Гартань пры гэтым адкрываецца. Мышцы, што злучаюць надгартаннік з пірамідальнымі храсткамі, апускаюць шырокую частку надгартанніка, закрываючы гартань.

Унутраныя часткі гартані пакрыты звязачна-валакністай тканкай, якая ўтварае дзве пары патаўшчэнняў, што размешчаны адно над другім злева і справа і накіраваны спераду назад (у сагітальным кірунку). Паміж імі маюцца паглыбленні — марганіевыя жалудачкі. Ніжнія патаўшчэнні называюцца сапраўднымі галасавымі звязкамі, а верхнія — несапраўднымі галасавымі звязкамі.

Сапраўдныя галасавыя звязкі з'яўляюцца эластычнай абалонкай мышачнай тканкі. Мышачныя валокны прымацаваны да шчытапа-

добнага храстка і да галасавых адросткаў пірамідальных храсткоў. Але яны пачынаюцца і заканчваюцца ў розных пунктах. Пры розным іх нацяжэнні ўтвараюцца стужкі рознай даўжыні. Ад гэтага залежыць вышыня гука. Галасавыя звязкі могуць ствараць гукі з частатой ад 70 да 1100 ваганняў у секунду. Паколькі мышачныя валокны ідуць у іх не толькі гарызантальна, але і вертыкальна, а таксама па дыяганалі, яны могуць мяняць сваю таўшчыню, а дыяганальныя валокны могуць зацiскаць элементы, якія вагаюцца, у розных месцах. У адрозненне ад іншых мышц валокны галасавых звязак могуць напружвацца, не мяняючы сваёй даўжыні. У стане спакою галасавыя звязкі ў мужчын маюць у сярэднім 1,5 см даўжыні, а ў жанчын — 1,2 см.

Паколькі абедзве галасавыя звязкі сыходзяцца ў вуглу шчытападобнага храстка, яны ўтвараюць вуглападобную шчыліну, накіраваную сваёй расшыранай часткай кпераду. Пры дыханні галасавыя звязкі і пірамідальныя храсткі рассунуты, галасавая шчыліна адкрыта і паветра свабодна праходзіць праз яе. Пры шэпце ўтвараецца вузкая шчыліна паміж пірамідальнымі храсткамі і галасавымі звязкамі, якія застаюцца ненапружанымі. Гукі ўтвараюцца ў выніку трэння паветра, што падаецца з лёгкіх. Пры ўтварэнні голасу галасавыя звязкі таксама зблiжаны, аднак шчыліна паміж імі больш вузкая, чым пры шэпце, а галасавыя звязкі напружаны. Адносна ўзбуджэння ваганняў галасавых звязак існуе дзве гіпотэзы. Згодна з адной, якую развівае французскі ўрач Юсон, яны ўзбуджаюцца імпульсамі, што пасылае цэнтральная нервовая сістэма з частатой асноўнага тону голасу. Гэтыя імпульсы і выклікаюць перыядычную дэфармацыю галасавых звязак. Аднак больш проста ўзнікненне голасу тлумачыцца збыткоўным ціскам паветра пад галасавымі звязкамі і яго падзеннем у час праходу паветранай плыні праз вузкую шчыліну, у выніку чаго галасавыя звязкі перыядычна змыкаюцца і размыкаюцца.

Несапраўдныя галасавыя звязкі рэгулююць разам з марганіевымі жалудачкамі дынамічны дыяпазон гукаў, г. зн. іх сілу.

Поласць глоткі размешчана вышэй гартані (рыс. 7). Яна ўяўляе сабой трубку дыяметрам 3 см і глыбінёй 2 см. Пярэднюю сценку глоткі ўтварае надгартаннік і корань языка. Задняя сценка ахопліваецца трыма петлепадобнымі мышцамі, якія сціскаюць глотку пры заглытванні ежы. Пры расслабленні мышцаў утвараецца поласць глоткі, якая служыць рэзанатарам для гукаў, і некаторыя гукі могуць і ўтварацца непасрэдна ў ёй. Памер глотачнага




Рыс. 7. Схема моўных органаў: *I* — поласць глоткі, *II* — поласць рота, *III* — поласць носа; *1* — язычок, *2* — задняя частка мяккага паднябення, *3* — пярэдняя частка мяккага паднябення, *4* — верхнія зубы, *5* — задняя частка цвёрдага паднябення, *6* — пярэдняя частка цвёрдага паднябення, *7* — альвеолы, *8* — верхні разец, *9* — верхняя губа, *10* — ніжняя губа, *11* — ніжні разец, *12* — кончык языка, *13* — пярэдняя частка языка, *14* — сярэдняя частка языка, *15* — задняя частка языка, *16* — корань языка, *17* — надгартаннік, *18* — глотка, *19* — стрававод, *20* — трахея

рэзанатара вызначаецца дзеяннем кораня языка, надгартанніка і петлепадобных мышцаў задняй сценкі. Згодна з глотачнай тэорыяй складаўтварэння, гэты рэзанатар рэгулюе складападзел моўнай плыні [2].

Важнейшую ролю ў гукаўтварэнні адыгрывае поласць рота. Яна ўтвараецца зубамі, цвёрдым і мяккім паднябеннем, ніжняй сківіцай і сценкамі шчок. Ніжняя сківіца дзякуючы сваёй рухомасці забяспечвае змяненне аб'ёму ротавай поласці. Мяккае паднябенне, якое заканчваецца язычком, закрывае праход у поласць носа пры вымаўленні ненасавых гукаў. Пры насавых гуках яно апускаецца, адкрываючы гэты праход. У даным выпадку насавая поласць служыць дадатковым рэзанатарам, які надае гукам спецыфічную насавую афарбоўку. Язычок (uvula) можа вібрыраваць і такім чынам ствараць некаторыя гукі мовы (напрыклад, [р]-увулярны).



Рыс. 8. Падзел паднябення на зоны: *1* — зубы, *2* — альвеолы, *3* — заальвеалярная зона, *4* — цвёрдае паднябенне, *5* — мяккае паднябенне

Задняя частка языка, якая злучана з надгартаннікам, называецца коранем. Паверхня самога цела языка называецца спінкай. Спінка языка падзяляецца на пярэднюю, сярэднюю і заднюю часткі (рыс. 7). У адпаведнасці з падзелам спінкі языка дзеляць і нерухомы орган мовы — паднябенне — на пярэднюю, сярэднюю і заднюю часткі (рыс. 7, 8).

Самая крайняя частка паднябення, у якой знаходзяцца карані зубоў, называецца альвеалярным бугром. Альвеолы ўтвараюць як бы ўнутраную частку дзёснаў.

Верхнія і ніжнія зубы таксама з'яўляюцца нерухомымі моўнымі органамі. Дзякуючы ўзаемадзеянню рухомых і нерухомых органаў у розных месцах ротавай поласці ствараюцца перашкоды на шляху выдыхаемага паветра, у выніку чаго ўзнікаюць шумы, неабходныя для ўтварэння шумных зычных. Іх характар залежыць ад месца ўтварэння.

Актыўную ролю ў гукаўтварэнні адыгрываюць губы. Пры ўзаемадзеянні з зубамі яны ствараюць крыніцу шуму для некаторых гукаў, а пры ўзаемадзеянні паміж сабою ствараюць дадатковы рэзанатар і рэгулююць выхад паветра з ротавага рэзанатара.

Вельмі важна падкрэсліць, што нармальная работа ўсіх органаў маўлення можа ажыццяўляцца толькі пры кантролі вынікаў гэтай работы органам слыху. Калі орган слыху не можа па якіх-небудзь прычынах ажыццяўляць такі кантроль, то нармальнае гаварэнне немагчыма. Вядома, што ў глуханямых звычайна няма якіх-небудзь адхіленняў у анатоміі органаў маўлення. Яны не могуць гаварыць з-за адсутнасці слыхавога кантролю вынікаў дзеяння гэтых органаў: вуха, хаця і не з'яўляецца органам мовы, у працэсе гаварэння адыгрывае не меншую ролю, чым моўны апарат.

Такім чынам, моўны апарат — акустычная сістэма, якая складаецца з пастаяннай крыніцы перыядычных гукаў, пераменных крыніц шумных гукаў, рэзанатарнай сістэмы і энергетычнай сістэмы (рыс. 9).

Частка органаў, якія ўваходзяць у склад моўнага апарату, з'яўляецца рухомай і можа свядома кіравацца, другая частка іх нерухомая.

[2] Жинкин Н. И. Механизмы речи. С. 219 і наст.

У сувязі з гэтым адрозніваюць актыўныя органы мовы (ніжняя сківіца, губы, язык, мяккае паднябенне, галасавыя звязкі) і пасіўныя (зубы, паднябенне, поласць носа).

Адрозненні паміж гукамі ствараюцца рознымі рухамі асобных актыўных органаў мовы — артыкуляцыямі. Для таго каб узнавіць пачуты гук, неабходна выканаць органамі мовы ўсе рухі, якія рабіліся і пры




Рыс. 9. Акустычная сістэма моўнага апарату (па Дж. Фланагану): *1* — паднябенная засланка, *2* — насавая поласць, *3* — адтуліна для выпраменьвання гукавой хвалі з насавой поласці, *4* — адтуліна для выпраменьвання гукавой хвалі з ротавай поласці, *5* — ротавая поласць, *6* — паднятая частка языка, *7* — гартанная трубка, *8* — трахея і бронхі, *9* — дыяфрагма (мускульная сіла), *10* — аб'ём лёгкіх, *11* — галасавыя звязкі

яго ўтварэнні. Таму вывучэнне гукаў з фізіёлага-артыкуляцыйнага пункта погляду азначае апісанне гэтых рухаў. Зразумела, што апісанне можа быць больш або менш падрабязным. Кожная артыкуляцыя разгортваецца ў часе, асобныя органы мовы рухаюцца бесперапынна і плаўна, іншыя ажыццяўляюць рухі вельмі хутка. У сувязі з гэтым рухі розных органаў мовы для ўтварэння канкрэтнага гука ў моўнай плыні пачынаюцца і заканчваюцца неадначасова. Па рухах органаў мовы вельмі цяжка ўстанавіць межы асобных гукаў.

Якім чынам апісаць артыкуляцыі канкрэтнага гука? Паколькі на працягу гука (калі дапусціць, што нейкім іншым шляхам устаноўлены яго межы) асобныя артыкуляцыі змяняюцца, можна было б апісваць становішча органаў мовы ў пэўныя моманты часу, напрыклад у час экскурсіі, вытрымкі і рэкурсіі. Але экскурсія і рэкурсія моцна залежаць ад суседніх гукаў і тады прыйшлося б апісваць усе магчымыя экскурсіі і рэкурсіі данага гука, што значна ўскладніла б апісанне. Можна выбраць і іншыя моманты і ў значна большай колькасці, што забяспечыла б высокую ступень дакладнасці. Але для тых, хто ведае мову і карыстаецца ёю, падобная інфармацыя ў значнай ступені аказваецца збыткоўнай.

Важна ўлічваць, што нават самае дэталёвае апісанне артыкуляцый само па сабе не гарантуе яснага ўяўлення аб слыхавым уражанні ад вымаўленых гукаў. Неабходна ўслухоўвацца ў мову іншых людзей і ў сваю ўласную, каб мець магчымасць улоўліваць розніцу ў вымаўленні адных і тых жа гукаў, імітаваць яе, выкарыстоўваючы слыхавое ўражанне для кантролю. Працэс слухання мае таксама вялікае значэнне для каардынацыі рухаў моўных органаў пры звязнай мове.

Паколькі маецца магчымасць узнаўлення носьбітамі мовы дынамікі гукаў у моўнай плыні, найбольш зручна апісваць становішча органаў мовы ў момант вытрымкі. Менавіта ў гэтай фазе кожнага гука прадстаўлены ўсе артыкуляцыі, характэрныя для яго.

## § 1.2. АГУЛЬНЫЯ УМОВЫ УТВАРЭННЯ ГАЛОСНЫХ ГУКАЎ

Крыніцай гука пры ўтварэнні галосных з'яўляюцца перыядычныя ваганні паветра, якія ўзнікаюць у выніку дзеяння галасавых звязак. Адрозненні паміж галоснымі абумоўліваюцца рознай формай ротавай поласці — у залежнасці ад рухаў языка і рознага становішча губ. Што гэта сапраўды так, лёгка пераканацца, калі падрыхтавацца вымаўляць пэўны галосны і пашчоўкаць па шчацэ. У такім выпадку можна адрозніць, які галосны быў намер вымавіць, бо ўзнікшы гук па тэмбру вельмі нагадвае гэты галосны. Паколькі рухі языка цалкам вызначаюць форму ротавай поласці, пры апісанні галосных неабходна ахарактарызаваць становішча языка, спецыфічнае для кожнага галоснага. Гэта форма ўяўляе сабой крывую лінію, часта складаную. Для спрашчэння апісання звычайна ўказваецца толькі вышэйшы пункт пад'ёму спінкі языка. Месца вышэйшага пункта пад'ёму ў ротавай поласці дазваляе прыблізна вызначыць усю форму языка.

Пры вымаўленні беларускіх галосных гэты вышэйшы пункт пад'ёму языка можа быць у пярэдняй, сярэдняй або задняй частцы ротавай поласці. Язык можа таксама высока падымацца да паднябення, пры гэтым ніжняя сківаца апускаецца вельмі нязначна, шчыліна паміж зубамі вельмі вузкая. Галосныя, якія ўтвараюцца пры такім становішчы языка, называюцца галоснымі верхняга пад'ёму. Часам іх яшчэ называюць закрытымі або вузкімі. З другога боку, язык можа падымацца вельмі нязначна ў параўнанні з нейтральным становішчам, - праход паміж языком і паднябеннем шырокі, ніжняя сківаца значна апускаецца, шчыліна паміж зубамі шырокая. Галосныя, якія ўтвараюцца пры такім становішчы языка, называюцца галоснымі ніжняга пад'ёму. Іх называюць таксама адкрытымі або шырокімі. Пры прамежкавым пад'ёме языка ўтвараюцца галосныя сярэдняга пад'ёму.

Такім чынам, кожны галосны характарызуецца двума каардынатамі вышэйшага пункта пад'ёму языка: яго месцам па гарызантальнай восі моўнага апарату і месцам па вертыкальнай восі (ступенню пад'ёму языка). Вывучэнне рэнтгенаграм паказвае, што ў сукупнасці для ўсіх галосных гэтыя каардынаты ў ротавай поласці займаюць пэўную зону, якую прыблізна можна прадставіць у форме эліпса або трапецыі, што дае магчымасць вызначыць неабходныя артыкуляцыйныя характарыстыкі галосных (рыс. 10). Даследаванне артыкуляцый галосных і зводзіцца да выяўлення іх месца на трапецыі шляхам параўнання рэнтгенаграм, палатаграм, лінгваграм.

У залежнасці ад становішча губ у беларускай мове адрозніваюцца агубленыя (лабіялізаваныя) і неагубленыя (нелабіялізаваныя) галосныя: агубленымі могуць быць толькі галосныя задняга рада, што добра прасочваецца па кіназдымках губных артыкуляцый у профіль і анфас. Становішча губ пры вымаўленні кожнага галоснага паказваецца ў далейшым на рысунках пры апісанні іх артыкуляцый.




Рыс. 10. Становішча вышэйшага пункта пад'ёму языка (па Дж. Д. О'Коннару): *1* — пярэдняе высокае, *2* — пярэдняе нізкае, *3* — сярэдняе, *4* — задняе высокае, *5* — задняе нізкае. Злева — рэальная дыяграма руху вышэйшага пункта, справа — прамалінейная схема той жа дыяграмы, якая часта выкарыстоўваецца ў фанетыцы

## § 1.3. АГУЛЬНЫЯ УМОВЫ УТВАРЭННЯ ЗЫЧНЫХ ГУКАЎ

Пры ўтварэнні зычных на першы план выступаюць шумавая і імпульсна-шумавая крыніцы гукаў, хоць ёсць і выключэнні, паколькі існуюць зычныя, у вымаўленні якіх шум або не назіраецца зусім або назіраюцца вельмі слабыя шумавыя складаючыя пры пераваз перыядычных. Іменна гэтым абумоўліваецца падзел зычных на шумныя і санорныя. Пры гэтым да шумных адносяцца зычныя, ва ўтварэнні якіх удзел шумавой або імпульсна-шумавой крыніцы відавочны як з артыкуляцыйнага, так і з акустычнага пункту погляду. Да санорных адносяцца такія гукі, пры вымаўленні якіх хоць і ствараюцца артыкуляцыйныя ўмовы для дзеяння шумавой або імпульсна-шумавой крыніцы, але па раду прычын або ўзнікае вельмі слабы шум, або ён зусім не ўзнікае. Асноўнай з гэтых прычын з'яўляецца тое, што пры ўзнікненні на шляху паветранай плыні поўнай перашкоды або вузкай шчыліны адначасова ўзнікае і дадатковы свабодны праход, што не дае магчымасці ўзрасці паветранаму ціску за перашкодай да такога ўзроўню, каб мог утварыцца шум.

Паколькі артыкуляцыйнай умовай утварэння шуму з'яўляецца ўзнікненне поўнай перашкоды, якая затым хутка змяняецца свабодным праходам, або шчыліны, праз якую праходзіць паветра з пэўнай скорасцю, у выніку чаго ўзнікаюць завіхрэнні, то найбольш агульная артыкуляцыйная рыса зычных — узнікненне звужэння або поўнай змычкі галасавых звязак. Гэта рыса ўласціва практычна ўсім зычным.

Як і пры вымаўленні галосных, вялікую ролю адыгрывае велічыня і форма рэзанатараў, якія ствараюцца ў ротавай поласці дзякуючы дзеянню языка. Пры ўтварэнні рада зычных беларускай мовы падключаецца ў якасці актыўнага рэзанатара і носавая поласць. Паколькі дзеянне языка часцей за ўсё зводзіцца да стварэння перашкоды, то форма рэзанатараў цалкам залежыць ад месца, у якім утвараецца перашкода. Вось чаму адной з асноўных артыкуляцыйных прыкмет зычных з'яўляецца іх месца ўтварэння. Яго можна вызначыць як па нерухомых частках моўнага апарату, так і па рухомых. Калі яго знаходзяць па нерухомых (пасіўных) органах мовы, то нельга з дастатковай дакладнасцю вызначыць форму языка. Таму звычайна пры апісанні артыкуляцый зычных іх месца ўтварэння ўказваецца адносна пасіўнага і актыўнага органа адначасова.

Адносна пасіўнага органа мовы зычныя гукі беларускай мовы падзяляюцца на губныя (у гэтым выпадку верхняя губа лічыцца пасіўным органам мовы), зубныя, пярэднепаднябенныя, сярэднепаднябенныя (палатальныя), заднепаднябенныя, глотачныя (фарынгальныя). Адносна актыўнага органа зычныя падзяляюцца на губныя (ніжняя губа ў гэтым выпадку лічыцца актыўным органам), пярэднеязычныя, сярэднеязычныя, заднеязычныя.

Важная характарыстыка зычных звязана з крыніцай шуму, а на артыкуляцыйным узроўні—з характарам перашкоды. У сувязі з гэтым зычныя падзяляюцца на змычныя, шчылінныя, змычна-шчылінныя і дрыжачыя. Зразумела, што змычнымі называюць зычныя, пры вымаўленні якіх утвараецца поўная змычка органаў моўнага апарату, якая перашкаджае далейшаму руху паветра. Яна звычайна хутка ўтвараецца і хутка знікае. Шчылінныя зычныя характарызуюцца ўтварэннем вузкай шчыліны, праз якую праходзіць паветра з пэўнай скорасцю дзякуючы таму, што за шчылінай утвара-

ецца ціск, вышэйшы за ціск паветра ў акаляючым асяроддзі. Змычнашчылінныя гукі характарызуюцца паслядоўнасцю ўтварэння спачатку змычкі, а затым шчыліны. У адносінах да рада гукаў [л], [м], [н] часам ужываецца тэрмін змычна-праходныя, каб падкрэсліць, што разам з наяўнасцю змычкі органаў мовы маецца дадатковы свабодны праход для паветранай плыні (напрыклад, праз нос). Аднак хоць гэты праход і існуе, ён непасрэдна не звязаны з якой-небудзь крыніцай гука Таму гэты тэрмін не адлюстроўвае артыкуляцыйную сутнасць [л], [м], [н]. Дрыжачы гук у беларускай мове [р] утвараецца ў выніку збліжэння кончыка языка з паднябеннем да вузкай шчыліны, а затым яго аддалення. Гэта чаргаванне рухаў стварае ўражанне, што гук дрыжыць. Некаторыя носьбіты мовы замяняюць дрыжанне кончыка языка дрыжаннем язычка (увулы), што лічыцца моўным недахопам.

Месца ўтварэння перашкоды пры вымаўленні зычных суадносіцца з радам утварэння галосных. Толькі пры апісанні зычных звычайна выкарыстоўваецца больш дробнае дзяленне па месцы ўтварэння ў адрозненне ад галосных, у якіх маецца ўсяго тры рады. Сапраўды, у заднеязычнага [г] і галоснага сярэдне-задняга рада [а] розная толькі велічыня праходу для гукавой хвалі і ў сувязі з гэтым ступень апускання ніжняй сківіцы. Такая ж розніца паміж галосным пярэдняга рада [і] і сярэднепаднябенным шчылінным [й].

Параўнанне месца ўтварэння галосных і зычных паказвае, што зона ў ротавай поласці, якая ахоплівае месца ўтварэння зычных, значна больш расцягнута па гарызанталі. Яна ўключае па даўжыні ўвесь моўны апарат, пачынаючы з губ і канчаючы поласцю глоткі, у той час як у галосных яна займае толькі частку ротавай поласці.

Калі ўтварэнне галосных звязана з дзеяннем галасавых звязак, дык утварэнне зычных патрабуе ўзнікнення вузкіх шчылін паміж органамі мовы або поўнай іх змычкі як неабходных элементаў шумавых крыніц гука. Іменна ў сувязі з гэтым пры апісанні зычных, акрамя месца ўтварэння, выкарыстоўваецца другое вымярэнне — спосаб утварэння, якое з'яўляецца спецыфічным толькі для зычных і не суадносіцца з пад'ёмам языка ў галосных. У шчылінных зычных пад'ём языка накіраваны на ўтварэнне вузкай шчыліны, у той час як у галосных ён вызначае форму рэзанатарнай сістэмы. Праход для паветра пры гэтым застаецца настолькі шырокім, што ў ім не могуць утварацца шумы.

У сувязі з гэтым галоўнае адрозненне паміж галоснымі і зычнымі ў артыкуляцыйным плане заключаецца ў тым, што пры ўтварэнні зычных дзеянне актыўных органаў мовы накіравана на змыканне або звужэнне праходу для паветра ў пэўных месцах моўнага апарату, а ўтварэнне галосных заўсёды накіравана на пашырэнне гэтага праходу, калі галосны ідзе за зычным. Калі галосны вымаўляецца ізалявана або пасля паўзы, тады пашырэнне праходу звязана з тым, што органы мовы пераходзяць з нейтральнага становішча ў такое, якое неабходна для вымаўлення канкрэтнага галоснага.

Такім чынам, агульныя ўмовы ўзнікнення зычных гукаў прадвызначаюць дзве іх асноўныя артыкуляцыйныя характарыстыкі — спосаб і месца ўтварэння. Звестак аб гэтых характарыстыках зусім дастаткова, каб на аснове апісання вымавіць кожны канкрэтны зычны з дастатковай ступенню дакладнасці.

## § 1.4. АРТЫКУЛЯЦЫІ ГАЛОСНЫХ ГУКАЎ

Галосны [а] ў беларускай мове з'яўляецца самым частым: на кожныя 100 вымаўленых гукаў у запісах вуснага маўлення звычайна прыходзіцца ў сярэднім да 18 [а]. Пры яго ўтварэнні ніжняя сківіца апушчана, рот шырока раскрыты, а язык нязначна падымаецца ў напрамку да сярэдне-задняй часткі паднябення. Губы пры гэтым займаюць нейтральнае становішча.

Па губной артыкуляцыі [а] адрозніваецца ад іншых галосных толькі тым, што адлегласць паміж верхняй і ніжняй губамі найбольшая. Бакавыя краі языка злёгку падымаюцца ўверх, дакранаючыся да карэнных зубоў і самых краёў паднябення. Цэнтральная падоўжная частка языка аказваецца значна ніжэй яго краёў. Кончык языка адцягнуты ад ніжніх зубоў унутр ротавай поласці. Уся пярэдняя частка языка плоская і прыціснута да ніжняга паднябення (рыс. 11). Такім чынам, галосны [а] — ніжняга пад'ёму сярэдне-задняга рада, неагублены.

У ненаціскным становішчы артыкуляцыя гэтага гука адрозніваецца ад апісанай меншай выразнасцю пад'ёму языка і меншай ступенню раскрыцця рота. Вышэйшы пункт пад'ёму языка ссоўваецца ў напрамку да сярэдзіны зоны.

Пасля мяккіх зычных, асабліва ў ненаціскным становішчы, [а] пераходзіць у разрад зычных сярэдняга рада.

Гук [і] характарызуецца самым высокім пад'ёмам языка. Шчыліна для праходу паветра паміж зубамі вузкая, ніжняя сківіца апушчана вельмі нязначна. Уся маса цела языка і нават яго корань рухаюцца наперад. Пярэдняя частка спінкі языка прыўзнята да пярэдніх верхніх зубоў і пярэдняй часткі паднябення. Пры ўтварэнні [і] ўзнікае досыць вузкая шчыліна паміж цвёрдым паднябеннем і сярэдзінай спінкі языка. У ненаціскным становішчы якіх-небудзь прыкметных адрозненняў у артыкуляцыі [і] не назіраецца. Характэрнай асаблівасцю яго з'яўляецца тое, што яму могуць папярэднічаць толькі мяккія зычныя. Праход у поласць носа закрыты, губы ўдзелу ва ўтварэнні гэтага гука не прымаюць (рыс. 12). Галосны [і] — верхняга пад'ёму пярэдняга рада, неагублены.

Параўнанне артыкуляцыі [а] і [і] паказвае, што іх можна разглядаць як супрацьлеглыя. Пры артыкуляцыі [а] найбольш вузкае месца ў моўным апараце знаходзіцца ззаду, а найбольш шырокае — спераду. Пры вымаўленні [і] найбольш вузкі праход для паветра ўтвараецца спераду моўнага апарату, а найбольш шырокі (у сувязі з прасунутасцю языка наперад) — у поласці глоткі. Эксперыменты з мадэлямі паказалі, што форму поласцей пры ўтварэнні гэтых гукаў можна паказаць у выглядзе рупараў з шырокім канцом спераду або ззаду. Мадэлі ўтварэння іншых галосных значна больш складаныя.

Галосны гук [ы] сустракаецца толькі пасля цвёрдых зычных. Пры яго вымаўленні пярэдняя частка языка злёгку адцягнута ад зубоў і высока падымаецца да сярэдзіны паднябення. Праход паміж паднябеннем і языком некалькі шырэйшы, чым пры артыкуляцыі [і]. Губы звычайна нейтральныя, але часам заўважаецца іх лёгкае гарызантальнае нацяжэнне. Праход у поласць носа закрыты (рыс. 13). Гук [ы] — верхняга пад'ёму сярэдняга рада, неагублены.

У ненаціскным становішчы [ы] ў носьбітаў літаратурнага вымаўлення можа адрознівацца толькі крыху ніжэйшай ступенню пад'ёму языка. Калі ж чалавек не цалкам пазбаўляецца асаблівасцей дыялектнага вымаўлення, то можа назірацца зрух вышэйшага пункта ар-

тыкуляцыі ў больш заднюю зону (у некаторых прадстаўнікоў паўночна-ўсходніх гаворак пачынае нагадваць [а]), пры агубленні (у прадстаўнікоў некаторых палескіх гаворак) па гучанню можа набліжацца да [у].

Гук [у] ўтвараецца пры моцна ўзнятай і адцягнутай назад задняй частцы спінкі языка. Увесь язык сабраны ў камяк, кончык яго далёка адсунуты ад ніжніх зубоў. Галосны [у] з'яўляецца моцна агубленым (лабіялізаваным). Губы пры яго вымаўленні выцягнуты наперад і ўтвараюць вельмі вузкі круглы праход для паветра (рыс. 14). Галосны [у] — верхняга пад'ёму задняга рада, лабіялізаваны. У моўнай плыні пераход ад артыкуляцыі папярэдняга зычнага да артыкуляцыі [у] ажыццяўляецца дастаткова хутка, таму што ўжо пры вымаўленні гэтага зычнага губы поўнасцю падрыхтаваны да артыкуляцыі [у], г. зн. выцягнуты ўперад і акруглены. У выніку ўсе зычныя, якія знаходзяцца ў адным складзе з [у], аказваюцца агубленымі. Гэты гук у беларускай мове выяўляе найменшую залежнасць ад фанетычнай пазіцыі. У прыватнасці, на вытрымку практычна не аказваюць уплыву мяккія зычныя. Свае слыхавыя ўласцівасці ён захоўвае і ва ўсіх ненаціскных пазіцыях.





Рыс. 11. Артыкуляцыя галоснага [а]. Зверху — становішча губ у профіль і анфас; унізе — злева рэнтгенаграма і палатаграма [а] пасля цвёрдых зычных, справа — рэнтгенаграма і палатаграма [а] пасля мяккіх зычных





Рыс. 12. Артыкуляцыя галоснага [і]. Зверху — становішча губ у профіль і анфас, злева — рэнтгенаграма, справа — палатаграма

Гук [о] па становішчы губ пры яго вымаўленні вельмі нагадвае [у], толькі праход для паветра паміж імі значна большы. Краі задняй часткі языка высока падымаюцца ў напрамку да мяккага паднябення і прыціскаюцца да карэнных зубоў і нават краёў паднябення. Сярэдняя падоўжная частка языка знаходзіцца некалькі ніжэй яго краёў, кончык далёка адцягнуты ўнутр ротавай

поласці. Вышэйшы пункт пад'ёму знаходзіцца некалькі ніжэй, чым пры ўтварэнні [у]. Мяккае паднябенне закрывае праход у поласць носа (рыс. 15). Гук [о] — сярэдняга пад'ёму задняга рада, лабіялізаваны.

Як і пры вымаўленні [у], губы





Рыс. 13. Артыкуляцыя галоснага [ы]. Зверху — становішча губ у профіль і анфас, злева — рэнтгенаграма, справа — палатаграма

моцна выцягваюцца наперад яшчэ да пачатку артыкуляцыі [о] і папярэднія зычныя аказваюцца лабіялізаванымі. Характэрна, што ў пачатковай фазе (экскурсіі) выцягванне губ больш моцнае. К канцу гука губы рухаюцца ў нейтральнае становішча. Таму ў большасці гаворачых па-беларуску гэты гук пад моцным націскам у пачатковай фазе вельмі нагадвае па артыкуляцыі [у], а ў канцавой фазе да некаторай ступені сходны з [а]. Гэта неаднароднасць менш выразна ў прадстаўнікоў заходніх беларускіх гаворак. У становішчы пасля мяккіх зычных моцным змяненням падвяргаецца экскурсія. Не пад націскам сустракаецца толькі ў некалькіх запазычаннях.

Галосны [е] ў пачатку слова, у сярэдзіне пасля цвёрдых зычных і пры ізаляваным вымаўленні (напрыклад, як выклічнік э!) утвараецца пры значным раскрыцці рота, пад'ёме спінкі языка да сярэдняй часткі паднябення і пасіўных губах (рыс. 16). Краі языка падымаюцца значна вышэй, чым сярэдзіна, і прыціскаюцца да бакавых зубоў і краёў







Рыс. 14. Артыкуляцыя галоснага [у]. Зверху — становішча губ у профіль і анфас, у сярэдзіне злева — рэнтгенаграма [у] пасля цвёрдых зычных, справа — рэнтгенаграма [у] пасля мяккіх зычных, унізе — палатаграма [у]

паднябення. Кончык языка крыху адцягнуты ад ніжніх зубоў, але не прыціснуты і распластаны, як пры [а], а звычайна патоўшчаны і злёгку прыўзняты. Мяккае паднябенне паднятае і закрывае праход у поласць носа. Гук [е] — сярэдняга пад'ёму пярэдняга рада, неагублены. Не пад націскам пасля цвёрдых зычных [е]

сустракаецца амаль выключна ў запазычаннях. Пасля мяккіх зычных [е] ў значнай ступені мяняе свае артыкуляцыйныя якасці і можа набліжацца па гучанню або да [а] ў прадстаўнікоў некаторых цэнтральных і паўднёва-заходніх гаворак, або да [і] ў прадстаўнікоў большасці паўночна-ўсходніх гаворак.

Усе галосныя пасля мяккіх зычных пачынаюцца са становішча языка як пры вымаўленні галоснага [і]. Пры гэтым [і]-падобны пераход найбольш ярка выражаны ў [а], паколькі, як было паказана вышэй, кантраст паміж [і] і [а] найбольш значны. Менш выразны ён у [е]. Артыкуляцыя галосных [у] і [о] пасля мяккіх зычных таксама пачынаецца з высокага становішча языка, але яго вышэйшы пункт значна ссунуты ў напрамку да сярэдзіны ротавай поласці. Таму пачатковы ўчастак артыкуляцыі гэтых гукаў менш нагадвае [і], чым іншых галосных. У момант вытрымкі яны найменш змяняюць артыкуляцыю ў параўнанні з [у] і [о] пасля цвёрдых зычных, у той час як [а] і [е] істотна адрозніваюцца і па вытрымцы ў залежнасці ад цвёрдасці-мяккасці папярэдніх зычных. Што да наступных за галосным цвёрдых і мяккіх зычных, дык яны значна менш уплываюць на рэкурсію папярэдняга галоснага, але назіраецца тэндэнцыя набліжэння артыкуляцыі языка да становішча, характэрнага для [і].



Рыс. 15. Артыкуляцыя галоснага [о]. Зверху — становішча губ анфас і ў профіль, у сярэдзіне злева — рэнтгенаграма [о] пасля цвёрдых зычных, справа — рэнтгенаграма [о] пасля мяккіх зычных, унізе — палатаграма [о]



Рыс. 16. Артыкуляцыя галоснага [е]. Зверху — становішча губ у профіль і анфас, у левым радзе — рэнтгенаграма і палатаграма [е] пасля цвёрдых зычных, у правым радзе — рэнтгенаграма і палатаграма [е] пасля мяккіх зычных

## § 1.5. АРТЫКУЛЯЦЫЙНА-ФІЗІЯЛАГІЧНАЯ КЛАСІФІКАЦЫЯ ГАЛОСНЫХ ГУКАЎ

Параўнанне рэнтгенаграм галосных гукаў пасля цвёрдых і пасля мяккіх зычных паказвае, што розніца паміж імі заключаецца не толькі ў істотным змяненні пачатку артыкуляцыі галосных пасля мяккіх зычных. Змены закранаюць пэўным чынам і асноўную частку (вытрымку), асабліва ў ненацiскным становішчы. Яны заключаюцца ў тым, што любы галосны пасля мяккіх зычных становіцца больш пярэднім па раду ў параўнанні з адпаведным галосным пасля цвёрдых зычных або з вымаўленым асобна. Безумоўна, у пачатковай фазе вымаўлення значна змяняецца і ступень пад'ёму, але ў цэнтральнай фазе (вытрымцы) змяненні па пад'ёму менш істотныя. Што да агублення галосных [о], [у], дык яго ступень зусім не залежыць ад цвёрдасці або мяккасці папярэдніх зычных. Акрамя таго, агубленасць у беларускай мове цесна звязана з радам, бо толькі галосныя задняга рада могуць быць агубленымі.

З улікам характару змянення галосных у залежнасці ад папярэдніх зычных іх артыкуляцыйна-фізіялагічную класіфікацыю зручней за ўсё праводзіць на аснове рэнтгенаграм ізаляваных галосных або галосных у пачатку слова перад цвёрдымі зычнымі. Калі размясціць галосныя ў адпаведнасці з іх радам і пад'ёмам, то атрымаецца фігура, якая вельмі блізкая да трохвугольніка (табл. 1.1).

Як відаць, [е] ў ізаляваным вымаўленні і ў пачатку слова — значна менш пярэдні галосны, чым [і], а адлегласць па пад'ёму паміж [е] і [а] большая, чым паміж [е] і [і]. Галосныя [о] і [у] супадаюць па раду, а [а] значна больш пярэдняга ўтварэння. Па пад'ёму [о] і [у] адрозніваюцца больш, чым [о] і [а].

Класіфікацыя галосных гукаў у іншых фанетычных становішчах будзе такой жа, але з адпаведным зрухам усёй сістэмы ў залежнасці ад характару папярэдніх зычных. Калі папярэднi зычны цвёрды, то зрух гэты будзе вельмі нязначны, але трэба ўлічваць, што замест [і] ў пачатку слоў будзе гук [ы]. Па раду ён значна ссунуты і ў пачатковай фазе артыкуляцыі адносіцца да галосных сярэдняга рада, у той час як у канцавой фазе супадае па раду з галосным [і]. Калі папярэднія зычны мяккі, то ўсе галосныя ў пачатковай фазе артыкуляцыі па раду і пад'ёму супадаюць з галосным [і], а ў цэнтральнай фазе становяцца некалькі больш пярэднімі і больш высокімі па пад'ёму. Такім чынам, уся класіфікацыйная фігура ссоўваецца ўлева і ўверх. Пры гэтым суадносіны паміж галоснымі ў асноўным захоўваюцца ранейшыя.

Табліца 1.1. **Артыкуляцыйна-фізіялагічная класіфікацыя галосных**

| Пад'ём | Рад | | |
|---|---|---|---|
| | пярэдні | сярэдні | задні |
| Верхні | і | | у |
| Сярэдні | е | ■ | о |
| Ніжні | | а | |

## § 1.6. АРТЫКУЛЯЦЫІ ГУБНЫХ ЗЫЧНЫХ ГУКАЎ

Да губных зычных адносяцца гукі, крыніца ўтварэння якіх узнікае дзякуючы актыўнаму дзеянню губ. У залежнасці ад таго, змыкаюцца губы цалкам ці ўтвараюць вузкую шчыліну, губныя зычныя могуць быць змычнымі або шчылiннымі. Усе змычныя ([п], [п'], [б], [б'], [м], [м']) з'яўляюцца губна-губнымі. Шчылінныя [в], [в'], [ў], [ф], [ф'] з'яўляюцца губна-губнымі або губна-зубнымі — у залежнасці ад таго,

паміж якімі органамі ўтвараецца шчыліна.

Пры артыкуляцыі глухога зычнага [п] і звонкага [б] моцна змыкаюцца абедзве губы. У час змычкі язык сваёй задняй часткай злёгку падымаецца ў напрамку да мяккага паднябення. Кончык языка далёка



Рыс. 17. Артыкуляцыя [п] і [б] у момант змычкі. Зверху — здымак губ анфас і ў профіль, у сярэдзіне — рэнтгенаграма і палатаграма, унізе — лінгваграма

адцягваецца ад пярэдніх зубоў унутр ротавай поласці. Мяккае паднябенне закрывае праход у поласць носа (рыс. 17).

Размыканне губ адбываецца рэзка, што і абумоўлівае ўзнікненне выбуху. У час змычкі пры вымаўленні [б] гук утвараецца галасавымі звязкамі, але вылучацца ён можа толькі праз мяккія і косныя тканкі, бо ротавая і насавая поласці цалкам перакрыты. Пры вымаўленні [п] галасавыя звязкі не працуюць. У сувязі з гэтым павялічаны ціск ствараецца ў поласцях глоткі і рота. У час змычкі пры вымаўленні [б] размеркаванне ціску паветра іншае. Збыткоўны ціск павінен стварацца ніжэй галасавых звязак, каб прывесці іх у рух, і толькі затым ён ствараецца ў поласцях глоткі і рота.



Рыс. 18. Артыкуляцыя [п'] і [б'] у момант змычкі. Зверху — рэнтгенаграма, унізе — палатаграма і лінгваграма

Паколькі з цягам часу на змычцы ціск выроўніваецца з ціскам пад галасавымі звязкамі, эфектыўнасць іх дзеяння зніжаецца. У выніку назіраецца паніжэнне частаты асноўнага тону і змяншэнне амплітуды ў напрамку да выбуху. Паколькі пры вымаўленні [п] ствараецца большы ціск, чым пры [б], выбух больш моцны ў [п].

Гукі [п'] і [б'] з'яўляюцца парнымі мяккімі з [п], [б]. Іх язычная артыкуляцыя значна адрозніваецца ад артыкуляцыі [п] і [б] (рыс. 18). Пры змыканні губ язык не адцягваецца назад, як у час вымаўлення [п], [б], а наадварот, пасоўваецца наперад. К канцу змычкі ён звычайна займае становішча, якое характэрна для артыкуляцыі галоснага [і] (некалькі не дасягаецца толькі вышыня пад'ёму), незалежна ад таго, які галосны ідзе за гэтымі гукамі. Пас-

-ля размыкання губ язык некаторы час працягвае захоўваць [і]-падобнае становішча, а затым паступова пераходзіць да становішча, характэрнага для артыкуляцыі адпаведнага галоснага. Пры вымаўленні [п'], [б'] ніжняя сківіца больш апушчана, чым пры [п], [б], а губы больш моцна сціснуты. У выніку гэтых артыкуляцый ствараецца спецыфічны слыхавы эфект, які называецца мяккасцю.

Парнымі па цвёрдасці-мяккасці з'яўляюцца гукі [м] і [м']. Па характару работы губ і языка яны аналагічныя [б], [б'] і [п], [п'] (рыс. 19). Адрозненне заключаецца ў тым, што пры іх утварэнні мяккае паднябенне апушчана, у выніку ў час змычкі праход у поласць носа аказваецца адкрытым і гукавая хваля, узнікшая ў выніку работы галасавых звязак, вылучаецца праз нос. Насавая поласць надае гэтым гукам спецыфічную гукавую афарбоўку. К канцу змычкі язык звычайна займае становішча, характэрнае для наступнага галоснага пры вымаўленні [м], і [і]-падобнае становішча пры вымаўленні [м'].

Пры вымаўленні гукаў [в] і [ф] (рыс. 20) ніжняя губа ўнутраным бокам змыкаецца з верхнімі зубамі





Рыс. 19. Артыкуляцыя гукаў [м] і [м']. Левы рад — артыкуляцыя [м], правы — артыкуляцыя [м']. Зверху — становішча губ у профіль і анфас; ніжэй — рэнтгенаграмы, затым — палатаграмы, унізе — лінгваграмы





Рыс. 20. Артыкуляцыя гукаў [ф] і [в]. Зверху — становішча губ анфас і ў профіль, у сярэдзіне — рэнтгенаграма, унізе — палатаграма і лінгваграма



Рыс. 21. Здымкі губных артыкуляцый [в]: першы рад — перад галосным [у], другі рад —

па краях, а спераду паміж ёю і двума пярэднімі цэнтральнымі зубамі застаецца шчыліна. Верхняя губа пры гэтым нейтральная. Язык, як і пры артыкуляцыі іншых губных цвёрдых, адцягваецца ад зубоў у глыбіню ротавай поласці і прыкметна прыўзнімаецца ў напрамку да мяккага паднябення.

У канцавой фазе артыкуляцыі гэтых гукаў становішча языка вызначаецца характарам наступных гукаў: у выпадку, калі за імі ідзе галосны пярэдняга рада, язык прасоўваецца ў пярэднюю частку ротавай поласці; калі ж наступны галосны задняга рада, то язык займае становішча, характэрнае для гэтага галоснага. Мяккае паднябенне заўсёды закрывае праход у поласць но-



перад галосным [о], трэці рад — перад галосным [а], чацвёрты рад — перад галосным [е]

са. Гук [в] утвараецца з удзелам галасавых звязак і з'яўляецца звонкім. У артыкуляцыі [ф] галасавыя звязкі ўдзелу не прымаюць — гэта глухі звук.

Апісаная артыкуляцыя [ф] з'яўляецца тыповай для гэтага гука ў любым становішчы незалежна ад таго, які галосны або зычны гук за ім ідзе. Што да [в], дык ступень выражанасці губна-зубной артыкуляцыі ў яго розная перад рознымі галоснымі. Залежыць яна таксама і ад былой дыялектнай прыналежнасці носьбітаў літаратурнай мовы. Найбольш ярка выражана яна перад галоснымі [ы] і [е], менш выразная перад галосным [а], яшчэ менш вы-

разная перад [о] і амаль зусім не выражана перад [у] (рыс. 21), дзе гук [в] практычна не адрозніваецца ад губна-губнога [ў]. Такая артыкуляцыя [в] асабліва характэрна ў тых выпадках, калі ён з'яўляецца прыстаўным. Найбольш характэрнымі пазіцыямі, у якіх сустракаецца

кай спінкі языка. Утвораны такім чынам гук на слых недастаткова выразна адрозніваецца як ад губна-зубнога [в], хоць апошні па-іншаму артыкулюецца, так і ад галоснага [у], ад якога ён адрозніваецца больш вузкім праходам для паветра не толькі паміж губамі, але і ў рота-







Рыс. 22. Артыкуляцыя гука [ў]. Зверху — становішча губ, у сярэдзіне — рэнтгенаграма, унізе — палатаграма і лінгваграма







Рыс. 23. Артыкуляцыя гукаў [ф'], [в']. Зверху — становішча губ, у сярэдзіне — рэнтгенаграма, унізе — палатаграма і лінгваграма

[ў], з'яўляецца становішча пасля галосных перад зычнымі або перад паўзай. Губы пры яго ўтварэнні выцягваюцца ўперад, утвараючы вузкую шчыліну для выхаду паветранай плыні, як і пры артыкуляцыі галоснага [у] (параўн. рыс. 22 і 14). Язык адцягнуты назад і падняты ўверх значна больш, чым пры вымаўленні [у]. У выніку ўтвараюцца дзве шчыліны: паміж губамі і паміж мяккім паднябеннем і задняй част-

вай поласці. Марфалагічна і гістарычна ён адпавядае гукам [у], [в] і [в']. У пэўных выпадках у беларускай мове [ў] узнік з [л]. Працэс гэтага пераходу не ахапіў усю лексіку ў сучаснай мове, таму ў адной і той жа пазіцыі можна сустрэць як [ў], так і [л]: *браў, воўк, шоўк, тоўсты, поўны, быў, стаў,* але *колкі, палка, валкі* (мн. л. ад *валок*), *стол, вол, толк* і г. д. У сувязі з тым што гэты гук утвараецца з удзелам галасавых звязак, артыкуляцыйна ён

з'яўляецца звонкім, хоць у беларускай мове і няма яму глухога адпаведніка.

Зычныя гукі [в'] і [ф'] артыкулююцца шляхам утварэння вузкай шчыліны паміж ніжняй губой і верхнімі зубамі. Губна-зубная артыкуляцыя выражана ў іх дастаткова ярка ва ўсіх выпадках ужывання. Ніжняя губа ўнутраным бокам заўсёды актыўна змыкаецца краямі з верхнімі зубамі, а верхняя губа прыкметна прыціскаецца да верхніх зубоў і, магчыма, злёгку прыўздымаецца, бо пры артыкуляцыі звычайна відаць пярэднія верхнія зубы. Язык займае дастаткова высокае становішча ў пярэдняй частцы ротавай поласці (рыс. 23). Месца і характар яго пад'ёму, асабліва ў канцавой фазе артыкуляцыі, вельмі блізкія да яго становішча пры вымаўленні галоснага [і]. У выніку гэтага падрыхтоўка да вымаўлення наступнага галоснага звычайна непрыкметна. Становішча языка ў час утварэння [в'] і [ф'] вызначае іх мяккасць. Па артыкуляцыйных характарыстыках яны з'яўляюцца парнымі мяккімі да цвёрдых [в], [ф]. Перад зычнымі мяккія [в'], [ф'] і ў канцы слоў ніколі не бываюць у сувязі з ацвярдзеннем усіх губных у гэтых фанетычных пазіцыях.

## § 1.7. АРТЫКУЛЯЦЫІ ПЯРЭДНЕЯЗЫЧНЫХ ЦВЕРДЫХ ГУКАЎ

Да пярэднеязычных цвёрдых гукаў у беларускай мове адносяцца [д], [т], [з], [с], [дз], [ц], [н], [л], [р].

Пры вымаўленні [д] і [т] губы ўдзелу ў артыкуляцыйнай рабоце не прымаюць і займаюць нейтральнае становішча, за выключэннем тых выпадкаў, калі за [д], [т] ідуць агубленыя галосныя (рыс. 24). Як і пры ўтварэнні іншых змычных зычных, першая фаза вымаўлення [д], [т] уяўляе сабой поўную змычку кончыка языка і яго пярэдніх бакавых краёў з верхнімі зубамі і часткова з альвеоламі. У выніку змычкі паветра збіраецца за ёю, ствараючы павышаны ціск. Праз нос паветра таксама не можа выходзіць, таму што мяккае паднябенне закрывае праход у насавую поласць. Плошча змыкання не вельмі шырокая спераду, а па баках языка яна можа быць больш значная. Задняя частка языка крыху прыўзнята ў напрамку да мяккага паднябення. Пры вымаўленні [д] у самым пачатку змычкі пачынаюць вагацца галасавыя звязкі, а пасля паўзы — нават раней, чым пачынаецца змычка. Пры вымаўленні [т] галасавыя звязкі не вагаюцца наогул. Таму [д] — звонкі зычны, а [т] — адпаведны яму глухі.

Наступная фаза гэтых гукаў заключаецца ў імгненным раскрыцці змычкі. Момант яе раскрыцця выбіраецца па волі гаворачай асобы. Калі ён затрымліваецца ў сярэдзіне слова, узнікае эфект узмоцненага вымаўлення або падоўжанасці гука. Паветра, якое сабралася за перашкодай, хутка рухаецца вонкі, дзе меншы ціск, утвараючы пры гэтым характэрны выбухны шум. Шум выбуху ў [д] слабейшы, чым у [т].

Пры артыкуляцыі [з] і [с] бакавыя краі языка шчыльна прыціснуты да верхніх бакавых зубоў і краёў цвёрдага паднябення, падобна таму, як гэта назіралася пры артыкуляцыі [д] і [т] (рыс. 25). Пярэдняй часткай язык не змыкаецца з верхнімі зубамі, у выніку чаго спераду паміж языком і зубамі ўзнікае круглая шчыліна для праходу паветра. Разбіваючыся аб пярэднія краі зубоў, струмень паветра можа ўтвараць свіст, які ў нязначнай ступені і прысутнічае ў гэтых гуках, таму іх і называюць свісцячымі. Мяккае паднябенне прыўзнята і закрывае праход у поласць носа. Пры ўтварэнні звонкага [з] на шум на-

кладваецца перыядычны гук, які сведчыць, што галасавыя звязкі вагаюцца. У сувязі з гэтым ціск паветра перад шчылінай некалькі меншы, чым пры ўтварэнні [с].

Гукі [з] і [с] па сваёй артыкуляцыі няўстойлівыя, паколькі пры іх вымаўленні існуе магчымасць замены адных рухаў моўных органаў другімі. Таму часта ў розных людзей гэтыя гукі не зусім аднолькавыя. Шчыліна можа ўтварацца не толькі спераду, але і ссоўвацца ўправа або ўлева. Яна можа ўзнікаць паміж кончыкам языка і пярэднімі зубамі або крыху глыбей у ротавай поласці. Кончык языка можа знаходзіцца паміж зубамі пры недастатковай нейтральнасці губ або недастатковай актыўнасці кончыка языка, пры крыху апушчаным мяккім паднябенні і г. д. Часцей за ўсё гэтыя артыкуляцыйныя змены мала прыкметныя на слых, але некаторыя з іх адбіваюцца і на слыхавым уражанні. У апошнім выпадку вымаўленне аказваецца дэфектыўным, і для яго пераадолення неабходна спецыяльная лагапедычная трэніроўка.




Рыс. 24. Артыкуляцыя [т] і [д] у момант змычкі. Зверху — здымкі губ у профіль і анфас, у сярэдзіне — рэнтгенаграма, унізе — палатаграма і лінгваграма




Рыс. 25. Артыкуляцыя гукаў [с] і [з]. Зверху — становішча губ у профіль і анфас, у сярэдзіне — рэнтгенаграма, унізе — палатаграма і лінгваграма

Гукі [дз] і [ц] утвараюцца, як і папярэднія, шляхам змыкання языка з верхнімі зубамі (рыс. 26). У вымаўленні [дз], як і [д], удзельнічаюць галасавыя звязкі. У другой фазе артыкуляцыі гэтых гукаў рух языка зусім не такі, як у [д] і [т]. Язык адрываецца ад зубоў не цалкам, а толькі сваёй пярэдняй часткай. У выніку ўтвараецца шчыліна, якая захоўваецца некаторы час, і

толькі затым язык цалкам адрываецца ад зубоў. Таму ў момант адрыву пярэдняй часткі языка паяўляецца магчымасць для ўтварэння шуму, характэрнага для выбухных (якая не заўсёды рэалізуецца), а затым ствараецца працяжны шум у выніку завіхрэнняў паветра пры яго





Рыс. 26. Артыкуляцыя [ц] і [дз] у момант змычкі. Зверху — становішча губ, у сярэдзіне — рэнтгенаграма, унізе — палатаграма і лінгваграма

выхадзе з вузкай шчыліны. Уся другая фаза артыкуляцыі характарызуецца ўзнікненнем такога шуму, для якога ўласцівы рэзкі пачатак. Гукі падобнага ўтварэння называюцца змычна-шчылiннымі. У літаратуры час ад часу яшчэ сустракаецца сцверджанне, што яны з'яўляюцца складанымі: [дз] складаецца з [д] і [з], [ц] — з [т] і [с]. Аднак ужо з апісання артыкуляцыі вынікае, што гэта своеасаблівыя простыя гукі, як і ўсе іншыя. На акустычным узроўні адзінства гэтых гукаў яшчэ больш відавочнае, што будзе паказана ніжэй. Трэба толькі адзначыць, што [дз] — вельмі рэдкі гук у беларускіх словах (*дзынкаць, дзвынкаць, дзылінкаць*), не шмат і запа-





Рыс. 27. Артыкуляцыя [н] (злева) і [н'] (справа). Зверху — рэнтгенаграмы, у сярэдзіне — палатаграмы, унізе — лінгваграмы

зычаных* слоў з ім (тыпу *нэндза, пэндзаль, ксяндза* і г. д.). Значна больш часта сустракаецца [ц]: *палец, на руцэ, цадзіць* і г. д. Паколькі ў другой фазе артыкуляцыі [дз] і [ц] органы мовы займаюць такое ж становішча, як і пры вымаўленні [з], [с], яны адносяцца да свісцячых.

Гук [н] утвараецца пры апушчаным мяккім паднябенні, у выніку чаго паветраная плынь свабодна праходзіць у поласць носа. Выхад яе з ротавай поласці немагчымы ў выніку ўтварэння змычкі кончыка языка з пярэднімі зубамі, а яго краёў — з бакавымі, як гэта назіраецца

пры ўтварэнні [д]. Пярэдняя частка языка ў момант утварэння змычкі падымаецца ў напрамку да верхніх зубоў і альвеол, сярэдняя злёгку прагінаецца, а задняя нязначна падымаецца ў напрамку да мяккага паднябення (рыс. 27). К моманту размыкання язык звычайна недастаткова падрыхтаваны да пазіцыі, якую ён павінен займаць пры вымаўленні наступнага галоснага. Само размыканне звычайна не суправаджаецца паяўленнем шуму ад выбуху, як гэта назіраецца пры вымаўленні [д] або [т], што звязана з недастатковым ціскам за змычкай, які не можа павысіцца з-за праходу паветра ў нос. Гук утвараецца галасавымі звязкамі, затым змяняецца пад уплывам ротавай і галоўным чынам насавой поласцей.

Утварэнне гука [л] таксама звязана з утварэннем змычкі языка з зубамі (рыс. 28). Кончык языка прыўзняты і прыціснуты да верхніх пярэдніх зубоў. Краі языка толькі спераду прыціснуты да зубоў, а паміж карэннымі зубамі і языком з абодвух бакоў застаюцца шчыліны значнай велічыні, праз якія і праходзіць паветра ў час вымаўлення. У выніку малой скорасці паветра шум у гэтых шчылінах практычна





Рыс. 28. Артыкуляцыя [л] (злева) і [л'] (справа). Зверху — становішча губ, ніжэй — рэнтгенаграмы, затым — палатаграмы, унізе — лінгваграмы





Рыс. 29. Артыкуляцыя гука [р]. Зверху — становішча губ у профіль і анфас, у сярэдзіне — рэнтгенаграма, унізе — палатаграма і лінгваграма

не ўзнікае, а крыніцай гука з'яўляюцца галасавыя звязкі. Паколькі праход у насавую поласць закрыты мяккім паднябеннем, гук галасавых звязак мадыфікуецца толькі пад уздзеяннем формы ротавай поласці. Як і пры вымаўленні [н], з-за малога ціску паветра за перашкодай у момант размыкання органаў мовы не можа ўзнікнуць і прыкметнага гука ад выбуху. Затое адразу ж за размыканнем рэзка павялічваецца праход для гукавой хвалі, таму і рэзка павялічваецца гучнасць наступнага галоснага, а калі наступным з'яўляецца зычны гук, то рэзкага абрыву гучання бывае дастаткова для пазнавання на слых [л]. Вельмі істотна для вымаўлення гэтага гука нейтральнае становішча губ. Калі губы акругляюцца, то гэты гук аказваецца лабіялізаваным і гучыць, як у польскай мове *ł*.

Зычны гук [р] адносіцца да дрыжачых гукаў. Пры яго артыкуляцыі (рыс. 29) кончык языка падымаецца вышэй узроўню верхніх зубоў, злёгку выцягваецца ў напрамку альвеол або нават да заальвеалярнай зоны. Задняя частка языка крыху прыўзнята ў напрамку да мяккага паднябення, якое закрывае праход у поласць носа. Гук утвараецца ў выніку ваганняў галасавых звязак. У той жа час кончык языка таксама робіць вагальныя рухі, то зблiжаючыся з паднябеннем, то аддаляючыся ад яго. У некаторых выпадках язык можа нават дакранацца да паднябення, перашкаджаючы такім чынам на імгненне руху гукавой хвалі. У выніку на працягу артыкуляцыі [р] змяняецца сіла гучання. У момант, калі кончык языка знаходзіцца на большай адлегласці ад паднябення, атрымліваецца такі ж моцны гук, як у суседніх галосных. Пры набліжэнні яго да паднябення гук слабее. Па амплітудзе ён звычайна такі ж, як на змычцы ў звонкіх зычных. Чаргаванне больш моцнага гука са слабым і ўспрымаецца як дрыжанне. Звычайна пры вымаўленні [р] назіраецца адзін слабы ўчастак, але пры падкрэслена моцным вымаўленні іх можа быць да трох.

## § 1.8. АРТЫКУЛЯЦЫІ ШЫПЯЧЫХ ЗЫЧНЫХ ГУКАЎ

Пярэдняя частка языка прымае актыўны ўдзел і ва ўтварэнні зычных [ж], [ш], [дж], [ч]. Аднак адносна цвёрдага паднябення месца іх артыкуляцыі значна далей ссунута ў ротавую поласць. Ёсць і іншыя асаблівасці, якія будуць паказаны ніжэй і якія вымушаюць вылучыць іх у асобную групу.

Шум пры ўтварэнні [ш] і [ж] узнікае ў шчыліне паміж пярэдняй часткай языка і паднябеннем. Шчыліна ствараецца ў выніку таго, што бакавыя краі языка шчыльна змыкаюцца з верхнімі карэннымі зубамі і прылягаючымі да іх участкамі паднябення, а пасярэдзіне языка ўзнікае прагіб і кончык языка знаходзіцца на некаторай адлегласці ад альвеол. Самае вузкае месца шчыліны, такім чынам, аказваецца ў заальвеалярнай зоне (рыс. 30). Па свайму характару шчыліна ў гарызантальнай плоскасці шырокая і ссунута значна далей у глыбіню ротавай поласці, чым пры артыкуляцыі зычных [с] і [з]. У сувязі з гэтым іх называюць плоскашчылiннымі (у адрозненне ад круглашчылінных [с], [з]). Шум, які ўтвараецца ў такой шчыліне, нагадвае шыпенне — гэта шыпячыя гукі.

Язык пры іх артыкуляцыі ў пярэдняй частцы прыўзняты, сярэдзіна яго апушчана, а ў задняй частцы ён дастаткова высока прыўзняты да мяккага паднябення, у выніку чаго паміж мяккім паднябеннем, якое шчыльна закрывае праход у поласць носа, і задняй спінкай языка таксама ўзнікае вузкі праход. Аднак у ім наўрад ці ўтвараецца шум (параўн.

утварэнне заднеязычнага [х], рыс. 37). Тым не менш гэта дало падставу раду фанетыстаў называць іх двухфокуснымі (як быццам у іх два месцы ўтварэння шуму, два фокусы).

Артыкуляцыя [ж] адрозніваецца ад артыкуляцыі [ш] тым, што





Рыс. 30. Артыкуляцыя гукаў [ш] і [ж]. Зверху — становішча губ анфас і ў профіль, у сярэдзіне — рэнтгенаграма, унізе — палатаграма і лінгваграма

тут адначасова з утварэннем шуму вагаюцца галасавыя звязкі, якія мадулююць гэты шум. У выніку шум атрымліваецца менш інтэнсіўным, чым у [ш]. Вельмі характэрнае становішча займаюць губы пры вымаўленні гэтых гукаў (рыс. 30), што разам з пад'ёмам задняй часткі языка паніжае іх агульную танальнасць і стварае ўражанне асаблівай цвёрдасці.

Зычныя гукі [ч] і [дж] адносяцца да афрыкат. Яны характарызуюцца наяўнасцю поўнай змычкі языка з заальвеалярнай зонай цвёрдага паднябення (рыс. 31) якраз у тым месцы, дзе пры вымаўленні [ш],





Рыс. 31. Артыкуляцыя [ч] і [дж] у момант змычкі. Зверху — становішча губ анфас і ў профіль, у сярэдзіне — рэнтгенаграма, унізе — палатаграма і лінгваграма

[ж] утвараецца шчыліна. Язык сваім кончыкам і пярэдняй часткай спінкі змыкаецца з цвёрдым паднябеннем за альвеоламі, або зрэдку пярэдні край змычкі можа праходзіць і па альвеолах, не закранаючы, аднак, зубоў. Плошча змыкання спераду дастаткова вузкая. У фазе змычкі гук узнікае толькі пры артыкуляцыі [дж] дзякуючы ваганням галасавых звязак.

Размыканне адбываецца, як і ў

іншых афрыкат, такім чынам, што адрываецца толькі пярэдняя частка языка. Бакавыя яго краі застаюцца самкнутымі. У выніку і ўзнікае шчыліна, якая цалкам супадае са шчылінай пры ўтварэнні [ш] і [ж]. Пры гэтым і ўсе астатнія органы маўлення займаюць такое ж становішча, якое характэрна для артыкуляцыі [ш] і [ж] (параўн. рыс. 30).

## § 1.9. АРТЫКУЛЯЦЫЯ СЯРЭДНЕЯЗЫЧНАГА ГУКА [й]

Гук [й] у беларускай мове існуе ў двух варыянтах, якія адпавядаюць дзвюм асноўным фанетычным пазіцыям, у якіх ён ужываецца: перад галосным і пасля галосных перад зычнымі і перад паўзай. У першай пазіцыі — гэта тыповы зычны шчылінны гук. У другой пазіцыі ён выступае як паўгалосны, або нескладовы галосны, як яго часта называюць. Гэтыя два варыянты адрозніваюцца характарам утварэння шчыліны, а значыць, і работай моўных органаў.

Пры вымаўленні [й] перад галоснымі (рыс. 32) краі спінкі языка прыціскаюцца да паднябення і да карэнных зубоў. Плошча прыціскання вельмі вялікая. Язык у гэты час высока падняты, кончык яго прыспушчаны і знаходзіцца каля ніжніх дзёснаў. Паміж паднябеннем і языком утвараецца вельмі вузкая і доўгая шчыліна. Найбольшае звужэнне прыпадае на заднюю частку цвёрдага паднябення. Праход у поласць носа закрыты мяккім паднябеннем. Гук утвараецца ваганнем галасавых звязак, губы пры гэтым пасіўныя. Паколькі шчыліна вельмі вузкая, у ёй могуць узнікаць завіхрэнні паветранай плыні, што і прыводзіць да ўзнікнення слабага шуму, але ён не заўсёды ярка выражаны, а ў некаторых выпадках і зусім адсутнічае. У пачатковай фазе артыкуляцыі гукавая хваля не вельмі моцная — яна значна слабейшая, чым у наступнага галоснага. Паступова гук узмацняецца, ператвараючыся ў галосны [і] ў выніку памяншэння пад'ёму языка пры пераходзе да наступнага галоснага. Таму якой-небудзь прыкметнай мяжы паміж [й] і наступным галосным звычайна не існуе. Магчыма, гэта зрабіла ўплыў на першастваральнікаў кірыліцы, калі яны прыдумалі спецыяльныя ётаваныя літары для спалучэнняў «й + галосны»: *я, е, ю.*





Рыс. 32. Артыкуляцыя гука [й]. Зверху — становішча губ у профіль і анфас. У левым радзе — артыкуляцыя [й] пасля галосных, у правым — артыкуляцыя [й] перад галоснымі

Варыянт [й] пасля галосных перад зычнымі і перад паўзай (рыс. 32) характарызуецца значна большай велічынёй шчыліны паміж паднябеннем і языком. Зона сутыкнення языка з паднябеннем меншая і ссунута ўперад. Язык падымаецца да цвёрдага паднябення значна менш, чым пры артыкуляцыі гэтага гука ў становішчы перад галоснымі. Месца ўтварэння шчыліны супадае з месцам найбольшага пад'ёму языка пры вымаўленні галоснага [і]. Розніца паміж імі толькі ў ступені пад'ёму языка. Паколькі праход для гукавой хвалі, якая ўзнікае ў выніку ваганняў галасавых звязак, дастаткова шырокі, гэты гук не мае шумавых складаючых. Адразу пасля артыкуляцыі галоснага сіла [й] такая ж, як і гэтага галоснага. К канцу гучання яна моцна спадае перад зычнымі і паступова змяншаецца да поўнага знікнення. Таму гэты гук (як і [ў]) часта называюць глайдам (ад англ. glide «плаўны рух», «слізганне»). Яго называюць часам і [і] кароткім, што не адлюстроўвае яго фанетычных якасцей. Хутчэй за ўсё гэта назва звязана з літарай *й* (старое рус. выражэнне *Поставить кратку над и*).

## § 1.10. АРТЫКУЛЯЦЫІ ЗАДНЕЯЗЫЧНЫХ ЗЫЧНЫХ ГУКАЎ

Да заднеязычных у беларускай мове адносяцца гукі [к] [х], [г], [г] змычны.

Пры вымаўленні [к] задняя частка спінкі языка шчыльна змыкаецца з мяккім паднябеннем, якое паднята і закрывае праход у поласць носа (рыс. 33). Паколькі задняя частка языка менш рухомая, чым пярэдняя, утвараецца дастаткова вялікая плошча змыкання. Кончык языка ў гэты час адцягнуты ад пярэдніх зубоў, і ўся маса языка знаходзіцца ў задняй частцы ротавай поласці. Галасавыя звязкі не вагаюцца. Размыканне адбываецца не так хутка, як пры ўтварэнні пярэднеязычных змычных, у сувязі з большай масай языка, якая змыкаецца з паднябеннем. Тым не менш атрымліваецца гук ад выбуху, хоць і некалькі даўжэйшы, чым у астатніх выбухных. Паколькі губы пры вымаўленні [к] нейтральныя, выхад для гукавой хвалі адкрыты.

Аналагічна артыкулюецца і адпаведнік [к] — змычны звонкі [g], які сустракаецца ў невялікай колькасці слоў, запазычаных з польскай і літоўскай моў, а таксама ўзнікае ў выніку асіміляцыі [к] па звонкасці: *вакзал* [bagзал], *пакгауз* [пagгауз] і г. д. Яго адрозненне ў вымаўленні ад [к] заключаецца ў тым, што з самага пачатку змычкі пачынаюць вагацца галасавыя звязкі, ствараючы перыядычную гукавую хвалю, якая праходзіць у гэты час праз косныя і мяккія тканкі. Звязкі працягваюць вагацца і ў час размыкання, у выніку чаго выбух больш слабы, чым у [к], і мадуляваны частатой асноўнага тону голасу.

Толькі ўдзелам у артыкуляцыі галасавых звязак адрозніваецца ў беларускай мове шчылінны гук [г] ад шчыліннага [х]. У астатнім пры іх вымаўленні органы мовы займаюць аднолькавае становішча. Шчыліна ўтвараецца паміж задняй часткай спінкі языка і мяккім паднябеннем (рыс. 34). З бакоў спінка языка змыкаецца з краямі мяккага паднябення і заднімі часткамі цвёрдага паднябення. Язык усёй масай адцягнуты ад пярэдніх зубоў у глыбіню ротавай поласці, яго задняя частка высока ўзнята ў напрамку да мяккага паднябення. Толькі самая сярэдзіна языка не змыкаецца з паднябеннем, дзякуючы чаму і ўзнікае шчыліна. Праз яе паветраны струмень рухаецца ў пярэднюю частку ротавай поласці, утвараючы пры гэтым характэрны не вельмі моцны шум, які пры вымаўленні [г] мадулюецца частатой асноўнага тону.



Рыс. 33. Артыкуляцыя [к] і [к'] у момант змычкі. Становішча губ анфас і ў профіль, у сярэдзіне справа — рэнтгенаграма [к], злева — рэнтгенаграма [к'], унізе — палатаграма; штрыхоўкай паказана зона датыкання языка для [к], пункцірнай лініяй — для [к']





Рыс. 34. Артыкуляцыя гукаў [г] і [х]. Зверху — рэнтгенаграма, знізу — палатаграма і лінгваграма

У некаторых прадстаўнікоў беларускай мовы [г] мае іншую артыкуляцыю, асабліва перад галосным [а]. Шчыліна ўтвараецца не ў ротавай поласці, а ў поласці глоткі ў выніку збліжэння кораня языка з задняй сценкай глоткі. Гэта так званы фарынгальны [h]. Аднак ступень яго распаўсюджанасці як у літаратурнай мове, так і ў дыялектах вывучана недастаткова. Адной з прычын гэтага з'яўляецца цяжкасць адрознення на слых заднепаднябеннага і фарынгальнага [h]. У сваю чаргу гэта цяжкасць слыхавой дыферэнцыяцыі забяспечвае нармальнае ўспрыманне мовы, незалежна ад таго, які варыянт гэтага гука ўжывае той або іншы носьбіт мовы.

## § 1.11. АРТЫКУЛЯЦЫІ МЯККІХ ЗЫЧНЫХ ГУКАЎ

Да гэтага часу асноўная ўвага ўдзялялася тым артыкуляцыям зычных, якія забяспечваюць стварэнне ўмоў, пры якіх узнікае шум або выбух. Яны ствараюць акустычны воблік зычных, дзякуючы якому кожны з іх застаецца ва ўспрыманні самім сабою, нягледзячы на тое, што папярэднія або наступныя гукі могуць іх пэўным чынам відазмяняць. Напрыклад, [с] перад [у] агубляецца. Хоць губы непасрэднага ўдзелу ў артыкуляцыі [с] не прымаюць, але ўжо ідзе падрыхтоўка для вымаўлення наступнага [у], калі яшчэ ўтвараецца [с]. Гэта агубленасць не перашкаджае ўспрымаць [с], і яго асноўныя ўласцівасці захоўваюцца. Незалежна ад папярэдніх і наступных гукаў пры вымаўленні цвёрдых пярэднеязычных зычных, асабліва шыпячых, крыху падымаецца ў напрамку да мяккага паднябення задняя частка языка, хоць

шум утвараецца толькі ад узаемадзеяння кончыка языка з зубамі або цвёрдым паднябеннем. Гэта выклікае частотнае паніжэнне шуму зычных, што ўзмацняе, падкрэслівае іх цвёрдасць. Такая з'ява называецца велярызацыяй. Фактычна, за выключэннем [й] і заднеязычных, пры вымаўленні якіх пад'ём задняй часткі языка да мяккага паднябення абумоўлівае характар іх шуму, усе астатнія цвёрдыя зычныя з'яўляюцца велярызаванымі.

З дадатковых артыкуляцый у беларускай мове найбольш істотнае значэнне мае палаталізацыя, у выніку якой утвараюцца мяккія гукі. Палаталізацыя заключаецца ў тым, што побач з асноўнымі артыкуляцыямі, у выніку якіх утвараецца або можа ўтварацца шум, дадаткова падымаецца сярэдняя частка языка, у сувязі з чым рэзка змяняецца форма рэзанатараў ротавай поласці, асабліва ў час экскурсіі. Зразумела, што палаталізавацца не можа толькі [й], паколькі яго асноўная артыкуляцыя звязана з пад'ёмам сярэдняй часткі языка. Відавочна, што высокі пад'ём языка напачатку не робіць гэтыя гукі аднолькавымі ў час вытрымкі, хоць і на гэтай фазе ў іх назіраюцца прыкметныя змены. У адрозненне ад мяккіх губных [б'], [п'], [м'], [в'], [ф'] язычныя мяккія вылучаюцца не толькі становішчам языка адносна паднябення, але ў радзе выпадкаў набываюць і іншыя спецыфічныя прыкметы, не ўласцівыя адпаведным цвёрдым.

Зычныя [дз'], [ц'] у беларускай мове з'яўляюцца парнымі па мяккасці з гукамі [д], [т]. Аднак вымаўленне [дз'] [ц'] складае адну з адметных рыс фанетычнай сістэмы беларускай мовы, атрымаўшую назву дзекання і цекання. Гэту рысу даследчыкі беларускай мовы ўсвядомілі вельмі даўно, і яна замацавана ў сучаснай графіцы: мяккія [дз'] і [ц'] на пісьме перадаюцца адпаведна дыграфам *дз* і літарай *ц*. У дакастрычніцкі перыяд тыя пісьменнікі, якія карысталіся лацінскім алфавітам, ужывалі для іх абазначэння літары dź і ć, як у польскай графіцы, што сведчыць аб іх збліжэнні з адпаведнымі гукамі польскай мовы і аб адрозненні ад адпаведных гукаў рускай і ўкраінскай моў, да якіх беларуская мова найбольш блізкая.

З пункту погляду спосабу ўтварэння [дз'] і [ц'] у беларускай мове з'яўляюцца змычна-шчылінымі. Пры іх вымаўленні ўзнікае змычка паміж краямі языка і цвёрдым паднябеннем, што перашкаджае руху паветранай плыні з ротавай поласці, затым наступае хуткае размыканне і ўтварэнне шчыліны, якая існуе некаторы час, перш чым органы мовы пяройдуць да артыкуляцыі





Рыс. 35. Артыкуляцыя гукаў [ц'] і [дз']. Зверху — становішча губ анфас і ў профіль, у сярэдзіне — рэнтгенаграма, ніжэй — палатаграма і лінгваграма, унізе — адантаграма

наступнага гука (рыс. 35). Пры гэтым з бакоў язык прыціскаецца да карэнных зубоў і разцоў, а таксама да краёў паднябення такім чынам, што плошча змыкання аказваецца істотна большай, чым пры ўтварэнні [д] і [т]. Спераду таксама ўзнікае дастаткова вялікая зона змыкання. Кончык языка часцей за ўсё апушчаны і сляды яго можна бачыць на ніжнім паднябенні. Зона змычкі спераду ніколі не захоплівае зубы, а цалкам прыходзіцца на паднябенне. У некаторых выпадках спераду поўная змычка не ўзнікае, але шчыліны настолькі малыя, што шум не ўтвараецца. Праход у насавую поласць шчыльна закрыты прыўзнятым мяккім паднябеннем. Пры вымаўленні глухога [ц'] у час змычкі не ўтвараецца ніякага гука, а пры вымаўленні звонкага [дз'] гук узнікае дзякуючы ваганням галасавых звязак. Але паколькі ён можа выйсці толькі праз мяккія і косныя тканкі, то ён слабы, як і ў звонкага выбухнога [д].

У час размыкання толькі пярэдняя частка языка адрываецца ад паднябення, а з бакоў змычка захоўваецца. Сярэдзіна языка некалькі прагінаецца, у выніку чаго паміж паднябеннем і спінкай языка ўтвараецца шчыліна, якая і захоўваецца пэўны час. Па форме гэта шчыліна як бы прамежкавая паміж тымі, якія назіраюцца пры ўтварэнні [з], [с] і [ж], [ш]. Гэта азначае, што яна не зусім круглая, але і не такая плоская, як у [ж], [ш], аднак усё ж бліжэй да апошняй. Такая яе прамежкавая форма ўзнікае таму, што месца яе ўтварэння аддалена ад пярэдніх зубоў і знаходзіцца ў заальвеалярнай зоне. У сувязі з гэтым і шум сумяшчае ў сабе не толькі свісцячасць, але і шыпячасць. Таму [дз'] і [ц'] часта нагадваюць па гучанні адпаведныя польскія гукі, месца ўтварэння якіх ссунута яшчэ далей. У польскай мове [дз'], [ц'] характарызуюцца пераважаннем шыпячага шуму, у той час як у беларускай пераважае свісцячы шум. Іх называюць шапяляватымі, калі шыпячы шум выразны (як у некаторых паўночна-ўсходніх гаворках).

Да шапяляватых адносяцца таксама і мяккія [с'], [з'] (рыс. 36). Шчыліна пры іх артыкуляцыі таксама ўтвараецца ў заальвеалярнай (прэпалатальнай) зоне паміж спінкай языка і паднябеннем. Бакі языка прыціскаюцца толькі да крайніх карэнных зубоў і паднябення, а кончык языка знаходзіцца ў гэты час каля ніжніх зубоў. Сама шчыліна шырэй, чым у час вымаўлення [с], [з], нягледзячы на тое, што плошча змыкання языка з паднябеннем





Рыс. 36. Артыкуляцыя гукаў [с'] і [з']. Зверху — становішча губ, ніжэй — рэнтгенаграма, затым — палатаграма і лінгваграма, унізе — адантаграма

значна большая. Павелічэнне шчыліны дасягаецца за кошт таго, што месца яе ўтварэння ссунута ў глыбіню, дзе шырыня ротавай поласці большая, чым спераду. Язык займае вельмі высокае становішча, блізкае да яго становішча пры вымаўленні галоснага [і]. Больш плоская шчыліна, зрух месца артыкуляцыі і высокае становішча языка ствараюць уражанне большай мяккасці гэтых гукаў, чым адпаведных гукаў рускай мовы.

Істотна адрозніваецца і артыкуляцыя мяккага [н'] ад артыкуляцыі цвёрдага [н] (рыс. 27). Перш за ўсё ў момант змычкі кончык языка апушчаны і звычайна не датыкаецца да пярэдніх зубоў і паднябення. Змычка ўтвараецца пярэдняй часткай спінкі языка і яго краямі, якія прыціскаюцца да заальвеалярнай зоны цвёрдага паднябення. Гэта азначае, што месца артыкуляцыі ссунута ў заднюю зону. Плошча змыкання значна большая, чым у [н]. Уся пярэдняя частка языка высока паднята ў напрамку да цвёрдага паднябення. Задняя частка далёка адходзіць ад мяккага паднябення, якое апушчана і адкрывае праход у поласць носа. Таму гукавая хваля, утвораная ваганнямі галасавых звязак, змяняецца пад уздзеяннем не толькі ротавага, але і насавога рэзанатара, у выніку чаго, як і [н], гэты гук мае выразнае насавое адценне. Высокае становішча языка забяспечвае яго мяккае гучанне. Такім чынам, мяккі гук [н'] адрозніваецца ад цвёрдага [н] не толькі становішчам языка, але і месцам артыкуляцыі.

Акрамя высокага, [і]-падобнага становішча языка, [л'] не мае істотных адрозненняў у параўнанні з [л] у рабоце іншых органаў артыкуляцыі (рыс. 28). У сувязі з высокім становішчам языка шчыліна паміж карэннымі зубамі і краямі языка адсоўваецца назад. Увесь язык у момант утварэння змычкі пасоўваецца ў пярэднюю частку ротавай поласці, а яго сярэдняя частка замест прагінання (як у час вымаўлення [л]) высока падымаецца ўверх у напрамку да цвёрдага паднябення. У выніку адлегласць ад кораня языка да задняй сценкі глоткі значна павялічваецца. Момант размыкання робіць гучанне [л'] больш акрэсленым.

Мяккія [г'], [g'] змычны, [х'],



Рыс. 37. Артыкуляцыя [х'] (рэнтгенаграма)

[к'] адрозніваюцца ад адпаведных цвёрдых месцам утварэння (рыс. 34, 33, 37). Пры ўтварэнні [г'] і [х'] шчыліна ўтвараецца або на мяжы цвёрдага і мяккага паднябення, або нават насупраць задняй часткі цвёрдага паднябення. Язык пры гэтым моцна прасунуты наперад, што надае ўзнікшаму ў шчыліне шуму [і]-падобную афарбоўку. У сувязі з высокім становішчам языка павялічваецца і плошча яго прыціскання да паднябення. Такім чынам, месца артыкуляцыі шчыліны ў гэтым выпадку не з'яўляецца чыста заднепаднябенным, а набліжаецца да сярэднепаднябеннага.

Такі ж зрух у месцы ўтварэння назіраецца і ў [к'] — парнага мяккага да цвёрдага [к] (рыс. 33). Яго вымаўленне характарызуецца ўтварэннем змычкі ў больш пярэдняй частцы ротавай поласці, звычайна на мяжы цвёрдага і мяккага паднябення або нават у задняй частцы цвёрдага паднябення. Пярэдняя граніца змычкі праходзіць па заальвеалярнай зоне, таму пры размыканні органаў мовы гук ад выбуху яшчэ больш расцягваецца ў часе, чым пры вымаўленні [к]. І ў гэтым сэнсе [к'] бліжэй за ўсе змычныя

гукі па часе гучання набліжаецца да афрыкат.

Заканчваючы разгляд мяккіх зычных, неабходна адзначыць, што ў прынцыпе шыпячыя [ж], [ч], [ш], [дж] могуць мець адпаведныя парныя мяккія. З гісторыі вядома, што раней усе яны былі мяккімі. Але іменна гісторыя беларускай мовы абумовіла тое, што ўсе гэтыя гукі толькі цвёрдыя. Толькі цвёрдым у беларускай мове з'яўляецца і зычны [р].

Гук [й] з'яўляецца заўсёды мяккім. У адрозненне ад іншых мяккіх зычных, пры вымаўленні якіх становішча языка, характэрнае для [і], дапаўняе асноўнае шумаўтваральнае размяшчэнне органаў мовы, для [й] яно абумоўлівае ўтварэнне асноўных слыхавых якасцей. Таму ў адрозненне ад мяккіх палаталізаваных яго называюць мяккім палатальным. Паколькі вельмі блізкімі па месцы і ступені пад'ёму языка да [й] з'яўляюцца і заднеязычныя мяккія, іх таксама некаторыя даследчыкі не без падстаў адносяць да палатальных. Тое ж у поўнай меры адносіцца да мяккага [н'] і ў меншай ступені да [л']. Але больш дакладна гэтыя апошнія гукі называюць не палатальнымі, а прэпалатальнымі.

## § 1.12. АРТЫКУЛЯЦЫЙНА-ФІЗІЯЛАГІЧНАЯ КЛАСІФІКАЦЫЯ ЗЫЧНЫХ ГУКАЎ

Вышэй апісаны 39 зычных гукаў: [б], [б'], [п], [п'], [м], [м'], [в], [в'], [ў], [ф], [ф'], [д], [дз'], [т], [ц'], [з], [з'], [с], [с'], [дз], [ц], [л], [л'], [н], [н'], [р], [ж], [ш], [дж], [ч], [й], [г], [г'] шчылінныя, [х], [х'], [g], [g'] змычныя, [к], [к']. Іх класіфікацыя абапіраецца на тыя фанетычныя рысы, якія абумоўліваюцца крыніцай гука і месцам яго ўзнікнення ў моўным апараце адносна актыўных і пасіўных органаў мовы.

Найбольш буйныя класы зычных выдзяляюцца на аснове ўдзелу ў іх утварэнні шумавой або галасавой крыніцы гука. Зычныя, якія ўтвараюцца шумавой крыніцай, адносяцца да *шумных* зычных. Зычныя, якія ўтвараюцца з дапамогай галасавой крыніцы (перыядычных ваганняў галасавых звязак), адносяцца да *санорных*. Санорнымі ў беларускай мове з'яўляюцца [м], [м'], [ў], [л], [л'], [н], [н'], [р], [й]. Усе астатнія зычныя шумныя.

Шумныя зычныя могуць утварацца з дапамогай толькі шумавой крыніцы гука. Такія зычныя прынята называць *глухімі.* Да іх адносяцца [п], [п'], [ф], [ф'], [т], [ц'], [с], [с'], [ц], [ш], [ч], [х], [х'], [к], [к']. Астатнія шумныя характарызуюцца, акрамя шумавой крыніцы, удзелам у вымаўленні і галасавой крыніцы — галасавых звязак. Іх прынята называць *звонкімі* зычнымі, да якіх у беларускай мове адносяцца: [б], [б'], [в], [в'], [д], [дз'], [з], [з'], [дз], [ж], [дж], [г], [г'] шчылінныя, [g], [g'] змычныя.

Шумавая крыніца гука ўтвараецца ў шчыліне ў выніку завіхрэння паветра або ў выніку размыкання цалкам самкнутых моўных органаў. У сувязі з гэтым усе шумныя зычныя падзяляюцца на шчылінныя, змычныя і змычна-шчылінныя. Да *шчылінных* адносяцца: [в], [в'], [ф], [ф'], [з], [з'], [с], [с'], [ж], [ш], [г], [г'], [х], [х']. Клас *змычных* утвараюць [б], [б'], [п], [п'], [д], [т], [g], [g'], [к], [к']. *Змычна-шчылінных* у беларускай мове 6: [дз'], [ц'], [дз], [ц], [дж], [ч].

Пры такім падзеле да шчылінных фармальна адносяцца таксама санорныя [ў] і [й]. Аднак іх адметнай асаблівасцю ў параўнанні з шумнымі шчыліннымі з'яўляецца тое, што ў шчыліне відавочнага шуму не ўзнікае. Такім жа чынам да змычных адносяцца [м], [м'], [л], [л'], [н], [н'], але і ў іх размыкан-

не не прыводзіць да ўтварэння відавочнага выбуху. Таму санорныя больш мэтазгодна раздзяліць на класы, якія звязаны з тымі артыкуляцыйнымі рысамі, што аказваюць больш істотны ўплыў на якасць гучання. Яны натуральна падзяляюцца на *насавыя* [м], [м'], [н], [н'], *бакавыя* [л], [л'] і *дрыжачы* [р]. У такім выпадку [ў] і [й] стаяць некалькі асобна, што даўно прыкмецілі даследчыкі, часам адносячы іх, як ужо адзначалася, да паўгалосных, або нескладовых галосных. Аднак гэта азначала б наяўнасць прамежкавага класа паміж галоснымі і зычнымі, што супярэчыць лагічным асновам класіфікацыі. Акрамя таго, тэрмін «нескладовыя галосныя» адлюстроўвае функцыянальны бок гэтых гукаў, а не іх артыкуляцыйныя асаблівасці, што не стасуецца з артыкуляцыйна-фізіялагічнай класіфікацыяй. Таму, адносячы іх да санорных на аснове галасавой крыніцы гука, іх лепш вызначыць у адмоўных тэрмінах: ненасавыя, небакавыя, недрыжачыя.

Акрамя крыніцы гука, істотнае значэнне для характарыстыкі шумных зычных мае месца ў моўным апараце, у якім яна ўзнікае. Характэрна, што месца ўтварэння перашкоды для паветранага струменю ў такой жа ступені істотна і для санорных. Хоць у гэтым выпадку тут не ствараецца крыніца шуму, затое перашкодай фарміруецца неабходны аб'ём ротавага рэзанатара, што і вызначае спецыфіку гучання асобных санорных. Таму, паводле актыўных органаў мовы па месцы ўтварэння перашкоды, усе зычныя падзяляюцца на *губныя* (лабіяльныя) (актыўны орган — ніжняя губа) і *язычныя* (дэнтальныя). Да губных адносяцца: [б], [б'], [п], [п'], [м], [м'], [в], [в'], [ф], [ф']. Як адзначалася, спецыфічную пазіцыю займаюць губы таксама пры вымаўленні [ж], [ш], [ч], [дж]. Аднак у гэтым выпадку губы не з'яўляюцца месцам утварэння шуму. Таму [ж], [ш], [ч], [дж] не адносяцца да губных зычных. Да язычных адносяцца ўсе астатнія зычныя, у тым ліку і [ж], [ш], [ч], [дж]. У залежнасці ад таго, якой часткай язык выконвае асноўную работу, язычныя зычныя падзяляюцца на *пярэднеязычныя* — [д], [дз'], [т], [ц'], [з], [з'], [с], [с'], [дз], [ц], [л], [л'], [н], [н'], [р], [ж], [ш], [ч], *сярэднеязычныя* — [й], *заднеязычныя* — [g], [g'] змычныя, [г], [г'] шчылінныя, [х], [х'], [к], [к'].

Сярод губных зычных выдзяляюцца такія, ва ўтварэнні якіх прымаюць удзел абедзве губы. У такім разе лічыцца, што верхняя губа з'яўляецца пасіўным органам. Гэта *губна-губныя* (білабіяльныя): [п], [п'], [б], [б'], [м], [м'], [ў]. Пры ўтварэнні [в] (не ва ўсіх пазіцыях), [в'], [ф], [ф'] шчыліна ўтвараецца паміж ніжняй губой і верхнімі пярэднімі зубамі. Яны з'яўляюцца *губна-зубнымі* (лабіяльна-дэнтальнымі).

Сярод пярэднеязычных выдзяляюцца *зубныя:* [т], [д], [с], [з], [н], [р], [л], [л'], [ц], [дз]. Іх вымаўленне звязана са змыканнем кончыка языка з верхнімі зубамі або з утварэннем шчыліны паміж гэтымі органамі. Таму па актыўнаму артыкуляцыйнаму органу іх дакладней называць не проста пярэднеязычнымі, ▪ кончыкавымі (апікальнымі). Апікальным з'яўляецца і [р], але паколькі пры дрыжанні кончык языка набліжаецца да альвеол або нават да заальвеалярнай зоны (у гэтым выпадку кончык языка загнуты кверху — рэтрафлексная артыкуляцыя), ён адносіцца да *альвеалярных* або адпаведна да заальвеалярных пярэднепаднябенных. Астатнія пярэднеязычныя з'яўляюцца *спінкавымі* (дарсальнымі). Сярод іх выдзяляюцца свісцячыя [з'], [с'], [дз'], [ц'], а таксама [н'], у якіх месца артыкуляцыі па пасіўнаму органу ссунута ў заальвеалярную пярэднепаднябенную (прэпала-

Табліца 1.2. **Артыкуляцыйна-фізіялагічная класіфікацыя зычных па актыўнаму органу**

| Па спосабу ўтварэння крыніцы гука | | Па месцы ўтварэння | Губныя | | Язычныя | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | пярэднеязычныя | | | сярэднеязычныя | заднеязычныя | |
| | | | | | апікальныя | | дарсальныя мяккія | | | |
| | | | цвёрдыя | мяккія | цвёрдыя | мяккія | | | цвёрдыя | мяккія |
| Шумныя | змычныя | глухія | п | п' | т | | | | к | к' |
| | | звонкія | б | б' | д | | | | g | g' |
| | шчылінныя | глухія | ф | ф' | с, ш | | с' | | х | х' |
| | | звонкія | в | в' | з, ж | | з' | й | г (h) | г' (h') |
| | змычна-шчылінныя | глухія | | | ц, ч | | ц' | | | |
| | | звонкія | | | дз, дж | | дз' | | | |
| Санорныя | насавыя | | м | м' | н | | н' | | | |
| | ротавыя | дрыжачы | | | р | | | | | |
| | | плаўныя | ў | | л | л' | | й | | |

Табліца 1.3. **Артыкуляцыйна-фізіялагічная класіфікацыя зычных па пасіўнаму органу**

| Па спосабу ўтварэння і крыніцы гука | | Па месцы ўтварэння | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | губныя | | | | зубныя | | паднябенныя | | | | Фарынгальныя |
| | | губныя | | зубныя | | | | пярэднепаднябенныя | | сярэднепаднябенныя | заднепаднябенныя | |
| | | цвёрдыя | мяккія | цвёрдыя | мяккія | цвёрдыя | мяккія | цвёрдыя | мяккія | мяккія | цвёрдыя | |
| Шумныя змычныя | глухія | п | п' | | | т | | | | к' | к | |
| | звонкія | б | б' | | | д | | | | g' | g | |
| Шумныя шчылінныя | глухія | | | ф | ф' | с | | ш | с' | х' | х | |
| | звонкія | | | в | в' | з | | ж | з' | г' | г | [h] |
| Шумныя змычна-шчылінныя | глухія | | | | | ц | | ч | ц' | | | |
| | звонкія | | | | | дз | | дж | дз' | | | |
| Санорныя | насавыя | м | м' | | | [illegible] | | | н' | | | |
| | дрыжачыя | | | | | р | | | | | | |
| | плаўныя | ў | | | | л | л' | | й | | | |

тальную зону). Па месцы крыніцы шуму да *пярэднепаднябенных* адносяцца шыпячыя [ш], [ж], [ч], [дж], якія, аднак, істотна адрозніваюцца ад папярэдняга класа зычных наяўнасцю другога фокуса і ўдзелам губ у іх утварэнні.

Сярэднеязычны [й] па пасіўнаму органу адносіцца да *сярэднепаднябенных*. Як адзначалася вышэй, вельмі блізкімі да яго з'яўляюцца мяккія заднеязычныя [к'], [х'], [г'] шчылінны і [g'] змычны.

Цвёрдыя заднеязычныя [к], [х], [г] шчылінны і [g] змычны ўтвараюць групу *заднепаднябенных*, бо месца стварэння перашкоды прыпадае ў іх на мяккае паднябенне. Як варыянт [г] шчыліннага неабходна адзначыць і [h], месца ўтварэння якога па пасіўнаму органу прыпадае на поласць глоткі.

На два вялікія класы падзяляюцца зычныя беларускай мовы па прыкмеце мяккасці-цвёрдасці, якая звязана з дадатковай сярэднеязычнай (сярэднепаднябеннай) артыкуляцыяй. Да *цвёрдых* зычных адносяцца: [б], [п], [м], [в], [ў], [ф], [д], [т], [з], [с], [дз], [ц], [л], [н], [р], [ж], [ш], [дж], [ч], [г] шчылінны, [g] змычны, [х], [к]. *Мяккімі* з'яўляюцца [б'], [п'], [м'], [в'], [ф'], [дз'], [ц'], [з'], [с'], [л'], [н'], [й], [г'] шчылінны, [g'] змычны, [х'], [к'].

# Раздзел 2

## АКУСТЫЧНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА ГУКАЎ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

### § 2.1. АГУЛЬНЫЯ АКУСТЫЧНЫЯ УЛАСЦІВАСЦІ ГУКАЎ МОВЫ

**Акустычная** (грэч. akustikos — слыхавы) **фанетыка** займаецца вывучэннем гукавых хваль, якія ўтвараюцца ў выніку дзеяння органаў маўлення. Іншымі словамі, яе прадметам з'яўляюцца змяненні ў асяроддзі паміж гаворачым і вухам слухача, а таксама ў вуху пры ажыццяўленні моўнай камунікацыі. Асяроддзем, праз якое перадаюцца гукі мовы, звычайна з'яўляецца паветра, але можа быць і іншае асяроддзе, напрыклад вада, геліева-кіслародная або іншыя сумесі газаў. Вусная мова прыстасавана, безумоўна, толькі да паветранага асяроддзя. Рухі моўных органаў разлічаны на ціск паветра, на скорасць, з якой распаўсюджваецца гук іменна ў паветры. Іншае асяроддзе змяняе ўмовы як утварэння, так і распаўсюджання гукаў мовы, што ўспрымаецца чалавекам як большыя або меншыя скажэнні мовы, якія пагаршаюць яе ўспрыманне.

Пры гукавых ваганнях паветра асобныя малекулы рухаюцца ад пункта спакою ў пэўным напрамку, затым пад уздзеяннем сілы пругкасці вяртаюцца назад, але па інерцыі рухаюцца далей за пункт спакою і зноў паўтараюць рух у першапачатковым напрамку. І такі вагальны рух вакол пэўнага пункта працягваецца да таго часу, пакуль не ўраўнаважацца першапачатковая сіла, прывёўшая ў рух часцінкі паветра, і сіла трэння. Рухаючыся, адна часцінка выводзіць з раўнавагі суседнія, і такім чынам ваганне распаўсюджваецца. Паколькі апісаны рух адбываецца ў часе, яго можна выразіць па графіку з дапамогай сінусоіды (рыс. 38).

Аналіз простага ваганя паказвае, што праз пэўны перыяд часу яно цалкам паўтараецца. Для яго характарыстыкі звычайна выкарыстоўваюць тры фізічныя велічыні — амплітуду, перыяд і частату. Найбольшая адлегласць, на якую адхіляецца часцінка ад пункта спакою, называецца *амплітудай* ваганя. Час, за які адбываецца адно поўнае ваганне, называецца *перыядам*. Колькасць поўных ваганняў у адну секунду называецца *частатой*.

Ваганні паветра пры моўнай камунікацыі вельмі складаныя, параўн. крывую на рыс. 38 і 39, дзе паказана форма гукавой хвалі галоснага [а]. Яны бываюць двух відаў: перыядычныя і неперыядычныя. Складаныя перыядычныя ваганні, як і простае ваганне, характарызуюцца тым, што перыяд для кожнага поўнага ваганя адзін і той жа. У моўнай гукавой хвалі звычайна два суседнія перыяды крыху адрозніваюцца. Такія ваганні называюць *як бы перыядычнымі*, або *квазіперыядычнымі*. Асаблівасцю складаных ваганняў з'яўляецца тое, што іх можна раскласці на канечную колькасць простых сінусаідальных ваганняў. Паколькі любое простае ваганне характарызуецца цалкам яго амплітудай і перыядам, а пе-

рыяд можна вызначыць, як велічыню, адваротную частаце, то любое складанае перыядычнае ваганне можна адлюстроўваць на графіку, на якім па восі абсцыс адкладваецца частата прысутных у ім простых ваганняў, а па восі ардынат — велічыня іх амплітуд. Такі графік прынята называць амплітудна-частотным спектрам (рыс. 40). Кожная з адлюстраваных на ім частот называецца *гармонікай*. Характэрна, што высокія сінусаідальныя ваганні ў гэтым выпадку кратныя па частаце самай нізкай, якая называецца асноўным тонам. Квазіперыядычнасць ваганняў гукаў мовы азначае, што перыяд можа паступова змяняцца ў часе. Таму для іх дакладнага адлюстравання неабходна трэцяя каардыната — час. Паколькі на плоскасці магчымы толькі дзве каардынаты, то для характарыстыкі гукаў мовы часта прымяняецца графік, які адлюстроўвае час і частату простых ваганняў (рыс. 41).




Рыс. 38. Перыядычнае ваганне. Па восі часу *T*: *1* — перыяд; па восі амплітуд *A*: *2* — амплітуда

Раскладанне моўнага квазіперыядычнага вагання — вельмі складаны і працаёмкі працэс. Таму для яго ажыццяўлення было вынайдзена спецыяльнае прыстасаванне, якое робіць гэта аўтаматычна,— спектрограф моўных сігналаў. Ён складаецца з сістэмы фільтраў, рэагуючых толькі на частату, якая адпавядае яго ўласнай. У найбольш вядомым спектрографе-сонаграфе амерыканскай фірмы «Кэй элеметрык Карпарэйшн» дзейнічае адзін фільтр з паласой прапускання 42 Гц (вузкапалосны) і 300 Гц (шырокапалосны), які па меры аналізу перастройваецца па частаце. Дакладнасць аналізу залежыць ад шырыні фільтра. Пры вузкапалосным фільтры яна досыць высокая, бо ён рэагуе на частоты толькі ў межах 42 Гц. Зразумела, што пры частотнай шырыні фільтра 300 Гц сонаграф рэагуе на любую частату ў гэтай паласе, і дакладнасць зніжаецца. Ён дазваляе атрымліваць амплітудна-частотны спектр (так званыя спектральныя зрэзы (рыс. 40)) і дынамічныя трохмерныя спектраграмы, на якіх па восі абсцыс адлюстроўваецца час, па восі ардынат — частата, а амплітуда перадаецца ступенню пачарнення (рыс. 42).

Неперыядычныя ваганні (шумы) характарызуюцца тым, што кожнае асобнае ваганне не паўтарае папярэднія, а істотна ад іх адрозніваецца. Таму трохмерная спектраграма, якая іх апісвае, мае характэрную штрыхоўку ў вертыкальным кірунку і моцна адрозніваецца ад графічнага адлюстравання складаных перыядычных ваганняў (параўн. рыс. 43 і 42).

Неперыядычныя ваганні можна таксама раскласці на простыя сінусаідальныя, але яны не маюць гарманічнай структуры, г. зн. не маюць частаты асноўнага тону і гармонік. Калі ў шуме маюцца частоты па ўсяму частотнаму дыяпазону, то ён



Рыс. 39. Форма гукавой хвалі галоснага [а] (асцылаграма)

называецца *белым*. Спектр шумных гукаў не можа быць прадстаўлены радам ліній, якія б знаходзіліся на пэўнай адлегласці адна ад адной, бо на самай справе іх бясконца многа. Таму спектр шуму ўяўляе сабой плошчу, вертыкальны памер якой абмежаваны лініяй, што адпавядае яго амплітудзе. Гукі мовы, якія складаюцца з шуму, характарызуюцца тым, што іх амплітудны профіль змяняецца ў залежнасці ад частаты, што абумоўліваецца становішчам органаў мовы. Іменна амплітуднае адрозненне абумоўлівае адрозненне аднаго шумнага гука ад іншых.

Да неперыядычных ваганняў, акрамя шумаў, адносяцца таксама імпульсы — гэта вельмі кароткія ў часе шумы з рэзкім нарастаннем гучнасці. Прыкладам такіх ваганняў з'яўляюцца выбухі. У мове яны ўзнікаюць у выніку хуткага размыкання змычкі моўных органаў, за якой ствараецца павышаны ціск паветра. Спектр такіх гукаў аналагічны спектрам іншых шумных гукаў, толькі вельмі кароткі па часе (вузкая вертыкальная штрыхоўка на трохмерных спектраграмах).




Рыс. 40. Амплітудна-частотны спектр галоснага [а]




Рыс. 41. Часава-частотны спектр: 1 — простага сінусаідальнага вагання, 2 — вагання, частата якога змяняецца




Рыс. 42. Трохмерны спектр галоснага [ы] (спектраграма)



Рыс. 43. Неперыядычнае ваганне

## § 2.2. СУВЯЗЬ АКУСТЫЧНЫХ І АРТЫКУЛЯЦЫЙНЫХ ХАРАКТАРЫСТЫК ГУКАЎ

Моўны апарат чалавека ўяўляе сабой складаную акустычную сістэму, якая ўключае энергетычную сістэму, крыніцу гука (галасавыя звязкі) і сістэму рэзанатараў — поласць глоткі, ротавую і насавую поласці (рыс. 7). Адносна ўзбуджэння ваганняў галасавых звязак існуе дзве гіпотэзы. Згодна з адной, якую развівае французскі ўрач Юсон, яны ўзбуджаюцца імпульсамі, што пасылае цэнтральная нервовая сістэма з частатой асноўнага тону голасу. Аднак больш проста ўзнікненне голасу тлумачыцца збыткоўным ціскам паветра пад галасавымі звяз-

камі і яго падзеннем у час праходу паветранай плыні праз вузкую шчыліну (другая гіпотэза). Згодна з гэтай гіпотэзай, збыткоўны ціск пад самкнутымі галасавымі звязкамі размыкае іх. Калі паветра праходзіць праз вузкую шчыліну, згодна з фізічнымі законамі, ціск яго па-




Рыс. 44. Ваганні галасавых звязак і іх амплітудна-частотны спектр

дае, у выніку нішто не перашкаджае галасавым звязкам вярнуцца ў першапачатковае становішча. Затым цыкл паўтараецца. Павелічэнне і памяншэнне ціску, які ўзнікае ў выніку адкрыцця і закрыцця звязак, успрымаецца як гук. Ён уяўляе сабой акустычны сігнал пілападобнай формы. Яго спектр складаецца з рада гармонік, якія ў напрамку да высокіх частот паступова змяншаюцца па амплітудзе (рыс. 44). Для таго каб гэты гук стаў гукам мовы, ён павінен прайсці праз сістэму поласцей, якія адыгрываюць ролю рэзанатараў.

Шумавая крыніца гука ўзнікае ў розных месцах ротавай поласці. Для стварэння шуму патрэбна вузкая шчыліна паміж органамі маўлення і збыткоўны ціск па-за ёй. Праходзячы праз шчыліну, паветра цячэ не плаўна, а завіхраецца, а можа яшчэ і разбівацца аб цвёрдыя органы маўлення, якія знаходзяцца перад ёй (напрыклад, верхнія зубы). Такое цячэнне паветра і ўспрымаецца як шум. Яго слыхавыя ўласцівасці вызначаюцца месцам шчыліны ў ротавай поласці або поласці глоткі, а таксама памерамі і формай гэтай шчыліны.

Калі збыткоўны ціск перарывае перашкоду (змычку) раптоўна, то ўзнікае своеасаблівы кароткачасовы шум, які называецца імпульсным. Імпульсны шум характэрны для ўсіх відаў выбуху. Так узнікае імпульсна-шумавая крыніца гука. Уласцівасці выбуху гукаў мовы цалкам вызначаюцца месцам змычкі ў ротавай поласці або поласці глоткі.

У сістэме поласцей найбольш важная роля належыць ротавай поласці. Яе форма і аб'ём вызначаюцца дзеяннем языка і ніжняй (рухомай) сківіцы. Пад'ём спінкі языка ў пэўным месцы можа падзяляць яе на дзве падполасці, злучаныя больш або менш вузкім праходам. Поласці глоткі і носа, а таксама названыя падполасці паасобку або ў сукупнасці валодаюць пэўнымі частотнавыбіральнымі ўласцівасцямі. Дзякуючы гэтаму пры руху праз іх гукавой хвалі асобныя частоты ўзмацняюцца, іншыя паслабляюцца, як у сістэме рэзанатараў. Пілападобны спектр становіцца гукам мовы.

Рэзанатар уяўляе сабой абмежаваны якой-небудзь паверхняй аб'ём паветра, якое прыходзіць у вагальны рух пад уздзеяннем гукавой хвалі пэўнай частаты і ўзмацняе яе. Адны рэзанатары добра рэагуюць толькі на ваганні, якія супадаюць з іх уласнай частатой або вельмі блізкія да яе, і іх ваганні захоўваюцца працяглы час. Іх называюць *вострымі*, або *вузкапалоснымі*. Іншыя ж рэагуюць на ваганні дастаткова шырокай паласы частот, і іх вагальны рух згасае вельмі хутка. Называюцца яны *шырокапалоснымі*, або *плоскімі*. Вузкапалоснасць або шырокапалоснасць рэзанатара залежыць ад матэрыялу сценак, з якога яны зроблены. Поласці моўнага апарату з'яўляюцца сістэмай шырокапалосных рэзанатараў з хуткім часам згасання. Паколькі іх аб'ёмы і форма могуць змяняцца ў залежнасці ад становішча актыўных органаў маўлення, зменлівымі з'яўляюцца і іх рэзанатарныя характарыстыкі, што забяспечвае чалавеку магчымасць ствараць самыя розныя па якасці гукі. Таму відавочна, што становішча

органаў маўлення цалкам вызначае акустычныя ўласцівасці гукаў.

Паводле разлікаў, пры становішчы органаў маўлення, неабходным для вымаўлення [а], амплітудна-частотная характарыстыка рэзанатараў моўнага апарату мае форму, як на рыс. 45. У выніку праходу пілападобнага сігналу галасавых звязак праз сістэму рэзанатараў атрымліваецца спектр галоснага [а] (рыс. 45).




Рыс. 45. Амплітудна-частотная характарыстыка моўнага тракту і спектр сігналу

Як відаць з графікаў, у спектры атрымліваецца два амплітудныя максімумы. Амплітудныя максімумы ў спектры гукаў называюць *фармантамі*. Кожнаму галоснаму і санорнаму гуку адпавядае ўласцівае толькі ім размяшчэнне фармант на частотнай шкале. Прынята лічыць, што фармантныя частоты не залежаць ад асноўнай частаты голасу, бо яны цалкам абумоўліваюцца рэзанатарнай сістэмай. Паколькі рэзанатары плоскія, фарманты маюць пэўную шырыню, якая таксама ўплывае на якасць гука. У прыватнасці, у людзей з выразнай дыкцыяй шырыня фармантных палос вузейшая, чым у людзей, у якіх дыкцыя недастаткова выразная.

Адпаведнасць паміж становішчам артыкуляцыйных органаў пры вымаўленні таго або іншага гука і палажэннем фармант на шкале частот пацвярджаецца шляхам мадэліравання. Калі па рэнтгенаграмах зрабіць замеры плошчы папярочнага сячэння на працягу ўсяго моўнага тракту, а затым змадэліраваць яго з дапамогай адрэзкаў труб адпаведнага замерам дыяметра, падключыць крыніцу гука, аналагічную галасавым звязкам, дык з дапамогай гэтай сістэмы можна штучна стварыць, напрыклад, галосныя гукі. Калі вызначыць фармантныя частоты вымаўленых галосных і пабудаваць графік па частотных значэннях першай і другой фармант, то гэты графік будзе нагадваць фігуру, якая атрымліваецца пры артыкуляцыйна-фізіялагічнай класіфікацыі галосных, толькі перавернутая. Што да шумных гукаў, дык пры іх аналізе выяўляецца цесная сувязь паміж паяўленнем спектральных максімумаў і месцам утварэння шуму ў ротавай поласці.

Такім чынам, можна канстатаваць, што спектральная карціна гукаў мовы цалкам залежыць ад становішча органаў маўлення ў час іх утварэння.

## § 2.3. АКУСТЫЧНЫЯ АДЗІНКІ МОВЫ

У вуснай мове ад паўзы да паўзы гукі ўтвараюць бесперапынную плынь. Яе расчляненне можна ажыццявіць на аснове пэўных акустычных прыкмет, якія называюцца прыкметамі сінтагматычных кантрастаў (ад грэч. syntagma — нешта злучанае і франц. syntagma — супрацьлегласць у якіх-небудзь адносінах). Гэтыя прыкметы ў большасці выпадкаў відавочныя і ўзнікаюць у выніку змены крыніцы гука або рэзкай змены ўмоў выпраменьвання гукавой хвалі. На аснове іх

акустычны моўны сігнал расчляняецца на асобныя ўчасткі, якія называюцца сегментамі (лац. segmentum — абрэзак, адрэзак).

Паколькі сегменты звязаны са зменай крыніцы гука або ўмоў вылучэння гукавой хвалі, яны адрозніваюцца формай гукавой хвалі (перыядычныя або неперыядычныя, часам шумавыя або імпульсна-шумавыя) і велічынёй амплітуды. Калі карыстацца частотным спектрам, то межы сегментаў будуць выражаны зменай асобных частотных складаючых. Але паколькі на спектры можа быць прадстаўлена амплітуда толькі асобных частотных складаючых і не прадстаўлена сумарная амплітуда ваганняў, у многіх выпадках зручней карыстацца асцылаграмамі, па якіх можна прасачыць і змену формы гукавой хвалі, і змену сумарнай амплітуды.

Улік характару крыніцы гука і ўмоў яго выпраменьвання дае магчымасць вылучыць наступныя сегменты: глухую змычку, звонкую змычку, санорную змычку, галосныя сегменты, дрыжачы сегмент, выбух, глухую фрыкацыю, звонкую фрыкацыю, глухую і звонкую афрыкацыю. Кожны з гэтых сегментаў мае ўласцівую толькі яму сукупнасць прыкмет, на аснове якіх ён і вылучаецца. Гэтыя прыкметы прызначаны для адрознення сегментаў, якія стаяць побач, і вызначэння мяжы паміж імі. Таму па сваёй прыродзе яны з'яўляюцца дыферэнцыяльнымі.

*Глухая* змычка характарызуецца адсутнасцю гукавога сігналу. Гэта перапынак моўнай плыні, за якім павінен ісці выбух. Найбольш зручна назіраць яе ў сярэдзіне слоў, бо ў пачатку яна нічым не адрозніваецца ад паўзы, якой таксама адпавядае поўная адсутнасць сігналу. Таму ў пачатку слоў, асабліва фраз, немагчыма, напрыклад, вызначыць, дзе канчаецца паўза, а дзе пачынаецца глухая змычка.

*Звонкая* змычка ў адрозненне ад глухой характарызуецца наяўнасцю сігналу, які ствараецца галасавымі звязкамі. Але ў выніку змычкі гэты сігнал не мае адкрытага выхаду праз поласць рота або носа. Ён можа трапіць у акаляючае асяроддзе толькі праз мяккія і косныя тканкі, якія акружаюць галасавыя звязкі. У выніку выпраменьваецца вельмі слабая гукавая хваля. Малая амплітуда, спрошчаная форма крывой у параўнанні з перыядычнымі ваганнямі, уласцівымі іншым сегментам, дазваляюць лёгка вызначыць звонкую змычку па асцылаграме. З аналізу спектраграм відаць, што на ўчастку звонкай змычкі адсутнічаюць фарманты. Гэты сегмент характарызуецца вельмі невялікай колькасцю простых складаючых у межах нізкіх частот, чым і абумоўлена прастата формы асцылаграмы. Амплітуда звонкай змычкі паступова памяншаецца ў напрамку да выбуху, што асабліва відавочна ў пачатку слова пасля паўзы. Змена амплітуды ўзнікае ў сувязі з тым, што ў ротавай поласці паступова ўзрастае ціск для выбуху, у выніку чаго ціск у ротавой поласці (над галасавымі звязкамі) і ціск у дыхальнай сістэме (пад галасавымі звязкамі) паступова выроўніваюцца. Гэтым зніжаецца эфектыўнасць работы галасавых звязак, у выніку і назіраецца паступовае зніжэнне амплітуды і частаты ваганняў.

*Санорная* змычка вызначаецца перыядычнасцю ваганняў і досыць значнай велічынёй амплітуды. Як пры звонкай змычцы, выхад для гукавой хвалі непасрэдна з ротавай поласці закрыты. Але побач са змычкай утвараецца свабодны пабочны праход праз нос або збоку ад языка ў ротавай поласці. Форма асцылаграмы санорнай змычкі значна больш складаная, чым звонкай, але яна звычайна прасцейшая, чым у большасці галосных. Санорная змычка характарызуецца наяўнасцю фармантнай структуры. Своеасаблівасць яе заключаецца ў тым,

што побач з першай фармантай назіраецца яшчэ адзін частотны максімум, хоць ён не заўсёды дастаткова ясна выражаны. Усіх гэтых прыкмет дастаткова, каб пры выразным вымаўленні на іх аснове выдзеліць санорную змычку як самастойны сегмент.

*Галосным* сегментам уласціва вялікая амплітуда ваганняў, што добра відаць на асцылаграмах, і іх перыядычны характар. Для іх характэрна, што гукавая хваля, утвораная галасавымі звязкамі, выпраменьваецца найбольш свабодна непасрэдна праз ротавую поласць — праз досыць шырокі праход паміж актыўным і пасіўным органамі мовы. Нават у лабіялізаваных галосных адтуліна, створаная губамі, значна шырэйшая, чым у любога зычнага гука. На спектраграмах галосныя сегменты вызначаюцца выразнай фармантнай структурай, якая адзначаецца чорнымі палосамі, што адпавядаюць моцным складаючым у пэўных частотных палосах.

*Дрыжачы* сегмент характарызуецца тым, што яму папярэднічаюць перыядычныя ваганні, якія па велічыні не адрозніваюцца ад ваганняў галосных, а затым наступае больш або менш рэзкі спад амплітуды, пасля якога зноў наступае яе ўзрастанне. Спад адпавядае набліжэнню кончыка языка да паднябення пры вымаўленні гука [р]. Ад суседніх зычных гукаў звычайна добра аддзяляюцца і ўчасткі з вялікай амплітудай, калі яны ідуць за зычным або знаходзяцца перад ім. Але гэтыя ўчасткі звычайна нельга аддзяліць ад папярэдніх або наступных галосных, бо змены амплітуды адбываюцца плаўна і паступова. Спад амплітуды на вельмі кароткі час (гэтым дрыжачы сегмент адрозніваецца ад звонкай змычкі) успрымаецца як дрыжанне гука, ад чаго атрымаў назву і сегмент, які выклікае гэту з'яву.

Асобны выпадак у вызначэнні сегментаў, для якіх характэрны перыядычныя ваганні, уяўляюць сегменты, якія суадносяцца з [й] і [ў]. Ад зычных сегментаў яны аддзяляюцца дастаткова выразнай мяжой — наяўнасцю значна большай амплітуды. Ад суседніх галосных іх практычна аддзяліць не ўдаецца — амплітудны пераход тут вельмі паступовы. З-за плаўнага змянення фармантных пераходаў не заўсёды можна гэта зрабіць і на аснове спектраграм. Таму сегменты, суадносныя з гэтымі гукамі, спецыяльна не вылучаюцца. Межы паміж суседнімі сегментамі, якія характарызуюцца перыядычнасцю ваганняў, маюць розную выразнасць у залежнасці ад рада прычын. Звычайна ў пачатку фразы яны больш выразныя, чым у яе канцы. Чым лепшая дыкцыя ў гаворачай асобы, тым ясней межы паміж сегментамі ў яе мове. У націскных і пачатковых складах слова яны таксама выразней, чым у канцавых і паслянаціскных. Пры падзеле на сегменты трэба ўлічваць якасць магнітафоннага запісу мовы. Калі ён зроблены ў шумным памяшканні або ў памяшканні са значным рэхам, то падзел на сегменты часта бывае досыць цяжкай справай.

*Выбух* характарызуецца неперыядычнасцю ваганняў, непрацягласцю ў часе, раптоўным нарастаннем амплітуды. Але паколькі ціск у ротавай поласці за змычкай і ціск акаляючага асяроддзя адрозніваюцца нязначна, то ў цэлым амплітуда выбуху невялікая. Яна крыху большая, калі выбух ідзе за глухой змычкай, і меншая, калі ён ідзе за звонкай змычкай, бо пры звонкай змычцы ўтвараецца меншы ціск у ротавай поласці, чым пры глухой: пры звонкай змычцы павінен існаваць перапад не толькі паміж ціскам у ротавай поласці і ціскам акаляючага асяроддзя, але таксама над галасавымі звязкамі і пад імі, каб апошнія маглі ўтвараць гук. У астатнім выбух пасля глухой і звонкай змычак істотна не адрозніваец-

ца. На спектраграмах выбух адлюстроўваецца вузкай вертыкальнай палоскай шуму, узмоцненыя зоны якога часцей за ўсё супадаюць з пачаткам фармант наступных галосных і санорных або з узмоцненымі зонамі наступных шумавых сегментаў.

*Глухі фрыкатыўны* сегмент уяўляе сабой шум, які мае значную працягласць з паступовым нарастаннем амплітуды, якая затым можа памяншацца. У беларускай мове, як і ў шэрагу іншых моў, максімум інтэнсіўнасці шуму прыпадае на сярэдзіну, значна радзей — на канец гэтага шумавога сегмента. З пункту погляду спектральнага аналізу шумавы фрыкатыўны сегмент характарызуецца наяўнасцю складаючых у высокай частцы спектра.

Асноўнай характэрнай рысай *звонкага фрыкатыўнага* сегмента з'яўляецца наяўнасць побач з шумам і нізкачастотных перыядычных ваганняў. Яны добра назіраюцца як на асцылаграмах, так і на спектраграмах. У параўнанні з глухімі фрыкатыўнымі сегментамі звонкія характарызуюцца меншай інтэнсіўнасцю шуму. Пры аднолькавай гучнасці вымаўлення яна ніколі не перавышае інтэнсіўнасць глухіх фрыкатыўных.

*Глухі афрыкатыўны* сегмент — гэта фрыкатыўны сегмент, толькі з рэзкім нарастаннем пачатку, як у выбуху. Яму папярэднічае глухая змычка. Па працягласці ён карацей, чым глухі фрыкатыўны сегмент, і яму папярэднічае значна больш кароткая глухая змычка. Яго максімальная амплітуда, як і фрыкатыўнага сегмента, прыпадае часцей за ўсё на сярэдзіну. Рэзкае нарастанне шуму не азначае, што на пачатку афрыкатыўнага сегмента амплітуда вялікая. Як і ў выбуху, яна можа быць нязначнай па велічыні, але ўспрымаецца як вельмі характэрны шум выбуху.

*Звонкі афрыкатыўны* сегмент адрозніваецца ад глухога ў двух аспектах. Па-першае, яму папярэднічае звонкая змычка. Па-другое, шум у ім мадуліруецца частатой асноўнага тону, што выклікана наяўнасцю перыядычных ваганняў, бо ў яго фарміраванні прымае ўдзел не толькі шумавая крыніца, але і галасавая. Як вынік дзеяння галасавых звязак шум менш інтэнсіўны, чым шум глухога афрыкатыўнага сегмента.

На аснове таго, якія сегменты суадносяцца з гукамі, усе гукі беларускай мовы падзяляюцца на наступныя класы:

галосныя [а], [о], [е], [у], [і]

санорныя [л], [л'], [н], [н'], [м], [м'], [ў], [й]

дрыжачыя [р]

выбухныя глухія [п'], [п], [т], [к], [к']

выбухныя звонкія [б], [б'], [д], [g], [g']

фрыкатыўныя глухія [ф], [ф'], [с], [с'], [ш], [х], [х']

фрыкатыўныя звонкія [в], [в'], [з], [з'], [ж], [г], [г']

афрыкатыўныя звонкія [дз], [дз'], [дж]

афрыкатыўныя глухія [ц], [ц'], [ч]

Сегменты, якія вылучаюцца на аснове аб'ектыўнага аналізу, знаходзяцца ў складаных адносінах з гукамі мовы. З адным гукам можа суадносіцца адзін або некалькі сегментаў. Калі ў суадносінах з гукам знаходзіцца некалькі сегментаў, то звычайна не ўсе яны адыгрываюць аднолькавую ролю ва ўспрыманні гэтага гука: адны з іх з'яўляюцца дастатковымі і неабходнымі для яго распазнавання, іншыя адыгрываюць дапаможную ролю. Для распазнавання не заўсёды дастаткова фанетычнай інфармацыі, якая ўтрымліваецца ў суадносных з даным гукам сегментах або сегменце. Гэта інфармацыя можа знаходзіцца ў суседніх сегментах, якія суадносяцца з іншым гукам, або зусім адсутнічаць.

Калі некаторая частка інфармацыі адсутнічае, па фізічных уласці-

васцях нельга вызначыць, які гук быў вымаўлены. Справа ў тым, што апрача ўласцівасцей, па якіх вызначаюцца межы сегментаў і вылучаюцца названыя вышэй класы гукаў, кожны сегмент мае таксама прыкметы, з дапамогай якіх пазнаецца канкрэтны гук унутры класаў. Калі прыкметы сінтагматычных кантрастаў звязаны з крыніцай гука і ўмовамі выпраменьвання гукавой хвалі, дык другі від прыкмет абумоўлены формай і аб'ёмам рэзанатарных поласцей, г. зн. месцам утварэння зычных або радам галосных. Гэтыя прыкметы не маюць меж у часе, бо канфігурацыя поласцей змяняецца паступова, плаўна пераходзячы з аднаго стану ў другі. Таму і прыкметы таксама пастулова змяняюцца і нельга адшукаць месца, дзе адна прыкмета пераходзіць у другую. Звычайна гэтыя прыкметы не супадаюць з адпаведнымі сегментамі, а распаўсюджваюцца і на суседнія. Паколькі іх прызначэнне — атаясамліванне канкрэтных гукаў унутры класа, яны называюцца *прыкметамі парадыгматычнай ідэнтыфікацыі*.

Акрамя ўласцівасці не мець меж, прыкметы парадыгматычнай ідэнтыфікацыі маюць яшчэ адну істотную ўласцівасць. Усе з іх, якія характарызуюць гук, зусім раўназначныя ў тым сэнсе, што ў канкрэтных выпадках для ідэнтыфікацыі можа быць выкарыстана любая адна прыкмета або цэлае іх мноства.

Сваё выражэнне прыкметы парадыгматычнай ідэнтыфікацыі знаходзяць у спектры гукаў. Каб ахарактарызаваць з пункту погляду акустыкі гук беларускай мовы, неабходна не толькі ўказаць на склад сегментаў, што суадносяцца з ім, але і ахарактарызаваць яго прыкметы парадыгматычнай ідэнтыфікацыі. Ажыццяўляць разгляд акустычных уласцівасцей гукаў лагічна па класах, якія вылучаюцца на аснове сегментнай будовы.

Класы гукаў па іх сегментнай будове суадносяцца з адпаведнымі класамі, вылучанымі на аснове артыкуляцыйных прыкмет, што знайшло адлюстраванне і ў тэрміналогіі. Так, згодна з артыкуляцыйна-фізіялагічнай класіфікацыяй па спосабу ўтварэння адзначаны класы змычных, шчылінных, змычна-шчылінных, насавых, дрыжачых, плаўных. З пункту погляду акустыкі ім адпавядаюць выбухныя, фрыкатыўныя, афрыкатыўныя, санорныя зычныя. Апошнія ўключаюць два артыкуляцыйныя класы (насавыя і плаўныя), бо па сегментнай будове яны не адрозніваюцца паміж сабой.

Тэрміналогія, якая традыцыйна склалася ў фанетыцы, не заўсёды характарызуе класы або асобныя гукі паслядоўна з артыкуляцыйнага або акустычнага боку. Так, тэрміны «галосны», «дрыжачы» па сваёй сутнасці з'яўляюцца акустычнымі, але ўжываюцца і для артыкуляцыйнай характарыстыкі гукаў. Тэрміны «звонкі», «глухі», яўна метафарычнага паходжання, нейтральныя і адносна артыкуляцыі, і адносна акустыкі. Іх аднолькава выкарыстоўваюць і для акустычнай, і для артыкуляцыйнай характарыстыкі гукаў. Але пры наяўнасці паралельных артыкуляцыйных і акустычных тэрмінаў іх трэба размяжоўваць і выкарыстоўваць паслядоўна.

## § 2.4. АКУСТЫЧНЫЯ АСАБЛІВАСЦІ ГЛУХІХ ВЫБУХНЫХ ЗЫЧНЫХ

Да гэтай групы гукаў належаць усе тыя гукі, з якімі суадносяцца на акустычным узроўні глухая змычка і выбух. Паколькі вельмі падобную акустычную структуру маюць афрыкаты, то мэтазгодна і іх разглядаць сумесна з выбухнымі. Гэта тым больш апраўдана, што з гістарычнага пункту погляду афрыкаты ўзніклі з выбухных і функцыянальна, як

гэта будзе паказана далей, цесна з імі звязаны.

Такім чынам, у групе глухіх выбухных будзе дадзены акустычны аналіз зычных [п], [т], [к], [ц], [ч], [ц']. У выніку дзеяння асіміляцыі звонкіх зычных глухімі і аглушэння звонкіх зычных на канцы слова перад паўзай узнікаюць аднародныя спалучэнні зычных па глухасці-звонкасці. Зычныя ў гэтых спалучэннях па сваіх акустычных уласцівасцях




Рыс. 46. Асцылаграмы слоў з глухімі выбухнымі і афрыкатамі.



















У пачатку слоў глухія змычкі скарочаны

нічым не адрозніваюцца ад глухіх і звонкіх перад галоснымі і санорнымі. Таму для акустычнага аналізу працэс узнікнення гукаў не мае істотнага значэння.

Глухія выбухныя зычныя [п], [т], [к] складаюцца з глухой змычкі і выбуху (рыс. 46). Эксперыменты па скарачэнню і падаўжэнню змычкі шляхам выразання кускоў з магнітнай стужкі і ўклейвання дадатковых кускоў (глухая змычка адпавядае адсутнасці сігналу) паказалі, што працягласць яе можа змяняцца ў значных межах. Гэта ж пацвярджаецца і вымярэннямі змычкі ў маўленні нават у аднолькавых фанетычных пазіцыях. Але назіраецца агульная тэндэнцыя: змычка звычайна некалькі карацей у [п], большая ў [т] і найбольшая ў [к].




Рыс. 47. Асцылаграмы складоў [ча] і [ца]

Наступны сегмент у гэтага класа гукаў — вельмі хутка ўзрастаючы шум, які раптоўна паяўляецца за паўзай (эксплазіўныя выбухныя). Працягласць шуму ў значнай меры залежыць ад фанетычнай пазіцыі: перад націскным галосным яна значна большая, чым перад паслянаціскным. У канцы слова, асабліва перад паўзай, пасля глухіх выбухных, назіраецца ўчастак шуму з паступовым спадам амплітуды, які ўтвараецца за кошт прыдыхання. Акрамя таго, працягласць выбуху прыкметна ўзрастае ад [п] да [к] і ў сярэднім складае для [п] 14 мс, для [т] — 20 і для [к] — да 50 мс. Відавочна, гэта абумоўлена рознай інертнасцю органаў мовы, з дапамогай якіх утвараецца выбух. Найменшай інертнасцю валодаюць губы, найбольшай — задняя частка языка. Адсюль і ўзрастанне выбуху ад [п] да [к].

У асобных выпадках назіраецца наяўнасць толькі змычкі пры адсутнасці або вельмі моцным скарачэнні выбуху (імплазіўныя выбухныя). Як правіла, выбух адсутнічае ў спалучэннях зычных [тл], [тн], для ўтварэння якіх патрабуецца змычка моўных органаў у адным і тым жа месцы ротавай поласці. Моцнае скарачэнне выбуху (да некалькіх мілісекунд) зрэдку назіраецца як перад галоснымі, так і перад зычнымі.

Аналіз асцылаграм падвоеных або падоўжаных глухіх выбухных паказвае, што даўжыня выбуху ў іх у асноўным супадае з яго даўжынёй у звычайных [п], [т], [к]. Адрозненне іх ад звычайных заключаец-

ца ў працягласці змычкі, якая ў падвоеных і падоўжаных даўжэй у два разы і нават больш (рыс. 46). Эксперыментальнае падаўжэнне змычкі ў звычайных глухіх выбухных паказала, што павелічэнне яе да 1/3 натуральнай даўжыні не прыводзіць да якіх-небудзь істотных змен ва ўспрыманні, а большае падаўжэнне выклікае ўспрыманне іх як падоўжаных. Павелічэнне змычкі больш чым у тры разы прыводзіць да ўспрымання паўзы, і эфект падаўжэння знікае.

Для афрыкат [ц], [ч], [ц'], як і для глухіх выбухных, характэрна наяўнасць глухой змычкі і выбуху. Такім чынам, якасна яны не адрозніваюцца ад глухіх выбухных. Затое маюцца істотныя колькасныя адрозненні, якія дазваляюць вылучыць іх у асобны клас. Гэтыя ад-




Рыс. 48. Спектраграмы слоў і складоў [ка], [ты], [пе], [ца], [цеп], якія ілюструюць глухія выбухныя і афрыкаты

розненні заключаюцца ў значна меншай па працягласці змычцы і значна большым выбухным элеменце, які пераходзіць у фрыкацыю (рыс. 47). Так, у афрыкаты [ц] змычка цягнецца каля 40 мс, а выбух з фрыкацыяй — прыкладна 70 мс, у [ч] — адпаведна 60 і 100 мс. Вядома, што абсалютныя лічбы могуць змяняцца ў розных словах і ў розных дыктараў. Але агульная заканамернасць вытрымліваецца: змычка заўсёды значна карацей, чым выбух з фрыкацыяй. У [ц] і [ц'] яна некалькі карацей, чым у [ч], і ва ўсіх афрыкат значна карацей, чым у любога выбухнога гука. У падоўжаных афрыкат працягласць змычкі значна ўзрастае, набліжаючыся да працягласці выбуху з фрыкацыяй, якія застаюцца нязменнымі.

З пункту погляду часавай арганізацыі сегментаў афрыкаты ні ў якім разе нельга разглядаць як гукі, якія складаюцца з выбухнога і фрыкатыўнага гукаў [т]+[с], [т]+[ш], [т]+[с']. Аналіз асцылаграм гэтых спалучэнняў паказвае, што ў іх, па-першае, змычка значна даўжэйшая, па-другое, пасля змычкі выступае імпульсна-шумавы сегмент і, самае галоўнае, ва ўспрыманні гэты сегмент ацэньваецца як самастойны элемент.

Варта звярнуць увагу таксама на спалучэнні [т]+афрыката, якія ўзнікаюць на марфемных стыках (*адчуць, аддзяліць, падцерці*). У гэтым выпадку захоўваецца змычка, як у [т], а выбух і фрыкацыя зусім не адрозніваюцца ад адпаведных элементаў афрыкат, што і стварае ўражанне падоўжанасці афрыкат.

Аналіз спектраграм паказвае, што максімальная амплітуда шуму выбуху глухіх выбухных пэўным чынам суадносіцца з ходам фармант наступных галосных (рыс. 48). Але асноўнай асаблівасцю гэтай катэгорыі гукаў з'яўляецца наяўнасць кароткачасовага шуму ў значным дыяпазоне частот. Так, для [к] характэрна наяўнасць шуму ў дыяпазоне да 200 Гц, для [т] — 4000—5000 Гц і больш слабая канцэнтрацыя шуму ў межах нізкіх частот (500—600 Гц). У выбуху [п] найбольш істотныя шумавыя складаючыя знаходзяцца ў дыяпазоне ніжэй 1500 Гц.

Гук [ц] адзначаецца наяўнасцю канцэнтрацыі шуму ў палосах 1500—2000 і 4000—4500 Гц (рыс. 48). Шум гэты ўсюды слаба выражаны, што сведчыць аб яго малой інтэнсіўнасці. Выбухныя і фрыкатыўныя часткі [ч] маюць значна большую інтэнсіўнасць, чым адпаведныя часткі [ц]. Палосы шуму значна больш шырокія і размешчаны ў дзвюх зонах: 1500—2000 і 1700—1800 Гц. Заўважаецца, што другая паласа некалькі ссунута ў часе адносна першай: максімальнай інтэнсіўнасці яна дасягае крыху пазней, чым першая.

## § 2.5. АКУСТЫЧНЫЯ АСАБЛІВАСЦІ ЗВОНКІХ ВЫБУХНЫХ ЗЫЧНЫХ

Звонкія выбухныя зычныя [б], [д], [g] складаюцца з двух сегментаў: звонкай змычкі і выбуху (рыс. 49). Звонкая змычка ўяўляе сабой перыядычныя ваганні, утвораныя галасавымі звязкамі. У выніку таго што галасавыя звязкі працуюць у той час, як у ротавай поласці ўзнікае перашкода пры змыканні губ або пры прыцісканні языка да паднябення, выпраменьванне гукавой хвалі адбываецца праз мяккія і косныя тканкі. Таму амплітуда ваганняў на звонкай змычцы малая. Форма крывой, якая іх апісвае, значна спрошчаная, бо праз тканкі дрэнна праходзяць высокачастотныя складаючыя. Звычайна амплітуда некалькі большая ў пачатку звонкай змычкі і памяншаецца ў напрам-




Рыс. 49. Асцылаграмы слоў і складоў са звонкімі выбухнымі і афрыкатамі

ку да выбуху. Працягласць яе можа значна змяняцца. Так, у [б] пры вымярэннях яна змянялася ад 40 да 96 мс пры сярэдняй 61 мс, у [д] яна вагалася ад 44 да 106 мс пры сярэдняй 70 мс. Тут, як і ў глухіх выбухных, прасочваецца тая ж тэндэнцыя — нязначнае павелічэнне змычкі па меры прасоўвання месца ўтварэння перашкоды ад губ да задняй часткі ротавай поласці. У параўнанні з адпаведнымі глухімі ў звонкіх працягласць змычкі значна меншая.

Выбухны сегмент у звонкіх зычных таксама карацейшы, чым у глухіх. Працягласць выбуху [д] у сярэднім складае 16 мс, [б] — 9 мс. У [g] яна значна большая, чым у [д]. Пры аналізе сегментаў, якія суадносяцца са звонкімі выбухнымі, даволі часта сустракаюцца выпадкі, калі выбухны сегмент як асобны элемент вылучыць цяжка, настолькі ён кароткі ў часе. У моўнай плыні імплазіўныя звонкія сустракаюцца значна часцей, чым глухія, бо яны ўзнікаюць не толькі ў гамарганных (утвораных адным і тым жа органам) спалучэннях зычных тыпу [дл], [бм], але і ў іншых пазіцыях. Вымярэнні паказваюць, што ў тых




Рыс. 50. Спектраграмы слоў і складоў [gанак], [спадыспаду], [бар], [дзынка(ц')], [с'ц'в'арджац'], якія ілюструюць звонкія выбухныя і афрыкаты

выпадках, калі на марфемных стыках паяўляюцца падоўжаныя звонкія выбухныя, звонкая змычка даўжэйшая за змычку адпаведных простых выбухных прыкладна ў два разы пры нязначных зменах у выбухным элеменце.

Звонкія афрыкаты [дз] і [дж] рэдка сустракаюцца ў тэкстах, асабліва [дз]. Гук [дж] сустракаецца значна часцей, бо ён уласцівы большаму колу слоў, якія ўжываюцца ў мове. Па сегментнай структуры [дз] і [дж] нагадваюць звонкія выбухныя, бо таксама складаюцца са звонкай змычкі і выбухнога элемента, які пераходзіць у фрыкатыўны (рыс. 49). Змычка ў звонкіх афрыкат карацейшая больш чым у два разы і можа быць зменшана да 15—20 мс без якога-небудзь відавочнага ўплыву на ўспрыманне. Другі сегмент пачынаецца з рэзкага нарастання шуму, які працягваецца ў 6—7 разоў даўжэй, чым выбухны сегмент у звонкіх выбухных. Скарачэнне гэтага сегмента прыводзіць да ўспрымання афрыкаты як [д], а поўнае скарачэнне змычкі прыводзіць да пераўтварэння афрыкаты ў адпаведны шчылінны гук.

Аналіз спектраграм паказвае, што звонкай змычцы адпавядае наяўнасць перыядычных ваганняў у вобласці нізкіх частот, а выбухному сегменту — наяўнасць як перыядычных нізкачастотных ваганняў, так і высокачастотных неперыядычных (рыс. 50). Нізкачастотныя ваганні ў [б] захопліваюць паласу аж да 600 Гц. Найбольш значныя высокачастотныя шумавыя складаючыя знаходзяцца ў зоне другой фарманты — 1000—1200 Гц. Аднак выбух тут цесна зліты з наступным галосным і вызначаецца толькі па тым, што ў наступным галосным адначасова прадстаўлена і больш высокая трэцяя фарманта, у той час як у [б] частотныя складаючыя ёсць толькі насупраць першай і другой фармант.

У [д] частотныя складаючыя выбуху размешчаны ў больш шырокім дыяпазоне — да 3000 Гц. Вельмі выразна прадстаўлены выбухны сегмент у [g] выбухнога. Яго высокачастотныя характарыстыкі цалкам адпавядаюць характарыстыкам глухога выбухнога [к]: да 1000 і ў паласе 1300—2000 Гц. Паколькі працягласць гэтага сегмента значная, можна ўбачыць уласцівае ўсім выбухным рэзкае нарастанне інтэнсіўнасці ў самым пачатку выбуху і паступовы яе спад у напрамку да галоснага. Гук [дж] характарызуецца наяўнасцю шуму ў трох частотных палосах: да 600, 1200—1600 і вышэй 2000 Гц. Афрыкатыўны элемент [дз] адлюстраваны ў палосах да 700 і 1400—1600 Гц.

## § 2.6. АКУСТЫЧНЫЯ АСАБЛІВАСЦІ ГЛУХІХ ФРЫКАТЫЎНЫХ ЗЫЧНЫХ

Да гэтай катэгорыі гукаў належаць [ф], [с], [ш], [х]. Найбольш ярка іх сегментная структура выяўляецца ў пачатку слова перад галоснымі або перад глухімі выбухнымі. Тут найбольш выразна відаць, што яны складаюцца з аднаго шумавога сегмента, які выражаны на асцылаграме беспарадкавай неперыядычнай штрыхоўкай (рыс. 51).

Для ўсіх глухіх фрыкатыўных характэрна, што шум у іх нарастае паступова, а найбольшая амплітуда назіраецца ў сярэдзіне сегмента або нават ссунута к яго канцу. Толькі па гэтай прыкмеце і магчымы пошукі меж, калі ў слове ідуць адзін за адным два фрыкатыўныя гукі (*схіліць, схавацъ*). У радзе выпадкаў знайсці дакладную мяжу ў такіх спалучэннях можна толькі шляхам слыхавога аналізу або шляхам параўнання асцылаграм і спектраграм.

Гэта група гукаў вельмі адчувальная да скарачэння гучання ў

пачатку, бо пры выдаленні нават малога ўчастка рэзка мяняецца характар нарастання шуму, у выніку чаго яны пачынаюць нагадваць выбухны сегмент. Выдаленне ўчасткаў у канцы гучання змен не выклікае.

Падоўжаныя і падвоеныя [с], [ш], а таксама [с'] характарызуюцца значна большай працягласцю фрыкатыўнага сегмента (у 1,5—2,5 раза) у параўнанні са звычайнымі. Агульная карціна асцылаграм за-




Рыс. 51. Асцылаграмы складоў [са], [ша], [ха], [фу], [вос']

хоўваецца: пачатак і канец характарызуюцца меншай амплітудай у параўнанні з сярэдзінай.

Асаблівасцю гэтай групы зычных з'яўляецца іх неаднолькавая інтэнсіўнасць. Найбольш інтэнсіўным сярод іх з'яўляецца [ш], менш інтэнсіўныя [х] і [ф], прамежкавае становішча займае [с].

Спектральныя асаблівасці глухіх фрыкатыўных зычных выражаюцца беспарадкавай вертыкальнай штрыхоўкай (рыс. 52). Наяўнасцю найбольш высокіх частотных складаючых характарызуецца [с]: у гэтым гуку часта прысутнічае шум у паласе звыш 3000 Гц, а ў некаторых выпадках — нават вышэй 4000 Гц. Акрамя таго, для [с] характэрна, што шум раскіданы па шырокаму частотнаму дыяпазону. Па частаце шум [ш] займае ніжэйшы дыяпазон — прыкладна ў паласе 1000—2000 Гц. Вышэй і ніжэй гэтай паласы частотныя складаючыя слабыя. Найбольш характэрнай асаблівасцю




Рыс. 52. Спектраграмы слоў і складоў з глухімі фрыкатыўнымі зычнымі

спектра [ф] і [х] з'яўляецца добра выражаная адпаведнасць па частаце шумавых складаючых першай і другой фармантам галосных. Частотныя палосы шуму абодвух гукаў вельмі блізкія: 200—600 і 1000—1500 Гц. Аднак у [ф] звычайна назіраюцца і больш высокія складаючыя — у паласе 2000—3000 Гц. У [х] шум размешчаны больш кампактна.

## § 2.7. АКУСТЫЧНЫЯ АСАБЛІВАСЦІ ЗВОНКІХ ФРЫКАТЫЎНЫХ ЗЫЧНЫХ

Да звонкіх фрыкатыўных зычных у беларускай мове належаць [з], [ж], [в], [г]. Пры асцылаграфічным аналізе ўчастак, які адпавядае звонкім фрыкатыўным, прадстаўлены досыць працяглым сегментам. Ён уяўляе сабой высокачастотны шум з беспарадкавай штрыхоўкай, як і ў глухіх фрыкатыўных, але ў адрозненне ад апошніх тут можна заўважыць перыядычнасць, якая абумоўліваецца дзеяннем галасавых звязак (рыс. 53). Такі малюнак характэрны для [з], [ж], [г]. Што датычыць [в], дык перад агубленымі задняга рада галоснымі [о], [у] часцей за ўсё ў ім шум не выяўляецца, а перад галоснымі пярэдняга рада [і], [е] гэты гук нічым не адрозніваецца ад іншых звонкіх фрыкатыўных. Менна толькі ў гэтым становішчы і можна гаварыць пра [в] як пра звонкі фрыкатыўны зычны. Найбольш ярка прыкметы фрыкатыўнасці праяўляюцца ў [в] перад галоснымі пярэдняга рада.

Істотнай асаблівасцю гэтай групы зычных з'яўляецца тое, што ваганні галасавых звязак найбольш выразна відаць толькі ў самым пачатку іх гучання, калі амплітуда шуму не вельмі вялікая. К сярэдзіне велічыня амплітуды шуму пастунова




Рыс. 53. Асцылаграмы складоў [жо], [зо], [ва]

ўзрастае, і тут ужо цяжка выявіць перыядычнасць і адрозніць звонкія фрыкатыўныя ад глухіх.

Падаўжэнне і падваенне звонкіх фрыкатыўных [з], [ж], [з'] выражаецца ў падаўжэнні гучання звонкага фрыкатыўнага сегмента не менш чым у два разы. Пры гэтым агульны выгляд сегмента цалкам захоўваецца. Упачатку больш выразна відаць перыядычнасць, шум слабы. Затым шум паступова ўзрастае, а к канцу ён зноў становіцца слабым. Падоўжаныя і падвоеныя звонкія фрыкатыўныя нічым не адрозніваюцца.

Аналіз спектраграм паказвае, што ў складзе звонкіх фрыкатыўных ёсць два віды частотных складаючых. Адны з іх (перыядычнага характару) знаходзяцца ў зоне частаты асноўнага тону з досыць пастаянным узроўнем інтэнсіўнасці (рыс. 54). Па гэтых складаючых паміж звонкімі фрыкатыўнымі істотных адрозненняў няма. Другія адносяцца да шумавых і прадстаўлены ў высокачастотным дыяпазоне. Найбольш высокія шумавыя складаючыя выяўляюцца ў [з]. Яны ахопліваюць дыяпазон да 3500 Гц. Аднак найбольш моцныя з іх знаходзяцца ў нізкачастотнай вобласці і ў паласе 1500—2000 Гц. Асобныя шумавыя палосы ўвесь час змяняюць сваю інтэнсіўнасць, то ўзмацняючыся, то




Рыс. 54. Спектраграмы слоў, у склад якіх уваходзяць звонкія фрыкатыўныя зычныя

слабеючы да ледзь бачных слядоў. У [ж] моцны шум прадстаўлены ў паласе 1100—2000 Гц, які вылучае яго як найбольш інтэнсіўны сярод гэтай групы гукаў. Фрыкатыўны [г] характарызуецца наяўнасцю шуму ў палосах да 700 і 1000—1500 Гц. Шумавыя складаючыя ў гэтых палосах значна мацнейшыя, чым у [з], але менш інтэнсіўныя, чым у [ж]. Для [в], як ужо адзначалася, шум характэрны не заўсёды. У выпадку яго наяўнасці ён паяўляецца ў самым канцы фрыкатыўнага сегмента ў паласе 1000—1800 Гц.

## § 2.8. АКУСТЫЧНЫЯ АСАБЛІВАСЦІ САНОРНЫХ ЗЫЧНЫХ

Да гэтага класа адносяцца досыць разнародныя гукі з пункту погляду артыкуляцыі. З пункту погляду акустыкі для іх характэрна значная амплітуда ваганняў, якія з'яўляюцца перыядычнымі. Звычайна выявіць якія-небудзь шумы ў іх складзе не ўдаецца. Да санорных адносяцца [м], [н], [р], [й], [ў].

Пры вычляненні з моўнай плыні санорных сегментаў, якія суадносяцца з [м], [н], найбольш істотным аказваецца вызначэнне іх меж з наступнымі і папярэднімі галоснымі, а таксама з іншымі санорнымі, бо ў выпадку з астатнімі зычнымі звычайна ніякіх цяжкасцей не ўзнікае (рыс. 55). Паколькі пры іх вымаўленні гукавая хваля выходзіць праз нос і толькі часткова праз сценкі ротавай поласці і косны масіў, амплітуда ваганняў у іх значна меншая, чым у суседніх галосных (рыс. 55). Па артыкуляцыі [м] і [н] з'яўляюцца змычнымі. Аднак асцылаграфічны аналіз паказвае, што выбуху ў іх не назіраецца. Выбуху перад галоснымі ў гэтым выпадку адпавядае скачковы рост амплітуды ў параўнанні з санорнай змычкай.

Гук [л] таксама, як [м], [н], складаецца з санорнай змычкі, якая характарызуецца меншай амплітудай, чым суседнія галосныя (рыс. 55). Як і ў [м], [н], у [л] ніколі не назіраецца выбуху, ролю якога адыгрывае хуткае ўзрастанне амплітуды наступных галосных. У канцы слова і перад зычнымі назіраецца паступовае змяншэнне амплітуды да поўнага знікнення гучання.

Зычны [р] з пункту погляду змянення ўмоў выпраменьвання гукавой хвалі складаецца з трох частак. На першым этапе, калі язык пераходзіць са становішча, якое ён займаў пры вымаўленні папярэдняга галоснага, да больш цеснага збліжэння з цвёрдым паднябеннем, амплітуда ваганняў мала адрозніваецца ад папярэдняга галоснага. Таму мяжу паміж галосным і [р] звычайна ўстанавіць немагчыма. Затым язык пэўны, але досыць кароткі час знаходзіцца вельмі блізка да цвёрдага паднябення. На гэтым участку [р] характарызуецца нязначнай амплітудай ваганняў і нават з'яўленнем шуму, што добра бачна на асцылаграмах. Гэта і ёсць дрыжачы сегмент. Ад звонкага фрыкатыўнага сегмента і звонкай змычкі ён адрозніваецца нязначнай працягласцю, што і дазваляе лёгка пазнаць яго ў моўнай плыні. На трэцім этапе язык паступова аддаляецца ад цвёрдага паднябення, што абумоўлівае цяжкасць адрознення гэтага ўчастка [р] ад наступнага галоснага.

Такім чынам, сярод сегментаў, якія суадносяцца з [р], толькі дрыжачы сегмент вылучаецца заўсёды незалежна ад фанетычнага акружэння гэтага гука ў моўнай плыні. Пачатковы сегмент вылучаецца надзейна, калі [р] знаходзіцца ў пачатку слова, а канцавы — у канцы слова і перад зычнымі. Для канцавога [р] відавочны яшчэ значны шумавы сегмент у самым канцы, які характэрны таксама і для іншых санорных у гэтай пазіцыі.



Рыс. 55. Асцылаграмы слоў з санорнымі зычнымі

З артыкуляцыйнага апісання відаць, што [й] у вымаўленні большасці носьбітаў мовы існуе ў двух варыянтах: перад галоснымі і пасля іх. Участак асцылаграмы, які адпавядае першаму варыянту, часта характарызуецца наяўнасцю шуму і меншай амплітудай у параўнанні з амплітудай наступных галосных (рыс. 55). Таму яго аддзяленне ад галоснага звычайна не выклікае асаблівых цяжкасцей. У варыянце [й], што ўжываецца пасля галосных, звычайна адсутнічае шум, а велічыня амплітуды ваганняў папярэдняга галоснага паступова змяншаецца да велічыні, характэрнай для [й]. У гэтым выпадку вылучыць сегмент, суадносны з [й], часцей за ўсё немагчыма. У сувязі з гэтым яго прыходзіцца разглядаць сумесна з папярэднім галосным сегментам.

Гук [ў] у становішчы пасля галосных, якое з'яўляецца тыповым для яго, звычайна не мае выразнай мяжы з папярэднім галосным (рыс. 55). Таму яго мэтазгодна разглядаць сумесна з гэтым галосным як адзіны акустычны сегмент.

Спектраграфічныя даныя паказваюць, што ўсе санорныя гукі характарызуюцца выразнай фармант-




Рыс. 56. Спектраграмы слоў з санорнымі зычнымі

най структурай. Насавыя [м], [н], акрамя першай і другой фармант, маюць яшчэ адну дадатковую фарманту (або субфарманту), звязаную з праходжаннем гукавой хвалі праз насавую поласць (рыс. 56). Гэта фарманта заўважаецца ніжэй першай фарманты і адпавядае частаце 260—300 Гц. Адрозніваюцца [н] і [м] частатой другой фарманты. Для абодвух гукаў першая фарманта мае частату ў зоне 500 Гц, другая для [н] — каля 1250 Гц, а для [м] значна ніжэй — каля 1000 Гц. Характэрна, што ў [м] другая фарманта звычайна вельмі слаба выражана, што ўласціва і губным галосным.

У спектральнай карціне [л] фарманты відаць у межах нізкіх частот, прычым першая фарманта па частотнаму значэнню вельмі блізкая да першай фарманты галоснага [у] у зоне 350 Гц. Другая фарманта паступова слабее к канцу гука і знаходзіцца паблізу частаты 500 Гц. У некаторых выпадках выяўляецца і трэцяя фарманта, якая яшчэ слабей за другую.

На спектраграмах [р] відаць змяншэнне інтэнсіўнасці фармант у напрамку да дрыжачага сегмента, а пасля яго — іх узмацненне ў напрамку да наступнага галоснага (рыс. 56). Першая фарманта мае частату каля 380 Гц, другая — каля 1000 Гц. Часта можна выдзеліць і трэцюю фарманту — каля 1500 Гц.

Пры спектральным аналізе слова *паў* відаць паступовы пераход ад двухфармантнага [а] да аднафармантнага [ў] з паступовым памяншэннем інтэнсіўнасці к канцу гучання і невялікім зніжэннем фармантнай частаты. На працягу [ў] яна змяняецца ад 700—750 Гц, што характэрна для галоснага [а], да 450—500 Гц — фарманты зычнага [ў].

Гук [й] характарызуецца з самага пачатку свайго гучання моцнай інтэнсіўнасцю з дзвюма зонамі частотных складаючых. Першая прыпадае на паласу да 500 Гц, другая — на паласу 1500—2300 Гц, якая к канцу гучання становіцца вельмі слабай. У становішчы пасля галосных назіраецца паступовы пераход ад частот фармант адпаведных галосных да частот, характэрных для [й].

## § 2.9. АКУСТЫЧНЫЯ АСАБЛІВАСЦІ МЯККІХ ЗЫЧНЫХ

Усе мяккія зычныя паводле сінтагматычных прыкмет разбіваюцца на тыя ж класы, што і цвёрдыя: глухія выбухныя [п'], [к'], глухія афрыкаты [ц'], звонкія выбухныя [б'], [г'], звонкія афрыкаты [дз'], глухія фрыкатыўныя [ф'], [х'], [с'], звонкія фрыкатыўныя [з'], [в'], [г'], санорныя [м'], [н'], [л']. Усе прыкметы мяккіх гукаў, якія ляжаць у аснове вылучэння гэтых класаў, зусім аднолькавыя з прыкметамі цвёрдых. Падрабязна яны апісаны вышэй. Зараз разгледзім тыя парадыгматычныя прыкметы, якія дазваляюць гаварыць аб мяккасці як прыкмеце вялікай групы зычных гукаў.

Найбольш агульнай прыкметай мяккіх зычных з'яўляецца наяўнасць [і]-падобнага пераходнага ўчастка ў наступных галосных. Гэта пераходнасць выражаецца ў тым, што пачатак любога галоснага пасля мяккіх зычных характарызуецца фармантнымі частотамі, якія супадаюць або вельмі блізкія да фармантных частот галоснага [і] (рыс. 57). Толькі затым фарманты рухаюцца ў напрамку да становішча, якое характэрна для данага галоснага ў становішчы пасля цвёрдых зычных, але яно амаль ніколі не дасягаецца. Пачатак фармант галоснага ў гэтым выпадку характарызуецца частотамі: першая фарманта — не вышэй 300 Гц, другая фарманта — 2000—3000 Гц.

Другой прыкметай мяккіх зычных з'яўляецца наяўнасць шуму ў такіх жа частотных палосах, як і пачатак фармант наступных галосных (рыс. 57). Зразумела, што гэта прыкмета неаднолькава выражана ў розных зычных. У выбухных зычных, асабліва ў губных, у якіх шумавы сегмент вельмі кароткі, яна менш ярка выражана, чым у фрыкатыўных, у якіх шумавы сегмент дастаткова доўгі. У апошнім выпадку ў спектральнай карціне шуму з самага яго пачатку заўсёды назіраецца ярка выражаны спектральны максімум у дыяпазоне 2000—3000 Гц і менш ярка выражаны ў зоне першай фарманты — каля 300 Гц. Гэта дае падставу сцвярджаць, што памякчэнне можна разглядаць як налажэнне фармантнай структуры галоснага [і] на комплекс прыкмет зычных.

Характэрнай прыкметай фанетычнай сістэмы беларускай мовы на акустычным узроўні з'яўляецца пераўтварэнне мяккіх адпаведнікаў [т] і [д] у паўнацэнныя афрыкаты [ц'] і [дз']. Іх афрыкатыўны сегмент мае такую ж спектральную




Рыс. 57. Спектраграмы фраз, слоў і складоў, па якіх можна прасачыць [і]-падобны пераход у пачатку галосных пасля мяккіх зычных

структуру, як і фрыкатыўных зычных [с'] і [з']. Значна падаўжаецца таксама і выбухны сегмент [к'], які ў многіх выпадках нагадвае афрыкатыўны. Дастаткова сказаць, што па працягласці ён звычайна бывае каля 60 мс, а ў некаторых выпадках і даўжэй, у той час як у цвёрдага выбухнога [к] ён звычайна менш чым 50 мс.

Ва ўсіх губных выбухных мяккасць выражаецца ў асноўным толькі [і]-падобным пераходам наступнага галоснага. Характэрна, што і ў [м'], які мае фармантную структуру і па працягласці не адрозніваецца ад фрыкатыўных, істотных змен у спектры звычайна не назіраецца. Фрыкатыўны губны [в'] у параўнанні з цвёрдым [в] істотна адрозніваецца тым, што ў ім заўсёды назіраюцца істотныя шумавыя складаючыя, як гэта назіраецца і ў [ф']. Магчыма, што з недастатковай выражанасцю спектральных змен у мяккіх губных звязана іх ацвярдзенне ў канцы слова і перад зычнымі.

Рад зычных беларускай мовы бывае толькі цвёрдым і не мае мяккіх адпаведнікаў. Да іх адносяцца шыпячыя [ш], [ж], [ч], [дж], свісцячы [ц] і дрыжачы [р].

## § 2.10. АКУСТЫЧНЫЯ АСАБЛІВАСЦІ ГАЛОСНЫХ

Галосныя сегменты досыць проста і надзейна адрозніваюцца ад шумных зычных (рыс. 58). Пачатак іх гучання характарызуецца вялікай амплітудай ваганняў, якія маюць перыядычны характар. Канцавой мяжой перад глухімі зычнымі з'яўляецца месца, дзе знікаюць перыядычныя ваганні. Перад глухімі выбухнымі перыядычныя ваганні часта знікаюць паступова з памяншэннем амплітуды. У гэтым выпадку самы канец ваганняў носіць фактычна неперыядычны характар. Яго выдаленне якога-небудзь уплыву на гучанне слова не аказвае. Таму наўрад ці можна гаварыць, што ён належыць галоснаму. Хутчэй за ўсё ён звязаны з затуханнем ваганняў, утвораных галасавымі звязкамі, пасля змыкання моўных органаў для ўтварэння глухога выбухнога зычнага. Калі галосны знаходзіцца ў канцы слова перад паўзай, таксама назіраецца паступовае затуханне галоснага, якое займае значны прамежак часу. Пры спектральным аналізе аказваецца, што гэты ўчастак звычайна не мае фармантнай структуры, а яго выдаленне не аказвае ніякага ўплыву на ўспрыманне. Таму яго таксама не варта адносіць да галоснага. Аднак цяжкасць заключаецца ў тым, што гэты ўчастак затухання не мае ніякіх фізічных меж і амаль заўсёды яго можна вылучыць толькі шляхам праслухоўвання. Перад звонкімі шумнымі зычнымі канцавая мяжа галоснага сегмента характарызуецца рэзкім спадам амплітуды і паяўленнем шумавых складаючых у шчылінных зычных.

Складаным аказваецца пытанне аб вычляненні галосных паміж санорнымі, пра што ўжо гаварылася вышэй. У радзе выпадкаў мяжу прыходзіцца рабіць умоўна. Калі перад галосным знаходзіцца змычны санорны, то практычна немагчыма знайсці выбух, які з пункту погляду тэорыі павінен быў бы быць. Але ў большасці выпадкаў тут усё ж назіраецца досыць выразнае павелічэнне амплітуды на галосным сегменце. Калі санорны ідзе за галосным, то ў некаторых выпадках памяншэнне амплітуды адбываецца настолькі паступова, што цяжка высветліць, дзе канчаецца галосны сегмент. Звычайна зусім немагчыма аддзяліць галосны ад [ў], [й], якія ідуць за галосным. Не выдзяляецца нічым мяжа паміж галосным і канцавым або пачатковым сегментам [р].

Спалучэнні галосных у беларускай мове — з'ява досыць рэдкая. Яны сустракаюцца галоўным чынам на марфемных межах і ў запазыча-




Рыс. 58. Асцылаграмы слоў і складоў з галоснымі ў спалучэнні з рознымі зычнымі

ных словах. Але ў большасці выпадкаў яны размяжоўваюцца ўстаўным зычным — [ак'ійа́н], [паву́к], [ра́дыйо] і г. д. У радзе выпадкаў на месцы другога галоснага ўзнік зычны — [па́ўза], [кл'а́ўза] і г. д. Таму ўстанаўленне меж паміж галоснымі не з'яўляецца актуальным для беларускай мовы, хоць неабходна адзначыць, што пры збегу галосных фізічных меж паміж імі няма.

Характэрнай акустычнай асаблівасцю галосных сегментаў з'яўляецца іх спектральная неаднароднасць. Асноўнай яе прычынай з'яўляецца ўплыў папярэдніх і наступных зычных. У сувязі з гэтым спектр галосных сегментаў складаецца з трох частак: пачатковага пераходнага ўчастка, стацыянарнага і канцавога пераходнага ўчастка. Асаблівасці пераходных участкаў вызначаюцца галоўным чынам месцам утварэння зычных і іх цвёрдасцю або мяккасцю. Пры гэтым адны зычныя менш уплываюць на галосны, іншыя выклікаюць вельмі істотныя змяненні. Напрыклад, суседнія мяккія зычныя амаль не выклікаюць змяненняў у [і], затое вельмі істотна змяняюць пераходныя ўчасткі [а], [о], [у]. Губныя зычныя амаль не змяняюць [у] і значна ўплываюць на пераходныя ўчасткі [а].

Папярэднія зычныя аказваюць найбольш моцны ўплыў на пачатковы пераходны ўчастак наступнага галоснага. Тут і змяненне частаты першай і другой фармант больш значнае, і ўчастак, на якім яно прасочваецца, дастаткова працяглы. На больш кароткім канцавым пераходным участку змяненні частаты фармант менш істотныя, але ў найбольш аптымальных умовах яны заўсёды прасочваюцца. Гэта неаднолькавая тэндэнцыя да змянення пачатковага і канцавога ўчасткаў галосных звязана з тым, што ў беларускай мове, як і ў радзе іншых моў, папярэднія зычныя больш цесна звязаны з галоснымі, чым папярэднія галосныя з зычнымі.

Ад месца ўтварэння зычных залежыць зрух фармант у бок павышэння або паніжэння фармантных частот. Губныя зычныя паніжаюць як першую, так і другую фарманту пераходных участкаў галосных. Безумоўна, асаблівую ролю адыгрывае гэта паніжэнне пры суседстве галосных з губнымі змычнымі зычнымі і найбольш поўна якраз і праяўляецца ў гэтых умовах. Пярэднеязычныя зычныя павышаюць другую фарманту і некалькі паніжаюць першую. Заднеязычныя зычныя гукі амаль не ўплываюць на другую фарманту пераходных участкаў галосных, некалькі паніжаючы першую фарманту. Суседні сярэднеязычны зычны [й] прыводзіць да змен на пераходных участках, аналагічных зменам пры суседстве з мяккімі зычнымі.

Уплыў мяккіх зычных на суседнія галосныя выражаецца ў тым, што пасля мяккіх зычных пераходны ўчастак любога галоснага мае частотныя характарыстыкі фармант, блізкія да характарыстык галоснага [і], а затым яны паступова паніжаюцца да частот, характэрных для данага галоснага. Калі мяккі зычны знаходзіцца пасля галоснага, то на пераходным участку яго частата фармант паступова набліжаецца да частаты галоснага [і]. Аднак на канцавым пераходным участку фармантныя змяненні не дасягаюць [і], у выніку чаго самі гэтыя змяненні адбываюцца больш плаўна. Зразумела, што галосныя, якія па спектру найбольш адрозніваюцца ад [і], змяняюцца ў большай ступені, чым падобныя на яго. Напрыклад, [а] паміж мяккімі зычнымі можа змяняцца настолькі, што ў ім адсутнічае які-небудзь кавалак гучання, які б супадаў з [а] ў асобным вымаўленні або паміж цвёрдымі зычнымі.

Такім чынам, галосныя сегменты характарызуюцца неаднароднасцю спектральнай карціны, што з'яўляецца вынікам уздзеяння суседніх зычных. Акрамя таго, галосныя [ы]

і [о] нават у асобным вымаўленні (рыс. 59) на працягу гучання змяняюць свае спектральныя ўласцівасці, фактычна ўяўляючы сабой дыфтангоіды. Калі ва ўсіх іншых галосных амаль на працягу ўсяго іх гучання фарманты характарызуюцца адной і той жа частатой, то ў [ы] адносна незалежнай пазіцыі, г. зн. асобна вымаўленых, а таксама ў пачатку слова пасля паўзы і націскных пасля цвёрдых зычных, паказаў, што ў кожнага чалавека велічыні іх фармант не перакрываюцца, хоць у розных дыктараў яны могуць перакрывацца. Напрыклад, галосны




Рыс. 59. Спектраграмы асобна вымаўленых галосных

ад самага пачатку гучання і да канца назіраецца рух другой фарманты ад частаты прыкладна 1500 да 2000 Гц і вышэй, [redacted] гэта азначае, што нават у самых спрыяльных умовах для [ы] характэрна адсутнасць стацыянарнага ўчастка. Першая яго фарманта практычна супадае з першай фармантай [і]. Пачатак другой фарманты на частотнай шкале блізкі да другой фарманты галоснага [е] ў ізаляваным вымаўленні, [redacted] яе канцавая частка супадае з другой фармантай галоснага [і]. Ход фармант у [о] напачатку аналагічны таму, які назіраецца ў галоснага [у] пры ізаляваным вымаўленні, а ў канцы гучання іх становішча нагадвае галосны [а].

Спектральны аналіз галосных у [е] можа мець такія ж спектральныя характарыстыкі ў аднаго дыктара, як [а] ў другога. Фармантныя частоты галосных дыктара-мужчыны з досыць нізкім голасам прыведзены ў табл. 2.1, пры гэтым у якасці фармантных частот [ы] і [о] ўзяты ўмоўна іх частоты прыкладна на сярэдзіне іх гучання.

Табліца 2.1. **Фармантныя частоты галосных**

| Галосны | Першая фарманта (Гц) | Другая фарманта (Гц) |
|---|---|---|
| і | 300 | 2300 |
| [redacted] | 400 | 1600 |
| э | 450 | 1650 |
| о | 550 | 800 |
| а | 700 | 1200 |
| у | 350 | 600 |

## § 2.11. АКУСТЫЧНАЯ КЛАСІФІКАЦЫЯ ГУКАЎ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

Пры аналізе сегментнай структуры вуснай мовы паказана, што падзел на сегменты можна ажыццявіць на аснове акустычных прыкмет, якія характарызуюць крыніцу ўтварэння гукавой хвалі і ўмовы яе выпраменьвання. На аснове гэтых прыкмет вылучаюцца сегменты, якія па працягласці могуць быць роўныя гуку або меншыя за яго. Асобныя сегменты або іх сукупнасць дазволілі вылучыць наступныя класы гукаў: галосныя, санорныя, глухія выбухныя, звонкія выбухныя, глухія фрыкатыўныя, звонкія фрыкатыўныя, глухія афрыкаты, звонкія афрыкаты. Гэтыя класы суадносяцца з класамі гукаў артыкуляцыйнай класіфікацыі.

У аснову акустычнай класіфікацыі галосных можна пакласці суадносіны частот першай і другой фармант. Гэтыя суадносіны адлюстраваны на рыс. 60, дзе па гарызантальнай восі адкладзена частата першай фарманты, а па вертыкальнай — частата другой фарманты. Няцяжка заўважыць, што атрыманая такім чынам класіфікацыя галосных аказалася ізаморфнай артыкуляцыйнай класіфікацыі. Прасторавае размяшчэнне галосных і па артыкуляцыйных, і па акустычных параметрах дае фігуру, якая нагадвае трохвугольнік. Толькі ў выпадку акустычнай класіфікацыі ён інакш размешчаны без парушэння ўзаемных суадносін гукаў.

Трэба, аднак, мець на ўвазе, што падобная класіфікацыя галосных магчыма толькі для мовы аднаго дыктара. Калі ж аналізаваць мову мноства дыктараў, дык аказваецца, што ў радзе выпадкаў розныя галосныя розных дыктараў могуць супадаць па частотных значэннях першых дзвюх фармант і аднолькавыя галосныя розных дыктараў могуць мець нятоесныя значэнні фармантных частот. Гэта азначае, што на аснове акустычнай класіфікацыі галосных розных людзей нельга ажыццявіць іх аўтаматычнае распазнаванне. Таму акустычную класіфікацыю галосных на аснове фармантных частот нельга лічыць канчатковай. Пошукі новых, больш надзейных акустычных параметраў неабходна працягваць.

З-за адсутнасці надзейных параметраў немагчыма зараз раздзяліць і зычныя гукі ўнутры названых вышэй класаў. У аснове такога падзелу павінны ляжаць парадыгматычныя прыкметы, але акустычная фанетыка яшчэ не назапасіла дастаткова звестак пра іх. Тое, што межы гэтых прыкмет зычных не супадаюць з межамі сегментаў, значна ўскладняе іх пошук. У шумавых сегментах зычных частотныя характарыстыкі шуму цесна звязаны са спектральнымі характарыстыкамі галосных. Таму і акустычныя ўласцівасці зычных зменлівыя. Напрыклад, спектр выбуху [п] моцна залежыць ад таго, перад якім галосным або зычным знаходзіцца гэты гук. Тое ж адбываецца з выбухам іншых глухіх выбухных. У выніку спектральныя характарыстыкі [п] у адной пазіцыі могуць супадаць са спектральнымі характарыстыкамі [т] у іншых. Шум фрыкатыўных зычных і афрыкат таксама змяняецца ў залежнасці ад пазіцыі. Калі дадаць да гэтага варыятыўнасць міждыктарскую, дык становіцца зразумелым, што вельмі цяжка выбраць прынцып класіфікацыі зычных унутры тых класаў, якія выдзяляюцца на аснове прыкмет сінтагматычных кантрастаў.

Пры ажыццяўленні поўнай акустычнай класіфікацыі зычных, відавочна, неабходна выкарыстоўваць і інфармацыю, якая змяшчаецца ў пераходных участках суседніх галосных. Паколькі, як ужо адзначалася, месца ўтварэння зычных абумоўлівае заканамерныя змены частаты фармант папярэдніх і наступ-

ных цвёрдых зычных да артыкуляцыйных класаў. Напрыклад, калі назіраецца паніжэнне частаты фармант на пачатковым пераходным участку, то галоснаму папярэднічае губны зычны, пры павышэнні першай фарманты і паніжэнні другой — пярэднеязычны, паніжэнні толькі першай — заднеязычны і г. д. Класіфікацыю мяккіх зычных такім шляхам ажыццявіць нельга, бо рух фармант на пераходных участках галосных пасля ўсіх мяккіх практычна аднолькавы.

Рыс. 60. Класіфікацыя галосных беларускай мовы па значэннях першай і другой фармант

ных галосных па іх пачатковаму і канцавому пераходных участках, можна зрабіць пэўныя вывады аб прыналежнасці папярэдніх і наступ-

Абмежаванні акустычнай класіфікацыі, характэрныя для галосных, пры выкарыстанні інфармацыі аб іх пераходных участках пашыраюцца і на акустычную класіфікацыю зычных.

## § 2.12. ЗМЯНЕННІ ГУКАЎ У МОЎНАЙ ПЛЫНІ

У слове кожны гук змяняе свае артыкуляцыйныя і акустычныя ўласцівасці пад уплывам суседніх гукаў. Артыкуляцыйныя вымярэнні сведчаць, што ступень змянення галосных залежыць ад фанетычнай прыроды папярэдніх і наступных зычных. Гэту залежнасць неабходна чакаць і на акустычным узроўні, паколькі паміж артыкуляцыяй гукаў і іх акустычнымі асаблівасцямі існуе цесная ўзаемасувязь.

Асаблівасцю ўзаемадзеяння галосных з суседнімі губнымі зычнымі з'яўляецца тое, што губныя зычныя садзейнічаюць паніжэнню частаты першай і другой фармант. Велічыня такога паніжэння залежыць ад характару галоснага, а таксама ў некаторай меры ад спосабу ўтварэння губных зычных.

Прааналізаваўшы залежнасць змянення галоснага ад спосабу ўтварэння губных зычных [п], [б], [м], [в], [ф], можна зрабіць вывад, што найбольшая варыятыўнасць другой фарманты на пераходным участку [а] адзначаецца ў суседстве з [в], [ф], пасля якіх велічыня $\Delta F_2$ (розніца ў частаце другой фарманты на пераходным і стацыянарным участку) складае 750—950 Гц. Змычныя [п], [б] і [м] уздзейнічаюць на [а] ў меншай ступені ($\Delta F_2$ складае 375—475 Гц). У сваю чаргу цвёрдыя губныя, калі меркаваць па дыяпазоне змянення першай фарманты, уплываюць на фармантную структуру [а] ў большай меры, чым адпаведныя мяккія.

Прыкладна такі ж характар узаемадзеяння мае месца і ў злучэннях губных з галосным [е]. Перапад частаты другой фарманты на пераходным участку галоснага звычайна большы пасля [в], [ф] (655 Гц), у той час як пасля змычных губных гэты паказчык знаходзіцца ў межах 250—450 Гц.

Аналіз варыятыўнасці акустычных характарыстык галосных [ы], [і] паказвае, што ступень змянення гэтых гукаў невялікая: $\Delta F_1$ — 150—280 Гц. Вывучэнне варыятыўнасці $F_2$ ускладняецца тым, што па сваёй акустычнай прыродзе [ы] характарызуецца непастаянствам частаты $F_2$, якая пастаянна павышаецца ад пачатку да канца гучання. Другая ж фарманта галоснага [і] на пераход-

ным участку характарызуе больш палаталізаванасць зычнага, чым яго губны характар. Такім чынам, можна сцвярджаць, што галосныя [ы], [і] змяняюцца ў мінімальнай ступені, што пацвярджаецца і артыкуляцыйнымі вымярэннямі.

У злучэннях губных зычных з лабіялізаванымі галоснымі [о], [у] розніца ў частаце другой фарманты на пераходным і на стацыянарным участку звычайна невялікая — 75—250 Гц або нават не адзначаецца зусім, што дазваляе гаварыць пра мінімальную ступень уплыву гэтых зычных. Так, у спектры [о] частата пераходнага ўчастка другой фарманты змяняецца ў межах 150—225 Гц пасля [п], [б], [м], а пасля фрыкатыўных [в], [ф] гэтая велічыня ўзрастае нязначна — да 250—290 Гц. Рух другой фарманты ў спектры [у] выражаны яшчэ слабей і ў некаторых выпадках не адзначаецца.

У злучэннях насавых [м], [м'], [н], [н'] з наступнымі галоснымі, як паказваюць артыкуляцыйныя вымярэнні, адзначаецца запознены пад'ём мяккага паднябення, што прыводзіць да назалізацыі галосных. У спектры яна выражаецца ў выглядзе дадатковай фарманты, якая супадае па частаце з насавой фармантай суседняга зычнага. Спектральны аналіз злучэнняў галосных з насавымі зычнымі ў беларускай мове сведчыць, што велічыня назалізацыі галоснага залежыць ад яго ўласных характарыстык: з павышэннем рада ступень назальнай афарбоўкі памяншаецца.

У злучэннях галосных з папярэднімі пярэднеязычнымі фармантная карціна пераходнага ўчастка мае наступны выгляд: другая фарманта паступова паніжаецца да стацыянарнага ўчастка, а першая павышаецца. Такая заканамернасць найбольш відавочна праяўляецца ў спектры галоснага [а]. Найбольшая ступень адаптацыі галоснага адзначаецца перад змычнымі кансанантамі [д], [т], [ц], дзе $\Delta F_2$ адпавядае 375—450 Гц. У злучэннях са шчыліннымі другая фарманта ў спектры гэтага галоснага паніжаецца на 150—225 Гц. У суседстве з санорнымі [н], [л], [р] галосны змяняецца ў нязначнай ступені.

Для злучэнняў пярэднеязычных з галоснымі задняга рада [о], [у] таксама характэрна паніжэнне другой фарманты і павышэнне першай на пачатковым пераходным участку. Гэта азначае, што язык у пачатковай фазе вымаўлення галоснага займае больш пярэдняе становішча, чым на стацыянарным. Ступень змянення залежыць у першую чаргу ад месца ўтварэння зычнага ў злучэнні. Так, пасля [т], [д], [ц] адбываецца больш значнае паніжэнне частаты другой фарманты [о], чым пасля [с], [з], [ш], [ж], [ч] і тым больш пасля [л], [н], [р]. Калі ў суседстве з зычнымі першай групы $\Delta F_2$ дасягае звычайна 450—600 Гц, то пасля шчылінных гэта велічыня складае 300—375 Гц. Санорныя [л], [н], [р] амаль не змяняюць частату гэтай фарманты на пераходным участку. Змяненне акустычных характарыстык другога галоснага задняга рада [у] мае тыя ж асаблівасці, што і [о]. Заднеязычныя [г], [к], [х] не ўплываюць на другую фарманту галосных на пераходных участках, першая фарманта некалькі паніжаецца.

Зычныя перад галоснымі змяняюцца ў меншай ступені, чым галосныя пасля зычных. Змены зычных у акустычных адносінах адзначаюцца ў злучэннях з галоснымі [о], [у] па лабіялізацыі, а ў радзе выпадкаў і па месцы ўтварэння.

Уплыў лабіялізаваных галосных на спектральную карціну фрыкатыўных выражаецца ў паніжэнні частаты шуму, а ў санорных паніжаецца частата фармант на ўчастку, які прымыкае да галоснай. Частата шуму выбухных зычных у суседстве з [о], [у] карэлюе з частатой фармант галосных. Нелабіялізаваныя галосныя [а], [е], [і], [ы] аказ-

ваюць меншы ўплыў на папярэднія зычныя. У гэтым выпадку назіраецца пэўная адпаведнасць фармантнай структуры галосных. Гэта асаблівасць найбольш поўна выражана ў выбухных зычных, а таксама ў фрыкатыўных [ф], [х].

Найбольшыя змены гукаў у слове адбываюцца ў спалучэннях зычных з зычнымі і галосных з галоснымі. Гэтыя змены зводзяцца да асіміляцыі, якая фіксуецца не толькі шляхам вымярэнняў, але даступна і непасрэднаму назіранню. Важнай асаблівасцю асіміляцыйных працэсаў з'яўляецца тое, што яны ў спалучэннях зычных прыводзяць не толькі да частковых змен гукаў, якія адчуваюцца на слых, але і могуць выклікаць поўнае прыпадабненне. Пры поўнай асіміляцыі адзін зычны поўнасцю прыпадабняецца да другога, абодва гукі становяцца якасна аднолькавымі і зліваюцца ў адзін падоўжаны гук. Пры частковай асіміляцыі суседнія гукі становяцца падобнымі адзін на аднаго толькі па некаторых прыкметах.

Шляхам поўнай асіміляцыі адбываецца змяненне свісцячых [з], [с] перад [ш], [ж]: *зжаць* [ж:ац'], *сшыць* [ш:ыц'], а таксама пераход [ж], [ш] у свісцячыя: *мыешся* [мы́ес':а]. У выніку поўнай асіміляцыі ўтварыліся падоўжаныя зычныя: *галлё, смецце, палоззе, раздарожжа, сучча, насенне, увушшу* і г. д. Гэтым жа працэсам абумоўлена з'яўленне [ц] у інфінітыве і форме трэцяй асобы адзіночнага і множнага ліку дзеясловаў цяперашняга і будучага часу: *купацца, мыецца, спрачаюцца, замацуюцца.* Поўная асіміляцыя адзначаецца таксама ў злучэнні [дн]: [с'о́н:я] з [с'аго́н:'а], якое ў сваю чаргу з *сягодня.*

Да няпоўнай асіміляцыі адносяцца:

1) аглушэнне звонкіх перад глухімі зычнымі: *казка* [ка́ска], *бабка* [ба́пка];

2) азванчэнне глухіх перад звонкімі зычнымі: *носьбіт* [но́з'біт], *касьба* [каз'ба́];

3) змякчэнне цвёрдых перад мяккімі зычнымі: *смех* [с'м'ех], *ссячы* [с':ачы́];

4) змяненне свісцячых перад шыпячымі зычнымі [ч], [дж]: *возчык* [во́шчык].

Па напрамку ўздзеяння аднаго зычнага на другі адрозніваюць рэгрэсіўную і прагрэсіўную асіміляцыю зычных. Прагрэсіўная асіміляцыя мае месца ў тых злучэннях, дзе на наступны зычны ўплывае папярэдні гук, у выніку чаго наступны зычны асімілюе па пэўных фанетычных рысах з папярэднім гукам. Дзеянне рэгрэсіўнай асіміляцыі ажыццяўляецца ў адваротным напрамку: фанетычныя характарыстыкі папярэдняга зычнага змяняюцца ў выніку ўздзеяння наступнага зычнага. У беларускай мове найбольш часта сустракаецца рэгрэсіўная асіміляцыя. Названыя вышэй выпадкі няпоўнага прыпадабнення з'яўляюцца прыкладамі рэгрэсіўнай асіміляцыі.

Прагрэсіўная асіміляцыя зычных сустракаецца радзей. У яе выніку ўзніклі падоўжаныя зычныя, калі [й] поўнасцю прыпадобніўся да папярэдняга зычнага (*суддзя* — з [судьйа́]).

З асіміляцыйнымі працэсамі звязана таксама сцяжэнне зычных пры словаўтварэнні. Зычныя [д], [т], [ч], [к] і наступны суфіксальны [с] пераўтвараюцца ў [ц]: *па+люд+ +ску — па-людску* [пал'ýцку], *агент+ств+а — агенцтва, ткач+ +ск+і — ткацкі, казак+ск+і — казацкі.*

Змены, якія абумоўлены суседствам зычных з галоснымі і зычных з зычнымі, не толькі адлюстроўваюць гукавыя асаблівасці мовы на сучасным этапе, але і даюць магчымасць рабіць прагноз развіцця фанетычнай сістэмы ў будучым.

*Раздзел* 3

# УСПРЫМАННЕ ГУКАЎ МОВЫ

## § 3.1. СУВЯЗЬ АРТЫКУЛЯЦЫЙНЫХ І АКУСТЫЧНЫХ ХАРАКТАРЫСТЫК ГУКАЎ З ІХ УСПРЫМАННЕМ

Аналіз артыкуляцыі і акустыкі гукаў мовы паказвае, што яны істотна адрозніваюцца ад усіх іншых гукаў. Яны вельмі кароткія, усе іх фізічныя параметры няўстойлівыя і моцна змяняюцца ад умоў ужывання. Моўная плынь характарызуецца як элементамі дыскрэтнасці, так і элементамі бесперапыннасці, прычым у звычайнай размове пераважаюць апошнія. Аднак носьбіты мовы ўспрымаюць яе лёгка і стабільна.

Гэта стабільнасць і лёгкасць успрымання пры вельмі нявыгадных умовах наводзіць на думку, што ўспрыманне мовы нейкім чынам адрозніваецца ад успрымання іншых гукавых сігналаў і што агульная тэорыя слыхавога ўспрымання не можа быць выкарыстана для тлумачэння працэсу ўспрымання мовы. У сувязі з гэтым на пачатку 50-х гадоў і ўзнікла маторная тэорыя [1]. Сутнасць яе заключаецца ў тым, што чалавек, пачуўшы моўны сігнал, уяўляе, якія артыкуляцыі патрэбны для таго, каб утварыць гэты сігнал, запамінае іх і ў далейшым не на акустычнай, а на артыкуляцыйнай аснове распазнае яго. Дапускалася пры гэтым, што на ўзроўні артыкуляцыйных каманд — нервовых імпульсаў, якія прыводзяць у рух органы мовы (гл. рыс. 1), фанемы існуюць як дыскрэтныя і досыць стабільныя паслядоўнасці. У выніку рознай інерцыйнасці органаў мовы яны рэалізуюцца ў складаную карціну моўнай плыні з элементамі дыскрэтнасці і бесперапыннасці ва ўсёй іх наяўнай варыятыўнасці.

Прыхільнікі гэтай тэорыі імкнуліся паказаць большую стабільнасць артыкуляцыйных каманд у параўнанні з акустычным эфектам, але поспех аказаўся мінімальным. З пункту погляду маторнай тэорыі немагчыма разумець мову да таго часу, пакуль чалавек не навучыцца на ёй гаварыць. Але рад агульнавядомых фактаў супярэчыць гэтаму. Дзеці звычайна пачынаюць разумець мову раней, чым навучацца гаварыць. Вядома таксама пасіўнае валоданне другой мовай, якое заключаецца ў тым, што чалавек разумее другую мову, але не можа на ёй гаварыць або гаворыць вельмі дрэнна. Паколькі ўсё гэта супярэчыць маторнай тэорыі, прыхільнікаў яе стала значна менш.

Прыхільнікі другой, сенсорнай, тэорыі [2] лічаць, што ў аснове ўспрымання гукаў ляжаць іх акустычныя прыкметы і ўвядзенне артыкуляцыйных элементаў ва ўспрыманне лішняе, паколькі існуюць заканамерныя суадносіны паміж артыкуляцыямі і

---

[1] Liberman A. M. Some results of research on speech perception // Journal of Acoust. Soc. Am., 1957. V. 29. P. 117—123.

[2] Fant G. Sound, features and Perception // Proceedinge of the Sixth International Congress of Phonetic Sciences. Prague, 1967. P. 49—57.

акустычнымі якасцямі гукаў. Калі ўлічыць, што абедзве тэорыі лічаць зыходным момантам для ўспрымання акустыку гукаў, то перавод гукавой хвалі ў адпаведныя артыкуляцыі не дае нічога новага, апрача эканоміі памяці для фанетычных катэгорый: паводле сенсорнай тэорыі, неабходна памяць для захавання акустычных і артыкуляцыйных вобразаў, у той час як маторная тэорыя прадугледжвае захаванне толькі артыкуляцыйных вобразаў.

Перад сенсорнай тэорыяй ва ўсёй складанасці паўстае праблема звядзення мноства гукаў з шырокай варыятыўнасцю да значна меншай колькасці гукавых вобразаў. Першапачаткова дапускалася, што, нягледзячы на варыятыўнасць, група гукаў, якія суадносяцца з адной фанемай, захоўвае пэўныя ўласцівасці, што складаюць інварыянт фанемы. Аднак шматгадовыя пошукі інварыянтных рыс не прывялі да поспеху. Прасцей і больш верагодна тлумачыцца звядзенне мноства гукавых варыянтаў да параўнальна невялікай колькасці фанем на аснове агульнай уласцівасці ўспрымання — яго катэгарыяльнасці, якая заключаецца ў тым, што на аснове некаторых характэрных рыс рада гукаў іх адносяць да пэўнай гукавой катэгорыі, нягледзячы на тое, што яны могуць істотна адрозніваццa ўнутры гэтага рада.

Іменна катэгарыяльнасць забяспечвае магчымасць успрымання асобных фанетычных элементаў у тых выпадках, калі ў моўнай плыні прадстаўлена няпоўная фанетычная інфармацыя аб іх або гэта інфармацыя змяняецца ў такой ступені, што немагчыма выявіць якія-небудзь інварыянтныя прыкметы. Аднясенне таго або іншага гука да пэўнай катэгорыі, такім чынам, заключаецца як у пошуку прыкмет, характэрных для гукавой катэгорыі, так і ў ацэнцы імавернасці паяўлення гэтай катэгорыі на аснове ўліку самай рознай нефанетычнай інфармацыі. Якое нязначнае месца ў гэтым працэсе могуць займаць прыкметы катэгорыі, можна паказаць на шматлікіх прыкладах. Слова з адсутнасцю адной літары *заб...ць* лёгка ўзнаўляецца ў кантэксце *З ружжа можна заб...ць каня як забіць,* у той час як у кантэксце *Гэта нельга заб...ць як забыць.*

Сувязь паміж артыкуляцыйнымі і акустычнымі параметрамі з пункту погляду сенсорнай тэорыі захоўваецца, хоць яна не выступае так відавочна, як у маторнай. Сапраўды, па абедзвюх тэорыях пачатковым этапам успрымання з'яўляецца ўздзеянне акустычнай хвалі на орган слыху. Акустычная хваля, акрамя інфармацыі аб дзеяннях органаў мовы пры моваўтварэнні, утрымлівае і інфармацыю аб асяроддзі (пабочныя шумы). Аднак інфармацыя аб асяроддзі не можа быць выкарыстана для распазнавання выказвання, таму далейшай апрацоўцы можа быць падвергнута толькі інфармацыя аб моваўтварэнні. І хоць, згодна з сенсорнай тэорыяй, гэта інфармацыя на ўсіх этапах захоўваецца ў акустычнай форме, яна заўсёды можа быць пераўтворана ў артыкуляцыйную.

Суадноснасць і магчымасць пераўтварэння адной формы інфармацыі ў іншую і абумоўлівае той жыццёва відавочны факт, што дзіця спачатку навучаецца слухаць, а пасля гаварыць. Аднак тугавухія людзі досыць часта ў выніку спецыяльнай трэніроўкі добра распазнаюць вусную мову па артыкуляцыі, і гэта зрокавае ўспрыманне артыкуляцыі бывае настолькі паспяховым, што субяседнік з цяжкасцю верыць, што гаворыць з хворым чалавекам.

Такім чынам, якая тэорыя ўспрымання мовы ні аказалася б справядлівай, артыкуляцыйныя і акустычныя ўласцівасці гукаў непарыўна звязаны паміж сабой. Пры гэтым у людзей з нармальным слыхам зрокавая інфармацыя аб рухах органаў мовы з'яўляецца дадатковай, як

і ў выпадках, калі глухата наступае пасля таго, як чалавек авалодаў мовай. Несумненна, іменна слыхавая сістэма з'яўляецца вядучай ва ўспрыманні мовы. Як было паказана вышэй, у акустыцы сігналу не можа быць нічога звыш таго, што абумоўлена рухамі артыкуляцыйных органаў. Ва ўспрыманні ж у сувязі з яго катэгарыяльнасцю можа паяўляцца інфармацыя аб гуках, якой няма ні ў акустыцы, ні ў артыкуляцыі. Таму суадносіны паміж фізічным бокам моўнага сігналу і адзінкамі ўспрымання аказваюцца вельмі складанымі, і навука да гэтага часу далёка не ўсё ведае пра іх.

## § 3.2. СЛЫХАВЫ АПАРАТ

Успрыманне мовы ажыццяўляецца з дапамогай слыхавой сістэмы, якая складаецца з перыферыйнай і цэнтральнай частак, а таксама нервовых шляхоў, якія звязваюць абедзве гэтыя часткі. Даследаванні апошніх дзесяцігоддзяў паказалі, што апрацоўка інфармацыі аб гуках мовы адбываецца ў левым паўшар'і, у той час як за інтанацыйную інфармацыю адказвае правае.

Важнейшую ролю ва ўспрыманні гукавой мовы адыгрывае перыферыйная частка слыхавой сістэмы — вуха, якое складаецца з трох частак: вонкавага, сярэдняга і ўнутранага (рыс. 61). *Вонкавае вуха* — гэта вушная ракавіна і слыхавы праход, які заканчваецца тонкай мембранай — барабаннай перапонкай, што мае від конуса, павернутага сваёй вяршыняй да сярэдняга вуха. *Сярэдняе вуха* ўяўляе сабой поласць, запоўненую паветрам, у якой знаходзяцца тры костачкі: малаточак, накавальня і стрэмечка. Малаточак прымацаваны адным канцом да барабаннай перапонкі, а другім датыкаецца да накавальні, якая пры дапамозе звязкі злучана са стрэмечкам. Другім канцом стрэмечка ўваходзіць у авальнае акно, да якога яно прымацавана кругавой звязкай. Сярэдняе вуха звязана каналам (еўстахіевай трубой) з насаглоткай, дзякуючы чаму барабанная перапонка не рэагуе на павольнае змяненне ціску акаляючага паветра.

Важнейшай часткай *унутранага вуха* з пункту погляду ўспрымання мовы з'яўляецца ўлітка — косны канал накшталт смаўжа, запоўнены салявым растворам. Улітка пачынаецца авальным акном, прыкрытым мембранай, якая прыводзіцца ў рух стрэмечкам пры змяненні знешняга ціску. Паколькі раствор, які запаўняе ўлітку, не сціскаецца, для змяншэння ціску маецца другая адтуліна, закрытая тонкай мембранай,— круглае акно. Унутры ўліткі знаходзяцца дзве мембраны, якія падоўжна дзеляць яе на тры вузкія хады, кожны з якіх запоўнены вадкасцю. Для ўспрымання гукаў значэнне мае толькі асноўная мембрана, якая цягнецца ад пачатку ўліткі амаль да самага яе канца, даўжынёй 3,5 см, а шырыня яе ўзрастае ад авальнага акна да вяршыні. На мембране — размешчаны валасковыя клеткі (частка складанай структуры — корціева органа). Такіх валасковых клетак налічваецца прыблізна 25—30 тыс. Яны ўтвараюць два слаі, раздзеленыя дугой. Клеткі, якія знаходзяцца з боку дугі, бліжэйшага да знешняга боку ўліткі, называюцца знешнімі, а тыя, якія знаходзяцца па другі бок дугі, называюцца ўнутранымі. Колькасць знешніх валасковых клетак перавышае 20 тыс., і на кожнай з іх можа быць да сотні валаскоў. Унутраных валасковых клетак усяго каля 3,5 тыс.

Змяненні знешняга ціску праз ваганні барабаннай перапонкі з дапамогай костачак сярэдняга вуха перадаюцца на авальную мембрану, якая ў сваю чаргу аказвае пераменны ціск на вадкасць, што знаходзіц-

ца над асноўнай мембранай. Ён вельмі хутка (за некалькі мільённых доляй секунды) распаўсюджваецца па ўсёй даўжыні мембраны і прымушае яе вагацца. Гэта ваганне пачынаецца каля авальнага акна і паступова рухаецца да вяршыні ўліткі. Паколькі мембрана вузейшая




Рыс. 61. Будова вуха: *1* — вушны канал, *2* — барабанная перапонка, *3* — малаточак, *4* — накавальня, *5* — стрэмечка, *6* — мембрана, *7* — корціеў орган, *8* — улітка, *9* — асноўная мембрана, *10* — слыхавы нерв

напачатку і пругкасць яе ўзрастае да вяршыні, амплітуда па меры аддалення ад круглага акна павялічваецца. Пункт на мембране, у якім ваганне дасягае максімальнага памеру, залежыць ад частаты гука. Для гукаў высокай частаты максімальны зрух асноўнай мембраны назіраецца каля авальнага акна, для самых нізкіх ён перамяшчаецца аж да вяршыні і там дасягае найбольшай амплітуды. Гэта азначае, што розныя гукавыя частоты пераўтвараюцца ў зрухі асноўнай мембраны ў розных яе месцах, што і дазваляе сцвярджаць, што вуха як бы праводзіць спектральны аналіз гукавога сігналу. Пры руху асноўнай мембраны знешнія валасковыя клеткі дэфармуюцца значна больш, чым унутраныя, што выклікае актыўнасць звязаных з імі нервовых валокнаў, у якіх узнікаюць электрычныя імпульсы, што распаўсюджваюцца затым па слыхавым нерве.

Такім чынам, вуха выконвае сваю асноўную ролю — пераўтварае ваганні паветра ў электрычныя імпульсы і робіць даступным далейшы аналіз гукаў нервовай сістэмай. З яго ўласцівасцямі як аналізатара і пераўтваральніка гукавой энергіі ў электрычную, безумоўна, цесна звязаны і імі абумоўлены ўласцівасці гукаў мовы.

Даследаванні паказалі, што магчымасці вуха чалавека досыць вялікія. Яно можа ўспрымаць гукі па частаце ад 20 да 20 000 Гц, па амплітудзе — ад 0 да 125 дБ. Пры параўнанні гукаў у паласе найбольшай адчувальнасці (1000—3000 Гц) вуха ўспрымае іх як розныя, калі яны адрозніваюцца па частаце ўсяго на 20 Гц, а па амплітудзе — на 0,5 дБ. Падлічана, што чалавек можа адрозніваць да 350 тыс. гукаў.

У працэсе ўспрымання мовы чалавеку не так часта прыходзіцца адрозніваць і параўноўваць гукі, за выключэннем дыферэнцыяцыі суседніх па часу сегментаў. У астатнім пры слуханні адбываецца працэс атаясамлівання, або распазнавання, гукаў, які прадугледжвае наяўнасць у памяці слыхавых вобразаў. Таму ўспрыманне павінна абапірацца на здольнасць запамінаць гукі, але яна ў чалавека значна меншая, чым здольнасць адрозніваць іх пры параўнанні. Шматлікія эксперыменты паказалі, што запомніць і распазнаць чалавек можа не больш чым 7±2 гукавыя катэгорыі.

Паколькі пры атаясамліванні чалавек можа запомніць і распазнаць значна менш гукаў, чым фанем, у большасці моў свету, а пры параўнанні адрознівае значна большую колькасць гукаў, чым фанем, у любой мове свету, узнікае пытанне, якім чынам працуе механізм успрымання.

У выніку эксперыментаў устаноўлена, што чалавек адносіць да адной фанемнай катэгорыі вялікую колькасць гукаў, не заўважаючы розніцы паміж імі. Калі гук можа быць аднесены і да суседняй фанем-

най катэгоры, г. зн. знаходзіцца на фанемнай мяжы, то адбываецца абвастрэнне слыху. Калі розніца паміж гэтым і іншымі гукамі такая ж або нават меншая, чым розніца паміж гукамі, якія належаць данай фанемнай катэгорыі, то на фанемнай мяжы яна ўлаўліваецца слыхам, у той час як унутры фанемнай катэгорыі на такую ж розніцу чалавек не рэагуе.

Дзякуючы абвастрэнню на фанемных межах слых павялічвае сваю магчымасць атаясамлівання гукавых адзінак. Адносна ўзнікнення гэтай асаблівасці ёсць два верагодныя тлумачэнні. Паводле аднаго з іх, спачатку ўсе гукі былі аднолькава рознымі, а ў працэсе засваення мовы некаторыя з іх больш ясна дыферэнцыраваліся. Чалавек навучаецца не звяртаць увагі на адрозненні, якія не маюць значэння для камунікацыі. З'яву аб'яднання першапачаткова розных гукаў у адну катэгорыю назвалі *набытым падабенствам*. Другое тлумачэнне зыходзіць з таго, што спачатку ўсе гукі з'яўляюцца аднолькава цяжкімі для адрознення, слаба дыферэнцыраванымі. У далейшым чалавек набывае здольнасць больш рэзка адрозніваць некаторыя з іх у тых выпадках, калі гэта важна для разумення (на фанемных межах). З'яву размежавання першапачаткова падобных гукаў можна назваць *набытым размежаваннем*.

Сучасны стан эксперыментальнай фанетыкі не дае падстаў аддаць перавагу якому-небудзь з гэтых тлумачэнняў. Тым не менш з чыста лінгвістычнага пункту погляду відавочна, што ў любым выпадку чалавек навучаецца выяўляць фанемныя межы ў працэсе засваення мовы, бо гэтыя межы не аднолькавыя для розных моў нават пры наяўнасці ў іх сходных гукавых катэгорый. Паколькі гукі ў слове спалучаюцца не адвольна, а на аснове пэўных заканамернасцей, то распазнаванне гукавых элементаў значна аблягчаецца, бо адзін распазнаны элемент дапамагае здагадацца, якімі могуць быць іншыя. Такім чынам, абвастрэнне слыху толькі на фанемных межах і заканамернасці гукавой будовы слова дазваляюць чалавеку справіцца з высокай варыятыўнасцю гукаў.

Гукі мовы — гэта не стацыянарныя нязменныя фізічныя з'явы. Яны змяняюцца, часта такім чынам, што нельга знайсці нават невялікія пастаянныя ўчасткі, аднак ва ўспрыманні мы гэтага не заўважаем. Таму відавочна, што ў працэсе ўспрымання гукавой абалонкі мовы дзейнічаюць пэўныя механізмы, якія дазваляюць чалавеку на аснове зменных фізічных параметраў ствараць цэласны гукавы вобраз. Безумоўна, тут важную ролю адыгрывае маскіроўка, якая заключаецца ў тым, што папярэднія або наступныя акустычныя элементы перастаюць заўважацца як нешта асобнае, калі яны адрозніваюцца ад якога-небудзь іншага элемента па сваіх фізічных уласцівасцях. У далейшым пры разглядзе асобных катэгорый гукаў і будзе паказана, якім чынам адбываецца фарміраванне цэласных гукавых вобразаў на аснове акустычных сегментаў, з якіх складаецца моўная плынь.

Разгледзім агульныя звесткі аб працэсе ўспрымання мовы. Слыхавая сістэма чалавека можа ўспрымаць шырокі спектр гукаў. Апрача гукаў мовы, гэта і гукі розных з'яў прыроды, машын і механізмаў, музычных інструментаў, галасы жывёл. Успрыманне вуснай мовы характарызуецца тым, што пры ўздзеянні гукавых хваль слухач распазнае сэнс пачутага.

У адпаведнасці з рознымі выпадкамі ўспрымання слых падзяляюць на нямоўны і моўны (рыс. 62). Моўны слых звычайна называюць фанетычным у процілегласць музычнаму.

*Нямоўны* слых забяспечвае ўспрыманне розных гукаў навакольна-

га асяроддзя чалавека, а таксама музычных гукаў. З узростам слыхавая адчувальнасць звычайна пагаршаецца. Але можа наглядацца і адваротная з'ява, калі, напрыклад, прафесійны слых ад шматгадовых заняткаў музыкай ці ў фанетыста, лагапеда становіцца з цягам часу




Рыс. 62. Віды слыху

больш вострым, чым быў у дзяцінстве. Высветлена, што ў чалавека слых найбольш адчувальны да гукаў з частатой 2000 Гц. Чым больш адрозніваецца частата гука ад гэтай частаты, тым менш адчувальная да яе наша слыхавая сістэма. Даследчыкі знайшлі характарыстыку абсалютнай слыхавой адчувальнасці дарослага чалавека на розных частотах, вастрыня слыху якога прызнаецца нармальнай, не парушанай захворваннем (рыс. 63).

*Моўны* слых складаецца з *фанематычнага* слыху і *інтанацыйнага*. Фанематычны слых, як гаворыць яго назва, звязаны з успрыманнем фанем. У гэтым выпадку галоўную ўвагу слухач звяртае на тэмбр успрымаемых гукаў, таму фанематычны слых па-іншаму яшчэ называюць тэмбравым слыхам. У адрозненне ад яго інтанацыйны слых суадносяць з успрыманнем інтанацыі, рытмікі і тэмпу мовы. Эксперыментальныя




Рыс. 63. Крывая вастрыні слыху на розных частотах

даследаванні паказваюць, што ў чалавека, які разумее на слых акрамя роднай яшчэ іншую блізкародную мову, фарміруецца побач з асноўнай яшчэ і другасная сістэма фанематычнага і інтанацыйнага слыху для ўспрымання іншай мовы [3]. Гэта азначае, што фанематычны слых у носьбіта кожнай мовы мае сваю спецыфіку. У чалавека-білінгва фанематычны слых адной мовы можа станоўча ці адмоўна ўплываць на фанематычны слых другой мовы ў залежнасці ад таго, наколькі аднолькавыя ці розныя перцэптыўныя характарыстыкі ў гукавых эталонаў гэтых моў [4].

---

[3] Велитченко Л. К. Развитие иноязычного речевого слуха у взрослых при овладении языком: Автореф. ... канд. психол. наук. Киев, 1981. 20 с.

[4] Джапаридзе З. Н. Перцептивная фонетика. Тбилиси, 1985. С. 15; Зиндер Л. Р. Общая фонетика. М., 1979. С. 105.

## § 3.3. МЕТАДЫ ДАСЛЕДАВАННЯ ЎСПРЫМАННЯ

Даследаванне ўспрымання гукавой матэрыі мовы павінна адказаць на пытанне: якім чынам чалавек на аснове акустычных сегментаў фарміруе ўспрымаемыя адзінкі — гукі. Калі да гэтага часу мы ўжывалі тэрмін «гук» як пэўную акустычную (ваганні паветра) або артыкуля-

цыйную (сукупнасць рухаў органаў мовы, ад якіх утвараецца ваганне паветра) з'яву, то з гэтага моманту гутарка будзе ісці аб псіхічнай перапрацоўцы гэтых фізічных з'яў, у выніку якой і ўзнікае элемент нашай свядомасці — гук мовы. Звычайна гэты псіхічны элемент і маюць на ўвазе, калі гавораць пра гукі мовы. Аднак, на жаль, у фанетычнай літаратуры да гэтага часу існуе блытаніна паміж гукам як фізічнай з'явай і тым гукам, пра які зараз ідзе гутарка. Як ужо было паказана вышэй, гуку мовы няма прамых адпаведнікаў ні ў акустыцы, ні на артыкуляцыйным узроўні. Паняцце аб ім фарміруецца ў свядомасці на аснове ўспрымання гукавой хвалі.

Паколькі гук мовы — паняцце свядомасці, у яго няма фізічных уласцівасцей, якія можна было б выявіць органамі пачуццяў. Але вылучэнне гукаў не выклікае асаблівых цяжкасцей, бо кожны носьбіт мовы валодае імі і, як толькі ўсвядоміць, што патрабуецца, можа вылучыць іх, як гэта, напрыклад, робяць вучні ў першым класе пад кіраўніцтвам настаўніка, раскладаючы словы на склады і на гукі. Чалавецтва ўсвядоміла існаванне гукаў мовы як псіхічных рэальнасцей вельмі даўно, дзякуючы чаму і стала магчымым літарнае пісьмо. Паколькі гук як псіхічную рэальнасць носьбіт мовы можа лёгка пераўтварыць з дапамогай органаў маўлення ў рэальнасць фізічную, літары і з'яўляюцца адпаведнікамі іменна гэтых псіхічных элементаў.

Толькі пасля таго як была высветлена ўся складанасць акустычнай і артыкуляцыйнай карцін мовы, узнікла пытанне, якім чынам на іх аснове фарміруюцца гукі мовы. Каб адказаць на яго, неабходна выявіць, як рэагуе чалавек на тую або іншую гукавую хвалю. Пакуль немагчыма прасачыць, якія працэсы адбываюцца ў нервовай сістэме чалавека пры ўспрыманні мовы, і таму адзіным шляхам для вывучэння слыху зараз з'яўляецца аналіз паказанняў чалавека, які ўспрымае спецыяльна падрыхтаваныя даследчыкам элементы мовы: сказы, словы, склады, акустычныя сегменты або іх часткі. У сувязі з гэтым і стаў шырока прымяняцца ў фанетыцы метад эксперымента. Звычайна эксперыментатар прапануе носьбітам мовы паслухаць які-небудзь участак з моўнай плыні ў магнітафонным запісе, затым у залежнасці ад задачы даследавання змяняе гэты ўчастак або падбірае іншы і зноў прапануе паслухаць. Розніца ў ацэнцы гэтых участкаў фіксуецца даследчыкам, і на аснове вынікаў такога праслухоўвання здабываюцца звесткі аб успрыманні вуснай мовы.

Неабходнай умовай атрымання карысных вынікаў такога даследавання з'яўляецца веданне фізічных уласцівасцей адрэзкаў гучання, якія прад'яўляюцца для праслухоўвання. Вось чаму эксперыменты па ўспрыманню мовы нельга праводзіць без фізічных вымяральных прыстасаванняў, пра якія гаварылася вышэй (асцылографы, спектрографы, вымяральнікі часу). Толькі яны дазваляюць выявіць, на якія фізічна розныя акустычныя элементы носьбіты мовы рэагуюць аднолькава, а на якія — па-рознаму.

Пакажам на прыкладзе, як адбываецца эксперымент. Важнейшым пытаннем успрымання мовы з'яўляецца пытанне аб тым, як аналізуе вусную мову яе носьбіт пры слуханні. Можна дапусціць, што пры гэтым чалавек раскладае словы на гукі, склады або цалкам успрымае ўсё слова і толькі пры неабходнасці робіць больш дробны аналіз. Для выяўлення гэтага рознымі даследчыкамі былі праведзены эксперыменты па хуткаму паўтарэнню пачутага. Прад'яўляліся склады, у састаў якіх уваходзілі зычны і галосны: [ка], [пы], [лу] і г. д. Пры гэтым дапускалася, што калі чалавек успрымае мову па складах, то ён не зможа пачаць правільна паў-

тараць пачутае да таго часу, пакуль не пачуе ўвесь склад. У сувязі з гэтым дапушчэннем у эксперыменце фіксаваўся час гучання складоў і час пачатку імітацыі. Было выяўлена, што пачатак правільнай імітацыі зычнага назіраецца значна раней, чым слухач праслухае галосны. Таму відавочна, што ў гэтым выпадку адбываецца ўспрыманне па гуках. Аднак у аналагічных эксперыментах іншымі даследчыкамі было паказана, што ў якасці адзінак успрымання выступаюць склады і нават у некаторых выпадках словы.

Такім чынам, эксперыменты як быццам даюць неадназначныя вынікі. Але паколькі ў іх дакладнасці не прыходзіцца сумнявацца, то застаецца дапусціць, што адзінка ўспрымання вуснай мовы не з'яўляецца пастаяннай: у адных выпадках праводзіцца аналіз па гуках, у іншых — па складах ці нават па цэлых словах. Такая зменлівасць тлумачыцца тым, што пры ўспрыманні выкарыстоўваецца не толькі інфармацыя аб фізічных якасцях гукавой хвалі, але і кантэкст, і сэнс выказвання, і пэўныя заканамернасці ў спалучальнасці гукаў. Пры ўспрыманні складоў адсутнічае якая-небудзь іншая інфармацыя, акрамя інфармацыі аб фізічных уласцівасцях гукавой хвалі, таму неабходны аналіз па гуках. Пры ўспрыманні больш буйных моўных адзінак павялічваецца колькасць нефізічнай інфармацыі, і чалавеку ўжо няма патрэбы праводзіць аналіз па гуках. Аднак заўсёды павінна існаваць магчымасць звярнуцца і да гукавога аналізу. І сапраўды, часта бывае так, што нейкае слова слухач не зразумеў, але яно захоўваецца ў яго памяці. Праслухаўшы нейкі новы кавалак вуснай мовы, ён раптам дакладна ўспамінае, што раней прагучала іменна такое слова, а не іншае.

Паколькі гукавы аналіз пры ўспрыманні з'яўляецца базавым, асноўным, а ўсе іншыя ўзнікаюць толькі пры пэўных умовах, найбольшую цікавасць і ўяўляе фарміраванне гукавых вобразаў.

Для дэталёвай ацэнкі вастрыні слыху асобнага чалавека існуе некалькі метадаў колькаснага вымярэння характарыстык яго слыхавой сістэмы. Гэтыя метады дазваляюць ацэньваць розныя віды слыху. Найбольш вядомыя сярод такіх метадаў танальная аўдыяметрыя, моўная аўдыяметрыя, мнагамернае шкаліраванне, вызначэнне разборлівасці мовы. У галіне эксперыментальнай фанетыкі ў сучасны момант выкарыстоўваюцца ўсе пералічаныя методыкі, у той час як пры правядзенні лагапедычнай і медыцынскай экспертызы выкарыстоўваюцца галоўным чынам танальная і моўная аўдыяметрыя. Танальная аўдыяметрыя дазваляе колькасна ацэньваць вастрыню танальнага слыху індывіда, і моўная аўдыяметрыя — вастрыню фанематычнага моўнага слыху.

Пры *танальнай аўдыяметрыі* ў якасці стымулаў, якія падаюцца для праслухоўвання чалавеку, выкарыстоўваюцца чыстыя гукі адной частаты з дыскрэтнай зменай гэтай частаты ў прамежку ад 100 да 10 000 Гц. Тэставыя гукі падаюцца чалавеку для праслухоўвання праз адзін тэлефонны навушнік. У выніку маецца магчымасць даследаваць слых манаўральна: знаходзіць шляхам вышэй апісаных выпрабаванняў аўдыяграму спачатку для аднаго вуха, затым для другога.

Акрамя вызначэння абсалютнага парога слыхавога адчування чалавека танальная аўдыяметрыя дае магчымасць вымяраць дыферэнцыяльны парог слыху на рознай частаце. Пад дыферэнцыяльным слыхам разумеюць здольнасць чалавека адрозніваць гукі адзін ад аднаго па частаце, амплітудзе ці даўжыні, калі яны праслухоўваюцца неўзабаве адзін за другім. Магчымасці такога адрознівання гукаў чалавекам вельмі вялікія. Пры параўнанні танальных гукаў у паласе найбольшай адчувальнасці вуха ўспрымае іх як

розныя, калі гукі адрозніваюцца па частаце ўсяго на некалькі герц. Як і абсалютны слых, дыферэнцыяльная слыхавая адчувальнасць можа змяняцца ў індывіда не толькі з узростам, але і пад уздзеяннем прафесійных яго заняткаў фанетычнай, лагапедычнай ці іншай аўдытарскай практыкай, заняткаў музыкай.

*Моўная аўдыяметрыя* заснавана на пасылцы слухачу не танальных, а моўных сігналаў, часцей за ўсё слоў [5]. Даследуемы чалавек павінен кожнае пачутае слова паўтарыць. Правільнае паўтарэнне прагучаўшага слова з'яўляецца больш надзейнай гарантыяй таго, што слых чалавека знаходзіцца ў норме. Ёсць некалькі разнавіднасцей моўнай аўдыяметрыі. Так, распрацавана методыка даследавання слыху шэптавай мовай, артыкуляцыйнымі табліцамі складоў, пазбаўленых сэнсавага значэння, табліцамі многаскладовых слоў з ахопам усіх зычных і галосных фанем мовы.

Пры характарыстыцы ўспрымання вуснай мовы вызначаюцца дзве інтэгральныя яе характарыстыкі: *разборлівасць* і *натуральнасць* гучання мовы. Лічыцца, што вуснае паведамленне гучыць для слухача неразборліва, калі ён не можа паўтарыць гэта паведамленне наогул ці паўтарае яго з памылкамі. Моўны сігнал становіцца неразборлівым для слухача па аб'ектыўных і па суб'ектыўных прычынах. Да аб'ектыўных прычын адносяцца скажэнні акустычных характарыстык сігналу, якія ўзнікаюць у канале перадачы сігнала да слухача.

Да суб'ектыўных прычын паніжэння разборлівасці мовы адносяць дзве прычыны: зніжэнне вастрыні слыху чалавека і недастатковы ўзровень валодання мовай. У гэтых выпадках фанетычны слых чалавека выклікае неразборлівасць гучання мовы. Доследы з носьбітамі беларускай мовы паказваюць, што пры агульным паніжэнні яе разборлівасці надзейнасць успрымання інтанацыі і рытму аказваецца больш устойлівай у параўнанні з надзейнасцю распазнавання фанемнага саставу мовы [6].

Пры вымярэнні разборлівасці мовы істотнае значэнне маюць не толькі характарыстыкі акустычнага сігналу, але і тып моўных адзінак, якія слухач павінен паўтараць. У залежнасці ад таго, гукі, склады, словы ці фразы прад'яўляюцца чалавеку для паўтарэння, слухач выкарыстоўвае розны ўзровень моўнага вопыту і нефанетычнай інфармацыі для распазнавання пачутага акустычнага сігналу. Адносна малы аб'ём свайго моўнага вопыту слухач выкарыстоўвае, калі яму прад'яўляюцца асобныя гукі ці склады, якія самі па сабе не нясуць сэнсу. Разборлівасць жа слоў і фраз залежыць не толькі ад якаснай перадачы іх фанетычных характарыстык, але і ад агульнага моўнага вопыту носьбіта мовы. Мерай разборлівасці прынята лічыць велічыню, якая вызначаецца адносінамі колькасці правільна прынятых моўных элементаў (гукаў, складоў, слоў або фраз) да адносна вялікай агульнай колькасці такіх перададзеных элементаў. Звычайна яе выражаюць у працэнтах [7].

Найменшым працэнтам разборлівасці характарызуецца пафанемная разборлівасць ці, іншымі словамі, разборлівасць сегментаваных з моўнай плыні і прад'яўленых ізалявана розных гукаў — зычных і галосных. Арганізацыя праслухоўвання ізаляваных галосных і вымярэнне пафанемнай іх разборлівасці цяжкасцей не складае. Аднак некаторыя

---

[5] Штерн А. С. Артикуляционные таблицы. Л., 1984.

[6] Выгонная Л. Ц. Характар памылковых адказаў пры слыхавой ідэнтыфікацыі ізаляваных слоў // Беларуская лінгвістыка. 1976. Вып. 10. С. 25—31.

[7] Покровский Н. Б. Разборчивость речи в различных акустических условиях и основы методики ее расчета // Восприятие звуковых сигналов в различных акустических условиях. М., 1956. С. 57—68.

беларускія зычныя, у прыватнасці выбухныя [б], [п], [д], [т], [к], нельга прад'яўляць для праслухоўвання ізалявана для ацэнкі іх разборлівасці, бо яны, сегментаваныя з плыні, не ўспрымаюцца наогул як гукі мовы. Санорныя [м], [н], [л], [ў], [в], [р], фрыкатыўныя [ш], [с], [х], [ф] гукі пры ізаляваным праслухоўванні ўспрымаюцца адэкватна. Працэнт разборлівасці галосных гукаў у націскных складах у сярэднім больш высокі, чым зычных. Аднак наогул пафанемная разборлівасць беларускай мовы невялікая і рэзка змяншаецца пры павелічэнні ўзроўню шуму. Больш высокім працэнтам вызначаецца складовая разборлівасць. Пры ўспрыманні ізаляваных слоў беларускай мовы назіраецца адносна высокі працэнт разборлівасці моўных адзінак: саміх слоў і тых фанем і складоў, якія іх утвараюць. Правільнае паўтарэнне слова чалавекам з'яўляецца сведчаннем таго, што ён успрыняў яго фанетычную форму і сэнс адэкватна.

Колькасныя вымярэнні паслоўнай разборлівасці беларускай мовы цікавыя абсалютнай велічынёй працэнта гэтай разборлівасці пры розных умовах успрымання адных і тых жа тэставых табліц (пры ўспрыманні ў шуме рознай інтэнсіўнасці). Аднак не менш цікавымі з'яўляюцца звесткі аб тым, як колькасна суадносяцца паміж сабою паслоўная і складовая разборлівасць. Такая залежнасць паслоўнай разборлівасці беларускай мовы ад складовай разборлівасці падаецца на рыс. 64. Дыяграма сведчыць аб тым, што ў сярэднім працэнт паслоўнай разборлівасці мовы з'яўляецца больш высокім у параўнанні са складовай разборлівасцю.

Яшчэ большай з'яўляецца разборлівасць беларускай мовы на ўзроўні ўспрымання асобных фраз. Вымярэнне фразавай разборлівасці дазваляе ацаніць і параўнаць надзейнасць успрымання фраз з рознымі сінтаксічнымі структурамі з апавядальнай, клічнай ці запытальнай інтанацыяй, з розным парадкам слоў.

Для ацэнкі якасці гучання вуснай мовы, акрамя яе разборлівасці, выкарыстоўваецца слыхавое вымярэнне натуральнасці гучання мовы [8]. У паняцце «натуральнае — ненатуральнае гучанне мовы» ўключаюцца розныя слыхавыя ацэнкі якасці мовы, якія адлюстроўваюць скажэнні яе пры розных захворваннях, пры наяўнасці ў маўленні акцэнта іншай мовы, у прыватнасці замежнай. Аб натуральнасці мовы гавораць таксама ў дачыненні да моўных сігналаў, сінтэзаваных на ЭВМ [9].




Рыс. 64. Залежнасць слоўнай разборлівасці беларускай мовы ад складовай разборлівасці (атрымана на матэрыяле 45 слоў і 150 складоў). Па гарызанталі — працэнт складовай разборлівасці, па вертыкалі — працэнт слоўнай разборлівасці

Натуральнасць гучання мовы не мае прамой сувязі з разборлівасцю. Зніжэнне разборлівасці слоў не абавязкова суправаджаецца памяншэннем натуральнасці іх гучання. Могуць назірацца выпадкі, калі натуральнасць мовы паніжаецца пры адначасовым узрастанні разборлівасці яе гучання. Такая з'ява мае

[8] Кузнецов В. Б., Фролов И. Г. Опыт оценки качества речевого сигнала // Материалы АРСО-12. Киев, 1982. С. 478.

[9] Кузнецов В. Б., Фролов И. Г. Оценка качества синтезированной речи методом семантически противоположных пар // Тезисы АРСО-11. Ереван, 1980. С. 162.

месца тады, калі паведамленне з мэтай павелічэння надзейнасці яго ўспрымання вымаўляецца занадта выразна з ненатуральна яскравай артыкуляцыяй ненаціскных галосных і канчаткаў слоў. Да такой мовы падобна сінтэзаваная (машынная) мова, атрыманая шляхам пафанемнага сінтэзу.

У апошні час распрацавана методыка даследавання фанематычнага слыху носьбіта мовы, якая атрымала назву «метад мнагамернага шкаліравання»[10]. Як вядома, чалавек можа ацэньваць на слых, у якой ступені адрозніваюцца па гучанню два гукі мовы, прад'яўленыя яму сумежна ў часе. Высветлілася, што розніцу ў гучанні ён можа ацэньваць колькасна ў балах. У выніку чалавек пры праслухоўванні прыпісвае розным парам гукаў (напрыклад, розным парам галосных) розныя велічыні «адлегласцей» паміж гукамі ў пары.

Калі разглядаць кожную такую бальную ацэнку асобна, то высвятляецца, што яна з'яўляецца адносна недакладнай, умоўнай і нерэгулярнай. Аднак у сукупнасці эксперымент па ацэнцы вялікай колькасці пар гукаў дае трывалыя і дакладныя звесткі аб фанематычным слыху чалавека. У прыватнасці, метад мнагамернага шкаліравання дазваляе вызначыць, колькі зычных і галосных псіхафанем складае перцэптыўную базу беларускай мовы. Акрамя таго, каштоўнымі з'яўляюцца звесткі аб ступені непадабенства псіхафанем ці, іншымі словамі, «перцэптыўнай адлегласці» паміж рознымі псіхафанемамі папарна, ацэненай у балах. Калі «адлегласць» паміж двума гукамі, ацэненая па мнагамернаму шкаліраванню, малая, то можна чакаць памылковых замен такіх гукаў аднаго на другі наогул пры ўсіх іншых выпадках успрымання гэтых гукаў у складзе любога вуснага паведамлення. І наадварот, калі «адлегласць» у балах паміж гукамі прызнаецца вялікай, памылковых узаемазамен паміж імі быць не павінна.

Пры падрыхтоўцы эксперымента па мнагамернаму шкаліраванню папярэдне рыхтуецца магнітафонная стужка з запісамі гукаў для прад'яўлення яе слухачу. Спачатку дыктар начытвае на магнітафон спіс слоў. Прадугледжваецца, каб усе словы былі вымаўлены дыктарам з прыкладна аднолькавай гучнасцю, аднолькавай вышынёй тону, у аднолькавым тэмпе. Галосныя гукі, неабходныя для эксперымента, у абраных словах павінны быць націскнымі. Сегментацыя адрэзкаў гэтых гукаў са слоў выконваецца на спецыяльным прыборы (сегментатары), які дазваляе з дапамогай слыхавога і зрокавага кантролю выдзяляць са слова неабходны сегмент.

Калі даследуецца ступень адрознення папарна К гукаў, то для перцэптыўнага эксперымента на магнітафонную стужку манціруецца запіс $K^2$ розных пар гукаў. Паўза паміж першым і другім гукам у пары выбіраецца невялікай (300 мс), каб слухачу лёгка было параўнаць іх гучанне. А паўза паміж парамі робіцца працяглай (4—5 с), каб слухач паспеў ацаніць у балах розніцу ў гучанні пачутых двух стымулаў і падрыхтавацца да праслухоўвання наступнай пары.

Ствараецца столькі розных пар, каб кожны з К гукаў аказаўся ў пары з кожным з астатніх. У пэўных парах кожны гук параўноўваецца сам з сабою. Гэтыя пары для слухача служаць узорам максімальнага падабенства гукаў. Для i-тага і j-тага гука ствараюцца дзве пары i—j і j—i, якія адрозніваюцца парадкам гукаў. У сукупнасці ўсе пары ўтвараюць табліцу або, інакш кажучы, матрыцу, у якой налічваецца К рад-

[10] Терехина А. Ю. Многомерное шкалирование: Обзор // Автоматика и телемеханика. 1973. № 7. С. 25—40; Шепард Р. Н. Многомерное шкалирование ■ безразмерное представление различий // Психологический журнал. 1980. № 4. С. 72.

коў і K слупкоў элементаў. На скрыжаванні і-тага радка і j-тага слупка гэтай матрыцы знаходзіцца элемент, які ўяўляе сабой пару, створаную з і-тага і j-тага гука. Усе $K^2$ пар гукаў азначанай матрыцы прад'яўляюцца затым у выпадковым парадку паслядоўна носьбіту мовы для праслухоўвання. Яму даецца інструкцыя пільна праслухоўваць кожную пару гукаў, суадносіць гукі адзін з другім па тэмбру гучання. І ў залежнасці ад таго, наколькі гукі ў пары далёкія па гучанню, слухач павінен ацаніць «адлегласць» паміж гукамі па пяцібальнай шкале. У пачатку для слыхавой адаптацыі перад эксперыментальнымі парамі падаецца запіс некалькіх дадатковых пар стымулаў. Эксперымент праводзіцца з кожным чалавекам некалькі разоў.

У выніку правядзення па такой методыцы эксперыментаў з носьбітамі мовы атрымліваецца спачатку квадратная (памерам $K \times K$), а затым трохвугольная матрыца суб'ектыўных ацэнак адлегласцей паміж пэўнай катэгорыяй гукаў. Матрыца такіх ацэнак дазваляе прааналізаваць тое, як далёка адзін ад аднаго размешчаны слыхавыя эталоны гукаў у перцэптыўнай прасторы носьбіта пэўнай мовы. Акрамя таго, спецыяльны фактарны аналіз атрыманай матрыцы дазваляе прыблізна выяўляць, па якіх прыкметах працякае ў чалавека слыхавы аналіз гукаў і якія суб'ектыўныя шкалы выкарыстоўваюцца пры гэтым.

## § 3.4. ХАРАКТАР УСПРЫМАННЯ ГАЛОСНЫХ ГУКАЎ

Праслухоўванне асобных участкаў галосных сегментаў паказвае значную іх неаднароднасць. Найбольш аднароднымі бываюць у асобных пазіцыях толькі [у] і [і], якія ад пачатку да канца гучання практычна не змяняюць сваіх якасцей і ўспрымаюцца як адпаведныя галосныя. Нязначна змяняецца ўспрыманне асобных участкаў ізалявана (без кантэксту) вымаўленых [а], [е], а ў некаторых выпадках і [о]. Пачатковы ўчастак нават ізалявана вымаўленага [ы] ўспрымаецца як [і], а канцавы — як [е].

Найбольш неаднародным па гучанню з'яўляецца [а] паміж зычнымі, дзе ён цалкам вызначаецца імі. Так, пасля губных зычных пачатак [а] набывае [о]-адценне, пасля цвёрдых зубных — [ы]-адценне, пасля мяккіх зычных — [і]-адценне. У той або іншай ступеніназіраецца неаднароднасць і іншых галосных паміж зычнымі, прычым папярэднія зычныя аказваюць большы ўплыў на галосныя, чым наступныя.

У сувязі з гэтым можна гаварыць аб моцнай залежнасці паміж папярэднім зычным і наступным галосным і слабай паміж папярэднім галосным і наступным зычным. Гэта пацвярджаецца праслухоўваннем пачатковых і канцавых участкаў галосных, якія суседнічаюць з адnымі і тымі ж зычнымі. Так, параўнанне на слых аднолькавых па даўжыні ўчасткаў [а] са складоў [ба] (пачатковы ўчастак) і [аб] (канцавы ўчастак) паказвае, што ў першым значна больш успрымаецца агубленасць, чым у другім.

Хоць у выніку акамадацыі (прыстасавання) змяняецца і характар папярэдніх зычных (асабліва месца іх утварэння) у залежнасці ад характару наступных галосных (галоўным чынам іх рада), аднак для ўспрымання большае значэнне маюць змяненні галосных. Па-першае, як было паказана вышэй, многія зычныя правільна распазнаюцца толькі тады, калі да іх далучаны пачатковы ўчастак галоснага. Па-другое, змяненні галосных пад уздзеяннем папярэдніх зычных уплываюць і на ўспрыманне галосных, бо на слых яны моцна адрозніваюцца ў некато-

рых акружэннях зычных ад тых жа галосных, вымаўленых асобна.

Выразаныя з кантэксту пасля цвёрдых і мяккіх зычных галосныя (напрыклад, [а] са слоў *пят, пат*) успрымаюцца як зусім розныя гукі. Эксперыменты па адрозненню галосных у пазіцыях адносна цвёрдасці-мяккасці паказалі, што носьбіты беларускай мовы на слых добра адрозніваюць па крайняй меры 10 галосных гукаў, калі яны выразаны з пазіцыі пад націскам. Такім чынам, адрозніваюцца не толькі [ы] і [і], але [е] і [ė], [а] і [ȧ], [о] і [ȯ], [у] і [ẏ]. (Кропка зверху транскрыпцыйнага знака ўжыта для абазначэння галосных гукаў пасля мяккіх зычных.) Што да варыянтаў галосных пасля іншых катэгорый зычных (напрыклад, губных), дык на слых яны не адрозніваюцца.

У ненаціскных пазіцыях колькасць пар галосных памяншаецца ў выніку акання і якання. Акрамя таго, не ў першым пераднаціскным складзе галосныя [ė], [і], [ȧ] ў выніку скарачэння працягласці іх гучання без кантэксту досыць часта ўспрымаюцца невыразна і іх можна зблытаць з іншымі галоснымі ў залежнасці ад кантэксту зычных. Так, паміж губнымі зычнымі замест [а] можа ўспрымацца [о], паміж мяккімі зычнымі [ė] часцей за ўсё ўспрымаецца як [і] і г. д.

Важным момантам успрымання галосных з'яўляецца тое, якім чынам на аснове вельмі непастаяннага спектра галосных фарміруецца цэласны слыхавы вобраз. У сувязі з тым што пераходныя ўчасткі галосных звычайна нясуць інфармацыю аб папярэдніх і наступных зычных, у прыватнасці аб мяккасці, можна дапусціць, што ў распазнаванні саміх галосных гэтыя ўчасткі адыгрываюць другасную ролю. Калі гэта так, то пры паслядоўным паступленні інфармацыі аб галосным сегменце наступны яго элемент павінен быць больш падобны да цэласнага гукавога вобраза галоснага, чым папярэдні. Канцавыя ўчасткі галоснага сегмента не павінны аказваць істотнага ўплыву на цэласны вобраз.

Праслухоўванне было арганізавана ў эксперыменце такім чынам, што да кожнага папярэдняга праслуханага ўчастка для наступнага праслухоўвання дадавалася 20—25 мс гучання. Аказалася, што змяненне фармантнай структуры ўнутры галоснага цягне за сабой змяненне і ва ўспрыманні, прычым раптоўнае. Напрыклад, галосны ў складзе [б'а] на сваім пачатковым участку пазнаецца слухачамі як [і]. Дабаўленне наступных участкаў не змяняе гукавога вобраза. Затым слухачы выяўляюць, што гучыць галосны [ė]. Некаторы час гэты вобраз захоўваецца, а затым ён зноў скачкападобна змяняецца на [ȧ]. Пасля гэтага слухачы могуць выявіць толькі некаторыя адрозненні пры павелічэнні ўчастка гучання. Такая ж паслядоўнасць назіраецца і ў час паступовага праслухоўвання іншых галосных, за выключэннем хіба толькі [і], [у] [ẏ].

Аналізуючы вынікі праслухоўвання, лёгка прыйсці да пераканання, што для фарміравання гукавых вобразаў галосных рашаючае значэнне маюць пераходны пачатковы іх участак і сярэдзінная частка, пры гэтым сярэдзінная частка найбольш блізкая па гучанню да цэласнага вобраза. Хоць канцавы ўчастак істотнага ўплыву на фарміраванне вобраза гука і не аказвае, але пры яго адсутнасці адчуваецца пэўная непаўната гучання.

Прымаючы пад увагу ролю пераходных участкаў у слыхавым успрыманні галосных, яны натуральна разбіваюцца на групы: 1) галосныя, вымаўленыя асобна і ў пачатку слова пасля паўзы; 2) галосныя пасля цвёрдых фрыкатыўных зычных; 3) галосныя пасля цвёрдых выбухных зычных; 4) галосныя пасля мяккіх фрыкатыўных зычных і афры-

кат; 5) галосныя пасля мяккіх выбухных. У гэтых групах назіраецца паступовае ўзрастанне ролі пачатковага пераходнага ўчастка пры ўспрыманні.

Вельмі істотны ўплыў на ўспрыманне галосных аказвае іх становішча ў слове адносна націску. Традыцыйна галосныя адносна націску падзяляюцца на галосныя пад націскам, галосныя першага пераднаціскнога склада, іншых пераднаціскных складоў, занаціскныя галосныя ў канцавых і неканцавых закрытых і адкрытых складах. Гэты падзел мае глыбокія асновы, бо ён быў праведзены фанетыстамі на аснове слыхавога метаду і ўлічвае такія асаблівасці галосных, як скарачэнне даўжыні галосных сегментаў, і ў сувязі з гэтым некаторыя змяненні ва ўспрыманні.

Эксперыменты паказваюць, што найбольш пастаяннымі ў ненаціскных пазіцыях з'яўляюцца галосныя [ы] і [у]. Як вядома, [о] ў ненаціскных пазіцыях фактычна няма, як няма і [е] ў першым пераднаціскным складзе пасля мяккіх зычных у выніку акання і якання. Галосны [а] з-за значнага скарачэння, акрамя першага пераднаціскнога склада і абсалютнага пачатку слова, выразаны з кантэксту, досыць часта ўспрымаецца невыразна. Тое ж цалкам адносіцца і да [е]. Аднак у кантэксце слова і гэтыя галосныя ў большасці выпадкаў не губляюць сваіх асноўных якасцей і ўспрымаюцца як адпаведныя галосныя.

Такім чынам, па ўспрыманню галосныя належаць да катэгорыі гукаў, якія моцна абумоўлены кантэкстам. Пад націскам адрозніваецца на слых не менш чым 10 галосных гукаў. У ненаціскных пазіцыях захоўваецца розніца ва ўспрыманні галосных пасля мяккіх і пасля цвёрдых зычных. Сярод ненаціскных пазіцый вылучаюцца абсалютны пачатак слова і першы пераднаціскны склад. Змяненні галосных у ненаціскных пазіцыях абумоўлены значным скарачэннем іх даўжыні.

## § 3.5. ГАЛОСНЫЯ ПСІХАФАНЕМЫ

Надзейнасць успрымання беларускіх галосных гукаў адносна высокая, але не ва ўсіх іх аднолькавая. Пры памылковым апазнаванні галосных слухачы замяняюць іх на іншыя галосныя. Гэтыя замены сведчаць аб малой перцэптыўнай адлегласці (аддаленасці) паміж адпаведнымі галоснымі. Перцэптыўнае падабенства галосных тлумачыцца фізічным падабенствам іх акустычных і артыкуляцыйных характарыстык.

Найбольш надзейна сярод націскных галосных апазнаецца галосны [і]. Надзейнасць успрымання сегментаванага з плыні націскнога галоснага [а] складае 94% (*сахá, падкапáць*), галоснага [о] — 78% (*сотка, падбухторваць*), [е] — 86% (*патэ́тыка, абкаме́чаны*), [у] — 99% (*суша, таптуха*), [ы] — 82% (*шыпы́, асы́пацца*), [і] — 100% (*сіні, паскупіцца*). Апазнавальнасць галосных [о] і [ы] ў параўнанні з іншымі галоснымі некалькі горшая.

Што датычыць успрымання розных акустычных варыянтаў галосных, то носьбіт беларускай мовы можа на слых адрозніваць каля 18—20 камбінаторных адценняў 5 беларускіх галосных фанем [а], [о], [е], [у], [ы]. Такія вынікі атрымліваюцца пры праслухоўванні сегментаў націскных галосных і іх транскрыбіраванні. Тым не менш, як ужо адзначалася, з высокай надзейнасцю носьбітамі беларускай мовы адрозніваюцца толькі 10 камбінаторных варыянтаў галосных.

Аб наяўнасці 10 слыхавых эталонаў сведчаць таксама звесткі аб перцэптыўных адлегласцях паміж беларускімі галоснымі. Адлегласць паміж такімі парамі галосных, як [а]—[а̇], [о]—[о̇], [у]—[у̇], [е]—

Табліца 3.1. **Матрыца перцэптыўных ацэнак адлегласцей паміж беларускімі галоснымі па 7-бальнай шкале**

| Псіхафанемы | а | а̇ | о | о̇ | у | у̇ | е | е̇ | і | ы |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| а | 0,0 | 5,1 | 5,4 | 5,6 | 6,8 | 6,8 | 5,9 | 5,6 | 6,5 | 6,1 |
| а̇ | | 0,0 | 6,6 | 6,0 | 5,9 | 6,6 | 6,6 | 3,4 | 3,8 | 6,1 |
| о | | | 0,0 | 3,8 | 2,9 | 1,9 | 6,5 | 5,9 | 6,3 | 5,1 |
| о̇ | | | | 0,0 | 4,0 | 3,3 | 5,5 | 4,5 | 4,4 | 4,6 |
| у | | | | | 0,0 | 1,3 | 6,1 | 5,8 | 4,8 | 4,6 |
| у̇ | | | | | | 0,0 | 5,6 | 5,1 | 4,4 | 5,6 |
| е | | | | | | | 0,0 | 4,1 | 4,3 | 3,9 |
| е̇ | | | | | | | | 0,0 | 3,0 | 3,5 |
| і | | | | | | | | | 0,0 | 3,3 |
| ы | | | | | | | | | | 0,0 |

[е̇], вызначаная на слых, адносна вялікая. Слухач ацэньвае, напрыклад, па 7-бальнай шкале розніцу паміж [а] і [а̇] ў 5 балаў і ў столькі ж прыблізна балаў розніцу паміж [а] і [о], [а] і [е]. Адсюль вывад, што ў беларускай мове кожнай з азначаных пар гукаў адпавядаюць два слыхавыя вобразы, а не адзін. У сукупнасці перцэптыўная адлегласць ад пяці галосных псіхафанем [а], [о], [е], [у], [ы] да пяці «палаталізаваных» [а̇], [о̇], [е̇], [у̇], [і] па 7-бальнай шкале складае 5,2 бала. Такая значная адлегласць гаворыць аб тым, што для 10 беларускіх псіхафанем галосных гукаў у перцэптыўнай прасторы існуе шкала палаталізацыі.

У літаратуры слыхавыя вобразы-эталоны інакш яшчэ называюць гукатыпамі, ці псіхафанемамі. Псіхафанемы па колькасці і якасці складаюць перцэптыўную базу мовы, адлюстроўваюць асаблівасць фанетычнага слыху яе носьбіта. У розных мовах перцэптыўная база галосных можа быць розная.

10 псіхафанем беларускіх галосных адрозніваюцца слухачом як фаналагічна значымыя варыянты галосных гукаў. Акрамя таго, слухач можа ацэньваць перцэптыўную адлегласць (падабенства) паміж гэтымі псіхафанемамі. Вопыты паказалі, што пры слыхавым успрыманні гукаў мовы мае месца свая самастойная метрыка ацэнкі падабенства і адрознення гукаў паміж сабою, не сходная з метрыкаю артыкуляцыйнага ці акустычнага падабенства.

У выніку праведзеных перцэптыўных даследаванняў з носьбітамі беларускай літаратурнай мовы атрыманы звесткі аб перцэптыўна-фанетычнай адлегласці паміж беларускімі галоснымі, што пададзена ў табл. 3.1.

Кожны элемент матрыцы-табліцы 3.1, які размешчаны на скрыжаванні і-тага радка і j-тага слупка, падае выражаную ў балах ацэнку перцэптыўнай адлегласці паміж і-тым і j-тым галоснымі гукамі, прыведзенымі ў пары.

Па колькасці галосных псіхафанем (10) беларуская мова істотна не адрозніваецца ад рускай ці ўкраінскай. Аднак матрыца адлегласцей дае больш дакладныя звесткі аб перцэптыўных характарыстыках гукаў пэўнай мовы. У прыватнасці, для беларускай мовы гэта звесткі аб тым, як раўнамерна і ў якім становішчы ў перцэптыўнай прасторы адносна адзін аднаго размешчаны слыхавыя эталоны азначаных 10 псіхафанем. Дзякуючы гэтаму ўзаемнае становішча эталонаў, вызначанае для носьбітаў беларускай мовы, для параўнання можа быць

**Табліца 3.2. Суадносіны перцэптыўных (лічнік) і акустычных (назоўнік) адлегласцей паміж беларускімі галоснымі**

| Псіхафанемы | о | е | у | ы | і |
|---|---|---|---|---|---|
| а | 5,4/3,5 | 5,9/5,0 | 6,8/6,0 | 6,1/5,5 | 6,5/7,0 |
| о | | 6,5/5,0 | 2,9/4,0 | 5,1/5,0 | 6,3/7,0 |
| е | | | 6,1/5,5 | 3,9/2,0 | 4,3/3,0 |
| у | | | | 4,6/5,0 | 4,8/6,8 |
| ы | | | | | 3,3/3,0 |

суаднесена са становішчам і каардынатамі тых жа галосных эталонаў, але ў перцэптыўнай прасторы носьбіта іншай мовы.

З некаторай прыблізнасцю перцэптыўная прастора з размешчанымі ў ёй 10 галоснымі псіхафанемамі можа быць прадстаўлена як двухмерная і пададзена на плоскасці. 45 узаемаадлегласцей паміж 10 кропкамі, што азначаюць псіхафанемы, абумоўліваюць іх становішча адносна адна адной (рыс. 65). Падлік паказаў, што сярэдняя адлегласць паміж двума рознымі беларускімі псіхафанемамі складае па 7-бальнай шкале 4,5 бала. Як найбольш далёкія па гучанню слухач-беларус вызначае такія пары галосных: [а]—[і] (6,5 бала), [а]—[у] (6,8 бала), [а̇]—[е] (6,6 бала), [о]—[е] (6,5 бала). Гэта азначае, што перцэптыўнае падабенства даных гукаў адносна малое. Іменна таму памылковыя ўзаемазамены іх пры ўспрыманні моўных паведамленняў рэдкія. Найменшай адлегласцю вызначаюцца пары гукаў [у] і [у̇] (1,3 бала), адносна невялікая адлегласць паміж [у̇] і [о] (1,9 бала), [у] і [о] (2,9 бала). Гэта сведчыць аб тым, што на перцэптыўнае збліжэнне беларускіх галосных аказвае значны ўплыў такі артыкуляцыйны параметр, як лабіялізацыя гука.




Рыс. 65. Адносна становішча 10 беларускіх псіхафанем у перцэптыўнай прасторы

Падлічана сярэдняя адлегласць паміж чатырма ў сукупнасці «непалаталізаванымі» псіхафанемамі [а], [о], [е], [у] і чатырма «палаталізаванымі» [а̇], [о̇], [е̇] [у̇]. Яна адносна вялікая для беларускай мовы і складае 5,8 бала. Таму можна лічыць апраўданым размежаванне двух камбінаторных варыянтаў беларускіх фанем [а], [о], [е], [у] на дзве самастойныя псіхафанемы, бо па слыхавых ацэнках яны аднесены адзін ад аднаго адносна далёка.

Паміж перцэптыўнымі і артыкуляцыйнымі характарыстыкамі беларускіх галосных існуюць пэўныя суадносіны ў плане іх узаемападабенства. Галосныя [у], [і], [ы] верхняга пад'ёму значна артыкуляцыйна аддалены ад галоснага [а] ніжняга пад'ёму. Галосныя [е], [о] сярэдняга пад'ёму займаюць прамежкавае становішча [11]. Што датычыць перцэптыўнай аддаленасці паміж імі, то адлегласць ад псіхафанем [у], [і], [ы] да псіхафанемы [а] складае 4,1 бала, а да [е], [о] — 4,0 бала. Адлегласць ад [е], [о] да [а] — 3,4 бала. Гэта азначае, што

[11] Падлужны А. І., Чэкман В. М. Гукі беларускай мовы. Мн., 1973.

шкала артыкуляцыйнай аддаленасці гукаў верхняга і ніжняга пад'ёму ў слыхавой прасторы звужаецца, а шкала аддаленасці гукаў сярэдняга пад'ёму ў гэтай прасторы, наадварот, расцягваецца.

Існуюць пэўныя суадносіны паміж перцэптыўнымі і акустычнымі (фармантнымі) характарыстыкамі беларускіх галосных. Зыходзячы з акустычных звестак аб размяшчэнні беларускіх галосных [а], [о], [е], [у], [ы], [і] на фармантнай плоскасці, можа быць ацэнена ва ўмоўных адзінках іх адлегласць адзін ад аднаго не толькі ў перцэптыўнай, але і ў акустычнай прасторы. Гэтыя адлегласці для галосных гукаў супастаўляюцца колькасна з адпаведнымі перцэптыўнымі адлегласцямі (табл. 3.2), а таксама і графічна (рыс. 66).

На рыс. 66 відаць, што спектральна найбольш блізкімі з'яўляюцца гукі [е] і [ы]. Тым не менш па гучанню яны ацэньваюцца на слых як адносна далёкія. Самымі блізкімі па гучанню з'яўляюцца пары псіхафанем [і]—[ы], [о]—[у], аднак яны не вельмі блізкія спектральна. Увогуле становішча галосных у перцэптыўнай прасторы адрозніваецца ад іх становішча на фармантнай плоскасці. Дыяпазон узаемных адлегласцей паміж галос-




Рыс. 66. Суадносіны перцэптыўных і фармантных характарыстык беларускіх націскных галосных: ———— перцэптыўныя характарыстыкі, — — — — фармантныя характарыстыкі

Табліца 3.3. **Частата памылковых узаемазамен беларускіх галосных пры ўспрыманні (шкала ўмоўных адзінак частаты ад 0 да 3)**

| | Гук, які ўспрымаецца | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Гук, які прад'яўляецца | а | а̇ | о | о̇ | е | е̇ | у | у̇ | ы | і |
| а | — | 1 | 1 | 0 | 3 | 2 | 0 | 1 | 0 | 0 |
| а̇ | 2 | — | 0 | 2 | 0 | 2 | 0 | 2 | 0 | 1 |
| о | 2 | 0 | — | 2 | 1 | 1 | 3 | 1 | 0 | 1 |
| о̇ | 0 | 1 | 3 | — | 0 | 2 | 0 | 3 | 1 | 1 |
| е | 3 | 1 | 0 | 0 | — | 2 | 0 | 0 | 2 | 1 |
| е̇ | 0 | 3 | 0 | 2 | 2 | — | 0 | 1 | 0 | 1 |
| у | 0 | 0 | 3 | 0 | 0 | 0 | — | 3 | 0 | 0 |
| у̇ | 0 | 1 | 0 | 2 | 0 | 1 | 2 | — | 0 | 0 |
| ы | 2 | 0 | 0 | 1 | 1 | 0 | 1 | 0 | — | 2 |

нымі ў перцэптыўнай прасторы невялікі: усе псіхафанемы аддалены адна ад адной на прыкладна адну велічыню. Аднак дыяпазон фізічнага непадабенства галосных па фармантнаму іх апісанню — дастаткова вялікі: ёсць гукі вельмі блізкія ([ы]—[е]) і вельмі далёкія ([а]—[і]).

Перцэптыўная аддаленасць дзвюх галосных псіхафанем (падабенства гучання) вызначаецца таксама ўскосна і па тым, як часта пры ўспрыманні гукаў, складоў і слоў адна з іх памылкова атаясамляецца з другою[12]. Зразумела, што падабенства гучання гукаў адлюстроўваецца ў частаце іх узаемазамен пры ўспрыманні. Аналіз слыхавых памылак, уласцівых носьбітам беларускай мовы пры ўспрыманні ізаляваных галосных і складоў ва ўмовах слыхавых перашкод, дазваляе скласці табліцу-матрыцу частаты ўзаемазамен 10 беларускіх галосных (табл. 3.3).

Частата ўзаемазамен дзвюх галосных сведчыць аб іх перцэптыўным падабенстве. Гэта велічыня адваротная перцэптыўнай адлегласці паміж галоснымі, аб якой гаварылася вышэй. З табл. 3.1 і 3.3 відаць,

[12] Выгонная Л. Т. Особенности слуховой идентификации изолированных слов // Модели речевых процессов в норме и патологии. Л., 1979. С. 12.

што ацэнкі перцэптыўнай адлегласці і ацэнкі перцэптыўнага падабенства беларускіх галосных добра дапасуюцца. Галосны гук [у] часцей за ўсё памылкова ўспрымаецца як гук [о], што сведчыць аб іх падабенстве. З табл. 3.1 мы бачым, што перцэптыўная адлегласць паміж адпаведнымі псіхафанемамі [у] і [о] невялікая. У процілегласць гэтым гукам, напрыклад, паміж гукамі [а] і [і] памылковай узаемазамены не адбываецца. У карысць гэтага гаворыць лічба 6,3 бала з табліцы 3.1, якою выражаецца адлегласць паміж псіхафанемамі [а] і [і].

Па адлегласцях паміж 10 беларускімі галоснымі псіхафанемамі ў перцэптыўнай прасторы з дапамогай фактарнага аналізу знойдзены шкалы, якія ўтвараюць гэту слыхавую прастору. Такіх шкал, праз якія ідзе слыхавы аналіз галосных у носьбіта беларускай мовы, выяўлена тры. Кожная з іх мае інтэрпрэтацыю ў фармантнай сістэме прыкмет галоснага.

Па першай шкале псіхафанемы [а], [о], [у], [е], [ы] прымаюць дадатныя (+) яе значэнні і супрацьпастаўлены псіхафанемам [а], [ȯ], [ẏ], [ė], [і], якія маюць адмоўныя (—) значэнні. Як відаць, гэта шкала адпавядае наяўнасці ў пачатку фанем [і]-падобнага пераходнага адрэзка. Іншымі словамі, першая шкала дзеліць галосныя на тыя, якія ідуць пасля мяккіх зычных, і галосныя пасля цвёрдых зычных.

Па другой шкале ўсе 10 псіхафанем дыферэнцыруюцца згодна з новай слыхавой прыкметай. Так, шэсць псіхафанем размешчаны ўздоўж яе ў такой паслядоўнасці: [у], [о], [а], [е], [ы], [і]. Гэта паслядоўнасць адпавядае ацэнцы слухачом значэння другой фарманты $F_2$ галоснага гука. Такім чынам, перцэптыўная ацэнка значэння $F_2$ па мнагамернаму шкаліраванню з'яўляецца важнай слыхавой прыкметай успрымання галосных гукаў.

Нарэшце, ёсць трэцяя шкала, уздоўж якой галосныя размешчаны такім чынам: [і], [ы], [у], [о], [е], [а]. У сувязі з падобным размяшчэннем гэту шкалу можна інтэрпрэтаваць як шкалу ацэнкі першай фарманты $F_1$ галоснага гука. Увогуле атрымліваецца, што слыхавая ацэнка значэння $F_1$ у параўнанні з $F_2$ з'яўляецца менш важнай для ўспрымання галосных.

З праведзенага аналізу істотна тое, што для сістэмы галосных гукаў выяўлена перцэптыўная база беларускай мовы, якой уласцівы тры незалежныя сістэмы прыкмет. Прыцягвае ўвагу тая акалічнасць, што ў слухача ёсць асобныя шкалы для ацэнкі значэнняў фармант $F_1$ і $F_2$. Апісанне галосных на акустычным узроўні фармантнымі прыкметамі змяняецца іх апісаннем аналагічнымі прыкметамі на перцэптыўным узроўні.

Акрамя 10 фаналагічна значымых варыянтаў галосных гукаў носьбіт беларускай мовы адрознівае шмат іншых больш тонкіх камбінаторных і пазіцыйных іх варыянтаў, фаналагічна нязначымых. Пры ўспрыманні галосных, сегментаваных з моўнай плыні, слухач, у прыватнасці, адрознівае выпадкі іх рэалізацыі ў суседстве з насавымі зычнымі [м] і [н] (*мора, на́сып*). Доследы паказалі, што насавую афарбоўку галоснага слухачы — носьбіты беларускай мовы заўважаюць прыкладна ў 50% выпадкаў рэалізацыі галоснага побач з [м] або [н]. Суседні насавы зычны прадвызначаецца па пачатковаму сегменту галоснага [а] ў 31% выпадкаў, па сегменту [о] — у 26, па [е] — у 24, па [і] і [у] — толькі ў 10% і ў 8% выпадкаў суседства. Гэта значыць, што галосныя ніжняга пад'ёму пры ўспрыманні захоўваюць насавую афарбоўку лепш, чым галосныя верхняга пад'ёму. Акрамя таго, заўважана, што на слых насавая афарбоўка галоснага ўспрымаецца слухачом лепш, калі насавы

зычны не папярэднічае галоснаму *(нас)*, а ідзе пасля яго *(пан)*[13]. Наогул насавая афарбоўка галосных хоць і ўспрымаецца слухачом, аднак не з'яўляецца фаналагічна істотнай прыкметай пры іх апазнаванні. Напэўна, носьбіт беларускай мовы дзякуючы ўспрыманню назальнай афарбоўкі галоснага мае магчымасць вызначаць наступны ці папярэдні зычны.

Пэўную афарбоўку гучанню галоснага надаюць губныя зычныя, якія мяжуюць з ім *(бэ́лька, па́ша)*. Гэту афарбоўку таксама заўважаюць слухачы — носьбіты беларускай мовы.

Адзначаныя вышэй варыянты галосных гукаў, якія заўважаюцца на слых, з'яўляюцца камбінаторнымі. Апрача іх, слухач адрознівае асобныя пазіцыйныя варыянты беларускіх галосных. Акустычныя даследаванні ненаціскных галосных беларускай мовы сведчаць аб тым, што спектральныя, часавыя і амплітудныя іх характарыстыкі змяняюцца ў залежнасці ад пазіцыі галоснага адносна націску. Гэта значыць, што для слыхавых адрозненняў існуюць фізічныя падставы.

Сярод ненаціскных галосных найлепш апазнаюцца галосныя верхняга пад'ёму [і], [ы], [у]. Якасная рэдукцыя іх нязначная. Сегментаваныя са слова, яны надзейна апазнаюцца на слых незалежна ад колькасці складоў у слове і ад якасці націскнога галоснага *(адпіха́ць, сутыкну́цца, сухі́)*. Разборлівасць апазнавання галоснага [і] складае 95%, галоснага [ы] — 78, [у] — 94%.

Розную слыхавую афарбоўку гучання набывае галосны [а] ў першым складзе перад націскам *(шаша́, капо́т, патэ́тыка, шашы́ст, асабі́сты)*. Працэнт яго апазнавання ў гэтай пазіцыі залежыць ад якасці наступнага націскнога галоснага. Найбольш ненадзейна апазнаецца [а] перад націскным [а]. Уласцівае носьбітам беларускай мовы дысімілятыўнае аканне выклікае значную якасную рэдукцыю пераднаціскнога [а]. Толькі ў 48% выпадкаў [а] перад націскным [а] ўспрымаецца без змен, а ў астатніх выпадках слухач успрымае яго як гук сярэдняга пад'ёму [е] або верхняга пад'ёму [ы].

Увогуле сярод галосных розных ненаціскных пазіцый у беларускай літаратурнай мове на слых найлепш апазнаюцца галосныя першага пераднаціскнога склада. З адносна высокай надзейнасцю апазнаюцца ненаціскныя галосныя, сегментаваныя з пазіцыі абсалютнага пачатку слова *(ахо́п, асы́паць, іша́к, уху́таць)*. Надзейнасць іх апазнавання складае 90—100%.

Галосны [а] дрэнна апазнаецца на слых не толькі ў першым пераднаціскным, але і ў іншых пераднаціскных складах. Так, у другім пераднаціскным складзе *(паспыта́ць)* гэты галосны апазнаецца ў 38% выпадкаў, у трэцім пераднаціскным *(галаднава́ты)* — у 27, а ў чацвёртым пераднаціскным *(папамалаці́ць)* — у 30% выпадкаў. Пры памылковым успрыманні галоснага [а] ў гэтых пазіцыях ён замяняецца на гукі [ы] і [е].

Калі параўноўваюць апазнавальнасць на слых чатырох ненаціскных галосных [і], [ы], [у], [а] пераднаціскных складоў, то высвятляецца, што галосныя верхняга пад'ёму [і], [ы], [у] апазнаюцца адносна надзейна незалежна ад месца націску ў слове. Што датычыць галоснага [а] ніжняга пад'ёму, то ён апазнаецца параўнальна дрэнна ва ўсіх пераднаціскных складах, апрача пазіцыі ў абсалютным пачатку слова і ў першым пераднаціскным складзе, калі пад націскам не [а]. Гэтыя ж ненаціскныя галосныя, сегментаваныя з паслянаціскных складоў

---

[13] Бурлыка В. Р. Акамадацыя і яе ўспрыманне ў беларускай мове // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. Мн., 1983. № 4. С. 104—112.

(*патэ́тыка, спады́спаду, сту́кату*), таксама апазнаюцца на слых з рознай надзейнасцю ў залежнасці ад іх пад'ёму. Галосныя [і], [ы], [у], вылучаныя з паслянацыскной пазіцыі, апазнаюцца з высокай надзейнасцю (70—90%), а галосны [а]— з нізкай надзейнасцю (каля 20%).

Пры ўспрыманні галосных кожны з іх уяўляе сабою цэласную слыхавую адзінку ўспрымання, цэласны вобраз. Разам з тым асобныя сегменты галоснага (пачатковы пераходны ўчастак, стацыянарны, канцавы пераходны ўчастак) пры ізаляваным іх праслухоўванні ўспрымаюцца неаднародна. Заўважана, што не ўсякі сегмент галоснага гука дазваляе слухачу ідэнтыфікаваць гэты галосны. Калі сегмент вельмі кароткі (меншы чым 10 мс), то слухач наогул не можа ацаніць галосны гук. Калі, наадварот, праслухоўваць цалкам галосны гук, у стацыянарным участку якога выразан сегмент у 10 мс, то адсутнасць такога кароткага сегмента на слых не заўважаецца. Слыхавая ацэнка якасці галоснага становіцца магчымай, калі праслухоўваецца сегмент даўжынёй, большай чым 20—25 мс. Эксперыментальна выяўлена, што найбольш адэкватна якасць беларускіх галосных перадаюць іх часавыя сегменты, размешчаныя пасярэдзіне, на стацыянарным участку галоснага. Іменна праз успрыманне гэтых сегментаў у носьбіта беларускай мовы адбываецца апазнаванне галосных псіхафанем. Другое месца па інфармацыйнаму значэнню займае пачатковы пераходны ўчастак галоснага. Пры праслухоўванні галоснага гука, у якім адсутнічае яго пачатак, апазнаванне галоснага пагаршаецца. Асабліва інфарматыўным з'яўляецца гэты ўчастак для галосных у становішчы паміж мяккімі зычнымі. Аднак самастойна сегменты пачатковага пераходнага ўчастка перадаць слыхавы вобраз галоснага не могуць. Пры ізаляваным іх праслухоўванні звычайна ўспрымаецца [і]-падобны або [е]-падобны гук. Найменшую ролю ва ўспрыманні галоснага адыгрывае яго канцавы пераходны ўчастак.

Трэба адрозніваць ролю часавых участкаў галоснага ў апазнаванні яго самога і іх ролю ў вызначэнні суседніх зычных — папярэдняга і наступнага. Аб ролі пераходных участкаў галосных у вызначэнні зычных, якія суседнічаюць з імі, гаворыцца пры разглядзе заканамернасцей успрымання зычных.

У адрозненне ад звычайнага ўспрымання моўных сігналаў цікавым з'яўляецца інверснае праслухоўванне гукаў беларускай мовы. Пад інверсным праслухоўваннем разумеюць падачу магнітафоннага запісу вуснай мовы ў адваротным напрамку — з канца ў пачатак. Пры такім успрыманні беларускіх галосных адзначаецца павелічэнне неаднароднасці іх гучання. Асабліва нестацыянарным на слых успрымаецца галосны [ы]. Неаднародным таксама становіцца гучанне галоснага [а] ў становішчы паміж мяккімі зычнымі. Разам з тым у пазіцыі паміж цвёрдымі зычнымі націскныя галосныя [а], [о], [і] пры інверсным праслухоўванні апазнаюцца адэкватна.

## § 3.6. ХАРАКТАР УСПРЫМАННЯ ГЛУХІХ І ЗВОНКІХ ВЫБУХНЫХ ЗЫЧНЫХ

Акустычна глухія выбухныя зычныя [п], [т], [к] складаюцца з двух сегментаў: глухой змычкі і выбуху. Паколькі глухая змычка характарызуецца адсутнасцю гучання, то, вылучаная з моўнай плыні, яна ўспрымаецца як адсутнасць гука. Эксперыменты па скарачэнню і павелічэнню яе шляхам выразання з магнітафоннай стужкі і ўклейвання дадатковых чыстых кавалкаў паказваюць, што змяненне даўжыні

змычкі ў значных межах не аказвае істотнага ўплыву на распазнаванне гэтай катэгорыі гукаў. Нават калі выразаць дзве трэці ад агульнай даўжыні, распазнаванне глухіх выбухных не пагаршаецца і іх нельга зблытаць з якімі-небудзь іншымі гукамі. Павелічэнне даўжыні змычкі да адной трэці яе даўжыні не прыводзіць таксама да якіх-небудзь істотных змен ва ўспрыманні. Большае павелічэнне выклікае ўспрыманне іх як падоўжаных, калі яны знаходзяцца ў становішчы паміж галоснымі: [п] успрымаецца як [п:], [т] — як [т:], [к] — як [к:]. У сярэдзіне слова перад зычнымі або пасля зычных падаўжэнне змычкі выклікае ўспрыманне іх як напружаных. Глухая змычка пачынае ўспрымацца як перапынак у гучанні, калі яе павялічыць у тры і больш разоў.

Шум выбуху ў большасці выпадкаў пры выразным вымаўленні змяшчае інфармацыю аб індывідуальнасці канкрэтнага выбухнога, г. зн. па выбуху можна пазнаць, які глухі выбухны быў вымаўлены: [п], [т] або [к]. Па выбуху лепш распазнаецца [к], а [п] і [т] значна горш. Пры недастаткова выразным вымаўленні выбух не дазваляе слухачу вызначыць, які з глухіх выбухных быў вымаўлены. У большасці выпадкаў выразанне з моўнай плыні выбуху не аказвае істотнага ўплыву на ўспрыманне слова: выбухныя ўспрымаюцца ў ім, як і пры наяўнасці шуму выбуху, і гэта сведчыць, што інфармацыя аб месцы ўтварэння выбухных добра прадстаўлена ў сегментах наступных гукаў, у прыватнасці галосных. У глухіх выбухных у канцы слова перад паўзай пасля выбуху назіраецца шум прыдыхання, які звычайна цалкам маскіруецца гукамі і не ўспрымаецца. Аднак ён добра чуваць, калі канцавы глухі выбухны вылучаны з моўнай плыні і праслухоўваецца ізалявана.

У афрыкат [ц] і [ч] глухая змычка паводзіць сябе пры ўспрыманні таксама, як і ў глухіх выбухных. Паколькі афрыкатыўны сегмент мае значную даўжыню, яго можна штучна скарачаць, што звычайна не прыводзіць да змянення ўспрымання незалежна ад таго, скарачаецца ён ад пачатку ці ад канца. Але калі працягласць у выніку скарачэння становіцца меншай чым 20 мс, пачынае ўспрымацца выбухны [т]. Выразаны з моўнай плыні афрыкатыўны сегмент добра ўспрымаецца як адпаведная афрыката. Калі цалкам выдаліць змычку, у складзе слова афрыкатыўны элемент [ц] успрымаецца як гук [с], а [ч] — як [ш].

У звонкіх выбухных [б], [д], [г] і афрыкат [дз], [дж] звонкая змычка, вылучаная з моўнай плыні, успрымаецца як няпэўнае нізкатанальнае гудзенне, па якім нельга вызначыць, які зычны быў вымаўлены. Паколькі амплітуда ваганняў на пачатку змычкі большая, чым у канцы, выразанне часткі змычкі некалькі пагаршае ўспрыманне, бо часам назіраецца змешванне звонкіх выбухных з адпаведнымі глухімі. Падаўжэнне звонкай змычкі больш чым на дзве трэці прыводзіць да ўспрымання адпаведных гукаў як падоўжаных.

Вылучаны з кантэксту выбухны элемент звонкіх выбухных успрымаецца як шчаўчок, і па ім, таксама як і па змычцы, нельга пазнаць гук. Калі да звонкай змычкі паступова далучаць выбух, то да пэўнага часу ўспрымаецца асобна гудзенне звонкай змычкі і шчаўчок выбуху, а ў некаторых выпадках гэтыя два сегменты ўспрымаюцца нават у адваротным парадку. Успрыманне змычкі і выбуху як двух асобных элементаў знікае, калі да змычкі далучаны ўвесь выбух, а часта яшчэ і некалькі перыядаў галоснага. Аднак і ў гэтым выпадку звонкія выбухныя пазнаюцца горш, чым глухія. Для іх добрага распазнавання (акрамя афрыкат [дж] і [дз]) неабходна да-

лучыць да выбуху значную частку пераходнага ўчастка суседняга галоснага, але ў гэтым выпадку ўспрымаецца склад «звонкі выбухны зычны + кароткі галосны». Паколькі выбух у звонкіх зычных мае меншае значэнне, чым у глухіх, у звычайнай размове ён досыць часта наогул не назіраецца, а звонкія выбухныя ў сувязі з гэтым часцей, чым глухія, выступаюць як імплазіўныя.

## § 3.7. ХАРАКТАР УСПРЫМАННЯ ЗВОНКІХ І ГЛУХІХ ФРЫКАТЫЎНЫХ ЗЫЧНЫХ

Глухія і звонкія фрыкатыўныя зычныя складаюцца з аднаго фрыкатыўнага сегмента. Вылучаны з моўнай плыні, ён добра ўспрымаецца як адпаведны гук. Горш за іншыя ў гэтых умовах успрымаецца сегмент, што суадносіцца з [ф], які ў радзе выпадкаў на слых успрымаецца як [х]. Пры далучэнні некалькіх перыядаў наступнага галоснага і ён успрымаецца добра.

Праслухоўванне ўчасткаў з пачатку сегментаў да палавіны паказвае, што яны досыць добра ўспрымаюцца як адпаведныя гукі. Калі звонкі фрыкатыўны зычны знаходзіцца ў пачатку слова пасля паўзы, асабліва ў пачатку фразы, то перад фрыкатыўным звонкім сегментам, як правіла, чуваць гудзенне накшталт звонкай змычкі, якое пры праслухоўванні ўсяго сегмента або слова цалкам маскіруецца і на слых не ўспрымаецца.

Выдаленне пачатковага ўчастка (да 30 мс) не аказвае істотнага ўплыву на ўспрыманне, а пры павелічэнні адрэзанай часткі тая, што засталася, пачынае ўспрымацца як адпаведная афрыката: [с]→[ц], [ш]→[ч], [з]→[дз], [ж]→[дж] або як спалучэнне выбухнога і адпаведнага шчыліннага: [ф]→[пф], [х]→[кх], [г]→[гg]. Толькі скарачэнне [в] не прыводзіць да істотных змен ва ўспрыманні. Пры далейшым скарачэнні ад пачатку, калі застаецца 20—30 мс гучання фрыкатыўнага сегмента, пачынаюць успрымацца выбухныя гукі [с]—[т], [ш]—[т], [х]—[к], [ф]—[п], [ж]—[д], [т] або [g]; [з]—[д], [т]; [в]—[б], [г]; [г]—[g], [к].

Выдаленне канцавых участкаў гэтых сегментаў істотнага ўплыву на ўспрыманне не аказвае. Толькі калі праслухоўваюцца ўчасткі не больш чым 30 мс, могуць успрымацца замест фрыкатыўных выбухныя.

Такім чынам, эксперыменты па праслухоўванню сведчаць, што для правільнага ўспрымання фрыкатыўных зычных істотнае значэнне мае як характар пачатку адпаведных сегментаў (паступовае павелічэнне амплітуды), так і працягласць гучання. Пры гэтым рашэнне адносна пачутых адрэзкаў узнікае раптоўна: выдаленне пачатку гучання не заўважаецца да пэўнай мяжы, а затым слухачы сцвярджаюць, што чуюць афрыкату і называюць яе. Пры далейшым павелічэнні сцёртага ўчастка наступае і такі момант, калі чуваць выбухны гук.

Важным момантам ва ўспрыманні звонкіх фрыкатыўных з'яўляецца тое, што пры адначасовым праслухоўванні шуму глухіх фрыкатыўных і ваганняў галасавых звязак слухачы амаль не пазнаюць у гэтым штучным комплексе камбінацыі перыядычных ваганняў і шуму звонкіх фрыкатыўных. Гэта азначае, што шырока распаўсюджанае сцверджанне аб тым, што звонкія фрыкатыўныя складаюцца з голасу і шуму, нельга разумець як простую суму гэтых кампанентаў. Ужо простыя акустычныя назіранні паказалі, што з'ява тут значна больш складаная. Мы маем справу з мадуляцыяй шуму ваганнямі галасавых звязак, чым выклікаены ваганні амплітуды шуму на ўсім працягу звонкіх фрыкатыўных сегментаў.

Паколькі амплітуда шуму на працягу глухіх фрыкатыўных сегментаў змяняецца, а звонкія фрыкатыўныя характарызуюцца мадуляцыяй шуму, штучна падоўжыць фрыкатыўныя сегменты вельмі складана. Назіранні за натуральным вымаўленнем паказваюць, што для ўспрымання фрыкатыўных сегментаў як падоўжаных зычных гукаў неабходна, каб іх працягласць была ў 1,5—2,5 раза большая, чым звычайных фрыкатыўных сегментаў. Гэта азначае, што слыхавы эфект падоўжанасці цалкам абумоўлены павелічэннем працягласці ў часе фрыкатыўных сегментаў.

Сярод фрыкатыўных вылучаецца асобна гук [в], для ўспрымання якога не характэрна вылучэнне афрыкатыўнай стадыі, змяненне ўспрымання назіраецца толькі пры праслухоўванні вельмі кароткіх участкаў. Гэта абумоўлена амаль поўнай адсутнасцю шуму ў яго складзе і тым, што ён функцыяніруе як санорны гук.

## § 3.8. ХАРАКТАР УСПРЫМАННЯ САНОРНЫХ ГУКАЎ

Праслухоўванне санорнай змычкі [м] і [н] паказвае, што яна на слых адрозніваецца ад усіх іншых сегментаў, але яе ўспрыманне як [м] або [н] выпадковае. Толькі далучэнне некалькіх перыядаў, якія адносяцца да наступнага галоснага, дапамагае дыферэнцыяцыі гэтых гукаў. Канцавыя [м] і [н], вылучаныя з кантэксту, таксама ўспрымаюцца няпэўна, змешваюцца паміж сабой. Характэрна, што пачатковыя ўчасткі [м] і [н], асабліва калі яны знаходзяцца ў пачатку слова, успрымаюцца як галосны, які нагадвае [ы]. Затым уключаецца яшчэ адна тонавая састаўляючая, гучнасць якой паступова павялічваецца. На канцавым участку паяўляецца вельмі слаба выражаны шчаўчок, пасля чаго гук пачынае ўспрымацца як насавы санорны [м] або [н].

Пры праслухоўванні [р] першая яго частка, да дрыжачага сегмента, не аддзяляецца ад папярэдняга галоснага і зліваецца з ім амаль у адзін гук, назіраецца невялікае змяненне толькі ў канцы гучання. Пры далучэнні дрыжачага сегмента і некалькіх перыядаў пасля яго больш-менш акрэслена пачынае ўспрымацца [р]. У складзе слова выдаленне вялікіх участкаў гэтага гука, а ў радзе выпадкаў і практычна ўсяго яго не выклікае змянення ва ўспрыманні. Калі на месца выдаленага са слова [р] уставіць [а], пасярэдзіне якога выдалена больш 15 мс, то і ў гэтым выпадку носьбіты мовы амаль рэгулярна не чуюць якіх-небудзь істотных змен у гучанні.

Гучанне пачатковых участкаў [л] у большасці выпадкаў нагадвае гучанне [у], але можа ўспрымацца і як [ы] з адценнем [у]. Канцавы ўчастак успрымаецца як [ву], асабліва калі за [л] ідзе агублены галосны. Для ўспрымання выразнага [л] неабходна да сегмента, суаднoснага з ім, дадаць значны адрэзак галоснага.

Пачатковыя ўчасткі санорнага [й] у становішчы перад галоснымі (напрыклад, у слове *я*) чуюцца як галосны [і], затым пачынае ўспрымацца спалучэнне [*ій*]. Уражанне прысутнасці [і] знікае пры далучэнні пачатковага ўчастка галоснага. Калі [й] знаходзіцца пасля галоснага, то пераход да ўспрымання спалучэння «галосны + [й]» адбываецца тады, калі падаецца для слухання большая частка сегмента, суаднoснага з гэтым спалучэннем. Пасля таго, як узнікае ўражанне [й], ён не блытаецца ні з якімі іншымі гукамі.

Характар успрымання [ў] аналагічны ўспрыманню [й] пасля галосных. Ён гучыць выразна, калі

слухаецца большая частка сегмента, суадноснага са спалучэннем «галосны + [ў]». Да гэтага ж моманту паступова пачынае ўзнікаць і ўзмацняецца прыгук [у] ў галоснага.

Такім чынам, санорныя, за выключэннем хіба толькі [ў] і [й] пасля галосных, па тых сегментах, якія з імі суадносяцца, успрымаюцца дрэнна. Слухачы ў стане распазнаваць іх толькі пры ўмове, калі для праслухоўвання даюцца санорныя разам са значнымі ўчасткамі суседніх зычных. Выдаленне значных участкаў іх гучання на ўспрыманні слоў не адбіваецца, што сведчыць аб іх малой інфарматыўнасці.

## § 3.9. ХАРАКТАР УСПРЫМАННЯ МЯККІХ ЗЫЧНЫХ

Акустычнае даследаванне мяккіх зычных паказала, што іх спектральны склад адрозніваецца ад спектральнага складу цвёрдых зычных. Акрамя таго, пасля мяккіх зычных заўсёды назіраецца [і]-падобны пераходны ўчастак у галосных. Для таго каб выявіць, у якой ступені інфармацыя аб мяккасці ўтрымліваецца ў розных сегментах моўнай плыні, групе носьбітаў беларускай мовы прапаноўваліся для праслухоўвання ўчасткі гучання складоў з дабаўленнем да кожнага праслуханага ўчастка 10 мс гучання. Такім шляхам праслухоўваўся фрагмент склада, які ўключаў пераходны [і]-падобны ўчастак галоснага.

У выніку гэтага эксперымента было выяўлена, што значэнне [і]-падобнага пераходу галоснага рознае для ўспрымання розных зычных. Пры гэтым можна прасачыць пэўную залежнасць паміж удзельнай вагой [і]-падобнага пераходу і даўжынёй папярэдняга зычнага сегмента, які ўтрымлівае інфармацыю аб мяккасці. Чым даўжэй сегмент зычнага, які нясе інфармацыю аб мяккасці, тым меншая ўдзельная вага [і]-падобнага пераходу галоснага ва ўспрыманні мяккасці зычнага.

Так, губныя [б'], [п'] характарызуюцца вельмі малой працягласцю выбуху, які можа несці інфармацыю аб мяккасці. Таму выразаныя з кантэксту гэтыя зычныя звычайна ўспрымаюцца як цвёрдыя і пачынаюць успрымацца як мяккія толькі пры далучэнні [і]-падобнага пераходу. Таму зразумела, што тут рашаючую ролю адыгрывае іменна [і]-падобны ўчастак галоснага. Да гэтай жа групы зычных належыць і [м']. Хоць з ім суадносіцца дастаткова доўгі сегмент, але ён не нясе інфармацыі аб мяккасці. Мяккія фрыкатыўныя зычныя і афрыкаты [с'], [з'], [х'], [ц'], [дз'] выяўляюць зусім іншае. Сегменты, якія суадносяцца з імі, досыць працяглыя, і таму, вылучаныя з кантэксту, яны ўспрымаюцца як адпаведныя мяккія зычныя без пераходнага ўчастка галоснага. Інфармацыі аб мяккасці яны ўтрымліваюць дастаткова. Да гэтай жа групы зычных адносяцца [к'] і [г'] выбухны, якія па акустычнай структуры таксама нагадваюць афрыкаты і ўспрымаюцца як мяккія без [і]-падобнага ўчастка галоснага. Іменна гэта група зычных (акрамя [к'] і [г']) у найбольшай ступені падвяргаецца асіміляцыйнаму змякчэнню перад мяккімі зычнымі, што, безумоўна, звязана з тым, што сегменты, якія з імі суадносяцца, успрымаюцца самі па сабе як мяккія зычныя.

Аднак трэба адзначыць, што зычныя [в'], [н'], [г'], [л'], [ф'], хоць фармальна таксама павінны адносіцца да гэтай групы, ва ўспрыманні маюць істотную асаблівасць, бо сегменты, якія з імі суадносяцца, выразаныя з кантэксту, значна горш апазнаюцца як мяккія зычныя, чым названыя вышэй афрыкаты і

фрыкатыўныя. Гэта абумоўлена радам прычын. Важнейшая з іх — [л'] і [н'] наогул распазнаюцца дрэнна, і слухачы павінны ўсю ўвагу ўдзяляць таму, каб пазнаць іх як пэўныя гукі, а [в'], [г'] і [ф'] суадносяцца з сегментамі, спектр якіх не так істотна змяняецца ў параўнанні з адпаведнымі цвёрдымі зычнымі. Амаль поўная адсутнасць асіміляцыі гэтых зычных па мяккасці (толькі [н'] можа памякчацца перад [ц'], [дз'], і то гэта памякчэнне не заўсёды добра ўспрымаецца на слых) і абумоўлена асаблівасцямі іх успрымання, бо [і]-падобны пераходны ўчастак мае для гэтых зычных большае значэнне, чым для [с'], [з'], [х'], [ц'], [дз'].

Такім чынам, эксперыменты па ўспрыманню паказваюць, што мяккасць зычных можа цалкам абумоўлівацца самім зычным, [і]-падобным пераходным участкам галосага або і тым і іншым адначасова. Падзел мяккіх зычных на тры групы адпавядае ступені іх здольнасці да асіміляцыйнага памякчэння.

Гэта пацвярджаецца і эксперыментамі па замене галосных. Калі ў парах тыпу *садзі — сядзі, мáта— мя́та, пат — пят, воз — вёз* і г. д., запісаных на магнітафонную стужку, пераклеіць галосныя пасля пачатковых зычных, то вынікі для розных пар слоў аказваюцца рознымі. У парах з пачатковымі зычнымі [б'], [п'], [м'] словы ўспрымаюцца так, як і без замены, толькі парадак іх аказваецца адваротным (*мя́та— мáта, пят — пат* і г. д.). У парах, у якіх словы пачынаюцца з астатніх зычных, яны ўспрымаюцца таксама ў адваротным парадку, але пры ўважлівым слуханні трэніраванае вуха ўсё ж заўважае ненатуральнае гучанне.

## § 3.10. ЗЫЧНЫЯ ПСІХАФАНЕМЫ

**У** перцэптыўных адносінах беларуская мова адрозніваецца ад іншых моў колькасцю і якасцю гукатыпаў зычных фанем. Своеасаблівасць зычных гукаў беларускай мовы прыдае ёй на ўзроўні слыхавых адчуванняў пэўную афарбоўку, якая несвядома заўважаецца носьбітамі іншых моў. Слухач, нязвыклы з беларускай мовай, у агульным плане адзначае наяўнасць дзекання, цекання, шапялявасці ў гаворцы беларусаў. Пры гэтым даецца інтэгральная перцэптыўная ацэнка мове. Своеасаблівай рысай гучання беларускай мовы з'яўляецца наяўнасць у ёй фрыкатыўнага [г], цвёрдага [р] і [ч], санорных [в] і [ў]. Пры ўспрыманні кожная з гэтых з'яў заўважаецца на слых асобна. Нарэшце, ёсць асаблівасці рэалізацыі зычных, якія заўважаюцца толькі пры пільным праслухоўванні. Так, на слых заўважаецца памякчэнне ў вымаўленні беларускіх [ж] і [ш], а таксама [с], [з], [х]. Наогул у моўнай плыні беларускай мовы больш часта, чым у рускай, ужываюцца цвёрдыя зычныя, афрыкаты і фрыкатыўныя зычныя. Гэта надае, як адзначаюць фанетысты, гучанню беларускай мовы пэўную своеасаблівасць, уражанне лагоднай гаворкі.

Успрыманне беларускіх зычных даследавалася пры праслухоўванні іх у кантэксце фразы або ў ізаляваных словах, складах і сегментах зычных. Звесткі аб успрыманні зычных гукаў даводзіцца аналізаваць у адпаведнасці з тымі эксперыментальнымі метадамі, пры дапамозе якіх гэтыя звесткі атрыманы. У адрозненне ад галосных шмат якія зычныя, напрыклад выбухныя, афрыкаты, для даследавання іх успрымання не могуць падавацца ізалявана. Адлучаныя ад суседняга галоснага, яны па гучанню наогул мала нагадваюць гукі мовы, і таму падобнае іх даследаванне не мае сэнсу. Аднак такія зычныя, якія

**Табліца 3.4. Набор зычных псіхафанем носьбіта беларускай мовы**

| | | |
|---|---|---|
| б | | б' |
| в | | в' |
| г | шчылінны | г' |
| g | змычны | g' |
| д | | |
| дз | | дз' |
| дж | | |
| ж | | |
| з | | з' |
| й | | |
| к | | к' |
| л | | л' |
| [redacted] | | м' |
| н | | н' |
| [redacted] | | п' |
| р | | |
| с | | с' |
| т | | |
| ў | | |
| ф | | ф' |
| х | | х' |
| ц | | ц' |
| ч | | |
| ш | | |

дрэнна ўспрымаюцца ізалявана, даследаваны ў перцэптыўных адносінах з дапамогай іншых метадаў пры ўспрыманні складоў, слоў і фраз.

Было праведзена даследаванне колькаснага саставу зычных псіхафанем. Высветлілася, што носьбіт беларускай мовы можа на слых вызначаць шмат тонкіх адценняў у гучанні зычнай фанемы, адрозніваць яе камбінаторныя варыянты. Аднак усё мноства варыянтаў зычных гукаў групуецца вакол невялікай колькасці гукатыпаў зычных ці, іншымі словамі, зычных псіхафанем. Як паказала даследаванне, іх колькасць у носьбіта беларускай мовы 39, што не супадае з колькасцю зычных фанем у беларускай мове, якіх 37. У прыватнасці, высветлілася, што [г] і [г'] выбухныя прыкметна адрозніваюцца на слых ад гукаў [г] і [г'] шчылінных і таму ўтвараюць на перцэптыўным узроўні дзве самастойныя псіхафанемы. Разам з тым аказалася, што гукі [j] і [й] адрозніваюцца на слых нязначна і таму прадстаўлены адной псіхафанемай. Такім чынам, носьбіт беларускай мовы пры ўспрыманні ажыццяўляе ідэнтыфікацыю зычных гукаў па набору псіхафанем, якія пададзены ў табл. 3.4.

Гэта значыць, што ў перцэптыўнай сістэме слухача-беларуса маецца адзначаная колькасць эталонаў зычных гукаў. Па сваёй якасці і ўзаемаадрозненню яны дакладна характарызуюць фанематычны слых носьбіта беларускай мовы, яго перцэптыўную базу.

Такія даныя адносна колькаснага і якаснага саставу зычных псіхафанем атрыманы не толькі ў доследах па ўспрыманню ізаляваных сегментаў зычных гукаў і складоў тыпу ЗГ, але і пры транскрыбіраванні гэтых гукаў. Два гукі лічацца варыянтамі адной псіхафанемы, калі на слых яны дыферэнцыруюцца чалавекам ненадзейна. Другой падставай да аб'яднання розных гукаў у псіхафанемы служаць вызначаныя ў доследах суб'ектыўныя адлегласці паміж гукамі. Ацэнку адлегласцей паміж зычнымі гукамі давалі слухачы-беларусы па пэўнай колькаснай шкале ў балах. Адносна невялікая адлегласць паміж двума гукамі дае нам падставу лічыць іх рознымі варыянтамі адной псіхафанемы. У прыватнасці, па адлегласцях быў зроблен вывад аб прыналежнасці гукаў [j] і [й] да адной псіхафанемы, [redacted] гукаў [g] і [г], [g'] і [г'] да розных псіхафанем.

Доследы паказваюць, што розныя зычныя апазнаюцца пры ўспрыманні з рознай надзейнасцю ў залежнасці ад сваёй якасці. Гэта значыць, што іх можна параўноўваць паміж сабою па надзейнасці ідэнтыфікацыі. Такія звесткі (табл. 3.5) атрыманы пры праслухоўванні аўдытарамі беларускіх зычных гукаў у складах ва ўмовах акустычных памех рознай інтэнсіўнасці.

Найлепшая апазнавальнасць сярод беларускіх зычных у гука [р] (100%), найгоршая ў [к'] і [ф] — 42%. З высокай надзейнасцю апазнаюцца гукі [дж] — 93%, [дз] — 77 і [ж] — 75%. Цікавымі з'яўля-

юцца інтэгральныя паказчыкі надзейнасці апазнавання розных катэгорый гукаў. Так, на падставе атрыманых звестак можна зрабіць вывад, што звонкія зычныя ідэнтыфікуюцца лепш, чым глухія, афрыкаты і фрыкатыўныя лепш, чым выбухныя, цвёрдыя зычныя апазнаюцца ў сярэднім лепш, чым мяккія. А санорныя гукі па надзейнасці апазнавання дастаткова розныя паміж сабою (працэнт ідэнтыфікацыі [ў] — 62, [н] — 77, [р] — 100).

Спецыяльны параўнальны аналіз надзейнасці ідэнтыфікацыі беларускіх галосных (націскных і ненаціскных) і зычных гукаў паказаў, што ўвогуле зычныя ідэнтыфікуюцца слухачамі лепш, чым галосныя. Такая заканамернасць наглядаецца пры параўнанні ўспрымання зычных і галосных у складах, у словах, у злітнай моўнай плыні. Гэты факт больш надзейнага і ўстойлівага ўспрымання зычных з'яўляецца сведчаннем іх большай камунікатыўнай значнасці ў перадачы сэнсу паведамлення ў параўнанні з галоснымі.

Носьбіты беларускай мовы даюць пэўную колькасную ацэнку слыхавой адлегласці паміж рознымі парамі зычных псіхафанем. Тым самым вызначаецца, наколькі далёкімі па гучанню з'яўляюцца пэўныя два зычныя гукі. Даследаванні паказалі, што для аднаго і таго ж чалавека зробленыя ім ацэнкі перцэптыўнага падабенства зычных не супадаюць з ацэнкамі артыкуляцыйнага і акустычнага іх падабенства. І таму відавочна, што вызначэнне перцэптыўных адлегласцей паміж беларускімі зычнымі выклікае пэўную цікавасць.

Вопыты, праведзеныя з носьбітамі беларускай мовы, па вызначэнню адлегласцей паміж зычнымі псіхафанемамі паказалі, што гэтыя адлегласці маюць для кожнай іх пары рознае значэнне (табл. 3.6).

Даследаванне праведзена толькі з 23 «цвёрдымі» псіхафанемамі. Выражаная ў балах ацэнка перцэптыўнай адлегласці паміж і-тай і j-тай зычнымі псіхафанемамі падаецца элементам матрыцы, які размешчаны на скрыжаванні і-тага радка і j-тага слупка. Такая матрыца адлюстроўвае не толькі колькасны састаў зычных псіхафанем у перцэптыўнай базе носьбіта беларускай мовы, але і іх якасць, бо яна паведамляе, як у перцэптыўнай прасторы адносна адзін аднаго размешчаны слыхавыя эталоны 23 зычных псіхафанем.

Табл. 3.6 паказвае, што параўнальна далёкімі па гучанню для слухача-беларуса з'яўляюцца такія

Т а б л і ц а 3.5. **Параўнальная надзейнасць успрымання беларускіх зычных (%)**

| Зычныя гукі | Надзейнасць успрымання, % |
|---|---|
| р | 100 |
| ц' | 96 |
| дж | 93 |
| м | 91 |
| с' | 88 |
| з' | 85 |
| з | 84 |
| ч | 82 |
| ш | 79 |
| дз | 77 |
| н | 77 |
| с | 76 |
| г | 75 |
| л | 75 |
| й | 75 |
| ж | 75 |
| ц | 75 |
| м' | 67 |
| г' | 65 |
| д | 65 |
| л' | 64 |
| н' | 63 |
| ў | 62 |
| х' | 57 |
| х | 55 |
| дз' | 54 |
| п | 53 |
| б | 52 |
| п' | 50 |
| б' | 48 |
| в | 46 |
| ф' | 44 |
| к | 44 |
| т | 43 |
| ф | 42 |
| к' | 42 |
| в' | 37 |

Таблiца 3.6. **Узаемападабенства зычных па гучанню па 5-бальнай шкале**

| б | в | г | д | дз | дж | ж | з | й | к | л | м | н | п | р | с | т | ў | ф | х | ц | ч | ш |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| б | 2 | 4 | 2 | 5 | 5 | 5 | 5 | 4 | 4 | 5 | 3 | 4 | 2 | 5 | 5 | 4 | 5 | 2 | 3 | 5 | 5 | 5 |
| | в | 5 | 5 | 5 | 5 | 4 | 5 | 3 | 5 | 3 | 5 | 4 | 4 | 5 | 5 | 5 | 1 | 1 | 2 | 4 | 5 | 5 |
| | | г | 4 | 5 | 5 | 3 | 5 | 3 | 2 | 4 | 5 | 5 | 4 | 3 | 5 | 2 | 2 | 1 | 1 | 4 | 2 | 4 |
| | | | д | 2 | 1 | 4 | 5 | 5 | 4 | 4 | 5 | 4 | 4 | 5 | 5 | 1 | 5 | 4 | 4 | 3 | 5 | 5 |
| | | | | дз | 1 | 2 | 1 | 5 | 5 | 5 | 5 | 5 | 5 | 5 | 3 | 5 | 5 | 4 | 5 | 2 | 5 | 3 |
| | | | | | дж | 1 | 2 | 5 | 5 | 5 | 5 | 5 | 4 | 5 | 5 | 4 | 5 | 4 | 3 | 3 | 1 | 1 |
| | | | | | | ж | 2 | 4 | 5 | 4 | 4 | 5 | 5 | 4 | 3 | 5 | 4 | 3 | 4 | 4 | 4 | 2 |
| | | | | | | | з | 5 | 5 | 5 | 5 | 5 | 5 | 4 | 3 | 5 | 4 | 2 | 4 | 5 | 2 | 3 |
| | | | | | | | | й | 5 | 2 | 3 | 2 | 5 | 3 | 4 | 5 | 1 | 3 | 4 | 5 | 5 | 5 |
| | | | | | | | | | к | 5 | 5 | 4 | 2 | 5 | 4 | 2 | 5 | 4 | 1 | 4 | 3 | 5 |
| | | | | | | | | | | л | 5 | 4 | 5 | 5 | 3 | 5 | 1 | 4 | 3 | 5 | 5 | 3 |
| | | | | | | | | | | | м | 2 | 2 | 4 | 3 | 5 | 4 | 5 | 5 | 5 | 4 | 5 |
| | | | | | | | | | | | | н | 5 | 5 | 5 | 4 | 4 | 5 | 4 | 5 | 5 | 5 |
| | | | | | | | | | | | | | п | 4 | 3 | 3 | 4 | 2 | 2 | 4 | 5 | 4 |
| | | | | | | | | | | | | | | р | 4 | 5 | 4 | 5 | 5 | 5 | 5 | 5 |
| | | | | | | | | | | | | | | | с | 4 | 5 | 3 | 3 | 1 | 4 | 2 |
| | | | | | | | | | | | | | | | | т | 5 | 4 | 5 | 2 | 4 | 4 |
| | | | | | | | | | | | | | | | | | ў | 1 | 4 | 5 | 5 | 5 |
| | | | | | | | | | | | | | | | | | | ф | 1 | 5 | 3 | 2 |
| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | х | 4 | 3 | 2 |
| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | ц | 1 | 4 |
| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | ч | 1 |
| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | ш |

пары зычных, як [дж] — [б], [р]—[т], [ў]—[ц], [п]—[дз] (5 балаў). Зразумела, што перцэптыўнае падабенства гэтых зычных, наадварот, малое і таму нельга чакаць памылковых іх узаемазамен пры ўспрыманні. Параўнальна невялікай з'яўляецца перцэптыўная адлегласць паміж зычнымі [с]—[ц], [ў]—[в], [дз] — [дж], [ш] — [дж], [ч] — [ш] (1 бал), [х]—[ш], [ф]—[ш], [к] — [п], [ц] — [дз], [л] — [й] (2 балы). Як вынік такое іх перцэптыўнае падабенства прыводзіць да ўзаемазамен гэтых зычных пры іх успрыманні (табл. 3.7).

Высветлена, што існуе пэўная заканамернасць у суадносінах паміж перцэптыўным падабенствам розных пар і іх артыкуляцыйным падабенствам. З некаторай прыблізнасцю яе можна разглядаць як адваротную залежнасць: перцэптыўна блізкія гукі [б] — [п], [м] — [н], як правіла, з'яўляюцца адносна далёкімі па артыкуляцыі, і, наадварот, перцэптыўна далёкія зычныя [р] — [л], [п] — [к], [б] — [г] аказваюцца адносна блізкімі па артыкуляцыі. У выніку гэтага назіраецца несупадзенне памылковых замен зычных гукаў пры вымаўленні (чалавек агаварыўся: *Прапоп* замест *Пракоп)*[14] і пры ўспрыманні

[14] Мотли М. Т. Оговорки // В мире науки. 1985. № 11. С. 58—66.

мовы (чалавек аслухаўся: *паківа́ць* замест *павіва́ць*).

Пры ўспрыманні зычных розныя іх артыкуляцыйныя характарыстыкі апазнаюцца неаднолькава. Так, добра апазнаецца спосаб утварэння зычнага (выбухны — фрыкатыўны, звонкі — глухі). Разам з тым адносна горш апазнаецца месца ўтварэння зычнага (губна-губны — пярэднеязычны — заднеязычны). Заначым, што лепш апазнаюцца цвёрдыя зычныя ў параўнанні з адпаведнымі мяккімі зычнымі. З адносна высокай надзейнасцю ўспрымаецца прыкмета санорнасці, аднак прыкмета «насавы — ротавы» на слых дыферэнцыруецца дрэнна.

З дапамогай фактарнага аналізу па матрыцы перцэптыўных адлеглацей паміж 23 зычнымі намі былі вызначаны верагодныя шкалыпрыкметы, па якіх носьбіт беларускай мовы ўспрымае зычныя гукі і прыпадабляе іх у перцэптыўнай прасторы псіхафанемам. Вызначана, што існуе чатыры шкалы і інтэрпрэціруюцца яны наступным чынам. Першая шкала разлічана на аналіз наогул усіх гукаў беларускай мовы, як галосных, так і зычных. Па ёй гукі ацэньваюцца па прыкмеце «галосны — шумны» ў залежнасці ад таго, лінейчаты ці суцэльны спектр мае гук. На дадатным полюсе гэтай шкалы групуюцца гукі [а], [е], [о], на процілеглым — [с], [ш], [х], [ф], [дж]. Астатнія гукі займаюць прамежкавае становішча. Другая шкала таксама разлічана на аналіз як галосных, так і зычных гукаў па прыкмеце «санорны — шумны», якая адлюстроўвае пераважнасць тону або шуму ў гукавым сігнале. У пачатку гэтай шкалы размяшчаюцца гукі [о], [у], [ў], [й], [м], [н], а ў канцы — зноў-такі зычныя [с], [ш], [х]. Трэцяя шкала існуе спецыяльна для зычных гукаў і інтэрпрэтуецца як «мяккасць — цвёрдасць» зычнага. Нарэшце, чацвёртая шкала разлічана на аналіз толькі цвёрдых зычных па прыкмеце «санантны — кансанантны» і адлюстроўвае тое, наколькі шырокі дыяпазон нізкіх частот мае спектр гука. На супрацьлеглых канцах гэтай шкалы размешчаны з аднаго боку гукі [ў], [м], [н], [р], а з другога — [з], [дз], [ж], [дж], [б], [j], [й].

Пры ўспрыманні зычных у складах [жа], [джу], [го], словах (*восень — восем, нас — газ*) і псеўдасловах (*дзі́—ба, хаў—са́*) ва ўмовах шуму рознай інтэнсіўнасці носьбіты беларускай мовы робяць памылкі і недакладна апазнаюць зычныя гукі. Пры гэтым адны зычныя з пэўнай рэгулярнасцю замяняюцца на іншыя: [к] на [п], [й] на [м], [ф] на [х], [в] на [г]. Такія сістэматычныя замены аднаго гука на другі ўскосна сведчаць аб падабенстве іх гучання ці, інакш, аб блізкасці слыхавых эталонаў (псіхафанем) гэтых гукаў у перцэптыўнай прасторы слухача. На падставе статыстычнага аналізу рэгулярных памылковых узаемазамен зычных гукаў беларускай мовы атрымана матрыца такіх замен (табл. 3.7).

З табл. 3.7 відаць, што не заўсёды пры распаўсюджанасці замены і-тага зычнага на j-ты, распаўсюджана і адваротная замена j-тага зычнага на і-ты (зычны [м] замяняецца на [н], аднак замена [н] на [м] не распаўсюджана). Разам з тым у многіх выпадках маюць месца ўзаемазамены (зычны [к] замяняецца на [т] так часта, як і [т] замяняецца на [к]). Па сутнасці, вызначаная праз узаемазамены ступень падабенства двух зычных гукаў з'яўляецца адваротнай велічынёй перцэптыўнай адлеглассці паміж імі, знойдзенай з дапамогай методыкі суб'ектыўнага шкаліравання. Параўнанне адпаведных элементаў абедзвюх матрыц паказвае, што іх велічыні дапасуюцца паміж сабой. Гэта значыць, звесткі аб узаемазаменах зычных не пярэчаць звесткам адносна перцэптыўных адлегласцей паміж імі. Так, згодна з табл.

**Т а б л і ц а 3.7.** **Наяўнасць (+) і адсутнасць (—) памылковых замен адных зычных гукаў (радкі) на другія (слупкі)**

| | б | б' | п | п' | в | в' | м | м' | ф | ф' | з | з' | с | с' | д | дж | дз | дз' | т |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| б | × | — | + | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | + | — | — | — | — |
| б' | — | × | — | + | — | + | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| п | — | — | × | — | + | — | — | — | + | — | — | — | — | — | — | — | — | — | + |
| п' | — | + | — | × | — | + | — | — | — | + | — | — | — | — | — | — | — | + | — |
| в | — | — | + | — | × | — | — | — | + | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| в' | — | — | — | + | — | × | — | + | — | + | — | — | — | + | — | — | — | — | — |
| м | — | — | — | — | — | — | × | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| м' | — | — | — | — | — | + | — | × | + | + | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| ф | — | — | + | — | + | — | — | — | × | — | — | — | + | — | — | — | — | — | — |
| ф' | — | — | — | + | — | + | — | — | — | × | — | — | — | + | — | — | — | — | — |
| з | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | × | — | + | — | — | — | + | — | — |
| з' | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | × | — | + | — | — | — | + | — |
| с | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | + | — | × | — | — | — | — | — | — |
| с' | — | — | — | — | — | — | — | — | — | + | — | + | — | × | — | — | — | — | — |
| д | + | — | + | — | — | — | — | — | — | — | + | — | — | — | × | + | + | — | + |
| дж | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | × | — | — | — |
| дз | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | + | — | — | — | — | — | × | — | — |
| дз' | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | + | — | — | — | — | — | × | — |
| т | — | — | + | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | + | — | — | — | × |
| ц | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | + | — | + | — | — | — | + | — | — |
| ц' | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | + | — | + | — | — | — | + | — |
| н | — | — | — | — | — | — | + | + | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| н' | — | — | — | — | — | + | — | + | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| л | — | — | — | — | + | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| л' | — | — | — | — | — | — | — | + | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| р | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| ж | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| ч | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| ш | — | — | — | — | — | — | — | — | + | — | — | — | + | — | — | — | — | — | — |
| й | — | — | — | — | + | + | + | + | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| г | — | — | + | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| г' | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| к | — | — | + | — | + | — | — | — | + | — | — | — | — | — | — | — | — | — | + |
| к' | — | — | — | + | — | + | — | — | — | + | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| х | — | — | + | — | + | — | — | — | + | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| х' | — | — | — | + | — | + | — | — | — | + | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| ў | — | — | — | — | + | — | — | — | + | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |

| | ц | ц' | н | н' | л | л' | р | ж | ч | ш | й | г | г' | к | к' | х | х' | ў |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| б | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | + | — | — | — | + |
| б' | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | + | — | — | — |
| п | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | + | — | + | — | — |
| п' | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | + | — | + | — |
| в | — | — | — | — | + | — | — | — | — | — | + | + | — | + | — | + | — | + |
| в' | — | — | — | — | — | + | — | — | — | — | + | — | + | — | + | — | + | — |
| м | — | — | + | — | + | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | + | — | — |
| м' | — | — | — | + | — | + | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | + | — |
| ф | — | — | — | — | — | — | — | — | — | + | — | — | — | — | — | + | — | — |
| ф' | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | + | — |
| з | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| з' | — | + | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| с | + | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| с' | — | + | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | + | — |
| д | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| дж | — | — | — | — | — | — | — | + | + | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| дз | + | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |

| | ц | ц' | н | н' | л | л' | р | ж | ч | ш | й | г | г' | к | к' | х | х' | ў |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| дз' | — | + | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| т | + | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | + | — | — | — | — |
| щ | × | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| ц' | — | × | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| н | — | — | × | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| н' | — | — | — | × | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| л | — | — | — | — | × | — | — | — | — | — | + | + | — | — | — | — | — | + |
| л' | — | — | — | — | — | × | — | — | — | — | + | — | + | — | — | — | — | — |
| р | — | — | — | — | — | — | × | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| ж | — | — | — | — | — | — | — | × | — | + | — | — | — | — | — | — | — | — |
| ч | — | — | — | — | — | — | — | — | × | + | — | — | — | — | — | — | — | — |
| ш | — | — | — | — | — | — | — | — | — | × | — | — | — | — | — | — | — | — |
| й | — | — | + | + | — | + | — | — | — | — | × | + | + | — | — | — | — | — |
| г | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | + | × | — | + | — | + | — | — |
| г' | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | + | — | × | — | + | — | + | — |
| к | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | + | — | × | — | + | — | — |
| к' | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | + | — | × | — | + | — |
| х | — | — | — | — | — | — | — | — | — | + | — | + | — | + | — | × | — | — |
| х' | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | + | — | + | — | × | — |
| ў | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | + | — | × |

3.7, распаўсюджанымі з'яўляюцца ўзаемазамены паміж выбухнымі зычнымі [п] ⇄ [к], [т] ⇄ [к], [п] ⇄ [т]. Гэта значыць, існуе ўзаемападабенства гэтых зычных па гучанню. Калі ж звярнуцца да табл. 3.6, то з яе відаць, што па суб'ектыўнай ацэнцы перцэптыўная адлегласць паміж гэтымі гукамі таксама невялікая: [п] — [к] 2,0 бала, [т] — [к] 2,0, [п] — [т] 3,0 бала. Абедзве такія даведкі адносна ўзаемазамен і перцэптыўнай блізкасці зычных [п], [т], [к] дапасуюцца да таго вядомага факта, што месца ўтварэння зычнага як параметр апазнаецца пры ўспрыманні адносна дрэнна.

Разам з тым, згодна з табл. 3.7, узаемазамены паміж [в] і [м], [д] і [н], [ж] і [р], [с] і [б], [л] і [р] не распаўсюджаны. Відавочна таму, што гэтыя гукі ўспрымаюцца слухачом як адносна далёкія па гучанню адзін ад аднаго. Як відаць з табл. 3.6, перцэптыўная адлегласць па 5-бальнай шкале паміж [в] і [м] ацэньваецца ў 5 балаў, паміж [д] і [н] — у 4, [ж] і [р] — у 4, [с] і [б] — у 5, [л] і [р] — у 5 балаў. Гэта адносна вялікая адлегласць паміж гукамі ў перцэптыўнай прасторы. Між іншым, азначаныя пары гукаў адрозніваюцца не месцам, а спосабам іх утварэння, і гэта артыкуляцыйная характарыстыка зычных, як вядома, успрымаецца дастаткова надзейна.

На памылкі пры ўспрыманні беларускай мовы, асабліва на памылковыя замены адных зычных гукаў на другія, уплывае фактар частотнасці таго ці іншага гука ў вуснай мове. Як правіла, прамая і адваротная замены паміж двума зычнымі бываюць аднолькава распаўсюджаны тады, калі, акрамя падабенства іх гучання, частотнасць гэтых зычных прыкладна аднолькавая. У прыватнасці, узаемазамены бываюць паміж гукамі [т] і [к]. Адпаведна частотнасць ужывання гэтых зычных у беларускай мове амаль аднолькавая: [т] — 0,0359, [к] — 0,0302. Узаемазамены маюць месца паміж [к'] і [п'], а іх частотнасць адпаведна складае 0,0079 і 0,0053. Распаўсюджаны ўзаемазамены паміж [п'] і [б'], частотнасць якіх адпаведна складае 0,0053 і 0,0038. У тых выпадках, калі і-ты гук замяняецца на j-ты, а замена j-тага гука на і-ты не распаўсюджана, назіраецца наступная заканамернасць:

гук з меншай частотнасцю замяняецца на гук, які больш частотны. Так, распаўсюджана аднабаковая замена зычнага [б] на [п]; адпаведна і частотнасць [п] параўнальна большая (0,0246), чым [б] (0,0105). Сістэматычнай з'яўляецца аднабаковая замена [м'] на [н'] пры адсутнасці замен [н'] на [м']. Адпаведна і частотнасць [н'] (0,0259) большая, чым частотнасць [м'] (0,0074).

Акрамя колькаснай і якаснай характарыстык слыхавых эталонаў зычных гукаў, іх размеркавання па гэтых характарыстыках у перцэптыўнай прасторы, істотнымі з'яўляюцца звесткі аб тым, у якой паслядоўнасці ідзе аналіз гукавога сігналу пры яго ўспрыманні і параўнанні з эталонам. Верагодна, у слыхавой сістэме адбываецца паступовае ўдакладненне звестак аб гуку. Спачатку выдзяляюцца інтэгральныя яго характарыстыкі, а затым ідзе апазнаванне больш дэталёвых прыкмет. Урэшце, поле гіпотэз звужаецца да адной пэўнай гіпотэзы аб прыналежнасці пачутага гука да нейкай адной псіхафанемы.

Існуюць падставы лічыць, што на першым этапе пачуты гук аналізуецца па сінтагматычных прыкметах. Па гэтых прыкметах адбываецца чляненне акустычнай хвалі на сегменты і апазнаванне па сегменту крыніцы гука і ўмоў яго стварэння. У выніку ўспрыняты гук можа быць аднесены да аднаго з наступных класаў: галосных ці санорных, выбухных ці звонкіх, фрыкатыўных глухіх ці звонкіх, афрыкатыўных глухіх або звонкіх[15]. Такім чынам, спачатку апазнаецца як бы сегментная структура гука, а не ён сам. Для асобных гукаў апазнаецца некалькі паслядоўных сегментаў. Для выбухных [п], [п'], [т], [к], [к'] вылучаецца сегмент, які адпавядае змычцы, і сегмент, які адпавядае выбуху. Пасля апрацоўкі акустычнай хвалі з дапамогай сінтагматычных прыкмет яна робіцца членараздзельнай. Лічыцца, што гэтыя прыкметы фіксуюцца ў фанематычным слыху носьбітаў любой мовы.

Пасля вызначэння прыналежнасці гука да класа пачынаецца другі этап аналізу таго сегмента, які аказаўся вылучаным. Для ўдакладнення пачутага гука далейшы яго аналіз вядзецца па парадыгматычных прыкметах. Па гэтых прыкметах адбываецца апазнанне канкрэтнай псіхафанемы з таго класа псіхафанем, да якога быў аднесены сегмент. Так, па сегменту галосных апазнаецца адна з псіхафанем [а], [ȧ], [о], [ȯ], [е], [ė], [у], [ẏ], [і], [ы]. У беларускай мове ў класе санорных гукаў могуць апазнавацца псіхафанемы [л], [л'], [н], [н'], [м], [м'], [в], [в'], [й], [ў], [р]. У класе глухіх выбухных апазнаюцца псіхафанемы [п], [п'], [т], [к], [к'], звонкіх выбухных — [б], [б'], [д], [g], [g'], глухіх фрыкатыўных — [ф], [ф'], [с], [с'], [ш], [х], [х'], звонкіх фрыкатыўных — [г], [г'], [з], [з'], [ж], звонкіх афрыкат — [дз], [дз'], [дж], у класе глухіх афрыкат — [ц], [ц'], [ч]. У той час як сінтагматычная прыкмета з'яўляецца і знікае ў моўнай плыні дыскрэтна, парадыгматычная прыкмета псіхафанемы можа ўзнікаць і затухаць у акустычным сігнале паступова. У выніку можа наглядацца ўзаемадзеянне парадыгматычных прыкмет сумежных гукаў у моўнай плыні ці, інакш кажучы, з'ява каартыкуляцыі. У межах аднаго і таго ж класа гукі, розныя па парадыгматычнай прыкмеце, адрозніваюцца ў асноўным спектрам, а не сегментнай будовай. У артыкуляцыйным плане яны адрозніваюцца па месцы ўтварэння, але спосаб утварэння маюць аднолькавы. Пасля апазнавання парадыгматычнай прыкметы гука адбываецца атаясамленне яго з адной з псіхафанем.

---

[15] Падлужны А. І. Нарыс акустычнай фанетыкі беларускай мовы. Мн., 1977. С. 43—51.

У кожнага з адзначаных вышэй класаў зычных гукаў наглядаюцца спецыфічныя асаблівасці іх успрымання. Звесткі аб гэтых асаблівасцях атрыманы ў выніку праслухоўвання розных участкаў зычнага гука, паслядоўна вылучаных з дапамогай сегментатара і прад'яўленых затым аўдытарам [16].

[16] Падлужны А. І. Нарыс акустычнай фанетыкі беларускай мовы. С. 55—91.

## § 3.11. УСПРЫМАННЕ СЛОВА

Слова з'яўляецца ў вуснай мове самастойнай адзінкай успрымання, прычым больш складанай, чым асобны гук ці склад. Фанетычны вобраз успрымаемага слова нельга разглядаць як суму фанетычных вобразаў тых складоў, якія ў яго ўваходзяць. Успрыманне слова нельга таксама зводзіць к успрыманню яго фанематычнага склада, бо побач з успрыманнем фанем адбываецца ўспрыманне суперсегментных фанетычных характарыстык слова і яго сэнсу. Таму, акрамя фанемнага склада, вобраз слова змяшчае ў сабе яго прасадычныя характарыстыкі: слоўны націск, інтанацыйны контур, часавыя суадносіны паміж складамі. Аднак больш істотнай акалічнасцю, праз якую слова робіцца самастойнай адзінкай успрымання, з'яўляецца не фанетычная яго цэласнасць, а наяўнасць пэўнай семантыкі, дзякуючы якой яно набывае самастойны сэнс.

У сувязі з тым што слова з'яўляецца не толькі фанетычнай адзінкай, але і семантычнай, адпаведна і ўспрыманне яго адбываецца не толькі праз аналіз сігналу фанетычнай прыроды (акустычных сігналаў), але і праз аперцэпцыю, праз семантыку кантэксту, праз прагназіраванне сэнсу вуснага паведамлення. Такім чынам, умоўна можна лічыць, што працэс апазнавання пачутага слова разбіваецца на некалькі паралельных працэсаў апрацоўкі розных звестак аб ім. Адной крыніцай з'яўляецца знешні акустычны сігнал пачутага слова, другія звесткі аб ім абумоўлены аперцэпцыяй, залежнасцю ад былога моўнага вопыту слухача, зафіксаванага ў яго памяці. Першы від звестак інакш яшчэ называюць фанетычнай інфармацыяй у процілегласць нефанетычным відам інфармацыі [17].

Як вядома, моўны сігнал, у тым ліку і сігнал слова, мае збыткоўную прыроду. Збыткоўнасць праяўляецца ў тым, што пры ўспрыманні для апазнавання сэнсу слова не абавязкова чуць увесь яго акустычны сігнал, а дастаткова пачуць нават частку яго. У звычайных умовах успрыманне вуснай мовы адбываецца пры наяўнасці шумаў, скажэння спектра акустычнага сігналу, часавай рэдукцыі гукаў і нават пропуску асобных элементаў слоў. Тым не менш дзякуючы збыткоўнасці мовы, наяўнасці ў памяці слухача разнастайнай інфармацыі аб слове паслоўная разборлівасць мовы застаецца адносна высокай (75%), нягледзячы на адносна нізкую, напрыклад, складовую яе разборлівасць (25%)[18]. Пад слоўнай разборлівасцю разумеюць працэнт правільна ўспрынятых слоў ад агульнай колькасці ўсіх прад'яўленых слухачу слоў, вымаўленых ізалявана ад кантэксту. Іменна дзякуючы збыткоўнасці нават пры перашкодах дасягаецца канстантнасць, цэласнасць успрымання фанемнага саставу слова, узнікае магчымасць выкарыстоўваць для ўспрымання слова папярэдні вопыт.

Збыткоўнасць у вуснай мове

[17] Падлужны А. І. Фанетычная і нефанетычная інфармацыя ў працэсе ўспрымання вуснай мовы // Фанетыка слова ў беларускай мове. Мн., 1983. С. 5—19.

[18] Покровский Н. Б. Расчет и измерение разборчивости речи. М., 1962. С. 14—15.

праяўляецца на розных узроўнях арганізацыі моўнага сігналу пры яго ўспрыманні слухачом. Па-першае, збыткоўнасць у слове існуе на ўзроўні акустычных сігналаў яго гукаў. Тут яе механізм такі, што звесткі аб асобным гуку фіксуюцца ў слове не толькі на адрэзку гэтага гука, але і на адрэзках іншых суседніх гукаў слова. У выніку атрымліваецца, што крыніцай інфармацыі аб гуку з'яўляецца не толькі яго акустычны сігнал, але і сігналы іншых гукаў. Адпаведна ў акустычным сігнале кожнага асобнага гука маецца невялікі адбітак іншых гукаў слова. Артыкуляцыйная прырода такой збыткоўнасці тлумачыцца непазбежнасцю пры вымаўленні слова каартыкуляцыйных з'яў, асіміляцыі, акамадацыі, рэдукцыі гукаў.

Па-другое, акрамя збыткоўнасці акустычнага парадку на ўзроўні фанемнага саставу слова звычайна маецца збыткоўнасць фаналагічнага парадку. Слова пры гэтым разглядаецца як паслядоўнасць фанем, а не гукаў. А ў паслядоўнасцях спалучэння фанем у кожнай мове, як высветлілася, ёсць свае заканамернасці. Як вядома, у славянскіх мовах фанемная арганізацыя моўных паведамленняў такая, што галосныя фанемы размешчаны з устойлівай паслядоўнасцю ў ланцугу зычных фанем. Іншымі словамі, верагоднасць таго, якая будзе наступная фанема, зычная ці галосная, абумоўліваецца папярэдняй фанемай: пасля зычнай верагодней будзе галосная і наадварот. Прагноз у слове кожнай наступнай фанемы (у прыватнасці, першай фанемы ў слове) незалежна ад папярэдніх слухач можа ажыццяўляць з улікам неаднолькавай частотнасці розных фанем у моўнай плыні [19].

Для прагнозу зычнай фанемы ў залежнасці ад папярэдніх і асаблі-ва збегу зычных у пачатку слова пры яго ўспрыманні можна выкарыстоўваць звесткі аб спалучальнасці зычных у беларускай мове (гл. раздзел 4).

Прагноз наступнай фанемы па папярэдніх можа ажыццяўляцца ў працэсе ўспрымання слова з улікам яшчэ адной дыстрыбуцыйнай асаблівасці яго фанем. Як вядома, ва ўсходнеславянскіх мовах зычныя фанемы не з'яўляюцца складаўтваральнымі. Па гучнасці яны слабей галосных фанем, якія з'яўляюцца складаўтваральнымі. Пры гэтым зычныя фанемы па гучнасці істотна адрозніваюцца таксама і паміж сабою; яны разбіваюцца па гэтай шкале на некалькі рангаў. Ланцуг розных па гучнасці зычных і галосных складаецца такім чынам, што ўвогуле гучнасць у ім мяняецца хвалепадобна. На вяршынях хваль стаяць галосныя фанемы, а між імі зычныя фанемы могуць утвараць парабалоідны контур гучнасці з адным мінімумам. Урэшце, з улікам хвалепадобнай змены гучнасці можна ажыццяўляць прагноз наступнай фанемы (дакладней кажучы, рангу яе гучнасці) па папярэдніх. Відавочна, што слухач — носьбіт беларускай мовы ў выніку практычнага карыстання мовай можа несвядома фіксаваць у сваёй памяці звесткі аб гэтых заканамернасцях, а затым выкарыстоўваць іх пры ўспрыманні. Засваенне прынцыпаў спалучальнасці фанем у слове спрыяе слыхавому прагнозу.

Даследаванні апошняга часу даюць падставу сцвярджаць, што такія артыкуляцыйныя адзінкі мовы, як склады, з'яўляюцца аднача-сова і адзінкамі ўспрымання, па кожнай з якіх прымаецца прамежкавае рашэнне перад тым, як апазнаецца цалкам усё слова. Пры такім дапушчэнні слова пры ўспрыманні ўяўляецца як паслядоўнасць складоў, якія яго ўтвараюць. Але вядома, што для кожнай мовы ха-

---

[19] Падлужны А. І. Фаналагічная сістэма беларускай літаратурнай мовы. Мн., 1969.

рактэрна свая пэўная частотнасць тых ці іншых складоў і розных іх тыпаў, спалучальнасць складоў паміж сабою, становішча іх адносна слоўнага націску, пачатку і канца слова. Гэтыя звесткі аб складах могуць таксама фіксавацца ў слухача ў памяці, а затым выкарыстоўвацца ім у працэсе ўспрымання слоў і фраз. У выніку пры ўспрыманні слова склад, які павінен прысутнічаць у ім, але чамусьці не рэалізаваўся, можа быць узноўлены з дапамогай статыстычных звестак адносна частотнай арганізацыі складоў у слове.

Відавочна, што статыстычныя звесткі аб з'явах, звязаных з марфалагічнай будовай слова, нельга перадаць праз яго складовую будову. Прыстаўкі, суфіксы, канчаткі слоў могуць супадаць са складам досыць рэдка. Калі даваць поўную характарыстыку перцэптыўнаму вобразу слова, які фарміруецца ў слухача, трэба ўлічваць наяўнасць у гэтым вобразе звестак аб марфалагічнай будове слова і адпаведна дапускаць, што яны выкарыстоўваюцца нейкім чынам у працэсе яго апазнавання. Таму ёсць падставы лічыць, што ў памяці слухача фіксуюцца статыстычныя звесткі аб спалучальнасці і частаце марфем, аб заканамернасцях словаўтваральнай і словазмяняльнай дыстрыбуцыі марфем, заканамернасцях фанетычнай іх рэалізацыі.

Зразумела, што на апазнаванне слова ўспрыманне розных яго марфалагічных частак уплывае не ў аднолькавай ступені. У беларускай мове колькасць розных прыставак, якія могуць спалучацца з адным коранем, бывае меншай, чым колькасць магчымых канчаткаў. Адны прыстаўкі і канчаткі ўжываюцца ў беларускай мове больш часта, другія больш рэдка. У сувязі з гэтым у памяці слухача фіксуюцца звесткі аб тым, якія канкрэтна прыстаўкі, суфіксы і канчаткі больш часта спалучаюцца з тымі ці іншымі каранямі, а якія больш рэдка. Такія звесткі чалавек набывае ў выніку працяглага карыстання мовай. Дзякуючы свайму моўнаму вопыту слухач мае магчымасць прагназіраваць моўнае паведамленне на яго марфалагічным узроўні. Калі ў слове невыразна чуецца асобная марфалагічная адзінка, то прыблізныя звесткі аб ёй слухач можа ўскосна атрымаць праз слыхавы аналіз іншых выразна пачутых марфалагічных адзінак гэтага слова[20]. Такім чынам, на фанемным ці складовым узроўні збыткоўнасць моўнага сігналу слова дазваляе ўзнаўляць асобныя фанемы ці склады. А збыткоўнасць марфемнага апісання слова дазваляе ўзнаўляць у ім асобныя марфемы ці, інакш кажучы, групы фанем.

Апрача звестак аб алафоннай, фанемнай, складовай і марфемнай будове слова, яго вобраз у слыхавой памяці дапаўняецца звесткамі аб прасадычнай арганізацыі гэтага слова. Адны прасадычныя характарыстыкі слова (часавыя, інтанацыйныя) вельмі варыятыўныя. Эталанізіраваць іх і зафіксаваць у вобразе цяжка. Іншыя характарыстыкі (колькасць складоў, месца слоўнага націску) адносна стабільныя і могуць быць лёгка апісаны. Адпаведна і пры ўспрыманні слова дзве апошнія яго характарыстыкі могуць служыць надзейнымі прыкметамі для ўспрымання слова. Адзначым, што ў адрозненне ад сегментных прыкмет слова яго прасадычныя прыкметы могуць выкарыстоўвацца для апазнавання толькі з моманту заканчэння акустычнага сігналу. Тым не менш іменна прасадычныя характарыстыкі слова (у прыватнасці, колькасць у ім скла-

---

[20] Безумоўна, у семантычных адносінах каранёвая марфема нераўназначна ў слове іншым марфемам. Пры недакладным яе ўспрыманні часцей бываюць лексічныя памылкі, а пры недакладным успрыманні іншых марфем — памылкі чыста фанетычнай прыроды.

доў і месца націскнога склада) у адрозненне ад іншых яго характарыстык успрымаюцца больш надзейна. Апошняе сведчыць аб тым, што на прасадычным узроўні апісання слова таксама існуе збыткоўнасць яго сігналу.

Нарэшце, у мове існуе збыткоўнасць яшчэ аднаго ўзроўню, якая істотна спрыяе ўспрыманню слоў чалавекам. Яна рэалізуецца тады, калі слова ўспрымаецца слухачом не ізалявана, а ў кантэксце іншых слоў у структуры фразы ці сказа. У гэтым выпадку слова выступае ў якасці састаўной адзінкі фразы. Тут, як вядома, кожнае слова фразы бывае звязаным з іншымі яе словамі граматычнымі, семантычнымі і акцэнтна-рытмічнымі сувязямі. І ўсе звесткі аб такіх сувязях, дазволеных спалучэннях адных слоў з другімі, частаце асобных слоў у мове запамінаюцца носьбітам мовы. Праз гэтыя звесткі ўзнікае магчымасць аднаўляць пры ўспрыманні фразы асобныя невыразна пачутыя ў ёй словы па іншых пачутых словах.

Такім чынам, зыходзячы з аналізу прыроды збыткоўнасці моўнага сігналу, правамерна зрабіць вывад, што збыткоўнасць мае месца на ўзроўні апісання фразы сістэмай слоў, на ўзроўні апісання слова сістэмай марфем і складоў, фанем і асобных гукаў, а таксама на ўзроўні апісання слова прасадычнымі сродкамі. Дзякуючы з'яве збыткоўнасці мовы пры ўспрыманні вусных паведамленняў дасягаецца надзейнае апазнаванне слоў гэтага паведамлення. Успрыманне слова робіцца цэласным і канстантным, неадчувальным да знікнення ў ім асобных сігналаў, да ўздзеяння шуму і скажэнняў акустычнага сігналу слова.

Дзякуючы моўнаму вопыту, наяўнасці ў памяці разнастайнай інфармацыі аб слове яго надзейнасць успрымання бывае больш высокай, чым надзейнасць успрымання ўтвараючых яго складоў. Даследаванне разборлівасці слоў беларускай мовы паказала, што працэнт слоўнай разборлівасці мовы складзе 85 пры 50% разборлівасці складоў (рыс. 66).

Розніца паміж надзейнасцю ўспрымання слоў і складоў яскрава наглядаецца ў доследах па ўспрыманню ізаляваных складоў, пазбаўленых у беларускай мове сэнсу (*ра, сы, вэ, лу, чо, даз, кі* і г. д.), і аднаскладовых слоў, надзеленых сэнсам (*на, бо, ён, ты, дзе, мы, не, да*). Перцэптыўны эксперымент хутка пераконвае ў тым, што склады, якія маюць сэнс, успрымаюцца больш хутка і надзейна, чым склады, пазбаўленыя яго. Як вядома, аднаскладовыя словы параўнальна цяжка ўспрымаюцца ў адрозненне ад шматскладовых слоў, і тым не менш яны ўспрымаюцца больш надзейна, чым неасэнсаваныя склады.

Адзначым, што праблема ўспрымання слоў у злітнай вуснай мове цесна сутыкаецца з праблемай вызначэння граніц паміж словамі, інакш кажучы, сегментацыі моўнай плыні на словы. Акустычныя даследаванні паказваюць, што ў моўным сігнале існуюць прыкметы меж паміж словамі на сегментным і на прасадычным узроўні. Але канчатковых доказаў, што іменна акустычныя прыкметы выкарыстоўваюцца слухачом для сегментацыі моўнай плыні, а не якія-небудзь іншыя, напрыклад семантычныя ці верагодныя, пакуль няма.

## § 3.12. УСПРЫМАННЕ ФРАЗ

Вуснае выказванне ў выглядзе фразы з'яўляецца ў параўнанні са словам больш складанай адзінкай успрымання вуснай мовы. У працэсе ўспрымання і асэнсавання фразы слухач, акрамя фанематычнага, марфалагічнага і прасадычнага аналізу моўнага сігналу, ажыццяў-

ляе сінтаксічны аналіз фразы. Мноства фраз, пачутых носьбітам беларускай мовы, зафіксавана ў яго памяці праз мноства пэўных сінтаксічных канструкцый і правіл іх утварэння, змянення, правіл перастаноўкі асобных членаў кожнай канструкцыі, характэрных для вуснай формы мовы.

На ўзроўні ўспрымання фразы становіцца актуальнай праблема сегментацыі моўнага сігналу на словы, адпаведнасці гучання фразы арфаэпічным нормам, фразавай разборлівасці, успрымання экстралінгвістычных з'яў: дыялектных асаблівасцей гаворкі чалавека, яго эмацыянальнага настрою, узросту, полу. Пры ўспрыманні фразы слыхавы аналізатар чалавека, без сумнення, пэўным чынам апрацоўвае адзначаныя віды лінгвістычнай інфармацыі, змешчанай у акустычным сігнале фразы. Аднак пакуль што невядома, у якой паслядоўнасці, з якой дакладнасцю апрацоўваюцца розныя інфармацыйныя кампаненты фразы, якім чынам яны спрыяюць прыняццю канчатковага рашэння аб сэнсе фразы.

Складаныя пытанні механізма ўспрымання фразы патрабуюць асобага разгляду. Разам з тым існуе інтэгральны крытэрый ацэнкі паспяховасці ўспрымання фразы, такі, як фразавая разборлівасць мовы. Велічыня фразавай разборлівасці вылічаецца ў эксперыменце па працэнту правільна ўспрынятых фраз ад агульнай колькасці ўсіх фраз, прад'яўленых для праслухоўвання аўдытарам — носьбітам беларускай мовы. Спіс фраз для даследавання фразавай разборлівасці беларускай мовы складаецца з улікам наступных патрабаванняў. Па-першае, ён павінен складацца не менш чым з 35—40 фраз, па-другое, фразы павінны адрозніваецца разнастайнымі сінтаксічнымі і інтанацыйнымі канструкцыямі і, па-трэцяе, складацца са слоў шырока распаўсюджанай лексікі, якія характарызуюцца прыкладна аднолькавай апазнавальнасцю[21]. Пажадана, каб колькасць слоў у фразе была не больш чым 5—6, а складоў — 10—11[22]. Фразы павінны вымаўляцца дыктарам з выразнай дыкцыяй пры поўным стылі вымаўлення ў сярэднім тэмпе маўлення, што складае для беларускай мовы 3,7 склада/с[23], ці 11 гукаў/с[24]. Калі плануецца шматразовае праслухоўванне такога спіса фраз, то робіцца якасны магнітафонны іх запіс.

Звычайна пры вызначэнні ступені разборлівасці маўлення для кожнай мовы складаецца свой асобны спіс фраз, слоў, складоў[25]. Пры гэтым мэтазгодна, каб кожны даследчык карыстаўся адным і тым жа спісам. У такім выпадку ёсць магчымасць параўноўваць і супастаўляць вынікі вымярэнняў розных даследчыкаў.

Відавочна, што фразы, выразна вымаўленыя дыктарам і якасна запісаныя на магнітафон, успрымаюцца носьбітам беларускай мовы надзейна і лёгка (маецца на ўвазе, што слыхавая функцыя носьбіта мовы не парушана). Зразумела, што асаблівай цікавасці для перцэптыўных даследаванняў беларускай мовы такое вымаўленне не мае. І наадварот, колькасныя вымярэнні фразавай разборлівасці становяцца цікавымі, калі з'яўляецца той ці іншы фактар, які перашкаджае працэсу ўспрымання і змяншае разборлівасць мовы. Так, вядома, што разборлівасць мовы змяншаюць розныя акустычныя шумы ў канале сувязі. Пры гэ-

---

[21] Артикуляционные таблицы / Сост. А. С. Штерн. Л., 1984. С. 1—4.

[22] Речь: Артикуляция и восприятие. М.; Л., 1965. С. 222.

[23] Бенедиктов Б. А. Психология овладения иностранным языком. Мн., 1974. С. 67—72.

[24] Фанетыка слова ў беларускай мове / Пад рэд. А. І. Падлужнага. Мн., 1983. С. 51.

[25] Зиндер Л. Р. Русские артикуляционные таблицы // Тр. Академии. Сб. 29, 30. Л., 1951. С. 31—46, 119—198.

тым складовая, слоўная і фразавая разборлівасць памяншаюцца нелінейна (рыс. 64). Другім прыватным фактарам, які змяншае фразавую разборлівасць, можа быць недастатковы ў слухача ўзровень валодання мовай. Трэці магчымы фактар — захворванне слыхавой сістэмы чалавека. У апошнім выпадку фразавая разборлівасць ад 100% можа паменшыцца да 50—40% [26].

Як адзначалася, фразавая разборлівасць выступае ў якасці паказчыка пасляховасці ўспрымання фразы, дакладней кажучы, яе сэнсу. Тады, калі фраза гучыць разборліва, цяжка гаварыць аб ролі асобных яе кампанентаў у працэсе ўспрымання. У гэтым выпадку мэтазгодна гаварыць аб натуральнасці гучання фразы і аб тым, наколькі адпавядае яе вымаўленне арфаэпічным нормам беларускай мовы. Наадварот, калі фраза ўспрымаецца з цяжкасцю і марудна, гаварыць аб натуральнасці гучання такой неразборлівай фразы не выпадае. Тут больш зручна даследаваць прычыны, ад уздзеяння якіх фраза траціць сваю разборлівасць.

Прааналізуем выпадак, калі фраза чуецца разборліва і сэнс яе ўспрымаецца дакладна. Гэта азначае, што семантычная інфармацыя, закадзіраваная ў моўным сігнале фразы, дэкадзіруецца слухачом — носьбітам беларускай мовы паспяхова. Разам з тым у гучанні той жа фразы, акрамя семантычнай, змешчана і іншая інфармацыя, у прыватнасці звесткі аб натуральнасці гучання фразы, дыялектных асаблівасцях гаворкі чалавека. Якія ж магчымасці ёсць у слухача па ўспрыманню гэтай дадатковай інфармацыі? З аднаго боку, вядома, што носьбіт беларускай мовы можа рабіць слыхавую ацэнку таго, наколькі пачутыя ім фразы адпавядаюць арфаэпічным нормам беларускага літаратурнага вымаўлення. Як паказваюць даследаванні, найбольш адчувальнымі на слых з'яўляюцца адхіленні ў вымаўленні зычных гукаў [27]. Адносна горш заўважаюцца на слых адхіленні ў вымаўленні галосных. Нарэшце, менш за ўсё заўважаюцца слухачамі — носьбітамі беларускай мовы недакладнасці інтанацыйнага афармлення фразы.

З другога боку, фанетычныя даследаванні выявілі таксама з'яву слыхавой адаптацыі носьбіта беларускай мовы да адхіленняў ад літаратурнага вымаўлення. Высветлілася, што звычайны слухач пасля 3—5 мінут успрымання беларускай гаворкі перастае, напрыклад, заўважаць аканне або оканне, уласцівае носьбіту беларускай мовы, лёгка адаптуецца да незвычайнага інтанацыйнага або тэмпаральнага вымаўлення фраз гаворачым. Гэта адбываецца тады, калі слухач спецыяльна не сочыць за арфаэпіяй, а сочыць за сэнсам паведамлення і лёгка яго ўспрымае. Аднак, як паказалі даследаванні, адаптацыя да ненарматыўнага вымаўлення зычных развіваецца ў слухача адносна дрэнна. Нават пасля 10—20 мінут успрымання яго ўвагу прыцягвала вымаўленне мяккіх зычных ['ч], [р'], выбухнога [г], не ўласцівых беларускай мове.

Такім чынам, слыхавую адаптацыю трэба прызнаць распаўсюджанай з'явай, змяншаючай у звычайных умовах адчувальнасць слухача да арфаэпічнага афармлення мовы. Такая адаптацыя сведчыць аб уласцівасці слыхавога аналізатара чалавека паступова рабіцца неадчувальным пры ўспрыманні сэнсу фразы да неістотных фанетычных кампа-

---

[26] Склют И. А., Подлужный А. И., Стасенко Е. Н. Односложные белорусские слова для речевой аудиометрии и исследования остроты слуха шепотной речью // Здравоохранение Белоруссии. 1975. № 11. С. 68—71.

[27] Садоўскі П. В. Беларускае слова ў эфіры // Культура мовы журналіста. Мн., 1984. № 2. С. 19.

нентаў яе гукавой арганізацыі. Той факт, што з'явы ненарматыўнага вымаўлення беларускіх зычных заўважаюцца хутчэй, сведчыць яшчэ раз аб большай камунікатыўнай значнасці апошніх у параўнанні з беларускімі галоснымі.

Зразумела, што з'ява адаптацыі будзе яскрава праяўляцца толькі ў тых выпадках, калі галоўным пры ўспрыманні фразы з'яўляецца распазнаванне яе сэнсу. Распазнаванне сэнсу якраз і з'яўляецца галоўнай мэтай працэсу камунікацыі. Як вядома, беларуская літаратурная мова ў вуснай форме функцыяніруе ў тэатры, на радыё, тэлебачанні, у кіно. Пры праслухоўванні тэатральнага спектакля, радыё- ці тэлеперадачы слухач, безумоўна, не можа ўвесь час заставацца крытычным да асаблівасцей гаворкі дзеючых асоб, дыктараў, артыстаў. Назіранні паказваюць, што ён звяртае ўвагу на дыктарскія асаблівасці гаворкі толькі ў першыя 3—4 мінуты. А затым паступова ўсё менш рэагуе на індывідуальныя асаблівасці маўлення гаворачага.

Фанетычныя даследаванні паказалі, што адаптацыя слухача да арфаэпічнага афармлення вуснага паведамлення, якое ён чуе, развіваецца больш хутка, калі адначасова з вуснай ён атрымлівае і зрокавую інфармацыю: глядзіць на тэле- або на кінаэкран, бачыць субяседніка. У гэтым выпадку зрокавая інфармацыя, калі яна дапаўняе па сэнсу моўную, пераводзіць раней істотную фанетычную інфармацыю ў ранг збыткоўнай. Таму апошняя пачынае апрацоўвацца не так пільна. У прыватнасці, эмацыянальны стан той асобы, якая гаворыць, яе пол і ўзрост слухач-перцэпіент можа ўспрымаць зрокава, а не, як раней, праз акустычны сігнал гаворкі гэтай асобы.

І наадварот, калі вуснае паведамленне не суправаджаецца паказам таго, аб чым гаворыцца, слухач лепш заўважае розныя адхіленні ад літаратурнага вымаўлення. Так, фанетычныя даследаванні на матэрыяле беларускай мовы паказалі, што звычайныя слухачы звяртаюць увагу на памылкі ў маўленні дыктараў радыё больш часта, чым дыктараў тэлебачання. Яшчэ менш крытычным да адхіленняў ад правільнага вымаўлення з'яўляецца кінаглядач. У адрозненне ад успрымання тэлеперадачы і кіно ўспрыманне вуснай мовы артыстаў у тэатры адбываецца не ў штучных умовах, а непасрэдна. У зале тэатра акустычны сігнал гучыць аб'ёмна і якасна. Таму тэатральны глядач застаецца таксама і пільным слухачом, адчувальным да арфаэпічнага афармлення гаворкі артыстаў на сцэне.

Прыведзеныя звесткі, атрыманыя пры фанетычных даследаваннях, дапасуюцца да шматлікіх вывадаў, зробленых на падставе жыццёвых назіранняў людзей, якім даводзіцца працаваць у сістэме радыё, тэлебачання, кіно, беларускага тэатра. Агульным з'яўляецца той вывад, што ў арыентацыі на звычайнага слухача, які ўспрымае перш за ўсё сэнс вусных паведамленняў, патрабаванні да дыктараў радыё, тэатра, тэлебачання і кіно могуць быць рознымі. Найбольш высокія патрабаванні да захавання арфаэпічных норм беларускага літаратурнага вымаўлення павінны быць да дыктараў радыё і артыстаў драматычнага тэатра.

Якасць успрымання фразы, як бачым, вызначаецца не толькі характарыстыкамі яе акустычнага сігналу, але і тымі камунікацыйнымі абставінамі, у якіх знаходзіцца слухач. Яскравым сведчаннем таго, што канцэнтрацыя ўвагі на сэнсе фразы зніжае ўвагу слухача да яе фанетычнага афармлення, з'яўляецца і вусны пераклад з адной мовы на другую, у прыватнасці сінхронны пераклад. Спецыяльныя даследаванні і жыццёвыя назіранні паказваюць, што пры арыентацыі на

хуткую перадачу сэнсу фраз пры перакладзе з беларускай мовы на рускую перакладчык не сочыць за фанетычнымі асаблівасцямі рэалізацыі фраз, якія перакладае. Галоўным патрабаваннем да рэалізацыі фразы, ад якога залежыць паспяховасць перакладу, з'яўляецца разборлівасць гучання фразы. Натуральнасць жа гучання і адпаведнасць яго арфаэпічным нормам не ўплываюць на якасць перакладу. На гэтыя параметры мовы слухач-перакладчык не звяртае ўвагі і не памятае іх.

Разгледзім выпадак, калі праслухоўванне фразы і аналіз яе гучання праводзяць спецыялісты — аўдытары, фанетысты і працэс успрымання фразы ідзе ў разліку на ўспрыманне як яе сэнсу, так і фанетычных асаблівасцей гучання. Спецыяльнымі доследамі пацверджана, што адно і тое ж вуснае паведамленне ўспрымаецца як розная паслядоўнасць фанематычных адзінак у залежнасці ад таго, наколькі вопытны аўдытар яго ўспрымае і асэнсоўвае. Розным аўдытарам прад'яўлялася для праслухоўвання фраза *«Вось ліса з мядзведзем падышлі к гэтаму мясу»*[28]. Адразу прад'яўлялі не ўсю фразу, а невялікі пачатковы адрэзак яе акустычнага сігналу. Ад прад'яўлення да прад'яўлення адрэзак, які агучваўся, паступова павялічваўся. Аўдытары павінны былі транскрыбіраваць акустычныя адрэзкі, якія ўспрымалі, апазнаваць і перадаваць праз транскрыпцыю сэнс паведамлення. Высветлілася, што звычайныя аўдытары імкнуцца да пошуку хаця б якога-небудзь сэнсу ці лексічнага напаўнення ў прагучаўшым акустычным сігнале. У выніку ў іх зніжаецца вастрыня фанематычнага слыху: яны ўспрымаюць адны гукі замест другіх, дамысліваюць ці прапускаюць гукі. Сталыя фанетысты пры аўдзіраванні не імкнуцца да глыбокага ўспрымання сэнсу фразы. Пры яе праслухоўванні яны пачынаюць асэнсоўваць і выдзяляць у ёй словаформы толькі пасля з'яўлення трэцяга ці чацвёртага слова. Затое фанетысты, наадварот, вельмі пільна сочаць за акустычнымі асаблівасцямі гучання фразы і дапускаюць мала фанетычных памылак.

Такім чынам, на вастрыню фанетычнага слыху аўдытара-беларуса ўплывае псіхалагічная арыентацыя яго звяртаць увагу або на гучанне, або на сэнс паведамлення. Акрамя таго, на вастрыню слыху чалавека ўплывае напрактыкаванасць і здольнасць аўдзіраваць беларускую мову. Шматгадовы вопыт слухача-беларуса дазваляе яму вылучаць на слых розныя варыянты гучання беларускіх фанем. У прыватнасці, у яго развіваецца здольнасць адрозніваць варыянты рэалізацыі фанем [р] і [г], заўважаць на слых выпадкі частковага памякчэння цвёрдых зычных. Вопытны слухач можа адрозніваць пры ўспрыманні з'яву падоўжанага вымаўлення зычнай фанемы [*зац'іш:а*], выдзяляць некалькі алафонаў [а], [ъ], [а:] фанемы /а/, вылучаць на слых пры ўспрыманні слоў характэрную для беларускай мовы з'яву пабочнага слоўнага націску.

У сталых фанетыстаў шматдзённыя практыкаванні ў аўдзіраванні і транскрыбіраванні фраз на беларускай мове развіваюць вастрыню фанематычнага слыху. Побач з гэтым у іх развіваецца здольнасць канцэнтраваць пры ўспрыманні ўвагу не на сэнсе пачутага паведамлення, а на яго фанетычным афармленні. У выніку здольнасць да слыхавой адаптацыі, аб якой пісалася вышэй, у спрактыкаванага аўдытара беларускай мовы змяншаецца. Развіваецца здольнасць неабмежавана доўга захоўваць пры ўспрыманні высокую слыхавую адчувальнасць да розных неістотных фане-

---

[28] Падлужны А. І. Нарыс акустычнай фанетыкі беларускай мовы. С. 39

тычных з'яў. Практыка ўспрымання беларускай літаратурнай і дыялектнай мовы спрыяе развіццю не толькі фанематычнага слыху аўдытара, але і яго слыхавой памяці. Вядома, што сталыя беларускія даследчыкі-дыялектолагі вельмі дакладна па памяці могуць вызначыць, да якога дыялекту ці рэгіёна адносіцца пачутая з магнітафона гаворка. Гэта значыць, што ў іх памяці могуць фіксавацца істотныя прыкметы розных дыялектных гаворак. Слыхавая памяць фанетыста-аўдытара дазваляе апазнаваць розных асоб па іх голасу. У такім выпадку ў слыхавой памяці чалавека на доўгі час фіксуюцца фанетычныя асаблівасці гаворкі канкрэтнай асобы. Яны вызначаюцца своеасаблівасцямі інтанацыі і тэмбру голасу асобы, спецыфікай адхілення гаворкі ад арфаэпічных норм. Назіранні паказваюць, што дзякуючы практыцы некаторыя сталыя аўдытары па адной ці дзвюх пачутых фразах могуць пазнаваць пэўнага дыктара Беларускага радыё ці пазнаваць па голасу вядомых беларускіх артыстаў.

Зараз усё больш людзей пачынае карыстацца для моўных зносін тэлефоннай сувяззю. Слыхавая фанетычная памяць абанентаў-слухачоў якраз і дазваляе ў пачатку тэлефоннай размовы хутка вызначыць па некалькіх пачутых фразах, хто звоніць, вітаецца. Такое хуткае апазнаванне асобы, з якою даводзіцца размаўляць, дапамагае абаненту здагадацца аб прыкладным змесце размовы, пэўным чынам сплanаваць яе ход і вынік. Гэта аблягчае працэс камунікацыі па тэлефоне.

Практыка аўдзіравання фраз і вусных тэкстаў лічыцца карыснай для развіцця навыкаў успрымання замежнай мовы, слыхавой дыягностыкі захворванняў моўнай сістэмы. Так, вопытныя лагапеды на слых дакладна вызначаюць у мове дзяцей наяўнасць шапялявасці ці картавасці, гнусавасці ці заікання.

У заключэнне разгледзім пытанне суадносін натуральнасці гучання фразы з параметрам «разборлівасць фразы». Як адзначалася, усякая фраза з натуральным гучаннем абавязкова з'яўляецца разборлівай. Лічыцца, што не мае сэнсу ставіць пытанне аб натуральнасці гучання фразы, якая гучыць неразборліва. Але ці вызначае разборлівасць гучання фразы адначасова і натуральнасць яе гучання? Няцяжка здагадацца, што такая залежнасць неабавязковая. Як вядома, гучанне фразы можа стаць ненатуральным пры вымаўленні яе з замежным акцэнтам, пры заіканні ці пры шапялявасці. Ненатуральнай пакуль што з'яўляецца вусная мова, сінтэзаваная на вылічальнай машыне. Аднак ва ўсіх адзначаных выпадках такая ненатуральная мова можа заставацца разборлівай па гучанню ў тым сэнсе, што яе змест можа ўспрымацца слухачом паспяхова. Паміж разборлівасцю і натуральнасцю гучання можа назірацца нават адмоўная залежнасць. Маецца на ўвазе той выпадак, калі часам разборлівасць гучання фразы павялічваюць за кошт памяншэння натуральнасці яе гучання. Так, надзвычай павольны тэмп вымаўлення фразы, калі дарослы звяртаецца да дзіцяці, можа зрабіць яе гучанне ненатуральным (напеўным, з націскам на кожнае слова і нават склад). Аднак разборлівасць такой фразы ўзрастае, што спрыяе ўспрыманню дзіцем яе сэнсу. Аналагічныя суадносіны паміж натуральнасцю і разборлівасцю плануецца дасягнуць у перспектыве пры стварэнні машыннай сінтэзаванай мовы. Ёсць думка, што машынная мова ў далейшым будзе больш разборлівай па гучанню, чым натуральная мова чалавека. Гэту яе якасць можна дасягнуць за кошт празмернай выразнасці сінтэзу кожнага з гукаў і складоў сінтэзаваных паведамленняў.

Разгледзім пытанні, звязаныя з

разборлівасцю гучання фразы, і выпадкі, калі фраза страчвае сваю разборлівасць. Ужо адзначалася, што такія выпадкі даюць даследчыкам істотную інфармацыю аб тым, якія кампаненты фанетычнага сігналу фразы і яе слыхавога вобраза адыгрываюць галоўную ролю ў працэсе ўспрымання фразы. Акрамя таго, ёсць магчымасць вызначыць камунікатыўна малаадказныя кампаненты, якія не звязаны з забеспячэннем фразавай разборлівасці.

У кантэксце пастаўленай задачы мэтазгодна ўвесці замест параметра «разборлівасць фразы», які з'яўляецца інтэгральным паказчыкам, некалькі дробных параметраў успрымання фразы. У прыватнасці, можна гаварыць аб апазнавальнасці фанематычнага і лексічнага склада фразы, тыпе яе інтанацыі, аб апазнавальнасці асобных слоў фразы, характары памылковых замен слоў і фанем.

Даследаваннямі ўстаноўлена, што пры ўспрыманні беларускай фразы прасадычныя яе характарыстыкі апазнаюцца больш лёгка і надзейна, чым лексічны састаў фразы і фанематычны састаў слоў. Да прасадычных характарыстык фразы адносіцца тып інтанацыі, з якою яна вымаўлена. Слухачом вылучаюцца тры істотныя ў камунікатыўных адносінах тыпы інтанацыі: апавядальны, запытальны і клічны. Эксперыменты па ўспрыманню фраз сведчаць аб тым, што адзначаныя тыпы інтанацыі слухач-беларус дастаткова надзейна адрознівае адзін ад аднаго нават пры праслухоўванні фразы ў моцным шуме ці са значнымі скажэннямі яе акустычнага сігналу. У прыватнасці, у фразе можа цалкам страціцца разборлівасць яе слоў і складоў, але пры гэтым захоўваецца «разборлівасць» яе інтанацыі. Атрыманыя звесткі адносна ўспрымання беларускіх фраз дарослымі слухачамі не з'яўляюцца новымі ў агульнай фанетыцы, бо ў нейкім сэнсе паўтараюць вынікі даследаванняў, выкананых на матэрыяле іншых моў. Аб высокай дыферэнцыяльнай магчымасці адрозніваць інтанацыі сведчаць даследаванні слыху дзяцей першых гадоў жыцця. Якраз у гэты перыяд дзеці яшчэ пазбаўлены здольнасці апазнаваць лексічны склад фразы, аналізаваць яе сінтаксіс, семантыку. Тым не менш яны лёгка апазнаюць у фразе тып яе інтанацыі.

Апрача тыпу інтанацыі, пры праслухоўванні фразы ўспрымаюцца яшчэ і іншыя прасадычныя яе характарыстыкі, у прыватнасці колькасць у фразе слоў. Акрамя таго, выдзяляецца на слых слова, на якое падае фразавы націск, успрымаюцца паўзы паміж словамі. Перцэптыўныя эксперыменты, у якіх слухачы павінны былі вызначаць колькасць у фразе слоў, паказалі, што ва ўмовах, калі фраза гучыць неразборліва і сэнс слоў у ёй зразумець нельга, слухач не губляе здольнасці вылучаць у фразе фанетычныя словы і падлічваць іх колькасць. Ён можа вылучаць у фразе на слых рытмагрупы па некалькі складоў, кожная з якіх мае слоўны націск, і падлічваць колькасць такіх рытмагруп. Доследы таксама паказалі, што ў слухача маецца здольнасць правільна ўспрымаць колькасць у фразе слоў нават тады, калі ён не ведае мовы, якую слухае.

Нарэшце, звесткі аб успрыманні чалавекам колькасці ў фразе слоў можна дапоўніць звесткамі аб успрыманні фраз дзецьмі. Як паказваюць псіхалінгвістычныя назіранні, у дзіцяці 4—7-гадовага ўзросту ўжо ёсць вялікі запас слоў [29]. Пры ўспрыманні фраз і асобных слоў дзеці разумеюць сэнс назоўнікаў, прыметнікаў, займеннікаў. У дзіцяці ў гэты час фарміруецца наіўнае

[29] Гвоздев А. Н. Вопросы изучения детской речи. М., 1961.

паралінгвістычнае ўсведамленне агульнага паняцця слова. Пры ўсведамленні паняцця слова дзеці суадносяць яго перш за ўсё з рэчамі навакольнага асяроддзя. І таму дзеясловы не ўсведамляюцца ў такім узросце асобнымі словамі фразы. Як высветлілася, дзеці пры ацэнцы ў фразе слоў улічваюць назоўнікі, прыметнікі, займеннікі, а дзеясловы не бяруць пад улік. Таму ацэнка колькасці слоў у фразе атрымліваецца заніжанай.

Успрыманне фраз беларускай мовы залежыць ад таго, як дасканала слухач валодае беларускай мовай, у прыватнасці яе лексікай. Для ўспрымання істотна, да якога ўзроўню ў слухача атрымаў развіццё аўтаматызм слыхавога ўспрымання беларускай мовы, ці дасканалае яго ўнутранае маўленне і мысленне на беларускай мове. Дасканалае валоданне беларускай мовай дазваляе хутка і лёгка асэнсаваць прагучаўшую фразу. Развіццё навыкаў слыхавога ўспрымання, бесперакладнае маўленне на беларускай мове істотна залежаць ад таго, наколькі многа штодзённа чалавек карыстаецца гэтай мовай, асабліва вуснай яе формай. Само па сабе набыццё чалавекам тэарэтычных ведаў аб мове без выпрацоўкі навыкаў карыстання імі не паляпшае здольнасці чалавека ўспрымаць вусную мову.

Яшчэ адной акалічнасцю, ад якой залежыць успрыманне фразы, з'яўляецца наяўнасць у слухача лінгвістычнай апперцэпцыі да ўспрымання сэнсу паведамлення, што дазваляе слухачу прагназіраваць сэнс фразы, па першых яе словах фарміраваць стрэчныя гіпотэзы, лёгка здагадвацца аб сэнсе пачутай фразы. Акрамя таго, успрымаць фразу дапамагаюць таксама папярэднія звесткі аб сітуацыі, у якой знаходзіцца той чалавек, які гаворыць. Яны дапаўняюць моўную апперцэпцыю слухача.

На фарміраванне апперцэпцыі різлічана традыцыя ў тэатры папярэдне знаёміць гледача са зместам п'есы, якую яму належыць глядзець і слухаць. Гледачы знаёмяцца перад пачаткам спектакля з яго праграмай, у якой друкуецца кароткі змест п'есы ці оперы. Папярэдняе знаёмства са зместам фарміруе ў гледача апперцэпцыю да ўспрымання вуснай гаворкі дзеючых асоб п'есы, і гэта дапамагае яму больш лёгка ўспрымаць тыя вусныя выказванні, якія гучаць са сцэны.

На навуковых канферэнцыях таксама існуе традыцыя папярэдне знаёміць будучых слухачоў з кароткім зместам кожнага даклада. Калі слухач знаёміцца з тэзісамі даклада, то праз іх у яго фарміруецца апперцэпцыя да ўспрымання лексікі і сэнсу асобных слоў, логікі таго паведамлення, якое слухачу належыць неўзабаве слухаць. Апперцэпцыя да ўспрымання вусных фраз фарміруецца таксама ў сінхроннага перакладчыка, калі яго папярэдне знаёмяць з прыкладным зместам той размовы, якую яму давядзецца неўзабаве перакладаць.

З'ява апперцэпцыі пры ўспрыманні вуснай мовы наглядаецца і ў іншых выпадках. Так, заўважана, што памылкі, якія дапускаюць тэлеграфісты-аператары пры прыёме на слых тэлеграм, здараюцца часцей пры перадачы адносна незвычайных слоў: геаграфічных назваў, прозвішчаў, лічэбнікаў [30]. І наадварот, тыповыя словы і словазлучэнні, такія, як «віншуем», «жадаем», «добрага здароўя» і г. д., успрымаюцца на слых адносна надзейна. Тут рэалізуецца прафесійны вопыт тэлеграфіста па прыёму і перадачы разнастайных тэкстаў тэлеграм. З выкарыстаннем апперцэпцыі адбы-

[30] Сихеев С. С. Инженерно-психологическое проектирование нормативной структуры диалога в сфере информационно-справочного обслуживания // Проблемы инж. психологии: Тезисы VI Всесоюз. конф. Л., 1984. С. 295.

ваецца тэлефонная размова дзвюх асоб, калі яны добра ведаюць адна адну і папярэдне ведаюць прыкладны змест гутаркі. Для пабочнага слухача сэнс многіх фраз незнаёмай тэлефоннай размовы можа заставацца незразумелым, у той час як удзельнікі размовы ўспрымаюць і асэнсоўваюць гэтыя фразы лёгка, бо ведаюць сітуацыю, аб якой ідзе гаворка. Яны могуць здагадвацца на падставе папярэдніх размоў аб кірунку думак субяседніка, мнагазначныя думкі разумець аднназначна.

Пры правядзенні лекцыйных заняткаў у навучальных установах лектары шырока выкарыстоўваюць апперцэпцыю студэнтаў, іх папярэднія веды. У пачатку лекцыі лектар звычайна ўспамінае ранейшыя звесткі і паняцці. Для лепшага ўспрымання новага матэрыялу даецца план чарговай лекцыі, вызначаецца яе сувязь з папярэднімі.

Успрыманне фразы і яе разборлівасць залежаць не толькі ад апперцэпцыі слухача, але і ад перцэптыўных характарыстык фразы, ад пэўных фанетычных асаблівасцей яе арганізацыі. У прыватнасці, эксперыменты паказалі, што надзейнасць успрымання фразы залежыць ад колькасці ў ёй слоў і складоў. Пры праслухоўванні фраз, колькасць слоў у якіх перавышае 7—8, слухач сутыкаецца з цяжкасцямі запамінання ўсіх слоў фразы, парадку іх размеркавання. Колькасная арганізацыя фраз вуснай беларускай мовы істотна адрозніваецца ад пісьмовай мовы. Вусная мова будуецца з фанетычных фраз (сінтагм), якія падзяляюцца акустычнымі паўзамі. Кожную такую фразу вызначае адзін агульны фразавы націск і асобны інтанацыйны контур. Якраз паўзы і інтанацыя спрыяюць пры ўспрыманні гаворкі вылучэнню ў ёй фанетычных фраз. Граматычны сказ, калі яго ўтвараюць больш чым 7—8 слоў, звычайна вымаўляецца ў выглядзе не адной, а некалькіх фанетычных фраз [31]. Дзякуючы гэтаму фразы робяцца больш кароткімі па колькасці слоў і без цяжкасцей могуць змяшчацца ў аператыўнай памяці слухача. Даследы паказалі, што пры ўспрыманні фраз з павелічэннем колькасці ў іх слоў ад аднаго да пяці разборлівасць слоў у фразе павялічваецца. Аднак далейшае павелічэнне даўжыні фразы вядзе да паступовага змяншэння разборлівасці слоў.

Аналагічна ўспрыманне беларускай фразы залежыць і ад колькасці ў ёй складоў. Складовая разборлівасць павялічваецца датуль, пакуль фраза не стане памерам 10—12 складоў, а затым павелічэнне фразы зніжае яе разборлівасць. У фразах з занадта вялікай колькасцю слоў і складоў слухач не запамінае некаторыя словы і прапускае іх пры паўтарэнні фразы. Пры гэтым назіраецца заканамернасць, згодна з якой лепш запамінаюцца ў фразе склады і словы, якія стаяць у яе пачатку і ў канцы. А склады і словы, што стаяць у сярэдзіне фразы, успрымаюцца і запамінаюцца горш.

Гэта заканамернасць наглядаецца пры аналізе тыповых памылак, якія дапускаюць абаненты тэлефоннай службы «09» пры ўспрыманні адказаў тэлефаністак. Даследаванне, праведзенае ў Мінску [32], паказала, што прыкладна ў 35% выпадкаў абанент не паспявае дакладна адразу запомніць усе лічбы (шэсць ці сем) тэлефоннага нумара, які яму паведамляе тэлефаністка. Найлепш успрымаюцца дзве першыя і адна апошняя, а сярэднія лічбы ўспрымаюцца недакладна. Адмоўны ўплыў на ўспрыманне абанентам паведамлення тэлефаністкі робіць тэмп яе маўлення.

---

[31] Фанетыка слова ў беларускай мове. С. 40—45, 62—73.

[32] Сихеев С. С. Инженерно-психологическое проектирование нормативной структуры диалога в сфере информационно-справочного обслуживания. С. 295.

Звычайна ён бывае вельмі высокі, бо рэгламент патрабуе, каб тэлефаністка абслугоўвала кожнага абанента не больш чым 20 с. Калі ж тэлефонны нумар паведамляецца з павольным тэмпам вымаўлення слоў, ён успрымаецца абанентам надзейна з першага праслухоўвання.

Разборлівасць фразы ў невялікай ступені залежыць ад стылю маўлення дыктара[33]. Фраза, вымаўленая ў поўным стылі, успрымаецца больш лёгка і надзейна, чым тады, калі яна вымаўляецца ў размоўным стылі. У арфаэпічных адносінах беларускае літаратурнае вымаўленне звычайна адпавядае поўнаму стылю, пры якім словы фразы вымаўляюцца з выразнай артыкуляцыяй, у павольным тэмпе[34] і з малой рэдукцыяй галосных і зычных гукаў. Тэкст на беларускай мове не заўсёды пішацца з разлікам на вуснае яго паведамленне. Звычайна ў пісьмовай форме мовы сказы тэксту бываюць дастаткова вялікія. Таму іменна пры поўным стылі вымаўлення адбываецца сегментацыя (чляненне) працяглых сказаў на кароткія фразы-сінтагмы. У выніку вусныя паведамленні ўспрымаюцца разборліва і лёгка.

Фанетычная арганізацыя фразы ўмоўна складаецца з прасадычнай яе арганізацыі і сегментнай (фанематычнай, лексічнай). Акрамя прасадычных характарыстык фразы, слухачом адносна лёгка распазнаецца розная экстралінгвістычная інфармацыя, змешчаная ў акустычным сігнале фразы: пол дыктара, эмацыянальны яго настрой (вельмі адчувальныя да гэтых параметраў дзеці), тэмп маўлення, індывідуальныя асаблівасці голасу дыктара. Пералічаныя характарыстыкі слухач распазнае больш надзейна, чым сегментны састаў фразы. Пры ўспрыманні фразы на фоне акустычных перашкод яна можа стаць для слухача неразборлівай, аднак застаецца крыніцай інфармацыі аб экстралінгвістычных характарыстыках мовы дыктара.

У апошні час вельмі часта вусная мова ў выглядзе паведамленняў выступае сродкам камунікацыі апаратараў розных інфармацыйна-тэхнічных сістэм. У такіх выпадках да вусных фраз, якія павінны ўспрымаць апаратары, прад'яўляюцца патрабаванні не толькі агульнага плана да разборлівасці іх гучання і адпаведнасці арфаэпічным нормам, але таксама спецыяльныя патрабаванні, звязаныя з эрганомікай работы апаратара[35]. У прыватнасці, выяўлена, што апаратары-мужчыны лепш успрымаюць паведамленні, калі іх вымаўляе жаночы голас, а апаратары-жанчыны — калі паведамленні робяцца мужчынскім голасам. Акрамя таго, на паспяховасць успрымання фразы робяць уплыў суадносіны тэмпу гаворкі дыктара і гаворкі слухача. Найлепшая надзейнасць успрымання бывае тады, калі індывідуальны тэмп слухача супадае з тэмпам вымаўлення ўспрымаемай ім фразы[36].

---

[33] Метлюк А. А. Взаимодействие просодических систем в речи билингва. Мн., 1986.

[34] Фанетыка слова ў беларускай мове. С. 45—52.

[35] Пономаренко В. А., Ушакова Т. Н. Человеческий фактор в технических системах с речевым управлением // Психологический журнал. 1986. № 6. С. 14—25.

[36] Бенедиктов Б. А. Психология овладения иностранным языком. С. 67—72.

# *Раздзел* 4

## СПАЛУЧЭННІ ГУКАЎ У МЕЖАХ СЛОВА

### § 4.1. АГУЛЬНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА

Спалучальнасць гукаў у беларускай мове з'яўляецца вельмі істотнай асаблівасцю яе гукавога ладу. У словаформах сустракаюцца разнастайныя спалучэнні гукаў, ужыванне якіх таксама, як і іх частотнасць, залежыць ад пазіцыі ў слове і ад шматлікіх асаблівасцей тых лексічных адзінак, у межах якіх яны адзначаны.

Нягледзячы на тое што фанетычная сістэма беларускай мовы характарызуецца ўжываннем шматлікіх спалучэнняў гукаў, яна мае цэлы рад дыстрыбуцыйных абмежаванняў, якія закранаюць лексіку цалкам або асобныя падсістэмы.

Так, запазычаная лексіка, інтэрнацыяналізмы па сваёй гукавой структуры адрозніваюцца ад астатняй літаратурнай лексікі, аднак гэтыя словы зараз шырока ўжываюцца, і іх структура павінна быць улічана пры разглядзе гукавой спалучальнасці. Адметную структуру маюць складанаскарочаныя і складаныя словы. Аналіз спалучэнняў гукаў у іх межах уяўляе значную цікавасць, бо яны набліжаюцца да тых, якія сустракаюцца на стыку двух самастойных слоў у фразах.

Своеасаблівую спалучальнасць гукаў маюць тапонімы іншамоўнага паходжання, уласныя імёны і прозвішчы, добра сістэматызаваныя ў беларускай мове. У гэтых катэгорыях слоў можна вызначыць пэўныя дыстрыбуцыйныя тэндэнцыі, што існуюць у мове наогул.

Асаблівую ўвагу прыцягвае спалучальнасць гукаў у выклічніках і гукаперайманнях, якія таксама характарызуюцца выразна адметнай структурай.

Гукавая арганізацыя беларускага слова яшчэ не была аб'ектам спецыяльнага даследавання. Марфемная дыстрыбуцыя пачала даследавацца параўнальна нядаўна, таму правілы спалучэння марфем яшчэ не сфармуляваны [1]. Разам з тым узаемапрыстасаванасць марфем істотна адбіваецца на гукавым абліччы слова. Пэўныя спалучэнні гукаў сустракаюцца толькі або часцей на стыку марфем або асноў у складаных словах. Іншыя існуюць толькі ў пачатку або на канцы слоў. Каб ахарактарызаваць вакалічную і кансанантную структуру слова цалкам, неабходна суаднесці яе з будовай асобных марфем: прыстаўкі, кораня, суфікса, канчатка.

Для фанетыкі істотным з'яўляецца вызначэнне камбінаторных змен, якім падлягаюць пэўныя гукі ў межах марфем і на іх стыках. Асноўнай мэтай фанетычнага даследавання застаецца апісанне і сістэматызацыя не толькі асобных гукаў, але і іх комплексаў, якія ўтвараюць марфемы, словы, сінтагмы, фразы.

Практычна немагчыма апераваць усёй разнастайнасцю гукавых

[1] Мартынаў В. У., Шуба П. П., Ярмаш М. І. Марфемная дыстрыбуцыя дзеяслова ў беларускай мове. Мн., 1967.

спалучэнняў, хаця ў кожнай мове сустракаюцца шматлікія, але не бясконцыя фанетычныя адзінствы, утвораныя спалучэннямі, тыповымі для пэўнай мовы.

Сістэматызацыя гукавых спалучэнняў дапамагае вызначыць іх пашыранасць у межах частак слова. Яна дазваляе ўбачыць, што прадуктыўнасць пры ўтварэнні спалучэнняў звязана з артыкуляцыйна-акустычнымі асаблівасцямі розных катэгорый гукаў. Пры гэтым здольнасць адных фанетычных элементаў спалучацца з іншымі можа быць універсальнай, тыповай для ўсіх моў[2], або ўласцівай толькі пэўнай мове. Напрыклад, ва ўсіх мовах пашыраны спалучэнні «зычны + галосны», але, нават не праводзячы спецыяльных даследаванняў, можна меркаваць, што ў беларускай мове рэестр спалучэнняў «мяккі зычны + галосны» будзе прынцыпова адрозніваецца ад існуючых у блізкароднасных рускай і ўкраінскай мовах адпаведных рэестраў. Таму складанне аптымальнага спіса магчымых у беларускай літаратурнай мове гукавых спалучэнняў дазволіць убачыць тую непаўторнасць яе фанетычнага ладу, якую адчувае кожны носьбіт мовы.

Праекцыя магчымых і немагчымых тыпаў спалучэнняў на марфемную структуру словаформ можа вызначацца з рознай глыбінёю. Так, па назіраннях П. П. Шубы, «фанемная структура марфем беларускай мовы неаднародная і залежыць ад рада фактараў. Каранёвыя марфемы адрозніваюцца ад афіксальных; у сваю чаргу, сярод каранёвых марфем даволі выразна проціпастаўлены дзеяслоўны — іменнаму тыпу, а сярод афіксальных — словаўтваральныя афіксы проціпастаўлены флексіям»[3]. Але пры сінхронным разглядзе спалучэнняў гукаў можна абмежавацца толькі апісаннем сегментнай арганізацыі слова ў адносінах да яе агульнай марфемнай арганізацыі, не звяртаючы ўвагі на тып марфем па прыналежнасці да часцін мовы, бо ўключэнне такога аспекту непазбежна ўскладніла б і без таго груваспкую сістэму падачы матэрыялу.

Прынцыповым з'яўляецца таксама пытанне аб тым, якія тыпы спалучэнняў гукаў неабходна сістэматызаваць у першую чаргу. Каартыкуляцыя можа ахопліваць не толькі два-тры суседнія гукі, але закранаць і больш значныя гукавыя комплексы. Відавочна сувязь галосных націскнога і пераднаціскнога складоў, з аднаго боку, і націскнога і паслянаціскных — з другога. Гэта сведчыць, што ўзаемны ўплыў закранае комплексы з чатырох-пяці гукаў па меншай меры. Але такі глыбокі аналіз спалучальнасці гукаў можна праводзіць толькі тады, калі зроблены папярэдні разгляд тых элементаў, чыя рэгулярная паслядоўнасць прывяла да найбольш моцнай і відавочнай каартыкуляцыі, а іменна спалучэнняў з двух-трох гукаў. Такі ж выбар колькасці элементаў падказвае і аналіз марфемных стыкаў, бо не ўсе марфемы маюць колькасны склад, большы за два-тры элементы. Прыгадаем, што беларускія каранёвыя марфемы — гэта звычайна двух- і шасцігукавыя спалучэнні, ў той час як афіксальныя марфемы вельмі часта складаюцца ўсяго з аднаго-двух гукаў[4].

З назіранняў над зменамі якасцей гукаў у моўнай плыні відаць, што ў спалучэннях «зычны + галосны» выяўляецца значны ўплыў папярэдняга зычнага на наступны галосны, а таксама артыкуляцыйнае прыстасоўванне самога гэтага зычнага да суседняга галоснага.

Сувязь членаў спалучэння «га-

---

[2] Зубкова Л. Г. Сегментная организация слова. М., 1977.

[3] Шуба П. П. Сучасная беларуская мова: Марфаналогія. Марфалогія. Мн., 1987. С. 7.

[4] Шуба П. П. Сучасная беларуская мова. С. 7—14.

лосны + зычны» менш глыбокая, як у папярэднім выпадку, але таксама бясспрэчная. Нават у нехарактэрных для беларускай мовы спалучэннях з двух галосных гукаў назіраецца іх узаемнае прыстасаванне. Што ж да спалучэнняў з двух або трох зычных, то сведчаннем іх малой расчлянёнасці з'яўляюцца шматлікія пазіцыйныя змены розных членаў гэтых гукавых комплексаў.

Таму ў нашай працы разглядаюцца пераважна двухчленныя спалучэнні гукаў: «галосны + галосны», «зычны + галосны», «галосны + зычны», «зычны + зычны». Акрамя таго, аналізуюцца трохчленныя спалучэнні галосных, а таксама трох- і чатырохчленныя—зычных. Пры разглядзе спалучэнняў галосных улічваецца іх месцазнаходжанне адносна націску. Яно прымаецца пад увагу і ў спалучэннях зычных з галоснымі.

Спалучэнні зычных класіфікуюцца з пункту погляду іх артыкуляцыйных характарыстык. Усе схемы размеркавання спалучэнняў даюцца па падсістэмах, пры гэтым паслядоўна ўлічваецца марфемная структура словаформ, тое, ці знаходзіцца спалучэнне ў корані, суфіксе, прыстаўцы аднакаранёвых слоў або на стыку кампанентаў складанага слова.

Прыклады спалучэнняў кожнага рада прыводзяцца як мага паўней, але яны непазбежна не змяшчаюць усіх існуючых слоў з пэўным тыпам спалучэнняў. Лічым немэтазгодным пры пераліку прыкладаў прыводзіць шматлікія аднакаранёвыя словы, якія змяшчаюць аднолькавае спалучэнне гукаў. Для ілюстрацыі прыводзіцца толькі адно з аднакаранёвых слоў.

Асноўнымі крыніцамі матэрыялаў паслужылі слоўнікі [5], граматыкі [6], а таксама некаторыя словы з рэдкімі гукавымі спалучэннямі, узятыя з твораў, надрукаваных у часопісе «Полымя» ў апошнія гады (1982—1987).

Вялікія цяжкасці складаюць пытанні падзелу лексем на асобныя часткі, карэктнага вылучэння марфем і іх кваліфікацыі, адэкватнай сучасным уяўленням аб словаўтваральнай структуры слова. На жаль, беларуская лінгвістыка яшчэ не мае такой фундаментальнай працы, як, напрыклад, Словаўтваральны слоўнік рускай мовы А. М. Ціханава [7]. Але ў сувязі са шматлікасцю і масавасцю выкарыстанага ў нашай працы матэрыялу пэўныя неабходныя і непазбежныя ўдакладненні пры вызначэнні марфемнай структуры не павінны прынцыпова змяніць агульную карціну спалучальнасці гукаў у межах беларускага слова.

Пры вырашэнні пытанняў аб марфемных граніцах выкарыстоўваліся памянёныя вышэй граматыкі, а таксама Марфемны слоўнік беларускай мовы А. М. Бардовіча і Л. М. Шакуна [8].

---

[5] Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. Мн., 1977—1984. Т. 1—5; Русско-белорусский словарь. Мн., 1982. Т. 1—2; Слоўнік беларускай мовы: Арфаграфія. Арфаэпія. Акцэнтуацыя. Словазмяненне. Мн., 1987.

[6] Граматыка беларускай мовы. Мн., 1962. Т. 1; Беларуская граматыка. Мн., 1985. Т. 1.

[7] Тихонов А. М. Словообразовательный словарь русского языка. М., 1985. Т. 1—2.

[8] Бардовіч А. М., Шакун Л. М. Марфемны слоўнік беларускай мовы. Мн., 1975.

## § 4.2. СПАЛУЧЭННІ ГАЛОСНЫХ ГУКАЎ

Спалучэнні двух галосных гукаў не з'яўляюцца тыповымі для беларускай літаратурнай мовы таксама, як і наогул для ўсіх усходнеславянскіх моў. З чатырох тэарэтычна магчымых тыпаў спалучэнняў галосных («націскны + націскны», «націскны + ненаціскны», «ненаціскны + націскны», «ненаціскны + ненаціскны») першы ў межах словаформ амаль што не сустракаецца. Аднак ён магчымы на стыку слоў.

Напр., *ідзе опера; бярэ одум; вясло Асі; бяры атлас; забяру Эму; пачне ахаць; мо, Орша?* Асобныя спалучэнні такога тыпу адзінкава сустракаюцца ў выклічніках: *о-о! Го-го-о!*

Больш пашыранымі, але таксама абмежаванымі з'яўляюцца спалучэнні «націскны галосны + ненаціскны галосны», «ненаціскны галосны + націскны галосны», «ненаціскны галосны + ненаціскны галосны». У беларускай мове існуе рад абмежаванняў на функцыяніраванне гэтых спалучэнняў. Так, пасля галосных перад націскным [і] ўзнікае інтэрвакальны [j]. Ён назіраецца: 1) на стыку кораня і суфікса: *га*[йі]*ць* (*гаіць*); *гера*[йі]*зм* (*гераізм*); *гна*[йі]*ць* (*гнаіць*); *два*[йі]*ць* (*дваіць*); *за*[йі]*ка* (гіст., *за-і-ка*); *Зіна*[йі]*да* (*Зінаіда*), *Іра*[йі]*да* (*Іраіда*); *кра*[йі]*на* (*краіна*); *Міха*[йі]*л* (*Міхаіл*); *па*[йі]*ць* (*паіць*); *Ра*[йі]*са* (*Раіса*); *ру*[йі]*на* (*руіна*); *Та*[йі]*са* (*Таіса*); *укра*[йі]*нец* (*украінец*); *хаке*[йі]*ст* (*хакеіст*); 2) у коранях слоў: *дру*[йі]*д* (*друід*); *жу*[йі]*р* (*жуір*); *на*[йі]*ўны* (*наіўны*); *шы*[йі]*т* (*шыіт*).

Большасць гэтых слоў мае ў корані этымалагічны [j], які выступае таксама ў іншых словаформах, што падтрымлівае яго вымаўленне і ў тых выпадках, калі [j] не адлюстраваны арфаграфіяй: *у гаі — гай; гераізм — герой; гнаіць — угнойваць; дваіць, удваіх — удвая, удвойваць, удваенне; загаіць — загойвацца; клеіць — клей, уклейваць; краіна — край, ускрайні; краіць — укройваць, кроены; Міхаіл — Міхайла; паіць, упаіць — запой, упайваць; Раіса — Райка, Рая; руіна — руйнаваць; Таіса — Тайка, Тая; хакеіст — хакей* і г. д.

Існаванне роднасных форм з каранёвым [j] падтрымлівае вымаўленне інтэрвакальнага [j] і ў тых словах са спалучэннямі галосных, дзе [і] не знаходзіцца пад націскам: *во*[йі]*н* (*воін*), *во*[йі]*нства* (*воінства*), *во*[йі]*нскі* (*воінскі*) — *ваенны, вайна, вайсковец; загно*[йі]*ць* (*загноіць*) — *загноены, загнойваць; заго*[йі]*цца* (*загоіцца*) — *загоены, загойваць; запо*[йі]*ны* (*запоіны*) — *запой, запойваць; засво*[йі]*ць* (*засвоіць*) — *засвоены, засвойваць; кро*[йі]*льны* (*кроільны*), *кро*[йі]*ць* (*кроіць*)—*кроены, крой; укле*[йі]*ць* (*уклеіць*) — *уклееafны, уклейваць; ускра*[йі]*на* (*ускраіна*) — *ускраек, ускрай.*

Інтэрвакальны [j] узнікае таксама на стыку прыстаўкі і кораня, які пачынаецца з націскнога [і]: *за*[йі]*грываць* (*заігрываць*); *за*[йі]*нець* (*заінець*); *за*[йі]*льваць* (*заільваць*); *за*[йі]*мка* (*заімка*) (гіст.); *па*[йі]*каць* (*паікаць*). Прыгадаем, што ў беларускай мове ў пачатку слова націскны галосны [і] прыкрываецца [j]: [йі]*жыца* (*іжыца*); [йі]*кс* (*ікс*); [йі]*масць* (*імасць*) (уст.); [йі]*мпульс* (*імпульс*); [йі]*нахадзь* (*інахадзь*); [йі]*ндыя* (*Індыя*); [йі]*ней* (*іней*); [йі]*ншы* (*іншы*); [йі]*рад* (*ірад*) (разм.); [йі]*сны* (*існы*); [йі]*сціна* (*ісціна*); [йі]*ўе* (*Іўе*).

Лексем, у якіх націскны галосны [і] пачынае слова, у беларускім слоўніку вельмі мала: *іба* (нескл.), *ібіс* (заал.), *івалга, ігрэк, ікаць, ілька* (заал.), *Ільмень, інкі* (гіст.), *іпуцкі, Істрыя, іфні* (нескл.), *ішыяс.* Як правіла, гэтыя словы стылістычна абмежаваныя і рэдка ўжывальныя.

Інакш паводзіць сябе ў вакальных спалучэннях ненаціскны галосны [і], які з'яўляецца прыстаўным па паходжанню і ўзнікае перад спалучэннямі зычных [р], [л], [м] з зычнымі або перад некаторымі іншымі спалучэннямі. У такіх спалучэннях інтэрвакальны [j] не вымаўляецца: *з*[аі]*льсніцца* (*заільсніцца*), *з*[аі]*мгліць* (*заімгліць*), *з*[аі]*мчаць* (*заімчаць*), *з*[аі]*мшэць* (*заімшэць*), *з*[аі]*рдзецца* (*заірдзецца*), *з*[аі]*ржавець* (*заіржавець*), *з*[аі]*ржаць* (*заіржаць*). Але большасць з гэтых форм не з'яўляецца для літаратурнай мовы тыпо-

вай, часцей ужываюцца адпаведныя прыведзеным дзеясловы, у якіх прыстаўны [і] знікае: *замгліць, замчаць, замшэць, зардзецца, заржавець, заржаць*. Таксама больш пашыранай з'яўляецца форма дзеяслова *зайграць, зайграцца* ў параўнанні з формамі *за*[йі]*грацца (заігрaцца), за*[йі]*граць (заіграць)*. Знікненне прыстаўнога [і] ў гэтым выпадку з'яўляецца заканамерным, бо прыстаўныя галосныя ў беларускай мове — гэта своеасаблівы сродак, з дапамогай якога нарміруецца рытмічная і гукавая структура моўнай плыні. Звяртае на сябе ўвагу ўзнікненне інтэрвакальнага [j] нават і ў тых словах, дзе ненаціскны [і] генетычна прыстаўны: *за*[йі]*льсніцца (заільсніцца), за*[йі]*рдзець (заірдзець), па*[йі]*мжыць (паімжыць), па*[йі]*мчацца (паімчацца)*. Непаслядоўнасць сведчыць аб агульнай тэндэнцыі да знікнення спалучэння [аі] у гутарковым маўленні.

У запазычаных словах і ў словах з запазычанымі асновамі інтэрвакальны [j] можа не ўзнікаць. Напрыклад, ён адсутнічае ў лексемах *заінвентарызаваць, заінтрыгаваць, заісыккульскі*, якія маюць вельмі складаную акцэнтна-рытмічную структуру і многафанемныя карані. На захаванасць спалучэнняў галосных у такіх словах уплывала і тое, што яны — прыналежнасць кніжнай, а не размоўнай лексікі. Разам з тым вельмі часта інтэрвакальны [j] узнікае на стыку прыстаўкі і кораня і ў словах не ўласна беларускага паходжання: *па*[йі]*нтрыгаваць (паінтрыгаваць), па*[йі]*нфармаваць (паінфармаваць)*. Прыгадаем таксама прыслоўі: *па*[йі]*дыёцку (па-ідыёцку) (разм.), па*[йі]*нданезійску (па-інданезійску), па*[йі]*ндыйску (па-індыйску), па*[йі]*ракску (па-іракску), па*[йі]*ранску (па-іранску), па*[йі]*рландску (па-ірландску), па*[йі]*сландску (па-ісландску), па*[йі]*спанску (па-іспанску), па*[йі]*тальянску (па-італьянску)*, а таксама складаныя словы *прама*[йі]*дучы (прамаідучы), розна*[йі]*менны (рознаіменны)*.

[j] рэгулярна сустракаецца ў навуковых тэрмінах з суфіксам *-оід*: *індыго*[йі]*д (індыгоід), кало*[йі]*д (калоід), катэно*[йі]*д (катэноід), рызо*[йі]*д (рызоід), стэро*[йі]*дны (стэроідны), тыфо*[йі]*д (тыфоід)* (у некаторых лексемах *-оід* можа асэнсоўвацца як частка кораня, напрыклад *цэлулоід*), у іншых спецыяльных найменнях: *ка*[йі]*к (каік), ка*[йі]*ніт (каініт)*, у частцы іншаземных імён і тапонімаў: *ка*[йі]*н (Каін), ка*[йі]*р (Каір)*.

У запазычаных словах пасля галосных [і], [ы] перад наступнымі галоснымі [о] і [а] таксама ўзнікае [j], які выступае больш рэгулярна, што адлюстроўваецца на пісьме: *біёграф, біёлаг, індустрыялізацыя, піянер, радыё, сацыялізм, стацыянар*.

Спрашчэнне груп галосных адбываецца і пры змяненні [у] на [ў]. Гэта з'ява больш рэгулярная ў фразавай фанетыцы: у словах, якія пачынаюцца з [у] і аказваюцца ў пазіцыі пасля слоў з канцавымі галоснымі, [у] змяняецца на [ў]: *багаты ўраджай, варта ўвесці*. Такі ж працэс назіраецца на стыку прыназоўніка *у* з папярэднімі лексемамі, якія заканчваюцца на галосны: *прыехала ў горад, гулялі ў лесе* і г. д. Але нельга лічыць, што падобныя змены належаць толькі фразавай фанетыцы. Аналагічныя змены адбываюцца і пры словаўтварэнні: *неўжываны, паўпісваць, паўскакаць, праўнук, прыўстаць* і г. д.

Калі [у] сустракаецца ў словах іншамоўнага паходжання ў складзе вакальных спалучэнняў, то пасля галосных [у] змяняецца на [ў], але гэта адбываецца непаслядоўна, што адлюстроўваецца ў вымаўленні, а часам і на пісьме: *аудыторыя — аўдыторыя, Георгіу-Дэж, лаурэат — лаўрэат*, але *аўтар, аўтарытэт, дрэдноўт, паўза, рангоўт*.

Узнікненне прыстаўных зычных

[в] і [й], якія памяншаюць колькасць міжслоўных галосных стыкаў, дазваляе гаварыць, што ў беларускай мове існуе тэндэнцыя да знікнення груп галосных. Трэба, аднак, дадаць, што ў маўленні адзначаюцца і адваротныя змены. У пэўных фразавых умовах і асобных словах ётавы элемент знікае і такім чынам утвараюцца спалучэнні галосных: *на станц*[ыі], *у парт*[ыі], *у Грэц*[ыі] і г. д. Але такое вымаўленне з'яўляецца парушэннем арфаэпіі.

Ненарматыўнае вымаўленне прыназоўніка *у* са словамі, якія пачынаюцца з галосных [а], [о], [э], [у], таксама прыводзіць да ўтварэння спалучэнняў галосных: [уа]*рмію (у армію)*, [уо]*ршу (у Оршу)*, [уу]*фу (у Уфу)* і інш.

Пэўная варыятыўнасць існуе і ў іншамоўных уласных назвах, якія ўжываюцца са спалучэннямі галосных або без іх: *Іаган, Іардан, Йаганесбург, Гліэр* і *Гліер, Жаліо-Кюры, Марыэта* і *Марыета*.

У беларускай мове спалучэнні тыпу «націскны галосны+ненаціскны галосны» сустракаюцца вельмі рэдка, пераважна ў запазычаных лексемах або ўласна беларускіх на стыку марфем, а таксама на стыку асноў у складаных словах. Адзначаны наступныя спалучэнні націскных галосных з ненаціскнымі:

[э́а]: *нéадкуль*. У даным выпадку спалучэнне ўтварылася на стыку прыстаўкі, што ўзнікла з адмоўя *не*, і кораня. Акрамя таго, у літаратурнай мове адзначаюцца формы, дзе [э] знаходзіцца пад пабочным націскам: *гѐахраналóгія, гѐацэнтры́чны*; у запазычаных прозвішчах і тапонімах: *Лéаш, Нумéа, сіхатэ́алінскі;*

[э́у]: *Матэ́уш;*

[э́о]: *Барнэ́о, Медэ́о, Мантэвідэ́о;*

[ы́а]. У адрозненне ад папярэдніх вакалічных спалучэнняў гэта сустракаецца ў незапазычанай лексіцы. Яно ўзнікае на стыку націскной прыстаўкі *вы-* з асновамі дзеясловаў, якія пачынаюцца з ненаціскной галоснай [а]: *вы́араць, вы́арфаваць;*

[ы́у]: *джы́у-джыцу* (спарт.);

[а́э]: *гексáэдр, дадэкáэдр, ікасáэдр, тэтрáэдр*. Спалучэнне ўтвараецца на стыку дзвюх запазычаных асноў у складаных словах;

[а́і]. Зафіксавана на стыку запазычаных асноў і суфікса *-ік: архáіка, мазáіка*. Вымаўленне без [j] гэтых спалучэнняў з'яўляецца парушэннем арфаэпічнай нормы, але яно часам сустракаецца ў вуснай мове, асабліва пры вымаўленні мала ўжывальнай лексікі: *крэм «Алантаінавы»;*

[а́о]: *Більбáо, лáо, макáо, Мáо, Мінданáо;*

[а́у]: [йа́у]*ндскі (яундскі), Канáус, Кáуцкі, лакáут, Ландáу, пакгáуз, Сан-Пáулу, Штрáус*. Параўн.: *Клáўзевіц;*

[о́а]. Спалучэнне сустракаецца ў запазычаных асновах, у складаных словах з незапазычанымі асновамі і ў іншамоўных тапонімах: *здаветпу́нкт, здагеóграф, здагігіéна, здамагазі́н, здамарфі́зм, здапалеанталóгія, здапаталóгія, здапланктóн, здапсіхалóгія, здатамі́я, здахімі́чны, здацэнóз, фейхóа; усёабды́мны, усёахóпны, святлоаддáча, святлоадчувáнне, ільноапрацóўчы; Самóа;*

[о́э]. Спалучэнне адзначана на стыку асноў у складаных словах і ў нескланяльных запазычаных назоўніках: *святлоэкрáн, рамбóэдр, алóэ, каланхóэ, канóэ;*

[о́о]. Вельмі рэдкае спалучэнне галосных, таму што мае нетыповае ненаціскное [о], сустракаецца толькі ў іншамоўных тапонімах: *Ватэрлóо;*

[о́у]. Спалучэнне сустракаецца ў запазычаных словах: *анчóус, клóун, крос-кóунтры, сóус, шóу*. Параўн: *Бічэр-Стоў, Браўн;*

[у́э]. Зафіксавана ў медыцынскім тэрміне *лю́эс;*

[у́і]. Адзначана ў запазычаным прозвішчы *Дэью́і;*

[у́у]. Як і папярэднія спалучэнні

**Табліца 4.1. Спалучальнасць ненаціскных галосных з націскнымі**

| Першы галосны | Другі галосны | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | і | ы | э | а | о | у |
| і | — | — | + | + | + | + |
| ы | — | — | + | + | — | + |
| э | — | — | + | + | + | + |
| а | — | — | + | + | + | + |
| о | | — | — | — | — | — |
| у | — | — | + | + | + | + |

з [у], маецца толькі ў запазычаных прозвішчах: *Кýусінен.*

Звяртае на сябе ўвагу той факт, што сярод спалучэнняў, якія складаюцца з дзвюх галосных з першай націскной, самыя рэдкія з націскнымі галоснымі верхняга пад'ёму [і] і [у].

З 16 зафіксаваных спалучэнняў тыпу «націскны галосны+ненаціскны галосны» ні адно не сустракаецца ў абсалютным пачатку слова, а ў канцы слова сустракаюцца пераважна ў іншамоўных тапонімах і прозвішчах наступныя: [э́о], [áо], [áу], [óэ], [óа], [óо], [óу], [ý і].

Спалучэнні тыпу «ненаціскны галосны+націскны галосны» ў параўнанні з папярэднімі часцей сустракаюцца ў літаратурнай мове, але яны таксама пераважна прыналежнасць запазычаных слоў.

Адзначаны наступныя спалучэнні ненаціскных і націскных галосных:

[ээ́]: *рээ́кспарт;*

[эá]. Зафіксавана ў каранёвых марфемах запазычаных слоў: *арэáл, ідэáл, нумеáнскі, рэáл, рэáктар, сеáнс, тэáтр;* на стыку прыстаўкі і кораня: *прэáмбула;* асновы і суфікса: *лаўрэáт;* у запазычаных імёнах: *Андрэá;*

[эó]. Сустракаецца ў радзе запазычаных слоў у каранёвых марфемах і на стыку кампанентаў складаных слоў: *акардэóн, геóлаг, калеóптэр, крэóл, метэóр, неóн, нуклеóль, рэóграф, стэрэóметр, тахеóметр, эóлаў;*

[эý]. Адзначана ў адзінкавых запазычаннях: *алеýт* і вытворныя;

[ыэ́]. Сустракаецца ў запазычаных імёнах: *Марыэ́та, Генрыэ́та.* Прыгадаем, аднак, што Арфаграфічны слоўнік (1982) прапануе іншае напісанне гэтых слоў, якое адлюстроўвае ётацыю [э]: *Марыета, Гліер, Генрыета;*

[ыá]. Зафіксавана на стыку кампанентаў складанага слова: *унутрыáтамны;*

[ыý]. Адзначана ў запазычаным *трыýмф* і вытворных ад яго;

[іэ́]. Адзначана ў словах: *Гліэ́р, паліэ́др* (мат.);

[іá]: *паліáндрыя* (этн.);

[іó]. Сустракаецца ў запазычанай лексіцы, у асабовых імёнах: *іóн, іóній* (хім.), *Іóнія* (гіст.), *Іóсіф.* Параўн.: *Еган, біёлаг;*

[іý]: *іýда* (часцей *ю́да*);

[аэ́]. Сустракаецца ў запазычаных словах і на стыку кампанентаў складаных слоў. У корані слоў: *паэ́ма, маэ́стра;* на стыку кампанентаў складанага слова: *арфаэ́пія, лесаэ́кспарт,* у запазычаных прозвішчах: *Рафаэ́ль;*

[аí]. Зафіксавана на стыку кампанентаў складанага слова: *магнітнаíмпульсны;*

[аá]. Спалучэнне зафіксавана на стыку прыстаўкі і кораня, а таксама кампанентаў складаных слоў: *даáтамны, заáхкаць, мнагаáтамны, паáркушны, праáхкаць, саáўтар;* у запазычаных словах: *аáзіс, аáхенскі, баá, безаáр, Варлаáм, Гаáга, клаáка, маáскі, Саáрская вобласць, хаáна;*

[аó]. Прадстаўлена ў запазычаных словах і на стыку кампанентаў складаных слоў: *аóрта, аóрыст, заóлаг, крышталяóптыка, Лаóс, макаó, махаóн, панзаóтыя, хаóс;*

[аý]. Сустракаецца ў складзе запазычаных слоў, пры гэтым можа быць ініцыяльным: *аýл, баýл, есаýл, саксаýл, Салаýхін, Саýдаўская Аравія.* Параўн.: *Салаўёў;*

[уí]. Адзначана ў запазычаных словах, імёнах і прозвішчах, якія не з'яўляюцца дастаткова адапта-

**Табліца 4.2. Спалучальнасць ненаціскных галосных**

| Першы галосны | Другі галосны | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | і | ы | э | а | о | у |
| і | — | — | — | + | + | + |
| ы | — | — | + | + | + | + |
| э | + | — | + | + | — | + |
| а | + | — | + | + | — | + |
| о | — | — | — | — | — | — |
| у | + | | + | + | — | + |

ванымі і таму вымаўляюцца без ётацыі: *Куінджы, Луі, Луіза, Самуіл.* Параўн.: *інтэрв'*[йуі]*раваць* (*інтэрв'юіраваць*);

[уэ́]. Сустракаецца ў геаграфічных назвах і прозвішчах іншамоўнага паходжання: *Бадуэ́н дэ Куртэнэ, Буэ́нас-Айрэс, Венесуэ́ла, куэ́ньлуньскі, Пуэ́рта-Рыка, Уэ́лінгтан, Уэ́лс;* у запазычанай лексіцы: *дуэ́ль, дуэ́нья, дуэ́т, кангруэ́нтны, менуэ́т, піруэ́т, туэ́р.* Параўн. таксама вымаўленне слова *інтэрв'юе́р* (*інтэрв'*[йуэ]*р*);

[уа́]. Ужываецца ў запазычаных словах, імёнах, прозвішчах, геаграфічных назвах іншамоўнага паходжання: *авуа́р, акцэнтуа́цыя, будуа́р, буржуа́, візуа́льна, вуа́ль, гуа́на, гуа́ш, дартуа́р, донжуа́н, зуа́ў, ігуа́на, індывідуа́льнасць, інтэлектуа́льна, куа́ла-лумпурскі, казуа́льны, кузуа́р, кугуа́р, луа́ндскі, луа́рскі, мемуа́ры, нюа́нс, папуа́с, пісуа́р, пуа́нты, пеньюа́р, Рамуа́льд, Руа́н, рытуа́л, Уа́за, Уа́йльд, Уа́т, Франсуа́, Хуа́н, эвакуа́цыя, эвентуа́льны, Эдуа́рд, ягуа́р;*

[уо́]. Фіксуецца ў абмежаванай колькасці запазычаных лексем: *вакуо́ль, віртуо́з;*

[уу́]. У выклічніку *у-у-у́х!*

Спалучэнні «ненаціскны галосны+націскны галосны» зрэдку сустракаюцца ў канцы слова, напр. *па-дэ-труа́, патуа́.* У пачатку слова ўжываюцца наступныя спалучэнні: [іо́], [іу́], [ао́], [эо́], [ау́], [уэ́].

Спалучэнні двух ненаціскных галосных гукаў сустракаюцца значна часцей у параўнанні з тымі, у склад якіх уваходзяць націскныя галосныя.

Магчымымі з'яўляюцца наступныя спалучэнні ненаціскных галосных:

[іа]. Зафіксавана на стыку марфем у спрадвечнай лексіцы: *ніадкуль* (параўн.: *ні аб кім*); у пачатку запазычаных слоў, імён, іншамоўных назваў тапонімаў: *Іаганесбург, іакагамскі, Іаланта, іанасфера, іанітны, іарданка, іаркшырскі;* у асновах запазычаных слоў: *гуміарабік;*

[іо]. У іншамоўных тапонімах і ў запазычаных словах, напр. *Токіо, фоліо;*

[іу]. Зафіксавана ў запазычаннях з коранем *іуд-: іудаізм, іудзей;*

[ыэ]. Сустракаецца ў запазычанай лексіцы: *дыэлектрык, дыэтэтыка;*

[ыа]. Адзначаецца ў беларускіх лексемах, на стыку прыстаўкі і кораня або дзвюх прыставак: *прыадзецца, прыадкрыць, прыазер'е, прыараць, прыахвоціць;*

[ыо]. Зафіксавана ў нязменных запазычаных назоўніках і ў іншамоўных тапонімах і прозвішчах: *Антарыо, імпрэсарыо, капрычыо, Феручыо;*

[ыу]. Адзначана ў каранёвых марфемах запазычанняў, іншамоўных прозвішчах: *Авенарыус, архіварыус, медыум, радыус, страдываpыус, трыумфальна;*

[эі]. Сустракаецца на стыку прыстаўкі *не-* з коранем, які пачынаецца з [і]-: *неіснуючы, неістотны,* і ў запазычаных словах: *дэістычны;*

[ээ]. Фіксуецца на стыку прыстаўкі і кораня ў словах, якія маюць запазычаную аснову або запазычаныя прыстаўкі *дэ-* і *рэ-*: *дээскалацыя, дээтымалагізацыя, неэканомна, неэтычна, рээвакуацыя, рээмігрант,* а таксама на стыку кампанентаў складаных слоў: *знешнеэканамічны, тэлеэкран;*

[эа]. Прадстаўлена: а) у каранях запазычаных слоў, спрадвечных

слоў з дэтымалагізацыяй прыставак: *крэадонт, крэазол, крэазот, крэалін, метэарыт, рэабілітацыя, рэагаваць, рэактыў, рэакцыянер, рэалізавацца, стэарын, тэарэтык, тэатральны, цэаліты, эазойскі, эалійскі, эацэн.* У слове *акардэаніст* спалучэнне [эа] ў гутарковым маўленні часам замяняецца спалучэннем [ыйа] *(акард*[ыйа]*ніст)*, што з'яўляецца адхіленнем ад літаратурнай нормы; б) на стыку прыставак *не-* і *а-*, *не-* і *аб-*, *не-* і *ад-*, прыставак *не-*, *рэ-* з асновамі, якія пачынаюцца з [а]: *неабавязковы, неабарачальны, неабачлівы, неабвержна, неабгрунтавана, неабдумана, неабдымны, неабкладны, неабмежаваны, неаброблены, неабсталяваны, неаглядна, неадабрэнне, неадвольна, неаддзеленасць, неад'емна, неадкладна, неадлучна, неадменны, неаднаразова, неаднародны, неаднастайна, неаднолькава, неадольна, неадпаведна, неадплатны, неадрыўны, неадступна, неадхільна, неадчувальна, неадчэпна, неазначальна, неакрэслены, неактуальны, неактыўны, неакуратны, неапетытны, неараны, неарганізаваны, неарганічны, неафіцыйны, неахвота, неашчадна;* в) на стыку кампанентаў складаных слоў: *бронеаўтамабіль, вуглеабагачальны, вуглеачыстка, генеалогія, гомеамарфізм, гомеапат, зернеачышчальны, ілжэакацыя, нуклеапратэід, полеахоўны, пуцеабходчык, стэрэафільм* (стэрэа... — першая састаўная частка складаных слоў, якіх у ТСБМ зафіксавана 27), *тахеаметрыя, тэлеапаратура, усеадзінства, усеагульна, усеармейскі, фразеалагізм;* г) у запазычаных імёнах: *Леальгіна, Леакадзія, Леанід, Неаніла, Феафан, Элеанора.*

Як відаць з прыведзеных прыкладаў, гэта спалучэнне ў беларускай літаратурнай мове сустракаецца часта і адносіцца да ліку прадуктыўных;

[эу]. Сустракаецца ў адзінкавых запазычаных лексемах: *лінолеум, нуклеус;*

[аі]. Зафіксавана: а) на стыку прыстаўкі і запазычаных асноў: *заінтрыгаваць;* б) на стыку прыстаўкі і [і], які паходзіць з прыстаўнога галоснага: *заімчацца, заімшыцца, заірдзецца* (гл. с. 145); в) на стыку кампанентаў складаных слоў: *кінаіндустрыя, малаімаверна* (мат.), *малаініцыятыўны, малаістотны, малаінтэлігентны, мікраінсульт, мікраінфаркт;*

[аэ]. Зафіксавана: а) у карані запазычаных слоў: *каэфіцыент, паэтычны, фаэтон;* б) на стыку прыстаўкі *па-* і запазычаных асноў: *паэкзаменаваць, пазаэканамічны;* в) на стыку прыстаўкі *пера-* і запазычаных асноў: *пераэкзаменаваць;* г) на стыку кампанентаў складаных слоў: *арфаэпічны, ваенна-эканамічны, воднаэнергетычны, высокаэканамічны, высокаэластычны, высокаэфектыўны, газаэлектразварка, гідраэлеватар, гідраэлектрычны, гідраэнергія, ліра-эпічны, фотаэкспазіцыя, фотаэлектрагенератар, фотаэлектрон, фотаэлемент, фотаэмульсія, фотаэфект, фотаэцюд, электраэнергія, электраэнцэфалаграма, электраэразійны;*

[аа]. Ужываецца: а) у карані запазычаных лексем і прозвішчаў, імён: *аагамія, аалагічны, ааргальны, ааспора, баабаб, гаалян, заалогія, зааспора, заатэхнік, хаатычна;* б) на стыку прыставак *да-*, *за-*, *на-*, *па-*, *пера-*, *пра-* з асновамі, якія пачынаюцца з [а]: *даабедаць, даараць, даарфаваць, заадно, заазёрны, заакіянскі, заапладзіраваць, заарандаваць, заараць, заарыштаваць, заасфальтаваць, заахвоціць, наабапал, наабяцаць, наакопны, наапашкі, паабедаць, паапладзіраваць, паартыкульны, паарфаваць, паачуньваць, пазаатмасферны, пераадрасаваць, пераарганізаваць, пераарыентацыя, пераарыштаваць, пераасігнаваць, прааналізаваць, прааараць, праарфаваць;* в) на стыку прыставак *да-* і *а-*, *на-*, *на-* і *а-*, *на-* і *аб-*, *на-* і *ад-*, *неда-* і *а-*, *па-* і *а-*, *па-* і *аб-*, *пера-* і *а-*, *пера-* і *аб-*: *да-*

*атрымаць, наабівацца, наабіраць, наакорваць, наапілоўваць, нааскубаць, наасоўвацца, наатрасацца, наацярэбліваць, наабворваць, наабгабляваць, наабганяць, наабдзіраць, наабдурваць, наабкалочваць, наабкопваць, наабломліваць, нааблуплівацъ, наабменьваць, наабмотваць, наабмываць, наабпальваць, наабразаць, наабстругваць, наабсякаць, наабточваць, наабчышчаць, наабчэсваць, наабшморгваць, наабцярэбліваць, наадбіваць, наадбіраць, наадбудоўваць, наадвальвацца, наадварот, наадграбаць, нааддзіраць, наадзначаць, наадкалупліваць, наадкладаць, наадколваць, наадкопваць, наадкочваць, наадкручваць, наадліваць, наадломліваць, наадлупліваць, наадмерваць, наадмятаць, наадпорваць, наадразаць, наадрываць, наадрэз, наадсыпаць, наадсякаць, недаараць, недаатрымліваць, недааданіць, паабіваць, паабіраць, паакопваць, паакучваць, паападаць, паапісваць, нааплываць, паапоўзваць, паапускаць, паапухаць, паапырскваць, паапякаць, паасаджваць, пааскубаць, паасмальваць, паастываць, паасядаць, паатрасаць, паахінаць, паачышчаць, паабганяць, паабгарваць, паабгінаць, паабграбаць, паадзірацца, паабліваць, пааблузваць, паабмазваць, паабмакаць, паабмарожваць, паабменьваць, паабмерваць, паабмотваць, паабмульваць, паабмываць, паабмяраць, паабнімаць, паабсыпаць, паабсыхаць, паабсяваць, паабточваць, паабтрасаць, пераабіраць, пераабсталяваць, пераабуваць, пераабучыць, пераабцяжарыць, пераагляд, пераадзець, пераадолець, пераапрануць, пераасвнасціць, пераасэнсаваць, пераацэнка;* г) на стыку кампанентаў складаных слоў: *багаадступніцтва, ваеннаабавязаны, ваеннаабарончы, водаадвод, водаадача, водааддзельнік, водаадліў, водаадстойнік, водааправяльнік, водаахаладжэнне, водаахоўны, водаачыстка, вольнаадпушчанік* (гіст.), *высокааб'ёмны, высокаадораны, высокаадукаваны, высокаадчувальны, высокаактанавы, высокаалейны, высокаасвечаны, газаабмен, газаадводны, газааналізатар, газаапаратар, газаасвятленне, газаацяпленне, газаачыстка, гідраавіяцыйны, гідраагрэгат, гідраакустык, гідраачыстка, грузаабарот, грузаадпраўшчык, грузаатрымальнік, дрэваапрацоўка, кінаапавесць, кроваачышчальны, кругаабарот, лёгкаабцякальны, лесаахова, малаабгрунтаваны, малаабдуманы, малаадукаваны, малаадчувальны, малаактыўны, малаасветлены, металаапрацоўка, навальніцаадзначнік, паветраабмен, паветраапорны, паветраахаладжальны, паветраачышчальны, пашаабарот, першааснова, першаадкрывальнік, пылаадсмоктвальны, пылаасадкавы, пылаахоўны, пылаачышчальнік, садаахоўны, самаабагачэнне, снегаачышчальнік, тавараабарот, фотаальбом, фотааматар, фотаапарат, целаахоўны, цяжкаатлет, шоўкаапрацоўка.*

Лексем, у якіх прадстаўлена разгледжанае спалучэнне, вельмі многа (каля 1000 адзінак). Спалучэнне [аа] адносіцца да ліку найбольш прадуктыўных сярод спалучэнняў з двух галосных, нават калі не разглядаць складаныя словы, якія з фанетычнага пункту погляду могуць лічыцца двума словамі;

[ау]. Адзначана зрэдку ў запазычаных словах і ў іншамоўных прозвішчах: *клаунада, лакаутаваць, Фірдаусі;*

[уі]. Прадстаўлена ў корані запазычаных слоў: *луідор;*

[уэ]. Адзначана ў лексемах іншамоўнага паходжання: *дуэліст, люэтычны, муэдзін, фуэтэ;*

[уа]. Сустракаецца на стыку прыстаўкі *су-* з асновай слоў, якія пачынаюцца з [а]: *суадказчык, суаднесці, суайчыннік, суапякун* (юрыд.), у запазычаных лексемах і іншамоўных тапонімах: *акцэнтуацыйны, буржуазія, галуазіт, дуайен, мадэмуазель, нуактоцкі, сцюардэса, туалет, эвакуацыйны, эксплуататар, Хуанхэ;*

[уу]. Прадстаўлена ў запазычаных лексемах: *вакуум, дуумвірат, індывідуум.*

Спалучэнні «галосны+галосны+ +галосны» ў беларускай мове адзінкавыя. Ва ўласна беларускай лексіцы яны не сустракаюцца. У запазычаных лексемах і на стыку кампанентаў складаных слоў з запазычанымі асновамі адзначаны такія тыпы спалучэнняў галосных: «ненацiскны + ненацiскны + ненацiскны», «ненацiскны + ненацiскны + +нацiскны», «ненацiскны + нацiскны+ненацiскны», «нацiскны+ненацiскны + ненацiскны».

Спалучэнне з трох ненацiскных галосных адзначана на стыку кампанентаў складаных слоў, першы з якiх *геа...* (звязаны з зямлёй, з навукай аб зямлi), *гiдра...* (па значэнню адпавядае словам *вада, вадзяны, водны*), *iза...* (адпавядае па значэнню словам *роўны, аднолькавы*), *стэрэа...* (адпавядае па значэнню слову *стэрэаскапiчны*): *геаакустыка, геаантыклiналь, гiдраазрадром, гiдрааэрамеханiка, гiдрааэрапорт, iзаiанiя, стэрэаэкран.*

У большасцi з разгледжаных складаных слоў дадатковы нацiск падае на першы склад, таму ў словах *геаакустыка* i *геаантыклiналь* зафiксаваны спалучэннi з трох галосных, першы з якiх знаходзiцца пад дадатковым нацiскам. Такiм чынам, яны наблiжаюцца да спалучэнняў тыпу «нацiскны + ненацiскны + ненацiскны». Адзначым, што ўсе памянёныя словы не зафiксаваны ў ТСБМ. Як спецыяльныя тэрмiны яны падаюцца толькi ў РБС.

На стыку кампанентаў складаных слоў з запазычанымi асновамi сустракаюцца таксама спалучэннi з трох галосных, адзiн з якiх нацiскны: *вiдэаiмпульс, еўрапеоiдны.* Такое ж спалучэнне ёсць ва ўтвораных ад iншамоўнага прозвiшча словах *мааiст, мааiсцкi,* ётаванне [i] ў якiх не адбываецца, вiдаць, таму, што яно б зацямнiла семантыку слова. Яно не адзначаецца i ў iншамоўным прозвiшчы *Ауэзаў.*

## § 4.3. СПАЛУЧЭННI «ЦВЕРДЫ ЗЫЧНЫ + НАЦIСКНЫ ГАЛОСНЫ»

Усе спалучэннi зычных з галоснымi разглядаюцца ў залежнасцi ад якасцi зычнага ў наступнай паслядоўнасцi: губныя + галосныя, пярэднеязычныя + галосныя, сярэднеязычныя i заднеязычныя + галосныя. Звычайна для iлюстрацыi спалучальнасцi зычных з галоснымi прыцягваюцца тыя словы, у якiх спалучэнне «зычны + галосны» папярэднiчае цвёрдаму зычнаму.

У гукавым ладзе беларускай лiтаратурнай мовы цвёрдыя зычныя спалучаюцца з нацiскнымi галоснымi, непярэднiмi па ўтварэнню: з сярэдне-пярэднiм i сярэдне-заднiм [а], сярэднiмi [ы] i [э], з заднiмi [у] i [о].

У беларускай мове зафiксаваны наступныя спалучэннi «цвёрды зычны + нацiскны галосны»:

[пы]: [пы́]*рнiк;* [бы]: [бы́]*ццам;* [мы]: [мы́]*лкi;* [вы]: [вы́]*бух;* [фы]: [фы́]*ркаць;* [ты]: [ты́]*гр,* [ты́]*каць;* [ды]: з[ды́]*мак,* [ды́]*бiцца;* [сы]: [сы́]*пкi,* [сы́]*расць;* [зы]: [зы́]*рыць;* [дзы]: [дзы́]*нкаць;* [цы]: [цы́]*мус;* [ны]: [ны́]*рка;* [лы]: [лы́]*ндаць;* [ры]: [ры́]*пнуць;* [шы]: с[шы́]*так;* [жы]: [жы́]*лка;* [джы]: [джы́]*га;* [чы]: [чы́]*рвань;* [кы]: [кы́]*ш;* [гы]: [гы́]*ркаць;*

[пу]: [пу́]*рпур;* [бу]: [бу́]*цы;* [му]: [му́]*рзаць;* [ву]: [ву́]*сце;* [фу]: [фу́]*тра;* [ту]: [ту́]*хнуць;* [ду]: [ду́]*мка;* [су]: [су́]*дарга;* [зу]: [зу́]*бр;* [цу]: [цу́]*рка;* [ну]: [ну́]*дзiць;* [лу]: [лу́]*нка;* [ру]: [ру́]*жавы;* [шу]: [шу́]*мны;* [жу]: [жу́]*дасны;* [джу]: [джу́]*т;* [чу]: [чу́]*лы;* [ху]: [ху́]*таць;* [гу]: [гу́]*жам;* [ку]: [ку́]*тнiк;* [gу]: [gу́]*з (гуз);*

[по]: [по́]*быт;* [бо]: [бо́]*ндарыха;* [мо]: [мо́]*цна;* [во]: [во́]*сып;* [фо]: [фо́]*кус;* [то]: [то́]*пкі;* [до]: [до́]*каз;* [со]: [со́]*кат;* [зо]: [зо́]*лак;* [цо]: [цо́]*тны;* [но]: [но́]*раў;* [ло]: [ло́]*дар;* [ро]: [ро́]*спач;* [шо]: [шо́]*рхат;* [жо]: [жо́]*нчын;* [джо]: [джо́]*нка;* [чо]: [чо́]*вен;* [хо]: [хо́]*ванка;* [го]: [го́]*рыч;* [ко]: [ко́]*ршак;* [go]: [gó]*нта (гонта);*

[пэ]: [пэ́]*цкаць;* [бэ]: [бэ́]*з;* [мэ]: [мэ́]*тавы;* [вэ]: [вэ́]*ндзіць;* [фэ]: [фэ́]*ст;* [тэ]: [тэ́]*ма;* [дэ]: [дэ́]*спат;* [сэ]: [сэ́]*нс;* [зэ]: [зэ́]*даль;* [цэ]: [цэ́]*ўка;* [нэ]: [нэ́]*ндза;* [лэ]: [лэ́]*паць;* [рэ]: [рэ́]*чавы;* [шэ]: [шэ́]*птам;* [жэ]: [жэ́]*рабя;* [джэ]: [джэ́]*мпер;* [чэ]: [чэ́]*рава;* [хэ]: [хэ́]*нць;* [гэ]: [гэ́]*блік;*

[па]: [па́]*стка;* [ба]: [ба́]*гна;* [ма]: [ма́]*ра;* [ва]: [ва́]*дкасць;* [фа]: [фа́]*лда;* [та]: [та́]*рка;* [да]: [да́]*хавы;* [са]: [са́]*рна;* [за]: [за́]*вязка;* [ца]: [ца́]*цка;* [на]: [на́]*крыж;* [ла]: [ла́]*шчыць;* [ра]: [ра́]*га;* [ша]: [ша́]*р;* [жа]: [жа́]*ласны;* [джа]: [джа́]*ла;* [ча]: [ча]*сты;* [ха]: [ха́]*та;* [га]: [га́]*рус;* [ка]: [ка́]*рак;* [ga]: [gá]*за (газа);*

Як можна ўбачыць з прыведзеных прыкладаў, гэты тып прадстаўлены вялікай колькасцю разнастайных спалучэнняў цвёрдых зычных і націскных галосных. Амаль поўнасцю адсутнічаюць толькі спалучэнні [ў] з націскнымі галоснымі, што выклікана існуючымі ў мове пазіцыйнымі абмежаваннямі гэтага гука (яны зафіксаваны толькі ў словах *за*[ўо]*рг, па*[ўа]*ркуш*), а таксама пэўныя спалучэнні з выбухным заднеязычным [g], які сустракаецца толькі ў лічаных запазычаных лексемах.

У пазіцыі пачатку кораня сустракаецца большасць магчымых спалучэнняў «цвёрды зычны + націскны галосны»:

[пы]: [пы́]*са;* [бы]: [бы́]*ль;* [мы]: [мы́]*шка;* [вы]: [вы́]*шка;* [фы]: [фы́]*ркаць;* [ты]: [ты́]*дзень;* [ды]: [ды́]*біцца;* [сы]: [сы́]*ты;* [зы]: [зы́]*бавіца;* [дзы]: [дзы́]*нкнуць;* [цы]: [цы́]*ркаць;* [ны]: [ны́]*цік;* [лы]: [лы́]*жка;* [ры]: [ры́]*са;* [шы]: [шы́]*бка;* [жы]: [жы́]*ць;* [джы]: [джы́]*гаць;* [чы]: [чы́]*сціць;* [гы]: [гы́]*ркацца;*

[пу]: [пу́]*хкі;* [бу]: [бу́]*сел;* [му]: [му́]*ляр;* [ву]: [ву́]*зка;* [фу]: [фу́]*тра;* [ту]: [ту́]*заць;* [ду]: [ду́]*мка;* [су]: [су́]*тнасць;* [зу]: [зу́]*бчык;* [цу]: [цу́]*рка;* [ну]: [ну́]*дзіць;* [лу]: [лу́]*па;* [ру]: [ру́]*та;* [шу]: [шу́]*ла;* [жу]: [жу́]*пел;* [чу]: [чу́]*ткі;* [ху]: [ху́]*ткі;* [гу]: [гу́]*рба;* [ку]: [ку́]*пка;* [gy]: [gý]*зік (гузік);*

по: [по́]*йла;* [бо]: [бо́]*мба;* [мо]: [мо́]*ладзь;* [во]: [во́]*сень;* [фо]: [фо́]*льга;* [то]: [то́]*паль;* [до]: [до́]*ўг;* [со]: [со́]*ня;* [зо]: [зо́]*лка;* [цо]: [цо́]*тны;* [но]: [но́]*ша;* [ло]: [ло́]*жа;* [ро]: [ро́]*спач;* [шо]: [шо́]*рхат;* [жо]: [жо́]*лаб;* [чо]: [чо́]*рны;* [хо]: [хо́]*лад;* [го]: [го́]*рш;* [ко]: [ко́]*мін;* [go]: [gó]*нта (гонта);*

[пэ]: [пэ́]*ўна;* [бэ]: [бэ́]*з;* [мэ]: [мэ́]*ндлік;* [вэ]: [вэ́]*люм;* [фэ]: [фэ́]*ст;* [тэ]: [тэ́]*рмін;* [дэ]: [дэ́]*льта;* [сэ]: [сэ́]*рца;* [зэ]: [зэ́]*длік;* [цэ]: [цэ́]*бар;* [нэ]: [нэ́]*ндза;* [лэ]: [лэ́]*дзі;* [рэ]: [рэ́]*згіны;* [шэ]: [шэ́]*ршань;* [жэ]: [жэ́]*рдзе;* [джэ]: [джэ́]*мпер;* [чэ]: [чэ́]*мер;* [гэ]: [гэ́]*бель;*

[па]: [па́]*церы;* [ба]: [ба́]*чыць;* [ма]: [ма́]*ра;* [ва]: [ва́]*ба;* [фа]: [фа́]*за;* [та]: [та́]*йна;* [да]: [да́]*ўніцца;* [са]: [са́]*жалкавы;* [за]: [за́]*ячы;* [ца]: [ца́]*лкам;* [на]: [на́]*шча;* [ла]: [ла́]*шчыць;* [ра]: [ра́]*нак;* [ша]: [ша́]*лік;* [жа]: [жа́]*ласна;* [джа]: [джа́]*ла;* [ча]: [ча́]*хнуць;* [га]: [га́]*цевы;* [ха]: [ха́]*бар;* [ка]: [ка́]*ша.*

Аднак не ўсе спалучэнні «цвёрды зычны + націскны галосны» аднолькава часта сустракаюцца ў пазіцыі пачатку кораня. ТСБМ прыводзіць 17 слоў з пачатковым [бэ] ў корані. Сярод іх такія стылістычна абмежаванага ўжывання, як няскл. *бэ, бэж,* разм. *бэбахі, бэкаць, бэ-*

*жанне, бэкнуць, бэрсацца, бэрсаць, бэсціцца, бэсціць,* спец. *бэра, бэта.* Яшчэ менш слоў з пачатковымі каранёвымі [пэ], [вэ], [мэ] і [фэ].

Сярод 14 пададзеных у ТСБМ з [пэ] таксама ёсць стылістычна абмежаваныя: разм. пагард. *пэйсы,* разм. *пэцкаль;* кніжн. *пэр, пэрства.* Аналагічна з [вэ] адзначаны разм. *вэдзгаць, вэрхал* і яшчэ лічаныя словы: *вэксаль, вэлюм, вэндзіць* і вытворныя ад яго; з [мэ] пачынаюцца уст. *мэтр,* разм. *мэтлахі, мэкаць,* абл. *мэрам,* запазыч. *мэндлік, мэр, мэбля, мэрыя.* З усіх слоў з пачатковым [мэ], прыведзеных у ТСБМ, відаць, толькі *мэта, мэбля* і вытворныя сустракаюцца больш-менш часта ў разнастайных тэкстах. З [фэ] пачынаюцца толькі дзве лексемы: выклічнік *фэ* і запазычаны назоўнік *фэст.* Такім чынам, усе спалучэнні цвёрдых губных зычных з націскным [э] малапрадуктыўныя. Тое ж можна сказаць і аб спалучэннях цвёрдых губных зычных з націскным [ы]. Па кожнаму тыпу іх налічваецца каля 10 або некалькі больш. З пачатковым [пы] існуе рад каранёў, ад якіх утварыліся нешматлікія вытворныя: *пыл, пышка, пышыцца, пышна, пыха, пырнік, пырхнуць, пырснуць, пырскі, пыса.* Як і ў каранях, што пачынаюцца з губных + націскны [э], сярод маючых ініцыяльныя склады з губным і націскным [ы] адзначаецца прыкметная частка гукапераймальных. Спалучэнне [фы] ў пачатку сустракаецца толькі ў гукапераймальным корані *фыр-: фырканне, фыркаць, фыркнуць, фырчаць* і ў лексеме іншамоўнага паходжання *фынь.*

Некалькі большая колькасць каранёў з пачатковымі [бы] і [вы], але і іх нельга лічыць шматлікімі. З [бы] ў ТСБМ прыведзены наступныя лексемы: *быдла, бык, быль, быльнік, быстры, быт, бытнасць, быўшы, быццам, быць;* з [вы]: *выдма, вымпел, выспа, вышай, вышка, вынік, выць.* Адзначым пры гэтым, што марфемная прыналежнасць складу *вы-* ў некаторых з гэтых слоў можа тлумачыцца па-рознаму: не толькі на карысць кораня, але і на карысць пашыранага прэфікса *вы-.* Сярод усіх спалучэнняў з ініцыяльнымі губнымі з націскным [ы] больш пашырана [мы]: *мыечны, мыза, мызнік, мыйня, мыйшчык, мыйшчыца, мыканне, мыкаць, мыкнуць, мыла, мыліца, мыліцца, мыліць, мылкі, мыльнік, мыльніца, мыльны, мыс, мыса, мысленне, мышленне, мысленны, мыслік, мысліцца, мысліць, мысль, мыслячы, мыта, мытнік, мытніца, мытны, мытня, мыты, мыцельнік, мыцца, мыць, мыш, мышка, мышца, мышалка.* Распаўсюджанне пачатковага [мы] ў каранях слоў у большасці выпадкаў, як відаць з прыведзенага спіса, узятага з ТСБМ, тлумачыцца тым, што пры словаўтварэнні ў гэтых словах захоўваецца прыкаранёвы націск. Сам жа набор каранёў застаецца абмежаваным.

Больш шырока прадстаўлены ў пачатку кораня губныя зычныя ў спалучэнні з лабіялізаванымі галоснымі [о] і [у], пры гэтым павелічэнне ініцыяльных [во] і [ву] адбылося за кошт пристаўнога зычнага, які ўвайшоў у склад кораня. Напр., *вогненны, возера, вока, вокны, волава, вольха, восень, вугаль, вуда, вуж, вузка, вуліца, вус, вутка, вуха* і інш. Абмежаванымі ў гэтым выпадку з'яўляюцца толькі спалучэнні з наогул малаўжывальным губным зычным [ф]. Спалучэнне [фо] зафіксавана пераважна ў запазычаных лексемах: *фокус, фол, фольга, фон, фонд, форд, форзац, форма* і г. д., а [фу] — у лексемах *фуга, фуз, фук, фукаць, фукс, фукус, фунт, фура, фурка, фурма, фурыя, фут, футра.*

Не ўсе пярэднеязычныя аднолькава шырока і часта ўжываюцца з націскнымі галоснымі. У ТСБМ адзначаны з [дэ] ў пачатку кораня лексемы *дэка, дэльта, дэмас, дэсань, дэспат,* з [тэ] — *тэзіс, тэкс, тэкст, тэмбр, тэмнік, тэмп, тэмпа-*

*вы, тэмпера, тэнар, тэндэр, тэніс, тэніска, тэнісны, тэнт, тэпанне, тэпаць, тэпці, тэрбій, тэрмін, тэрмія, тэрмы, тэрцыя, тэст, тэставы, тэфтэлі, тэхнік.* Апрача таго, у беларускай мове ўжываюцца складаныя словы, у якіх [тэ] знаходзіцца ў першым корані і мае дадатковы націск. Гэта складаныя словы, першая частка якіх *тэле...* азначае 'дзеючы на далёкую адлегласць' або адпавядае па значэнню слову *тэлевізійны: тэлеаператар, тэлеглядач, тэлеграфаваны* і інш.; словы, дзе іх першая частка *тэрма...* абазначае адносіны да цеплыні, тэмпературы або апрацоўку пры дапамозе высокіх тэмператур: *тэрмаметрыя, тэрмаўстойлівы, тэрмаядзершчык* і г. д.; словы, першая састаўная частка якіх *тэх...* адпавядае па значэнню слову *тэхнічны: тэхвучоба, тэхперсанал, тэхсакратар, тэхсклад* і г. д.

Толькі тры словы прыводзяцца ў ТСБМ, якія маюць пачатковае каранёвае [зэ]: *зэдаль, зэдлік, зэт;* восем, корань якіх пачынаецца з [сэ]: *сэдас, сэнс, сэнсавы, сэр, сэрум, сэрца, сэрцайка, сэтльмент.* У некаторых вытворных ад лексемы *сэрца* на склад [сэ] падае дадатковы націск: *сэрцавед, сэрцаедка, сэрцападобнік, сэрцападобны.* Сем слоў у ТСБМ падаюцца з пачатковым [нэ]: *нэндза, нэндзны, нэп, нэпаўскі, нэпман, нэпманка, нэпманскі;* два з [лэ]: *лэдзі* і *лэпаць;* 11 з пачатковым [жэ]: *жэмчуг, жэрабя, жэрах, жэрдачка, жэрдзе, жэрдзь, жэрдка, жэрліца, жэрці, жэст, жэўжык,* больш за 30 з [чэ] і [цэ]: *чэзласць, чэзлы, чэзнуць, чэк, чэкавы, чэлядзь, чэмер, чэпаць, чэпік, чэпчык, чэрава, чэрап, чэрвень, чэрвеньскі, чэрві, чэрнены, чэрнець, чэрнь, чэрпанне, чэрпацца, чэрпаць, чэрствасць, чэрствы, чэрчаны, чэсанкі, чэснасць, чэсны, чэстэр, чэсць, чэх, чэшка, чэшскі; цэбар, цэбрык, цэгла, цэгліна, цэд, цэдра, цэзар, цэзій, цэйс, цэйсаўскі, цэласнасць, цэласны, цэласць, цэлік, цэліцца, цэліць, цэлы, цэль, цэльны, цэльсій, цэнасны, цэнз, цэнзавы, цэнзарскі, цэннасць, цэннік, цэнны, цэнт, цэнтр, цэп, цэпень, цэпкі, цэра, цэравы, цэрбер, цэркайка, цэрыевы, цэрый, цэсар, цэсарскі, цэтлік, цэх, цэхавы.* Шмат слоў, але большасць з іх запазычаныя, маюць каранёвы пачатак з [рэ]: *рэверс, рэгбі, рэгент, рэгулы, рэдзька, рэдзіва, рэдзіць, рэдка* (яно ж ужываецца з пабочным націскам як першая частка складаных слоў), *рэдкасны, рэдкасць, рэдкі, рэз, рэзанне, рэзацца, рэзаць, рэзгіны, рэзка, рэзкасць, рэзкі, рэзнуцца, рэзнуць, рэзрух, рэзчык, рэзь, рэй, рэйд, рэйдэр, рэйка, рэйкавы, рэйс, рэйсмус, рэйтар, рэйтарскі, рэквіем, рэкнуць, рэкрут, рэктар, рэктарскі, рэктарства, рэмез, рэмень, рэній, рэнта, рэпа, рэпавы, рэпацца, рэпік, рэпіна, рэпіцца, рэпка, рэпліка, рэпнік, рэпны, рэпчаты* і інш. Таксама больш за 10 слоў маюць корань, што пачынаецца з [шэ]: *шэлег, шэлест, шэльма, шэпціць, шэпат* і інш. Цікава адзначыць, што ў параўнанні з рускай мовай беларуская літаратурная мова мае ў сваім лексічным саставе больш слоў, пачатак кораня якіх утвораны спалучэннем пярэднеязычных зычных з націскным галосным [э]. Аднак значная частка такіх каранёў прыйшла з іншых моў і ўласціва лексемам, якія належаць да навуковай тэрміналогіі або кніжнай лексікі. Але ролю гэтых элементаў у агульным саставе беларускай лексікі нельга недаацэньваць. Інтэрнацыяналізацыя навуковай тэрміналогіі займае зараз прыкметнае месца ў стварэнні тэрмінаў, і ад таго, якім чынам адаптуецца ў мове іншамоўная лексіка, залежыць агульны набор кансанантных і вакальных структур фанетычных слоў, што ў сваю чаргу ўплывае на агульны гукавы лад беларускай літаратурнай мовы.

Спалучэнні пярэднеязычных зычных з націскным [ы] ў пачатку кораня таксама маюць розную прадуктыўнасць з рознымі катэгорыямі

зычных. Найбольшая колькасць слоў, якія пачынаюцца са склада з націскным [ы], адзначаецца з пярэднеязычнымі [р], [ш], [т], [с], [ч], [д]. Аднак сярод гэтых слоў шмат аднакаранёвых, у якіх пры словаўтварэнні націск захоўваецца на першым складзе кораня. Напрыклад, *рыба, рыбін, рыбіна, рыбка; рып, рыпанне, рыпацца, рыпнуць; тыркацца, тыркаць, тыркнуцца, тыркнуць; сык, сыканне, сыкаць, сыкнуць; сып, сыпацца, сыпаць, сыпка, сыпкасць, сыпкі, сыпнуцца, сыпнуць; сытна, сытнасць, сытнік, сыты; шыба, шыбенік, шыбеніца, шыбіна; чыканне, чыкацца, чыкаць, чыкнуць; дыба, дыбам, дыбарам, дыбаць, дыбачкі, дыбіцца, дыбіць; дымка, дымна, дымны, дымчасты, дымчаты* і інш.

Некалькі менш адзначаецца лексем, у якіх у пачатку кораня знаходзяцца [жы], [лы], [зы]. Іх налічваецца больш за 20 у кожным спалучэнні. Напрыклад, з [зы] адзначаны карані *зыб- (зыб, зыбанне, зыбацца, зыбаць, зыбісты, зыбка, зыбнуцца, зыбнуць, зыбкасць, зыбкі, зыбучы), зыз- (зызнуць, азызлы), зык- (зыканне, зыкаўка, зыкаць, зыкнуць), зырк- (зыркасць, зыркі, зыркнуць), зыч- (зычлівы, зычлівасць, зычлівец, зычлівіца, зычыць)*.

Яшчэ менш каранёў пачынаецца са складоў [дзы], [джы], [ны]: *дзынканне, дзынкаць, дзынкнуць; джыгаць, джын, джынсы, джып, джыу-джыцу; ырачны, нырка, ныцік, ныць, ныючы*.

Спалучэнні пярэднеязычных гукаў з націскнымі галоснымі [о] або [у] таксама маюць розную прадуктыўнасць. Да ліку найбольш пашыраных адносяцца карані з пачатковымі пярэднеязычнымі санантамі [ро], [ру], [ло], [лу], [но]. Пры гэтым словы з пачатковымі [ро], [ло] і [но] больш разнастайныя, сярод іх многа аднакаранёвых слоў, у параўнанні са словамі, якія пачынаюцца з [ру], [лу], [ну].

Так, з пачатковым [ро] ў беларускай літаратурнай мове сустракаюцца такія карані, як *роб-, робл- (роблены), рогат- (рогат), род-* (шматлікія вытворныя захоўваюць каранёвы націск на першым складзе, апрача таго, існуе цэлая група складаных слоў, у якіх першая частка *рода*... мае пабочны націск), *рой- (роевы* і інш.), *рож- (рожа, рожысты), розг- (розга), розн- (розна, розніца, розны* і г. д.), *розум, рокат, рол- (роля), ром, ромб, ронда, рост-, рот- (ротавы), роў-, рох- (рохкаць* і інш.), *рошчын- (рошчына)*, а з [ру] значна менш, хаця ўсіх слоў з такім пачаткам кораня больш за 40. Аналагічна з [ло] адзначаецца да 70 лексем, маючых гэты склад у пачатку кораня (карані *лоб, лобзік, лог, лодар, лой, лож-, локан, локаць, локшын-, лом, лон, лоп-, лопат, лось, лоўж, лоў-*), а з [лу] — каля 30 (карані *луб-, луг-, луж-, луз-, лузг-, лук-, лун-, луск-, луч-*).

Словы з пачатковымі [но], [ну] ў корані менш разнастайныя ў параўнанні з тымі, што маюць у пачатку [ро], [ру], [ло], [лу], але слоў з [но] ў пачатку кораня ў слоўніках налічваецца больш, чым слоў з [ну]. З [но] адзначана ў ТСБМ каля 40 слоў: *новы*... — частка складаных слоў з пабочным націскам на першым складзе, а з [ну] прыведзены наступныя: *нудзіць, нудна, нудны, нуканне, нукаць, нукнуць, нуль, нумар, нутрыевы* і *нутрыя*.

Выбухныя пярэднеязычныя гукі ў спалучэнні з [о] і [у] сустракаюцца ў вялікай колькасці слоў у пачатку кораня, але з [то] колькасць лексем большая (каля 60), чым з [ту] (больш за 30), з [до] — большая, чым з [ду]. Прадуктыўнымі з'яўляюцца і склады [со], [су]; у ТСБМ прыведзена каля 100 слоў з пачатковым [со] і каля 50 слоў з пачатковым [су].

Менш зафіксавана слоў з [шо] (каля 30) і з [шу] (некалькі больш за 20) у пачатку кораня. З [жо] ў

такім жа становішчы прыводзяцца словы: *жованка, жолаб, жолуд, жонка, жончын, жор, жорaў, жорнавы, жорны, жорсткасць, жорсткі, жоўклы, жоўкнуць, жоўта, жоўцевы, жоўценькі, жоўць, жох;* з [жу] — *жудасна, жудаснасць, жудасны, жудасць, жужаль, жук, жулік, жульніцкі, жульніцтва, жульнічаць, жупіць, жур, жухласць, жухлы, жухнуць.* З [зо] пачынаецца корань у 30 лексемах, а з [зу] — толькі ў наступных: *зуб, зуб'е, зублены, зубр, зубчык, зумер, зумерыць, зумканне, зумкаць, зумпф, зух;* [цо] і [цу] прадстаўлены прыблізна аднолькава ў пачатку кораня наступных слоў: *цокаль, цокальны, цоканне, цокат, цокаць, цокнуць, цок, цот, цотнасць, цотны* і *цуг, цуглевы, цуглі, цуд, цуда, цукар, цупанне, цупаць, цупкі, цур, цурка.*

Аналагічныя суадносіны назіраюцца ва ўжыванні слоўнікавых форм з ініцыяльнымі складамі ў корані [чу] і [чо]. З [чу] адзначаны словы *чубіць, чубіцца, чудзь, чужасць, чуйны, чукча, чуласць, чулы, чум, чуні, чутка, чуткі, чутны, чутнасць, чуты, чухкаць, чуцца, чуць, чучала, чучка, чушка,* а з [чо] — *човен, чоканне, чокацца, чокаць, чокнуты, чокнуцца, чокнуць, чоп, чорна, чорны, чорт, чортаў, чоўнавы, чоха, чохкаць.*

Нарэшце, самымі рэдкімі з'яўляюцца ў пачатку каранёў спалучэнні наогул рэдкіх афрыкат [дж] і [дз] з націскнымі [о] і [у]. У ТСБМ фіксуюцца з такімі складамі толькі сем слоў: *джокер, джонка, джоўль, дзот, джунглі, джут, джутавы.*

Заднеязычныя гукі разам з націскнымі галоснымі [о] і [у] ўваходзяць у першы склад даволі вялікай колькасці слоў з пачатковымі [го], [ко]. Іх адзначаецца больш за 100, з [гу] і [ку] — некалькі менш, але таксама больш за 70, што ў параўнанні з аналагічнымі складамі з губнымі і пярэднеязычнымі значная лічба. Некалькі менш каранёў з ініцыяльным [хо] (агульная колькасць лексем з такім складам каля 40), і толькі 15 лексем маюць у пачатку кораня склад [ху]: *хукаць, хукнуць, хунта, хуста, хустачка, хустачны, хустка, хутар, хутарны, хутацца, хутаць, хутка, хуткасць, хуткі, хуценька.*

Цікавая па-свойму карціна назіраецца сярод каранёў, пачатковы склад якіх утвараецца з цвёрдага зычнага і націскнога галоснага [а]. Найбольш значныя і шматлікія групы аднакаранёвых слоў з націскам на першым складзе ўтвараюцца пры спалучэнні губных зычных з галосным [а]. Незапазычаныя карані, на якіх пры словаўтварэнні захоўваецца націск на першым складзе, прадстаўлены са складам [ва]. Гэта *ваб- (вабенне, ваба, вабік, вабільшчык, вабіцца, вабіць, вабны), вад- (вадка, вадкасць, вадкі), важ- (важанне, важнасць, важнічаць, важны, важыльны, важыцца), вал- (вал, валам, валены, валік, валка, вальцы), вар- (вар, вараны, варка, варкі, варыва), варт- (варта, вартасны, вартасць, варты)* і інш. У ТСБМ такіх форм налічваецца да 60, што сведчыць аб іх значнай распаўсюджанасці. Прыблізна такое ж пашырэнне маюць у пачатку каранёў спалучэнні іншых губных зычных з націскным [а]. Карані, што пачынаюцца з [па], сустракаюцца, па даных ТСБМ, амаль што ў 100 лексемах. Напр., *пава, падаць, падчарыца, пазуха, пайка, палец, палка, памяць, пан, панцыр, папараць, параны, парта, партыя, парус, пас, пасвіцца, пах, пацеры, пачак, пашча, паша* і г. д. Сярод іх запазычаныя словы *пагада, пак, палуба, пальма, паўза, паюс* і г. д.

Шырока прадстаўлены карані, дзе ў першым складзе ідзе губны [м] і націскны [а]. Пры словаўтварэнні ў аднакаранёвых лексемах захоўваецца націск на першым складзе кораня. Прыгадаем такія групы слоў, як *мазь, мазальшчык, мазальшчыца, мазанка, мазанне, ма-*

*заецца, мазаць, мазка, мазкасць, мазкі; мак, макавы, макаўка; мама, мамачка, мамін, мамка, мамчын; масла, масленіца, маслёнка, масліць* і інш. У ТСБМ такіх лексем каля 80.

Аналагічна сярод 60 слоў з каранямі, якія пачынаюцца са склада [ба], шмат аднакаранёвых. Напр., *баба, бабін, бабка, бабскі, бабчын; багна, багнавы, багнішча, багнечка, багнечнік, багнечніца, багнечны; бацька, бацечка, бацькаў, бацькаўскі; бачна, бачнасць, бачны, бачыцца, бачыць* і г. д.

Менш за астатнія ўжываюцца лексемы, у якіх корань пачынаецца з [фа]. Гэта запазычаныя словы, якія па-рознаму адаптаваліся ў літаратурнай мове і маюць розныя сферы бытавання: *фабрыка, фабула, фаза, фазны, факел, факельны, факельшчык, факт, фактар, фалда, фальц, фальш, фанза, фара, фарба, фарбавы, фарс, фарсавы, фас, фат, фауна.*

Усе пярэднеязычныя гукі (за выключэннем афрыкаты [дз]) разам з націскным [а] ўваходзяць у першы склад таксама значнай колькасці слоў. Але толькі некаторыя з іх па сваёй парадыгматычнай прадстаўленасці набліжаюцца да губных.

Найбольш паказальныя ў гэтым сэнсе пярэднеязычныя санорныя [р] і [л]. З пачатковым складам [ра] ў корані ў ТСБМ адзначана больш чым 60 лексем, сярод якіх вылучаюцца некалькі колькасна значных груп аднакаранёвых слоў. Гэта *рад, радавацца, радаваць, радасна, радасны, радасць; рама, рамавы, рамачны, раміна, рамка, рамны; рана, раніца, ранішні, ранішнік, ранкам, ранне, ранні; рана, раненЫ, раніць; раса, расавы, раска* і інш.

Са склада [ла] таксама пачынаецца некалькі груп аднакаранёвых слоў: *лад, ладам, ладжаны, ладзіцца, ладзіць, ладны; лаз, лазенны, лазеншчык, лазіць; ласа, ласавацца, ласіца; лата, латанне, латацца, латаць, латка, латны* і г. д. У ТСБМ налічваецца каля 60 лексем, корань якіх у першым складзе мае [ла].

Параўнальна аднолькава з пункту погляду парадыгматычнай шырыні ўжываюцца ў літаратурнай мове карані з ініцыяльнымі складамі [ша], [та], [ча], [жа], [за], [са]. У ТСБМ іх адзначана адпаведна з [ша] больш чым 40, з [та] каля 40, з [ча] звыш 30, з [жа], [за] і [са] каля 30. З [ша] пачынаюцца карані ў наступных групах беларускіх лексем: *шабля, шабельны; шалевы, шалі, шалік, шаля; шапачка, шапачнік, шапка, шапкавы; шар, шарык, шарыкавы; шарканне, шаркаць, шаркнуць; шастанне, шастаць* і інш., трывала ўвайшоў у беларускую лексіку рад запазычаных слоў: *шайба, шанц, шаты, шафа, шафер, шахматы, шахта, шашка* і інш.

Складам [та] часцей пачынаюцца карані запазычаных слоў, напр. *табар, табарны; табель, табельны, табельшчыца; такса; такт, тактавы; тактык, тактыка; тамбур; танга, танк, танкер* і г. д. Склады [ча] і [жа] выступаюць у якасці каранёвых ініцыяльных: *чад, чадзець, чадна, чадны; чай, чайніца, чайны; чал, чаленне, чаліць; чара, чарачка, чарачны, чарка; частачка, частка, часткавы, часць; чахласць, чахлы, чахнуць; жаба, жабін, жабнік; жабравы, жаберны, жабры; жаласліва, жалaслівасць, жаласлівы, жаласна, жаласнасць, жаласны, жаліцца* і інш.

[за] і [са] ў пачатку каранёў распаўсюджаны менш, пры гэтым аднясенне ў радзе выпадкаў склада [за] не да прыстаўкі, а да кораня правамоцна толькі з пункту погляду сучаснай мовы: *забаўка, завадзь, запар, засень, заставаць, засцць, захад* і інш. Але ў іншых словах склады [за] і [са] належаць безумоўна пачатку кораня: *зад, задні, заднік; зайка, зайчык; замак, замчышча; сажалка, сажалкавы; сад,*

*саджаны; сала, саліцца, саліць, сальнік, сальны; саначны, сані, санкі* і г. д.

ТСБМ налічвае каля 20 слоў, якія маюць у пачатку кораня пярэднеязычны выбухны [д] і націскны [а], напр. *далеч, даль; даўнасць, даўні, даўніцца, даўніць; дацца, даць; дача, дачнік, дачніца, дачны* і інш.

Менш чым 20 слоў маюць ініцыяльны каранёвы склад [ца]. Гэта словы *цалкам, цаля, цапаць, цапнуць, цар, царскі, царства, царстваваць, царственнасць, царственны, цаца, цацачнік, цацачніца, цацачны, цацка, цацкацца* і некаторыя іншыя.

Нешматлікія словы маюць першым складам у корані [на] і [джа]. Гэта *джаз, джала, джаліць* і *навалачка, надзіць, нарыс, нафта, націск*. Адзначым, што аднясенне некаторых слоў з [на] да ліку маючых яго ў складзе кораня выклікае пэўныя пярэчанні, бо за [на] яшчэ адчуваецца статус прыстаўкі.

Заднеязычныя гукі разам з націскным [а] сустракаюцца ў пачатку большай колькасці каранёў у параўнанні са спалучэннямі пярэднеязычных і націскнога [а], калі разглядаць кожнае з гэтых спалучэнняў паасобку. Толькі [ха] сустракаецца ў 30 лексемах (па ТСБМ), у той час як [га] — у 60, а [ка] — амаль у 90 лексемах. Напр., *хабар, хабарнік, хабарніца, хабарніцкі, хабарніцтва; хапаць, хапнуць; харканне, харкаць, харкнуць; гад, гадасць, гадаўка, гадзіна, гадзіць, гадка, гадкі; галчын, галка; гаўкала, гаўканне, гаўкаць, гаўкнуць; каверза, каверзна, каверзнасць, каверзнік, каверзніца, каверзны; казачна, казачнасць, казачны, казка; канькала, канькание, канькаць; капаць, капелька, капля, капнуць.*

Абмежавана распаўсюджаны ў пачатку каранёў склады [gy]: [gy]*з* (*гуз*), [gy]*зік* (*гузік*), [gy]*зічак* (*гузічак*); [go]: [go]*нта* (*гонта*), [go]*нтавы* (*гонтавы*); [ga]: [ga]*за* (*газа*), [ga]*нак* (*ганак*), [ga]*начны* (*ганачны*), [ga]*рнец* (*гарнец*), [ga]*рцавы* (*гарцавы*), [ga]*рчык* (*гарчык*).

Для зручнасці аналізу ступень распаўсюджанасці рознага тыпу спалучэнняў зычных з націскнымі галоснымі вызначалася толькі на падставе ТСБМ. Пры гэтым не ўлічваліся прэфіксальныя вытворныя, у склад якіх уваходзяць карані з разгледжанай фанетычнай структурай. Але і абмежаваны матэрыял дазваляе ўбачыць, што гэтыя групы спалучэнняў па-рознаму прадстаўлены ў каранёвых марфемах.

У сярэдзіне кораня сустракаецца большасць з існуючых наогул спалучэнняў тыпу «цвёрды зычны + націскны галосны»:

[пы]: *пу*[пы́]*шка;* [бы]: *ка*[бы́]*лка;* [мы]: *мар*[мы́]*шка;* [вы]: *ка*[вы́]*льны;* [фы]: *расфу*[фы́]*раны;* [ты]: *па*[ты́]*ліца;* [ды]: *ва*[ды́]*р;* [сы]: *ка*[сы́]*нка;* [зы]: *мага*[зы́]*н;* [цы]: *нар*[цы́]*с;* [ны]: *к*[ны́]*р;* [лы]: *ка*[лы́]*ска;* [ры]: *цы*[ры́]*каць;* [шы]: *ма*[шы́]*на;* [жы]: *а*[жы́]*на;* [чы]: *на*[чы́]*нка;*

[пу]: *ка*[пу́]*ста, пам*[пу́]*шка;* [бу]: *сум*[бу́]*р;* [му]: *ка*[му́]*на;* [ву]: *кара*[ву́]*л;* [фу]: *тай*[фу́]*н;* [ту]: *ты*[ту́]*нь; вал*[ту́]*зіць;* [ду]: *ду*[ду́]*каць;* [су]: *бар*[су́]*к, сап*[су́]*ць;* [зу]: *ку*[зу́]*рка;* [цу]: *па*[цу́]*к;* [ну]: *зака*[ну́]*рак;* [лу]: *ка*[лу́]*н, каб*[лу́]*к;* [ру]: *каст*[ру́]*ля;* [шу]: *ка*[шу́]*ля, шу*[шу́]*кацца;* [жу]: *ка*[жу́]*х;* [чу]: *кан*[чу́]*р;* [ху]: *ха*[ху́]*ля, ла*[ху́]*дра;* [гу]: *ма*[гу́]*тна;* [ку]: *ма*[ку́]*ха;*

[по]: *ка*[по́]*т;* [бо]: *су*[бо́]*та;* [мо]: *су*[мо́]*та, ка*[мо́]*рка;* [во]: *га*[во́]*рка;* [фо]: *кані*[фо́]*ль, су*[фо́]*зія, са*[фо́]*ра;* [то]: *ла*[то́]*чны;* [до]: *валі*[до́]*л;* [со]: *пун*[со́]*вы;* [зо]: *ма*[зо́]*ль;* [но]: *г*[но́]*й;* [ло]: *да*[ло́]*нь;* [ро]: *му*[ро́]*г; чычэ*[ро́]*не;* [шо]: *капю*[шо́]*н;* [жо]: *ма*[жо́]*р;* [чо]: *пя*[чо́]*ра;* [хо]: *ма*[хо́]*рка;* [го]: *ла*[го́]*да, зага*[го́]*каць;* [ко]: *ва*[ко́]*льны;*

[пэ]: *ка*[пэ́]*ла;* [вэ]: *ш*[вэ́]*ндацца, зак*[вэ́]*цаць;* [фэ]: *ку*[фэ́]*рак;* [тэ]: *ап*[тэ́]*ка, фу*[тэ́]*рка, люс*[тэ́]*рка;* [дэ]: *дыві*[дэ́]*нд, ма*[дэ́]*ль;* [сэ]: *гар*[сэ́]*тка, пуль*[сэ́]*тка;* [зэ]: *мі*[зэ́]*рны;* [цэ]: *лю*[цэ́]*рна, сэ*[цэ́]*сія;* [лэ]: *ва*[лэ́]*ндацца;* [рэ]: *аг*[рэ́]*ст;* [шэ]: *кі*[шэ́]*нь, абра*[шэ́]*ціць, рэка*[шэ́]*т;* [жэ]: *ку*[жэ́]*льны, фу*[жэ́]*р;* [чэ]: *ча*[чэ́]*рскі, ка*[чэ́]*ўнік;*

[па]: *у*[па́]*рты;* [ба]: *ка*[ба́]*льны, цуру*[ба́]*лка;* [ма]: *ка*[ма́]*р;* [ва]: *ка*[ва́]*лак;* [фа]: *са*[фа́]*ры;* [та]: *та*[та́]*рка;* [да]: *су*[да́]*к;* [са]: *па*[са́]*г, ру*[са́]*ллі;* [за]: *ка*[за́]*к;* [на]: *ма*[на́]*шка;* [ца]: *ца*[ца́]*рка;* [ла]: *у*[ла́]*сны;* [ра]: *ка*[ра́]*скацца;* [ша]: *ла*[ша́]*к, ка*[ша́]*ра;* [жа]: *ка*[жа́]*н;* [ча]: *кан*[ча́]*так;* [ха]: *у*[ха́]*ба;* [га]: *ка*[га́]*т;* [ка]: *с*[ка́]*з.*

У пазіцыі сярэдзіны кораня не сустракаюцца толькі некаторыя спалучэнні, магчымыя ў іншых марфалагічных умовах: [кы], [хы], [гы]; [цо]; [бэ], [мэ], [кэ], [гэ], [хэ].

У к а н ц ы  к о р а н я спалучэнні «цвёрды зычны + націскны галосны» зафіксаваны ў запазычаных словах, пераважна ў нескланяльных назоўніках, у абмежаванай колькасці выпадкаў:

[ты]: *хан*[ты́]; [ры]: *жу*[ры́], *кю*[ры́], *папу*[ры́], *па*[ры́];

[пэ]: *ку*[пэ́]; [фэ]: *аўтада*[фэ́], *галі*[фэ́], *ка*[фэ́]; [тэ]: *кара*[тэ́], *маралі*[тэ́]; [дэ]: *па-дэ-*[дэ́]; [сэ]: *медрэ*[сэ́], *плі*[сэ́], *фрыка*[сэ́], *э*[сэ́]; [зэ]: *шымпан*[зэ́]; [цэ]: *цэ*[цэ́]; [нэ]: *кабер*[нэ́], *каш*[нэ́], *партма*[нэ́], *тур*[нэ́]; [рэ]: *гаф*[рэ́], *каба*[рэ́];

[па]: [па́]; [фа]: *чу*[фа́]; [на]: *гара*[на́]; [ла]: *марса*[ла́]; [ра]: *бака*[ра́];

[по]: *дэ*[по́], *каш*[по́]; [бо]: *жа*[бо́]; [во]: *квіпрак*[во́]; [то]: *ла*[то́], *ман*[то́], *палі*[то́], *пла*[то́]; [до]: *бар*[до́], *лан*[до́], *ран*[до́]; [но]: *дамі*[но́], *казі*[но́], *кі*[но́], *па*[но́]; [ро]: *біст*[ро́], *бю*[ро́], *жы*[ро́], *мет*[ро́]; [чо]: *хар*[чо́]; [ко]: *рака*[ко́];

[бу]: *мара*[бу́], *та*[бу́]; [ву]: *рандэ*[ву́]; [ту]: *паспар*[ту́]; [ду]: *кака*[ду́], *ур*[ду́]; [лу]: *зу*[лу́]; [ру]: *кенгу*[ру́]; [жу]: *сапа*[жу́]; [гу]: *ра*[гу́].

Такога ж тыпу спалучэнні сустракаюцца яшчэ ў назоўніках з дээтымалагізаванай асновай — нескланяльных уласнабеларускіх прозвішчах, а таксама ў нескланяльных іншамоўных прозвішчах, імёнах, геаграфічных назвах:

[мэ]: *Ла*[мэ́]; [зэ]: *Бі*[зэ́];

[на]: *На*[на́]; [ла]: *Йашкар-А*[ла́];

[по]: *Ла*[по́]; [фо]: *Дэ*[фо́]; [со]: *Ру*[со́]; [зо]: *Гі*[зо́]; [цо]: *Гру*[цо́]; [но]: *Гу*[но́]; [го]: *Гю*[го́]; [ко]: *Віт*[ко́], *Чуй*[ко́];

[ду]: *Катман*[ду́]; [ру]: *Пе*[ру́]; [ку]: *Ба*[ку́].

На  с т ы к у  к о р а н я  і  к а н ч а т к а зафіксавана вялікая колькасць спалучэнняў «цвёрды зычны + націскны галосны»:

[пы]: *ка*[пы́] (Р. скл. адз. л.); [бы]: *ба*[бы́] (Н. скл. мн. л.); [мы]: *та*[мы́] (Н. скл. мн. л.); [вы]: *са*[вы́] (Р. скл. адз. л.); [фы]: *са*[фы́] (Р. скл. адз. л.); [ты]: *ка*[ты́] (Н. скл. мн. л.); [ды]: *са*[ды́] (Н. скл. мн. л.); [сы]: *ля*[сы́] (Н. скл. мн. л.); [зы]: *ла*[зы́] (Р. скл. адз. л.); [цы]: *зай*[цы́] (Н. скл. мн. л.); [ны]: *ма*[ны́] (Р. скл. адз. л.); [лы]: *бус*[лы́] (Н. скл. мн. л.); [ры]: *вят*[ры́] (Н. скл. мн. л.); [шы]: *гра*[шы́] (Н. скл. мн. л.); [жы]: *ка*[жы́] (заг. л. дзеясл. *казаць*); [чы]: *сы*[чы́] (Н. скл. мн. л.);

[цэ]: *у му*[цэ́] (Т. скл. адз. л.); [рэ]: *бя*[рэ́]*ш* (дзеясл. цяп. ч. 2 ас. адз. л.); [шэ]: *ву*[шэ́]*й* (Р. скл. мн. л.); [чэ]: *пя*[чэ́] (дзеясл. цяп. ч. 3 ас. адз. л.);

[па]: *ка*[па́]; [ба]: *іл*[ба́] (Р. скл. адз. л.); [ма]: *зі*[ма́]; [ва]: *са*[ва́]; [фа]: *са*[фа́]; [та]: *ка*[та́] (Р. скл. адз. л.); [да]: *сера*[да́]; [са]: *ра*[са́]; [за]: *сля*[за́]; [ца]: *ма*[ца́]; [на]: *вяс*[на́]; [ла]: *ста-*

[лá] (Р. скл. адз. л.); [ра]: га[рá]; [ша]: ду[шá]; [жа]: мя[жá]; [джа]: паран[джá]; [ча]: мя[чá] (Р. скл. адз. л.); [ха]: стра[хá]; [га]: чар[гá]; [ка]: ра[кá];

[пу]: ка[пý] (В. скл. адз. л.); [бу]: ра[бý] (В. скл. адз. л.); [му]: пры[мý] (дзеясл. буд. ч. 1 ас. адз. л.); [ву]: са[вý] (В. скл. адз. л.); [фу]: са[фý] (В. скл. адз. л.); [ту]: кі[тý] (Д. скл. адз. л.); [ду]: вя[дý] (дзеясл. цяп. ч. 1 ас. адз. л.); [су]: ка[сý] (В. скл. адз. л.); [зу]: ка[зý] (В. скл. адз. л.); [цу]: ма[цý] (В. скл. адз. л.); [ну]: ма[нý] (В. скл. адз. л.); [лу]: сту[лý] (Д. скл. адз. л.); [ру]: на га[рý] (В. скл. адз. л.); [шу]: су[шý] (дзеясл. цяп. ч. 1 ас. адз. л.); [жу]: ка[жý] (дзеясл. цяп. ч. 1 ас. адз. л.); [джу]: гля[джý] (дзеясл. цяп. ч. 1 ас. адз. л.); [ху]: у пу[хý] (М. скл. адз. л.); [гу]: ма[гý] (дзеясл. цяп. ч. 1 ас. адз. л.); [ку]: з хмызня[кý] (Р. скл. адз. л.);

[по]: ка[пó]й (Т. скл. адз. л.); [бо]: ра[бó]м (Т. скл. адз. л.); [мо]: з су[мó]й (Т. скл. адз. л.); [во]: тра[вó]й (Т. скл. адз. л.); [фо]: са[фó]й (Т. скл. адз. л.); [то]: ка[тó]м (Т. скл. адз. л.); [до]: гняз[дó]; [со]: з ка[сó]й (Т. скл. адз. л.); [зо]: ля[зó]; [цо]: ма[цó]й (Т. скл. адз. л.); [но]: вак[нó]; [ло]: кры[лó]; [ро]: пя[рó]; [шо]: каў[шó]м (Т. скл. адз. л.); [жо]: з на[жó]м (Т. скл. адз. л.); [джо]: з даж[джó]м (Т. скл. адз. л.); [чо]: пля[чó]м (Т. скл. адз. л.); мужы[ч:ó]; [хо]: су[хó]га (прым. Р. скл. адз. л.); [го]: лу[гó]ў (Р. скл. мн. л.); [ко]: мала[кó].

На стыку кораня і суфікса ў беларускай літаратурнай мове сустракаюцца шматлікія і разнастайныя спалучэнні цвёрдых зычных з націскнымі галоснымі:

пы: сля[пы́]ш; [бы]: ра[бы́]ня; [вы]: ска[вы́]ш; [ты]: пус[ты́]шка, пус[ты́]ня; [ды]: бан[ды́]т, гаспа[ды́]ня, ма[ды́]стка, та[ды́]шні; [лы]: ма[лы́]ш; [ры]: га[ры́]сты, ду[ры́]ць, кама[ры́]ны, пя[ры́]нка, ха[ры́]ст, хму[ры́]нка, цям[ры́]ца; [шы]: ду[шы́]ць, лапу[шы́]сты, мура[шы́]ны, пар[шы́]вы, пу[шы́]ца; [жы]: іл[жы́]вы, сця[жы́]нка; [джы]: даж[джы́]сты; [чы]: вала[чы́]льны, вя[чы́]сты, ма[чы́]льня, паву[чы́]ны, пяр[чы́]нка, шпа[чы́]ны;

[пу]: ры[пý]чы, хла[пý]шка, хра[пý]н; [бу]: ба[бý]ля, зы[бý]ха, зы[бý]чы, ра[бý]нак; [ву]: жы[вý]чы, кры[вý]ля, ры[вý]н; [му]: вась[мý]шка, гры[мý]чы; [ту]: ля[тý]чы, непі[тý]шчы, ра[тý]нак; [ду]: ка[дý]шка, ся[дý]н, ся[дý]ра; [су]: ла[сý]нак, ня[сý]чы, ня[сý]шка, са[сý]чы, сы[сý]н; [зу]: гры[зý]н, ма[зý]та, паў[зý]чы; [цу]: вала[цý]га, ма[цý]нак; [ну]: мі[нý]лы, мя[нý]шка, сві[нý]х; [лу]: веся[лý]шка, ка[лý]н; [ру]: гава[рý]ха, неўмі[рý]чы, пада[рý]нак, хіт[рý]га; [шу]: паля[шý]к, ра[шý]ча; [ч:у]: ува[ч:ý]; [жу]: ка[жý]х, ка[жý]шнік, прыга[жý]н, свя[жý]ткі; [чу]: маў[чý]н, ма[чý]лішча, пля[чý]к, ра[чý]лка; [ху]: па[хý]часць, пяр[хý]н, ра[хý]ба, ра[хý]нак, ці[хý]тка; [гу]: браз[гý]чы, жы[гý]чка, ра[гý]ля, ця[гý]чы; [ку]: бліс[кý]чы, бры[кý]н, дзі[кý]нка, ку[кý]ля, ма[кý]лінка, ра[кý]шачнік;

[по]: гры[пó]зны, па[пó]ўскі, слу[пó]к, хры[пó]тка; [бо]: галу[бó]к, гар[бó]к, глы[бó]зны, ду[бó]вы, лу[бó]чны, ра[бó]чы; [во]: ай[вó]вы, дры[вó]тня, ры[вó]к; [фо]: ты[фó]зны; [мо]: дры[мó]та, ды[мó]к, разу[мó]ва, шаль[мó]ўскі; [то]: дубаль[тó]ўка, кус[тó]вы, ку[тó]к; [до]: бры[дó]зны, га[дó]ўля, мя[дó]вы, ра[дó]к; [со]: вы[сó]зны, кута[сó]вы, кур[сó]ўка, паля[сó]ўшчык; [джо]: даж[джó]вы, паса[джó]ны; [зо]: аргані[зó]ваны, ілю[зó]рны, га[зó]ўка, згры[зó]та, ра[зó]к; [цо]: пля[цó]ўка; [но]: адзі[нó]чны, вя[нó]зны, зва[нó]к, ля[нó]та, машы[нó]вы; [ло]: га[лó]та, ва[лó]вы, па[лó]ць; [ро]: мах[рó]вы, раза[рó]ны; [шо]: мя-

*ны)*; [ды]: *усю*[ды]*хо́д;* [цы]: *дэ*-[цы]*ме́тр;* [ры]: *т*[ры]*лі́сты;*

[ту]: *пар*[ту]*лі́к, пар*[ту]*зно́сы;* [ўу]: *гало*[ўу]*ра́ч, па*[ўу]*зво́д;* [ху]: *дву*[ху]*згóр'е;*

[то]: *ш*[то]*вясну́;*

[фэ]: *ка*[фэ]*шанта́н;* [тэ]: *па*-[тэ]*фо́н;* [рэ]: *супе*[рэ]*лі́та;*

[па]: *мал*[па]*падо́бны;* [ба]: *ры*[ба]*ло́ў;* [ўа]: *па*[ўа]*баро́т; на*-*па*[ўа]*го́лены, напа*[ўа]*дзе́ты, па*-[ўа]*ва́л;* [ва]: *дры*[ва]*се́к;* [фа]: *тар*[фа]*рэ́з;* [ма]: *са*[ма]*се́йка;* [та]: *кус*[та]*рэ́з;* [да]: *са*[да]*во́д;* [джа]: *даж*[джа]*ме́р;* [са]: *ба*[са]*но́гі;* [за]: *гру́*[за]*перавóзкі;* [ца]: *сан*-[ца]*пёк;* [на]: *ваў*[на]*чóска;* [ла]: *каз*[ла]*но́гі;* [ра]: *ску*[ра]*мі́т;* [ша]: *мы*[ша]*хвóснік;* [ж:а]: *збо*[ж:а]-*ўбóрка;* [жа]: *ка*[жа]*мя́ка;* [ча]: *ма*[ча]*кі́слы, хар*[ча]*бло́к;* [ха]: *пу*[ха]*е́д, тэ*[ха]*гля́д;* [га]: *ста*[га]-*кі́д;* [ка]: *му*[ка]*се́йны;* [к:а]: *мя*[к:а]*сардэ́чны.*

У асобных лексемах адзначаны памылковыя замены ненаціскных галосных або суседніх з імі зычных у спалучэннях [ку], [ра], [рэ], [лы], [на], [ны]: *акумулятар* (не *акамулятар*); *апрыкраць* (не *апрыкрыць*); *трэльяж* (не *трыльяж*); *глытаць* (не *глатаць*), *калымага* (не *каламага*); *алавяны* (не *алавянны*), *тона* (не *тонна*), *калона* (не *калонна*).

У радзе выпадкаў у літаратурнай мове суіснуюць два фанетычныя варыянты лексем з рознымі ненаціскнымі галоснымі або з рознымі суседнімі з імі зычнымі: *мачаха* і *мачыха; зарава* і *зарыва; халіф* і *каліф; хамса* і *камса; гамашы* і *камашы.*

## § 4.6. СПАЛУЧЭННІ «МЯККІ ЗЫЧНЫ + НЕНАЦІСКНЫ ГАЛОСНЫ»

У беларускай літаратурнай мове колькасць спалучэнняў мяккіх зычных з ненаціскнымі галоснымі абмежаваная, бо значная колькасць зычных не бываюць мяккімі і ў ненаціскных складах амаль не сустракаюцца галосныя [о], [э]. Зафіксаваны наступныя спалучэнні мяккіх зычных з ненаціскнымі галоснымі:

[п'і]: [п'і]*лі́каць,* [п'і]*льнава́цца, вы́*[п'і]*ць;* [б'і]: [б'і]*зу́н,* [б'і]-*рузо́вы, вы́*[б'і]*ць;* [в'і]: [в'і]*хо́р,* [в'і]*ншава́ць, вы́*[в'і]*х, про́з*[в'і]-*шча;* [ф'і]: [ф'і]*ра́нка,* [ф'і]*яле́тавы, про́*[ф'і]*ль;* [м'і]: [м'і]*зэ́рна,* [м'і]*тусяні́на, гу́*[м'і]; [ц'і]: [ц'і]-*ка́ць,* [ц'і]*скані́на, вы́*[ц'і]*снуць, ту́*[ц'і]; [ц':і]: *у ве́*[ц':і] (*у вецці*); [дз'і]: [дз'і]*рва́н,* [дз'і]*кава́ты, спра́ў*[дз'і]*ць;* [дз':і]: *стаго́*[дз':і] (*стагоддзі*); [с'і]: [с'і]*вы́,* [с'і]*раце́ць, про́*[с'і]*нь;* [с':і]: *у Пале́*[с':і] (*Палессі*); [з'і]: [з'і]*мо́вішча,* [з'і]*мава́ць, гу́*[з'і]*чак;* [з':і]: *пало́*[з':і] (*палоззі*); [н'і]: [н'і]*кчэ́мнасць,* [н'і]*штава́ты, выме́р*[н'і]*к;* [н':і]: *скляпе́*[н':і] (*скляпенні*); [л'і]: [л'і]*сто́ўніца,* [л'і]*нчава́ць, вы́*[л'і]*ць;* [л':і]: *вясе́*[л':і] (*вяселлі*); [х'і]: [х'і]*стану́ць, пры́м*[х'і]; [г'і]: [г'і]*зава́ць,* [г'і]*сто́рык, вы́*[г'і]*н;* [g'і]: [g'і]*зы́* (*гізы*), [g'і]*льзаўло́ўнік* (*гільзаўлоўнік*); [к'і]: [к'і]*да́льніца,* [к'і]*слава́та, вы́*[к'і]-*пень;*

[п'у]: [п'у]*рэ́* (*пюрэ*); [б'у]: [б'у]*ракра́т* (*бюракрат*); [ф'у]: [ф'у]*зеля́жны* (*фюзеляжны*); [м'у]: [м'у]*ры́д* (*мюрыд*); [ц'у]: [ц'у]*ко́ўшчык* (*цюкоўшчык*), [ц'у]*ле́ніна* (*цюленіна*); [ц':у]: *трына́цца*[ц':у] (*трынаццаццю*); [дз'у]: [дз'у]*бча́сты* (*дзюбчасты*); [дз':у]: *дзесяці́го́*[дз':у] (*дзесяцігоддзю*); [с'у]: [с'у]*ды́* (*сюды*); [с':у]: *ры́*[с':у] (*рыссю*); [з'у]: [з'у]*зю́каць* (*зюзюкаць*), *зя*[з'у]*ляня́* (*зязюляня*); [з':у]: *гра́*[з':у] (*граззю*); [н'у]: *г*[н'у]-*сі́ць* (*гнюсіць*); [н'у]*ансава́ць* (*нюансаваць*); [н':у]: *зе́ле*[н':у] (*зеленню*); [л'у]: *вэ́*[л'у]*м* (*вэлюм*), [л'у]*ля́ць* (*люляць*), [л'у]*тава́ць* (*лютаваць*); [л':у]: *гні́*[л':у] (*гніл*-

*лю);* [йу]: [йу]*рлівы (юрлівы);* [г'у]: [г'у]*рзá (гюрза);* [к'у]: [к'у]-*рэ́ (кюрэ);*

[п'е]: [п'е]*скавáты, дý*[п'е]*ль, цэ́*[п'е]*ль;* [б'е]: [б'е]*здакóрны, грэ́*[б'е]*нь, ру*[б'е]*рóйд;* [в'е]: [в'е]-*лю́р,* [в'е]*рбалóз, навукó*[в'е]*ц, пулó*[в'е]*р;* [ф'е]: [ф'е]*стывáль кá*[ф'е]*дра, я*[ф'е]*ты́ды;* [м'е]: [м'е]-*дýза,* [м'е]*шкавíна, прó*[м'е]*сь;* [ц'е]: [ц'е]*цярýк, вé*[ц'е]*р;* [ц':е]: *лý*[ц':е] *(луцце);* [дз'е]: [дз'е]*шавéй, вы́*[дз'е]*л;* [дз':е]: *мелкавó*[дз':е] *(мелкаводдзе);* [с'е]: [с'е]*рдавáць, ар*[с'е]*нáл, прóмы*[с'е]*л;* [с':е]: *калó*[с':е] *(калоссе);* [з'е]: [з'е]*ленкавáты,* [з'е]*ніт, прó*[з'е]*лень;* [з':е]: *палó*[з':е] *(палоззе);* [н'е]: *г*[н'е]*здавáнне, навучэ́*[н'е]*ц;* [н':е]: *пытá*[н':е] *(пытанне);* [л'е]: [л'е]*пятýха, су*[л'е]*мá, прó*[л'е]*жань;* [л':е]: *гó*[л':е] *(голле);* [йе]: [йе]*вáнгелле,* [йе]*зуíт, прó*[йе]*дзь;* [х'е]: [х'е]*рувíм,* [х'е]*ýсýры;* [г'е]: [г'е]*нерáліха,* [г'е]*óлаг, бý*[г'е]*ль;* [g'е]: [g'е]*р*[g'е]*тáць (гергетаць);* [к'е]: [к'е]-*сóн, пі*[к'е]*тавáць, пó*[к'е]*р;*

[п'а]: [п'а]*тá (пята);* [п'а]*цяры́к (пяцярык), кý*[п'а]*ць (купяць)* (дзеясл. буд. ч. 3 ас. мн. л.); [б'а]: *пры*[б'а]*рэ́жжа (прыбярэжжа), лю*[б'а]*ць (любяць);* [в'а]: [в'а]*хá (вяха),* [в'а]*ргíня (вяргіня), лó*[в'а]*ць (ловяць);* [м'а]: *з*[м'а]*шчáцца (змяшчацца),* [м'а]*сарубка (мясарубка), пá*[м'а]*ць (памяць);* [ц'а]: *с*[ц'а]*гнó (сцягно),* [ц'а]*гавíты (цягавіты), вы́*[ц'а]*ць (выцяць);* [ц':а]: *свá*[ц':а] *(сваццгя);* [дз'а]: *з*[дз'а]-*цінець (здзяцінець),* [дз'а]*ржыдрэ́ва (дзяржыдрэва), сыхó*[дз'а]*чы (сыходзячы);* [с'а]: [с'а]*кéра (сякера),* [с'а]*мігодка (сямігодка), умы́й*[с'а] *(умыйся)* (дзеясл. заг. л. 2 ас. адз. л.); [з'а]: [з'а]*мля́к (зямляк),* [з'а]*зюлянá (зязюляня);* [з':а]: *ры́*[з':а] *(рыззя)* (Р. скл. адз. л.); [н'а]: *з*[н'а]*нáцку (знянацку), півó*[н'а] *(півоня);* [л'а]: [л'а]*цéць (ляцець),* [л'а]*скатáць (ляскатаць), вó*[л'а] *(воля);* [л':а]: *рá*[л':а] *(ралля);* [йа]: [йа]*тóўе (ятоўе),* [йа]*страбóк (ястрабок), бá*[йа]*ць (баяць);* [х'а]: *таў*[х'а]*ля́ (таўхяля);* [г'а]*ýр (гяур).*

У пачатку кораня ўжываюцца шматлікія спалучэнні мяккіх зычных з ненаціскнымі галоснымі:

[п'і]: [п'і]*вóня,* [п'і]*нжачóк, дó*[п'і]*с;* [б'і]: [б'і]*рýлька,* [б'і]*чавáць, лý*[б'і]*навы;* [в'і]: [в'і]*льгóтны,* [в'і]*скатлівы, вы́*[в'і]*жаваць;* [ф'і]: [ф'і]*лéй,* [ф'і]*лігрáнь;* [м'і]: [м'і]*зэ́рны;* [ц'і]: [ц'і]*шэ́ць,* [ц'і]-*сканíна, вы́*[ц'і]*снуць;* [дз'і]: [дз'і]-*цá,* [дз'і]*рванéць;* [с'і]: [с'і]*вéць,* [с'і]*ганýць;* [з'і]: [з'і]*мóвы,* [з'і]*хацéць, пó*[з'і]*рк;* [н'і]: [н'і]*жэ́й,* [н'і]-*завы́;* [л'і]: [л'і]*сíца,* [л'і]*тавáць, вы́*[л'і]*ць;* [х'і]: [х'і]*трýн,* [х'і]*станýцца, вы́*[х'і]*ліць;* [г'і]: [г'і]*бéць, вы́*[г'і]*б;* [g'і]: [g'і]*завáць (гізаваць),* [g'і]*рсá (гірса);* [к'і]: [к'і]-*пéць,* [к'і]*рмашóвы, вы́*[к'і]*пець;*

[п'у]: [п'у]*рэ́ (пюрэ);* [б'у]: [б'у]*джэ́т (бюджэт),* [б'у]*летэ́нь (бюлетэнь);* [ф'у]: [ф'у]*зеля́ж (фюзеляж);* [м'у]: [м'у]*ры́д (мюрыд);* [ц'у]: [ц'у]*ляня́ (цюляня);* [дз'у]: [дз'у]*бчáсты (дзюбчасты),* [дз'у]*банýць (дзюбануць);* [с'у]: [с'у]*сю́каць (сюсюкаць);* [з'у]: [з'у]*зю́каць (зюзюкаць);* [н'у]: [н'у]*хнýць (нюхнуць);* [йу]: [йу]*рлівы (юрлівы);* [л'у]: [л'у]*стэ́рка (люстэрка),* [л'у]-*бавáцца (любавацца);* [г'у]: [г'у]*рзá (гюрза);* [к'у]: [к'у]*вéт (кювет);*

[п'е]: [п'е]*рсóна,* [п'е]*рунóвы, вы́*[п'е]*сціць;* [б'е]: [б'е]*лізнá,* [б'е]-*тóн, вы́*[б'е]*гчы;* [в'е]: [в'е]*радзíць,* [в'е]*рáнда, вы́*[в'е]*зці;* [ф'е]: [ф'е]-*лю́га,* [ф'е]*стывáль;* [м'е]: [м'е]*лóдыя,* [м'е]*шкавíна, вы́*[м'е]*сіць;* [ц'е]: [ц'е] [ц'е]*рукá* (Р. скл. адз. л.), *вé*[ц'е]*р;* [дз'е]: [дз'е]*сятак,* [дз'е]-*шавéць, вы́*[дз'е]*ўбці;* [с'е]: [с'е]-*зóн,* [с'е]*лязёнка, вы́*[с'е]*ў;* [з'е]: [з'е]*ніт,* [з'е]*ляню́сенькі;* [н'е]: [н'е]*рвóва,* [н'е]*расцілішча, вы́*[н'е]-*сці;* [йе]: [йе]*гíпет (Егіпет),* [йе]*зуíт, вы́*[йе]*нчыць;* [л'е]: [л'е]*гéнда,* [л'е]*дзяны́, вы́*[л'е]*чыць;* [г'е]: [г'е]-*ніяльны,* [г'е]*рóй;* [g'е]: [g'е]*ргетáць (гергетаць);* [к'е]: [к'е]*фір.*

[п'а]: [п'а]*лёстак (пялёстак);* [б'а]: [б'а]*дняк (бядняк);* [в'а]: [в'а]*рзці (вярзці), вы́*[в'а]*ліць (выяліць);* [м'а]: [м'а]*кіна (мякіна),* [м'а]*ккава́ты (мяккаваты);* [ц'а]: [ц'а]*вінка (цявінка),* [ц'а]*главы́ (цяглавы), вы́*[ц'а]*ць (выцяць);* [дз'а]: [дз'а]*рка́ч (дзяркач);* [с'а]: [с'а]*го́лета (сяголета),* [с'а]*брава́ць (сябраваць);* [з'а]: [з'а]*зюля (зязюля);* [н'а]: [н'а]*бёсы (нябёсы);* [л'а]: [л'а]*гчаць (лягчаць),* [л'а]*маваца (лямаваца);* [йа]: [йа]*ле́й (ялей),* [йа]*зыка́сты (языкасты), вы́*[йа]*віць (выявіць);* [г'а]: [г'а]*у́р (гяур).*

З прыведзеных прыкладаў вынікае тое, што ў беларускай літаратурнай мове хаця і ў абмежаванай колькасці слоў, але ўсё ж такі і ў першым пераднацiскным складзе сустракаюцца [е], а ў паслянацiскных — [а].

*У сярэдзіне кораня* таксама распаўсюджаны спалучэнні «мяккі зычны+ненацiскны галосны», але іх колькасць значна меншая:

[п'і]: ка[п'і]*та́н;* [б'і]: *ка*[б'і]*не́т;* [в'і]: *раск*[в'і]*тне́ць;* [ф'і]: *ра*[ф'і]*на́д;* [м'і]: *ка*[м'і]*тэ́т;* [ц'і]: *с*[ц'і]*ртава́ць;* [дз'і]: *а*[дз'і]*на́рны;* [с'і]: *ва*[с'і]*лько́вы;* [з'і]: *б*[з'і]*кава́ты;* [н'і]: *ка*[н'і]*фо́ль;* [л'і]: *б*[л'і]*скава́цца; гі*[г'і]*е́на;* [к'і]: *ра*[к'і]*рава́ць;*

[ц'у]: *кіп*[ц'у]*ра́сты (кіпцюрасты);* [н'у]: *ка*[н'у]*шына (канюшына);* [йу]: *кан*[йу]*нкту́ршчык (кан'юнктуршчык);* [л'у]: *вэ́*[л'у]*м (вэлюм);* [п'у]: *ка*[п'у]*шо́н;*

[п'е]: *джэ́м*[п'е]*р;* [б'е]: *цю*[б'е]*це́йка;* [в'е]: *ка́*[в'е]*рзны;* [ф'е]: *прэ*[ф'е]*ра́нс;* [м'е]; *ка*[м'е]*дыйны,* [ц'е]: *це*[ц'е]*руко́вы;* [дз'е]: *кало́*[дз'е]*жны;* [с'е]: *ды*[с'е]*рта́нт;* [з'е]: *ка*[з'е]*ма́т;* [н'е]: *бі́з*[н'е]*с;* [л'е]: *бі*[л'е]*цёрка;* [йе]: *ве́*[йе]*рны (веерны);* [г'е]: *ге*[г'е]*мо́н;* [g'е]: *гер*[g'е]*та́ць (гергетаць);* [к'е]: *муш*[к'е]*то́н;*

[п'а]: *ка*[п'а]*лю́ш (капялюш);* [в'а]: *ка*[в'а]*ла́ (кавяла);* [м'а]: *ра*[м'а]*ство́ (рамяство);* [ц'а]: *кас*[ц'а]*нічны (касцянічны);* [дз'а]: *з*[дз'а]*йсня́цца (здзяйсняцца);* [с'а]: *кі*[с'а]*я́ (кісяя);* [н'а]: *г*[н'а]*віць (гнявіць);* [йа]: *міні*[йа]*цюра (мініяцюра);* [л'а]: *ка*[л'а]*нда́р (каляндар).*

*У канцы кораня* спалучэнні «мяккі зычны+ненацiскны галосны» сустракаюцца ў невялікай колькасці запазычаных слоў, пераважна нескланяльных, у тапонімах і прозвішчах іншамоўнага паходжання, а таксама ў аднаскладовых каранях (часцей дзеяслоўных):

[п'і]: *ке́*[п'і], *вы́*[п'і]*ць, Місісі́*[п'і]; [б'і]: *рэ́г*[б'і], *вы́*[б'і]*ць, Го́*[б'і]; [в'і]: *сапера́*[в'і]; [м'і]: *саля́*[м'і], *Суху́*[м'і]; [ц'і]: *сі́*[ц'і], *По́*[ц'і]; [дз'і]: *лэ́*[дз'і], *Га́н*[дз'і]; [с'і]: *джэ́р*[с'і], *Тбілі́*[с'і]; [з'і]: *Замбе́*[з'і]; [н'і]: *вы́г*[н'і]*сці, бікі*[н'і], *по́*[н'і], *Пучы́*[н'і]; [л'і]: *джу́нг*[л'і], *вы́*[л'і]*ць, Чы́*[л'і], *Мурадэ́*[л'і]; [х'і]: *а*[х'і]*ну́цца;* [г'і]: *паў*[г'і]*на́ць;* [к'і]: *ха́*[к'і];

[йо]: *ра́ды*[йо], *Эскаміль*[йо];

[п'е]: *с*[п'е]*раза́ць;* [в'е]: *Э́й*[в'е]; [дз'е]: *вы́гле*[дз'е]*ць;* [з'е]: *Фру́н*[з'е]; [йе]: *А́ж*[йе] *(Аж'е);* [г'е]: *Бру́*[г'е]; [к'е]: *Лі́т*[к'е].

*На стыку кораня і суфікса* спалучэнні мяккіх зычных з ненацiскнымі галоснымі сустракаюцца значна шырэй, чым у папярэдняй пазіцыі. Суфіксы назоўнікаў, прыметнікаў, дзеепрыметнікаў і дзеясловаў вельмі часта ўжываюцца ў паслянацiскной пазіцыі, таму яны пры далучэнні да асноў утвараюць шматлікія спалучэнні ненацiскных галосных з мяккімі зычнымі:

[п'і]: *ку́*[п'і]*на, вы́калу*[п'і]*ць;* [б'і]: *бу́ль*[б'і]*на, уха́*[б'і]*сты, вы́гу*[б'і]*ць, па-ры́*[б'і]*наму;* [в'і]: *вы́ла*[в'і]*ць, Е́*[в'і]*н, сі*[в'і]*зна́;* [ф'і]: *гра́*[ф'і]*к, стро́*[ф'і]*ка;* [м'і]: *я́*[м'і]*сты, сало́*[м'і]*на, гры*[м'і]*рава́ць;* [ц'і]: *ро́*[ц'і]*к, гва́л*[ц'і]*ць;* [дз'і]: *дзе́*[дз'і]*ч, пама́*[дз'і]*ць, сасу́*[дз'і]*стыя;* [с'і]: *лы́*[с'і]*на, га́*[с'і]*ць, пер*[с'і]*я́нка;* [з'і]: *ла*[з'і]*на́, паўла́*[з'і]*ць, гарбу́*[з'і]*к, слі*[з'і]*стая;*

[н'і]: *пе́ў*[н'і]*к, цыга́*[н'і]*ць, бландзі*[н'і]*сты, то́*[н'і]*ка;* [йі]: *вы́да*[йі]*ць, неасто́*[йі]*сты* (мастацк.); [л'і]: *генера́*[л'і]*ха, вы́дзе*[л'і]*цца, пасе́*[л'і]*шча;* [х'і]: *саніта́ры*[х'і]*на* (Я. Колас), *падбрэ́*[х'і]*ч;* [г'і]: *дэмаго́*[г'і]*я;* [к'і]: *мя́*[к'і]*ш, бла*[к'і]*ро́вачны;*

[н':у]: *во́се*[н':у] *(восенню);* [йу]: *дзе́*[йу]*чы;* [л'у]: *кро́п*[л'у] *(кроплю)* (прысл.); [л':у]: *пазавуго́*[л':у] *(пазавуголлю);*

[п'е]: *вы́кі*[п'е]*ць, кі́*[п'е]*нь;* [б'е]: *гі́*[б'е]*ль;* [в'е]: *каро́*[в'е]*чы* (дыял.); [м'е]: *куро́ды*[м'е]*ць;* [ц'е]: *вы́ле*[ц'е]*ць, га́*[ц'е]*вы, зя́*[ц'е]*йка, ло́к*[ц'е]*вы, цве́*[ц'е]*нь;* [дз'е]: *да́*[дз'е]*ны, флама́н*[дз'е]*ц;* [с'е]: *ві́*[с'е]*льня, во́*[с'е]*вы;* [з'е]: *блі́*[з'е]*нька, гра́*[з'е]*вы, кня́*[з'е]*ўскі;* [н'е]: *пе́ў*[н'е]*вы, ня́*[н'е]*чка, сі́*[н'е]*ны, япо́*[н'е]*ц, скро́*[н'е]*вы, зе́р*[н'е]*тка;* [йе]: *ло́*[йе]*вы; гвардзе́*[йе]*ц, кле́*[йе]*ны;* [л'е]: *цу́г*[л'е]*вы, по́*[л'е]*чка, цёп*[л'е]*нькі, го́*[л'е]*ны;* [х'е]: *ці́*[х'е]*нькі;* [г'е]: *до́ў*[г'е]*нькі;* [к'е]: *мя́*[к'е]*нькі;*

[п'а]: *вы́кі*[п'а]*ціць (выкіпяціць), лу*[п'а]*ну́ць (лупянуць);* [б'а]: *лу*[б'а]*не́ць (лубянець), лю́*[б'а]*чы (любячы), дро́*[б'а]*зь (дробязь);* [в'а]: *ль*[в'а]*ня́ (львяня), адзер*[в'а]*не́лы (адзервянелы);* [ф'а]: *тар*[ф'а]*ны́ (тарфяны);* [м'а]: *се́*[м'а]*вы (семявы), се*[м'а]*ры́к (семярык);* [ц'а]: *гас*[ц'а]*ва́ць (гасцяваць), кас*[ц'а]*не́ць (касцянець), лап*[ц'а]*ва́ты (лапцяваты);* [дз'а]: *ва*[дз'а]*ні́к (вадзянік), падыхо́*[дз'а]*чы (падыходзячы);* [с'а]: *гу*[с'а]*ня́ (гусяня), ка*[с'а]*кі́ (касякі), міту*[с'а]*ні́на (мітусяніна);* [з'а]: *гры*[з'а]*ну́ць (грызянуць);* [н'а]: *д*[н'а]*ва́ць (днявацъ), ка*[н'а]*ня́ (каняня), ро́ў*[н'а]*дзь (роўнядзь);* [н':а]: *спрасо́*[н':а] (спрасоння); [йа]: *вар*[йа]*це́ць (вар'яцець), гле*[йа]*ва́ты, пасе́*[йа]*ць, па́*[йа]*ны;* [л'а]: *габ*[л'а]*ва́льны (габлявальны), дуп*[л'а]*на́ты (дуплянаты)* (мастацк.), *ру́х*[л'а]*дзь (рухлядзь).*

На стыку двух суфіксаў таксама сустракаецца цэлы рад спалучэнняў мяккіх зычных з ненаціскнымі галоснымі:

[б'і]: *га́нь*[б'і]*ць, гу́ль*[б'і]*шча;* [в'і]: *кучара́*[в'і]*сты, з'я́*[в'і]*шча, яра*[в'і]*зава́цца;* [ц'і]: *вінава́*[ц'і]*ць, гарба́*[ц'і]*цца;* [дз'і]: *лё*[дз'і]*сты;* [н'і]: *гаро́т*[н'і]*ца, гараджа́*[н'і]*н, дзяці́*[н'і]*цца, цыга́р*[н'і]*к, я́ч*[н'і]*шча;* [н':і]: *пе́се*[н':і]*к;* [л'і]: *бабу́*[л'і]*н, ту́ф*[л'і]*н;* [йі]: *скро́*[йі]*ць;*

[б'е]: *чыта́*[б'е]*льны;* [в'е]: *бі́*[в'е]*нь, кары́слі*[в'е]*ц;* [н'е]: *дзяці́*[н'е]*ць;* [л'е]: *вы́стаў*[л'е]*ны.*

На стыку кораня і канчатка зафіксаваны наступныя спалучэнні зычных і ненаціскных галосных:

[п'і]: *ла́*[п'і]*ш* (дзеясл. цяп. ч. 2 ас. адз. л.); [б'і]: *ва́*[б'і]*ш* (дзеясл. цяп. ч. 2 ас. адз. л.); [в'і]: *зло́*[в'і]*ш* (дзеясл. буд. ч. 2 ас. адз. л.); [ц'і]: *ма́*[ц'і]; [ц':і]: *у сукве́*[ц':і] *(суквецці)* (М. скл. адз. л.); [дз'і]: *лю́*[дз'і] (Н. скл. мн. л.); [дз':і]: *су́*[дз':і] *(суддзі)* (Н. скл. мн. л.); [с'і]: *ло́*[с'і] (Н. скл. мн. л.); [з'і]: *зво́*[з'і]*ш* (дзеясл. цяп. ч. 2 ас. адз. л.); [н'і]: *сі́*[н'і]; [н':і]: *насе́*[н':і] *(насенні)* (М. скл. адз. л.); [л'і]: *арэ́*[л'і] (Н. скл. мн. л.); [л':і]: *вясе́*[л':і] *(вяселлі)* (М. скл. адз. л.); [х'і]: *да́*[х'і] (Н. скл. адз. л.); [г'і]: *кра́*[г'і] (Р. скл. адз. л.); [к'і]: *ле́*[к'і] (Н. скл. мн. л.); [йі]: *або́*[йі] (Н. скл. мн. л.);

[м'у]: *і́*[м'у] *(імю)* (Д. скл. адз. л.); [ц'у]: *го́с*[ц'у] *(госцю)* (Д. скл. адз. л.); [ц':у]: *ра́*[ц':у] *(рацыю)* (Т. скл. адз. л.); [с'у]: *ло́*[с'у] *(лосю)* (Д. скл. адз. л.); [с':у]: *во́*[с':у] *(воссю)* (Т. скл. адз. л.); [н'у]: *ву́ч*[н'у] (Д. скл. адз. л.); [н':у]: *ру́*[н':у] *(рунню)* (Т. скл. адз. л.); [йу]: *пако́*[йу] *(пакою)* (Д. скл. адз. л.); [л'у]: *Ко́*[л'у] *(Колю)* (Д. скл. адз. л.);

[п'е]: *у хлю́*[п'е] (М. скл. адз. л.); [б'е]: *у бу́ль*[б'е] (М. скл. адз. л.); [в'е]: *у хле́*[в'е] (М. скл. адз. л.); [ф'е]: *аб то́р*[ф'е] (М. скл. адз. л.); [м'е]: *і́*[м'е]*м* (Т. скл. адз. л.); [ц'е]: *у ха́*[ц'е] (М. скл. адз. л.); [ц':е]: *сме́*[ц':е] *(смецце);* [дз'е]:

*у са́*[дз'е] (М. скл. адз. л.); [дз':е]: *разво́*[дз':е] *(разводдзе);* [с'е]: *у ле́*[с'е] (М. скл. адз. л.); [с':е]: *кало́*[с':е] *(калоссе);* [з'е]: *у сто́*[з'е] (М. скл. адз. л.); [з':е]: *пало́*[з':е] *(палоззе);* [н'е]: *у се́*[н'е] (М. скл. адз. л.); [н':е]: *світа́*[н':е] *(світанне);* [йе]: *се́*[йе] (дзеясл. цяп. ч. 3 ас. адз. л.); [л'е]: *ме́*[л'е] (дзеясл. цяп. ч. 3 ас. адз. л.); [л':е]: *кры́*[л':е];

[б'а]: *ро́*[б'а]*ць (робяць)* (дзеясл. цяп. ч. 3 ас. мн. л.); [в'а]: *ір*[в'а]*це́ (ірвяце)* (дзеясл. цяп. ч. 2 ас. мн. л.); [м'а]: *по́лы*[м'а] *(полымя);* [ц'а]: *го́с*[ц'а] *(госця)* (Р. скл. адз. л.); [ц':а]: *сва́*[ц':а] *(сваццця);* [дз'а]: *пя́*[дз'а] *(пядзя);* [дз':а]: *паво́*[дз':а] (Р. скл. адз. л.); [с'а]: *ло́*[с'а] *(лося)* (Р. скл. адз. л.); [с':а]: *кры́*[с':а] *(крысся)* (Р. скл. адз. л.); [з'а]: *ма́*[з'а]*ў (мазяў)* (Р. скл. мн. л.); [н'а]: *скро́*[н'а]*ў (скроняў)* (Р. скл. мн. л.); [н':а]: *бацві́*[н':а] (Р. скл. адз. л.); [йа]: *гартэ́нзі*[йа]; [л'а]: *до́*[л'а] *(доля).*

У с к л а д некаторых к а н ч а т к а ў таксама ўваходзяць спалучэнні мяккіх зычных з ненаціскнымі галоснымі:

[м'і]: *гуся́*[м'і] (Т. скл. мн. л.); [йу]: *вячэ́рню*[йу] (прым. В. скл. адз. л.); [ц'е]: *напі́ша*[ц'е] (дзеясл. буд. ч. 2 ас. мн. л.); [йе]: *стро́га*[йе] (прым. Р. скл. адз. л.); *сту́ка*[йе]*ш* (дзеясл. цяп. ч. 2 ас. адз. л.); [йа]: *чырво́на*[йа].

Пэўныя спалучэнні тыпу «мяккі зычны + ненаціскны галосны» сустракаюцца н а с т ы к у с у ф і к с а і к а н ч а т к а:

[в'і]: *любо́*[в'і] (Р. скл. адз. л.); [ц'і]: *гну́ткас*[ц'і] (Р. скл. адз. л.); [н':і]: *ра́*[н':і] *(ранні);* [л'і]: *бабу́*[л'і] (Р. скл. адз. л.); [к'і]: *лю́дс*[к'і], *мату́ль*[к'і] (Р. скл. адз. л.), *хо́дзі*[к'і] (Н. скл. мн. л.);

[ц'у]: *ра́дас*[ц'у] *(радасцю)* (Т. скл. адз. л.); [н'у]: *ву́ч*[н'у] *(вучню)* (Д. скл. адз. л.); [л'у]: *дрэ́м*[л'у]*ць (дрэмлюць)* (дзеясл. цяп. ч. 3 ас. мн. л.);

[ц'е]: *на рабо́*[ц'е] (М. скл. адз. л.); [н'е]: *краі́*[н'е] (М. скл. адз. л.); [л'е]: *дрэ́м*[л'е] (дзеясл. цяп. ч. 3 ас. адз. л.);

[н'а]: *пяка́р*[н'а]*й (пякарняй)* (Т. скл. адз. л.); [л'а]: *бабу́*[л'а] *(бабуля).*

У с к л а д рада п р э ф і к с а ў уваходзяць спалучэнні мяккіх зычных з ненаціскнымі галоснымі [і], [е] і [а].

[м'і]: [м'і]*жбо́р'е;* [н'і]: [н'і]*во́дзін;* [х'і]: *ар*[х'і]*ске́птык;*

[п'е]: [п'е]*рагаво́рваць,* [п'е]*радпако́й;* [б'е]: *а*[б'е]*ззара́зіць,* [б'е]*спасняхо́ва;* [н'е]: [н'е]*любо́ў,* [н'е]*дабіра́ць;*

[б'а]: [б'а]*зно́сы, а*[б'а]*скры́ліць;* [н'а]: [н'а]*згрэ́ба;* [л'а]: *пас*[л'а]*ўздзе́янне.*

У с к л а д с у ф і к с а ў уваходзіць рад спалучэнняў мяккіх зычных з ненаціскнымі галоснымі:

[б'і]: *се́ль*[б'і]*шча, хрэ́сь*[б'і]*ны;* [в'і]: *ды́ха*[в'і]*ца, схо́*[в'і]*шча;* [ф'і]: *кады*[ф'і]*кава́ць, кіна*[ф'і]*кава́ць;* [ц'і]: *грэ́б*[ц'і]*ся, кура́*[ц'і]*на;* [н'і]: *грыма́с*[н'і]*чанне, дво́еч*[н'і]*к, кура́т*[н'і]*к, мя́ль*[н'і]*ца, першаку́рс*[н'і]*ца, смако́ў*[н'і]*ца;* [л'і]: *грэ́б*[л'і]*вы, вучы́*[л'і]*шча;*

[в'е]: *бяля́*[в'е]*нькі, крывапі́*[в'е]*ц;* [ц'е]: *вучы́*[ц'е]*ль, рыжава́*[ц'е]*нькі;* [с'е]: *бялю́*[с'е]*нечкі, малюпа́*[с'е]*нькі, таню́*[с'е]*нькі, ціху́*[с'е]*нька;* [н'е]: *блі́зе*[н'е]*чка, малюпа́се*[н'е]*чкі, малю́се*[н'е]*чкі, пехаці́*[н'е]*ц.*

У канцы першага кампанента і н а с т ы к у к а м п а н е н т а ў с к л а д а н ы х с л о ў адзначаны наступныя спалучэнні мяккіх зычных с ненаціскнымі галоснымі:

[в'і]: *гра*[в'і]*ме́тр;* [м'і]: *ся*[м'і]*бо́р'е;* [дз'і]: *прай*[дз'і]*све́т;* [ц'і]: *пя*[ц'і]*го́дка;*

[б'е]: *ся*[б'е]*лю́б;* [ц'е]: *ждо́ў*[ц'е]*ўтварэ́нне, трэ̀*[ц'е]*ступе́нны;* [с'е]: *у*[с'е]*бако́вы;* [н'е]: *зѐр*[н'е]*сушы́лка, ко̀*[н'е]*гадо́ўля;* [йе]: *кра̀*[йе]*вуго́льны;* [л'е]: *ста̀*[л'е]*ліцэ́йшчык, ву̀г*[л'е]*пагружа́льнік, зѐм*[л'е]*зваро́т, хва̀*[л'е]*ўтвара́льнік;*

[ф'а]: *ка*[ф'а]*мо́лка (кафямолка)*.

У літаратурнай мове суіснуюць фанетычныя варыянты рада лексем з рознымі ненаціскнымі галоснымі: *водбліск* і *водблеск*. Часам паралельна ўжываюцца варыянты з цвёрдымі і мяккімі зычнымі: *біклага* і *баклага, каўбаса* і *кілбаса, кіпцюр* і *капцюр, цыгарэта* і *сігарэта* (радзей).

Не адпавядаюць нормам літаратурнага вымаўлення варыянты слоў, дзе мяккія зычныя замяняюцца мяккімі падоўжанымі зычнымі: *гасцінічны* (не *гасціннічны*), *разявіць* (не *раззявіць*), а таксама наступныя фанетычныя варыянты слоў, у якіх памылкова ўзаемазамяняюцца галосныя або мяккія і цвёрдыя зычныя: *агледзець* (не *агледзіць*); *будны* (не *будні*); *фламастэр* (не *фламасцер*); *аканіца* (не *акяніца*); *іхні* (не *іхны*).

## § 4.7. АГУЛЬНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА ДВУХЧЛЕННЫХ СПАЛУЧЭННЯЎ ЗЫЧНЫХ ГУКАЎ

У беларускай літаратурнай мове распаўсюджаны чатыры тыпы двухчленных спалучэнняў зычных: «шумны+шумны», «шумны+санорны», «санорны+шумны», «санорны+санорны».

Спалучальнасць зычных гукаў у межах слова ў параўнанні з той, што адзначаецца пры спалучэнні зычных гукаў з галоснымі, меншая. Рэгулярныя фанетычныя працэсы робяць немагчымымі частку двухкансанантных спалучэнняў. У выніку дзеяння асіміляцыі зычных па глухасці-звонкасці ў беларускай мове ў двухчленных кансанантных спалучэннях абодва шумныя зычныя глухія або абодва звонкія.

Глухія зычныя гукі перад звонкімі змяняюцца ў звонкія: *бара*[дз'б]*а (барацьба), но*[з'б']*іт (носьбіт), дву*[гг]*адовы (двухгадовы), двухсо*[дг]*оддзе (двухсотгоддзе), звы*[жг]*укавы (звышгукавы), лі*[джб]*а (лічба), пла*[дзд]*арм (плацдарм), э*[gз]*амен (экзамен)*.

Звонкія зычныя перад глухімі ў двухчленных кансанантных спалучэннях аглушаюцца: *дзя*[ц'к]*а (дзядзька), лё*[хк']*і (лёгкі)*.

У канцы слова перад паўзай у двухчленных спалучэннях звонкія шумныя зычныя заўсёды вымаўляюцца як глухія: *до*[шч] *(дождж), з'е*[ст] *(з'езд)*.

Перад санорнымі зычнымі шумныя зычныя адрозніваюцца па звонкасці-глухасці. Напр., [сл]*он,* [зл]*ом; а*[тр]*ад, а*[др]*азу;* [см]*ажыць,* [зм]*азваць;* [кн']*іга,* [гн']*іда; ка*[пйо] *(кап'ё), зрэ*[бйе] *(зрэб'е);* [с'в']*інец,* [з'в']*інець*. Але ў пэўных марфалагічных умовах шумныя часцей выступаюць як звонкія. Так, большасць прыставак, якія заканчваюцца на шумныя зычныя, перад санорнымі маюць звонкія гукі: [з'н']*імаць, а*[бв']*есці, а*[дм]*ачыць, на*[дл]*амаць, па*[дйа]*зны (пад'язны)*.

Зычны [в] пры разглядзе кансанантных спалучэнняў мэтазгодна адносіць да санорных, да якіх ён максімальна набліжаецца з функцыянальнага боку. Перад ім шумныя зычныя адрозніваюцца па глухасці-звонкасці: [св]арка 'спрэчка' — [зв]*арка* 'злучэнне металічных частак шляхам сплаўлівання'; [дв]*ор*— [тв]*ор;* [гв]*ардыя* — [кв]*арцыт* і інш. Ён чаргуецца з [ў], з якім у пэўных пазіцыях чаргуецца таксама санорны [л].

Існуюць і іншыя абмежаванні на спалучэнні шумных зычных. Калі змычныя [д], [т] сустракаюцца перад змычна-шчыліннымі зычнымі [ч], [ц], яны ў радзе выпадкаў вымаўляюцца як адпаведныя змычна-шчылінныя: *а*[ч:]*уць (адчуць); а*[ч:]*ыніць (адчыніць);* у *ка*[ц:]*ы (у кадцы); лё*[ч:]*ык (лётчык); нала*[ч:]*ык (наладчык);* у *ха*[ц:]*ы (хатцы)*.

Перад свісцячымі [з], [с], [з'], [с'] змычныя [д], [т] у канцы гучання набываюць шчылінны элемент: *пад*[з]*'зямелле, пат*[с]*'с'ініць (падсініць)*.

Калі зубны шчылінны [з] стаіць перад пярэднепаднябенным шчылінным [ж] і перад змычна-шчылінным пярэднепаднябенным [дж], ён прыпадабняецца да гэтых гукаў па месцы ўтварэння: *е*[жджу]*у (езджу)*, [жж]*аць (зжаць)*.

Зубны шчылінны [с] перад пярэднепаднябеннымі шчылціннымі [ш] і [ч] прыпадабняецца да іх па месцы ўтварэння: *разно*[шч]*ык (разносчык), ра*[шч]*ыніць (расчыніць), ра*[шш]*аркваца (расшарквацца)*, [шш]*ытак (сшытак)*.

Спалучэнні зычных тоеснага способу і месца ўтварэння магчымы ў беларускай мове амаль з усіх зычных: [пп]: *а*[пп]*аліць (абпаліць)*; [бб]: *а*[бб]*удаваць*; [дд]: *а*[дд]*аваць*; [кк]: *мя*[кк]*а*; [сс]: [сс]*ыпаць*.

Асаблівасцю беларускай фанетыкі з'яўляецца ўзнікненне на месцы спалучэння аднолькавых зычных падоўжаных зычных. Фанетычна ў беларускай мове амаль усе зычныя могуць быць падоўжанымі: [т], [д], [дз'], [с], [з], [с'], [з'], [ш], [ж], [ц], [ц'], [ч], [н], [н'], [л'], [б], [п], [к], [к']. Яны ўжываюцца ў наступных словах: [т:] *а*[т:]*алы (адталы)*; [д:] *а*[д:]*орваць (аддорваць)*; [дз':]: *разво*[дз':]*е (разводдзе)*; [с:]: *ра*[с:]*адзіць (рассадзіць)*; [з:] *ра*[з:]*алаціць (раззалаціць)*; [с':]: *ка*[с':]*о (кассё)*; [з':]: *пало*[з':]*е (палоззе)*; [ш:]: *ра*[ш:]*астаць (расшастаць)*; [ж:]: *ра*[ж:]*алабіць (разжалабіць)*; [ц:]: *два*[ц:]*аць (дваццаць)*; [ц':]: *вы*[ц':]*о (выццё)*; [ч:]: *су*[ч:]*а (сучча)*; [н:]: *Га*[н:]*а*; [н':]: *сняда*[н':]*е (снядание)*; [л':]: *навако*[л':]*е (наваколле)*.

Артыкуляцыйна падаўжэнне зычных заключаецца ў павелічэнні часу артыкуляцыі асобных фаз адпаведных гукаў: у змычных і змычна-шчылінных затрымліваецца ў часе змычка моўных органаў, у шчылінных больш доўга вытрымліваецца шчыліна паміж органамі мовы. Артыкуляцыйна падоўжаныя змычныя, змычна-шчылінныя і шчылінныя зычныя ўяўляюць сабой адзінае гукавое ўтварэнне.

Паколькі ў выбухных і афрыкат павялічваецца толькі змычка, то яны не могуць падаўжацца ў пачатку слова. Фрыкатыўныя ж можна працягнуць і ў пачатку слова *(сшалелы, сшэрхлы, зважаць, зжыцца)*[9].

Традыцыйна ў фанетыцы беларускай мовы адрозніваюць марфалагічнае і фанетычнае падаўжэнне. У пэўных пазіцыях марфемная мяжа падзяляе падоўжаны зычны на два аднолькавыя гукі, адзін з якіх належыць папярэдняй марфеме, а другі — наступнай. Таму ён успрымаецца як падвоены гук (напрыклад, у словах *ззаду, аддаць, каменны, купацца*). Пры такім марфалагічным падаўжэнні мэтазгодна разглядаць падоўжаны зычны як фанетычную адзінку, што складаецца з двух аднолькавых гукаў, бо якраз такім чынам яе ацэньваюць самі носьбіты мовы. Улік гэтых абставін дазваляе лічыць большую частку пераважна цвёрдых падоўжаных зычных як спалучэнне двух аднолькавых зычных.

У той жа час фанетычна падоўжаныя зычныя, якія ўзніклі на мяжы кораня і канчатка са спалучэнняў зычных з [j] (тыпу *воссю, выццё, запечча, зацішша, збожжа, маззю, свіння, суддзя*), больш правільна лічыць адным непадзельным гукам і разглядаць, як гэты зычны гук спалучаецца з галоснымі.

Ужыванне гэтых падоўжаных зычных у сучаснай мове абмежавана пэўнымі тэматычнымі і граматычнымі разрадамі лексікі і некаторымі граматычнымі формамі слоў. Яны адзначаюцца ў зборных назоўніках ніякага роду *(бадылле, сук-*

---

[9] Беларуская граматыка. Ч. 1. С. 20—24.

*вецце);* у аддзеяслоўных назоўніках, якія абазначаюць працэсы *(кіраванне, набыццё);* у прыставачных назоўніках са значэннем месца *(раздарожжа, узлессе);* у складаных і прыставачных назоўніках са значэннем зборнасці *(бязлессе, стагоддзе);* у назоўніках, утвораных ад прыметнікаў з розным адцягненым значэннем *(багацце, ранне);* у некаторых назоўніках жаночага роду, часта суадносных з назоўнікамі мужчынскага роду *(бягуння, сваццся);* у некаторых назоўніках з прадметным значэннем *(валлё, касcё);* у некаторых прыслоўях, утвораных ад назоўнікаў *(ноччу, рыссю);* у творным склоне адзіночнага ліку назоўнікаў жаночага роду з нулявым канчаткам *(гніллю, цішшу);* у творным склоне лічэбнікаў *(дзесяццю, пяццю).*

Марфемная прыналежнасць гэтых элементаў не такая відавочная, як у марфалагічна падоўжаных зычных. У некаторых выпадках на канцы кораня падоўжаны зычны можа проціпастаўляцца непадоўжанаму, адрозніваючы словы па сэнсу: *та*[н':е]*ць* 'станавіцца танным' — *та*[н'е]*ць* (абл.) *'танчэць'.*

Значная колькасць абмежаванняў на двухчленныя кансанантныя спалучэнні звязана з дзеяннем асіміляцыі зычных па цвёрдасці-мяккасці.

Губныя зычныя [б], [п], [м], [ф], [в] у двухчленных кансанантных спалучэннях, калі яны папярэднічаюць мяккаму зычнаму, застаюцца цвёрдымі. Напр., *а*[бдз']*іраць*, [бй]*у (б'ю), а*[пц']*іраць (абціраць), ся*[мй]*я (сям'я), са*[фй]*ян (саф'ян).*

Губны [ў] бывае толькі цвёрдым у спалучэннях з мяккімі зычнымі і выступае толькі ў якасці першага члена кансанантных спалучэнняў.

Зубныя зычныя [з] і [с] перад мяккімі губнымі, мяккімі пярэднеязычнымі і мяккімі сярэднеязычнымі бываюць пераважна мяккімі: [з'б']*іраць,* [з'в']*ер,* [з'з']*абнуць (ззябнуць),* [з'л']*іць,* [з'дз']*ек,* [з'м']*еншыць,* [з'н']*ешні,* [з'й]*ава (з'ява),* [с'л']*есар,* [с'н']*едаць,* [с'п']*іна,* [с'с']*аліць (ссяліць),* [с'ф']*ера,* [с'ц']*ішыць.*

Зубныя зычныя [з] і [с] у спалучэннях з заднеязычнымі [г], [к], [х] бываюць толькі цвёрдымі: [сх']*ітрыць,* [зг']*інуць,* [ск']*інуць.*

Цвёрды пярэднеязычны [н] перад мяккімі пярэднеязычнымі гукамі [н'], [ц'], [дз'], [з'], [с'], [л'] і сярэднеязычным [й], як правіла, выступае як [н']: *бяссэ*[н'с']*іца, ве*[н'з']*ель, гама*[н'л']івы, *ка*[н'с']*ервы, ма*[н'ц']*ёр, му*[н'дз']*ір.*

Перад губнымі [в'], [ф'] у двухчленных спалучэннях часцей сустракаецца цвёрды [н]: *ка*[нв']*ерт, ка*[нф']*ерэнцыя.*

Фанетычнай сістэмай беларускай мовы дазваляецца таксама варыянтнае вымаўленне значнай часткі спалучэнняў мяккіх і цвёрдых зычных, што тлумачыцца індывідуальнымі асаблівасцямі гаворачых, лексікалізацыяй пэўных кансанантных спалучэнняў, марфемнай структурай слоў, у якіх сустракаецца тое ці іншае спалучэнне. Такія варыянты аналізуюцца ў раздзеле Арфаэпія, а таксама пры разглядзе спалучэнняў зычных, якія сустракаюцца ў розных марфемах і на стыку марфем у межах слова.

## § 4.8. ДВУХЧЛЕННЫЯ СПАЛУЧЭННІ ЗЫЧНЫХ «ШУМНЫ + ШУМНЫ»

У беларускай мове існуюць наступныя спалучэнні зычных «шумны+шумны»: «цвёрды+цвёрды», «цвёрды+мяккі», «мяккі+цвёрды» і «мяккі+мяккі».

Спалучэнні «цвёрды шумны+цвёрды шумны» больш разнастайныя ў параўнанні з астатнімі. У п а ч а т к у с л о в а сустракаюцца:

[пт]: [пт]*аства;* [пс]: [пс]*аваць;*

[пш]: [пш]*ык;* [пч]: [пч]*аляр;* [пх]: [пх]*аць;*
[бз]: [бз]*ынкаць;*
[дб]: [дб]*айна;*
[джg]: [джg]*аць (джгаць);*
[тк]: [тк]*аніна;* [тх]: [тх]*ор;*
[зб]: [зб]*ажына;* [зд]: [зд]*атны;* [зг]: [зг]*уба;*
[сп]: [сп]*агнаць;* [ст]: [ст]*ары;* [сс]: [сс]*унуцца;* [ск]: [ск]*арб;* [сц]: [сц]*эджаны;* [сх]: [сх]*овішча;* [сф]: [сф]*атаграфаваць;*
[жб]: [жб]*анок;* [жд]: [жд]*анкі;* [жж]: [жж]*ываць (зжываць);* [жг]: [жг]*уцік;*
[шп]: [шп]*арка;* [шт]: [шт]*ораніцы;* [шш]: [шш]*ытак (сшытак);* [шч]: [шч]*аўе;* [шк]: [шк]*ада;* [шх]: [шх]*уна;*
[чх]: [чх]*аць;*
[хт]: [хт]*осьці;*
[цк]: [цк]*аваць;*
[гд]: [гд]*аньск (Гданьск);* [гж]: [гж]*эль;* [gз]: [gз]*ымсавы (гзымсавы).*

У сярэдзіне слова магчымы яшчэ некаторыя спалучэнні цвёрдых шумных зычных:

[пп]: *а*[пп]*аліць (абпаліць);* [пк]: *а*[пк]*урыць (абкурыць);* [пц]: *а*[пц]*угі (абцугі);* [пф]: *а*[пф]*утраваны (абфутраваны);*

[бз]: *фа*[бз]*аўком;*

[фп]: *шэ*[фп]*овар (шэф-повар);* [фс]: *Белпра*[фс]*авет;* [фт]: *ко*[фт]*а;* [фк]: *чу*[фк]*аць;*

[дб]: *шма*[дб]*аковы (шматбаковы);* [дз]: *шма*[дз]*арадны (шматзарадны);* [дж]: *шма*[дж]*анравы (шматжанравы);* [дзг]: *спе*[дзг]*ароднінагандаль (спецгароднінагандаль);* [дг]: *шма*[дг]*алосы (шматгалосы);*

[тп]: *а*[тп]*удзіць (адпудзіць);* [тт]: *а*[тт]*аваць (адтаваць);* [тс]: *шма*[тс]*астайны;* [тк]: *дзя*[тк]*ор;* [тш]: *а*[тш]*укаць (адшукаць);* [тф]: *а*[тф]*удболіць (адфутболіць);*

[шц]: *мі*[шц]*арства (міжцарства);* [шс]: *мі*[шс]*артавы (міжсартавы);* [жз]: *мі*[жз]*убны;*
[зg]: *мя*[зg]*а (мязга);*

[чч]: *а*[чч]*ай (адчай);* [чк]: *ве*[чк]*а;*
[хп]: *тро*[хп]*олле;* [хс]: *тро*[хс]*оты;* [хч]: *абля*[хч]*аць (аблягчаць);* [хк]: *во*[хк]*аць;* [хц]: *дву*[хц]*алёўка;* [хх]: *дву*[хх]*адовы;* [хф]: *дву*[хф]*азны;*
[кт]: *ка*[кт]*ус;* [кс]: *ку*[кс]*а;* [кш]: *ло*[кш]*ына;* [кч]: *мя*[кч]*эйшы;* [кк]: *мя*[кк]*а;* [кц]: *а*[кц]*ыя;* [кф]: *бі*[кф]*ордаў;*
[гб]: *дву*[гб]*ортны (двухбортны);* [гг]: *дву*[гг]*адовы (двухгадовы).*

У канцы слова сустракаюцца наступныя спалучэнні цвёрдых шумных зычных:
[пт]: *шэ*[пт]; [пс]: *ры*[пс]; [пш]: *ле*[пш];
[ск]: *удру*[ск] *(удрузг);* [сц]: *ме*[сц]; [ст]: *агрэ*[ст];
[шп]: *слу*[шп] *(служб)* (Р. скл. мн. л.); [шт]: *ары*[шт]; [шч]: *пу*[шч];
[хт]: *ю*[хт];
[кт]: *фру*[кт]; [кс]: *бо*[кс]; [кш]: *іна*[кш];
[фт]: *лі*[фт].

Спалучэнні «цвёрды шумны + мяккі шумны» сустракаюцца радзей, чым спалучэнні, якія складаюцца з двух цвёрдых зычных.

У пачатку слова зафіксаваны наступныя спалучэнні такога тыпу:
[пц']: [пц']*іч (Пціч);* [пс']: [пс']*іна;* [пф']: [пф']*еніг;*
[бз']: [бз']*ік;*
[зг']: [зг']*інуць;*
[ск']: [ск']*івічны;* [сх']: [сх']*іbіць;* [сф']: [сф']*інкс;*
[шп']: [шп']*ігаваць;* [шк']: [шк']*ельца;* [шх']: [шх']*еры;*
[хц']: [хц']*івец;*
[кп']: [кп']*іць;* [кс']: [кс']*ёндз.* У запазычаных словах сустракаецца яшчэ спалучэнне [сф']: [сф']*ера.*

У сярэдзіне слова, акрамя прыведзеных, сустракаецца яшчэ рад спалучэнняў, якія складаюцца з першага цвёрдага і другога мяккага зычных:
[пп']: *а*[пп']*ечаны (абпечаны);*

[пк']: *а*[пк']*ітоўка* (*абкітоўка*); [пх']: *а*[пх']*ітраваць* (*абхітраваць*);

[бб']: *а*[бб']*егаць;* [бдз']: *а*[бдз']*ірала;* [бг']: *а*[бг']*інаць;*

[фц']: *лі*[фц']*ёр*; [фс']: *тэ*[фс']*ір;*

[джг']: *а*[джг']*ір*; [джб']: *лі*-[джб']*іна* (*лічбіна*);

[дб']: *а*[дб']*ійка*; [дз']: *па*[дз']*амелле;* [дг']: *а*[дг']*інацца;*

[зg]: *рэ́*[зg]іны (*рэзгіны*);

[тп']: *а*[тп']*ячы*; [тц']: *а*[тц']*ерці* (*адцерці*); [тс']: *а*[тс']*ёрбаць* (*адсёрбаць*); [тк']: *а*[тк']*інаць* (*адкінаць*); [тх']: *па*[тх']*інаць.* (*падхінаць*); [тц']: *па*[тц']*ерабіць* (*падцерабіць*); [тф']: *а*[тф']*ільтраваць;*

[жб']: *вара*[жб']*іт;* [жг']: *звы*[жг']*ігант* (*звышгігант*);

[сс']: *тран*[сс']*ібірскі;*

[шц']: *нарэ*[шц']*е*; [шс']: *мі*[шс']*есіённы* (*міжсесіённы*);

[чц']: *пазы*[чц']*е* (дзеясл. заг. л. 2. ас. мн. л.); [чк']: *ру*[чк']*і;*

[хк']: *кро*[хк']*і*; [хс']: *дву*[хс']*етка;* [хф']: *дву*[хф']*юзеляжны;*

[цк']: *грэ*[цк']*і*;

[кц']: *а*[кц']*ёр*;

[гб']: *рэ*[гб']*і*;

[gз']: *э*[gз']*емпляр.*

У канцы слова двухчленныя спалучэнні, якія складаюцца з першага цвёрдага шумнага і другога мяккага шумнага, не ўжываюцца. Выключэнне складае [фц'] у запазычанай лексеме *фініфць.*

Двухчленныя спалучэнні шумных, якія складаюцца з першага мяккага і другога цвёрдага зычнага, у беларускай мове вельмі абмежаваныя. Яны не сустракаюцца ў абсалютным пачатку і ў абсалютным канцы слоў і адзначаюцца толькі ў сярэдзіне слова. Гэта [дз'б]: *ха*[дз'б]*а;* [дз'д]: *супра*[дз'д]*эсантны* (*супрацьдэсантны*); [дз'з]: *супра*[дз'з]*аконны* (*супрацьзаконны*); [дз'г]: *супра*[дз'г]*азавы* (*супрацьгазавы*);

[ц'п]: *супра*[ц'п]*аказаны* (*супрацьпаказаны*); [ц'т]: *супра*[ц'т]*арпедны* (*супрацьтарпедны*); [ц'х]: *супра*[ц'х]*алерны* (*супрацьхалерны*); [ц'с]: *пя*[ц'с]*от* (*пяцьсот*); [ц'ц]: *супра*[ц'ц]*ынготны* (*супрацьцынготны*); [ц'ч]: *супра*[ц'ч]*умны* (*супрацьчумны*); [ц'ш]: *супра*[ц'ш]*окавы* (*супрацьшокавы*); [ц'к]: *ба*[ц'к]*а*;

[з'б]: *ка*[з'б]а (*касьба*);

[с'к]: *Зо*[с'к]*а* (Зоська), *Я*[с'к]*а* (*Яська*).

Двухчленныя спалучэнні шумных мяккіх зычных сустракаюцца шырэй, чым тыя, якія складаюцца з першага мяккага і другога цвёрдага зычнага. Зафіксаваны наступныя спалучэнні:

[с'п']: [с'п']*ечаны;* [с'ц']: *ху*[с'ц']*інка*;

[дз'б']: *мала*[дз'б']*іт* (*малацьбіт*);

[з'б']: *па*[з'б']*егнуць;* [з'дз']: [з'дз']*ейсніцца.*

З іх у пачатку слова сустракаюцца:

[с'п']: [с'п']*ець*; [с'ц']: [с'ц']*ерагчы;*

[з'б']: [з'б']*іраць;* [з'дз']: [з'дз']*ек;* а ў канцы слова — толькі [с'ц']: *чэ*[с'ц'].

Спалучэнні зычных «шумны+ +шумны» ў адносінах да марфемнай структуры словаформ прадстаўлены ў розных пазіцыях.

У пачатку кораня зафіксаваны наступныя двухчленныя спалучэнні з цвёрдых зычных:

[пт]: [пт]*ах,* [пт]*ушка* і ў вытворных ад іх, а таксама ў запазычаных словах [пт]*амаін,* [пт]*эрадактыль,* [пт]*эразайр;* [пс]: [пс]*аванне* і ў запазычаных [пс]*алом,* [пс]*аломшчык,* [пс]*алтыр;* [пш]: [пш]*аніца,* [пш]*ык* (разм.); [пч]: [пч]*ала* і ў вытворных;

[бз]: [бз]*ык* і ў вытворных;

[фт]: [фт]*ор;*

[дб]: [дб]*айнасць* і ў вытворных; [дж]: [дж]*унглі,* [дж]*ут,* [дж]*онка,* [дж]*ойль,* [дж]*эм,* [дж]*эрсі,* [дж]*ын*; [джг]: [джг]*анне* (варыянтнае вымаўленне).

Астатнія спалучэнні фіксуюцца ў абмежаванай колькасці ва ўласнай лексіцы ці ў запазычаннях:

[зб]: [зб]*ан*, [зб]*ажына*, [зб]*ожжа;* [зд]: [зд]*ань;*

[тк]: у радзе слоў з коранем тк- [тк]*аннё* і інш.; [тх]: у радзе слоў з коранем тх- [тх]*ор* і ў вытворных; [тч]: толькі ў словаформе [тч]*э* (ад *ткаць*); [тф]: у выклічніку [тф]*у;*

[сп]: [сп]*аць*, [сп]*агада*, [сп]*орт*, [сп]*ора;* [ст]: [ст]*арт*, [ст]*алюга*, [ст]*ук*, [ст]*ыль*, [ст]*эп;* [ск]: [ск]*арб*, [ск]*арга;* [сц]: [сц]*эна;* [сх]: [сх]*аласт;* [сф]: [сф]*агнавы;*

[жб]: [жб]*ан;* [жд]: [жд]*аць;* [ждж]: [ждж]*э* (дзеясл. цяп. ч. 3 ас. адз. л.); [жг]: [жг]*ут;*

[шп]: [шп]*ак;* [шч]: [шч]*ака;* [шт]: [шт]*аны;* [шх]: [шх]*уна;* [шк]: [шк]*ада;*

[чх]: [чх]*аць;*

[цк]: [цк]*аваць;* [цх]: [цх]*алтуба* (*Цхалтуба*);

[хт]: [хт]*ось;*

[гд]: [гд]*аньск* (*Гданьск*); [гз]: [гз]*ымс;* [гж]: [гж]*эль* (*Гжэль*).

З двухчленных спалучэнняў, якія складаюцца з першага цвёрдага і другога мяккага зычнага, у пачатку кораня сустракаюцца наступныя:

[пф']: [пф']*еніг* (адзінкавае запазычанне); [пс']: [пс']*яр*, [пс']*юк*, [пс']*іхолаг*; [пх']: [пх']*еньян* (*Пхеньян*); [пц']: [пц']*іч* (*Пціч*);

[бз']: [бз']*ік* (разм.), [бз']*ікаваты* (разм.) (толькі ў гэтых словах);

[ск']: [ск']*іба*, [ск']*іт*, [ск']*іф;* [сф']: у запазычаннях [сф']*ера*, [сф']*інкс;* [сх']: у запазычаннях [сх']*ема*, [сх']*ізма;*

[шп']: у запазычаннях [шп']*іён*, [шп']*італь*, [шп']*ень;* [шк']: у запазычаннях [шк']*іпер*, [шк']*іпінар*, [шк']*ельца*, [шк']*ілет;* [шх']: у запазычанні [шх']*еры;*

[хц']: [хц']*іва;*

[кп']: [кп']*іць;* [кс']: у запазычаннях [кс']*ілафаніст*, [кс']*янДзоўскі*.

У гэтай пазіцыі не ўжываюцца двухчленныя спалучэнні зычных, першы з якіх мяккі, а другі — цвёрды.

У пачатку кораня двухчленныя спалучэнні з двух мяккіх шумных зычных сустракаюцца ў невялікай колькасці выпадкаў:

[з'дз']: [з'дз']*ек*, [з'дз']*ейсніць*, [з'дз']*яйсненне;*

[с'п']: [с'п']*ірт*, [с'п']*ектакль*, [с'п']*ектр;* [с'ц']: [с'ц']*ебануць*, [с'ц']*енка*, [с'ц']*іпла*, [с'ц']*ірка*, [с'ц']*ірта*, [с'ц']*ісла*, [с'ц']*юард*, [с'ц']*ябло*, [с'ц']*яг*, [с'ц']*яжок*, [с'ц']*яжынка*, [с'ц']*яна*, [с'ц']*ярляджы*.

У с я р э д з і н е к о р а н я таксама фіксуюцца спалучэнні з двух шумных зычных. З двух цвёрдых складаюцца наступныя з іх:

[пт]: *а*[пт]*ыміст*, *а*[пт]*ычны*, *а*[пт]*эка*, *ка*[пт]*ан*, *ко*[пт]*ур;* [пс]: *а*[пс]*алют* (*абсалют*), *а*[пс]*анін*, *ка*[пс]*уль*, *Туа*[пс]*э;* [пш]: *а*[пш]*ар* (*абшар*), *ка*[пш]*ук*, *ко*[пш]*а*, *шы*[пш]*ына;* [пч]: *та*[пч]*ан*, *ці*[пч]*ак* (бат.); [пх]: *а*[пх]*азец* (*абхазец*);

[бз]: *а*[бз]*ац;*

[фт]: *тэ*[фт]*элі;*

[дж]: *а*[дж]*арцы*, *ры*[дж]*эр* (с.-г.), *та*[дж]*ык;* [дб]: *фу*[дб]*ол* (*футбол*);

[тс]: *а*[тс]*арбент* (*адсарбент*); [тт]: *тра*[тт]*а;* [тк]: *мі*[тк]*аль*, *ша*[тк]*аваць;* [тх]: *па*[тх]*алім* (*падхалім*); [тф]: *пла*[тф]*орма;*

[ждж]: *ма*[ждж]*эрыць;* [жд]: *гра*[жд]*анка;*

[зб]: *а*[зб]*ука;* [зд]: *ма*[зд]*эізм;* [зг]: *і*[зг]*ой;* [зg]: *бра*[зg]*атаць* (*бразгатаць*);

[сп]: *і*[сп]*ыт;* [ст]: *і*[ст]*ужка*, *і*[ст]*эрыя;* [сх]: *у*[сх]*од:* [сф]: *а*[сф]*альт*, *фа*[сф]*ат;* [ск]: *э*[ск]*улап;*

[шп]: *па*[шп]*арт*, *шу*[шп]*ан;* [шт]: *ка*[шт]*ан*, *кля*[шт]*ар;* [шч]: *я*[шч]*ур;* [шх]: *А*[шх]*абад;*

[чч]: *во*[чч]*ына* (*вотчына*);

[цк]: *пла*[цк]*арта;*

[хт]: *лі*[хт]*ар;* [хч]: *Ба*[хч]*ысарай;* [хк]: *дэ*[хк]*анскі;*

[кт]: *стала*[кт]*ыт;* [кс]: *а*[кс]*аміт,* *вэ*[кс]*аль,* *са*[кс]*аул;* [кш]: *ло*[кш]*ына;* [кч]: *ні*[кч]*эмны;* [кц]: *а*[кц]*энт,* *ва*[кц]*ына;* [кф]: *ра*[кф]*ор;*

[гб]: *шла*[гб]*аум;* [гд]: *ане*[гд]*от* (*анекдот*), *та*[гд]*ышні* (абл.); [гз]: *ру*[гз]*ак* (*рукзак*), *э*[гз]*амен;* [gз]: *зі*[gз]*аг.*

Спалучэнні зычных, якія складаюцца з першага цвёрдага і другога мяккага, сустракаюцца ў сярэдзіне слова вельмі рэдка, найбольш у запазычаннях:

[пс']: *а*[пс']*іда,* *то*[пс']*ель,* *трэ*[пс']*ін;*

[бз']: *ло*[бз']*ік;*

[фс']: *тэ*[фс']*ір;*

[зг']: *фа*[зг']*ен* (*фасген*); [зg]: *рэ*[зg]*іны* (*рэзгіны*);

[джг']: *а*[джг']*ір;*

[сф']: *фа*[сф']*ід;* [ск']: *а*[ск']*епак,* *а*[ск']*ет,* *а*[ск']*ірзацца,* *ба*[ск']*етбол;*

[жг']: *ва*[жг']*ерд* (*вашгерд*) (тэхн.);

[шк']: *му*[шк']*ет,* *му*[шк']*ецёр;*

[чц']: *непа*[чц']*іва;*

[кс']: *а*[кс']*ельрат,* *а*[кс']*іёма,* *эле*[кс']*ір;* [кв']: [кв']*естар;* [кф']: *ла*[кф']*іёль;*

[гб']: *рэ*[гб']*і;*

[gз']: *э*[gз']*емпляр* (*экземпляр*).

Не адзначаюцца ў сярэдзіне кораня спалучэнні двух шумных зычных, з якіх першы мяккі, а другі — цвёрды; з двух мяккіх шумных у гэтым становішчы зафіксаваны спалучэнні [с'п']: *а*[с'п']*ірантура;* [з'б']: *а*[з'б']*ест,* *у*[з'б']*ек;* [з'дз']: *гва*[з'дз']*іка.*

У канцы кораня таксама зафіксаваны спалучэнні з двух шумных зычных.

Два цвёрдыя шумныя ўтвараюць наступныя спалучэнні ў розных па паходжанню лексемах:

[пт]: *ла*[пт]*а,* *хры*[пт]*овы* (*хрыбтовы*), *шэ*[пт]; [пс]: *гі*[пс]; *клі*[пс]*ы,* *ры*[пс], *турнэ*[пс]; [пк]: *цё*[пк]*ацца* (разм.); [пх]: *да*[пх]*ацца* (у даным выпадку корань складаецца са спалучэння двух зычных); [пф]: *ца*[пф]*а* (тэхн.);

[бз]: *а*[бз]*а;*

[фт]: *га*[фт], *та*[фт]*а,* *шры*[фт];

[дж]: *хо*[дж]*а;*

[джб]: *лі*[джб]*а* (*лічба*);

[дзг]: *вэ*[дзг]*аць;*

[зд]: *ву*[зд]*эчка,* *гва*[зд]*ок,* *дра*[зд]*овы,* *я*[зд]*ок;* [зг]: *бра*[зг]*отка,* *ма*[зг]*авы;* [зg]: *мя*[зg]*а* (*мязга*);

[сп]: *ва*[сп]*аваты;* [ст]: *бяро*[ст]*а,* *лу*[ст]*а,* *пла*[ст]*ун,* *сві*[ст]*ок;* [ск]: *вера*[ск], *лу*[ск]*а,* *пля*[ск]*аты,* *пу*[ск]; [сц]: *мя*[сц]*овы;* [сх]: *па*[сх]*а;*

[тк]: *курапа*[тк]*а;*

[жб]: *слу*[жб]*а;* [ждж]: *до*[ждж]*ык,* *забра*[ждж]*аць* (*забраздждаць*); [жд]: *ва*[жд]*ацца;*

[шп]: *лу*[шп]*айка;* [шт]: *ка*[шт]*аваць,* *по*[шт]*а;* [шч]: *блі*[шч]*аць,* *лу*[шч]*ыць,* *пя*[шч]*ота,* *це*[шч]*а;* [шк]: *гу*[шк]*алка,* *ке*[шк]*ацца,* *ло*[шк]*авы* (*ложкавы*), *ма*[шк]*ара,* *ю*[шк]*а;* [шц]: *мы*[шц]*а;*

[чт]: *ма*[чт]*авы;* [чк]: *бру*[чк]*а,* *по*[чк]*а;*

[хт]: *кне*[хт], *лі*[хт]*ар,* *лу*[хт]*а,* *шля*[хт]*аваты;* [хч]: *ба*[хч]*а;*

[кт]: *ква*[кт]*уха,* *праду*[кт]*овы;* [кс]: *бу*[кс]*аваць;* [кч]: *чу*[кч]*а;* [кх]: *ва*[кх]; [кш]: *ры*[кш]*а;*

[гд]: *смара*[гд]*авы.*

У канцы кораня зафіксаваны наступныя спалучэнні цвёрдага і мяккага шумных зычных:

[пц']: *егі*[пц']*янін,* *ла*[пц']*ік;* [пс']: *апе*[пс']*ія* (мед.), *у* *гі*[пс']*е* (*М.* скл. адз. л.); [пф']: *у* *ца*[пф']*е* (*М.* скл. адз. л.);

[бз']: *ло*[бз']*ік;*

[ск']: *ці*[ск']*і;*

[зg]: *ма*[зg]*і* (*мазгі*);

[шп']: *лу*[шп']*іна;* [шц']: *аб* *сабеко*[шц']*е* (*М.* скл. адз. л.); [шк']: *кі*[шк']*і;*

[гдз']: *аб* *смара*[гдз']*е* (*М.* скл. адз. л.);

[хц']: *дзё*[хц']*евы,* *цю*[хц']*яй,* *шля*[хц']*іч;* [хк']: *во*[хк']*і* (*вогкі*), *пру*[хк']*і* (*пругкі*).

Спалучэнні з першага мяккага і другога цвёрдага шумных зычных ў сярэдзіне кораня амаль не сустракаюцца: [ц'к']: *рэ*[ц'к']*а* (*рэдзька*).

У гэтай пазіцыі адзначаны наступныя спалучэнні з двух мяккіх шумных зычных:

[ц'к']: *рэ*[ц'к']*і* (*рэдзькі*) (Р. скл. адз. л.);

[з'б']: *га*[з'б']*енскі* (*газьбенскі*), *про*[з'б']*іт* (*устар.*), *ра*[з'б']*яны;* [з'дз']: *аб'е*[з'дз']*іць*, *гня*[з'дз']*ечка, дро*[з'дз']*ік;*

[с'п']: *во*[с'п']*іна;* [с'ц']: *а*[с'ц']*юк, ве*[с'ц'], *чэ*[с'ц'].

Н а с т ы к у к о р а н я і с у ф і к с а адзначаны наступныя спалучэнні з двух шумных зычных:

[пт]: *хля*[пт]*аць* (*хлябтаць*); [пш]: *ле*[пш]*ы;* [пк]: *аблі*[пк]*а, гу*[пк]*а;* [пц]: *галу*[пц]*ы* (*галубцы*), *у гру*[пц]*ы* (М. скл. адз. л.), *зару*[пц]*аваны* (*зарубцаваны*); [пч]: *галу*[пч]*ык* (*галубчык*), *Пата*[пч]*ук, прылі*[пч]*ывы, рэ*[пч]*аты, усту*[пч]*ывы, хла*[пч]*анё;*

[тк]: *кабе*[тк]*а, пера*[тк[*овы* (*перадковы*), *хва*[тк]*а, шуфля*[тк]*а* (*шуфлядка*); [тц]: *жы*[тц]*о;*

[ск]: *абавя*[ск]*ова, бяро*[ск]*а* (*бярозка*), *кала*[ск]*овы, ко*[ск]*а;* [сц]: *пі*[сц]*овы;*

[жб]: *вара*[жб]*а, дру*[жб]*а, слу*[жб]*а;*

[шч]: *во*[шч]*ык* (*возчык*), *падно*[шч]*ык* (*падносчык*), *перабе*[шч]*ык* (*перабежчык*), *прывя*[шч]*ывы* (*прывязчывы*); [шк]: *бра*[шк]*а* (*бражка*), *гру*[шк]*а, жы*[шк]*а* (*жыжка*); [шц]: *глу*[шц]*а* (Р. скл. адз. л.);

[чц]: *лямпа*[чц]*ы* (стылістычна абумоўлены варыянт) (Д. скл. адз. л.); [чк]: *аптэ*[чк]*а, ба*[чк]*ом, ку*[чк]*а, палі*[чк]*а;*

[цк]: *няме*[цк]*ая, ца*[цк]*а, чалаве*[цк]*ая* (у мастацкай літаратуры 20-х гг.);

[кс]: *пла*[кс]*ун;* [кч]: *мя*[кч]*эй;* [кш]: *ква*[кш]*а* (заал.).

Акрамя таго, адзначаны таксама спалучэнні з двух шумных зычных, другі з якіх мяккі:

[пц']: *праса*[пц']*і;* [пк']: *агрэ*[пк']*і* (*агрэбкі*), *ато*[пк']*і, гі*[пк']*і,* (*гібкі*), *лі*[пк']*і;*

[тк']: *е*[тк']*і* (едкі), *сало*[тк']*і* (*салодкі*), *ху*[тк']*і;*

[ск']: *блі*[ск']*і* (*блізкі*), *гра*[ск']*і* (*гразкі*), *ма*[ск']*і* (*мазкі*);

[жб']: *вара*[жб']*іт;*

[шс']: *адзене*[шс']*я* (дзеясл. зв. буд. ч. 2 ас. адз. л.), *смяе*[шс']*я* (дзеясл. зв. цяп. ч. 2 ас. адз. л.), *хопі*[шс']*я* (дзеясл. зв. буд. ч. 2 ас. адз. л.) (стылістычна абумоўленыя варыянты); [шц']: *бянтэ*[шц']*е* (*бянтэжце*) (дзеясл. заг. л. 2 ас. мн. л.), *будара*[шц']*е* (*бударажце*) (дзеясл. заг. л. 2 ас. мн. л.), *е*[шц']*е* (*ежце*) (дзеясл. заг. л. 2 ас. мн. л.);

[чк']: *но*[чк']*і* (Н. скл. мн. л.);

[хц']: *ку*[хц']*ік;* [хк']: *дро*[хк']*і* (*дрогкі*), *кро*[хк']*і, пу*[хк']*і;*

[цк']: *гара*[цк']*і* (*гарадскі*), *заво*[цк']*і* (*заводскі*), *прыма*[цк']*і, работні*[цк']*і, калгасні*[цк']*і* (два апошнія словы сустракаюцца ў мастацкай літаратуры 20-х гг.).

Існуе таксама пэўная колькасць спалучэнняў, якія складаюцца з першага мяккага і другога цвёрдага зычных:

[дз'б]: *бара*[дз'б]*а* (*барацьба*), *ха*[дз'б]*а;*

[ц'к]: *цю*[ц'к]*а, дзя*[ц'к]*а* (*дзядзька*);

[з'б]: *гро*[з'б]*а, ка*[з'б]*а* (*касьба*), *про*[з'б]*а* (*просьба*);

[с'к]: *Але*[с'к]*а* (*Алеська*), *Юра*[с'к]*а* (*Юраська*).

Два мяккія шумныя зычныя сустракаюцца на стыку кораня і суфікса ў наступных спалучэннях:

[дз'б']: *бара*[дз'б']*іт* (*барацьбіт*), *мала*[дз'б']*іт* (*малацьбіт*);

[ц'к']: *ба*[ц'к']*і* (Р. скл. адз. л.), *дзя*[ц'к']*і* (*дзядзькі*) (Р. скл. адз. л.);

[з'б']: *но*[з'б']*іт* (*носьбіт*), *хрэ*[з'б']*іны* (*хрэсьбіны*);

[с'ц']: *ба*[с'ц']*іся* (*басціся*), *валту*[с'ц']*е* (*валтузьце*) (дзеясл. заг. л. 2 ас. мн. л.);

[с'к']: *Зо*[с'к']*і* (*Зоські*), *Хадо*[с'к']*і* (*Хадоські*).

У с к л а д с у ф і к с а ў уваходзяць наступныя спалучэнні з двух шумных зычных:

[тк']: *бялю*[тк']*і*, *таню*[тк']*і*;

[ст]: *брыжа*[ст]*ы*, *вуша*[ст]*ы*, *машыні*[ст]; [ск]: *вятры*[ск]*а*, *кані*[ск]*а*, *лагаві*[ск]*а*;

[шч]: *гуля*[шч]*ы*, *невіду*[шч]*ы*, *селі*[шч]*а*, *шчупачы*[шч]*а*; [шк]: *даўбе*[шк]*а*, *дачу*[шк]*а*;

[чк]: *жва*[чк]*а*, *здароўе*[чк]*а*, *мама*[чк]*а*; [чк']: *невялі*[чк']*і*;

[цк']: *маладня*[цк']*і*, *мужы*[цк']*і*, *юна*[цк']*і*;

[с'ц']: *бялява*[с'ц'], *люта*[с'ц'], *маладо*[с'ц'], *старанна*[с'ц'].

Н а с т ы к у п р ы с т а ў к і і к о р а н я шырока ўжываюцца спалучэнні з двух шумных зычных. З двух цвёрдых зычных складаюцца наступныя з іх:

[пп]: *а*[пп]*аліць* (*абпаліць*), *су*[пп]*адрад* (*субпадрад*); [пт]: *а*[пт]*ынкаваць* (*абтынкаваць*), *а*[пт]*ыкаць* (*абтыкаць*), *су*[пт]*ыльны* (*субтыльны*); [пс]: *а*[пс]*ысаць* (*абсысаць*); [пш]: *а*[пш]*укаць* (*абшукаць*); [пч]: *а*[пч]*апляць* (*абчапляць*); [пк]: *а*[пк]*алоць*, *а*[пк]*арнаць* (*абкарнаць*); *су*[пк]*антынент* (*субкантынент*); [пх]: *а*[пх]*апіць* (*абхапіць*); [пф]: *а*[пф]*утраваць* (*абфутраваць*);

[бд]: *а*[бд]*урыць*, *су*[бд]*амінанта*; [бз]: *а*[бз]*ывацца*; [бж]: *а*[бж]*ыцца*; [бг] *а*[бг]*аняць*;

[дб]: *а*[дб]*ор*, *па*[дб]*авіць*, *пра*[дб]*ачыць*; [дз]: *а*[дз]*авіст*, *а*[дз]*аду*; [дж]: *а*[дж]*аваць*, *па*[дж]*ылы*; [дг]: *а*[дг]*усці*, *во*[дг]*ук*;

[тп]: *а*[тп]*усціць* (*адпусціць*); [тс]: *па*[тс]*эрцавы* (*падсэрцавы*); [тт]: *а*[тт]*очваць* (*адточваць*); [тш]: *а*[тш]*араваць* (*адшараваць*), *па*[тш]*эфны* (*падшэфны*), *во*[тш]*ыб* (*водшыб*), *на*[тш]*ахтавы* (*надшахтавы*) (горн.); [тф]: *па*[тф]*арбаваць* (*падфарбаваць*), *па*[тф]*утроўка* (*падфутроўка*); [тк]: *а*[тк]*алупнуць* (*адкалупнуць*), *па*[тк]*амітэт* (*падкамітэт*), *пера*[тк]*астрычніцкі* (*перадкастрычніцкі*), *пра*[тк]*азаць* (*прадказаць*); [тх]: *а*[тх]*апіць* (*адхапіць*), *па*[тх]*арчаваць* (*падхарчаваць*);

[зб]: *абя*[зб]*оліць*, *ды*[зб]*аланс* (*дысбаланс*), [зб]*авіць*, *у*[зб]*ушавацца*; [зд]: *бе*[зд]*араж*, *пера*[зд]*ымка*, *у*[зд]*оўж*; [зг]: *абе*[зг]*алосець*, *бе*[зг]*устоўны*, *ды*[зг]*армонія* (*дысгармонія*), [зг]*аніць*, *у*[зг]*аварыцца*;

[сп]: *бе*[сп]*аваротны*, *ды*[сп]*азіцыя*, *за*[сп]*акойваць*, *ро*[сп]*уск*, [сп]*аліць*, *у*[сп]*уджваць*; [ст]: *бе*[ст]*алкова*, *ра*[ст]*аяць*, [ст]*аіцца*; [ск]: *бе*[ск]*арысна*, *ды*[ск]*амфорт*, *ра*[ск]*авяліць*, [ск]*оўзаць*, *у*[ск]*алупаць*; [сц]: *бе*[сц]*ань*, *ра*[сц]*алаваць*, [сц]*эджваць*; [сх]: *бе*[сх]*арактарны*, [сх]*ацець*, [сх]*оў*, *у*[сх]*адзіцца*; [сф]: *ра*[сф]*ыркаць*, [сф]*астрыгаваць*;

[жб]: *мі*[жб]*ор'е*; [жд]: *звы*[жд]*алёкі* (*звышдалёкі*); [жг]; *звы*[жг]*укавы* (*звышгукавы*), *мі*[жг]*ародні*, *мі*[жг]*ор'е*; [жз]: *мі*[жз]*орны* (стылістычна абумоўлены варыянт вымаўлення);

[шп]: *мі*[шп]*ародны* (*міжпародны*) (біял.), *мі*[шп]*уцце* (*міжпуцце*); [шт]: *звы*[шт]*эрміновы*; [шч]: *звы*[шч]*алавек*, *ра*[шч]*ытаць* (*расчытаць*), *у*[шч]*апіць*; [шк]: *звы*[шк]*амплект*, *мі*[шк]*осны* (*міжкосны*); [шц]: *мі*[шц]*эхавы* (*міжцэхавы*); [шс]: *мі*[шс]*аюзны* (*міжсаюзны*).

Двухчленныя спалучэнні шумных зычных, з якіх другі мяккі, адзначаны таксама ў значнай колькасці выпадкаў:

[пп']: *а*[пп']*іласаць* (*абпіласаць*); [пц']: *а*[пц']*інак* (*абцінак*), *а*[пц']*эрці* (*абцерці*), *су*[пц']*ітр* (*субцітр*); [пс']: *а*[пс']*іяць* (*абсіяць*), *су*[пс']*ідыя* (*субсідыя*); [пк']: *а*[пк']*ідаць* (*абкідаць*); [пх']: *а*[пх']*ітрыць* (*абхітрыць*);

[бб']: *а*[бб']*егаць*; [бдз']: *а*[бдз']*ёўбваць* (*абдзёўбваць*); [бз']: *а*[бз']*еляніць*; [бг']: *а*[бг']*інацца*;

[дб']: *а*[дб']*ягаць* (*адбягаць*), *па*[дб']*іваць*; [дз']: *па*[дз']*ямельны* (*падзямельны*), *а*[дз']*іхацець*; [дг']:

*а*[дг'] *ін, на*[дг'] *інаць, па*[дг'] *інаць, пера*[дг'] *історыя;*

[тп']: *на*[тп'] *іс* (*надпіс*), *па*[т-п'] *еразаць* (*падперазаць*), *пра*[т-п'] *ісаць* (*прадпісаць*); [тс'] *а*[т-с'] *ек* (*адсек*), *на*[тс'] *ечка* (*надсечка*), *па*[тс'] *якаць* (*падсякаць*); [тк']: *а*[тк'] *ідаць* (*адкідаць*), *па*[т-к'] *ісаць* (*падкісаць*); [тх']: *а*[тх'] *іляць* (*адхіляць*), *па*[тх'] *інаць* (*падхінаць*); [тф']: *а*[тф'] *ільтраваць* (*адфільтраваць*);

[жг']: *звы*[жг'] *ігант* (*звышгігант*);

[зг']: [зг'] *ібець,* [зг'] *інуць, па*[зг'] *інаць;*

[сс']: *тран*[сс'] *ібірскі* (канцавы зычны запазычанай прыстаўкі не змякчаецца); [ск']: *ра*[ск'] *ідаць, ра*[ск'] *ілзаць,* [ск'] *еміць,* [ск'] *іравацца;* [сх']: *бя*[сх'] *іліць, бя*[с-х'] *ібна,* [сх'] *існуцца;*

[шс']: *мі*[шс'] *езонны* (*міжсезонны*).

У беларускай літаратурнай мове на стыку прыстаўкі і кораня амаль не сустракаюцца двухчленныя спалучэнні шумных зычных, з якіх першы — мяккі, а другі — цвёрды. Як выключэнне, можна прывесці спалучэнні, што ўтвараюцца на стыку прэфікса *супраць-* з каранямі, якія пачынаюцца з зычных: [дз'б]: *супра*[дз'б] *олевы* (*супрацьболевы*); [дз'г]: *супра*[дз'г] *азавы* (*супрацьгазавы*); [дз'д]: *супра*[дз'-д] *ымны* (*супрацьдымны*); [дз'з]: *супра*[дз'з] *аконны* (*супрацьзаконны*); [ц'к]: *супра*[ц'к] *ароставы* (*супрацькароставы*); [ц'п]: *супра*[ц'п] *ажарны* (*супрацьпажарны*); [ц'с]: *супра*[ц'с] *утаргавы* (*супрацьсутаргавы*); [ц'т]: *супра*[ц'т] *анкавы* (*супрацьтанкавы*); [ц'х]: *супра*[ц'х] *алерны* (*супрацьхалерны*); [ц'ц]: *супра*[ц'ц] *ынготны* (*супрацьцынготны*); [ц'ч]: *супра*[ц'ч] *умны* (*супрацьчумны*); [ц'ш]: *супра*[ц'-ш] *умавы* (*супрацьшумавы*). Але прыстаўка *супраць-* у сучаснай беларускай мове яшчэ захоўвае пэўную самастойнасць, якая перашкаджае працэсу асіміляцыі канцавога зычнага прэфікса з пачатковымі зычнымі каранёў. Паказчыкамі гэтай незалежнасці з'яўляецца пабочны націск на прэфіксе (*су̀працьпаве́траны, су̀працьстая́ць* і г. д.) і яго пэўнае значэнне — 'накіраваны супраць таго, што абазначаецца асновай'. Падтрымлівае адасобленасць прэфікса таксама ўжыванне ў мове прыслоўя і прыназоўніка *супраць* (*супроць*) (*Ісці супраць ветру; супраць ночы* і г. д.).

На стыку прыстаўкі і кораня адзначаны рад двухчленных спалучэнняў шумных мяккіх зычных:

[дз'дз']: *супра*[дз'дз'] *ейны* (*супрацьдзейны*); [дз'з']: *супра*[дз'з'] *енітны* (*супрацьзенітны*);

[з'б']: *бе*[з'б'] *ілетнік,* [з'б'] *ег, па*[з'б'] *іваць;* [з'дз']: *бя*[з'дз'] *ейнасць,* [з'дз'] *ейсніцца,* [з'дз'] *ерці, у*[з'дз'] *ерці;* [з'з']: *бе*[з'з'] *ямелле,* [з'з'] *елянець;*

[с'п']: *ра*[с'п'] *есціць, ра*[с'п'] *інацца, ра*[с'п'] *яць,* [с'п'] *еты;* [с'ц']: *бе*[с'ц'] *ялесны, ра*[с'ц'] *яць,* [с'ц'] *ерці, у*[с'ц'] *ешыць;* [с'с']: *ра*[с'с'] *еяць,* [с'с'] *екчы, у*[с'с'] *есці;*

[ц'п']: *супра*[ц'п'] *яхотны* (*супрацьпяхотны*); [ц'ц]: *а*[ц'ц'] *ерці* (*адцерці*), *супра*[ц'ц'] *іск* (*супрацьціск*); [ц'х']: *супра*[ц'х'] *імічны* (*супрацьхімічны*); [ц'й]: *супра*[ц'й] *яддзе.*

На стыку дзвюх прыставак сустракаюцца толькі некаторыя спалучэнні шумных зычных: [бз]: *а*[бз] *аводак;* [дз]: *па*[дз] *агаловак, па*[дз] *арабіць;* [зд]: *бе*[зд] *аглядны;* [тп]: *пера*[тп] *асяўны* (*перадпасяўны*); [сп]: *ра*[сп] *ачынаць,* [сп] *авіваць,* [сп] *агнаць;* [с'п']: *бе*[с'п'] *ерабойна;* [ц'п]: *супра*[ц'п] *астаўляць* (*супрацьпастаўляць*).

Частка такіх спалучэнняў маецца ў складзе прыставак *пост-* і *экс-*: *по*[ст] *інфекцыйны,* *э*[кс] *патрыяваць.* Але звычайна прыстаўка *экс-* далучаецца да асноў, якія пачынаюцца з зычнага, таму ў такіх словах утвараюцца трох- і чатырохчленныя спалучэнні зычных.

**На стыку кампанентаў складаных і складанаскарочаных слоў** зафіксаваны двухчленныя спалучэнні шумных зычных, у тым ліку з двух цвёрдых зычных:

[пс]: *Белкаа*[пс]*аюз, ту*[пс]*анаторый (тубсанаторый);* [пк]: *а*[пк]*омайскі (абкомайскі), ды*[пк]*орпус, ды*[пк]*ур'ер;* [пф]: *ра*[пф]*ак (рабфак);* [пч]: *за*[пч]*асці;*

[бб]: *шлю*[бб]*элька (шлюпбэлька);* [бд]: *ту*[бд]*ыспансер;* [бз]: *фа*[бз]*авуч, фа*[бз]*айком;* [бг]: *ры*[бг]*ас;*

[фп]: *шэ*[фп]*овар (шеф-повар);* [фт]: *пра*[фт]*эхшкола;* [фс]: *пра*[фс]*аюз;* [фк]: *пра*[фк]*ом;*

[тп]: *агі*[тп]*оезд, шма*[тп]*авярховы;* [тф]: *лі*[тф]*онд, пе*[тф]*ак (педфак), шма*[тф]*азны;* [тт]: *пе*[тт]*эхнікум (педтэхнікум), шма*[тт]*ыражка;* [тс]: *ме*[тс]*анчасць (медсанчасць), шма*[тс]*астайны;* [тч]: *ме*[тч]*асць (медчасць);* [тк]: *агі*[тк]*алектыў, ашча*[тк]*аса (ашчадкаса), ме*[тк]*амісія (медкамісія), праде*[тк]*ультайскі, шма*[тк]*аляровы;*

[дб]: *шма*[дб]*аковы (шматбаковы);* [дд]: *дзе*[дд]*омавец (дзетдомавец), ра*[дд]*ом;* [дж]: *шма*[дж]*анравы (шматжанравы);* [дз]: *шма*[дз]*арадны (шматзарадны);* [дг]: *ва*[дг]*адзіна (ват-гадзіна), фо*[дг]*адзіна (фот-гадзіна);* [дзз]: *спе*[дзз]*аданне;* [дзг]: *спе*[дзг]*арoднінагандаль (спецгароднінагандаль), спе*[дзг]*ас (спецгаз);*

[сп]: *прэ*[сп]*адборшчык (прэспадборшчык);* [сс]: *ма*[сс]*авет;* [сц]: *прэ*[сц]*энтр (прэс-цэнтр);* [ск]: *прэ*[ск]*анвеер (прэс-канвеер);*

[зб]: *Ку*[зб]*ас;* [зд]: *юры*[зд]*ыкцыя (юрысдыкцыя);* [зг]: *ля*[зг]*ас;*

[цт]: *шму*[цт]*ытул, блі*[цт]*урнір;* [цк]: *спе*[цк]*ор, спе*[цк]*урс, юсты*[цк]*алегія (юстыц-калегія);*

[кс]: *ко*[кс]*агыз (кок-сагыз);*

[гб]: *дву*[гб]*аковы (двухбаковы);* [гд]: *тро*[гд]*ольны (трохдольны);* [гг]: *дву*[гг]*адзінны (двухгадзінны);* [гз]: *тро*[гз]*убы (трохзубы);*

[хп]: *дву*[хп]*альцы* (заал.); [хт]: *дву*[хт]*омнік, дву*[хт]*ысячны;* [хс]: *дву*[хс]*энсавы;* [хц]: *дву*[хц]*алёўка;* [хх]: *тро*[хх]*адоўка* (шахм.); [хк]: *дву*[хк]*аляровы, тро*[хк]*утнік.*

Аналіз двухчленных кансанантных спалучэнняў, у склад якіх уваходзяць шумныя зычныя, пераконвае ў тым, што разнастайнасць спалучэнняў залежыць, па-першае, ад якасці зычных, а па-другое, ад тыпу марфем, у якіх або на стыку якіх ужываюцца шумныя зычныя. Можна вызначыць пэўныя тэндэнцыі.

Цвёрдыя шумныя зычныя ўтвараюць больш разнастайных спалучэнняў, чым мяккія.

Спалучэнні цвёрдых і мяккіх шумных зычных больш шматлікія тады, калі цвёрды зычны папярэднічае мяккаму, у параўнанні з тымі, якія ўтвараюцца з першага мяккага і другога цвёрдага зычных.

На стыку марфем утвараюцца спалучэнні, якія не сустракаюцца ўнутры марфем, больш разнастайныя яны на стыку прыстаўкі і кораня.

У радзе выпадкаў спалучэнні «цвёрды зычны+мяккі зычны» або «мяккі+цвёрды» памылкова замяняюцца на спалучэнні з цвёрдых зычных: гаворыцца *а*[кт]*ор* замест *а*[кц']*ёр, во*[см]*ы* замест *во*[с'м]*ы, і*[хн]*ы* замест *і*[хн']*і* і, наадварот, гаворыцца *ва*[тн']*і* замест *ва*[тн]*ы, сві*[н'ск']*і* замест *сві*[нск']*і.*

Памылковымі з'яўляюцца замены [ц'] на [т] у двухчленных, трохчленных і чатырохчленных спалучэннях. Трэба вымаўляць *ба*[ц'в']*інне (не батвінне), адра*[нц'в']*ець* (не *адрантвець), ча*[рс'ц'в']*ець* (не *чарствець*). Парушэннем арфаэпіі з'яўляецца замена [дж] на [ж] у слове *расха*[джв]*аць* (не *расхажваць*).

У некаторых словах назіраецца штучнае ўскладненне двухчленных

спалучэнняў у трохчленныя ў сувязі з памылковым асэнсаваннем марфемнай структуры слова. Гаворыцца *юры*[стк]*онсульт* замест нарматыўнага *юрысконсульт, пла*[ксл']*іві* замест *плаксівы*.

## § 4.9. ДВУХЧЛЕННЫЯ СПАЛУЧЭННІ ЗЫЧНЫХ «ШУМНЫ + САНОРНЫ»

У беларускай літаратурнай мове спалучэнні шумных і санорных зычных прадстаўлены ў пачатку, сярэдзіне і канцы слова.

У пачатку слова сустракаюцца наступныя спалучэнні цвёрдых шумных зычных з санорнымі:

[пн]: [пн]*уцца;* [пл]: [пл]*од;* [пр]: [пр]*аблісквацъ;*

[бл]: [бл]*укаць;* [бр]: [бр]*азгат;*

[фл]: [фл]*акон;* [фр]: [фр]*эза;*

[дв]: [дв]*аістасць;* [дн]: [дн]*опаглыбнік;* [дл]: [дл]*убацца* (абл.); [др]: [др]*овы;*

[тв]: [тв]*ор;* [тн]: [тн]*уць;* [тл]: [тл]*усты;* [тр]: [тр]*аўянець;*

[зв]: [зв]*анар;* [зм]: [зм]*аніць;* [зн]: [зн]*арок;* [зл]: [зл]*осны;* [зр]: [зр]*эб'е;*

[св]: [св]*арка;* [см]: [см]*оўж;* [сн]: [сн]*оўдацца;* [сл]: [сл]*ых;* [ср]: [ср]*эбра;*

[жв]: [жв]*ачка;* [жм]: [жм]*ут;* [жн]: [жн]*у* (дзеясл. цяп. ч. 1 ас. адз. л.); [жл]: [жл]*укціць;* [жр]: [жр]*эц;*

[шв]: [шв]*агер;* [шм]: [шм]*уляць;* [шн]: [шн]*ырыць;* [шл]: [шл]*ак;* [шр]: [шр]*аціна;*

[чв]: [чв]*эртка;* [чм]: [чм]*ут* (разм.);

[хв]: [хв]*оя;* [хм]: [хм]*ара;* [хн]: [хн]*а;* [хл]: [хл]*ам;* [хр]: [хр]*умкаць;*

[цв]: [цв]*эгаць* (разм.); [цм]: [цм]*окаць;* [цн]: [цн]*атліва;*

[кв]: [кв]*олы;* [кн]: [кн]*от;* [кл]: [кл]*умак;* [кр]: [кр]*эмзанне;*

[гв]: [гв]*озд;* [гм]: [гм]*ыхаць;* [гн]: [гн]*аенне;* [гл]: [гл]*ог;* [гр]: [гр]*азка;*

[gв]: [gв]*алт (гвалт).*

У сярэдзіне слова, акрамя пералічаных, ужываюцца яшчэ наступныя спалучэнні з двух цвёрдых зычных, шумнага і санорнага:

[пв]: *склё*[пв]*аць;* [пм]: *нэ*[пм]*ан;*

[бв]: *а*[бв]*ажваць;* [бм]: *а*[бм]*оклы;* [бн]: *бясхі*[бн]*а;*

[фм]: *ры*[фм]*а;* [фн]: *штра*[фн]*ы;*

[дм]: *а*[дм]*ова;*

[тм]: *ге*[тм]*ан;*

[чн]: *па*[чн]*у* (дзеясл. буд. ч. 1 ас. адз. л.);

[гв]: *хару*[гв]*ы.*

У канцы слова спалучэнні цвёрдых шумнага і санорнага зычных сустракаюцца ў невялікай колькасці выпадкаў:

[бр]: *зу*[бр], *ізю*[бр], *калі*[бр], *кандэля*[бр];

[пр]: *ве*[пр]:

[фр]: *шы*[фр];

[др]: *ка*[др];

[зв]: *я*[зв] (Р. скл. мн. л.);

[тр]: *скіпе*[тр]; *тэа*[тр], *ці*[тр].

Часам гэтыя спалучэнні вымаўляюцца з устаўным галосным: *ізю*[бар], *калі*[бар], *зу*[бар], *ве*[пар] і інш.

Спалучэнні з цвёрдага шумнага і мяккага санорнага таксама ўжываюцца ў пачатку, сярэдзіне і ў канцы слова. З іх у пачатку слова сустракаюцца наступныя:

[пн']: [пн']*істы;* [пй]: [пй]*янлівы (п'янлівы);* [пл']: [пл']*явузгаць;*

[бй]: [бй]*ю (б'ю)* (дзеясл. цяп. ч. 1 ас. адз. л.); [бл']: [бл']*яднець;*

[фл']: [фл']*егма;*

[дй]: [дй]*ябальскі,* [дн']: [дн']*ішча;* [дл']: [дл']*а (для);*

[тв']: [тв']*ісг;* [тм']: [тм']*ін;* [тн']: [тн']*ём* (дзеясл. цяп. ч. 1 ас. мн. л.); [тл']: [тл']*ець;*

[жв']: [жв']*ір;* [жм']: [жм']*еня;* [жн']: [жн']*іво;*

[шв']: [шв']*едскі;* [шм']: [шм']-

*якнуць;* [шн']: [шн']*іцэль;* [шл']: [шл']*ях;*

[чв']: [чв']*якаць;* [чл']: [чл']*яніць;* [чм']: [чм']*ель;*

[кв']: [кв']*ітнець;* [кн']: [кн']*іга;* [кл']: [кл']*ікнуць;* [км']: [км']*ець;*

[хв']: [хв']*ілінка;* [хм']: [хм']*яльнік;* [хл']: [хл']*юст;* [хн']: [хн']*е* (ад *хна,* М. скл. адз. л.);

[гв']: [гв']*іяна* (Гвіяна); [гл']: [гл']*еба;* [гм']: [гм']*іна;* [гн']: [гн']*есці.*

У с я р э д з і н е с л о в а, акрамя пералічаных, адзначаны яшчэ некаторыя спалучэнні цвёрдых шумных зычных з мяккімі санорнымі:

[бв']: *а*[бв']*езці;* [бм']: *а*[бм']*яльчэць;* [бн']: *бу*[бн']*іць;*

[фй]: *са*[фй]*ян;* [фн']: *штра*[фн']*ік;* [фм']: *ары*[фм']*етыка;*

[дм']: *вы*[дм']*е* (Д. скл. адз. л.);

[тй]: *шма*[тй]*ярусны;*

[жй]: *А*[жй]*е* *(Аж'е);* [жл']: *пу*[жл']*іва;*

[чн']: *ану*[чн']*ік;*

[цн']: *ма*[цн']*ей.*

У к а н ц ы с л о в а спалучэнні цвёрдых шумных зычных з мяккімі санорнымі амаль што не ўжываюцца. Можна адзначыць толькі наступныя: [бл']: *дырыжа*[бл'] (параўн. раней запазычанае і адаптаванае *карабель*); [кл']: *спекта*[кл'].

Двухчленныя спалучэнні зычных, першы з якіх шумны мяккі, а другі санорны цвёрды, сустракаюцца вельмі рэдка. Гэта [дз'в]: *супра*[дз'в]*ага* *(супрацьвага);* [дз'м]: [дз'м]*ухаць* *(дзьмухаць);* [ц'м]: *про*[ц'м]*а* *(процьма);* [с'м]: *та*[с'м]*а* *(тасьма).*

Спалучэнні з мяккіх шумных і санорных зычных сустракаюцца ў п а ч а т к у с л о в а:

[дз'в']: [дз'в']*е;* [дз'м']: [дз'м']*е* *(дзьме)* (дзеясл. цяп. ч. 3 ас. адз. л.);

[ц'в']: [ц'в']*іль;* [ц'м']: [ц'м']*яны;* [ц'й]: [ц'й]*ер* *(Цьер);*

[з'в']: [з'в']*ер;* [з'й]: [з'й]*езд* *(з'езд);* [з'м']: [з'м']*яшчаць;* [з'н']: [з'н']*есці;* [з'л']: [з'л']*ёгеньку;*

[с'в']: [с'в']*ятло;* [с'н']: [с'н']*іць;* [с'л']: [с'л']*язісты;* [с'м']: [с'м']*ялейшы;* [с'й]: *па*[с'й]*янс.*

Большасць з гэтых жа спалучэнняў ужываецца і ў с я р э д з і н е с л о в а: *ме*[дз'в']*яжатнік,* *гру*[дз'м']*і* *(грудзьмі),* *ча*[ц'в']*ер* і г. д.

У к а н ц ы с л о в а спалучэнні мяккіх шумнага і санорнага не сустракаюцца.

Спалучэнні зычных тыпу «шумны+санорны» ў адносінах да марфемнай структуры ўжываюцца ў розных пазіцыях.

У п а ч а т к у к о р а н я адзначаны наступныя спалучэнні з двух цвёрдых зычных, шумнага і санорнага:

[пн]: [пн]*уць;* [пл]: [пл]*аціць;* [пр]: [пр]*астор;*

[бл]: [бл]*акіт,* [бл]*ытаны;*

[фр]: [фр]*онт;* [фл]: [фл]*акон;*

[дв]: [дв]*аровы;* [дн]: [дн]*о;* [дл]: [дл]*убаць* (абл.); [др]: [др]*ук;*

[тв]: [тв]*ар;* [тн]: *вы*[тн]*у* (дзеясл. буд. ч. 1 ас. адз. л.); [тл]: [тл]*ум;* [тр]: [тр]*апаць;*

[зв]: [зв]*анок;* [зм]: [зм]*агар;* [зн]: [зн]*аёміць;* [зл]: [зл]*асліва;* [зр]: [зр]*ок;*

[св]: [св]*ат;* [см]: [см]*ута;* [сн]: [сн]*аваць;* [сл]: [сл]*аба;* [ср]: [ср]*одак;*

[жв]: [жв]*авы;* [жм]: [жм]*урыць;* [жн]: *за*[жн]*у* (дзеясл. буд. ч. 1 ас. адз. л.); [жр]: [жр]*ыца;*

[шм]: [шм]*алец;* [шн]: [шн]*ур;* [шл]: [шл]*анг;* [шр]: [шр]*эдэр;*

[чв]: [чв]*эрць;* [чм]: [чм]*ыхаць,* [чм]*урэць;*

[цв]: [цв]*эгаць;* [цм]: [цм]*окнуцца;* [цн]: [цн]*ота;*

[кв]: [кв]*актаць;* [кн]: [кн]*ыр;* [кл]: [кл]*ыгаць;* [кр]: [кр]*ыніца;*

[хв]: [хв]*аля;* [хм]: [хм]*ызняковы;* [хн]: [хн]*ыкаць;* [хл]: [хл]*апчаня;* [хр]: [хр]*абрэц;*

[гв]: [гв]*аздаць;* [гм]: [гм]*ах,* [гм]*ыкаць;* [гн]: [гн]*аць;* [гл]: [гл]*ыток;* [гр]: *аба*[гр]*эць;*

[gв]: [gв]*алт* *(гвалт).*

Спалучэнні «цвёрды шумны зычны+мяккі санорны зычны» таксама сустракаюцца ў пачатку каранёў, але яны менш разнастайныя па складу:

[пн']: [пн']*ёўе* (разм.); [пл']: [пл']*юхота;* [пй]: [пй]*янець;*

[бй]: [бй]*ю;* [бл']: [бл']*яклы;* [фл']: [фл']*які;*

[дй]: [дй]*ябал;* [дн']: [дн']*ёўка;*

[тв']: [тв']*іст;* [тн']: [тн']*яце* (дзеясл. цяп. ч. 2 ас. мн. л.); [тл']: [тл']*ець;*

[жв']: [жв']*іровы;* [жм']: [жм']*якнуць;* [жн']: [жн']*ец;*

[шв']: [шв']*іва;* [шм']: [шм']*якнуцца;* [шн']: [шн']*іцэль;* [шл']: [шл']*юб;*

[чв']: [чв']*якнуць;* [чм']: [чм']*ель;*

[кв']: [кв']*етнік;* [кн']: [кн']*іжка;* [кл']: [кл']*ён;* [км']: [км']*ен;*

[хв']: [хв']*іліна;* [хм']: [хм']*еліва;* [хн']: [хн']*е* (Д. скл. адз. л.); [хл']: [хл']*юст;*

[гн']: [гн']*ясці;* [гл']: [гл']*іна;* [гм']: [гм']*іна.*

Спалучэнні мяккага шумнага зычнага і цвёрдага санорнага ў пачатку кораня сустракаюцца ў адзінкавых выпадках: [дз'м]: [дз'м]*ухавец (дзьмухавец).*

Адзначаюцца наступныя спалучэнні з мяккіх шумнага і санорнага зычных у пачатку кораня:

[дз'в']: [дз'в']*еры;* [дз'м']: [дз'м']*е (дзьме)* (дзеясл. цяп. ч. 3 ас. адз. л.);

[ц'в']: [ц'в']*іценне;* [ц'м']: [ц'м']*яны;* [ц'й]: [ц'й]*ер (Цьер);*

[з'в']: [з'в']*інець;* [з'м']: [з'м']*есціва* (дыял.); [з'н']: [з'н']*ешне;* [з'л']: [з'л']*юка;*

[с'в']: [с'в']*ежы;* [с'н']: [с'н']*ежкі;* [с'л']: [с'л']*яза;* [с'м']: [с'м']*ешны.*

Многія з пералічаных спалучэнняў з двух цвёрдых зычных у пазіцыі пачатку кораня ўжываюцца ў абмежаванай колькасці лексем: [пн] — у лексемах *пнуць, пнуцца;* [дн] — у лексеме *дно* і ў аднакаранёвых з ёю; [дл] — у дыялектных дзеясловах *длубаць, длубацца;* [тв] — *твань, твар, тварог, твор* і ў аднакаранёвых з гэтымі лексемамі; [тн] — у дзеяслове *тнуць* і ў вытворных ад яго; [тл] — *тлум, тлумачыцца, тлушч* і ў вытворных ад іх; [зм] — у словах з дэтымалагізаванай прыстаўкай *з- (змагар, змагацца);* [зн] — у вытворных ад дзеяслова *знаць* і назоўніка *значок;* [зл] — у лексеме *зло* і ў аднакаранёвых з ёю; [зр] — у лексемах *зрок, зрэб'е* і вытворных; [св] — у лексемах *свабода, свавольнік, сварка, сват* і вытворных; [ср] — *сродак, срэбны* і ў аднакаранёвых з імі; [жв] — *жвава, жвачка* і вытворных; [жм] — у лексемах *жмуркі, жмут* і вытворных; [жн] — у словазмяняльных і словаўтваральных формах дзеяслова *жаць (жнуць, зажну);* [жр] — у лексемах *жраць, жрэц* і вытворных; [шн] — у лексемах *шнарыць, шнур, шныпарыць, шнырыць* і ў аднакаранёвых з імі; [чв] — у лексеме *чвэрць* і вытворных; [чм] — *чмурэць, чмут, чмыхаць* і ў нешматлікіх аднакаранёвых з імі лексемах; [гв] — *гвозд, гвардыя* і ў вытворных ад іх; [гм] — *гмах, гмыкаць* і ў вытворных ад гэтых лексем; [хн] — у лексемах *хна, хныкаць* і вытворных; [кн] — *кнопка, кнот, кныр* і вытворных; [цв] — *цвэгаць, цвыркаць* і ў вытворных ад гэтых дзеясловаў; [цм] — у словах з коранем *цмок (зацмокаць, цмокнуць, цмокнуцца);* [цн] — *цнот* і ў вытворных ад гэтай лексемы.

У лічаных аднакаранёвых групах сустракаюцца таксама спалучэнні [пн'] — *пневішча, пнеўе, пністы, шрапнель;* [пй] — *п'янаваты, п'яніць, п'яны, п'янюга;* [бй] — у формах словазмянення дзеяслова *біць;* [дн'] — *днець, днём, днёўка, днішча;* [тв'] — *твіст, твіставы;* [тн'] — у формах дзеяслова *тнуць тнеш, тне, тнём, тняце;* [тл'] — у формах дзеяслова *тлець тлецца, тлен, тленнасць, тленне;* [жв'] — *жвір, жвіровы, жвірысты;* [жм'] — *жмяк-*

*нуцца, жмякнуць;* [жн'] — словаўтваральныя і словазмяняльныя формы ад дзеяслова *жаць* — *жнец, жнівень, жняя, жняярка;* [шв'] — вытворныя ад *швед, швейцар, швейны;* [шм'] — у формах, вытворных ад дзеяслова *шмякнуцца;* [шн'] — у лексемах *шнітка, шніцэль;* [чв']— у размоўных лексемах *чвяк, чвяканне, чвякаць, чвякнуць;* [чм'] — у лексемах *чмель, чмяк, чмяканне, чмякацца, чмякаць, чмякнуцца, чмякнуць, чмяліны;* [гм'] — у запазычанай лексеме *гміна;* [хм'] — у вытворных ад *хмель хмелевы, хмельны, хмеляводчы;* [кв'] — у групах аднакаранёвых слоў з каранямі *квет-* і *квіт-* — *кветачка, кветнік, квітанцыя, квітацца, квітнець, квітнеючы, квяцісты;* [км'] — у лексемах *кмен, кменавы;* [дз'м]— у аднакаранёвых *дзьмуты, дзьмухаць, дзьмухнуць, дзьмуцца, дзьмуць;* [дз'м'] — у словазмяняльных формах вышэй пададзеных слоў з коранем *дзьм-;* [дз'в'] — у вытворных ад *дзве* і *дзверы* — *дзверцы, дзверына, дзвесце, дзвярны;* [ц'м']— у формах словазмянення лексемы *цьма*: у дзеясловах *цьмець, цьмянець*, у назоўніку *цьмянасць* і прыметніку *цьмяны;* [ц'й] — у запазычаным прозвішчы *Цьер.*

У с я р э д з і н е  к о р а н я таксама прадстаўлены спалучэнні з цвёрдых шумнага і санорнага зычных, але частка з іх — у запазычаных словах і тапонімах:

[пм]: *нэ*[пм]*ан* (слова можа разглядацца і як складанае); [пн]: *гі*[пн]*оз;* [пл]: *а*[пл]*омб;* [пр]: *ка*[пр]*ыз;*

[бл]: *во*[бл]*ака;* [бр]: *а*[бр]*ыкос, су*[бр]*этка;*

[фр]: *шла*[фр]*ок;*

[дв]: *я*[дв]*абны;* [дм]: *у*[дм]*урт;* [дл]; *я*[дл]*овец;* [др]: *гу*[др]*он;*

[тм]: *ге*[тм]*ан;* [тн]: *в'е*[тн]*амец;* [тл]: *а*[тл]*ас;* [тр]: *ба*[тр]*ак;*

[зл]: *ту*[зл]*ук;* [зм]: *ра*[зм]*арын;*

[см]: *ко*[см]*ас;* [сл]: *са*[сл]*оўе;*

[шв]: *по*[шв]*ырак* (з дэетымалагізаванай прыстаўкай *по-*); [шм]: *ка*[шм]*ар;* [шн]: *ка*[шн]*э;* [шл]: *ба*[шл]*ык, ка*[шл]*аты;*

[чв]: *па*[чв]*ара;* [чм]: *мі*[чм]*ан;*

[цм]: *бо*[цм]*ан;* [цр]: *шпі*[цр]*утэн;*

[кн]: *бла*[кн]*от;* [кл]: *рэ*[кл]*ама, ба*[кл]*ажан;* [км]: *А*[км]*олінск;* [кр]: *рэ*[кр]*ут;*

[хв]: *залі*[хв]*ацкі;* [хм]: *кру*[хм]*ал, ра*[хм]*аны;* [хл]: *ва*[хл]*ак;* [хр]: *Ба*[хр]*эйн, ша*[хр]*ай* (разм.);

[гм]: *Пі*[гм]*аліон;* [гн]: *дыя*[гн]*аз;* [гл]: *рэ*[гл]*ан, тры*[гл]*а;* [гр]: *ва*[гр]*анка, і*[гр]*уша.*

У сярэдзіне кораня сустракаюцца спалучэнні з цвёрдага шумнага і мяккага санорнага:

[пн']: *шра*[пн']*ель;* [пл']: *а*[пл']*явуха;*

[бл']: *су*[бл']*імат;*

[фл']: *каму*[фл']*яж;* [фм']: *ары*[фм']*етыка;* [фн']: *Да*[фн']*іс* (міф.); [фй]: *са*[фй]*ян;*

[дм']: *а*[дм']*ірал, ба*[дм']*інтаніст;* [дл']: *а*[дл']*іга;*

[тл']: *а*[тл']*ет, ка*[тл']*ета;*

[шм']: *кі*[шм']*іш;* [шн']: *ку*[шн']*ерка;* [шй]: *мы*[шй]*як;*

[жй]: *а*[жй]*е (Аж'е);*

[чм']: *я*[чм']*ень;*

[цм']: *на*[цм']*ен* (слова можа разглядацца і як складанае);

[км']: *чэ*[км']*ень, а*[км']*еіст;* [кл']: *ко*[кл']*юш, ма*[кл']*ер;* [кн']: *пі*[кн']*ік;*

[хв']: *лі*[хв']*яр;* [хм']: *а*[хм']*істрыня, ва*[хм']*істр, ха*[хм']*іць;* [хн']: *тэ*[хн']*ікум;*

[гм']: *пі*[гм']*ент;* [гл']: *фі*[гл']*яр;* [гн']: *ма*[гн']*іт.*

У сярэдзіне кораня зафіксаваны таксама спалучэнні з мяккіх шумнага і санорнага зычных:

[ц'в']: *ча*[ц'в']*ер, я*[ц'в']*ягі;*

[з'м']: *я*[з'м']*інавы;*

[с'н']: *тры*[с'н']*ёг;* [с'в']: *а*[с'в']*ета, прэ*[с'в']*ітэр;* [с'л']: *мы*[с'л'] *(мысль);*

[дз'в']: *ме*[дз'в']*едзяня.*

Двухчленныя спалучэнні шумных і санорных зычных у літара-

турнай мове пераважна сустракаюцца ў сярэдзіне кораня ў запазычаных лексемах або ў беларускіх словах з дээтымалагізаванымі асновамі.

У канцы кораня прадстаўлены спалучэнні «шумны + санорны». З іх з двух цвёрдых складаюцца наступныя:

[пл]: *ду*[пл]*аваты;* [пр]: *ве*[пр]*ы, ко*[пр]*а;*

[бн]: *бу*[бн]*ач, шта*[бн]*аваць;* [бл]: *во*[бл]*а, я*[бл]*ыня;* [бр]: *ба*[бр]*анё, ко*[бр]*а;*

[фм]: *ры*[фм]*ач;* [фр]: *ку*[фр]*авы, шы*[фр]; [фн]: *Да*[фн]*а;*

[дн]: *я*[дн]*аць;* [дл]: *ко*[дл]*а, ку*[дл]*ач;* [дм]: *вы*[дм]*а;* [др]: *ке*[др], *я*[др]*о;*

[тв]: *ля*[тв]*о* (разм.); [тл]: *дзя*[тл]*авы, ці*[тл]*а;* [тр]: *ге*[тр]*ы, не*[тр]*ы;*

[зв]: *я*[зв]*а;* [зм]: *пры*[зм]*а;* [зн]: *бара*[зн]*а, ка*[зн]*а;* [зл]: *жа*[зл]*о, ко*[зл]*ы;*

[см]: *ка*[см]*аты;* [сн]: *а*[сн]*ач* (устар. абл.); [сл]: *бу*[сл]*аў, крэ*[сл]*а, су*[сл]*а;*

[жл]: *вы*[жл]*а;* [жн]: *ва*[жн]*асць;* [жм]: *пі*[жм]*а;* [жр]: *аба*[жр]*ацца* (корань складаецца са спалучэння [жр]);

[шв]: *падэ*[шв]*а;* [шм]: *кала*[шм]*аты, ка*[шм]*а;* [шн]: *та*[шн]*ата;* [шл]: *ка*[шл]*аты, по*[шл]*а;*

[чв]: *но*[чв]*ы;* [чн]: *па*[чн]*у* (дзеясл. буд. ч. 1 ас. адз. л.) (корань складаецца са спалучэння [чн]); [чм]: *ку*[чм]*аты;*

[кв]: *кро*[кв]*а, смо*[кв]*а;* [кн]: *а*[кн]*о, вала*[кн]*о, пе*[кн]*ата;* [кл]: *цы*[кл]; [кр]: *фія*[кр];

[хв]: *рэ*[хв]*а* (абл.); [хм]: *ла*[хм]*аты, ра*[хм]*аны;* [хн]: [хн]*а* (корань складаецца са спалучэння [хн]); [хр]: *ві*[хр]*асты, ві*[хр]*ыць, во*[хр]*ыць, ма*[хр]*а;*

[гв]: *дры*[гв]*а, хару*[гв]*а;* [гм]: *сі*[гм]*а, фле*[гм]*а;* [гн]: *ста*[гн]*ота* (разм.); [гл]: *во*[гл]*ы, і*[гл]*асты, цэ*[гл]*ы;* [гр]: *ба*[гр]*овы, ву*[гр]*овы, і*[гр]*ок.*

Зафіксаваны наступныя спалучэнні цвёрдых шумных і мяккіх санорных зычных у канцы кораня:

[пй]: *ку*[пй]*істы* (*куп'істы*); [пн']: *лі*[пн']*ёвы, ва*[пн']*ішча;* [пл']: *кано*[пл']*і, кро*[пл']*я, тра*[пл']*яць;*

[бл']: *га*[бл']*юшка, дырыжа*[бл'], *бі*[бл']*ейскі;* [бн']: *бу*[бн']*іць, клу*[бн']*евы;*

[фл']: *ва*[фл']*евы;* [фй]: *та*[фй]*я* (*таф'я*);

[дн']: *яхі*[дн']*ічаць;* [дл']: *у паві*[дл']*е* (М. скл. адз. л.);

[тм']: *ры*[тм']*іка;* [тн']: *спры*[тн']*юга;* [тл']: *ко*[тл']*ішча;*

[жм']: *у пі*[жм']*е* (М. скл. адз. л.); [жн']: *апара*[жн']*іць;*

[шв']: *падэ*[шв']*енны;* [шм']: *у я*[шм']*е* (М. скл. адз. л.); [шн']: *ві*[шн']*я, кру*[шн']*я, лі*[шн']*і, пе*[шн']*я;* [шл']: *ка*[шл']*ю* (Д. скл. адз. л.), *па*[шл']*яціна;*

[чн']: *я*[чн']*ішча;*

[кв']: *кро*[кв']*енны;* [кн']: *тала*[кн']*яны;* [кл']: *са*[кл']*я, Тэ*[кл']*я;*

[хв']: *ла*[хв']*енскі, по*[хв']*енны;* [хл']: *ма*[хл']*яр, ры*[хл']*ець;*

[гв']: *дры*[гв']*іста;* [гн']: *а*[гн']*істы, ба*[гн']*істы, гу*[гн']*ява, звя*[гн']*я, я*[гн']*іцца;* [гл']: *ву*[гл']*істыя* (навук.), *і*[гл']*іца.*

Спалучэнні з мяккага шумнага і цвёрдага санорнага ў канцы кораня сустракаюцца значна радзей:

[з'м]: *ва*[з'м]*у* (*вазьму*) (дзеясл. буд. ч. 1 ас. адз. л.);

[с'м]: *во*[с'м]*ы* (*восьмы*);

[дз'м]: *вя*[дз'м]*ар* (*вядзьмар*);

[ц'м]: *То*[ц'м]*а* (*Тоцьма*) (тапонім).

У канцы кораня сустракаюцца наступныя спалучэнні з мяккіх шумнага і санорнага:

[дз'м']: *ве*[дз'м']*е* (*ведзьме*) (Д. скл. адз. л.);

[ц'в']: *кля*[ц'в']*енны* (*клятвенны*);

[с'л']: *ма*[с'л']*як, су*[с'л']*ік;* [с'н']: *бро*[с'н']*я;* [с'м']: *ва*[с'м']*ярык;*

[з'в']: *я*[з'в']*е* (М. скл. адз. л); [з'м']: *во*[з'м']*еш* (*возьмеш*) (дзе-

ясл. буд. ч. 2 ас. адз. л.); [з'н']: *апа*[з'н']*іцца, ку*[з'н']*я;* [з'л']: *ка*[з'л']*янё.*

Многія з пералічаных спалучэнняў у канцы асновы ўтварыліся на стыку марфем, але ў сучаснай словаўтваральнай сістэме словы, у якіх яны зафіксаваны, з'яўляюцца невытворнымі, маюць звязаныя асновы. Большасць з пералічаных спалучэнняў «шумны + санорны» ў пазіцыі канца кораня ўжываюцца ў абмежаванай колькасці лексем: [пл] — у формах словазмянення і словаўтварэння лексемы *дупло;* [пр] — у формах назоўнікаў *вепр, копра* і ў вытворных ад яго словах; [бн] — у лексемах *штабнаваць, маштабны, бубнач* і ў вытворных ад іх, а таксама ў формах словазмянення лексемы *бубен — бубна, бубнаў;* [бл] — у словах з каранямі *вобл-, ябл- (яблык, яблыневы, яблычны);* [бр] — у лексеме *кобра* і вытворных, у словазмяняльных і словаўтваральных формах лексемы *бабёр — бабра, баброў, бабрыны* і г. д.; [дм] — у лексеме *выдма;* [тв] — у словах з дээтымалагізаваным суфіксам *-в- (бітва, дратва, лятво* (разм.), *пітво, шытво* і інш.); [тм] — у лексеме *рытм* і вытворных; [тн] — у лексеме *палатно* і вытворных; [тл] — у лексемах *цітла, дзятлавы* і вытворных, у словазмяняльных формах слова *кацёл — катла, катловы;* [тр] — у лексемах *літр, нетры* і ў вытворных ад іх; [зв] — у лексеме *язва* і ў вытворных ад яе; [зм] — у лексеме *прызма* і вытворных; [зл] — у лексемах *жазло, козлы* і вытворных; [зн] — у лексемах *баразна, казна* і вытворных; [см] — у лексемах з коранем *касм- (касматы, касмаценне, касмаціцца, касмаціць, касмач, касмачы, космы* (разм.)); [сн] — у лексеме *кросны* і вытворных; [сл] — у лексемах *буслаў, крэсла, сусла* і ў вытворных ад іх; [жм] — у лексеме *піжма;* [шв] — у лексеме *падэшва* і вытворных; [шм] — у запазычаных лексемах *кашма, яшма,* у размоўных *калашман, калашматы, калашмаціць;* [шн] — у лексемах *рукапашны, ташната;* [чн] — у словазмяняльных формах дзеяслова *пачаць;* [чм] — у назоўніку *кучма* 'кучомка' і ў вытворных ад яго; [гв] —у лексемах *дрыгва, харугва* і ў вытворных ад іх; [гм] — у запазычаных словах з навуковай лексікі *(догма, магма, сінтагма, флегма* і інш.); [кв] — у лексемах *буквар, крохва, смокка;* [кл] — у словах *кукла* 'род жаночай прычоскі', *цыкл;* [кн] — у лексеме *талакно;* [кр] — у запазычаным *фіякр* і ў лексемах з коранем *свекр- (свёкраў* (прым.), *свякроўка, свякруха* і інш.); [хв] — у абласным *рэхва;* [фм] — у словах *рыфма, рыфмач;* [фр] — у лексеме *шыфр* і ў вытворных ад яе, у словазмяняльных і вытворных ад *куфар* формах — *куфра, куфравы;* [пл'] — у формах словазмянення і словаўтварэння лексем *дупло, кропля, соплі* (разм.); [бн'] — у дзеяслове *бубніць* і прыметніках *клубневы, хобненскі;* [фй] — у формах слова *куф'я* (ст.); [дл'] — у словазмяняльных формах назоўніка *павідла;* [тм'] — у лексемах, вытворных ад *рытм (рытмізаваны, рытмізацыя, рытміка, рытмічны);* [жм'] — у формах слова *піжма;* [шв'] — у формах слова *падэшва* і ў вытворных ад яго; [шм'] — у формах назоўніка *яшма;* [чн'] — у прыметніку *вучнёўскі,* у словах з коранем *яч- (ячнішча);* [кн'] — у прыметніку *талакняны;* [кл'] — у антрапоніме *Тэкля,* запазычаным *сакля;* [хв'] — у прыметніках *лахвенскі, похвенны;* [хл'] — у словах з каранямі *махл-* і *рыхл- (махляванне, махляваць, махляр, махлярка, махлярства; рыхленне, рыхлець, рыхліць);* [фл'] — у лексемах *вафлевы, кафля, рыфленне;* [фн'] — у формах уласн. міф. *Дафна* (Дафне); [з'м'], [з'м] — у формах дзеясловаў *узяць, узяцца (вазьму, вазьмуся, возьмешся, возьмецца, вазьміся, вазьму, возьмеш, возьме, вазьмі);* [дз'м] — у лексемах з коранем *ведзьм- (ведзьма,*

*вядзьмак, вядзьмар, вядзьмарства, вядзьмарыць*); [дз'м'] — у формах змянення слова *ведзьма*.

Многія і з іншых спалучэнняў, якія складаюцца з першага шумнага і другога санорнага зычных, сустракаюцца толькі ў абмежаванай колькасці каранёў (двух-трох).

На стыку кораня і суфікса сустракаюцца наступныя спалучэнні з цвёрдых шумнага і санорнага:

[пв]: *абдра*[пв]*аць, ако*[пв]*аць, накра*[пв]*аць, паце*[пв]*аць, пахра*[пв]*аць;* [пн]: *аблі*[пн]*уць, аку*[пн]*асць, ва*[пн]*а, заку*[пн]*ы, захо*[пн]*ы, кана*[пн]*ы, ка*[пн]*уць, ква*[пн]*ы, лы*[пн]*уць, сква*[пн]*асць, сле*[пн]*уць;* [пл]: *асі*[пл]*ы, са*[пл]*о, тра*[пл]*о, хры*[пл]*ы;*

[бв]: *паску*[бв]*аць;* [бн]: *абру*[бн]*ы, азя*[бн]*уць, бясхі*[бн]*асць, дзю*[бн]*уць, лячэ*[бн]*ы, патрэ*[бн]*ы;* [бл]: *гі*[бл]*ы, празя*[бл]*ы, скра*[бл]*о;*

[дв]: *абкі*[дв]*аць, скра*[дв]*аць;* [дн]: *абво*[дн]*ы, ба*[дн]*уць, мо*[дн]*ы, шко*[дн]*ы;* [джв]: *абгла*[джв]*аць, адна*[джв]*аць, абязво*[джв]*аць, перавярэ*[джв]*аць;*

[тв]: *агор*[тв]*аца, адві*[тв]*аца, дзя*[тв]*а, дра*[тв]*а, пі*[тв]*о, шы*[тв]*о;* [тн]: *выда*[тн]*ы, абаро*[тн]*ы, козы*[тн]*а: кру*[тн]*уцца;* [тл]: *ве*[тл]*ы, жы*[тл]*о, све*[тл]*ыня;*

[зв]: *аблі*[зв]*аць, дарэ*[зв]*аць, падпяра*[зв]*аць, прані*[зв]*аць, прыка*[зв]*аць, разні*[зв]*аць;* [зн]: *агры*[зн]*уцца, гарбу*[зн]*ы, гарэ*[зн]*ы, гра*[зн]*уць, кукуру*[зн]*ы, паслі*[зн]*уцца;* [зл]: *азы*[зл]*ы, адру*[зл]*ы, ве*[зл]*а (дзеясл. пр. ч. ж. р. адз. л.);

[св]: *дачэ*[св]*аць, зака*[св]*аць, падка*[св]*аца, падпі*[св]*аца;* [сл]: *абві*[сл]*асць, зага*[сл]*ы, кі*[сл]*ы, трэ*[сл]*а (дзеяс. пр. ч. ж. н. р. адз. л.);

[жв]: *абмаро*[жв]*аць, выцвярэ*[жв]*аць, дасма*[жв]*аць, запу*[жв]*аць, зву*[жв]*аць, напу*[жв]*аца;* [жн]: *абло*[жн]*ы, бра*[жн]*ы, драпе*[жн]*ы, замо*[жн]*а, кру*[жн]*а, падсне*[жн]*ы, пу*[жн]*уць;* [жл]: *вы*[жл]*а;* [жм]: *ле*[жм]*а* (прастам. у выразе *лежма ляжаць);*

[шв]: *абме*[шв]*аць, загню*[шв]*аць, заду*[шв]*аць, запро*[шв]*аць, паме*[шв]*аць, ско*[шв]*аць;* [шм]: *кі*[шм]*а* (у выразе *кішма кішэць*); [шн]: *мота*[шн]*а, падбру*[шн]*ы, паспе*[шн]*асць, сме*[шн]*ы, уві*[шн]*ы;* [шл]: *і*[шл]*а* (дзеясл. пр. ч. ж. р. адз. л.), *пры*[шл]*асць, пры*[шл]*ы;*

[чв]: *адка*[чв]*аць, азмро*[чв]*аць, скру*[чв]*аць;* [чн]: *конава*[чн]*ы, падапе*[чн]*ы, пераднавальні*[чн]*ы, я*[чн]*ы;*

[кв]: *адбры*[кв]*аца, апла*[кв]*аца, даска*[кв]*аць, дашу*[кв]*аца, пагру*[кв]*аць, узвала*[кв]*аца;* [кн]: *абвы*[кн]*уць, бля*[кн]*уць, вышу*[кн]*ы, гра*[кн]*уць, заі*[кн]*уцца, кры*[кн]*уць;* [кл]: *бля*[кл]*ы, выпу*[кл]*асць, замо*[кл]*ы, звы*[кл]*ы, пані*[кл]*ы, ця*[кл]*а* (дзеясл. пр. ч. ж. р. адз. л.);

[хв]: *адма*[хв]*аць, даню*[хв]*аць, заплю*[хв]*аць, пакалы*[хв]*аць, пачу*[хв]*аць;* [хм]: *ці*[хм]*аны;* [хн]: *аглу*[хн]*уць, вару*[хн]*уць, жу*[хн]*уць, ма*[хн]*аты, ма*[хн]*уць, падпу*[хн]*уць, пу*[хн]*аты, ро*[хн]*уць, усо*[хн]*уцца, ці*[хн]*уць;* [хл]: *дра*[хл]*асць, запу*[хл]*ы, спра*[хл]*а, пажу*[хл]*а* (дзеясл. пр. ч. ж. н. р. адз. л.), *успу*[хл]*ы, ча*[хл]*ы;*

[гв]: *выстру*[гв]*аць, залы*[гв]*аць, уздры*[гв]*аць;* [гм]: *бе*[гм]*а* (у выразе *бегма бегчы*); [гн]: *адры*[гн]*уць, засмя*[гн]*уць, сто*[гн]*уць, усма*[гн]*уць;* [гл]: *адле*[гл]*асць, засмя*[гл]*ы, збе*[гл]*ы, звя*[гл]*о, зле*[гл]*ы, спасці*[гл]*а* (дзеясл. пр. ч. ж. р. адз. л.).

На стыку кораня і суфікса сустракаюцца наступныя спалучэнні цвёрдага шумнага і мяккага санорнага:

[пн']: *ва*[пн']*як, кру*[пн']*ік, лі*[пн']*як;* [пл']: *ку*[пл']*я, паке*[пл']*івы* (сустракаецца ў мастацкай літаратуры), *ру*[пл']*івы, уто*[пл']*ены, зато*[пл']*ены;*

[бн']: *аса*[бн']*як*, *лячэ*[бн']*іца*, *паглы*[бн']*ік*, *скра*[бн']*ік*; [бл']: *аса*[бл']*івы*, *прыва*[бл']*івы*, *скрэ*[бл']*і* (дзеясл. пр. ч. мн. л.); [бй]: *ба*[бй]*ё* (разм. пагард.), *бязры*[бй]*е*, (*бязрыб'е*), *вера*[бй]*іны* (*вераб'іны*), *вотру*[бй]*е* (*вотруб'е*), *зрэ*[бй]*е* (*зрэб'е*), *надло*[бй]*е* (*надлоб'е*);

[фн']: *штра*[фн']*ік*;

[дн']: *во*[дн']*ік*, *мо*[дн']*ік*, *разра*[дн']*ік*;

[тн']: *бра*[тн']*і*, *галубя*[тн']*ік*, *воца*[тн']*ік*, *звільга*[тн']*ець*, *кала*[тн']*я*, *кве*[тн']*ік*, *сібары*[тн']*іча́ць*, *спры*[тн']*юга* (разм.); [тл']; *ве*[тл']*івы*, *віра*[тл']*івы*, *клапа*[тл']*іва*, *све*[тл']*ячок*;

[жл']: *бера*[жл']*івы*, *знява*[жл']*івы*, *пу*[жл']*івасць*; [жн']: *бага*[жн']*ік*, *дра*[жн']*ілка*, *ле*[жн']*я*, *лы*[жн']*ік*;

[шм']: *гра*[шм']*і* (Т. скл. мн. л.); [шн']: *але*[шн']*ік*, *ві*[шн']*як*, *мура*[шн']*ік*, *насме*[шн']*іца*, *са*[шн']*ік*, *су*[шн']*як*; [шл']: *заду*[шл']*івы*, *засу*[шл']*іва*, *усме*[шл']*іва*;

[чн']: *агуро*[чн']*ік*, *ву*[чн']*ёўскі*; [чл']: *аба*[чл']*іва*, *добразы*[чл']*івасць*, *зы*[чл']*іва*, *супярэ*[чл']*івы*;

[кн']: *гру*[кн']*і*, *мо*[кн']*іце* (дзеясл. заг. л. 2 ас. мн. л.), *сту*[кн']*і*; [кл']: *бры*[кл']*івы*, *вала*[кл']*і* (дзеясл. пр. ч. мн. л.), *кры*[кл']*івы*, *прані*[кл']*івы*;

[хн']: *бра*[хн']*я*, *зма*[хн']*е* (дзеясл. буд. ч. 3 ас. адз. л.), *ку*[хн']*я*, *пара*[хн']*ець*; [хл']: *адра*[хл']*елы*, *бра*[хл']*івы*, *жа*[хл']*івы*, *зды*[хл']*я*, *пу*[хл']*іна*, *пы*[хл']*івасць*;

[гн']: *звя*[гн']*я*, *пра*[гн']*ецца* (дзеясл. цяп. ч. 3 ас. адз. л.); [гл']: *звя*[гл']*івы*, *смя*[гл']*і* (дзеясл. пр. ч. мн. л.), *шмы*[гл']*івая* (у мове мастацкай літаратуры), *шчы*[гл']*ік*;

[цн']: *ба*[цн']*і* (дзеясл. заг. л. 2 ас. адз. л.), *ма*[цн']*ець*.

На стыку кораня і суфікса са спалучэнняў «мяккі шумны + цвёрды санорны» зафіксавана толькі [дз'м] у дзеяслове загаднага ладу *ся*[дз'м]*а* (*сядзьма*), а са спалучэнняў «мяккі шумны + мяккі санорны» адзначаны наступныя:

[з'н']: *бярэ*[з'н']*ік*, *валту*[з'н']*я*, *гарбу*[з'н']*ік*, *ла*[з'н']*як*; [з'л']: *бая*[з'л']*івец*, *ве*[з'л']*і* (дзеясл. пр. ч. мн. л.), *гарэ*[з'л']*івы*, *гры*[з'л']*і* (дзеясл. пр. ч. мн. л.), *зара*[з'л']*івы*, *праніз*[з'л']*івасць*;

[с'н']: *ка*[с'н']*ік*, *міту*[с'н']*я*; [с'л']: *кары*[с'л']*івец*, *кі*[с'л']*яціна*, *не*[с'л']*і* (дзеясл. пр. ч. мн. л.).

У с к л а д с у ф і к с а ў уваходзяць наступныя двухчленныя спалучэнні, якія складаюцца з першага шумнага і другога санорнага зычных:

[бн]: *лячэ*[бн]*ы*, *урачэ*[бн]*ы*;

[дд]: *кава*[дл]*а*, *страшы*[дл]*а*;

[тв]: *шы*[тв]*о*; [тн]: *бліско*[тн]*ы*, *цынго*[тн]*ы*;

[зм]: *рэфармі*[зм], *рэўматы*[зм]; [зн]: *вялі*[зн]*ы*, *крыві*[зн]*а*, *таўшчэ*[зн]*ы*, *фібро*[зн]*ы*;

[сн]: *друга*[сн]*ы*, *славе*[сн]*ы*, *цяле*[сн]*ы*;

[чн]: *метафары*[чн]*ы*;

[хн]: *дзету*[хн]*а*, *дочу*[хн]*а*;

[тн']: *бразга*[тн']*я*, *мярзо*[тн']*ік*;

[чн']: *саба*[чн']*ік*;

[шн']: *баяры*[шн']*я*.

Частка спалучэнняў шумных і санорных сустракаецца на стыку суфіксаў:

[кн]: *кра*[кн]*уць*; [жн']: *бадзя*[жн']*іцкі*, *валацу*[жн']*ік*, *сабата*[жн']*ік*; [шн']: *валю*[шн']*ік*, *валю*[шн']*я*, *яе*[шн']*я*.

Н а с т ы к у п р ы с т а ў к і і к о р а н я адзначаны наступныя спалучэнні двух зычных, першы з якіх — шумны, а другі — санорны; спачатку разгледзім спалучэнне двух цвёрдых гукаў:

[бв]: *а*[бв]*ажваць*, *а*[бв]*арыць*; [бл]: *а*[бл]*оў*, *а*[бл]*упліваць*; [бм]: *а*[бм]*азваць*, *а*[бм]*ыльваць*, *во*[бм]*аль*, *су*[бм]*арына*; [бр]: *а*[бр]*абіць*, *а*[бр]*асіць*, *а*[бр]*ахманіць*; [бн]: *а*[бн]*осак*;

[дв]: *па*[дв]*абіць*, *пера*[дв]*аенны*; [дн]: *пера*[дн]*авальнічны*; [дм]: *а*[дм]*аўляць*, *па*[дм]*ачыць*, *пера*[дм]*айскі*, *пера*[дм]*ова*; [дл]: *а*[дл]*ажыць*, *на*[дл]*обны*, *па*[дл]*абуньвацца*; [др]: *а*[др]*акацца*, *на*[др]*э*-

*зацьц, па*[др]*адзіць;*

[зв]: *бя*[зв]*ухі,* [зв]*ыкацца, па*[зв]*алакаць, ра*[зв]*арушыць, у*[зв]*одны;* [зм]: *бе*[зм]*аторны,* [зм]*аніць, па*[зм]*ываць, ра*[зм]*азаць, у*[зм]*ахваць;* [зн]: *бе*[зн]*адзейны, па*[зн]*осіць, у*[зн]*асіцца;* [зл]: [зл]*опаць,* [зл]*ысець, па*[зл]*упліваць, ра*[зл]*апісты, у*[зл]*ахмаціць;* [зр]: *бе*[зр]*укайка,* [зр]*ушыць, па*[зр]*азаць, ра*[зр]*агатацца, у*[зр]*ыць;*

[жв]: *мі*[жв]*ольны;* [жн]: *мі*[жн]*ародны, мі*[жн]*ацыянальны;* [жр]: *мі*[жр]*адковы* (с.-г.), *мі*[жр]*аддзе, мі*[жр]*аённы, мі*[жр]*эчча;*

[шв]: *звы*[шв]*артасць;* [шм]: *звы*[шм]*агутны;* [шр]: *звы*[шр]*анні;*

прыклады спалучэнняў цвёрдага і мяккага зычных:

[бй]: *а*[бй]*езд (аб'езд);* [бв']: *а*[бв']*есці, а*[бв']*ісаць, неа*[бв']*ержана, самаа*[бв']*інавачванне, су*[бв']*енцыя;* [бм']: *а*[бм']яльчэць, *а*[бм']*ярзаць, во*[бм']*ешка, самаа*[бм']*ежаванне;* [бн']: *а*[бн']*есці;* [бл']: *а*[бл']*япіха, су*[бл']*імат;*

[дй]: *а*[дй]*енчыць (ад'енчыць), а*[дй]*езд (ад'езд);* [дв']: *а*[дв']*еславаць, а*[дв']*іць, на*[дв']*язаць, па*[дв']*іць, пера*[дв']*ясенні;* [дн']: *а*[дн']*імаць, па*[дн']*ябенне;* [дм']: *а*[дм']*етны, во*[дм']*ель, па*[дм']*ен, па*[дм']*есці, пра*[дм']*есце;* [дл']: *а*[дл']*ётаць, а*[дл']*яжаць, па*[дл']*езці;*

[жл']: *мі*[жл']*едавіковы;* [жй]: *мі*[жй]*ярусны;*

[шм']: *звы*[шм']*ерны;* [шл']: *звы*[шл']*імітны;*

спалучэнні двух мяккіх зычных:

[з'й]: [з'й]*едлівы (з'едлівы), ра*[з'й]*яраны (раз'яраны), у*[з'й]*езд (уз'езд), у*[з'й]*юшаны (уз'юшаны);* [з'в']: [з'в']*ейваць,* [з'в']*екаваць,* [з'в']*есці, ра*[з'в']*іднецца;* [з'н']: *па*[з'н']*імаць;* [з'м']: *пра*[з'м']*ерны, ра*[з'м']*яраць;* [з'л']: [з'л']*егчыся,* [з'л']*ітаваць, ра*[з'л']*іў;*

[дз'й]: *супра*[дз'й]*яддзе (супрацьяддзе);*

[ц'л']: *супра*[ц'л']*еглы (супрацьлеглы).*

Частка спалучэнняў шумных зычных з санорнымі ўтвараюцца **на стыку прыставак:**

[дв]: *па*[дв]*ыпіць, пера*[дв]*ыбарны, пра*[дв]*ызначаць;* [дн]: *па*[дн]*алегчы;*

[зв]: *бя*[зв]*ыезны, бя*[зв]*ыплатна;* [зн]: *бе*[зн]*аглядны;* [зр]: *бе*[зр]*азважна.*

**На стыку кампанентаў складаных і складанаскарочаных слоў** сустракаюцца наступныя спалучэнні цвёрдых першага шумнага і другога санорнага гукаў:

[пм]: *нэ*[пм]*ан;*

[фм]: *го*[фм]*аршал;* [фр]: *про*[фр]*абота;*

[тв]: *Дзяржпалі*[тв]*ыд, палітасве*[тв]*учылішча, шма*[тв]*алентны;* [тм]: *бале*[тм]*айстар, бла*[тм]*айстар, гро*[тм]*арсель (грот-марсель), гро*[тм]*ачта (грот-мачта), куль*[тм]*асавы, лі*[тм]*антаж, шма*[тм]*аторны;* [тн]: *шма*[тн]*ацыянальны;* [тр]: *шма*[тр]*азовы;*

[зв]: *сельга*[зв]*ытворчасць (сельгасвытворчасць);* [зр]: *фі*[зр]*ук;*

[цв]: *спе*[цв]*опратка;*

[км]: *ро*[км]*узыка (рок-музыка);*

[хв]: *Дзяржтэ*[хв]*ыд, дву*[хв]*окі, тро*[хв]*угольнік;* [хм]: *ме*[хм]*антаж, тро*[хм]*аторны;* [хн]: *дву*[хн]*огі;* [хр]: *дву*[хр]*адкоўе, тро*[хр]*адка, тро*[хр]*азовы, тэ*[хр]*аботнік;*

[фб']: *пра*[фб']*ілет, пра*[фб']*юлетэнь;*

[дм']: *галоўбу*[дм']*ехмантаж;*

[тв']: *шма*[тв']*яковы;* [тм']: *шма*[тм']*есны, шма*[тм']*етровы;* [тл']: *шма*[тл']*ікі, шма*[тл']*юдны;* [тй]: *шма*[тй]*ярусны (шмат'ярусны);*

[цм']: *на*[цм']*еншасць;*

[хв']: *дву*[хв']*інтавы; тро*[хв']*ёрстка;* [хм']: *дву*[хм']*іліметровы, тро*[хм']*ерны, чатыро*[хм']*есны;* [хл']: *дву*[хл']*ітровы;*

[хй]: *дву*[хй]*ярусны (двух'ярусны).*

На стыку асновы і канчатка спалучэнні шумных з санорнымі сустракаюцца ў назоўніках трэцяга скланення ў формах словазмянення: [бй]: *глы*[бй]*ю (глыб'ю)*.

Як паказваюць вышэй пададзеныя прыклады, многія з пералічаных спалучэнняў сустракаюцца толькі ў пэўнай пазіцыі. Так, на стыку кампанентаў складаных і складанаскарочаных слоў ужываюцца спалучэнні заднеязычных з мяккім санорным [й], якія не адзначаюцца ў іншых пазіцыях.

## § 4.10. ДВУХЧЛЕННЫЯ СПАЛУЧЭННІ ЗЫЧНЫХ ТЫПУ «САНОРНЫ + ШУМНЫ»

У беларускай літаратурнай мове спалучэнні тыпу «санорны + шумны» сустракаюцца ў пачатку, сярэдзіне і канцы слова. Спалучэнні [ў] з шумнымі зычнымі магчымы толькі пасля слоў, якія заканчваюцца на галосны:

[ўб]: *не*[ўб]*авіць;* [ўп]: *не*[ўп]*ацець;* [ўд]: *не*[ўд]*асканаліцца;* [ўт]: *не*[ўт]*аміцца;* [ўз]: *не*[ўз]*аконіць;* [ўс]: *не*[ўс]*адзіць;* [ўж]: *не*[ўж]*ываць;* [ўш]: *не*[ўш]*анаваць;* [ўдж]: *не*[ўдж]*аліць;* [ўч]: *не*[ўч]*ытаць;* [ўц]: *не*[ўц]*алець.*

Астатнія спалучэнні санорных з шумнымі зычнымі сустракаюцца ў пачатку слова вельмі рэдка. Прыгадаем:

[лж]: [лж]*ывасць,* [лж]*ывы,* [лж]*энавука,* [лж]*эсведка;*

[рж]: [рж]*а,* [рж]*авы,* [рж]*аць,* [рж]*эўніна;* [рдз']: [рдз']*енне,* [рдз']*ест,* [рдз']*яны;*

[л'г]: [л'г]*ота;* [л'дз']: [л'дз']*інка (льдзінка).*

Але больш пашыранымі з'яўляюцца дублетныя формы з прыстаўным галосным [і]: *ілжывасць, ілжывы, ілжэнавука, ілжэсведка, ільгота, ільдзінка, ірдзенне, ірдзест, ірдзяны, іржа, іржавы, іржаць, іржэўніна.*

У сярэдзіне слова вядома максімальная колькасць спалучэнняў, якія складаюцца з санорных і шумных зычных.

З двух цвёрдых, санорнага і шумнага, складаюцца наступныя спалучэнні зычных:

[мп]: *і*[мп]*эт;* [мб]: *цы*[мб]*алы;* [мф]: *ка*[мф]*ара;* [мт]: *экспро*[мт]*ам;* [мз]: *га*[мз]*аць;* [мс]: *се*[мс]*от;* [мж]: *за*[мж]*эць;* [мш]: *а*[мш]*ара;* [мч]: *ля*[мч]*ыць;* [мц]: *любі*[мц]*ы;* [мх]: *чаро*[мх]*авы;* [мк]: *пля*[мк]*асць;* [мг]: *і*[мг]*а;*

[нп]: *но*[нп]*арэль;* [нф]: *ска*[нф]*ужана;* [нд]: *ла*[нд]*ыш;* [нт]: *га*[нт]*эль;* [нз]: *бры*[нз]*а;* [нс]: *ка*[нс]*ультант;* [нж]: *кі*[нж]*ал;* [нш]: *ме*[нш]*ы;* [нч]: *ко*[нч]*аны;* [нг]: *і*[нг]*аляцыя;* [нх]: *ху*[нх]*уз;* [ндз]: *кся*[ндз]*оўскі;* [ндж]: *пара*[ндж]*а;* [нц]: *се*[нц]*ы;* [нк]: *бры*[нк]*аць;*

[лп]: *за*[лп]*ам;* [лб]: *ба*[лб]*атаць;* [лф]: *а*[лф]*авітны;* [лд]: *фа*[лд]*а;* [лт]: *ба*[лт]*ыйскі;* [лз]: *закі*[лз]*аць;* [лс]: *га*[лс]*аў;* [лж]: *ва*[лж]*анін;* [лч]: *руса*[лч]*ын;* [лц]: *ха*[лц]*эдон;* [лк]: *бу*[лк]*а;* [лг]: *са*[лг]*аць;*

[рп]: *пу*[рп]*ур;* [рб]: *па-се*[рб]*ахарвацку;* [рф]: *па*[рф]*ума;* [рдж]: *пага*[рдж]*аць;* [рд]: *га*[рд]*эроб;* [рт]: *па*[рт]*ызан;* [рз]: *заму*[рз]*аць;* [рс]: *ба*[рс]*ук;* [рж]: *ма*[рж]*аня;* [рш]: *вя*[рш]*аліна;* [рч]: *бу*[рч]*анне;* [рц]: *та*[рц]*аваць;* [рк]: *бу*[рк]*аць;* [рх]: *кату*[рх]*аць;* [рг]: *та*[рг]*ануць.*

З першага цвёрдага санорнага і мяккага другога шумнага складаюцца наступныя спалучэнні:

[мп']: *штэ*[мп']*ель;* [мб']: *пла*[мб']*ір;* [мф']; *а*[мф']*ібія;* [мдз']: *восе*[мдз']*есят;* [мц']: *затры*[мц']*ець;* [мз']: *кра*[мз']*ель* (выкл.); [мс']: *палічы*[мс']*я* (дзеясл. заг. л. 1 ас. мн. л.); [мк']: *стро*[мк']*і;* [мх']: *пры*[мх']*і* (Н. скл. мн. л.); [мг']: *і*[мг']*і* (Р. скл. адз. л.); [нх']: *бра*[нх']*іяльны;* [нк']: *во*[нк']*і;* [нг']: *а*[нг']*ідрыд,* *і*[нг']*ібітар* (хім.);

[лп’]: *ма*[лп’]*яня;* [лф’]: *ша*[лф’]*ейны;* [лц’]: *згва*[лц’]*іць;* [лз’]: *на Во*[лз’]*е;* [лк’]: *зо*[лк’]*і;* [лх’]: *Ка*[лх’]*іда;*

[рп’]: *ка*[рп’]*ець;* [рб’]: *свя*[рб’]*ячка;* [рф’]: *та*[рф’]*яністы;* [рдз’]: *жа*[рдз’]*іна;* [рц’]: *ка*[рц’]*ець;* [рз’]: *ма*[рз’]*іст;* [рс’]: *уве*[рс’]*е;* [рк’]: *ва*[рк’]*і;* [рх’]: *а*[рх’]*ітэктар;* [рг’]: *эне*[рг’]*ічны.*

З першага мяккага санорнага і другога цвёрдага шумнага складаюцца наступныя двухчленныя спалучэнні зычных, якія сустракаюцца ў сярэдзіне слова:

[н’б]: *га*[н’б]*а (ганьба);* [н’ч]; *каме*[н’ч]*ык (каменьчык);* [н’к]: *ба*[н’к]*а (банька);*

[л’п]: *ця*[л’п]*ук;* [л’б]: *бу*[л’б]*оўнік (бульбоўнік);* [л’ф]: *а*[л’ф]*а (альфа);* [л’д]: *бу*[л’д]*озер (бульдозер);* [л’т]: *ку*[л’т]*авы (культавы);* [л’з]: *гі*[л’з]*авы (гільзавы);* [л’с]: *ва*[л’с]*аваць (вальсаваць);* [л’ш]: *бо*[л’ш]*ы (большы);* [л’ч]: *мя*[л’ч]*эйшы (мяльчэйшы);* [л’ц]: *па*[л’ц]*авы (пальцавы);* [л’к]: *бу*[л’к]*ат (булькат);* [л’х]: *во*[л’х]*а (вольха);* [л’г]: *ку*[л’г]*аць (кульгаць);*

[йб]: *ла*[йб]*а;* [йф]: *та*[йф]*ун;* [йд]: *за*[йд]*у* (дзеясл. буд. ч. 1 ас. адз. л.); [йт]: *фле*[йт]*а;* [йз]: *пе*[йз]*ажыст;* [йс]: *абго*[йс]*аць;* [йш]: *па*[йш]*оў* (дзеясл. пр. ч. 1 ас. адз. л.); [йч]: *за*[йч]*аня;* [йц]: *забо*[йц]*а;* [йк]: *кле*[йк]*асць;* [йх]: *ба*[йх]*авы.*

З двух мяккіх зычных, санорнага і шумнага, складаюцца наступныя спалучэнні, якія сустракаюцца ў сярэдзіне слова:

[н’б’]: *га*[н’б’]*іць (ганьбіць);* [н’дз’]: *бла*[н’дз’]*ін;* [н’ц’]: *ка*[н’ц’]*ік;* [н’з’]: *бе*[н’з’]*інавы;* [н’с’]: *ка*[н’с’]*ервы;* [н’к’]: *ба*[н’к’]*і* (Р. скл. адз. л.);

[йп’]: *тэлета*[йп’]*іст;* [йб’]: *се*[йб’]*іт;* [йф]: *у се*[йф’]*е* (М. скл. адз. л.); [йдз’]: *за*[йдз’]*іся* (дзеясл. заг. л. 2 ас. адз. л.); [йц’]: *бу*[йц’]*е* (дзеясл. заг. л. 2 ас. мн. л.); [йз]: *у та*[йз’]*е* (М. скл. адз. л.); [йс’]: *крэ*[йс’]*ер;* [йг’]: *та*[йг’]*і* (Р. скл. адз. л.); [йх’]: *э*[йх’]*інін;* [йк’]: *бо*[йк’]*і;*

[л’п’]: *а*[л’п’]*інізм (альпінізм);* [л’б’]: *бу*[л’б’]*янік;* [л’ф’]: *а*[л’ф’]*е* (Р. скл. адз. л.); [л’дз’]: *разгі*[л’дз’]*яйнічаць;* [л’ц’]: *вызва*[л’ц’]*е (вызвальце)* (дзеясл. заг. л. 2 ас. мн. л.); [л’з’]: *аб Во*[л’з’]*е (Вользе)* (М. скл. адз. л.); [л’с’]: *фа*[л’с’]*іфікат (фальсіфікат);* [л’г’]: *су*[л’г’]*ін (сульгін);* [л’х’]: *во*[л’х’]*і (вольхі)* (Р. скл. адз. л.); [л’к’]: *по*[л’к’]*і (полькі)* (Р. скл. адз. л.).

У канцы слова адзначаны наступныя спалучэнні санорных і шумных зычных:

[ўп]: *када*[ўп] *(кадаўб), нато*[ўп]; [ўс]: *анчо*[ўс]; [ўш]: *ко*[ўш], *ло*[ўш] *(лоўж);* [ўц’]: *жо*[ўц’]; [ўх]: *ні*[ўх], *до*[ўх] *(доўг);* [ўк]: *во*[ўк], *то*[ўк];

[мп]: *тэ*[мп]; [мф]: *трыу* [мф]; [мт]: *пашта*[мт]; [мш]: *за*[мш]; [мх]: *чаро*[мх] (Р. скл. мн. л.);

[нт]: *ка*[нт], *фо*[нт] *(фонд);* [нс]: *сэ*[нс], *цэ*[нс] *(цэнз);* [нш]: *рэва*[нш], *чы*[нш], *эпо*[нш] *(эпонж);* [нч]: *фрэ*[нч]; [нх]: *го*[нх] *(гонг), стро*[нх] *(стронг)* (Р. скл. мн. л.); [нк]: *та*[нк];

[лп]: *ма*[лп] (Р. скл. мн. л.), *ко*[лп] *(колб)* (Р. скл. мн. л.); [лт]: *гва*[лт]; [лс]: *га*[лс];

[рп]: *віначэ*[рп], *ге*[рп] *(герб);* [рф]: *ве*[рф]; [рт]: *жа*[рт], *экспе*[рт]; [рс]: *піле*[рс], *фа*[рс]; [рш]: *ве*[рш], *ма*[рш], *ша*[рш] *(шарж);* [рх]: *паве*[рх]; [рф]: *а*[рф]*а, шу*[рф];

[н’ч]: *ня*[н’ч] *(няньч)* (дзеясл. заг. л. 2 ас. адз. л.); [н’ш]: *ра*[н’ш] *(раньш)* (мастацк.);

[л’п]: *ска*[л’п] *(скальп), стрэ*[л’п] *(стрэльб)* (Р. скл. мн. л.); [л’ф]: *шэ*[л’ф] *(шэльф);* [л’т]: *пу*[л’т] *(пульт), дэ*[л’т] *(дэльт)* (Р. скл. мн. л.), *ты*[л’т] *(тыльд)* (Р. скл. мн. л.); [л’с]: *ва*[л’с] *(вальс);* [л’ш]: *фа*[л’ш] *(фальш);* [л’х]: *во*[л’х] (Р. скл. мн. л.);

[рц']: *сме*[рц'] *(смерць);* [рс']: *фе*[рс'] *(ферзь);*

[йп]: *тэлета*[йп]; [йф]: *не дрэ*-[йф] (мастацк.); [йс]: *гю*[йс], *рэ*[йс]; [йх]: *шэ*[йх].

Звяртае на сябе ўвагу тое, што ў канцы слова двухчленныя спалучэнні санорных з шумнымі сустракаюцца ў абмежаванай колькасці лексем (часцей запазычаных) і ў абмежаванай колькасці словаформ, а спалучэнні з двух мяккіх санорнага і шумнага ў такой пазіцыі наогул не сустракаюцца.

Лексема *арангутанг* ужываецца ў літаратурнай мове як з канцавым спалучэннем зычных [нх], так і без яго — *арангутан.*

У адносінах да марфемнай структуры словаформ спалучэнні зычных «санорны+шумны» прадстаўлены па-рознаму, што відаць з аналізу іх месцазнаходжання ў межах слова.

У пачатку кораня зафіксаваны наступныя спалучэнні з цвёрдых санорнага і шумнага:

[ўп]: *за*[ўп]*арціцца* (разм.); [ўб]: *не*[ўб]*ога;* [ўд]: *за*[ўд]*авецъ, на*[ўд]*алую, ня*[ўд]*аліца;* [ўт]: *не*[ўт]*аймавана;* [ўз]: *не*[ўз]*аемны;* [ўч]: *за*[ўч]*ора;* [ўх]: *на*[ўх]*абах;* [ўк]: *не* [ўк]*азваць;* [ўг]: *не*-[ўг]*амонны;*

[мж]: [мж]*эльскі (Мжэльскі)* (прозв.); [мш]: *абы*[мш]*эць;* [мч]: *да*[мч]*ацца;* [мц]: [мц]*ыры (Мцыры);*

[лб]: [лб]*а;* [лж]: [лж]*энавука;* [лг]: [лг]*ацъ;* [лх]: [лх]*аса (Лхаса);*

[рт]: [рт]*уць;* [рж]: [рж]*авы.*

Вось прыклады спалучэнняў цвёрдага санорнага і мяккага шумнага:

[ўдз']: *не*[ўдз']*ельны;* [ўц']: *па*-[ўц']*якаць;* [ўз']: *не*[ўз']*яць;* [ўс']: *па*[ўс']*юдны;*

[мдз']: [мдз']*івані (Мдзівані,* прозв.);

[лб']: *на*[лб']*е* (М. скл. адз. л.);

[рдз']: [рдз']*ест,* [рдз']*енне.*

Спалучэнні мяккага санорнага і цвёрдага або мяккага шумнага нешматлікія: [йд]: *да*[йд]*у* (дзеясл. буд. ч. 1 ас. адз. л.); [л'д]: [л'д]*ы (льды),* [л'г]*ота (льгота);* [йдз']: *до*[йдз']*ем* (дзеясл. буд. ч. 1 ас. мн. л.); [л'дз']: [л'дз']*інка (льдзінка).*

Усе спалучэнні, якія адзначаны ў пачатку кораня, ужываюцца ў абмежаванай колькасці лексем. Спалучэнне [ў] з шумнымі зычнымі сустракаецца ў пачатку кораня часцей за ўсё ў выніку дээтымалагізацыі прыстаўкі *у-.*

У сярэдзіне кораня прадстаўлены наступныя спалучэнні цвёрдых санорных з шумнымі зычнымі:

[ўп]: *ка*[ўп]*ак;* [ўб]: *ка*[ўб]*асны;* [ўф]: *э*[ўф]*оніка;* [ўд]: *сно*-[ўд]*ацца;* [ўт]: *а*[ўт]*ар, на*[ўт]*ылус;* [ўз]: *ма*[ўз]*алей;* [ўч]: *ка*-[ўч]*ук, ка*[ўч]*эг;* [ўк]: *э*[ўк]*аліпт;*

[мп]: *і*[мп]*эт, ка*[мп]*анія, шы*-[мп]*анзэ;* [мб]: *ка*[мб]*айн;* [мф]: *ка*[мф]*орт;* [мт]: *та*[мт]*ам;* [мз]: *кра*[мз]*олі* (разм.); [мш]: *са*[мш]-*ыт;* [мч]: *жэ*[мч]*уг;* [мг]: *Су*[мг]-*аіт;*

[нб]: *ба*[нб]*аньерка, та*[нб]*ур;* [нф]: *ка*[нф]*уз, і*[нф]*армаваць;* [нд]: *га*[нд]*ола, жа*[нд]*ар, ка*[нд]-*уктар;* [нт]: *а*[нт]*ылопа, ко*[нт]*ур, мя*[нт]*уз;* [нз]: *бра*[нз]*алет, шымпа*[нз]*э;* [нс]: *а*[нс]*амбль, ма*[нс]-*арда;* [нж]: *і*[нж]*ынер, кі*[нж]*ал;* [нш]: *ві*[нш]*аваць, шы*[нш]*ыла;* [нч]: *га*[нч]*ар, ка*[нч]*ук, па*[нч]*оха;* [нц]: *і*[нц]*ыдэнт, ка*[нц]*ылярыя, ла*[нц]*уг;* [нк]: *і*[нк]*убатар, ка*[нк]*урэнт;* [нг]: *марэ*[нг]*а, та*[нг]*а;*

[лп]: *ша*[лп]*атлівы* (мастацк.); [лб]: *ба*[лб]*атуха;* [лф]: *а*[лф]*авіт;* [лд]: *бу*[лд]*авешка, ка*[лд]*уны, та*[лд]*ычыць;* [лт]: *ва*[лт]*узіць, со*[лт]*ыс, па*[лт]*ус;* [лс]: *пі*[лс]*удчына;* [лч]: *ка*[лч]*адан;* [лц]: *ха*[лц]*эдонавы;* [лк]: *а*[лк]*аголь, ба*[лк]*он;* [лх]: *Ба*[лх]*аш, Во*[лх]-*ай;* [лг]: *ба*[лг]*арын, га*[лг]*ан, га*[лг]*офа;*

[рп]: *га*[рп]*ун, се*[рп]*анцін;*

*інсты*[нкц']*е* (М. скл. адз. л.); [л'пт]: *ску*[л'пт]*ар* (*скульптар*); [рск']: *ку*[рск']*і*; [ртк']: *ку*[ртк']*і* (Р. скл. адз. л.); [ркс']: *ма*[ркс']*іст*; [йст]: *ма*[йст]*эрня*; [йск]: *прэ*[йск]*урант*; [ўс'ц']: *по*[ўс'ц'] (*поўсць*); [л'с'ц']: *пі*[л'с'ц']*ёвы* (*пільсцёвы*), *пі*[л'с'ц'] (*пільсць*).

На стыку кораня і суфікса ўжываюцца наступныя спалучэнні:

[ўск]: *ко*[ўск]*асць* (*коўзкасць*); [ўшч]: *та*[ўшч]*ыня*;

[мск]: *в'етна*[мск]*ая*; [мшч]: *дарэ*[мшч]*ына*;

[нтк]: *інтэліге*[нтк]*а*; [нтц]: *інтэліге*[нтц]*ы* (Д. скл. адз. л.); [ншч]: *бараба*[ншч]*ык*; [нск]: *сві*[нск]*ая*;

[рпк]: *се*[рпк]*а* (*сербка*); [ртк]: *гу*[ртк]*овы*; [ртц]: *адвё*[ртц]*ы* (Д. скл. адз. л.); [рск]: *зве*[рск]*ая*; [ршч]: *змо*[ршч]*аны*; [ршк]: *вя*[ршк]*овы*;

[ўпц']: *абдзя*[ўпц']*і* (*абдзяўбці*); [ўск']: *ко*[ўск']*і*; [ўс'ц']: *па*[ўс'ц']*і*;

[мск']: *сія*[мск']*і*;

[нтк']: *інтэліге*[нтк']*і* (Р. скл. адз. л.); [нск']: *старобі*[нск']*і*; [нцк']: *маркіта*[нцк']*і* (гіст.);

[л'ск]: *по*[л'ск]*ая* (*польская*); [л'шч]: *вастры*[л'шч]*ык* (*вастрыльшчык*);

[рпк']: *се*[рпк']*і* (*сербкі*) (Н. скл. мн. л.); [ртк']: *адвё*[ртк']*і* (Р. скл. адз. л.); [рск']: *ава*[рск']*і*; [ршк']: *вя*[ршк']*і*;

[йшч]: *мы*[йшч]*ык*; [йск]: *ра*[йск]*ая*; [йск']: *арме*[йск']*і*;

[н'ск']: *чэрве*[н'ск']*і* (*чэрвеньскі*);

[л'ск']: *анё*[л'ск']*і*;

[рс'ц']: *вя*[рс'ц']*іся* (*вярэціся*).

У склад суфіксаў уваходзяць спалучэнні:

[ўск]: *бацько*[ўск]*ая*; [нск]: *кантыя*[нск]*ая*; [рск]: *братэ*[рск]*ая*; [ўск']: *бацько*[ўск']*і*; [нск']: *кантыя*[нск']*і*; [рск']: *братэ*[рск']*і*; [йск]: *камбаджы*[йск]*ая*; [йск']: *камбаджы*[йск']*і*.

На стыку двух суфіксаў утвараецца спалучэнне [ршч]: *прадразвё*[ршч]*ык* (*прадразвёрстчык*) (мастацк.).

На стыку прыстаўкі і кораня бытуюць спалучэнні:

[ўсп]: *па*[ўсп]*ухаць*; [ўзб]: *сама*[ўзб]*уджэнне*; [ўзд]: *пры*[ўзд]*ымаць*; [ўзг]: *не*[ўзг]*аральны*; [ўст]: *па*[ўст]*аваць*; [ўсх]: *па*[ўсх]*одзіць*; [ўск]: *па*[ўск]*опваць*; [ўшч]: *па*[ўшч]*уваць*;

[нсп]: *тра*[нсп]*алярны*; [нск]: *тра*[нск]*антынентальны*;

[ўск']: *па*[ўск']*ідваць*; [ўс'п']: *па*[ўс'п']*іраць*; [ўс'ц']: *па*[ўс'ц']*іхаць*; [ўз'б']: *па*[ўз'б']*іваць*.

На стыку кампанентаў складаных слоў сустракаюцца спалучэнні:

[ўсп]: *напа*[ўсп]*ушчаны*; [ўст]: *напа*[ўст]*ойкі*;

[ндд]: *гра*[ндд]*ама* (*гранд-дама*); [нсф]: *тра*[нсф]*узія*; [нсц]: *міза*[нсц]*эна*; [ншт]: *ге*[ншт]*аб*; [нкп]: *пі*[нкп]*онг* (*пінг-понг*), *пі*[нкп]*онгавы* (*пінг-понгавы*);

[ртп]: *а*[ртп]*адрыхтоўка*; [рдб]: *спа*[рдб]*аза*; [рдз]: *спа*[рдз]*ала* (*спартзала*); [рдг]: *спо*[рдг]*арадок* (*спортгарадок*); [ржб]: *Дзя*[ржб]*анк*; [ржг]: *дзя*[ржг]*ас*; [ржд]: *дзя*[ржд]*эпартамент*; [ртт]: *спо*[ртт]*авары*; [рсп]: *шы*[рсп]*ажыў*; [ршп]: *дзя*[ршп]*азыка* (*дзяржпазыка*); [ршф]: *Дзя*[ршф]*онд* (*Дзяржфонд*); [ршт]: *Дзя*[ршт]*эхвыд* (*Дзяржтэхвыд*); [ршк]: *дзя*[ршк]*антроль* (*дзяржкантроль*); [ршц]: *дзя*[ршц]*ырк* (*дзяржцырк*); [рчп]: *ха*[рчп]*ункт*; [рчк]: *ха*[рчк]*амбінат*; [рджб]: *ха*[рджб]*аза* (*харчбаза*);

[л'тп]: *ку*[л'тп]*оезд* (*культпоезд*); [л'тф]: *ку*[л'тф]*онд* (*культфонд*); [л'тт]: *ку*[л'тт]*авары* (*культтавары*); [л'дг]: *ку*[л'дг]*андаль* (*культгандаль*);

[рдб']: *па*[рдб']*юро* (*партбюро*); [рддз']: *па*[рддз']*яржкантроль* (*партдзяржкантроль*); [ржб']: *дзя*[ржб']*юджэт*;

[л'тф']: *му*[л'тф']*ільм* (*мультфільм*);

[рц'ф']: *чвэ*[рц'ф']*інал* (*чвэрцьфінал*);

[ўс'ц']: *напа*[ўс'ц']*ёрты;* [ўс'ф']: *напа*[ўс'ф']*ерычны;*
[йсп]: *ра*[йсп]*ажыўсаюз;* [йзг]: *вышэ*[йзг]*аданы;* [йст]: *вышэ*[йст]*аячы;* [йск]: *ніжэ*[йск]*азаны.*

## § 4.16. ТРОХЧЛЕННЫЯ СПАЛУЧЭННІ ЗЫЧНЫХ «САНОРНЫ + ШУМНЫ + САНОРНЫ»

У беларускай літаратурнай мове трохчленныя спалучэнні зычных «санорны+шумны+санорны» ў пачатку слова сустракаюцца вельмі рэдка: [л'с'н']: [л'с'н']*іцца (льсніцца).*

У сярэдзіне слова распаўсюджаны наступныя спалучэнні зычных тыпу «санорны+шумны+санорны»:

[ўбв]: *абдзё*[ўбв]*аць;* [ўзв]: *пазако*[ўзв]*аццa;* [ўджв]: *спра*[ўджв]*аццa;* [ўжв]: *прадо*[ўжв]*аць;* [ўтв]: *нова*[ўтв]*ораны;* [ўчв]: *памо*[ўчв]*аць;* [ўхв]: *напа*[ўхв]*оры;* [ўкв]: *пашчо*[ўкв]*аць;* [ўдм]: *па*[ўдм]*урцку;* [ўсм]: *та*[ўсм]*атасць;* [ўхм]: *па*[ўхм]*ызняк;* [ўтн]: *бо*[ўтн]*уцца;* [ўдн]: *бяскры*[ўдн]*а;* [ўкн]: *дзя*[ўкн]*уць;* [ўпл]: *па*[ўпл]*ываць;* [ўзл]: *па*[ўзл]*азіць;* [ўсл]: *ня*[ўсл]*ужлівы;* [ўкл]: *па*[ўкл]*адаць;* [ўтр]: *за*[ўтр]*ашні;* [ўдр]: *па*[ўдр]*ымота;* [ўзр]: *па*[ўзр]*астаць;* [ўкр]: *па*[ўкр]*уг;* [ўгр]: *па*[ўгр]*оша;*

[ўхв']: *па*[ўхв']*іліны;* [ўбн']: *да*[ўбн']*я;* [ўжн']: *да*[ўжн']*ік;* [ўшн']: *за*[ўшн']*іца;* [ўгн']: *напа*[ўгн']*ілы;* [ўдл']: *кры*[ўдл']*івы;* [ўгл']: *па*[ўгл']*ядацца;* [ўпл']: *па*[ўпл']*яшкі;*

[ўц'в']: *напа*[ўц'в']*ёрды;* [ўз'м']: *па*[ўз'м']*ены;* [ўз'л']: *не*[ўз'л']*юбіць;* [ўс'м']: *за*[ўс'м']*іхацца;* [ўс'л']: *па*[ўс'л']*япы;* [ўз'н']: *пры*[ўз'н']*яты;* [ўпй]: *па*[ўпй]*яны;*

[мкн]: *вы*[мкн]*уць;* [мпр]: *зы*[мпр]*авізаваць;* [мбр]: *і*[мбр]*ычак* (уст.); [мтр]: *бу*[мтр]*эст;* [мкр]: *да*[мкр]*аціць* (мастацк.);

[мкн']: *і*[мкн']*енне;* [мпл']: *ка*[мпл']*ект;* [мбл']: *э*[мбл']*ема;* [мфл']: *па*[мфл']*ет;* [мхл']: *пры*[мхл']*івы;* [мгл']: *за*[мгл']*іць;* [мс'л']: *по*[мс'л']*іва;*

[ндв]: *бра*[ндв]*ахта;* [нджв]: *вывэ*[нджв]*аць;* [ндм]: *бра*[ндм]*айр;* [ндн]: *кама*[ндн]*ы;* [нтн]: *гала*[нтн]*а;* [нсн]: *пе*[нсн]*э;* [нпл]: *ге*[нпл]*ан;* [нкл]: *наме*[нкл]*атура;* [нгл]: *ка*[нгл]*амерат;* [нтр]: *філа*[нтр]*оп;* [нхр]: *сі*[нхр]*анізаваць;* [нкр]: *аба*[нкр]*уціцца;* [нгр]: *ка*[нгр]*эс;*

[нкв']: *і*[нкв']*ізітар;* [нгв']: *са*[нгв']*інік;* [нтн']: *цэ*[нтн']*ер;* [нфл']: *ка*[нфл']*ікт;* [нбл']: *га*[нбл']*івы;* [нцл']: *ка*[нцл']*ер;* [нгл']: *вя*[нгл']*ярня;* [ндзл']: *пэ*[ндзл']*ік;* [ндл']: *га*[ндл']*ёвы;* [н'чв]: *выня*[н'чв]*аць (выняньчваць);* [нц'в']: *здра*[нц'в']*елы;* [нс'л']: *тра*[нс'л']*яцыя;* [н'ц'й]: *ра*[н'ц'й]*е (ранц'е);*

[лпл]: *жы*[лпл]*ошча;* [лзв]: *раскі*[лзв]*аць;* [лкл]: *праё*[лкл]*ы;*

[л'фр]: *ва*[л'фр]*аміт (вальфраміт,* мінерал); [л'тр]: *у*[л'тр]*амарын;* [л'хн]: *пу*[л'хн]*ы (пульхны);* [л'кн]: *бу*[л'кн]*уць (булькнуць);* [л'гв]: *наку*[л'гв]*аць (накульгваць);* [л'кн']: *бу*[л'кн']*і* (дзеясл. заг. л. 2 ас. адз. л.); [л'тм']: *ва*[л'тм']*етр (вальтметр);* [л'шм']: *бо*[л'шм']*енш (больш-менш);* [л'с'н']: *напу*[л'с'н']*ік (напульснік);*

[рпв]: *зачэ*[рпв]*аць;* [рбв]: *пасё*[рбв]*аць;* [ржв]: *дзя*[ржв]*ыд;* [рзв]: *заму*[рзв]*аць;* [ртв]: *праго*[ртв]*аць;* [ршв]: *паго*[ршв]*аццa;* [рхв]: *зашту*[рхв]*анне;* [ркв]: *выха*[ркв]*аць;* [ргв]: *адшмо*[ргв]*аццa;* [ртн]: *двухбо*[ртн]*ы;* [рпн]: *адчэ*[рпн]*уць;* [рпр]: *сю*[рпр]*ыз;* [рдн]: *більян*[рдн]*ы;* [рзн]: *абме*[рзн]*уць;* [рсн]: *аднашэ*[рсн]*ы;* [ржн]: *ката*[ржн]*ы;* [рхн]: *падшэ*[рхн]*уць;* [рзл]: *ме*[рзл]*ата;* [ркн]: *уто*[ркн]*уць;* [рбн]: *адсё*[рбн]*уць;* [ргн]: *зашма*[ргн]*уць;* [рбл]: *цыфе*[рбл]*ат;* [рдл]: *све*[рдл]*авы;* [ртл]: *спо*[ртл]*ато;* [рхл]: *шо*[рхл]*ы;*

[рбр]: бутэ[рбр]одны; [ртр]: бо[ртр]адыст; [ршр]: ма[ршр]ут; [ркл]: праго[ркл]асць;

[рдв']: но[рдв']ест; [ркв']: мо[ркв']іна; [ркм']: ту[ркм']ен; [ртм']: бо[ртм']еханік; [ршн']: шэ[ршн']евы; [рхн']: паве[рхн']евы; [рбн']: ска[рбн']іца; [ржн']: ката[ржн']ік; [рдн']: жа[рдн']як; [ргн']: абве[ргн']е; [рпл']: вераця[рпл']івасць; [ртл']: вя[ртл']южны; [рчл']: бу[рчл']івы; [ркл']: бу[ркл']івы; [рбл']: вышчэ[рбл']івацца; [ргл']: мі[ргл']івыя; [рз'н']: каве[рз'н']ік; [рз'л']: мя[рз'л']як; [рс'н']: заба[рс'н']і;

[йтм]: ле[йтм]атыў; [йтн]: цэ[йтн]от; [йтл]: цэ[йтл]упа; [йпр]: ра[йпр]амкамбінат; [йдв']: зю[йдв']ест (зюйдвест); [рц'й]: па[рц'й]е.

У канцы слова трохчленныя спалучэнні тыпу «санорны+шумны+санорны» ў літаратурнай мове сустракаюцца зрэдку: [мбр]: тэ[мбр];

[ндр]: цылі[ндр]; [нтр]: цэ[нтр];

[мбл']: анса[мбл'] (ансамбль);

[нгл']: ма[нгл'] (мангль).

У пачатку кораня ўжываюцца спалучэнні:

[ўдм]: па-[ўдм]урцку; [ўбр]: ня[ўбр]аны;

[мкн]: са[мкн]уцца;

[ўкл']: ня[ўкл']юда;

[мгл']: за[мгл']іць;

[л'с'н']: [л'с'н']іцца (льсніцца).

У сярэдзіне кораня зафіксаваны наступныя спалучэнні:

[ўкл]: э[ўкл]аз;

[мпр]: ка[мпр]аміс; [мбр]: ску[мбр]ыя; [мкр]: да[мкр]ат;

[нкн]: ба[нкн]от; [нсп]: пе[нсн]э; [ндр]: Ка[ндр]ат; [нбл]: Ма[нбл]ан; [ншл]: а[ншл]аг; [нхр]: сі[нхр]анізаваць; [нгл]: ка[нгл]амерат; [нгр]: ка[нгр]эс, мі[нгр]эл; [ндр]: філадэ[ндр]ан; [нтр]: ка[нтр]оль; [нхр]: сі[нхр]анізаваць; [нкл]: наме[нкл]атура; [нкр]: і[нкр]уставаны;

[ртр]: па[ртр]эт; [рпр]: сю[рпр]ыз, інтэ[рпр]этатар; [ршр]: ма[ршр]ут;

[ўкл']: Э[ўкл']ід;

[мбл']: э[мбл']ема, ту[мбл']ер; [мпл']: а[мпл']ітуда, ко[мпл']ексна, тра[мпл']ін; [мфл']: па[мфл']ет;

[нкв']: і[нкв']ізітар; [ндв']: са[ндв']іч; [нгв']: са[нгв']ін; [ндл']: мэ[ндл']ік; [нгл']: па-а[нгл']ійску; [нфл']: ка[нфл']ікт; [нцл']: ка[нцл']ер; [ншл']: а[ншл']юс; [нтн']: цэ[нтн']ер; [н'ц'й]: ра[н'ц'й]е (ранц'е);

[л'тр]: у[л'тр]а (ультра); [л'фр]: ва[л'фр]ам (вальфрам) (хім.);

[рбл']: ве[рбл']юдзяня; [ртл']: вя[ртл']южны; [ртн']: па[ртн']ёр; [ркм']: ту[ркм']ен; [рц'й]: па[рц'й]ера (парц'ера).

У канцы кораня прадстаўлены такія спалучэнні:

[ўсм]: та[ўсм]аты; [ўдр]: ко[ўдр]а;

[мбр]: да[мбр]а; [мгл]: і[мгл]а;

[ндр]: ва[ндр]аваць; [нтр]: ко[нтр]ыць;

[ртв]: мё[ртв]ы; [ркв]: мо[ркв]а; [рдл]: све[рдл]авы;

[мбл']: анса[мбл'] (ансамбль); [мгл']: за[мгл']іць; [мгн']: і[мгн']енне;

[л'хн]: пу[л'хн]ы;

[ндл']: вя[ндл']іна; [нд͡зл']: пэ[нд͡зл']ік; [нгл']: джу[нгл']і; [нц'в']: дра[нц'в']ець;

[ркв']: мо[ркв']іна; [ршн']: шэ[ршн']я (Р. скл. адз. л.).

На стыку кораня і суфікса сустракаюцца разнастайныя спалучэнні:

[ўкн]: жо[ўкн]уць;

[мкн]: бо[мкн]уць;

[нджв]: давэ[нджв]аць; [ндзн]: нэ[ндзн]ы; [ндн]: арэ[ндн]ы, кама[ндн]ы; [нчв]: дако[нчв]ацца;

[лзв]: закі[лзв]аць; [лкл]: праё[лкл]ы;

[рпв]: раско[рпв]аць; [рбв]: адсё[рбв]аць; [рзв]: заму[рзв]аць; [ртв]: пераго[ртв]аць; [ршв]: паго[ршв]ацца; [рчв]: учэ[рчв]аць; [ркв]: прыто[ркв]ацца; [ргв]: пашмо[ргв]аць; [ртн]: канцэ[ртн]ы; [рпн]: адчэ[рпн]уць; [рбн]:

*сё*[рбн]*уць;* [рдн]: *бiлья*[рдн]*ы;* [ржн]: *ката*[ржн]*ы;* [рзн]: *ме*[рзн]*уць;* [ргн]: *абве*[ргн]*уць;* [ркн]: *ме*[ркн]*уць;* [рсн]: *двухвё*[рсн]*ы;* [рчм]: *ста*[рчм]*а;* [ркл]: *аго*[ркл]*ы;*

[нбл']: *га*[нбл']*іны;* [нкл']: *та*[нкл']*явы;* [н'чв]: *выня*[н'чв]*аць* *(выняньчваць);*

[л'кн]: *бу*[л'кн]*уць,* *бу*[л'кн']*і* *(булькні)* (дзеясл. заг. л. 2 ас. адз. л.); [л'с'н']: *напу*[л'с'н']*ік* *(напульснік);*

[мгл']: *за*[мгл']*елы;* [мкл']: *і*[мкл']*івы;* [мхл']: *пры*[мхл']*івы;* [мкн']: *і*[мкн']*енне;* [мс'л']: *по*[мс'л']*іва;*

[рбн']: *ска*[рбн']*іца;* [рдн']: *жа*[рдн']*як;* [ржн']: *ката*[ржн']*ік;* [ргн']: *абве*[ргн']*е* (дзеясл. буд. ч. 3 ас. адз. л.); [ршн']: *вя*[ршн']*ік;* [рхн']: *ве*[рхн]*і;* [рдл']: *пага*[рдл']*івы;* [ргл']: *мі*[ргл']*івы;* [рпл']: *ця*[рпл']*івы;* [ртл']: *жа*[ртл']*іва;* [ркл']: *бу*[ркл']*івы;* [рчл']: *бу*[рчл']*івы;* [рз'н']: *каве*[рз'н']*ік;* [рз'л']: *мя*[рз'л']*як;* [рс'н']: *саку*[рс'н']*ік;*

[йкн]: *во*[йкн]*уць;* [йкн']: *во*[йкн']*еш* (дзеясл. заг. л. 2 ас. адз. л.).

На стыку прыстаўкі і кораня адзначаны нешматлікія спалучэнні:

[ўзв]: *на*[ўзв]*алакаць;* [ўтв]: *дыма*[ўтв]*арэнне;* [ўпл]: *па*[ўпл]*ываць;* [ўзл]: *па*[ўзл]*азіць;* [ўсл]: *ня*[ўсл]*ужлівы;* [ўкл]: *па*[ўкл]*адаць;* [ўзр]: *па*[ўзр]*ываць;* [ўкр]: *па*[ўкр]*учваць;* [ўгр]: *па*[ўгр]*аваца;*

[ўшн']: *за*[ўшн']*іца;*

[нсй]: *тра*[нсй]*еўрапейскі* *(транс'еўрапейскі);*

[нсл']: *тра*[нсл']*ітарацыя.*

На стыку кампанентаў складаных і складанаскарочаных слоў ужываюцца наступныя спалучэнні:

[ўхв]: *напа*[ўхв]*оры;* [ўкв]: *па*[ўкв]*арты;* [ўхм]: *напа*[ўхм]*ызняк;* [ўсл]: *па*[ўсл]*ова;* [ўпр]: *напа*[ўпр]*ытомны;* [ўтр]: *па*[ўтр]*аця* (разм.); [ўдр]: *напа*[ўдр]*ымота;* [ўкр]: *па*[ўкр]*он;* [ўгр]: *па*[ўгр]*оша;* [ўгн']: *напа*[ўгн']*ілы;* [ўпл']: *па*[ўпл']*яшкі;* [ўс'в']: *па*[ўс'в']*ятло;* [ўс'м']: *па*[ўс'м']*ерць;* [ўз'м']: *па*[ўз'м']*ены;* [ўс'л']: *па*[ўс'л']*япы;* [ўпй]: *па*[ўпй]*яны* *(паўп'яны);*

[мсн]: *хі*[мсн]*арад;* [мпл]: *гра*[мпл]*асцінка;* [мбр]: *ка*[мбр]*ыг;* [мтр]: *бу*[мтр]*эст;*

[ндв]: *бра*[ндв]*ахта;* [ндм]: *бра*[ндм]*айстар,* *бра*[ндм]*айстарскі,* *бра*[ндм]*аўэр;* [нпл]: *ге*[нпл]*ан;* [ндл]: *ле*[ндл]*орд* *(ленд-лорд);* [нгл]: *штанге*[нгл]*ыбінаметр;* [ндл']: *ле*[ндл']*із* *(ленд-ліз);* [нгл']: *этыле*[нгл']*іколь;*

[лпл]: *жы*[лпл]*ошча;* [л'тм']: *ва*[л'тм']*етр* *(вальтметр);* [л'шм']: *бо*[л'шм']*енш* *(больш-менш);*

[рзв]: *ца*[рзв]*он* *(цар-звон);* [ржв]: *дзя*[ржв]*ыд;* [ргв]: *а*[ргв]*ывады;* [рдм]: *ло*[рдм]*эр* *(лорд-мэр);* [ртм]: *канцэ*[ртм]*айстар;* [ртн]: *па*[ртн]*агрузка;* [рпл]: *за*[рпл]*ата;* [ртл]: *спо*[ртл]*ато;* [рхл]: *пе*[рхл]*арат;* [ркл]: *ватэ*[ркл]*азет;* [рбр]: *бутэ*[рбр]*одны;* [рпр]: *обе*[рпр]*акурор* *(обер-пракурор);* [ртр]: *бо*[ртр]*адыст;* [ртм']: *бо*[ртм']*еханік;* [рфл']: *батэ*[рфл']*яіст;*

[йтм]: *ле*[йтм]*атыў;* [йтн]: *цэ*[йтн]*от;* [йтл]: *цэ*[йтл]*упа;* [йпр]: *ра*[йпр]*амкамбінат;* [йдв']: *зю*[йдв']*ест* *(зюйд-вест).*

## § 4.17. ІНШЫЯ ТРОХЧЛЕННЫЯ СПАЛУЧЭННІ ЗЫЧНЫХ

Трохчленныя спалучэнні зычных «санорны+санорны+шумны» сустракаюцца ў абмежаванай колькасці пазіцый: [йнт]: *по*[йнт]*эр* — у сярэдзіне кораня; у канцы кораня — [ўнд]: *кампа*[ўнд]; [йл'д]: *Уа*[йл'д] *(Уайльд);* [рнх] — у сярэдзіне іншамоўнага тапоніма *Бо*[рнх]*ольм* і ў вытворным ад яго прыметніку *бо*[рнх]*ольмскі;* у складаных словах — [рмб']: *інфа*[рмб']*юро.*

Трохчленныя спалучэнні зычных

«шумны+санорны+санорны» нешматлікія: [змн]: *ра*[змн]*ажэнне* — на стыку прыстаўкі і кораня; [змр]: [змр]*ок* і ў вытворных словах — у пачатку кораня (з гістарычнага пункту погляду *з-* прыстаўка); [двн]: *пе*[двн]*у* — у складанаскарочаным слове; [тл'м']: *сэ*[тл'м']*ент* *(сэтльмент)* — у сярэдзіне кораня запазычанага слова; [ц'мл']: *за*[ц'мл']*ю* *(зацьмлю)* — у канцы кораня.

Трохчленныя спалучэнні «санорны+санорны+санорны» прадстаўлены толькі ў некаторых лексемах — [рмн]: *ко*[рмн]*ы;* [рмл']: *ка*[рмл']*ю* (дзеясл. цяп. ч. 1 ас. адз. л.); [рвй]: *інтэ*[рвй]*юер (інтэрв'юер).*

Трохчленныя спалучэнні «шумны+санорны+шумны» сустракаюцца ў вельмі абмежаванай колькасці слоў — [трд]: *ме*[трд]*атэль;* [бл'д]: *та*[бл'д]*от* *(табльдот);* [друж]: *Бе*[драж]*ых.*

## § 4.18. ЧАТЫРОХЧЛЕННЫЯ СПАЛУЧЭННІ ЗЫЧНЫХ ГУКАЎ

У сучаснай беларускай мове існуюць 8 тыпаў чатырохчленных спалучэнняў зычных: 1) шумны+шумны+шумны+санорны, 2) санорны+ +шумны+шумны+санорны, 3) санорны + санорны + шумны + шумны, 4) санорны+санорны+шумны+ +санорны, 5) санорны+шумны+ +санорны+шумны, 6) санорны+ + шумны+ санорны+ санорны, 7) санорны+шумны+шумны+шумны, 8) шумны+санорны+шумны+санорны.

У межах чатырохчленных спалучэнняў зычных дзейнічаюць тыя ж абмежаванні на спалучэнне гукаў, якія маюцца ў двухчленных кансанантных спалучэннях. Немагчымымі аказваюцца спалучэнні звонкіх і глухіх шумных зычных. Зычныя [й] і [ў] сустракаюцца толькі ў пачатку спалучэнняў.

У якасці пачатковых, сярэдзінных і канчаткавых спалучэнняў не могуць выступаць тыя спалучэнні, якія не існуюць у якасці двухчленных.

У беларускай мове адзначаны наступныя спалучэнні «шумны + шумны + шумны + санорны»:

[ззбр]: *абя*[ззбр]*оіць;*

[пстр]: [пстр]*ыкаць;* [пств]: *біску*[пств]*а;*

[тств]: *шма*[тств]*ольны;* [тстр]: *на*[тстр]*ыгаць* *(надстрыгаць);* [тскв]: *па*[тскв]*арыць* *(падскварыць);* [тскл]: *шма*[тскл]*адовы;* [тскр]: *па*[тскр]*абаць* *(падскрабаць);* [тспр]: *па*[тспр]*аваздачны* *(падсправаздачны);*

[кспл]: *э*[кспл]*уататар;* [кспр]: *э*[кспр]*эс;* [кстр]: *э*[кстр]*а;*

[сспр]: *бя*[сспр]*аваздачны;* [sстр]: *бя*[sстр]*асны;*

[хств]: *тро*[хств]*ольны;* [хскл]: *тэ*[хскл]*ад;* [хстр]: *тро*[хстр]*унны;* [хткл]: *я*[хткл]*убавец;*

[цстр]: *со*[цстр]*ах;*

[шств]: *мана*[шств]*а;* [шскл]: *звы*[шскл]*аданы;*

[фств]: *гра*[фств]*а;* [фстр]: *бе*[фстр]*оганаў;*

[тшкл']: *па*[тшкл']*янак* *(падшклянак);* [хтс'м']: *я*[хтс'м']*ен;* [кспл']: *э*[кспл']*ікацыя.*

Спалучэнні зычных «шумны + шумны + шумны + санорны» ў адносінах да марфемнай структуры словаформ прадстаўлены наступным чынам.

У пазіцыі п а ч а т к у к о р а н я выступае спалучэнне [пстр]: *за*[пстр]*ыкаць.*

У пазіцыі с я р э д з і н ы к о р а н я вызначаныя спалучэнні сустракаюцца толькі ў запазычаных словах: [кспл']: *э*[кспл']*ікацыя;* [кспр]: *э*[кспр]*эс,* *э*[кспр]*омт;* [кстр]: *э*[кстр]*акт,* *дэ*[кстр]*ын,* *фа*[кстр]*от;* [пстр]: *а*[пстр]*укцыя* *(абструкцыя).*

Н а с т ы к у п р ы с т а ў к і і к о р а н я распаўсюджаны спалучэнні:

[пстр]: *а*[пстр]*ачыць* (*абстрачыць*), *а*[пстр]*ыгаць* (*абстрыгаць*), *а*[пстр]*эл* (*абстрэл*);

[тспр]: *па*[тспр]*ваздачны* (*падсправаздачны*); [тстр]: *па*[тстр]*ашыць* (*падстрашыць*), *па*[тстр]*ыжаны* (*падстрыжаны*); [тскв]: *па*[тскв]*арыць* (*падскварыць*); [тскр]: *па*[тскр]*абаць* (*падскрабаць*); [тшкл']: *па*[тшкл']*янак* (*падшклянак*);

[ззбр]: *ра*[ззбр]*ойваць*, *бя*[ззбр]*ойны*;

[сспр]: *бя*[сспр]*аваздачны*, *бя*[сспр]*эчны*; [сстр]: *бя*[сстр]*ашны*, *бе*[сстр]*уктурны*, *ра*[сстр]*аляць*, *ра*[сстр]*оіць*;

[шскл]: *звы*[шскл]*аданы*.

На стыку кораня і суфікса адзначаны спалучэнні:

[пств]: *біску*[пств]*а*; [хств]: *герца*[хств]*а* (герцагства); [фств]: *гра*[фств]*а*, *пафіласо*[фств]*аваць*, *шэ*[фств]*а*.

На стыку кампанентаў складаных слоў ужываюцца спалучэнні:

[пскв]: *шта*[пскв]*атэра* (*штабскватэра*);

[тскл]: *шма*[тскл]*адовы*; [тств]: *шма*[тств]*ольны*; [тстр]: *шма*[тстр]*унны*;

[хств]: *дву*[хств]*олка*, *тро*[хств]*ольны*; [хткл]: *я*[хткл]*уб* (*яхт-клуб*); [хскл]: *дву*[хскл]*адовы*, *тэ*[хскл]*ад*; [хстр]: *тро*[хстр]-*унны*; [хтс'м']: *я*[хтс'м']*енскі*;

[фстр]: *бе*[фстр]*оганаў*;

[цстр]: *со*[цстр]*ах*.

У беларускай мове адзначаны наступныя чатырохчленныя спалучэнні зычных тыпу «санорны + + шумны + шумны + санорны»:

[ўзбр]: *пера*[ўзбр]*оіць*; [ўзгр]: *на*[ўзгр]*удкі*; [ўскл]: *па*[ўскл]*адаць*; [ўскр]: *па*[ўскр]*ай*; [ўспр]: *не*[ўспр]*ымлівы*; [ўстр]: *не*[ўстр]*ыманне*; [ўсхв]: *сама*[ўсхв]-*аленне*; [ўшкл']: *па*[ўшкл']*янкі*;

[мств]: *верало*[мств]*а*;

[нзгр]: *тра*[нзгр]*эсія* (*трансгрэсія*); [нств]: *дзіку*[нств]*а*; [нстр]: *і*[нстр]*уктар*; [нцтв]: *аге*[нцтв]*а*;

[нцкн']: *ла*[нцкн']*ехцкі* (*ландскнехцкі*);

[ржзн]: *дзя*[ржзн]*ак*; [рgгр]: *ма*[рgгр]*афства* (*маркграфства*); [ркл]: *спа*[ркл]*уб*; [ртгр]: *па*[ртгр]*упорг*; [рств]: *зве*[рств]*а*; [рскв]: *паапы*[рскв]*аццa*; [рскн]: *по*[рскн]*уць*; [рстр]: *супе*[рстр]*ат*; [ршпр]: *дзя*[ршпр]*амысловасць* (*дзяржпрамысловасць*); [ршкр]: *дзя*[ршкр]*эдыт* (*дзяржкрэдыт*); [ршчв]: *намо*[ршчв]*аццa*; [рджбл]: *ха*[рджбл]*ок* (*харчблок*) (мастацк.);

[йбдр]: *ле*[йбдр]*агун* (*лейбдрагун*); [йgбр]: *штрэ*[йgбр]*эхер* (*штрэйкбрэхер*); [йдгр]: *цэ*[йдгр]*афер* (*цэйт-графер*); [йздр]: *неза*[йздр]*осны* (*незайздросны*); [йпфр]: *грэ*[йпфр]*ут* (*грэйпфрут*); [йств]: *самазабо*[йств]*а*; [йстр]: *ма*[йстр]*а* (Р. скл. адз. л.); [йхсв']: *рэ*[йхсв']*ер*;

[л'ств]: *выхва*[л'ств]*а* (*выхвальства*); [л'тпр]: *ку*[л'тпр]*ом* (*культпром*); [л'тфр]: *ку*[л'тфр]*онт* (*культфронт*); [л'тшн]: *ва*[л'тшн]*эп* (*вальдшнэп*);

[рцсм']: *спа*[рцсм']*ен*; [ртпл']: *па*[ртпл']*ед*; [рсц'в']: *ца*[рсц'в']*енны*; [рс'ц'в']: *жа*[рс'ц'в']*іна*.

У адносінах да марфемнай структуры пералічаныя спалучэнні прадстаўлены наступным чынам.

У сярэдзіне кораня распаўсюджаны наступныя спалучэнні зычных у запазычаных словах:

[нстр]: *дэма*[нстр]*ацыйны*, *і*[нстр]*уктар*, *ка*[нстр]*уктар*;

[йgбр]: *штрэ*[йgбр]*эхер* (*штрэйкбрэхер*); [йздр]: *за*[йздр]-*асць*; [йпфр]: *грэ*[йпфр]*ут*; [йхсв']: *рэ*[йхсв']*ер*;

[л'тшн]: *ва*[л'тшн]*эп* (*вальдшнэп*);

[ртпл']: *па*[ртпл']*ед*; [рцс'м']: *спа*[рцс'м']*ен* (*спартсмен*).

У канцы кораня адзначана спалучэнне [йстр] у словах ма[йстр]*а*, *ка*[йстр]*а* і вытворных ад іх.

На стыку кораня і суфікса зафіксаваны:

[ўств]: *бала*[ўств]*о, заканазна*[ўств]*а, уда*[ўств]*о;*

[мств]: *верало*[мств]*а, ха*[мств]*а;*

[нств]: *баро*[нств]*а, бясчы*[нств]*а, грамадзя*[нств]*а, дваяжэ*[нств]*а, па*[нств]*а, сві*[нств]*а, таі*[нств]*а, ха*[нств]*а;*

[рств]: *амата*[рств]*а, амата*[рств]*аваць, навата*[рств]*а, бая*[рств]*а, бонда*[рств]*а, варва*[рств]*а, вінаку*[рств]*а, гандля*[рств]*а, дваябо*[рств]*а, жыха*[рств]*а, завё*[рств]*анне, зве*[рств]*а, кава*[рств]*а, капе*[рств]*а, праны*[рств]*а, пэ*[рств]*а, самаду*[рств]*а, сталя*[рств]*а, ца*[рств]*а;* [рскв]: *паапы*[рскв]*ацца, распы*[рскв]*аць;* [рскн]: *по*[рскн]*уць (паляўн.);* [ршчв]: *намо*[ршчв]*ацца;*

[л'ств]: *выхва*[л'ств]*а (выхвальства), кава*[л'ств]*а (кавальства);*

[рсц'в']: *ача*[рсц'в']*ець, сча*[рсц'в']*елы, ца*[рсц'в']*енна.*

У складзе і на стыку суфіксаў сустракаюцца спалучэнні [рств]: *братэ*[рств]*а* і [нств]: *дзяці*[нств]*а, мале*[нств]*а, шале*[нств]*а.*

На стыку прыстаўкі і кораня маюцца спалучэнні, якія пачынаюцца з [ў]:

[ўзбр]: *да*[ўзбр]*ойванне, ня*[ўзбр]*оенасць, пера*[ўзбр]*оіць;* [ўскл]: *па*[ўскл]*адаць;* [ўспл]: *на*[ўспл]*ываць;* [ўспр]: *не*[ўспр]*ымлівы;* [ўстр]: *не*[ўстр]*ыманне;* [ўсхв]: *сама*[ўсхв]*аленне.*

На стыку кампанентаў складаных слоў зафіксаваны спалучэнні:

[ўптв]: *га*[ўптв]*ахта;* [ўскр]: *па*[ўскр]*ай;* [ўшкл']: *па*[ўшкл']*янкі;*

[рткл]: *спа*[рткл]*уб;* [ртпр]: *бо*[ртпр]*авадніца;* [ршкр]: *дзя*[ршкр]*эдыт (дзяржкрэдыт);* [pgгр]: *ма*[pgгр]*афства (маркграфства);*

[ртпл']: *спо*[ртпл']*яцоўка;* [ршпл']: *дзя*[ршпл']*емгас.*

У беларускай літаратурнай мове зафіксаваны на стыку кораня і суфікса і ў корані запазычаных слоў спалучэнні тыпу «санорны + санорны + шумны + + шумны»:

[рнск]: *губе*[рнск]*ая;* [рнск']: *губе*[рнск']*і;*

[мл'ск']: *бяго*[мл'ск']*і (бягомльскі);* [рл'ст]: *ча*[рл'ст]*он (чарльстон).*

Спалучэнні тыпу «санорны+санорны+шумны+санорны» сустракаюцца на стыку кампанентаў складаных слоў — [рмтр]: *што*[рмтр]*ап.*

Спалучэнні тыпу «санорны + шумны+санорны+шумны» сустракаюцца ў спецыяльнай лексіцы на стыку прыстаўкі *контр-* з каранем:

[нтрб]: *ко*[нтрб]*аланс* (бухг.); [нтрд]: *ка*[нтрд]*анс;* [нтрп]: *ко*[нтрп]*ара, ко*[нтрп]*аралелаграм* (мат.); [нтрф]: *ко*[нтрф]*орс;* [нтрк]: *ко*[нтрк]*ультура;* [нтрг]: *ко*[нтрг]*айка;*

у складанаскарочаных словах — [рдгр]: *па*[рдгр]*упа (партгрупа).*

Спалучэнні тыпу «санорны+ шумны+санорны+санорны» сустракаюцца:

на стыку прыстаўкі і кораня — [нтрн]: *ко*[нтрн]*аступленне;* [нтрм]: *ко*[нтрм]*анеўр, ко*[нтрм]*арш;* [нтрм']: *ко*[нтрм']*еры, ко*[нтрм']*іна;* [нтрр]: *ко*[нтрр]*азведка, ко*[нтрр]*эвалюцыя, ко*[нтрр]*эйка;*

у сярэдзіне кораня запазычаных слоў — [нтл'м']: *джэ*[нтл'м']*енства (джэнтльменства);*

на стыку кораня і суфікса — [рцвл']: *змя*[рцвл']*яць, амя*[рцвл']*ёны;*

на стыку кампанентаў складаных слоў — [ўзмр]: *па*[ўзмр]*ок.*

Спалучэнні тыпу «санорны+ шумны+шумны+шумны» сустракаюцца:

у сярэдзіне кораня запазычаных слоў — [нкст]: *кі*[нкст]*он (кінгстон)* (марск.);

[нхст]: *га*[нхст]*эр* (*гангстэр*); [нтст]: *ла*[нтст]*ынг* (*ландстынг*); [йхст]: *рэ*[йхст]*аг*;

у канцы кораня — [рстк]: *жо*[рстк]*асць;* [рстк']: *жо*[рстк']*і*;

на стыку кораня і суфікса — [лшск]: *во*[лшск]*ая;* [нтсп]: *бра*[нтсп]*ойт* (*брандспойт*); [нхск]: *га*[нхск]*ая* (*гангская*); [нтшч]: *аліме*[нтшч]*ык;* [рстк]: *вё*[рстк]*а, развё*[рстк]*а;* [рхск]: *выба*[рхск]*ая* (*выбаргская*); [ўпс'ц']: *дзя*[ўпс'ц']*і* (*дзяўбсці*); [лшск']: *во*[лшск']*і;* [нхск']: *ганко*[нхск']*і* (*ганконгскі*), *га*[нхск']*і* (*гангскі*); [рхск']: *выба*[рхск']*і* (*выбаргскі*);

на стыку кампанентаў складаных слоў — [нтшт]: *ла*[нтшт]*урм* (*ландштурм*) (уст.); [ртсп]: *па*[ртсп]*агнанне;* [ртст]: *па*[ртст]*аж;* [ртсх]: *па*[ртсх]*од;* [ртшк]: *па*[ртшк]*ола;* [йхск]: *рэ*[йхск]*анцлер* (*рэйхсканцлер*); [нтшп']: *э*[нтшп']*іль* (*эндшпіль*).

Спалучэнне тыпу «шумны+санорны+шумны+санорны» адзначана ў складанаскарочаным слове *а*[блпр]*афсавет*.

## § 4.19. ПЯЦІЧЛЕННЫЯ СПАЛУЧЭННІ ЗЫЧНЫХ

Існуюць наступныя тыпы пяцічленных спалучэнняў зычных: «санорны+шумны+шумны+шумны + шумны», «санорны+шумны+шумны+шумны+санорны», «санорны+шумны + санорны+шумны+санорны». Гэтыя спалучэнні ўжываюцца:

на стыку кораня і суфікса: [ндрск]: *фла*[ндрск]*ая;* [ндрск']: *фла*[ндрск']*і*; [рстск]: *шо*[рстск]*асць;*

на стыку прэфікса і кораня: [нтрпр]: *ко*[нтрпр]*апанова,* *ко*[нтрпр]*ывод;* [нтргр]: *ко*[нтргр]*уз* (спец.);

на стыку складаных слоў: [ршстр]: *дзя*[ршстр]*ах* (*дзяржстрах*).

Разгляд спалучэнняў зычных паказвае, што іх колькасць у літаратурнай мове даволі значная. Шматлікія спалучэнні зычных сустракаюцца ў запазычаных словах. Найбольш рэдкія з іх зафіксаваны на стыку частак складаных і складанаскарочаных слоў. Апошнія прадстаўлены ў працы не ў поўным аб'ёме, бо зараз існуюць толькі лічаныя лексікаграфічныя выданні, у якіх адлюстравана даная катэгорыя лексікі.

Словы са спалучэннямі гукаў часта ўжываюцца ў тэрміналогіі, у навуковым стылі. Але нельга лічыць, што яны ў літаратурнай мове нешта штучнае. У беларускай мастацкай літаратуры яны сустракаюцца досыць шырока. У ваеннай прозе тыповымі з'яўляюцца складаныя і складанаскарочаныя словы *артбаза, артбатарэя, артвучылішча, артналёт, артпадрыхтоўка, артполк, ваенрэўком, ваенспец, ваентэхнік, ваенурач, ваенфельчар, ваенюрыст, начштаба, нампаліт, нампатэх, медсёстры* і інш. Значная колькасць складанаскарочаных слоў — прыналежнасць празаічных твораў на гарадскую тэму. Напр., *бо*[ртпр]*авадніца, канцэ*[ртм]*айстар* (В. Гігевіч), *па*[ртб]*юро*, ІМА, *на*[рк]*ом,* АЗАД (І. Шамякін).

Разам з тым і ў беларускай паэзіі назіраецца тэндэнцыя ўвядзення ў паэтычны кантэкст лексікі са спалучэннямі зычных, запазычанай лексікі. Напр., *У лясах бяго*[мльск]*іх і лагойскіх Партызаны ўратавалі іх... Тут каштаны — ростам з а*[кс]*ельратаў... Быццам прайшла тут арда Чы*[нг]*і*[сх]*ана... Была цяжкая служба ў са*[нб]*атах... І з'явіцца Капіца, Э*[йншт]*эйн і Рэзе*[рф]*о*[рд]*... Тут не мазгі ім патрэбны — Ды*[спл']*ей... І мова нязвыклая У моладзі сёння: Рок-музыка, «Грундзінг», Поп-музыка, «Соні». І Э*[йф]*елева вежа Ці белы Тадж-Махал...* (П. Панчанка). *Ні спакою гнілога, Ні ўтульнага* [тхл]*а... Як у хвіліны, калі* [ўсц]*яж і ўсцяж — Увесь закутак на*[дс]*ажоўскі наш... Як і дзе* [ўсч]*алася... І на*[стр]*очыць кля*[ўз]*у — паста-*

*віць на бліжнім та*[ўр]*о...* (К. Кірэенка). *Усе хару*[гв]*ы здаў без бою...* (Н. Мацяш). *...Што ў вяснянымчастазвоне кропель — ёд ці* [стр]*онцый?..* [Цэ]*зій ці палоній?.. Ці ўчуе хто мангола? О марных мо*[дл]*аў час!.. ...Каменных скі*[фск]*іх баб* (А. Вялюгін). *Двух вучоных жанчын па*[ўа]*стылы ачаг* (Л. Філімонава).

Акрамя таго, асаблівасцю беларускай мастацкай літаратуры з'яўляецца ўжыванне складаных слоў, якія складаюцца з назоўніка і назоўніка-азначэння. На стыку такіх слоў узнікаюць шматлікія, часам незвычайныя гукавыя спалучэнні. Прыгадаем хаця б частку такіх слоў: *сінь-ветрык, вецер-конь, агонь-дарога* (А. Вялюгін), *пан-гаспадар* (В. Вітка), *маладзік-паплечнік* (Р. Барадулін), *сон-трава, меч-трава, мастак-філосаф* (П. Панчанка).

Разгляд гэтай катэгорыі слоў патрабуе спецыяльнага падыходу, таму ён не ўключаўся намі ў агульнае апісанне дыстрыбуцыі гукаў. Але падкрэслім, што існаванне такіх слоў пашырае магчымасці асобных гукаў, робіць больш звыклымі асобныя спалучэнні і ўнутры слова.

## § 4.20. СКЛАД

Складам называюць адзінку маўлення, якую ўтварае галосны гук пры спалучэнні з зычнымі на аснове злітнага з імі вымаўлення (чытаць па складах). Складам у беларускай мове можа быць спалучэнне галосных [а], [э], [о], [у], [і], [ы] з адным *(гэ, дзі)*, двума *(збы, цаў)*, трыма *(стра, сква, клас)*, чатырма *(гвалт, пстры)* і большай колькасцю зычных. У некаторых выпадках складам можа быць любы з галосных гукаў [а], [э], [о], [у], [і] асобна, без спалучэння з зычнымі *(у-бóк, а-саблі-ва, і-мя́)*. Колькі ў беларускім слове галосных гукаў, столькі ў ім і складоў. Гукі беларускай мовы [ў], [й], якія лічацца паўгалоснымі, не з'яўляюцца складаўтваральнымі.

Беларуская мова мае свае асаблівасці і адрозніваецца ад іншых усходнеславянскіх моў па некаторых характарыстыках склада: дыстрыбуцыі ў складах зычных і галосных гукаў, частотнасці ў мове розных тыпаў складоў (адкрытых, прыкрытых). Разам з тым некаторыя з'явы фанетычнай арганізацыі беларускай мовы (каартыкуляцыя, рэдукцыя), якія рэалізуюцца на ўзроўні склада, з'яўляюцца тыповымі і для іншых усходнеславянскіх моў.

У беларускай мове колькасць складоў у слове можа быць ад аднаго *(дах, роў, бо)* да шасці *(па-па-ра-дка-ва́-цца)* і болей [10]. На слых колькасць складоў у праслуханым слове вызначаецца лёгка і нават больш надзейна, чым фанематычны яго састаў.

Адносна даўжыні слоў у вуснай беларускай мове можа быць прыменены *прынцып Цыпфа:* чым больш кароткае слова па колькасці складоў, тым больш часта ўжывае яго гаворачы ў вуснай мове. Гэта значыць, што ў вуснай форме беларускай мовы найбольш слоў аднаскладовых, на другім месцы па распаўсюджанасці стаяць двухскладовыя словы, на трэцім — трохскладовыя і г. д. Аналагічна пры развіцці дзіцячай мовы спачатку ў ёй з'яўляюцца адна- і двухскладовыя словы *(дай, бух, мама)*, а затым шматскладовыя [11].

Разам з тым высветлілася, што ад колькасці складоў у слове залежыць якасць іх рэалізацыі. Склады шматскладовага слова атрымліва-

---

[10] Князева Н. И. Ритмическая организация научной речи: Автореф. дис. ... канд. филол. наук. Мн., 1981.

[11] Лосик Г. В. Психомоторные единицы артикуляции слова // Тезисы VI Всесоюз. съезда психологов. М., 1983. С. 669.

юцца больш кароткімі па гучанню, чым склады аднаскладовага слова. У агульным плане адзін і той жа па фанематычнай будове склад будзе настолькі карацей па вымаўленню, наколькі больш складоў у тым слове, якое яго змяшчае.

Працягласць вымаўлення склада і яго скарачэнне ўплывае на якасць рэалізацыі ў складзе перцэптыўных прыкмет зычных і галосных гукаў, якія ў яго ўваходзяць, бо адбываецца не толькі колькасная, але і якасная іх рэдукцыя [12]. Як вынік гэтага, розная аказваецца апазнавальнасць склада ў залежнасці ад таго, з якога слова ён сегментаваны для праслухоўвання, шматскладовага ці маласкладовага.

Склады ў словах бываюць *націскныя* і *ненаціскныя*. Націскны склад вымаўляецца з большай мускульнай напружанасцю галасавых звязак, больш выразна гучыць і таму на слых успрымаецца больш надзейна. Звычайна ён адрозніваецца ў слове ад ненаціскных складоў па сіле, вышыні тону і па працягласці вымаўлення [13].

Да ненаціскных адносяцца *пераднаціскныя* склады (*па-ляў-нічымі*) і *паслянаціскныя* (*паляўні-чымі*). Першы пераднаціскны склад мяжуе з націскным (*зака-ла-сіцца*), другі перадназіскны — з першым перадназіскным (*за-ка-ласіцца*), затым ідзе трэці перадназіскны (*закаласіцца*) і г. д. Пасля націскнога ідзе першы паслянаціскны склад (*вы́-ця-гнуты*), затым другі паслянаціскны (*вы́ця-гну-ты*), трэці (*вы́цягну-ты*) і г. д.

Спецыяльныя даследаванні складоў у шматскладовых беларускіх словах паказалі, што ў многіх выпадках носьбіты беларускай мовы рэалізуюць у слове, акрамя асноўнага, яшчэ і пабочны націск. Тэндэнцыя да ўзнікнення ў слове пабочнага націску мае месца, у прыватнасці, тады, калі слова ўключае пяць ці болей складоў, а асноўны націск падае на першы склад (*вы́-ра-та-ва̀-ны-мі*). Вельмі часта ў такіх выпадках пабочны націск з'яўляецца ў слове на перадапошнім складзе (*вы́-па-тра-ша-на̀-му*). У шматкарэнных словах пабочны націск бывае на адным са складоў другога кораня (гл. § 5.9).

Лічыцца, што ў чатырохскладовых словах з націскам на трэцім складзе суадносіны сілы гучання яго складоў можна выразіць лічбамі так: 1 2 3 1 [14]. Такім чынам, сіла гучання склада выступае надзейнай прыкметай для апазнавання месца націску ў слове. Другой дастаткова інфарматыўнай перцэптыўнай прыкметай націскнога склада з'яўляецца адносна большая даўжыня яго гучання ў параўнанні з ненаціскнымі складамі слова.

Сіла гучання, працягласць і вышыня тону націскнога склада спрыяюць надзейнаму ўспрыманню ў слове месца націску. Даследы па ўспрыманню слоў беларускай мовы паказалі, што нават ва ўмовах шумаў ці пры значных акустычных скажэннях слухачы дастаткова надзейна апазнаюць месца націску ў слове, нягледзячы на тое, што разборлівасць складоў пры гэтым можа страчвацца. Разам з гэтым націскны склад адрозніваецца ад ненаціскных меншай не толькі колькаснай, але і якаснай рэдукцыяй зычных і галосных гукаў, якія ўваходзяць у састаў склада. Бо, як паказалі даследы, разборлівасць націскных складоў, апазнавальнасць іх

---

[12] Выгонная Л. Ц. Якасныя характарыстыкі беларускага маўлення ў залежнасці ад тэмпу маўлення // Фанетыка слова ў беларускай мове. Мн., 1983. С. 82—98.

[13] Якушаў Э. Р. Акустычная характарыстыка слоўнага націску ў беларускай мове // Галосныя беларускай мовы. Мн., 1975. С. 5—54.

[14] Потебня А. А. О звуковых особенностях русских наречий // Филол. зап. Воронеж, 1865. Вып. I. С. 63.

фанем больш высокая, чым ненацiскных складоў слова [15].

Пры развiццi мовы ў дзiцяцi дыферэнцыяцыя ў слове складоў па нацiску ўзнiкае вельмi рана. На пачатковых этапах авалодання лексiкай дзецi ўтвараюць большасць першых сваiх слоў праз двухразовую iтэрацыю аднаго i таго ж склада (*ма́-ма, ба́-ба, та́-та*). Звычайна першы са складоў пры гэтым рэалiзуецца як нацiскны, а другi — як ненацiскны [16].

Вядома, што чаргаванне нацiскных i ненацiскных складоў вызначае ў вершы яго метр, або вершаваны памер. Адносна вакальнай мовы можна зазначыць, што ў ёй нацiскныя i ненацiскныя склады вуснай мовы, наадварот, страчваюць свае рысы адрознення. Усе склады пры iх вакальным выкананнi робяцца ў пэўным сэнсе як бы нацiскнымi.

Склады могуць быць прадыферэнцыраваны ў залежнасцi ад iх месца ў слове. Так, выдзяляюць *пачатковы* i *непачатковыя* склады (*кава́лак*), *канцавыя* i *неканцавыя* (*клопа-ты*). Для беларускiх слоў характэрна тое, што пачатковы склад звычайна з'яўляецца больш гучным, чым непачатковы, калi ён ненацiскны. Акрамя таго, пачатковаму складу ўласцiва большая распаўсюджанасць спалучэнняў у iм зычных гукаў перад галосным. Канцавы склад менш выразны ў слове ў параўнаннi з неканцавымi складамi [17].

У залежнасцi ад становiшча ў складзе галоснага гука адносна зычных склады падзяляюць на *адкрытыя* i *закрытыя, прыкрытыя* i *непрыкрытыя*. У адкрытым складзе на канцы размешчаны галосны (*два, мы*), у закрытым — зычны (*iл, дах, рой*). Прыкрытым складам лiчыцца той, якi пачынаецца з зычнага (*два, дах*). У адрозненне ад яго непрыкрыты склад пачынаецца з галоснага (*iл, ад, эх*).

Адкрытыя склады могуць быць як прыкрытыя (*мы*), так i непрыкрытыя (*а*). Гэтак жа i закрытыя склады бываюць як прыкрытыя (*дах*), так i непрыкрытыя (*iл*). У беларускай мове iснуе чатыры тыпы адкрытых прыкрытых складоў: ЗГ, ЗЗГ, ЗЗЗГ, ЗЗЗЗГ (*ры, тры, стры, пстры*), а закрытых непрыкрытых— два: ГЗ, ГЗЗ (*аб, акт*). Адкрытымi непрыкрытымi могуць быць толькi склады Г, а закрытых прыкрытых складоў найбольшая колькасць тыпаў (ЗГЗ, ЗЗГЗ i iнш.). Увогуле адкрытыя склады ў беларускай мове ў адрозненне ад рускай сустракаюцца больш часта, а непрыкрытыя, наадварот, радзей.

З прычыны несупадзення артыкуляцыйных характарыстык гукаў, спалучаных у складзе, i хуткага тэмпу яго вымаўлення можа наглядацца ўплыў галоснага гука склада на зычны (лабiялiзацыя, палаталiзацыя зычных), а зычных — на галосны (назалiзацыя) [18].

Колькасцю складоў, вымаўленых у адзiнку часу (секунду або мiнуту), вызначаецца тэмп маўлення гаворкi. Тэмп маўлення на беларускай мове, вызначаны ў складах у секунду, вагаецца ў залежнасцi ад розных вiдаў гаворкi [19].

Як адзначалася, пры вызначэннi меж памiж складамi ў словах iснуюць цяжкасцi, але колькасць складоў вызначаецца лёгка. Таму вымярэнне тэмпу маўлення на слых цi

---

[15] Выгонная Л. Т. Особенности слуховой идентификации изолированных слов // Модели речевого процесса в норме и патологии. Л., 1979. С. 12.

[16] Лосик Г. В. Психомоторика слова с двукратноповторяющимся слогом // Материалы АРСО-11. Ереван, 1980. С. 30.

[17] Лосiк Г. В. Варыятыўнасць акустычнага сiгналу слова // Фанетыка слова ў беларускай мове. С. 177—199.

[18] Бурлыко В. Г. Вариативность звуков в потоке речи. Автореф. дис. ... канд. филол. наук. Мн., 1985.

[19] Бенедиктов Б. А. Психология овладения иностранным языком. Мн., 1974. С. 69; Прывалава Н. Л. Тэмп вуснай мовы вучняў 3—5 класаў // Народная асвета. 1971. № 4. С. 43—47.

прыборамі не выклікае асаблівых складанасцей у даследчыкаў. У прыватнасці, носьбіты беларускай мовы дыферэнцыруюць на слых тры розныя тэмпы гаворкі: павольны, сярэдні і хуткі [20].

Здольнасць ацэньваць на слых тэмп вуснай мовы сведчыць аб тым, што чалавек пры ўспрыманні можа сегментаваць моўную хвалю на склады, аднак, што істотна, робіць гэта без удакладнення меж паміж імі. Іменна дзякуючы такой сістэме слыхавой сегментацыі на склады мова робіцца для чалавека членараздзельнай і атрымлівае прынцыповае перцэптыўнае адрозненне ад іншых гукаў жывой прыроды.

[20] Выгонная Л. Ц. Фанетыка слова і тэмп маўлення // Фанетыка слова ў беларускай мове. С. 27—61.

## § 4.21. УСПРЫМАННЕ СКЛАДОЎ

Апазнаванне складоў, сегментаваных з розных пазіцый у слове, неаднолькавае. Высветлена, што ўвогуле пачатковы склад апазнаецца лепш, чым непачатковыя, а канцавы — горш, чым неканцавыя. Апрача таго, пры ўспрыманні слоў назіраецца наступная тэндэнцыя адносна характару памылак і замен адных складоў на другія. Пры памылковым успрыманні пачатковых складоў слухач замяняе іх на іншыя склады, не абавязкова блізкія фанетычна. Памылкі пры ўспрыманні слова ў гэтым выпадку носяць семантычны, а не фанетычны характар (*замоўкні* замест *узмоклі*). Прагучаўшае слова памылкова замяняецца на слова з іншай семантыкай або проста тоеснае зыходнаму слову па акцэнтна-рытмічнай структуры. І наадварот, пры памылковым успрыманні канцавых складоў слухачы замяняюць іх на іншыя, як правіла, блізкія па гучанню (*узмокне* замест *узмоклі*). Таму памылковыя замены такога характару можна лічыць фанетычна абумоўленымі [21].

З вымаўленнем пачатковага склада звязан працэс слыхавога самакантролю ў чалавека, калі ён гаворыць. Пры моўных захворваннях тыпу лаганеўрозу (заікання) гэты працэс слыхавога і кінестэзійнага самакантролю артыкуляцыі парушаецца, што прыводзіць да парушэнняў артыкуляцыі слова [22]. Іменна на яго першым складзе адбываецца затрымка ў вымаўленні (*за-за-заяц*) у адрозненне ад астатніх складоў, якія вымаўляюцца нармальна.

Зычны і галосны гукі ў складзе тыпу ЗГ па сваіх артыкуляцыйна-акустычных характарыстыках могуць утвараць розныя тыпы *ўзаемакантрасту*. Чым больш кантрастныя паміж сабою па артыкуляцыі і спектру спалучаныя зычны і галосны склада, тым больш цяжкім лічыцца вымаўленне гэтага спалучэння. Аднак ускладненне вымаўлення склада аблягчае яго ўспрыманне, бо кантраст спрыяе лепшай дыферэнцыяцыі на слых зычнага і галоснага гукаў, што ўвогуле паляпшае апазнаванне склада [23].

У залежнасці ад розных артыкуляцыйна-акустычных параметраў, па якіх могуць супрацьпастаўляцца зычны і галосны гукі, вызначаюць розныя тыпы кантрасту: па даўжыні; па асноўнаму тону; па фармантнай структуры; па інтэнсіўнасці; па локусу або, інакш кажучы, месцы ўтварэння гука. Так, пры спалучэнні глухога выбухнога зычнага, даўжыня і інтэнсіўнасць якога адносна невялікая, з націскным галосным ([ты], [па]) утвараецца кантраст

[21] Выгонная Л. Ц. Характар памылковых адказаў пры слыхавой ідэнтыфікацыі ізаляваных слоў // Беларуская лінгвістыка. 1976. № 10. С. 25—31.

[22] Речь: Артикуляция и восприятие. М.; Л., 1965. С. 140—156.

[23] Бондарко Л. В. Фонетическое описание языка и фонологическое описание речи. Л., 1981. С. 106—126.

па даўжыні і адначасова па інтэнсіўнасці.

Доследы па ўспрыманню націскных складоў тыпу ЗГ носьбітамі беларускай мовы паказалі, што апазнаванне склада залежыць ад ступені рэалізацыі ў ім пералічаных кантрастаў. Так, больш надзейна апазнаюцца склады з шумнымі зычнымі [ша], [хо], [сі], [зу], [дзе], бо ў іх прысутнічае кантраст па асноўнаму тону, фармантнай структуры і інтэнсіўнасці, і менш надзейна — са складамі з санорнымі зычнымі [на], [мо], [ні], [лу], [не]. Надзейнасць апазнавання складоў з мяккімі зычнымі [с'і], [м'а], [п'о], [б'э], у якіх зычны і галосны кантрасціруюць па локусу, больш высокая, чым складоў з цвёрдымі зычнымі [сы], [ма], [по], [бэ], якія не ствараюць такога кантрасту.

Як адзначалася, націскныя склады адрозніваюцца лепшым апазнаваннем у параўнанні з ненаціскнымі. Гэты факт таксама не пярэчыць тэзісу аб значэнні складовых кантрастаў для ўспрымання склада. Вядома, што іменна ў ненаціскным становішчы склада яго зычныя і асабліва галосны гук рэдуцыруюць і праз акамадацыю робяцца менш кантрастнымі па акустычных параметрах, што і пагоршвае распазнавальнасць склада.

Надзейнасць успрымання склада, а таксама характар замен і памылак пры яго апазнаванні залежаць таксама ад частотнасці склада, інакш кажучы, распаўсюджанасці яго ў вуснай мове. Доследы паказваюць, што носьбіт мовы запамінае частотнасць ужывання пэўных гуказлучэнняў, ступень спалучальнасці тых ці іншых зычных і галосных гукаў. У выніку гэтага больш надзейна слухачом аналізуюцца тыя склады, частотнасць якіх большая, і наадварот. Відаць, наяўнасць у памяці перцэптыўных эталонаў верагодных гуказлучэнняў і складоў дазваляе вопытнаму слухачу пры ўспрыманні звужаць дыяпазон пошукаў адпаведнага фанемнага рашэння. Пры памылковым успрыманні складоў заўважана пэўная тэндэнцыя замен адных спалучэнняў гукаў на другія. Яе сутнасць у тым, што склад з меншай частотнасцю ўжывання замяняецца, як правіла, на склад з большай частотнасцю, але не наадварот [24].

Адносна адзінак успрымання мовы існуе некалькі супярэчлівых тэорый (акустычная, маторная), аднак большасць фактаў, атрыманых, у прыватнасці, на матэрыяле беларускай мовы, гаворыць у карысць таго, што найменшай перцэптыўнай адзінкай успрымання мовы з'яўляецца склад. Можна лічыць, што склад выступае ў якасці слыхавой адзінкі апрацоўкі акустычнага сігналу мовы, але фаналагічнай адзінкай распазнавання слова і прыняцця рашэння адносна яго сэнсу з'яўляецца фанема. Згодна з такой тэорыяй, акустычны сігнал моўнага паведамлення на адпаведным узроўні ўспрымання шляхам паскладовай апрацоўкі пераадлюстроўваецца ў ланцуг фанем і толькі затым апазнаецца [25].

[24] Штерн А. С. Влияние лингвистических факторов на восприятие речи. Автореф. дис. ... канд. филол. наук. Л., 1984.

[25] Лосик Г. В. Сенсомоторная модель константного восприятия речи // Весці АН БССР. 1984. № 6 (ИНИОН АН СССР, № 18053 Деп.).

## § 4.22. СКЛАДАПАДЗЕЛ

Вызначэнне меж паміж складамі ў слове і на стыках слоў называецца складападзелам. Існуе некалькі тэарэтычных прынцыпаў і крытэрыяў складападзелу: у адпаведнасці з узрастаннем гучнасці (*ва́-пна, ка-пні́*), змяненне мускульнай напружанасці галасавых звязак (*ва́п-на, ка-пні́*), рэальнасць склада ў пачатку слова (*ва́п-на, ка-*

*пні*), тэндэнцыя да адкрытых складоў (*вá-пна, ка-пні*). Гэтыя прынцыпы і крытэрыі адрозніваюцца тэарэтычнымі пасылкамі адносна таго, якія спалучэнні гукаў у моўнай плыні лічыць складамі, а па якіх праходзіць мяжа.

Пры ўспрыманні слова на слых носьбіты беларускай мовы лёгка вызначаюць колькасць у ім складоў, аднак межы паміж складамі могуць расстаўляць па-рознаму (*зя-мля́* ці *зям-ля́, ад-кá-зваць* ці *ад-кáз-ваць*).

Пашыраны ў беларускай мове прынцып складападзелу ў адпаведнасці з узрастаннем гучнасці[26]. Канкрэтна рэалізуецца ён у наступных правілах:

1) калі ў слове апошні гук галосны, а зычныя і галосныя гукі ў ім размешчаны па чарзе, складападзел праводзіцца паміж галосным і наступным зычным (*ба-ра-на-вá-лі, са-ма-да-па-мó-га*);

2) калі паміж галоснымі ёсць спалучэнне шумных зычных ці шумнага і санорнага, то складападзел праводзіцца перад першым зычным, так што спалучэнне зычных адносіцца да наступнага склада (*мя-тлá, по-шта*);

3) калі паміж галоснымі ёсць спалучэнне санорнага зычнага з санорным або спалучэнне санорнага ці [й] і [ў] з шумным, то складападзел праходзіць паміж зычнымі: санорны, [й] і [ў] адносяць да папярэдняга склада, а другі зычны — да наступнага (*гáл-ка, жáр-ты, пам-рэ́, рóў-ны*);

4) спалучэнні зычных гукаў у пачатку слова і ў канцы незалежна ад тыпу зычных, якія спалучаюцца, цалкам адносяцца да склада, утворанага суседнім галосным гукам (*зра-бі-ла, ка-лі́бр*);

5) складападзел на стыку марфем праводзіцца па тых жа правілах, што і не на стыку. У выніку гэтага ў беларускай мове падзел слова на марфемы (*пад-ыгр-á-л-і*) можа не супадаць з падзелам яго на склады (*па-ды-грá-лі*).

У больш агульным выглядзе апісаны прынцып узрастаючай гучнасці фармулюецца так:

1) усе гукі беларускай мовы па гучнасці (сіле гучання) падраздзяляюцца на тры класы: галосныя — клас найбольш гучных гукаў; санорныя — гукі з сярэдняй велічынёй гучнасці; астатнія зычныя гукі з малой гучнасцю;

2) пры пабудове ў словах розных складоў, у тым ліку і пачатковых, гукі беларускай мовы спалучаюцца ў розныя паслядоўнасці, аднак заўсёды такім чынам, што зычныя гукі, якія папярэднічаюць у складзе галоснаму гуку, ствараюць з ім узрастаючую па гучнасці паслядоўнасць.

У рускай мове зычныя гукі, якія папярэднічаюць галоснаму ў пачатковым складзе, могуць не ўтвараць узрастаючую паслядоўнасць (*лбы, ржáвый*). У беларускай жа мове за кошт з'яўлення ў пачатку слоў перад санорнымі [м], [р], [л] прыстаўных галосных [і] і [а] ствараецца новы склад, да якога далучаецца санорны. У выніку гэтага прынцып узрастаючай гучнасці характэрны тут для ўсіх складоў слова без выключэння.

Такім чынам, спалучэнне ў слове гукаў $ЗГЗ_1З_2Г$ можа мець рознае месца складападзелу ў залежнасці ад гучнасці $З_1$ і $З_2$. Калі гучнасць $З_1$ меншая, чым $З_2$, то складападзел робіцца так: $ЗГ—З_1З_2Г$, і гучнасць зычных у спалучэнні $З_1З_2Г$ узрастае ад $З_1$ да Г. У тым выпадку, калі гучнасць $З_1$ большая, чым $З_2$, то $З_1$ не можа быць далучаны да другога склада і складападзел будзе такі: $ЗГЗ_1—З_2Г$. У першым складзе $ЗГЗ_1$ гучнасць у спалучэнні ЗГ узрастае, затым у спалучэнні $ГЗ_1$ пасля галоснага спадае. Другі склад пачынаецца з зычнага $З_2$ малой гучнасці, і таму яна ў спалучэнні $З_2Г$ паслядоўна павялічваецца. Па тым жа прынцыпе вызначаецца месца

---

[26] Падлужны А. І. Склад. БелСЭ. Т. 9. С. 556.

складападзелу пры трохгукавых спалучэннях зычных тыпу ГЗЗЗГ і чатырохгукавых спалучэннях ГЗЗЗЗГ.

У аснове гэтага прынцыпу, распрацаванага Р. І. Аванесавым [27], ляжыць дыферэнцыяцыя *перцэптыўна-слыхавых* якасцей гукаў у слове без уліку артыкуляцыйных ці акустычных іх якасцей.

У адпаведнасці з прынцыпам узрастаючай гучнасці ў беларускай мове могуць ствараца склады наступнай будовы:

1) склады тыпу Г, якія ўтварае адзін галосны гук. Такі тып склада могуць утвараць усе беларускія галосныя гукі, апрача гука [ы] *(а-ле́, у-се́, э — браток! о-каб! І-ва́н)*. Склад тыпу Г гукі [а], [э], [о], [у], [і] ўтвараюць, як правіла, калі рэалізуюцца ў пачатку слова або ў выглядзе самастойных слоў. Разам з тым да складоў тыпу Г з пункту погляду фанетыкі нельга аднесці склады тыпу jГ, якія ўтвараюцца пры рэалізацыі галосных [а], [э], [о] ў пазіцыі пасля галосных або апострафа *(чы-já, то́-jэ, ма-jо́, чу́—jу)*. У гэтым выпадку перад галосным узнікае дадаткова гук [j] і ўтвараецца склад, які больш правільна адносіць да тыпу ЗГ. Калі на стыку слоў без паўзы галосны [і] аказваецца пасля галоснага *(яго імя)*, адбываецца не далучэнне, а замена [і] на гук [j]. Таму склад, які ўтварае гук [і] перад паўзай *(і-мя́)*, наогул ліквідуецца (jа-го́-jмя). Вельмі рэдка, напрыклад у словах іншамоўнага паходжання ці ў выпадку падвоенага галоснага гука, галосныя [а], [е], [і] ў пазіцыі пасля галоснага рэалізуюцца фанетычна без дадатковага [j]. Тады яны ўтвараюць склад тыпу Г *(ка-но́-э, пі-а́-ла, пра-і-дал, па-а-со́-бку)*.

Разам з тым пры вымаўленні ў словах такога тыпу галоснага [о] на фанетычным узроўні перад ім узнікае прыгук [в]: *на-*[во]*-гул*, і таму ствараецца склад тыпу ЗГ, а не Г. Што датычыць галоснага [у], то, калі на стыку слоў без паўзы ён аказваецца пасля галоснага, адбываецца пераход яго ў гук [ў]. У гэтым выпадку склад тыпу Г, які гук [у] мог утвараць перад паўзай *(трэ́-ба у-ла-дка-ва́ць)*, ліквідуецца *(трэ́-баў-ла-дка-ваць)*.

Увогуле можна зазначыць, што ў беларускай мове існуе 5 складоў тыпу Г: [а], [э], [о], [у], [і].

2) склады тыпу ЗГ. Яны могуць утварацца ад спалучэння любой зычнай фанемы (апрача [ў] і [й]) з любой галоснай *(га, джы, дзе, лі, рэ)*. Апрача таго, склад ЗГ утвараецца спалучэннем гука [j] з галоснымі [а], [э], [о], [у] *(ма-jа́, та-jе́, тва-jо́, ла́-jу-ся)* і спалучэннем прыгука санорнага [в] з галосным [о] ў яго пазіцыі пасля галоснага *(на-*[во]*-гул)*.

Сярод розных тыпаў складоў склад ЗГ у беларускай мове, як і іншых славянскіх мовах, самы распаўсюджаны па частаце ўжывання. Зазначым, што ўвогуле ў беларускай мове сустракаюцца ўсе 185 магчымых складоў тыпу ЗГ, якія ўтвараюцца спалучэннямі 37 зычных і 5 галосных фанем, і ўсе 4 склады тыпу Г. Аднак распаўсюджанасць кожнага з гэтых 189 складоў у беларускай мове розная: адны спалучэнні ЗГ сустракаюцца часта, другія — адносна рэдка.

У мове дзяцей самымі першымі сярод іншых складоў з зычнымі з'яўляюцца склады тыпу ЗГ;

3) склады тыпу ГЗ. Гэты тып складоў сустракаецца ў выглядзе аднаскладовага слова *(ад, іл, ой, ух, эх)*, у пачатку шматскладовага слова *(ар-хі́ў, ір-жа́)*, рэдка ў сярэдзіне і ў канцы слова пасля галосных *(ка-ар-ды-на́-цы-jа, Ла-о́с, па-э́т)*. Гэты тып складоў у беларускай мове распаўсюджаны слаба;

4) склады тыпу ЗГЗ сустракаюцца ў выглядзе самастойных слоў *(бэз, кат, лік, шум)*, у пачатку, у

[27] Аванесов Р. И. Фонетика современного русского литературного языка. М., 1956.

сярэдзіне і ў канцы слова (*ва́р-та, на-вар-ны́, по́-вар*). Па распаўсюджанасці ў беларускай мове гэты тып складоў займае другое месца. Галосныя [а], [е], [о], [у], [і] пры ўтварэнні складоў тыпу ЗГЗ могуць спалучацца практычна з усімі беларускімі зычнымі. Разам з тым у спалучэнні $З_1ГЗ_2$ у якасці $З_2$ (асабліва, калі склад стаіць у пачатку слова ці ў сярэдзіне) найбольш часта выступаюць санорныя гукі [р], [м], [н], [л] і [ў], [й] (*ла́ў-ка, ма́р-на*). І наадварот, згодна з прынцыпам узрастання гучнасці, некаторыя зычныя могуць выступаць у якасці $З_2$ у складах $З_1ГЗ_2$ толькі тады, калі ён апошні ў слове;

5) склады тыпу ЗЗГ сустракаюцца дастаткова часта ў беларускай мове ў розных пазіцыях адносна граніц слова (*зла-ма́ць, за-зла-ва́ць, вя-зла́*), а таксама ў выглядзе самастойных слоў (*два, зло, гне*). Склад ЗЗГ, калі ён не пачатковы, у адпаведнасці з прынцыпам узрастаючай гучнасці не можа змяшчаць двух санорных зычных, бо першы з іх павінен быць аднесены да папярэдняга галоснага (спалучэнне трох санорных у беларускай мове не сустракаецца). Два санорныя гукі ў складзе ЗЗГ могуць быць толькі тады, калі склад гэты пачатковы (*мрэ*), але (*пам-рэ*), (*мл'э-јэ*), але (*сам-л'э-э*);

6) склады тыпу $З_1З_2ГЗ_3$ распаўсюджаны менш шырока, чым склады ЗЗГ. Яны сустракаюцца ў канцы слова, дзе ў якасці $З_3$ можа выступаць практычна любы зычны (*у-злёт, пе-ра-звон*), апрача звонкіх выбухных [б], [д], [з], якія ў гэтай пазіцыі аглушаюцца (*хлеп, до-слет*). Калі гэты тып складоў сустракаецца не ў канцы слова, у якасці $З_3$ абавязкова бывае санорны гук. Аднак найбольш часта гэты тып складоў рэалізуецца ў выглядзе самастойных слоў (*жвір, звон, млын*);

7) яшчэ менш распаўсюджаны ў беларускай мове склады тыпу $ЗЗГЗ_1З_2$. Склад такога тыпу па тэорыі можа быць толькі апошнім у слове, бо калі б за ім стаяў яшчэ які-небудзь склад, то апошні зычны адышоў бы да яго. Таму склады гэтага тыпу сустракаюцца ў большасці выпадкаў у выглядзе самастойных слоў (*гвалт, хруст*) і адносна рэдка ў якасці апошняга склада шматскладовых слоў (*кан-тра́кт, кан-тра́ст, не́-хрысць, по́-свіст, служ-бі́ст*);

8) склады тыпу ЗГЗЗ сустракаюцца ў слове ў пазіцыі апошняга склада (*ля́-мант, та́-лент, ту-ры́зм*) або ў выглядзе асобных слоў (*ліст, факт*);

9) у беларускай мове не вельмі шырока, але распаўсюджаны склады тыпу ЗЗЗГ і ЗЗЗГЗ. Гэтыя тыпы складоў сустракаюцца ў розных пазіцыях: *зблы́-таць, ка-ні-стра, спраў-ля́ць, спрэ́-чка, стра́-ва, стра-ка́-ты*. У беларускай мове, як вядома, прасочваюцца пэўныя тэндэнцыі пры ўтварэнні трохгукавых спалучэнняў зычных розных класаў. Так, глухія выбухныя [п], [т], [к] займаюць у такіх спалучэннях сярэднюю пазіцыю (*скр, спл, спр, стр*), адносна радзей яны займаюць першую пазіцыю (*кпл, пск, пхн, тхл, тхн*). Больш часта ў першай пазіцыі стаяць фрыкатыўныя гукі [с] ці [ш]. Апошнім, трэцім зычным у такіх спалучэннях амаль заўсёды бывае санорны, які, аднак, не сустракаецца ў якасці першага зычнага (*пхн, скр, шкл*);

10) адносна рэдка ў беларускай мове сустракаюцца склады са спалучэннем трох зычных тыпу ЗГЗЗЗ і ЗЗГЗЗЗ. Яны зафіксаваны толькі ў пазіцыі апошняга склада ў шматскладовых словах (*Сма-ле́нск, кан-тэ́кст*) або ў выглядзе аднаскладовых слоў (*Мінск, спектр*).

Усе разгледжаныя тыпы складоў вызначаны і ахарактарызаваны адносна зычных, якія ў іх уваходзяць, зыходзячы з прынцыпу ўзрастання гучнасці. Разам з тым, як адзначалася, існуюць іншыя, менш пашыраныя прынцыпы складападзелу слова. Зразумела, што калі зыхо-

дзіць з розных прынцыпаў, то ў адным і тым жа слове могуць быць вылучаны розныя тыпы складоў.

У аснову прынцыпу мускульнага напружання, прапанаванага Л. В. Шчэрбай, пакладзены *артыкуляцыйна-фізіялагічныя* адрозненні ва ўтварэнні зычных гукаў [28]. Склад у гэтым выпадку разглядаецца як рэалізацыя ў мове аднаго імпульса мускульнага напружання. Моўная плынь вызначаецца як паслядоўнасць такіх імпульсаў. Найбольшае мускульнае напружанне дасягаецца ў момант вымаўлення галоснага. Паміж імпульсамі адбываецца паніжэнне напружання. Месца найбольшага напружання і ёсць граніца паміж складамі.

Згодна з данай тэорыяй, ступень напружанасці галоснага ўплывае на напружанасць сегментаў суседняга зычнага. У зычнага, які ідзе непасрэдна пасля націскнога галоснага і стаіць перад зычным, больш напружаны пачатковы сегмент, чым канцавы. А ў санорных зычных пачатковы сегмент больш напружаны нават і пасля ненаціскных галосных. Таму зычныя пасля націскнога галоснага, а санорныя зычныя ў любым выпадку далучаюцца пры складападзеле да папярэдняга галоснага. У несанорнага зычнага, які папярэднічае націскному галоснаму, больш напружаны канцавы сегмент. Канцавы сегмент больш напружаны наогул у любога зычнага, калі ён непасрэдна прымыкае на наступнага галоснага.

Такім чынам, згодна з прынцыпам мускульнага напружання, паслядоўнасць гукаў $ЗГЗ_1З_2Г$, дзе $З_1$ несанорны, атрымлівае розны складападзел у залежнасці ад таго, які галосны, першы ці другі, націскны. Калі націскным з'яўляецца першы галосны, то $З_1$ рэалізуецца з напружаным пачаткам, і складападзел праходзіць так: $ЗГЗ_1—З_2Г$ (*гу́с-та*). Калі ж націск падае на другі галосны, то $З_1$ рэалізуецца з напружаным канцом, і таму пры складападзеле ён далучаецца да другога склада (*гу-сты́*). У адрозненне ад гэтага прынцыпу прынцып узрастання гучнасці не ўлічвае месца націскнога галоснага адносна несанорных зычных спалучэнняў. У выніку складападзел аднаго і таго ж слова пры розных прынцыпах можа быць у розных месцах: *чы́с-ты* або *чы́-сты, ко́с-ка* або *ко́-ска*.

Можна зрабіць вывад, што калі пры складападзеле ў беларускай мове прытрымлівацца прынцыпу мускульнай напружанасці і адысці ад прынцыпу ўзрастання гучнасці, то гэта прывядзе да павелічэння ў мове колькасці складоў тыпу ЗГЗ за кошт скарачэння колькасці складоў тыпу ЗГ, павелічэння колькасці складоў тыпу ЗЗГЗ за кошт складоў тыпv ЗЗГ, складоў тыпу ЗЗЗГЗ за кошт складоў тыпу ЗЗЗГ. Гэта значыць, колькасць закрытых складоў павялічваецца, а адкрытых памяншаецца, агульная колькасць складоў са збегам зычных таксама памяншаецца.

Як вядома, у беларускай мове існуе тэндэнцыя да вымаўлення многаскладовых слоў з асноўным і пабочным націскам (гл. § 5.9). Таму адносна прынцыпу мускульнай напружанасці тут узнікаюць складанасці пры вызначэнні статуса галоснага, на які падае пабочны націск. Застаецца адкрытым пытанне, прыпадабняць статус гэтага галоснага да націскнога галоснага ці да ненаціскнога.

Для складападзелу слова можа выкарыстоўвацца прынцып, прапанаваны ў свой час М. В. Ламаносавым [29]. Згодна з гэтым прынцыпам, непачатковыя склады па збегу зычных перад галоснымі не павінны адрозвівацца ад пачатковых складоў. Інакш кажучы, у пачатку склада ў

[28] Щерба Л. В. Фонетика французского языка. М., 1955.

[29] Ломоносов М. В. Российская грамматика // Полн собр. соч. М.; Л., 1952. Т. 7.

сярэдзіне слова дазваляюцца толькі такія спалучэнні зычных, якія могуць мець месца і ў пачатку слова. Напрыклад, складападзел слова можна зрабіць так: *да-звол,* бо ў беларускай мове існуюць словы, якія пачынаюцца са спалучэння [зв] *(зварот).* У той жа час слова *калгáс* нельга дзяліць на склады так: *ка-лгáс,* бо ў беларускай мове няма слоў, якія пачыналіся б са спалучэння [лг].

У апошні час шырокае абмеркаванне ў літаратуры атрымала гіпотэза аб *тэндэнцыі да адкрытых складоў* пры складападзеле. Па сваёй сутнасці яна грунтуецца пераважна не на тэарэтычных разважаннях, а на эксперыментальна-акустычных даследаваннях гукаў моўнай плыні, узаемаўплыву суседніх зычных і галосных гукаў адзін на аднаго ў плане іх спектральных і прасадычных характарыстык[30]. Такія даследаванні паказалі, што зычны гук незалежна ад яго якасці (санорны ці несанорны), месца націску ў слове і аддаленасці ад наступнага галоснага ($З_1Г$, $З_1ЗГ$, $З_1ЗЗГ$) па акустычных характарыстыках карэлюе з ім мацней, чым з папярэднім галосным. У адпаведнасці з такой тэндэнцыяй зычных гукаў прымыкаць да наступнага галоснага робіцца складападзел слова *(вы-рá-зна, за-зня́-чыць, ка-лгá-сы, пá-ста, па-стá-віць).*

Тэндэнцыя да адкрытых складоў больш поўна рэалізуецца пры вымаўленні не асобных слоў, а злітных вусных выказванняў, фраз *(пры-нё-са-лó-ва-кі-сшы́-так).* Акрамя таго, даследаванні паказваюць, што гэта тэндэнцыя больш яскрава назіраецца пры вымаўленні фраз не поўным, а размоўным стылем, калі адбываецца рэдукцыя адных гукаў і ўзнікненне прыгукаў другіх.

Пералічаныя прынцыпы складападзелу слова для сегментацыі спалучэнняў гукаў дыферэнцыруюцца па той ці іншай фанетычнай характарыстыцы: артыкуляцыйнай (мускульная напружанасць), акустычнай (імкненне да адкрытых складоў), перцэптыўна-слыхавой (узрастаючая гучнасць). Адзначаныя прынцыпы з'яўляюцца прынцыпамі лінгвістычнага парадку. Яны ўяўляюць сабой строгія правілы размежавання зычных паміж суседнімі складамі. Разам з тым, як вядома, пры пераносе слоў з радка ў радок дзейнічаюць пэўныя падставы, якія даюць дазвол часам на розныя варыянты размежавання зычных унутры слова[31].

На пісьме прынцыпы складападзелу прымяняюцца для правільнага пераносу часткі слова з аднаго радка ў другі. Калі ў слове няма спалучэння зычных паміж галоснымі, правіла падзелу слова пры пераносе супадае з правілам 1) складападзелу: слова пры пераносе з радка ў радок можа дзяліцца на часткі толькі ў месцы складападзелу. Да гэтага правіла трэба дадаць толькі забарону адлучаць ад слова першы яго склад, калі ён тыпу Г, каб выконвалася правіла, згодна з якім нельга пакідаць у радку ці пераносіць у наступны адну літару.

Разам з тым, калі ў слове ёсць спалучэнне зычных паміж галоснымі, то правілы 2), 3) і 5), якія задаюць складападзел у адпаведнасці з прынцыпам узрастаючай гучнасці, не вытрымліваюцца пры падзеле гэтага слова для пераносу. І іншыя прынцыпы складападзелу, у тым ліку мускульнай напружанасці, прынцып рэалізацыі склада ў пачатку слова, імкнення да адкрытых складоў, не падыходзяць па сваіх правілах для таго, каб зрабіць гэтыя правілы складападзелу правіламі пераносу. Правілы складападзелу пры спалучэнні двух зычных паміж галоснымі супадаюць з правілам па-

---

[30] Бондарко Л. В., Павлова Л. П. О фонетических критериях при определении места слоговой границы // Русский язык за рубежом. 1967. № 4. С. 11—19.

[31] Беларуская мова / Пад рэд. Я. М. Адамовіча. Мн., 1987. С. 88.

дзелу такога спалучэння пры пераносе слова толькі ў адным выпадку: калі першы зычны ў спалучэнні [й]. У тых выпадках, калі ў слове не на стыку марфем ёсць спалучэнне тыпу ГЗЗГ, ГЗЗЗГ ці ГЗЗЗЗГ, то правілы пераносу слова ўвогуле дапускаюць не адзін, а некалькі розных варыянтаў падзелу гэтых спалучэнняў: два варыянты падзелу спалучэння ГЗЗГ: Г-ЗЗГ і ГЗ-ЗГ (пераносяць *ца-гліна* і *цаг-ліна)*, тры варыянты падзелу ГЗЗЗГ: Г-ЗЗЗГ, ГЗ-ЗЗГ і ГЗЗ-ЗГ (пераносяць *ся-стра́, сяс-тра́* і *сяст-ра́)*, чатыры варыянты падзелу спалучэння ГЗЗЗЗГ: Г-ЗЗЗЗГ, ГЗ-ЗЗЗГ, ГЗЗ-ЗЗГ, ГЗЗЗ-ЗГ (пераносяць *ка-нстру́ктар, кан-стру́ктар, канс-тру́ктар, канст-ру́ктар)*.

На пісьме пры пераносе слоў у некаторых выпадках робіцца адхіленне ад правіл складападзелу у карысць марфалагічнага падзелу слова. Напрыклад, перанос робіцца так: *пад-нёс,* а не *па-днёс, прад-мова,* а не *пра-дмова.*

# Раздзел 5

## НАЦІСК

### § 5.1. ФАНЕТЫЧНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА СЛОЎНАГА НАЦІСКУ

Націск належыць да прасадычных, або суперсегментных, сродкаў мовы. Фанетычныя прыкметы, па якіх ён вызначаецца, распаўсюджваюцца на слова, сінтагму, выказванне. Калі гэтыя прыкметы ахопліваюць слова, то з іх дапамогай вылучаецца слоўны націск. Выконваючы функцыю аб'яднання пэўнага фанемнага рада ў самастойныя моўныя адзінкі — словы, ён уздзейнічае на кожную з фанем і ставарае алафонныя варыянты фанетычнага ўзроўню.

Роля націску ў фанетычнай арганізацыі кожнай мовы выключна вялікая. Характар націску, яго месца і сіла і звязаныя з ім рытм і мелодыка маўлення прадвызначаюць шматлікія фанетычныя з'явы, уплываюць на характар вымаўлення асобных гукаў і іх спалучэнняў, што непасрэдна адбіваецца на гукавым ладзе мовы.

У якасці фанетычных характарыстык націску выкарыстоўваюцца працягласць, інтэнсіўнасць і частата асноўнага тону. Пры гэтым адны і тыя ж аб'ектыўныя ўласцівасці гукавога сігналу, што ўспрымаюцца слухачамі, могуць мець рознае значэнне для вызначэння цэласнасці слова.

У межах слова з дапамогай названых характарыстык адбываецца выдзяленне аднаго са складоў у слове, якое суправаджаецца змяненнем сілы вымаўлення, вышыні голасу, а таксама якасных і колькасных характарыстык часткі гукаў. Такое выдзяленне і называецца слоўным націскам. Паколькі кантраст складоў па пэўных фанетычных прыкметах ажыццяўляецца ў межах слова, націск з'яўляецца прыкметай усяго слова, а не асобнага гука або склада. Звычайна выдзяленне пэўнага склада ажыццяўляецца з дапамогай розных прасадычных сродкаў: дынамічных, вышынных або колькасных,— і слоўны націск мае змешаны характар. Аднак яго тып у пэўнай мове вызначаецца па рысе, якая пераважае.

Слоўны націск, які характарызуецца ўзмацненнем мускульнага напружання і напору паветранай хвалі, што выдыхаецца пры вымаўленні слова, называецца *дынамічным* (або экспіраторным, сілавым, манатанічным). Вылучэнне націскнога склада шляхам змянення вышыні галасавога тону называецца *політанічным*, або музыкальным, націскам, а шляхам павелічэння працягласці націскнога галоснага — *колькасным*, або квантытатыўным, націскам.

Політанічны, або музычны, націск уласцівы сербскахарвацкай, славенскай і літоўскай мовам. У гэтых мовах словы і іх формы характарызуюцца павышэннем або паніжэннем тону голасу на націскных складах (або на іншых выдзеленых элементах).

Дынамічны націск мае французская мова, але ў гэтай мове ён валодае таксама музычнымі і колькас-

нымі якасцямі [1]. Пераважна дынамічны націск характарызуе таксама ўкраінскую мову. Але ва ўкраінскім слове дынамічны націск адносна слабы, выдыхальная энергія ў ім размеркавана паміж складамі больш раўнамерна, таму націскны склад не выдзяляецца рэзка сярод іншых складоў слова [2]. Адначасова ўкраінскі націск мае элементы колькаснага і музыкальнага націску.

Вядома, што на працягу гісторыі некаторых моў націск можа змяніць свой характар. Так, у навагрэчаскай мове існуе націск дынамічны, у той час як у старажытнагрэчаскай ён быў музыкальным. Такую магчымасць унутранага пераразмеркавання, змены ўдзельнай вагі аднаго з параметраў варта мець на ўвазе пры аналізе сучасных моў, бо гэтым можна растлумачыць шматлікасць прасадычных рыс, якія выступаюць пры фарміраванні слоўнага націску.

Акустычныя адзнакі беларускага націску пачалі даследавацца толькі ў апошні час. У ранейшых работах ён характарызаваўся як дынамічны, але яго фізічныя параметры дакладна не вызначаліся. Даследчыкі адзначалі, што пры вымаўленні націскнога склада назіраецца і больш энергічная работа органаў мовы, і большы напор струменю паветра, і яго большая гучнасць пры ўспрыманні. Некаторыя даследчыкі лічаць, што сучаснай беларускай мове ўласцівы «сілавы націск з пэўнымі элементамі колькаснага націску» [3]. Зараз, пасля правядзення эксперыментаў, стала відавочным, што беларуская мова характарызуецца дынамічна-колькасным націскам.

Націскны склад часта выдзяляецца адначасова рознымі спосабамі, але найбольш важнай яго фанетычнай прыкметай з'яўляецца павелічэнне працягласці націскнога галоснага. Як правіла, націскныя галосныя па працягласці даўжэйшыя за ненаціскныя. Праведзеныя даследаванні паказалі, што для вызначэння месца слоўнага націску найбольш эфектыўнай з'яўляецца якраз працягласць [4].

Колькасны характар націску адлюстроўваецца і пры ўспрыманні асобных націскных і ненаціскных галосных носьбітамі беларускай мовы, бо нават кароткія націскныя галосныя ацэньваюцца імі як больш працяглыя ў параўнанні з ненаціскнымі.

Эксперыменты таксама паказалі, што падаўжэнне галоснага ўспрымаецца носьбітамі беларускай мовы як прыкмета націску, рыса, якая сведчыць аб знаходжанні галоснага ў націскным складзе. Даследаванне працягласці зычных паказала адсутнасць іх заканамерных змяненняў у залежнасці ад таго, знаходзяцца яны ў націскным або ў ненаціскным складзе, хоць часта і назіраецца большая працягласць зычных у націскным.

Эксперыменты па перасадцы складоў і пераўтварэнню націскнога склада ў ненаціскны таксама паказалі, што націск уплывае на акустычныя характарыстыкі націскнога галоснага значна больш, чым на характарыстыкі зычных таго ж склада. Паколькі працягласць галосных у беларускай мове з'яўляецца ўласна прасадычным сродкам, які не выкарыстоўваецца для супрацьпастаўлення галосных фанем, гэта найбольш надзейная прыкмета націску.

Акрамя працягласці, беларускаму націску ўласцівы і іншыя акустычныя якасці. Але залежнасць паміж месцам націску і вышынёю тону або інтэнсіўнасцю назіраецца толькі тады, калі слова трапляе ў

---

[1] Щерба Л. В. Фонетика французского языка. М., 1963. С. 89.

[2] Сучасна українська літаратурна мова. Вступ. Фонетика. Київ, 1969. С. 359.

[3] Бурак Л. І. Сучасная беларуская мова. Мн., 1974. С. 73.

[4] Галосныя беларускай мовы. Мн., 1975. С. 53.

пэўныя фразавыя ўмовы, у якіх назіраецца ўзрастанне гэтых параметраў. Пры даследаванні ізалявана вымаўленых слоў высветлілася, што павелічэнне амплітуды ваганняў націскнога галоснага, якое ў першым прыбліжэнні адпавядае павелічэнню інтэнсіўнасці, не з'яўляецца пастаяннай прыкметай беларускага слоўнага націску. Асноўны тон таксама не заўсёды істотны для яго абазначэння [5].

Даследаванне слоўнага націску ў звязным тэксце таксама паказала розную эфектыўнасць акустычных параметраў пры яго фарміраванні. Найменш паслядоўна ён суадносіўся ў тэксце з павышэннем частаты асноўнага тону; у тых выпадках, калі ён вызначаўся гэтай рысай, часцей за ўсё назіралася і падаўжэнне галоснага. Абазначэнне націску паніжэннем частаты асноўнага тону сустракалася яшчэ радзей [6].

Больш эфектыўным з'яўляецца выкарыстанне параметра «сумарная энергія». Але даўжыня галоснага ўваходзіць у гэты складаны параметр як яго састаўная частка, ▪ вызначэнне націску не паляпшаецца ў параўнанні з тым, якое назіраецца пры выкарыстанні параметра працягласці. Такім чынам, і ў асобных словах, і ў звязным тэксце ў поўным стылі літаратурнага вымаўлення пры апавядальнай інтанацыі найбольш істотную ролю ў вызначэнні слоўнага націску адыгрывае працягласць галосных гукаў.

Цяжэй за ўсё вызначыць адрозненне складоў па інтэнсіўнасці, бо невядома, на які акустычны карэлят абапіраюцца носьбіты мовы, калі ацэньваюць склад як інтэнсіўны. Агульнапрынята дынамічны націск характарызаваць па большай гучнасці націскнога склада. Даследаванне змянення гучнасці галосных у залежнасці ад іх аддаленасці ад націску з дапамогай псіхалінгвістычных эксперыментаў з носьбітамі беларускай мовы паказала, што яны, як правіла, ацэньваюць ненаціскныя галосныя як менш гучныя ў параўнанні з націскнымі. Аднак гэтыя ж эксперыменты сведчаць, што гучнасць галосных значна менш залежыць ад іх пазіцыі ў адносінах да націскнога склада, чым працягласць, паколькі яна больш звязана з пачаткам і канцом слова.

З фізіялагічнага боку дынамічны націск вызначаецца ўзмацненнем мускульнага напружання органаў мовы, а таксама ўзмацненнем выдыху. Але спецыяльных даследаванняў, якія пацвердзілі б значнасць гэтай прыкметы для выдзялення націску ў слове ў беларускай мове не праводзілася. Таму сцверджанні аб дынамічным характары націску грунтуюцца толькі на даных па ўспрыманню. Такім чынам, у якім бы аспекце ні разглядаць акустычныя або артыкуляцыйныя параметры, што вызначаюць слоўны націск у беларускай літаратурнай мове, яго дынамічна-колькасная прырода здаецца відавочнай.

Прасадычны кантраст паміж націскнымі і ненаціскнымі складамі можа быць выражаны моцна або слаба. Пры гэтым моцна цэнтрыруючая прасодыя забяспечвае цесную сувязь кампанентаў слова, стварае такое суцэльнае адзінства яго частак, якое пэўным чынам гарантуе адасобленасць слова ў фразе. Слаба цэнтрыруючы прасадычны кантраст характарызуецца слабай сувяззю частак слова, іх аўтаномнасцю, незалежнасцю ад прасадычнай вяршыні слова.

Адасобленасць і адзінства слова ў мове дасягаюцца рознымі шляхамі: сінтэтычным — моцнай звязанасцю кампанентаў слова або аналітычным — маркіроўкай пачатку або канца слова. Беларуская мова характарызуецца моцнацэнтрыруючай прасодыяй, пры якой націск не толькі абумоўлівае адрозненне складоў па інтэнсіўнасці іх гучання, па

---

[5] Галосныя беларускай мовы. С. 13.
[6] Там жа. С. 23.

ўзмацненню націскнога склада і павелічэнню яго працягласці, але і выклікае якасныя, прыкметныя на слых змяненні ў гучанні галосных у залежнасці ад іх пазіцыі ў слове. Усё гэта звязвае кампаненты слова ў адзінае цэлае, што дае магчымасць выдзеліць яго амаль з любога кантэксту.

У беларускай мове ў гэтых адносінах шмат агульнага з украінскай мовай, у якой націск хутчэй каардынуе астатнія склады, а не падпарадкоўвае іх сабе. Моцная рэдукцыя ненаціскных складоў, калі галосныя змяняюцца ў гукі няпоўнага ўтварэння (што характэрна для рускай мовы), беларускай і ўкраінскай мовам не ўласціва, а выпадкі поўнай рэдукцыі сустракаюцца вельмі рэдка. Галосныя ненаціскных складоў змяняюцца па сваёй працягласці і гучнасці, але не ў такой ступені моцна, як у рускай мове. Зменам у ненаціскных складах пасля цвёрдых зычных падлягае толькі галосны [а], галосныя [ы], [у], [е] практычна не змяняюцца якасна.

Пасля мяккіх зычных галосны [а] таксама некалькі змяняе сваю якасць, але эксперыменты па ўспрыманню пар слоў, якія адрозніваліся толькі якасцю ненаціскнога галоснага (*лічыць — лячыць, паліваць — палїваць*), паказалі, што носьбіты беларускай мовы добра апазнавалі гэтыя словы. Колькасць памылковых адказаў узрастала толькі пры апазнаванні галосных паслянаціскных складоў.

Аналіз успрымання галосных у мінімальных парах паказаў, што ўзровень апазнавання галосных залежыць як ад іх якасці і тыпу склада, у якім яны знаходзяцца, так і ад якасці суседніх зычных, прынамсі, ад іх мяккасці-цвёрдасці.

Правільнае апазнаванне слоў, якія адрозніваюцца толькі ненаціскнымі галоснымі і маюць у астатнім аднолькавы фанетычны склад, даволі высокае. Галосныя апазнаваліся правільна больш чым у 75% выпадкаў (у псіхафізічных даследаваннях парогавай лічыцца распазнавальнасць, роўная 75%). Пасля мяккіх зычных галосныя апазнаваліся горш; толькі для [у] мяккасць папярэдніх зычных не ўплывала на вынікі эксперымента.

Сярод галосных пасля цвёрдых зычных лепш за ўсё апазнаюцца [у] і [ы], а самая вялікая колькасць памылак зроблена пры апазнаванні слоў з ненаціскным [а]. Можна гаварыць аб параўнальна роўным размеркаванні памылковых адказаў у першым і другім пераднаціскных складах, а таксама ў пераднаціскных і паслянаціскных адкрытых складах.

Высокі працэнт правільных адказаў для большасці ненаціскных пазіцый падмацоўвае думку, што ў беларускай літаратурнай мове адсутнічае якасная рэдукцыя галосных. Але інфарматыўнасць паслянаціскных галосных, асабліва пасля мяккіх зычных, прыкметна памяншаецца, што сведчыць аб фанетызацыі паслянаціскнога вакалізму ў канчатках.

## § 5.2. ПАЗІЦЫЙНЫЯ АСАБЛІВАСЦІ БЕЛАРУСКАГА СЛОЎНАГА НАЦІСКУ

Пазіцыйныя асаблівасці націску звязаны з размяшчэннем націску ў слове. Слоўны націск бывае фіксаваным або свабодным. *Свабодны* націск можа прыпадаць на розныя склады ў словах і ў гэтым сэнсе не мае пазіцыйных абмежаванняў. *Фіксаваны* націск пастаянна прыпадае на адзін і той жа склад у слове: апошні, перадапошні, першы і г. д.

Беларускай мове ўласцівы свабодны націск. Ім могуць выдзяляцца склады з першага па апошні. Але ў беларускай мове шматскладовыя словы наўрад ці можна лічыць ча-

стотнымі. Аналіз дзвюх тысяч найбольш частых слоў беларускай мастацкай прозы[7], якія вызначаны ў частотным слоўніку, паказвае, што пераважная большасць іх — двухскладовыя і трохскладовыя (адпаведна 42 і 35% ад агульнай колькасці найбольш частых слоў). Аднаскладовых слоў сярод самых частых 12%, чатырохскладовых — каля 10, пяціскладовых — толькі 1%. Двухскладовых слоў з націскам на першым складзе 22%, на другім складзе — 20, трохскладовых з націскам на сярэднім складзе — 22%; значна менш трохскладовых слоў з націскам на апошнім складзе — каля 9%, з першым націскным складам — 4%; чатырохскладовых з націскам на передапошнім складзе — 6%, другім націскным складам — 2%. Усе астатнія акцэнтныя тыпы чатырохскладовых і пяціскладовых слоў нешматлікія.

У розных па колькасці складоў словах націск падае на першы склад: у двухскладовых — *вы́бліск, ва́жка, вы́праж, бэ́лька, ка́па;* у трохскладовых — *па́растак, ко́стачка, вы́качаць;* у чатырохскладовых — *ста́раставаць* (В. Быкаў), *са́жалкавы, вы́тлумачыць, ма́кавінка, пры́маразак, за́варацень;* у пяціскладовых — *ло́дарнічанне, жа́варанкамі* (Т. скл. мн. л.), *ве́дамасцямі* (Т. скл. мн. л.), *вы́шчалачыцца, вы́церушыцца, за́гарадзямі* (Т. скл. мн. л.); у шасціскладовых — *па́паратнікавы;* у сяміскладовых — *па́паратнікавыя, вы́крышталізавацца.*

Націск падае на другі склад у словах з рознай акцэнтна-рытмічнай пабудовай: у двухскладовых — *капа́, каса́;* у трохскладовых — *наку́льгваць, прачну́цца, вячэ́ра, рамо́нак;* у чатырохскладовых — *наку́саны, наку́льгванне, наку́плены, пасты́ліца, напы́шлівасць, разво́дзіцца, нягрэ́блівы; у пяціскладовых — разбэ́шчвальніца, разва́жнічацца, прахо́плівацца, развіднівацца, даку́плівацца, дырэ́ктарыха, дыкта́тарстваваць, абко́рмлівацца, аблэ́плівацца, пакэ́пліванне, пала́савацца, апа́мятацца, навы́перадкі, налэ́плівацца, напі́льнікавы, нара́давацца;* у шасціскладовых — *пацве́льваючыся* (Я. Колас), *раме́ньчыкавага, гарэ́злівасцямі, нявы́светленасці* (В. Быкаў); у сяміскладовых — *прасле́даваценьніца.*

У радзе слоў з адным коранем націск прыпадае на трэці склад: у трохскладовых — *прыганя́ць, прынасі́ць, парасо́н, пачака́ць;* у чатырохскладовых — *перане́сці, павуці́нне, канюшы́на, прытулі́цца;* у пяціскладовых — *перасу́нуты, напярэ́дадні, паадто́птваны, напало́ханы, брыгадзі́рстваваць* (Ул. Караткевіч), *нашашэ́рыцца* (М. Воранаў), *назаво́стрываць, калчада́навы, рэпарцё́рстваваць;* у шасціскладовых — *высало́плівацца, абкуро́дымліваць, дэдуцы́равацца, паадлэ́плівацца, з выхо́днікамі* (Т. скл. мн. л.), *пааблo͡млівацца, нашанты́рыўшыся* (Я. Брыль), *папара́дкаваны, выраўно́ўваюся, апасро́дкаваны, напаку́твацца, субсідзі́равацца, напаклё́пнічаць;* у сяміскладовых — *прыстасо́ўваючыся, пракуро́дымлівацца, закуро́дымлівацца.*

На чацвёрты склад націск падае ў чатырохскладовых словах — *вербдюдзяня́, павыскуба́ць, засумава́ць, скаварада́, распакава́ць, апанава́ць;* у пяціскладовых — *замацава́ны, памудрагэ́ліць, прыдуркава́ты, уладкава́цца, галаднава́ты, разгаласі́цца, ушмальцава́ны, падрыхтава́цца, апанава́насць, напагато́ве;* у шасціскладовых — *антрэпрэнё́рстваваць, уцiхамі́рвацца, па-наплява́цельску, дагаспада́рыцца, перадруко́ўвацца, папераўна́чвацца, занепако́іцца, апавяшча́льніца, таленаві́тыя, нарасцяру́швацца, павінава́ціцца;* у сяміскладовых — *суб'ектыві́раваны, перарасхо́даваны, паліцыя́нтаўскага* (Р. скл. адз. л.) (К. Чорны), *дыферэнцы́равацца, дафіласо́фстваваць, пракампасці́раваны, інсінуі́рава-*

[7] Мажэйка Н. С., Супрун А. Я. Частотны слоўнік беларускай мовы. Мн., 1976.

*ны, набальзаміраваны, недаатры́млівацца;* у васьміскладовых — *увідаво́чніваючы* (А. Разанаў).

Пяты склад бывае націскны ў пяцісkладовых словах — *напрывалака́ць, перабалбата́ць, папераґрыза́ць, перакарчава́ць, забаранава́ць, перасаладзі́ць, паслібізава́ць, адзеравяне́ць, апладатвара́ць;* у шасціскладовых — *універсава́цца* (Г. Далідовіч), *дэгенераты́ўны, паінфармава́насць, напрывалака́цца, дакапіталісты́чны, папрактыкава́цца, паперакіда́цца, адзеравяне́лы, занераставацца, налакірава́ны, недапасава́ны, непадпераза́ны, паперавыко́нваць, паперагаро́джваць, вулканізава́цца;* у сяміскладовых — *камп'ютэрыза́цыя, захларафармі́раваць, дэнацыфіка́цыя, дэзарганізо́ўвацца, дыферэнцыя́цыя, перабарано́ўвацца, неабгрунтава́насці* (Р. скл. адз. л.), *пераваро́чвацца, пераразмярко́ўвацца;* у васьміскладовых — *перабалацірава́ны, замаскірава́нага* (прым. Р. скл. адз л.), *супадпарадко́ўваюцца, прыкамандзіро́ўваюцца, калекцыяні́равацца, захларафармі́раваны.*

Шосты склад выдзяляецца ў шасціскладовых словах — *дыспансерызава́ць, пераабсталява́ць, дэвулканізава́ць, прыкамандзірава́ць, манапалізава́ць, налітаграфава́ць, напералака́ць;* у сяміскладовых — *дакапіталісты́чны, надорэміфасо́ліць* (Н. Гілевіч), *прыкамандзірава́ны, натуралізава́цца, перабаранава́ны, папулярызава́цца, дыспрапарцыяна́льны, вітамінізава́ны, субстанцыялізава́ны, пераабсталява́нне, манапалізава́цца, налітаграфава́ны, недавыкарыста́нне, недавыкарысто́ўваць, недысцыплінава́насць, папераапрана́цца;* у васьміскладовых — *дэмілітарыза́цыя, дыферэнцырава́нага, дэнатураліза́цыя, перабалацыро́ўвацца, субстанцыялізава́цца, недавыкарысто́ўвацца, індустрыяліза́цыя;* у дзевяціскладовых — *перабалацыро́ўваюцца* (дзеясл. 3 ас. мн. л.), *дэмілітарызо́ўваецца* (дзеясл. 3 ас. адз. л.).

На сёмы склад націск прыпадае ў сяміскладовых словах — *дэмілітарызава́ць, дэнатуралізава́ць, пераадміністрава́ць, пераарганізава́ць, індустрыялізава́ць;* у васьміскладовых — *дэнатуралізава́ны, пераарыентава́цца, амерыканізава́цца, пераарыенціро́ўка, пераарганізава́цца, індывідуалісты́чна, індустрыялізава́ны, субстанцыялізава́цца;* у дзевяціскладовых — *дэмуніцыпаліза́цыя, дэнацыяналізо́ўвацца;* у дзесяціскладовых—*дэнацыяналізо́ўваюцца* (дзеясл. 3 ас. мн. л.).

Восьмы склад выдзяляецца як націскны ў васьміскладовых словах — *дэмуніцыпалізава́ць, дэнацыяналізава́ць, рэвалюцыянізава́ць, індывідуалізава́ць;* у дзевяціскладовых — *дэнацыяналізава́цца, дэнацыяналізава́ны, рэвалюцыянізава́цца, рэвалюцыянізава́ны, рэвалюцыянізава́нне, індывідуалізава́ны, індывідуалізава́цца, інтэрнацыяналісты́чны;* у дзесяціскладовых — *інтэрнацыяналіза́цыя, інтэрнацыяналісты́чнага* (прым. Р. скл. адз.).

У беларускай мове націск можа прыпадаць на розныя марфалагічныя часткі слова: на корань (*ве́зці, гу́рба, хва́ля*), прыстаўку (*вы́везці, пры́цемкі, за́стаўка*), суфікс (*пустэ́ча, сцяжы́нка, мяшэ́чак*) і канчатак (*вышыня́, худы́, вязу́*).

Пазіцыйнай асаблівасцю беларускага слоўнага націску з'яўляецца і яго рухомасць, г. зн. пры словазмяненні аднаго слова ён можа перасоўвацца з адной марфемы на другую. Так, пры скланенні назоўнікаў націск можа пераходзіць з кораня або з суфікса на канчатак: *двор — на двары́; бягля́к — бегляка́; абру́ч — абруча́, абручу́, абручо́м;* пры ўтварэнні множнага ліку — з канчатка на корань: *арба́—а́рбы, арда́—о́рды, бяда́—бе́ды, вада́—во́ды.*

Калі да дзеясловаў *хадзі́ць, вадзі́ць, насі́ць* далучаецца прыстаўка, то націск пераносіцца на галосны кораня: *выхо́дзіць, зано́сіць, знахо́дзіць, прыхо́дзіць, пера́носіць, узво́дзіць, уво́дзіць*[8]. Пры слова-

[8] Янкоўскі Ф. Роднае слова. С. 82—83.

змяненні дзеясловаў націск можа пераходзіць з кораня на канчатак: *адвéсці—адвядý, забрáць—забярý;* з прыстаўкі на суфікс: *вы́разаць—выразáе;* з суфікса на корань: *баразніць—барóзніш, апаражніць—апарóжніш.*

У вялікай групе якасных прыслоўяў у форме звычайнай ступені націск падае на галосны кораня, а ў форме вышэйшай ступені — на галосны суфікса: *блíзка—бліжэ́й, вýзка—вузéй.* Аналагічна ў прыметніках вышэйшай і найвышэйшай ступені з прыстаўкаю *най-: блізкі—бліжэ́йшы, найбліжэ́йшы.*

У асобных лексіка-граматычных класах назоўнікаў рухомасць націску чаргуецца з нерухомасцю. Параўн.: *вярбá, вярбы́, вярбé, вярбý* (але *вéрбы*) і *айчы́м, айчы́ма, айчы́му... айчы́мы* ці *пóспех, пóспеху... пóспехі.* Сярод назоўнікаў з невытворнай асновай у сучаснай беларускай літаратурнай мове вялікая колькасць тых, якія маюць нерухомы сталы націск [9].

Рухомы характар націску можа быць звязаны як са складовай, так і з марфалагічнай структурай слова.

[9] Лобан М. П. Націск у назоўніках з невытворнай асновай у сучаснай беларускай літаратурнай мове // Пр. Ін-та мовазнаўства АН БССР. Мн., 1957. Вып. IV. С. 193.

Так, у мовах з фіксаваным націскам павелічэнне колькасці складоў аўтаматычна выклікае перасоўванне націску на той склад, за якім ён замацаваны. Націск можа пераходзіць з адной марфемы на другую пры ўтварэнні граматычных форм слова. У гэтым выпадку месца націску не залежыць ад складовай структуры слова і з'яўляецца прыкметай граматычнай парадыгмы. У беларускай мове ён з'яўляецца марфалагічна рухомым, бо суадносіцца з марфемным падзелам слова і афармляе яго не толькі як лексіка-семантычную, але і як марфалагічную адзінку.

Шматмарфемная структура слоў ў беларускай мове, а таксама выкарыстанне аманімічных афіксаў і флексій для ўтварэння розных форм і класаў слоў абумоўлівае тое, што перасоўванне, зрух слоўнага націску выкарыстоўваецца для афармлення пэўнага марфалагічнага, граматычнага значэння. Абедзве пазіцыйныя асаблівасці беларускага націску (тое, што ён свабодны і рухомы) дзейнічаюць у мове адначасова. Калі націск рухаецца з марфемы на марфему, ён у той жа час змяняе сваё месцазнаходжанне ў слове. Таму фаналагічныя якасці беларускага націску абумоўлены яго пазіцыйнымі асаблівасцямі.

## § 5.3. ФАНАЛАГІЧНЫЯ АСАБЛІВАСЦІ БЕЛАРУСКАГА СЛОЎНАГА НАЦІСКУ

З фаналагічных якасцей беларускага націску вылучаюцца як асабліва важныя наступныя: а) здольнасць адрозніваць словы па іх лексічнаму значэнню, быць адзіным сродкам адрознення слоў; б) здольнасць адрозніваць словы па іх граматычных значэннях; в) здольнасць адрозніваць розныя марфалагічныя формы слоў; г) здольнасць перадаваць дадатковую пазамоўную (эмацыянальную, эмфатычную) інфармацыю. Зразумела, што гэтыя ўласцівасці націску абумоўлены яго свабодным і рухомым характарам. Акрамя таго, слоўны націск аб'ядноўвае склады ў адзінства і, такім чынам, выконвае словаўтваральную (канстытутыўную) функцыю, якая з'яўляецца яго асноўнай фаналагічнай функцыяй [10].

Мінімальныя пары слоў з неаднолькавым месцам націску істотна адрозніваюцца ад пар з рознымі фанемамі, таму што ў апошніх захоўваецца аднолькавая паслядоўнасць націскных і ненаціскных складоў.

[10] Зиндер Л. Р. Общая фонетика. С. 259.

Напрыклад, «націскны — пасляна-цiскны» (*ка́па—ку́па*) або «перад-націскны — націскны» (*тупі́ць — та́піць*). Несупадзенне месца націску заўсёды абумоўлівае розную акцэнтна-рытмічную структуру слоў (*ва́раны — вараны́, па́мяць — памя́ць*).

У сувязі з гэтым ужыванне ў адносінах да слоў, якія адрозніваюцца толькі месцам націску, тэрміна «амонім» [11] з'яўляецца немэтазгодным. Відавочна, што «фанетычнае падабенства» такіх слоў менш істотнае ў параўнанні з тымі адрозненнямі, якія яны маюць і якія закранаюць іх прасадычныя якасці. Акцэнтна-рытмічная структура моўнага паведамлення — адна з яго найбольш важных і ўстойлівых прыкмет, і зона неадрознення слоў па гэтай прыкмеце наўрад ці такая вялікая, як тая, што адзначаецца для амонімаў і квазіамонімаў.

Ва ўсіх славянскіх мовах, дзе націск нефіксаваны, існуюць пары слоў, розная акцэнтуацыя якіх служыць сродкам іх сэнсавай дыферэнцыяцыі. Так, у сербскахарвацкай мове падобныя пары адзначаюцца ў выпадках узыходнага націску, у балгарскай і рускай мовах яны сустракаюцца шырока і сістэматызаваны ў радзе прац [12]. Наконт пашыранасці ў беларускай мове слоў, якія адрозніваюцца толькі націскам, існуюць розныя думкі. Мэтазгодна зрабіць сістэматызацыю такіх слоў, бо яна дазваляе вылучыць супрацьпастаўленыя акцэнтна-рытмічныя слоўныя структуры. Калі рытмічны рысунак слова схематычна абазначыць як пэўную паслядоўнасць ненаціскных і націскных складоў, то можна прасачыць, у якіх выпадках прасодыя слова аказваецца дастатковым сродкам для іх сэнсавай дыферэнцыяцыі. Выпадкі, у якіх з дапамогай націску словы адрозніваюцца лексічна, у беларускай літаратурнай мове часцей адзначаюцца сярод двухскладовых і трохскладовых слоў. Так, у Беларуска-рускім слоўніку (М., 1962), які змяшчае каля 90000 слоў, было знойдзена 115 такіх пар слоў і сярод іх толькі 10 чатырохскладовых.

Зразумела, што пералік па слоўніках няпоўны, бо ўлічваліся толькі словы ў зыходнай форме і не трапілі ў поле зроку тыя з іх, якія проціпастаўлены акцэнтуацыйна толькі ў пэўных формах. Але і гэты матэрыял дае ўяўленне аб існуючых акцэнтных альтэрнацыях. Відавочна, што з узрастаннем колькасці складоў у слове здольнасць яго акцэнтна-рытмічнай структуры быць адзіным сэнсаадрознівальным паказчыкам памяншаецца.

У двухскладовых словах дыферэнцыяцыя іх лексічнага значэння ў межах адной і той жа граматычнай катэгорыі ажыццяўляецца шляхам проціпастаўлення слоў з канцавым і пачатковым націскам. Часта сярод назоўнікаў сустракаюцца запазычаныя і стылістычна афарбаваныя словы, якія акцэнтуацыйна проціпастаўляюцца паміж сабой або ўтвараюць мінімальныя пары з уласна беларускімі лексічнымі адзінкамі. Спрадвечных або дастаткова адаптаваных двухскладовых назоўнікаў сярод проціпастаўленых акцэнтуацыйна няшмат.

Двухскладовых дзеясловаў, якія адрозніваюцца семантычна і акцэнтуацыйна сваёй зыходнай слоўнікавай формай, адзначана менш, чым адпаведных назоўнікаў, але сярод іх больш спрадвечна беларускіх слоў. Таму гэтыя проціпастаўленні можна лічыць больш значнымі ў параўнанні з тымі, якія адзначаны сярод назоўнікаў. Відавочна, што ў запазычаннях і стылістычна адзначаных словах націск хутчэй патэнцыяльна, чым фактычна, мае сэнсаадрознівальную функцыю, бо

---

[11] Гурскі Н. І., Булахаў М. Г., Марчанка М. Ц. Беларуская мова. Мн., 1958. Ч. 1. С. 78.

[12] Ничева К. Ал. Ударението като средство за диференциране значенето на думите в български език // Известия на Института за български език. София, 1954, Кн. III.

наўрад ці ўжываюцца яны побач у рэальных тэкстах. Тое, што націск з'яўляецца адзіным сэнсаадрознівальным сродкам у запазычаных словах, выпадковая з'ява. Яе нельга параўноўваць з існаваўшымі або існуючымі ў мове жывымі фанетычнымі працэсамі, што рэгулярна прыводзяць да выкарыстання націску як сродку дыферэнцыяцыі слоў. Параўн. выкарыстанне акцэнтуацыі для адрознення трыванняў дзеяслова або тапанімізацыі апелятыўнай лексікі.

Менш шырока націск ужываецца як сродак дыферэнцыяцыі слоў, якія належаць да розных граматычных катэгорый, хоць адзначаны і такія выпадкі. Па націску проціластаўлены асобныя назоўнікі і дзеясловы, прыметнікі і дзеясловы, прыметнікі і назоўнікі, злучнікі і назоўнікі, часціцы і займеннікі: *кіпець* 'кіпцюр' — *кіпе́ць* 'кіпець'; *па́мяць* 'памяць' — *памя́ць* 'змяць'; *спя́чы* 'той, хто спіць' — *спячы́* 'спячы'; *хіба́* (часціца, злучнік) — *хі́ба* 'нястача, недахоп'; *са́ма* 'усяго', 'у самы раз' — *сама́* 'яна сама' і г. д.

У трохскладовых акцэнтных мадэлях такіх выпадкаў дыферэнцыяцыі слоў, якія належаць да розных граматычных катэгорый, менш (*тапо́лі* — *то́палі*, *кавалі́* — *кава́лі*). Звычайна такое адрозненне праходзіць у межах адной і той жа граматычнай катэгорыі: сярод назоўнікаў, дзеясловаў і прыметнікаў (часцей — 73% усіх выпадкаў). Сярод назоўнікаў проціластаўлены словы з націскам на другім і трэцім складах: *арты́кул* 'артыкул' — *артыку́л* (ваен.), *прастата́* 'прастата'—*праста́та* (анат.) і г. д. Сярод трохскладовых дзеясловаў таксама часцей проціластаўлены словы з націскам на другім і трэцім складах. Напр., *абу́рыць* 'выклікаць незадавальненне, гнеў' — *абуры́ць* 'абваліць, абрушыць', *пама́рыць* 'марыць некаторы час' — *памары́ць* 'патруціць, атруціць усіх', 'замучыць' і інш.

У меншай колькасці выпадкаў адзначаны такія пары, якія адрозніваюцца лексічным значэннем і ў якіх націск знаходзіцца на першым і другім складах: *га́ліцца* 'кваліцца на што-небудзь', 'імкнуцца завалодаць чым-небудзь' — *галі́цца* 'галіць сябе, брыцца', 'не насіць барады і вусоў'; *ра́дзіцца* 'прасіць у каго-небудзь рады', 'мець з кім-небудзь раду', 'раіцца' — *радзі́цца* 'нарадзіцца', 'даваць ураджай, плады; радзіць (аб раслінах)' і г. д.

Чатырохскладовых слоў, якія адрозніваюцца па сэнсу і па месцы націску, нямнога. Гэта група дзеясловаў, у якіх націск прыпадае на другі і трэці, другі і чацвёрты склады: *пракі́дацца* 'кідацца некаторы час', 'з цяжкасцю, як-небудзь пражыць' — *пракіда́цца* 'пападацца, трапляцца паміж чым-небудзь', 'праяўляцца (пра пачуцці, перажыванні)'; *пала́саваць* 'пакарміць чымнебудзь смачным, пачаставаць ласункамі' — *паласава́ць* 'рэзаць на палосы', 'ударацць' і г. д.

Такім чынам, аналіз пар слоў, якія маюць рознае лексічнае значэнне і адрозніваюцца толькі месцам націску, паказвае, што яны ахопліваюць найбольш тыповыя акцэнтна-рытмічныя структуры. Але няма падстаў гаварыць аб тым, што проціластаўленне слоў з дапамогай націску — сродак, да якога моўная сістэма звяртаецца для развіцця свайго слоўнікавага складу, таму што яны толькі ў вельмі абмежаванай колькасці выпадкаў выконваюць сэнсаадрознівальную ролю. Намнога больш тых выпадкаў, калі акцэнтуацыйнае вар'іраванне прыводзіць да змянення граматычных значэнняў слова або наогул не суправаджаецца змяненнем яго семантычных сувязей. Звычайна словы, якія ўтвараюць сэнсаадрознівальныя акцэнтуацыйныя альтэрнацыі, тэматычна аддалены адно ад другога або ўжываюцца ў розных стылях мовы.

## § 5.4. СЛОЎНІК АМОГРАФАЎ, ЯКІЯ АДРОЗНІВАЮЦЦА АКЦЭНТУАЦЫЯЙНА

| | |
|---|---|
| Абка́паць | 'абліць каплямі якой-н. вадкасці; зака́паць' |
| Абкапа́ць | 'ускапаць зямлю вакол чаго-н.; капаючы абгарнуць, абкідаць што-н. чым-н.' |
| Абу́рыцца | 'стаць абураным; разгневацца' |
| Абуры́цца | 'абрушыцца, абваліцца' |
| Абу́рыць | 'выклікаць незадавальненне, гнеў' |
| Абуры́ць | 'абваліць, абрушыць' |
| Адра́іць | 'параіць не рабіць чаго-н., адгаварыць ад чаго-н.' |
| Адраі́ць | 'аддзяліць частку пчол для ўтварэння новага роя' |
| Адсы́пацца | 'высыпацца ў нейкай колькасці (пра што-н. сыпкае)' |
| Адсыпа́цца | '*незак.* да адаспацца (выспацца)' |
| Аду́жаць | 'перамагчы, адолець', 'справіцца з кім-, чым-н.'; 'змагчы, здолець' |
| Адужа́ць | 'набрацца сілы; ачуняць пасля хваробы' |
| Апу́шыць | 'павялічыцца ў памерах, раздзьмуцца (пра жывот)' |
| Апушы́ць | 'абшыць па краях футрам (пра адзенне, абутак)'; 'пакрыць, абцерусіць краі або ўсю паверхню чаго-н. чым-н. пушыстым, лёгкім' |
| Арты́кул | 'навуковы або публіцыстычны твор невялікага памеру ў зборніку, часопісе або газеце' і інш. |
| Артыку́л *ваен.* | 'ружэйны прыём' |
| Атлас | 'зборнік карт, табліц, чарцяжоў, схем і пад.' |
| Атла́с | 'тканіна з бліскучым правым бокам' |
| Ачко́ | 'значок на ігральнай карце ці косці, які абазначае яе вартасць у гульні'; 'адзінка падліку выйгрышаў'; 'від карцёжнай гульні' |
| Во́чка | '*памянш.-ласк.* да вока'; 'невялікая адтуліна ў якім-н. прадмеце'; 'пупышка, зрэзаная з дрэва для прышчэпкі'; 'значок на ігральнай карце'; 'пятля ў вязанні' |
| Ба́ба | 'матчына або бацькава маці'; 'старая жанчына наогул'; 'замужняя жанчына' і інш. |
| Баба́ | 'калода ў санях' |
| Ба́кавы | 'які мае адносіны да бака (насавой часткі верхняй палубы судна)' |
| Бакавы́ | 'размешчаны не ў цэнтры, а збоку', 'які адбываецца, дзейнічае збоку' |
| Ба́кан | 'бакен' |
| Бака́н | 'барвовая лакавая фарба' |
| Ба́рак | 'ворчык' |
| Бара́к | 'лёгкае збудаванне для часовага жылля, бальнічных мэт' |
| Ба́рачны | 'які мае адносіны да баркі' |
| Бара́чны | 'уласцівы бараку' |
| Ба́сма | 'род расліннай фарбы для валасоў' |
| Басма́ | 'тонкія лісты золата, серабра або медзі з выціснутымі малюнкамі, якія ўжываліся для ўпрыгожанняў'; 'у час татарскага нашэсця — пячатка з адбіткам партрэта хана' |
| Ба́цькаўскі | 'які належыць бацьку, уласцівы бацьку'; 'звязаны з бацькаўшчынай, радзімай' |
| Бацько́ўскі | 'які складаецца з бацькоў, зыходзіць ад бацькоў, належыць бацькам, звязаны з бацькамі'; 'клапатлівы, дбайны' |
| Ба́цькі | '*мн.* ад бацька' |
| Бацькі́ | *адз. няма* 'бацька і маці ў адносінах да сваіх дзяцей'; 'продкі' |
| Белізна́ | 'яркі, чысты белы колер чаго-н.' |
| Бялі́зна | 'нацельнае адзенне', 'вырабы са спецыяльнай тканіны для бытавых патрэб'; 'драпежная рыба' |
| Брані́раванне | 'замацаванне' |
| Бранірава́нне | 'пакрыццё бранёй' |
| Брані́раваць | 'замацоўваць каго-, што-н. за кім-, чым-н.' |
| Бранірава́ць | 'пакрыць (пакрываць) стальной абшыўкай танк, ваенны карабель і пад.' |
| Браня́ | 'стальная абшыўка танка, карабля, машыны і пад.'; 'у старадаўнасці засцерагальнае металічнае адзенне воіна' |
| Бро́ня | 'замацаванне якой-н. асобы або прадмета за кім-, чым-н., што робіць іх недатыкальнымі для іншых, а таксама дакумент на такое замацаванне' |
| Бры́каць *разм.* | 'ускідваць нагамі' |
| Брыка́ць *разм.* | 'біць, удараць задняй нагой, заднімі нагамі (пра капытных жывёлін)' |
| Бры́кнуць *разм.* | '*аднакр.* да бры́каць' |
| Брыкну́ць | '*аднакр* да брыка́ць' |
| Бу́йны | 'неспакойны, дзёрзкі'; 'моцны, нестрыманы' |
| Буйны́ | 'большых памераў, чым звы- |

чайна'; 'раскошны'; 'вялікі па плошчы, па колькасці насельніцтва'; 'выдатны, найбольш прыкметны'; 'магутны' і пад.

**Ва́да** *абл.* 'загана, недахоп'

**Вада́** 'вада', 'водная прастора' і інш.

**Ва́дзіць** *разм.* 'шкодзіць, перашкаджаць'

**Вадзі́ць** 'памагаць ісці'; 'кіраваць рухам машыны' і інш.

**Валасны́** 'які мае адносіны да воласці'

**Вало́сны** *спец.* 'капілярны'

**Ва́раны** '*дзеепрым.* ад вары́ць'; 'прыгатаваны пры дапамозе варкі' і інш.

**Вараны́** 'чорны (звычайна пра масць коней)'; 'конь такой масці'

**Ве́травы** 'які мае адносіны да ветру', 'прызначаны для аховы ад ветру'

**Ветравы́** 'які прыводзіцца ў рух ветрам'

**Ве́траны** 'з ветрам, які суправаджаецца ветрам'; 'легкадумны, пусты'

**Ветраны́** 'які прыводзіцца ў рух ветрам'

**Ві́дны** 'значны, важны, прыкметны'; 'рослы, статны, самавіты'

**Відны́** 'добра асветлены, не цёмны, светлы'; 'даступны зроку, бачны'

**Ві́на** 'масць у ігральных картах'

**Віна́** 'нядобры ўчынак, правінасць'; 'прычына'

**Вузе́ць** 'станавіцца вузейшым'

**Ву́зіць** 'рабіць больш вузкім, звужваць'

**Вы́вазіць** 'вывезці поўнасцю'; 'запэцкаць у што-н.'

**Выво́зіць** '*незак.* да вывезці'

**Вы́гада** 'карысць, прыбытак, разлік'

**Выго́да** *мн.* 'выгоды (усё, што задавальняе максімальныя запатрабаванні)'; 'прыволле'

**Вы́гадна** 'карысна'; *у знач. вык.* 'даваць прыбытак, прыносіць карысць'

**Выго́дна** 'добра прыстасавана'; *безас. у знач вык.* 'добра', 'прыемна'

**Вы́гаднасць** *разм.* 'уласцівасць выгаднага (які дае прыбытак, карысць)'

**Выго́днасць** 'уласцівасць выгоднага (добра прыстасаванага, зручнага, прывольнага)'

**Вы́гадны** 'які дае выгаду, прыбытак'; 'зручны, спрыяльны'

**Выго́дны** 'прыстасаваны для зручнага карыстання'; 'прывольны'

**Вы́дыхаць** *разм.* 'акрыяць, паправіцца'

**Выдыха́ць** '*незак.* да вы́дыхнуць (выштурхнуць паветра з лёгкіх пры дыханні)'

**Вы́кідацца** *разм.* 'выжыць у неспрыяльных умовах; выйсці, выбрацца з цяжкага становішча, беднасці'

**Выкіда́цца** '*незак.* да выкінуцца (кінуцца адкуль-н. уніз; валіцца)'

**Выра́зны** 'такі, у якім кожная дэталь, момант яскрава вылучаюцца'; 'дакладна і ясна сфармуляваны'

**Выразны́** 'выраблены выразваннем; з выразамі, разны'

**Га́ванскі** 'які мае адносіны да гавані'

**Гава́нскі** 'які мае адносіны да Гаваны'

**Га́дзіна** 'гадзюка'

**Гадзі́на** 'адзінка вымярэння часу, 60 мін.'; 'прамежак часу, роўны 60 мін.'

**Га́дзіцца** *разм.* 'адчуваць агіду'; 'псавацца ад забруджвання'

**Гадзі́цца** *разм.* 'быць прыгодным, падыходзячым для чаго-н.'

**Гадзі́цца** *разм.* 'канчаць спрэчку; згаджацца'

**Га́дзіць** *разм.* 'псаваць, брудзіць'; 'шкодзіць' і г. д.

**Гадзі́ць** 'дагаджаць'; 'садзейнічаць, спрыяць каму-, чаму-н.'; 'наймаць на працу'

**Галі́на** 'бакавы адростак на ствале дрэва; сук з веццем'; 'адгалінаванне ад чаго-н, галоўнага, асноўнага'

**Галіна́** 'асобная вобласць навукі, вытворчасці і пад.'

**Га́ліцца** *разм.* 'кваліцца на што-н., імкнуцца завалодаць чым-н.'

**Галі́цца** 'галіць сябе; брыцца' і г. д.

**Гало́ўны** 'самы важны, асноўны, найбольш істотны'; 'цэнтральны'; 'старшы на службе'

**Галаўны́** 'які мае адносіны да галавы'; 'перадавы'; 'асноўны, вядучы'

**Га́ненне** '*дзеянне паводле дзеясл.* ганіць (прызнаваць непрыгодным; асуджаць)'

**Гане́нне** 'жорсткае праследаванне, рэпрэсіі'

**Га́сіць** 'з размаху біць, ударaць па чым-н.'

**Гасі́ць** 'спыняць гарэнне, тушыць' і г. д.

**Грамавы́** '*прым.* ад гром'; 'вельмі моцны, аглушальны'

**Грамо́вы** 'вагою ў адзін грам'

**Грама́да** 'што-н. вялікае, масіўнае', 'скапленне чаго-н. у адным месцы'

**Грамада́** 'мноства людзей, натоўп', *гіст.* 'пазямельная абшчына'

**Гру́бы** 'невыхаваны, некультурны';

| | |
|---|---|
| Касы́ | ко́сы |
| Катава́ць | (не ка́таваць) |
| Каталі́к | *часцей* като́лік |
| Ка́тар | (не ката́р) |
| Каўчу́к | (не ка́ўчук) |
| Каўчу́кавы | (не ка́ўчукавы) |
| Кашмі́равы | кашміро́вы |
| Ка́шляць | (не кашля́ць) |
| Каштары́с | (не кашта́рыс) |
| Каштары́сны | (не кашта́рысны) |
| Кварта́л | (не ква́ртал) |
| Ке́льнер | (не кельне́р) |
| Кіда́нне | (не кі́данне) |
| Кіламе́тр | (не кіло́метр) |
| Кіламе́травы | кіламетро́вы |
| Кі́навар | (не кінава́р) |
| Кіто́вы | (не кі́тавы) |
| Кі́шка | (не кішка́) |
| Кла́ўзула | (не клаўзу́ла) |
| Клёны | кляны́ |
| Клю́шня | (не клюшня́) |
| Ко́рпацца | карпа́цца |
| Ко́рпаць *разм.* | карпа́ць |
| Крадко́м | (не кра́дкам) |
| Крапіва́ | (не крапіва) |
| Кратаві́на *разм.* | (не крато́віна) |
| Кругаві́на *разм.* | *радзей* круго́віна |
| Кругло́віна | *часцей* круглаві́на |
| Крупяны́ | (не крупя́ны) |
| Крывы́ | (не кры́вы) |
| Крыўдлі́васць | (не кры́ўдлівасць) |
| Крыўдлі́вы | (не кры́ўдлівы) |
| Крыху́ | (не кры́ху) |
| Крэ́сіць | красі́ць |
| Куко́ль | (не ку́каль) |
| Кулі́к | (не ку́лік) |
| Кулі́на́рыя | кулінары́я *разм.* |
| Курады́м | *часцей* куро́дым |
| Курады́мець | *часцей* куро́дымець |
| Курады́міць | *часцей* куро́дыміць |
| Ла́даваца *разм.* | ладава́цца *разм.* |
| Ла́даваць *разм.* | ладава́ць *разм.* |
| Лазі́на | лазіна́ |
| Лакалізава́ны | лакалізо́ваны |
| Лакірава́ны | лакіро́ваны |
| Лама́ны | ло́маны |
| Ламо́та | *радзей* ламата́ |
| Ласка́вы | ла́скавы |
| Лаўро́вы | (не ла́ўравы) |
| Лаці́няне | (не лаціня́не) |
| Ле́карскі | (не ляка́рскі) |
| Ле́ктары | (не лектары́) |
| Лесапаласа́ | лесапало́са |
| Лёдавы | (не лядо́вы) |
| Лётаць | *часцей* лята́ць |
| Лінаты́пія | (не лінатыпі́я) |
| Лі́павы | *радзей* ліпо́вы |
| Лі́сце | лісцё |
| Лі́сцевы | лісцёвы |
| Лі́тасціва | літасці́ва |
| Лі́тасцівасць | літасці́васць |
| Лі́тасцівы | літасці́вы |
| Лі́фтавы | (не ліфтавы́) |
| Лупцава́ны | лупцо́ваны |
| Лыжня́ | (не лы́жня) |

| | |
|---|---|
| Люстра́ны | люстраны́ |
| Ляйчы́на | ле́йчына |
| Ляме́ш | ле́меш |
| Магазі́н | (не мага́зін) |
| Магі́льнік *археал.* | *часцей* мо́гільнік |
| Магі́стэрскі | (не магістэ́рскі) |
| Магне́та | (не магнето́) |
| Маёнткавы | маянтко́вы |
| Маларазвіты́ | (не маларазві́ты) |
| Манаты́пія | (не манатыпі́я) |
| Манеўро́вы | (не мане́ўравы) |
| Маразы́ | маро́зы |
| Марга́нне | мо́рганне |
| Марга́ць | мо́ргаць |
| Маргну́ць | мо́ргнуць |
| Махавы́ | мо́хавы |
| Ма́церкі *разм.* | мацяркі́ |
| Машы́напіс | (не машынапі́с) |
| Медыкаме́нты | (не медыка́менты) |
| Ме́лькам | мялько́м |
| Металургі́я *разм.* | металу́ргія |
| Мі́гі | (не мігі́) |
| Міжве́дамасны | (не міжведамасны́) |
| Міжкраёвы | міжкраявы́ |
| Міжпаве́рхавы | міжпавярхо́вы |
| Мілімé́тр | (не мілі́метр) |
| Міліметро́вы | (не мілімé́травы) |
| Міткалёвы | (не мітка́левы) |
| Мя́ккі | (не мяккі́) |
| Мясці́цца | ме́сціцца |
| Наара́ны | наво́раны |
| Наблука́цца *разм.* | (не наблу́кацца) |
| Набо́жна | (не на́бажна) |
| Навако́л | *часцей* наво́кал |
| Наваксава́ны | наваксо́ваны |
| Навало́чка | *часцей* на́валачка |
| Наверадзі́цца | *радзей* навярэ́дзіцца |
| Наверадзі́ць | навярэ́дзіць |
| Навербава́ны | навярбо́ваны |
| Наве́рзці | *часцей* навярзці́ |
| Навылёт | навы́лет |
| Навы́раст | навыро́ст |
| Нагаблява́ны | нагаблёваны |
| Нагайса́цца | *часцей* наго́йсацца |
| Нагле́дзецца | наглядзе́цца |
| Нада́лей | надале́й |
| Надбудава́ны | надбудо́ваны |
| Надгаблёваны | надгаблява́ны |
| Надзвы́чай | (не надзвыча́й) |
| Надзяўба́ны | (не надзёўбаны) |
| Надкава́ны | (не надко́ваны) |
| Надкляпа́ны | *радзей* надклёпаны |
| Надлама́ны | надло́маны |
| Надрукава́ны | надруко́ваны |
| Надчаса́ны | надчэ́саны |
| Нажава́ны | нажо́ваны |
| Назва́ны | (не на́званы) |
| На́йміт | (не наймі́т) |
| Накава́ны | нако́ваны |
| Накаксава́ны | накаксо́ваны |
| Накапава́ны | накано́ваны |
| Накапа́ны | *радзей* нако́паны |
| Накапі́раваць | накапірава́ць |
| Накі́дка | на́кідка |
| Наклёпаны | *часцей* накляпа́ны |

| | |
|---|---|
| Налакірава́ны | налакіро́ваны |
| Налама́ны | нало́маны |
| Налётацца | *часцей* налята́цца |
| Налётаць | *часцей* наля́таць |
| Нало́маны | *часцей* налама́ны |
| Намалёваны | *часцей* намалява́ны |
| Намарынава́ны | намарыно́ваны |
| На́мертва | намёртва |
| Намуштрава́ны | (не намуштро́ваны) |
| Намяня́ны | (не наме́нены) |
| На́нава | нано́ва |
| Напакава́ны | напако́ваны |
| Напалірава́ны | напаліро́ваны |
| Напампава́ны | напампо́ваны |
| Напілава́ны | напіло́ваны |
| Напластава́ны | напласто́ваны |
| Наплята́цца | (не напле́тацца) |
| Наплята́ць | (не напле́таць) |
| Напрактыкава́ны | (не напрактыко́ваны) |
| Нараўне́ | наро́ўні |
| Нарысава́ны | нарысо́ваны |
| Насвістаны | насвіста́ны |
| Насе́дзецца | насядзе́цца |
| Насе́дзець | насядзе́ць |
| Насе́чка | (не на́сечка) |
| Насланнё | насла́нне |
| Наспе́х | (не на́спех) |
| Наспіртава́ны | наспірто́ваны |
| Настругáны | настру́ганы |
| Насу́праць | насупро́ць |
| Насцеражы́цца | *часцей* насцяро́жыцца |
| Насцеражы́ць | *часцей* насцяро́жыць |
| Насцёбаны *разм.* | *часцей* насцяба́ны |
| Насцёбацца *разм.* | *часцей* насцяба́цца |
| Насцёбаць *разм.* | *часцей* насцяба́ць |
| Насціл | (не на́сціл) |
| Натапта́ны | нато́птаны |
| Нафарбава́ны | нафарбо́ваны |
| Нафтаві́к | (не на́фтавік) |
| Нафтаналіўны́ | (не нафтаналі́ўны) |
| Нахава́ны | (не нахо́ваны) |
| Нацкава́ны | нацко́ваны |
| Начаса́ны | начэ́саны |
| Нашпігава́ны | нашпіго́ваны |
| Нашы́ўка | (не на́шыўка) |
| Неабстраля́ны | неабстрэ́ляны |
| Неабчаса́ны | неабчэ́саны |
| Неабыя́кі | неабыякі́ |
| Неапра́ўданы | неапраўда́ны |
| Неара́ны | нявó́раны |
| Недаара́ны | недаво́раны |
| Недагле́дзець | недаглядзе́ць |
| Недаразвіты | (не недара́звіты) |
| Незацёмнены | незацямнёны |
| Некато́ры | (не не́катары) |
| Некта́р | (не не́ктар) |
| Неласка́ва | няла́скава |
| Неласка́вы | няла́скавы |
| Неласка́васць | няла́скавасць |
| Нелітасці́ва | нялі́тасціва |
| Нелітасці́вы | нялі́тасцівы |
| Ненаві́снік | (не няна́віснік) |
| Ненаві́сніца | (не няна́вісніца) |
| Ненаві́сніцкі | (не няна́вісніцкі) |
| Ненаві́сніцтва | (не няна́вісніцтва) |
| Ненаві́сны | (не няна́вісны) |

| | |
|---|---|
| Ненадо́ўга | (не няна́даўга) |
| Непадкава́ны | непадко́ваны |
| Непадпераза́ны | непадпяра́заны |
| Непразо́рлівы | (не непразарлі́вы) |
| Непрычаса́ны | непрычэ́саны |
| Непрыя́зна | (не няпры́язна) |
| Неразга́даны | неразгада́ны |
| Нерасчаса́ны | нерасчэ́саны |
| Нескаро́насць | *часцей* няско́ранасць |
| Нескаро́ны | *часцей* няско́раны |
| Нетавары́скі | (не нетава́рыскі) |
| Нестрыма́ны | *часцей* нястры́маны |
| Неўпарадкава́насць | (не неўпара́дкаванасць) |
| Неўпарадкава́ны | (не неўпара́дкаваны) |
| Нехадавы́ | (не няхо́давы) |
| Нечапа́ны | (не нячэ́паны) |
| Нечаса́ны | *часцей* нячэ́саны |
| Ні́бы | нібы́ |
| Нівелі́раваны | (не нівеліра́ваны) |
| Ні́жай | ніжэ́й |
| Ніку́ды | (не нікуды́) |
| Ніцяны́ | (не ніця́ны) |
| Ні́які | (не ніякі́) |
| Но́здра | (не наздра́) |
| Нялі́тасціва | *часцей* нелітасці́ва |
| Нялі́тасцівы | *часцей* нелітасці́вы |
| Няско́ранасць | нескаро́насць |
| Няско́раны | нескаро́ны |
| Няўра́злівы | неўразлі́вы |
| Паара́ны | паво́раны |
| Пабарваве́ць | пабарво́вець |
| Паблі́зу | по́блізу |
| Пабракава́ны | пабрако́ваны |
| Пабрукава́ны | пабруко́ваны |
| Пабудава́ны | пабудо́ваны |
| Паваскава́ны | паваско́ваны |
| Паверадзі́цца | павярэ́дзіцца |
| Паверадзі́ць | павярэ́дзіць |
| Пагаблёваны | пагаблява́ны |
| Пагайда́цца | паго́йдацца |
| Пагайда́ць | паго́йдаць |
| Пагайса́ць | *часцей* паго́йсаць |
| Пагаршэ́нне | *радзей* паго́ршанне |
| Падара́ны | падво́раны |
| Падбрукава́ны | падбруко́ваны |
| Падбудава́ны | падбудо́ваны |
| Падваскава́ны | падваско́ваны |
| Падверадзі́цца | падвярэ́дзіцца |
| Падверадзі́ць | падвярэ́дзіць |
| Падгадава́ны | падгадо́ваны |
| Падгартава́ны | падгарто́ваны |
| Падгле́дзець | падглядзе́ць |
| Падгрымірава́ны | падгрыміро́ваны |
| Паддрукава́ны | паддруко́ваны |
| Падзёўбаны | *часцей* падзяўба́ны |
| Падкава́насць *разм.* | падко́ванасць |
| Падкава́ны | падко́ваны |
| Падкапа́ны | падко́паны |
| Падкітава́ны | падкіто́ваны |
| Падлакірава́ны | падлакіро́ваны |
| Падлама́ны | падло́маны |
| Падмалёваны | падмалява́ны |
| Падмуро́ваны | падмурава́ны |
| Падпара́дкаванне | (не падпарадкава́нне) |

| | |
|---|---|
| Падпара́дкаваны | (не падпарадкава́ны) |
| Падпара́дкавацца | (не падпарадкава́цца) |
| Падрысава́ны | падрысо́ваны |
| Падса́дны | (не падсадны́) |
| Падсвінак | падсвіна́к |
| Падстру́ганы | падструга́ны |
| Падтапта́ны | *радзей* падто́птаны |
| Падтасава́ны | падтасо́ваны |
| Падтры́маны | падтрыма́ны |
| Падтынкава́ны | падтынко́ваны |
| Падчаса́ны | падчэ́саны |
| Падшалёваны | *часцей* падшалява́ны |
| Пажа́рышча | пажары́шча |
| Пажылы́ | пажы́лы |
| Пазазе́мны | пазазямны́ |
| Пазарысава́ны | пазарысо́ваны |
| Пакапа́ны | пако́паны |
| Пакарпа́цца | *часцей* пако́рпацца |
| Пакарпа́ць | *часцей* пако́рпаць |
| Пакаўны́ | *часцей* пако́ўны |
| Пакітава́ны | пакіто́ваны |
| Паклёваны | *часцей* паклява́ны |
| Паклёпаны | *часцей* пакляпа́ны |
| Паку́ль | по́куль |
| Палама́ны | пало́маны |
| Паласа́ | пало́са |
| Пала́таны | (не палата́ны) |
| Пала́таць | (не палата́ць) |
| Палёпшанне | *часцей* паляпшэ́нне |
| Палуза́ны | палу́заны |
| Палягчэ́ць | палёгчаць |
| Паляпшэ́нне | палёпшанне |
| Палярызава́ны | палярызо́ваны |
| Палята́ць | палётаць |
| Памалёваны | *часцей* памалява́ны |
| Памарга́ць | памо́ргаць |
| Па́мятацца | памята́цца |
| Па́мятаць | памята́ць |
| Паначы́ *разм.* | *часцей* по́начы |
| Папалётаць | *часцей* папалята́ць |
| Папацёмку | папо́цемку |
| Папрабава́ны | папро́баваны |
| Папрабава́ць | папро́баваць |
| Папялі́шча *уст.* | по́пелішча |
| Параўно́ваны | *часцей* параўнава́ны |
| Парашэ́ціць | парашаці́ць |
| Паркалёвы | (не парка́левы) |
| Парцяны́ | (не парця́ны) |
| Парысава́ны | парысо́ваны |
| Па́сквіль | (не паскві́ль) |
| Па́сквільны | (не паскві́льны) |
| Пасу́каны | пасука́ны |
| Пасцёбаць | пасцяба́ць |
| Пасці́лка | *часцей* по́сцілка |
| Патайны́ | пата́йны |
| Патапта́ны | пато́птаны |
| Патасава́ны | патасо́ваны |
| Патынкава́ны | патынко́ваны |
| Патэнтава́ны | патэнто́ваны |
| Пахава́ны | пахо́ваны |
| Пацалава́ны | пацало́ваны |
| Пацве́рдзіць | (не пацвярдзіць) |
| Пачаса́ны | пачэ́саны |
| Пашліфава́ны | пашліфо́ваны |
| Пераадрасава́ны | пераадрасо́ваны |
| Перараа́ны | перавоо́раны |
| Пераасігнава́ны | пераасігно́ваны |
| Перабудава́ны | перабудо́ваны |
| Перагаблёваны | перагаблява́ны |
| Перагартава́ны | перагарто́ваны |
| Пераглядзе́ць | *часцей* перагле́дзець |
| Перагрунтава́ны | перагрунто́ваны |
| Перагрупава́ны | перагрупо́ваны |
| Перагрыміравы́ны | перагрыміро́ваны |
| Перагрэ́бці | перагрaбці́ |
| Перадрукава́ны | перадруко́ваны |
| Перадыскантава́ны | перадысканто́ваны |
| Перажава́ны | перажо́ваны |
| Перазамацава́ны | перазамацо́ваны |
| Перазімава́ны | перазімо́ваны |
| Пераймена ва́ны | пераймяно́ваны |
| Перакава́ны | перако́ваны |
| Перакамісава́ны | перакамісо́ваны *разм.* |
| Перакампанава́ны | перакампано́ваны |
| Перакамплектава́ны | перакамплекто́ваны |
| Перакана́насць | перако́нанасць |
| Перакана́ны | перако́наны |
| Перакантава́ны | переканто́ваны |
| Перакапа́ны | перако́паны |
| Перакасава́ны | перакасо́ваны *разм.* |
| Пераквaліфікава́ны | пераквaліфіко́ваны |
| Перакітава́ны | перакіто́ваны |
| Пераклёпаны | *часцей* перакляпа́ны |
| Пераклінава́ны | пераклíно́ваны |
| Перако́ваны | *часцей* перакава́ны |
| Пералакірава́ны | пералакіро́ваны |
| Перапама́ны | перало́маны |
| Пералёжаць | *часцей* пераляжа́ць |
| Пералітава́ны | пераліто́ваны |
| Пераліцава́ны | пераліцо́ваны |
| Перамалёваны | *часцей* перамалява́ны |
| Перамёшаны | *часцей* перамяша́ны |
| Пераніцава́ны | пераніцо́ваны |
| Перападрыхтава́ны | перападрыхто́ваны |
| Перапакава́ны | перапако́ваны |
| Перапераза́ны | перапяра́заны |
| Перапілава́ны | перапіло́ваны |
| Перапланава́ны | перaпланóваны |
| Перапластава́ны | перапласто́ваны |
| Перапрабава́ны | перапро́баваны |
| Перапрабава́ць | перапро́баваць |
| Перапраектава́ны | перапраекто́ваны |
| Перапрасава́ны | перапрасо́ваны |
| Перапрацава́ны | перапрацо́ваны |
| Перарысава́ны | перарысо́ваны |
| Перасартава́ны | перасарто́ваны |
| Перасе́дзець | перасядзе́ць |
| Пераста́рак *разм.* | пярэ́старак |
| Перастрахава́ны | перастрахо́ваны |
| Перасцёбаны *разм.* | перасцяба́ны |
| Перасцёбаць *разм.* | перасцяба́ць |
|Ператасава́ны |ператасо́ваны |
|Ператынкава́ны |ператынко́ваны |
| Пераўладкава́ны | пераўладко́ваны |
| Перафарбава́ны | перафарбо́ваны |
| Перафарміра ва́ны | перафэрміро́ваны |
| Перахава́ны | перахо́ваны |

| | |
|---|---|
| Перачаса́ны | перачэ́саны |
| Перашарава́ны | перашаро́ваны |
| Перашліфава́ны | перашліфо́ваны |
| Перашпаклява́ны | перашпаклёваны |
| Пераштэмпелява́ны | пераштэмпялёваны |
| Пе́ршынец | (не першыне́ц) |
| Першынствава́ць | (не пе́ршынстваваць) |
| Першынство́ | (не пе́ршынства) |
| Пе́шкам | *часцей* пяшко́м |
| Пі́кавы | (не піко́вы) |
| Пламбірава́нне | (не пламбі́раванне) |
| Пламбірава́ць | (не пламбі́раваць) |
| Пламбірава́ны | пламбіро́ваны |
| Планаві́к | (не пла́навік) |
| Плане́р | пла́нер |
| Пластавы́ | (не пла́ставы) |
| Плісірава́ны | плісіро́ваны |
| По́двязка | *часцей* падвя́зка |
| По́дсвінак | *часцей* падсві́нак |
| Прабава́цца | про́баваццa |
| Прабаранава́ны | прабарано́ваны |
| Прагаблёваны | *часцей* прагаблява́ны |
| Прагайда́цца | *радзей* прагo̍йдацца |
| Прагайда́ць | *радзей* прагo̍йдаць |
| Прагайса́ць *разм.* | *часцей* прагo̍йсаць |
| Прадзёўбаны | *часцей* прадзяўба́ны |
| Пражэ́ктары | (не пражэктары́) |
| Ракапа́ны | прако́паны |
| Пракарпа́цца | *часцей* пракo̍рпацца |
| Пракурады́мець | *часцей* пракуро́дымець |
| Пракурады́міцца | *часцей* пракуро́дыміцца |
| Пракурады́міць | *часцей* пракуро́дыміць |
| Пракурады́млены | *часцей* пракуро́дымлены |
| Пракурады́млівацца | *часцей* пракуро́дымлівацца |
| Пракурады́мліваць | *часцей* пракуро́дымліваць |
| Пралё́жаны | праляжа́ны |
| Пралыга́ны *абл.* | пралы́ганы |
| Прамаля́ва́ны | прамалёваны |
| Праме́ністы | *часцей* прамяні́сты |
| Праме́нiцца | *часцей* прамяні́цца |
| Праме́ніць | *часцей* прамяні́ць |
| Праме́нь | про́мень |
| Прапрацава́ны | прапрацо́ваны |
| Прасава́ны | прасо́ваны |
| Прасе́дзець | прасядзе́ць |
| Прасе́ка | про́сека |
| Прасёлкавы | прасялко́вы |
| Прасяны́ | (не прася́ны) |
| Прататпа́ны | прато́птаны |
| Пратэрмінава́ны | пратэрміно́ваны |
| Прахадны́ | прахо́дны |
| Прачаса́ны | прачэ́саны |
| Прачы́таны | прачыта́ны |
| Про́баваць | *часцей* прабава́ць |
| Про́мах | (не прама́х) |
| Про́паліс | прапо́ліс |
| Про́пускі | (не прапускі́) |
| Про́сты | прасты́ |
| Прыбудава́ны | прыбудо́ваны |
| Прыгаблёваны | прыгаблява́ны |
| Прыгажо́сць | прыго́жасць |

| | |
|---|---|
| Прыгле́дзецца | прыглядзе́цца |
| Прыгле́дзець | прыглядзе́ць |
| Прыгне́сці | прыгнясці |
| Прыдрукава́ны | прыдруко́ваны |
| Прыкава́ны | прыко́ваны |
| Прыкамандзірава́ны | прыкамандзіро́ваны |
| Прыкры́цце | прыкрыццё |
| Прылама́ны | прыло́маны |
| Прымалёваны | *часцей* прымалява́ны |
| Прымацава́ны | прымацо́ваны |
| Прымежава́ны | прымяжо́ваны |
| Прыме́шаны | *часцей* прымяша́ны |
| Прыня́ты | (не пры́няты) |
| Прыня́ць | (не пры́няць) |
| Прыпе́ўка | (не пры́пеўка) |
| Прыпільнава́ны | прыпільно́ваны |
| Прырахава́ны | прырахо́ваны |
| Прырысава́ны | прырысо́ваны |
| Прыспе́шыцца *разм.* | прыспяшы́цца |
| Прыспе́шыць | прыспяшы́ць |
| Прыстасава́ны | прыстасо́ваны |
| Прысу́д | (не пры́суд) |
| Прытапта́ны | *радзей* прыто́птаны |
| Прытрыма́ны | прытры́маны |
| Прыхава́ны | прыхо́ваны |
| Прычаса́ны | прычэ́саны |
| Прышвартава́ны | прышварто́ваны |
| Прышліфава́ны | прышліфо́ваны |
| Прышрубава́ны | прышрубо́ваны |
| Прыштукава́ны | прыштуко́ваны |
| Пры́язна | (не прыя́зна) |
| Пры́язнасць | (не прыя́знасць) |
| Пры́язны | (не прыя́зны) |
| Пры́яцель | (не прыя́цель) |
| Пры́яцелька | (не прыя́целька) |
| Пры́яцельскі | (не прыя́цельскі) |
| Пры́яцельства | (не прыя́цельства) |
| Прэміра́ванне | (не прэмі́раванне) |
| Прэміра́ваны | (не прэмі́раваны, не прэміро́ваны) |
| Прэмірава́ць | (не прэмі́раваць) |
| Пуло́вер | (не пулаве́р) |
| Пульпаправо́д | (не пульпапро́вад) |
| Пусто́шыць | (не пусташы́ць) |
| Пуцеправо́д | (не пуцепро́вад) |
| Пытлява́ны | пытлёваны |
| П'я́ны | (не п'яны́) |
| Пярцо́вы | пе́рцавы |
| Пяршы́нстваваць | *часцей* першынства-ва́ць |
| Пярэ́летак | *часцей* перале́так |
| Пяціакто́вы | (не пяціа́ктавы) |
| Пяцівярсто́вы | (не пяціверставы́) |
| Рабы́ | (не ра́бы) |
| Разба́лаванасць | (не разбалава́насць) |
| Разба́лаваны | (не разбалава́ны, не разбало́ваны) |
| Разба́лавацца | (не разбалава́цца) |
| Разба́лаваць | (не разбалава́ць) |
| Разбрако́ваны | разбракава́ны |
| Разбудава́ны *разм.* | разбудо́ваны |
| Развянча́ны | разве́нчаны |
| Развярэ́дзіць | *часцей* развярадзіць |

| | |
|---|---|
| Разгайда́ны | разго́йданы |
| Разгайда́цца | разго́йдацца |
| Разгайда́ць | разго́йдаць |
| Разглядзе́ць | *часцей* разгле́дзець |
| Раздзёўбаны | *часцей* раздзяўба́ны |
| Разлама́ны | разло́маны |
| Разлютава́ны | (не разлюто́ваны) |
| Разлютава́цца | (не разлю́тавацца) |
| Размалёваны | размалява́ны |
| Разыгра́ны | (не разы́граны) |
| Раку́шка | (не ра́кушка) |
| Ра́ніцай | раніцо́й |
| Ра́нча | (не ранчо́) |
| Раскава́ны | раско́ваны |
| Раскапа́ны | раско́паны |
| Раскарпа́ны *разм.* | раско́рпаны |
| Раскарпа́ць *разм.* | раско́рпаць |
| Раскарчава́ны | раскарчо́ваны |
| Расквéціцца | расквяці́цца |
| Расквéціць | расквяці́ць |
| Раскле́паны | *часцей* раскляпа́ны |
| Распакава́ны | распако́ваны |
| Распераза́ны | (не распяра́заны) |
| Распластава́ны | распласто́ваны |
| Распле́тацца | *часцей* расплята́цца |
| Распле́таць | *часцей* расплята́ць |
| Распрэ́гчы | распрагчы́ |
| Распрэ́гчыся | распрагчы́ся |
| Рассе́дзецца | рассядзе́цца |
| Расстыкава́ны | расстыко́ваны |
| Растапта́ны | расто́птаны |
| Растасава́ны | растасо́ваны |
| Растэрмінава́ны | растэрміно́ваны |
| Расхлёбаны | *часцей* расхляба́ны |
| Расхлёбаць | *часцей* расхляба́ць |
| Расчаса́ны | расчэ́саны |
| Расшліхтава́ны | расшліхто́ваны |
| Расшнурава́ны | расшнуро́ваны |
| Расшпільвацца | расшпіля́цца |
| Расшпільваць | расшпіля́ць |
| Расшчо́дрыцца | (не расшчадры́цца) |
| Расшыфрава́ны | расшыфро́ваны |
| Рася́ны | расяны́ |
| Раўня́ *разм.* | ро́ўня |
| Рознастылёвы | рознастылявы́ |
| Ро́шчына | (не рашчы́на) |
| Руды́ | (не ру́ды) |
| Ру́капіс | (не рукапі́с) |
| Рукапі́сны | (не ру́капісны) |
| Ры́мар | (не рыма́р) |
| Рэвізава́ны | рэвізо́ваны |
| Рэкамендава́ны | рэкамендо́ваны |
| Рэкру́цкі | (не рэ́круцкі) |
| Рэ́чыўны | (не рэчыўны́) |
| | |
| Сабо́ | (не са́ба) |
| Садавіна́ | (не садаві́на) |
| Сажнёвы | (не са́жневы) |
| Сантыме́тр | (не санты́метр) |
| Сантыметро́вы | (не сантыме́травы) |
| Сапраўды́ | (не сапра́ўды) |
| Сапсава́ны | (не сапсо́ваны) |
| Сартава́ны | сарто́ваны |
| Састарэ́цца | саста́рыцца |
| Састру́ганы | саструга́ны |
| Састыкава́ны | састыко́ваны |
| Сасцёбаны *разм.* | сасцяба́ны |
| Сасцёбацца *разм.* | сасцяба́цца |
| Сасцёбаць *разм.* | сасцяба́ць |
| Сашмо́ргнуты | сашмаргну́ты |
| Свінцава́ны | свінцо́ваны |
| Сегме́нт | (не се́гмент) |
| Сёмдзесят | (не семдзеся́т) |
| Сервірава́ны | сервіро́ваны |
| Сёрбаць | сярба́ць |
| Сівізна́ | (не сіві́зна) |
| Сівы́ | (не сі́вы) |
| Сіласава́ны | сіласо́ваны |
| Сіметры́я | сіме́трыя |
| Сінхрані́я | (не сінхро́нія) |
| Сістэматызо́ваны | сістэматызава́ны |
| Скава́насць | ско́ванасць |
| Скава́ны | ско́ваны |
| Скамбінава́ны | скамбіно́ваны |
| Скампанава́ны | скампано́ваны |
| Скампенсава́ны | скампенсо́ваны |
| Скамплектава́ны | скамплекто́ваны |
| Скампраметава́ны | скампрамето́ваны |
| Скандэнсава́ны | скандэнсо́ваны |
| Сканцэнтрава́ны | сканцэнтро́ваны |
| Скапа́ны | ско́паны |
| Скарадзі́цца | *часцей* скаро́дзіцца |
| Скарадзі́ць | *часцей* скаро́дзіць |
| Скарасні́к *разм.* | *часцей* ско́раснік |
| Скарасні́ца | *часцей* ско́расніца |
| Скарасны́ | *часцей* ско́расны |
| Скаро́ны | *часцей* ско́раны |
| Скасава́ны | скасо́ваны |
| Скатава́ны | скато́ваны |
| Скірава́ны | скіро́ваны |
| Склёваны | склява́ны |
| Склёпаны | скляпа́ны |
| Скрабло́ *разм.* | *часцей* скрэ́бла |
| Скрыжава́ны | скрыжо́ваны |
| Скры́лік | скрылёк |
| Сла́бы | (не слабы́) |
| Слізго́та | слізгата́ *разм.* |
| Сло́ўца | слаўцо́ |
| Сма́жанка | смажо́нка |
| Смако́ваны | смакава́ны |
| Смаляны́ | (не смаля́ны) |
| Смяхо́та *абл.* | (не смехата́) |
| Сне́данне | *радзей* сняда́нне |
| Спілава́ны | спіло́ваны |
| Спі́на | (не спіна́) |
| Спірамéтрыя | спіраметры́я |
| Спіртавы́ | спірто́вы |
| Спласірава́ны | спласіро́ваны |
| Сплéснелы | сплясне́лы |
| Сплéснець | сплясне́ць |
| Спрасава́ны | спрасо́ваны |
| Спрынцава́ны | спрынцо́ваны |
| Спусто́шыць | (не спусташы́ць) |
| Сталі́ць | сто́ліць |
| Стальма́х | стэ́льмах |
| Стапта́ны | сто́птаны |
| Стасава́ны | стасо́ваны |
| Ста́тут | (не стату́т) |
| Ста́туя | (не стату́я) |
| Стаці́нка | (не сто́цінка) |
| Стру́кавы | струко́вы |
| Стылёвы | *часцей* стылявы́ |

| | |
|---|---|
| Су́павы | (не супавы́) |
| Су́праць | супро́ць |
| Сураве́ць | *часцей* суро́вець |
| Сфабрыкава́ны | сфабрыко́ваны |
| Сфальцава́ны | сфальцо́ваны *спец.* |
| Сфармава́ны | *радзей* сфармо́ваны |
| Сфарміравá́ны | сфарміро́ваны |
| Сфастрыгава́ны | сфастрыго́ваны |
| Сфугава́ны | сфуго́ваны |
| Схава́ны | схо́ваны |
| Сцё́рпець | *часцей* сцярпе́ць |
| Сцё́банне | *часцей* сцяба́нне |
| Сцё́бацца | *часцей* сцяба́цца |
| Сцё́баць | *часцей* сцяба́ць |
| Сча́ўраць *абл.* | счаўрэ́ць |
| Сыро́ватка | (не сырава́тка) |
| | |
| Табу́ | (не та́бу) |
| Тавары́скасць | (не тава́рыскасць) |
| Тавары́скі | (не тава́рыскі) |
| Тавары́ства | (не тава́рыства) |
| Тава́рышы | (не таварышы́) |
| Тамо́жнік | (не та́мажнік) |
| Тамо́жны | (не та́мажны) |
| Тамо́жня | (не та́мажня) |
| Та́ндэм | (не тандэ́м) |
| Танне́й | *радзей* та́нней |
| Тапо́левы | (не тапалё́вы) |
| Тарка́ць | *часцей* то́ркаць |
| Тармазны́ | (не то́рмазны) |
| Тасава́ны | тасо́ваны |
| Тастаме́нт *уст.* | (не custа́мент) |
| Тваро́г | (не тво́раг) |
| То́плены | таплё́ны *разм.* |
| То́ўсты | таўсты́ |
| Трапе́за *уст.* | (не тра́пеза) |
| Трапе́зная | (не тра́пезная) |
| Трапе́зны | (не тра́пезны) |
| Трасі́раваць | (не трасірава́ць) |
| Траю́радны | (не траюро́дны) |
| Трохакто́вы | (не троха́ктавы) |
| Трохразо́вы | (не трохра́завы) |
| Трубаправо́д | (не трубапро́вад) |
| Трубаправо́дны | (не трубапро́вадны) |
| | |
| Тры́пціх | (не трыпці́х) |
| Трэніравá́ны | трэніро́ваны |
| Тушава́ны | тушо́ваны |
| Тынкава́ны | тынко́ваны |
| Ты́тульны | (не тыту́льны) |
| Тэатралізава́ны | тэатралізо́ваны |
| Тэлефанізава́ны | тэлефанізо́ваны |
| Тэ́фтэлі | тэфтэ́лі *разм.* |
| | |
| Убінтава́ны | убінто́ваны |
| Убрукава́ны | убруко́ваны *разм.* |
| Убудава́ны | убудо́ваны |
| Увё́нчаны | *часцей* увянча́ны |
| Уверадзіцца *разм.* | увярэ́дзіцца |
| Уверадзіць *разм.* | увярэ́дзіць |
| Уве́сну | увясну́ |
| Угайда́цца | уго́йдацца |
| Угайда́ць | уго́йдаць |
| Угару́ | *часцей* уго́ру |
| Уда́лы | (не ўдалы́) |
| Удрукава́ны | удруко́ваны |

| | |
|---|---|
| Узбу́йнены | (не ўзбуйнё́ны) |
| Узгадава́ны | узгадо́ваны |
| Узлама́ны | узло́маны |
| Укамплектава́ны | укамплекто́ваны |
| Укапа́ны | *радзей* уко́паны |
| Улама́ны | уло́маны |
| Улё́жацца | уляжа́цца |
| Улё́жаць | уляжа́ць |
| Уло́маны | *часцей* улама́ны |
| Умацава́ны | умацо́ваны |
| Умурава́ны | *радзей* умуро́ваны |
| Уначы́ | *часцей* уно́чы |
| Унты́ | у́нты |
| Уну́траны | (не ўнутраны́) |
| Унутрывідавы́ | (не ўнутрывідавы) |
| Упакава́ны | упако́ваны |
| Упапяро́к | *часцей* упо́перак |
| Упара́дкаваць | (не ўпарадкава́ць) |
| Упацё́мку | *часцей* упо́цемку |
| Уперамё́шку *разм.* | упярэ́мешку |
| Упрыгажэ́нне | упрыго́жанне |
| Упры́сядкі | (не ўпрыся́дкі) |
| Ура́злівы | (не ўразлі́вы) |
| Урбанізава́ны | урбанізо́ваны |
| Ускапа́ны | уско́паны |
| Усталё́ваны | *часцей* усталява́ны |
| Устая́ць | *радзей* усто́яць |
| Усто́яцца | *часцей* устая́цца |
| Усхвалява́на | усхвалё́вана |
| Усхвалява́насць | усхвалё́ванасць |
| Усхвалява́ны | усхвалё́ваны |
| Усцеражо́ны | *часцей* усцярэ́жаны |
| Усядзе́ць | *часцей* усе́дзець |
| Утайма́ваны | утаймо́ваны |
| Утапта́ны | уто́птаны |
| Уцярпе́ць | уце́рпець |
| Учара́шні | учо́рашні *разм.* |
| Учаса́ны | учэ́саны |
| Ушчыльні́ць | (не ўшчы́льніць) |
| Ушыркі́ | (не ўшы́ркі) |
| | |
| Фабры́чна-заво́дскі | фабры́чна-завадскі |
| Фармава́ны | фармо́ваны |
| Фарміравá́ны | фарміро́ваны |
| Фарту́х | (не фа́ртух) |
| Фарфо́р | (не фа́рфар) |
| Фарфо́равы | (не фа́рфаравы) |
| Фаршыравá́ны | фаршыро́ваны |
| Фасава́ны | фасо́ваны |
| Фасфары́сты | *часцей* фо́сфарысты |
| Фее́рыя | (не феерыя́) |
| Фемінізава́ны | фемінізо́ваны |
| Фено́мен | (не фенаме́н) |
| Феты́ш | (не фе́тыш) |
| Філантро́пія | (не філантрапі́я) |
| Філі́стэр | (не філістэ́р) |
| Фільтрава́ны | фільтро́ваны |
| Фо́рзац | (не фарза́ц) |
| Фо́ртэль *уст., разм.* | фартэ́ль |
| Фотаме́трыя | фотаметры́я |
| Фугава́ны | фуго́ваны |
| Фурма́н | (не фу́рман) |
| Фу́травы | футро́вы |
| | |
| Ха́бар | (не хаба́р) |
| Ха́барнік | (не хаба́рнік) |
| Ха́барніцтва | (не хаба́рніцтва) |

| | |
|---|---|
| Хвайня́к *разм.* | *часцей* хво́йнік |
| Хва́лісты | (не хвалі́сты) |
| Хіба | хіба́ |
| Хлапе́ц | хло́пец |
| Храмі́раваць | (не храмірава́ць) |
| Хрысція́нін | (не хрысціяні́н) |
| Хры́шчаны | хрышчо́ны |
| Худзі́зна | (не худзізна́) |
| Ху́тарны | *радзей* хутарны́ |
| Хутарскі́ | (не ху́тарскі) |
| | |
| Цаглі́на | цэ́гліна |
| Цалава́ны | цало́ваны |
| Царква́ | (не цэ́рква) |
| Цвёрды | цвярды́ |
| Цвілы́ | (не цві́лы) |
| Цемянны́ | (не це́менны) |
| Це́пліцца | *часцей* цяплі́цца |
| Це́пліць | *часцей* цяплі́ць |
| Цесната́ | *радзей* цясно́та |
| Цітрава́ны | цітро́ваны |
| Цугавы́ | (не цу́гавы) |
| Цыклава́ны | цыкло́ваны |
| Цыклёваны | *часцей* цыклява́ны |
| Цырато́вы | цыра́тавы *разм.* |
| Цы́трусавы | (не цытру́савы) |
| Цэме́нт | (не цэ́мент) |
| Цэме́нтавы | (не цэ́ментавы) |
| Цэнтралізава́ны | цэнтралізо́ваны |
| Цюкава́ны | цюко́ваны |
| Цяжа́р | (не ця́жар) |
| Цяжкаатле́т | (не цяжкаа́тлет) |
| Ця́жкі | (не цяжкі́) |
| | |
| Чавы́ча | (не чавыча́) |
| Чайна́я | (не ча́йная) |
| Чапе́льнік *разм.* | *часцей* чапяльні́к |
| Чарато́вы | *часцей* чаро́тавы |
| Чараці́на | чаро́ціна |
| Ча́рдаш | чарда́ш |
| Часа́ны | чэ́саны |

| | |
|---|---|
| Часці́к | (не ча́сцік) |
| Чатырна́ццаты | (не чаты́рнаццаты) |
| Чатырохакто́вы | (не чатыроха́ктавы) |
| Чу́мны | (не чумны́) |
| Чу́тна | чутно́ |
| Чый-не́будзь | (не чый-нібу́дзь) |
| | |
| Шабасо́вы | шаба́савы |
| Шальмава́ны | шальмо́ваны *разм.* |
| Шапаткі́ | шапо́ткі *разм.* |
| Шара́чак | *радзей* шарачо́к |
| Шарсцяны́ | (не шарсця́ны) |
| Шаткава́ны | шатко́ваны |
| Шафёр | шо́фер |
| Шафёрскі | шо́ферскі |
| Шкляны́ | (не шкля́ны) |
| Шко́да | *часцей* шкада́ |
| Шліфава́ны | шліфо́ваны |
| Шліхтава́ны | шліхто́ваны |
| Шмаццё | *часцей* шмо́цце |
| Шо́ўкавы | *часцей* шаўко́вы |
| Шпаклёваны | шпаклява́ны |
| Шпігава́ны | шпіго́ваны |
| Шраці́на | (не шраціна́) |
| Штампава́ны | штампо́ваны |
| Штэмпелява́ны | штэмпялёваны |
| Шу́ла | шуло́ |
| Шчыпцы́ | (не шчы́пцы) |
| Шы́рай | *часцей* шырэ́й |
| Шэсцьдзеся́т | (не шэ́сцьдзесят) |
| | |
| Экспе́рт | (не э́ксперт) |
| Электраі́скра | (не электраіскра́) |
| Электраі́скравы | (не электраіскравы́) |
| Электрапрыво́д | (не электрапры́вад) |
| Этнані́мія | (не этнанімі́я) |
| | |
| Ягамо́сць *уст.* | яго́масць |
| Ядро́вы | (не я́дравы) |
| Як-не́будзь | (не як-нібу́дзь) |
| Ясеневы *разм.* | *часцей* ясянёвы |

## § 5.8. ПРЫЧЫНЫ ЎЗНІКНЕННЯ АКЦЭНТУАЦЫЙНЫХ ДУБЛЕТАЎ

Разгляд рэестра акцэнтуацыйных дублетаў паказвае, што іх колькасць у літаратурнай мове даволі значная, прытым у спіс уключаліся толькі дублетныя пары ў зыходнай слоўнікавай форме. Сярод прычын, якія выклікаюць існаванне такіх форм у мове, вылучаюцца: 1) дзеянне аналогіі, 2) розныя шляхі запазычання іншамоўнай лексікі, 3) узаемадзеянне літаратурнай мовы з мясцовымі гаворкамі, 4) беларуска-рускае моўнае ўзаемадзеянне, 5) уплыў прафесіяналізмаў.

1. Дзеянне па аналогіі пры ўтварэнні дублетных форм асабліва яскрава выяўляецца пры разглядзе акцэнтуацыі дзеепрыметнікаў залежнага стану прошлага часу. Каля 500 з гэтых дзеепрыметнікаў зараз пашыраны ў двух варыянтах: з націскам на першым складзе дзеяслоўнага суфікса і з націскам на другім яго складзе (*абмяжо́ваны — абмежава́ны*) або з націскам на корані і з націскам на суфіксе (*абло́маны — аблама́ны*). У большасці выпадкаў абедзве формы аднолькава часта сустракаюцца ў вусным маўленні і ў пісьмовай мове. Па аналогіі з існуючымі паралельнымі формамі ў навуковай тэрміналогіі

ўтвараюцца іншыя акцэнтуацыйныя дублеты (*атычкава́ны — атычко́ваны, ашлакава́ны — ашлако́ваны, інтэрпаліраваны — інтэрпаліравáны*). Але варта адзначыць, што амаль у кожным пятым выпадку перавага аддаецца формам з словаўтваральным фармантам *-аваны*. Адпаведныя формы з словаўтваральным фармантам *-ованы* або наогул лічацца адхіленнем ад літаратурнай мовы (*ілюстрава́ны*, а не *ілюстро́ваны, каланізава́ны*, а не *каланізо́ваны*), або сустракаюцца радзей за адпаведныя дзеепрыметнікі з словаўтваральным фармантам *-аваны* (*замарыно́ваны, закарко́ваны, напіло́ваны*). Існаванне форм на *-ованы*, верагодна, падтрымліваецца ўплывам рускай мовы, якой яны больш уласцівы (*замарино́ванный, запатенто́ванный*). Але для беларускай мовы зрух націску ў сярэдзіну і ў пачатак слова неабавязковы.

Прыгадаем, што і ў прыметніках часта больш пашыранымі аказваюцца формы з націскам на канчатку: *валавы́* (не *ва́лавы*), *варсяны́* (не *варся́ны*), *дрывяны́* (не *дрывя́ны*); *дармо́вы, дро́жджавы, зе́мны, пата́йны*, але часцей *дармавы́, дражджавы́, зямны́, патайны́*.

Уплыў аналогіі можна ўбачыць таксама і ў назоўніках, якія маюць паралельныя формы з націскам на корані і на суфіксе. Літаратурнымі, напрыклад, лічацца формы *абу́тнік, абу́тніца*, узнікшыя пад уплывам акцэнтуацыі дзеяслова *абу́ць*, але побач з імі сустракаюцца і формы *абутні́к, абутні́ца*, якія маюць падтрымку ў іншых адпаведных формах з націскным суфіксальным [і]: *працаўні́к, працаўні́ца*, разм. *скурані́к*.

2. Запазычаныя з іншых моў словы характарызуюцца значным хістаннем пры выбары месца націску ў параўнанні са спрадвечна беларускімі або даўно запазычанымі. Уплывовым фактарам з'яўляецца тое, якім шляхам праходзіла засваенне іншамоўнай лексікі: прамым або ўскосным. Прамыя запазычанні непасрэдна чэрпаюцца з іншай мовы і ў гэтым выпадку яны або захоўваюць акцэнтуацыю слова-крыніцы, або адаптуюцца. Напрыклад, запазычанае з польскай мовы *като́лік* (katólik) мае націск на другім ад канца слова складзе. Разам з тым шырока бытуе і адаптавана на беларускай глебе *каталі́к*, што знайшло адлюстраванне ў ТСБМ.

Назіраюцца таксама выпадкі, калі адно і тое ж слова запазычана з дзвюх розных моў з двума рознымі націскамі, г. зн. дзве мовы былі «парнымі крыніцамі запазычання» (С. П. Абнорскі)[14]. Пры гэтым сістэма націску адной мовы можа аказваць большы ўплыў у параўнанні з тым, які аказвае сістэма другой мовы. Напрыклад, слова *а́лкагаль* з націскам на першым складзе было запазычана з нямецкай мовы, але пад уплывам французскай пачало вымаўляцца як *алкаго́ль*. Праз нямецкую мову прыйшло французскае слова *магазі́н*. Вымаўленне *магазі́н* (з націскам на апошнім складзе) адпавядае французскай мове-крыніцы. Але тое ж слова пранікла і праз польскую мову, калі яно ўжо там адаптавалася, у выніку чаго існуе форма з націскам на другім ад канца слова складзе (*мага́зін*), хоць яна і не стала літаратурна нарматыўнай. Відавочна, што падобным чынам узніклі акцэнтуацыйныя дублеты і ў радзе іншых выпадкаў: *агент, аер, азбест, алфавіт, гектар, дакумент, кіламетр, цэмент* і інш.

3. У гаворках беларускай мовы ў генетычна адных і тых жа словах націск часам прыпадае на рознае месца, бо асноўныя дыялекты па-рознаму захоўваюць архаічныя тыпы націску.

У літаратурнай мове значная

---

[14] Обнорский С. П. Именное склонение в современном русском языке. Л., 1927. Вып. 1.

частка лексікі замацавалася з тым месцам націску, якое характэрна для сярэднебеларускіх гаворак. Але ўплыў іншых дыялектных акцэнталагічных сістэм прыводзіць да фанетычных дублетаў з розным месцам націску. У моўнай практыцы побач з літаратурнай нормай часта сустракаецца нелітаратурная акцэнтуацыя. Узаемадзеяннем рознадыялектных акцэнталагічных сістэм, напрыклад, тлумачацца наступныя акцэнтуацыйныя дублеты:

а) назоўнікаў (1-ы варыянт з'яўляецца безумоўна літаратурным, 2-і — зусім нелітаратурным або дапусцімым): *агло́бля — аглабля́, бу́льбіна — бульбі́на, ву́гал — вуго́л, го́луб — галу́б, дзіцятка — дзіця́тка, дзясна́ — дзя́сна, жніво́ — жні́ва, жо́луд — жалу́д, жыха́р — жы́хар, за́крутка — закру́тка, за́кутак — заку́так, за́сайка — засо́йка, за́сцежка — засцёжка, за́хад — захо́д, здага́дка — здо́гадка, знаха́р — зна́хар, кі́шка — кішка́, ло́пух — лапу́х, маладо́сць — мо́ладасць, на́йміт — найм́іт, на́крыўка — накры́ўка, на́сціл — насці́л, спі́на́ — спі́на, садаві́на́ — садаві́на, ску́ла — скула́, цяжа́р — ця́жар* і інш.;

б) прыметнікаў: *бры́дкі — брыдкі́, будны́ — бу́дны, бульбяны́ — бульбя́ны, гняды́ — гнё́ды, гра́зкі — гразкі́, дармавы́ — дармо́вы, канцавы́ — канцо́вы, касцяны́ — касця́ны, ко́сы — касы́, крупяны́ — крупя́ны, ласка́вы — ла́скавы, мя́ккі — мяккі́, ніякі — ніякі́, па́хмурны — пахмурны́, п'я́ны — п'яны́, ра́бы — рабы́, ру́ды — руды́, сі́вы — сівы́, сла́бы — слабы́, ста́ры — стары́, то́ўсты — таўсты́, уда́лы — удалы́, уну́траны — унутраны́, цвёрды — цвярды́, ця́жкі — цяжкі́;*

в) дзеясловаў: *ба́сіць — басі́ць, бру́дзіць — брудзі́ць, бу́бніць — бубні́ць, ву́дзіць — вудзі́ць, ву́зіць — вузі́ць, вярзці́ — ве́рзці, гнісці́ — гні́сці, гнясці́ — гнёсці, загасі́ць — зага́сіць, заіне́ць — заі́нець, запру́дзіць — запрудзі́ць, зача́сціць — зачасці́ць, мі́льгаць — мільга́ць, натру́дзіць — натрудзі́ць, ну́дзіць — нудзі́ць, патрашы́ць — па́трашыць, пацве́рдзіць — пацвярдзі́ць, перагнісці́ — перагні́сці, угнаі́ць — угно́іць, унуры́ць — уну́рыць;*

г) прыслоўяў: *высо́ка — вы́сака, глыбо́ка — глы́бака, даўно́ — да́ўна, дачыста́ — дачы́ста, крадко́м — кра́дкам, кры́ху — крыху́, ла́скава — ласка́ва, навако́л — наво́кал.*

Прыметнікі *бу́йны* і *буйны́*, хоць гістарычна і ўзыходзяць да аднаго і таго ж кораня, зараз разышліся ў семантыцы і з'яўляюцца амонімамі. Аднак *буйны́* сустракаецца з варыянтным націскам на аснове: *бу́йнымі слязамі* (Я. Колас); *бу́йным зернем* (П. Панчанка); *бу́йны ўраджай* (М. Танк); *бу́йны дзяцельнік* (М. Лынькоў). Гэты нелітаратурны варыянт узнік пад уплывам паўночна-ўсходніх гаворак, дзе маецца толькі *бу́йны* без семантычнай дыферэнцыяцыі, а таксама пэўных фальклорных твораў.

Пад уплывам рознадыялектных акцэнтуацыйных варыянтаў у беларускай літаратурнай мове ў многіх выпадках назіраецца няўстойлівасць націску ў шматлікіх формах слоў: *зляглóся* і *злéгласся, матлашы́м* і *матло́шым, ву́сы* і *вусы́, ге́рбаў* і *гербо́ў* і г. д.

З'яўляючыся найбольш значнай крыніцай узнікнення акцэнтуацыйных дублетаў, узаемадзеянне літаратурнай і дыялектнай мовы адбываецца няспынна, паколькі няспынна папаўняюцца рады творчай інтэлігенцыі за кошт носьбітаў розных гаворак.

4. У блізкароднасных рускай і беларускай мовах існуе значная колькасць фанетычна блізкіх лексем, якія адрозніваюцца толькі акцэнтуацыйна. На працягу свайго развіцця дзве мовы знаходзіліся ў пастаяннай сувязі і ўзаемна ўплывалі адна на адну. Як і шматлікія іншыя ўласцівасці мовы, беларускі слоўны націск падобны да націску ў рускай мове. Агульныя прасадычныя рысы, існаванне ў абедзвюх

мовах вялікай колькасці слоў агульнага паходжання, якія маюць падобныя фанетычны склад і марфалагічную будову, ужывальнасць агульных словаўтваральных фармантаў і мадэлей сталі прычынай узнікнення акцэнтуацыйных дублетаў. Узнікшыя пад уплывам рускай мовы варыянты звычайна называюць русізмамі, напрыклад: *ма́ленькі — мале́нькі, крапі́ва — крапіва́, аднаа́ктавы — аднаакто́вы, адзіна́ццаць — адзі́наццаць* і інш. Але ў пэўных выпадках яны замацоўваюцца ў літаратурнай мове як акцэнтуацыйныя дублеты да іншых існуючых форм: *асно́ўны — аснаўны́* (пад уплывам рус. *основно́й*).

5. Па розных прычынах агульнаўжывальная лексіка, якая набывае тэрміналагічнае значэнне, у тым ці іншым прафесійным асяроддзі вымаўляецца са своеасаблівым націскам. Гэта прыводзіць да ўтварэння варыянтаў націску ў адным слове: *ато́м — а́там, ато́мшчык — а́тамшчык.*

Як спецыфічныя прафесійныя варыянты ўспрымаюцца, напрыклад, акцэнтныя формы *грунты́* (літ. *гру́нты*), *іскра́* (літ. *іскра*), *электрапры́вад* (літ. *электрапрыво́д*), *шпрыца́* (літ. *шпры́ца*). Уваходзячы ў склад агульналітаратурнай мовы, тэрміналагічная лексіка пачынае падпарадкоўвацца пэўным агульнамоўным тэндэнцыям і можа набываць новую анкцэнтуацыю. Параўн.: *браву́рны* ў гутарковым маўленні *бра́вурны, газаме́тр — газо́метр, ге́нэзіс — гене́зіс, дазі́метр — дазіме́тр* і інш.

## § 5.9. СТЫЛЯВАЯ ДЫФЕРЭНЦЫЯЦЫЯ АКЦЭНТУАЦЫЙНЫХ ДУБЛЕТАЎ

Часам акцэнтуацыйныя дублеты выкарыстоўваюцца як словы з рознай стылявой афарбоўкай. Адзін з варыянтаў уваходзіць у склад агульнаўжывальнай лексікі і не мае спецыяльнай стылявой афарбоўкі, а другі, які адрозніваецца ад першага толькі месцам націску, выконвае асобую стылявую функцыю. Частка дублетных форм — прыналежнасць індывідуальнага маўлення асобных паэтаў. Такія формы, зразумела, маглі ўзнікнуць і пад уплывам тых беларускіх дыялектаў, носьбітамі якіх з'яўляюцца аўтары паэтычных твораў, але выкарыстоўваюцца ў вершаваным маўленні са стылявымі мэтамі. Прыгадаем такія формы, як *вы́сака, нано́ва* (Т. Бондар), *аблакі́* (М. Танк), *пагля́да* (Г. Кляўко), *даланя́, пазна́я восень, характар трохі запальчы́вы* (Р. Барадулін), *пурпу́равая восень* (Г. Глебка), *про́клятая дзяўчына* (У. Дубоўка), *шо́ўкавы* (П. Панчанка, П. Броўка), *пу́хавымі хусцінкамі, са́давым пахам* (П. Броўка), *спрасо́вана, накано́вана, чабо́рам, у горах, у былыя го́ды* (П. Панчанка). Словаформы множнага ліку з націскам на канчатку, якія сустракаюцца пераважна ў вуснай мове, ужываюцца ў творах мастацкай літаратуры ў якасці своеасаблівага стылістычнага сродку. Так, націск на канчатку ў формах множнага ліку назоўнікаў *гром, клён* — прыналежнасць стылю мастацкай літаратуры, назоўнік *грош* з націскам на канчатку ў форме роднага склону адзіночнага ліку сустракаецца ва ўстойлівых выразах *не меў граша́, граша́ не варты*[15].

Суіснаванне акцэнтуацыйных дублетаў у творчасці аднаго і таго ж аўтара часта можна растлумачыць недастатковай нармалізацыяй літаратурнай мовы. Але ў асноўным іх ужыванне апраўдваецца, бо незвычайны націск у агульнавядомых словах у пэўным літаратурным кантэксце прыцягвае да гэтага слова ўвагу, робіць яго апорным пры

---

[15] Бірыла М. В. Націск назоўнікаў у сучаснай беларускай мове. Мн., 1986.

стварэнні паэтычнага вобраза. Яно служыць для характэрнага паэтычнаму слову адштурхоўвання ад звычайнага, штодзённага, ад таго, да чаго вуха чытача прызвычаілася. Індывідуальнае аўтарскае ўжыванне аднаго з акцэнтуацыйных дублетаў спрыяе таму, што ён пачынае адрозніваецца пэўным стылістычным адценнем.

Прыгадаем, што нават звычайныя фанетычныя сродкі ў паэтычным тэксце, апрача сваёй сэнсаадрознівальнай функцыі, выконваюць рад пабочных, эмацыянальных, экспрэсіўных функцый, якія прысутнічаюць і ў звычайным маўленні, але ў паэзіі выступаюць у больш сканцэнтраванай форме. Такія сродкі (сярод іх і акцэнтуацыя) характарызуюць гукавы лад беларускай мовы з боку яго жанравых, стылістычных і індывідуальна-аўтарскіх магчымасцей. Выяўленчая і кампазіцыйная роля асобных гукавых сродкаў у сучаснай беларускай паэзіі патрабуе падрабязнага і дэталёвага вывучэння, бо «іменна гукавая структура верша найменш даследавана з прычыны незвычайнай складанасці» [16].

Сутыкненне ў вершаванай мове слоў, якія адрозніваюцца толькі націскам, часта выкарыстоўваецца для павышэння выразнасці. Вытанчана ўжываецца такі прыём у многіх вершах Рыгора Барадуліна.

Травейце, гаро́ды,
Салют, гарады́.
Гаро́ды,
Вам оды
Складзём праз гады́. [17]

Акцэнтныя зрухі, якія прадстаўлены ў гэтым вершы, не з'яўляюцца самамэтай: спалучэнне слоў, якія адрозніваюцца месцам націску, настройвае на незвычайны паварот думкі і арыгінальнае бачанне прадмета. Яны нагадваюць тыя парадыйныя, гарэзлівыя скажэнні акцэнтуацыі, якія сустракаюцца ў народных песнях:

Ой, ляцелі гусі з бро́ду,
Скалацілі ў рэчцы во́ду,
Ой, ляцелі гусі з браду́,
Скалацілі ў рэчцываду́.

У адрозненне ад фальклорных узораў акцэнтныя варыянты амаграфічнага характару ў паэзіі выконваюць пэўную сэнсавую ролю, таму яны больш нечаканыя, новыя, узбагачаючыя тканіну верша. У радзе выпадкаў амографы выкарыстоўваюцца для дасягнення гумарыстычнага эфекту. Напрыклад, у Ніла Гілевіча ў жартоўнай падборцы «Қарацелькі-каламбуры» (1971).

Што ні хвіля, ні гадзіна —
Лезе з скуры га́дзіна.
Увесь век яму гадзі́ла,
А ён кажа: га́дзіла.

Свядомае згушчэнне падобных па гучанню слоў прыводзіць да таго, што яны робяцца больш прыкметнымі, а іх малая частотнасць у звычайным маўленні служыць для стварэння асобага стылявога каларыту, бо, акрамя гукавога збліжэння, адбываецца і іх нечаканае кантэкстуальна абумоўленае сэнсавае проціпастаўленне.

Некаторыя словы, што маюць дваякі націск, паступова набываюць стылявую дыферэнцыяцыю, калі адзін з варыянтаў пачынае ўспрымацца як пераважна размоўны. Так, у групе прыслоўяў варыянты з націскам на корані (як у назоўнікаў, ад якіх яны ўтварыліся) успрымаюцца як літаратурныя (*бе́гам, ве́рхам, ве́чарам, гу́ртам, ра́ніцай*), а з націскам на суфіксе — як размоўныя (*бяго́м, вярхо́м, вечаро́м, гурто́м, раніцо́й*).

Асобныя акцэнтуацыйныя дублеты зараз характарызуюцца як устарэлыя, уласцівыя пісьмовай мове прошлага перыяду. Так, напрыклад, прыметнікі *муро́жны, дзіў-ны́, смутны́, будны́, страшны́* і не-

---

[16] Қабаковіч А. Қ. Паэзія Максіма Багдановіча. Мн., 1978. С. 69.

[17] Барадулін Р. Абсяг. Мн., 1978. С. 57.

каторыя іншыя ў мове мастацкай літаратуры 20—40-х гадоў нярэдка ўжываліся з націскам на канчатку, што з'яўлялася адлюстраваннем асаблівасцей націску прыметнікаў у некаторых мясцовых гаворках: *муражныя паплавы* (П. Глебка), *з дзівос дзіўных, землятрусам дзіўным* (М. Лужанін), *дзень наш будны* (Я. Колас) і інш. У гэты ж час прыметнікі *начны, зямны, выхадны, рачны* зрэдку ўжываліся з націскам на ўтвараючай аснове, а прыметнікі *колішні, учарашні* з націскам на другім складзе асновы: *рэчнай хвалі* (Я. Колас), *у ночнай цішы* (К. Чорны), *ночныя жахі* (У. Дубоўка), *зёмнай кулі* (П. Глебка), *выходны дзянёк* (П. Глебка), *батрак калішні* (У. Дубоўка), *мара калішняя* (П. Глебка), *калішні горкі пот* (П. Броўка), *учорашнія словы* (М. Зарэцкі).

Зараз падобныя варыянты выйшлі з ужытку, але, зафіксаваныя ў вершах, яны застаюцца фактам нашай мовы і захоўваюць стылістычнае значэнне, указваючы на час стварэння таго або іншага твора. А гэта азначае, што і зараз яны могуць быць выкарыстаны пры стылізацыі пад тэксты ранейшага часу.

Такім чынам, каб вызначыць месца і ролю акцэнтуацыйных варыянтаў, неабходна правесці шырокае вывучэнне моўнай практыкі не толькі сучаснага перыяду развіцця літаратурнай мовы, але і папярэдніх яго этапаў, аб'ектыўна ацаніць шырыню і рэгулярнасць ужывання дублетных форм. Спецыялізацыя асобных дублетных форм, іх сэнсавае і стылявое размежаванне садзейнічаюць іх замацаванню ў літаратурнай мове. Моўная практыка з'яўляецца рашаючым крытэрыем пры вызначэнні нарматыўнага націску ў пэўных лексемах. Таму пры іх аднясенні да нарматыўных або ненарматыўных неабходна зыходзіць не толькі з даных лексікаграфічных крыніц, але і з словаўжывання ў мастацкім і публіцыстычным стылях літаратурнай мовы. Тым больш, што ў пераважнай большасці слоўнікаў націск рэгламентуецца толькі ў пачатковай форме слоў, пры гэтым нярэдка сустракаюцца істотныя разыходжанні. Таму на сучасным этапе існаванне акцэнтуацыйных дублетаў — з'ява непазбежная, хоць і непажаданая.

## § 5.10. СЛОВЫ З ПАБОЧНЫМ НАЦІСКАМ

Звычайна кожнае знамянальнае слова ў беларускай літаратурнай мове мае адзін націск, які прыпадае на галосны пэўнага склада: *вýпраж, вячэ́ра, пачакáць, скаварадá, непадперазáны, натуралізавáцца, індустрыялізавáць, індывідуалізавáцца.*

Агульнаўжывальныя складаныя словы, асабліва з невялікай па працягласці першай асновай, таксама маюць адзін націск: *басанóгі, перш-нáперш, дабрабы́т, сырóватка, курóдым, кулямёт* і інш.

У складаных шматскладовых словах, акрамя асноўнага націску, можа з'яўляцца яшчэ і дадатковы, так званы пабочны націск: *вòдазабеспячэ́нне, ільнòвалакнó, агністачырвóны, высòкаэканамíчны, дòўгацярплíвы, мнòгакалярóвы, дàлейбóлей, штòхвілíну, дòбраўпарáдкаваць* і г. д. Як правіла, пабочны націск, менш выразны за асноўны, знаходзіцца на першай частцы складанага слова, а асноўны — на другой.

У моўнай плыні акцэнтна-рытмічная структура слоў змяняецца пад уплывам фразавай прасодыі, таму пабочны націск можа знікаць. Так, у адных і тых жа словах ён захоўваецца, калі размова ідзе пры павольным і сярэднім тэмпах, і губляецца пры хуткім тэмпе маўлення. Так, пры выразным маўлен-

ні можа гучаць *сямісо́т рублёў*, пры больш хуткім — *сямісо́т рублёў* і пры вельмі хуткім — нават *сямісòтрублёў*.

Шматскладовыя складаныя словы рэгулярна ўжываюцца ў тэрміналогіі і ў пэўным сэнсе з'яўляюцца штучнымі па сваёй акцэнтнарытмічнай структуры. Таму звычайна яны менш падлягаюць тым зменам, выкліканым фразавай прасодыяй, якія характэрны для бытавой лексікі. Узаемаўплыў іх састаўных частак нязначны. Калі ж сэнсавая самастойнасць адной з частак складанага слова губляецца або зацямняецца, то пабочны націск знікае: *сырадо́й, самасто́йны*.

Аднак нельга лічыць, што ўзнікненне пабочнага націску ў слове тлумачыцца толькі структурна-семантычна або толькі спосабам утварэння складанага слова. Для беларускага маўлення не характэрны вялікія міжнацiскныя інтэрвалы. Таму, калі ў складаным слове перад асноўным націскам або пасля яго ідзе шмат складоў з ненаціскнымі галоснымі, пабочны націск узнікае заканамерна. Параўн., *кро̀ваачышча́льны, кро̀ватачы́ць* (але *крывапі́вец, крывасмо́к, крываце́к*), *но̀вастві́раны, но̀вапабудава́ны* (але *навагóдні, навамо́дны*), *мно̀газара́дны, мно̀гастаро́ннасць, мно̀гакаля́ровы* (але *мнагаво́дны, мнагабо́р'е*).

Паяўленне націску ў гэтым выпадку неабходна таксама таму, што, згодна з арфаэпічнымі нормамі, ненаціскныя галосныя трэба вымаўляць выразна, без якаснай рэдукцыі. Аднак гэта цяжка зрабіць, калі да аднаго націскнога далучаюцца чатыры-пяць пераднаціскных складоў.

Такім чынам, узнікненне пабочнага націску ў шматскладовых словах можа тлумачыцца рознымі прычынамі, фанетычнымі і нефанетычнымі. Пры гэтым часта назіраецца ўзаемадзеянне адразу некалькіх спрыяльных фактараў. Так, у радзе слоў узнікае пабочны націск, калі яны належаць да спецыяльнай лексікі, складаючыя асновы асэнсоўваюцца як самастойныя, а перад асноўным націскам маецца тры-чатыры склады з ненаціскнымі галоснымі: *агу̀льнааба-вязко́вацсь, зо̀латапрамысло́вы* і інш.

Пераважна з пабочным націскам ужываюцца словы з наступнымі першымі кампанентамі:

*авія... (а̀віяэскадры́лля), агародніна... (агаро̀днінаканcе́рвавы), агітацыйна-... (агітацы́йна-ма́савы), агра... (а̀гратэ́хніка), агульна... (агу̀льнавайско́вы), адміністрацыйна-... (адміністрацы́йна-гаспада́рчы), азота..., азотна..., азоціста... (азо̀цістакі́слы), аргана... (арга̀натэрапі́я), артэрыя... (артэрыясклеро́з), бальнеа... (ба̀льнеагразеляч́эбніца), бенза... (бѐнзаправо́д), блок... (бло̀кпо́ст), верхне... (вѐрхнезу́бы, вѐрхнядзві́нскі), вышэй... (вышэ̀йстая́чы), гама-... (га̀ма-глабулі́н), гідра... (гідрамеха́ніка), горна... (го̀рнарабо́чы), груза... (гру̀затаксі́), дрэва... (дрэ̀ванасаджэ́нне), збожжа... (збо̀жжанарыхто́ўка), зем... (зѐмснара́д), кіна... (кі̀нафі́льм), кокса... (ко̀ксахімі́чны), макра... (ма̀краклі́мат), максі-... (ма̀ксі-паліто́), мала... (ма̀лазразуме́лы), медыка... (мѐдыкаменто́зны), месца... (мѐсцанараджэ́нне), метала... (мета̀лало́м), метэа... (мѐтэазво́дка), механа... (меха̀натэрапі́я), мідзі-... (мі̀дзі-мо́да), мікра... (мі̀кразо́на), парт... (па̀ртакты́ў), плоска... (пло̀скараўні́нны), слёза... (слё̀затачы́вы), службова-... (службо̀ва-тэхні́чны), слясарна-... (сляса̀рна-манта́жны), смола... (смо̀лакурэ́нне), спінна-... (спі̀ннабрушны́), старажытна... (старажытнару́скі), сто... (сто̀гало́вы), турба... (ту̀рбарэакты́ўны), тэхніка-... (тэ̀хніка-вытво́рчы), ультра... (у̀льтрагу́к), умоўна... (умо̀ўнарэфлекто́рны), універсальна-... (універса̀льна-збо́рны), усё... (усё̀зні́шча́льны),*

*усходне... (усхòднеславя́нскі), фота... (фòтакóпія), цэнтральна-... (цэнтрàльна-сіметры́чны), цыяніста... (цыя̀ніставадарóдны), электра... (элѐктрахімі́чны), ядзерна-... (я̀дзерна-фізі́чны).*

Часцей без пабочнага націску ўжываюцца такія кампаненты складаных слоў, як *арг... (аргвы́ вады), густа... (густавалóсы, густашэ́рсны), іншa... (іншазéмны, іншагарóдні).*

Але больш значная частка складаных слоў, маючых адзін і той жа першы кампанент, можа ўжывацца і з пабочным націскам, і без яго. Гэта словы з наступнымі пачатковымі часткамі: *аўта... (àўтавагóн, аўтадрóм), бавоўна... (бавòўнасушы́лка, бавоўнавóдства), бела... (белазу́бы, бѐла-чырвóны), біё... (біёлаг, біямáса), вада... (вадагрэ́йка, вóдалячэ́бніца), вела... (велагонка, веласіпéд), вяліка... (вялìкагалóвы, велікарóслы), дома... (дòмаўладáльнік, даматкáны), доўга... (дòўгавалóсы, даўгару́кі), дробна... (драбнаплóдны, драбнатвáры), добра... (дòбразычлі́вы, дабрадзéйны), жыцце... (жы̀ццеапісáнне, жыццеўстóйлівы, жыццялю́б), закона... (закòнавучэ́нне, заканадáўчы), земле... (зѐмлетрасéнне, землямéр), зерне... (зѐрнедрабíльны, зернясклáд), зоа... (зòакабінéт, заапáрк), золата... (зòлатаздабы́ча, залатанóсны), ільно... (ільнòтрастá, ільнаткáцкі), камене... (кàменедрабíлка, каменялóмня), кардыё... (кардыёграф, кàрдыяграфія), каротка... (карòткагалòвы, караткахвóсты), коса... (кòсавугóльнік, касабóкі), корма... (кармакýхня, кòрманарыхтóўкі), леса... (лѐсаахóва, лесапáрк), лёгка... (лёгкаўзбрóены, легкавáжны), лёда... (лёдаўтварэ́нне, ледакóл), мона... (мòнакультýра, маналíтны), масла... (мàслазавóд, масларóбчы), медна... (мѐднапракáтны, медналóбы), нова... (нòвапасéлены, навамóдны), палеа... (пàлеабатáніка, палеагéн), паліт... (палітаддзéл, палітру́к), пара... (пàратурбíна, паравóз), плода... (плòдакансéрвавы, пладаягадны), поўна... (пòўнагалóссе, паўнакрóўны), пыла... (пыласóс, пылападóбны), ранне... (рàннефеадáльны, раннясспéлы), розна... (рòзнабакóвы, разнарóдны), роўна... (рòўнавялíкі, раўнадзéйны), рыба... (ры̀баахóва, рыбалóў), рэдка... (рэ̀дканасéлены, рэдказу́бы), салома... (салòмавалакýша, саламарэ́зка), свежа... (свежавы́белены, свѐжамарóжаны), света... (свѐтаразумéнне, светапóгляд), сіне... (сінегалóвік, сінявóкі), снега... (снѐгазатрымáнне, снегамéр), соле... (сòлеварэ́нне, салявáр), сонца... (сòнцалячэ́нне, санцапёк), сорта... (сòртапракáтка, сартазмéна), спорт... (спòртлатó, спартбáза), стара... (стàрабеларýскі, старамóдны), судна... (сỳднаваджэ́нне, суднахóднасць), сярэдне... (сярэ̀днеазіяцкі, сярэднясýтачны), тонка... (тòнкавалакнíсты, танканóгі), торфа... (тòрфанарыхтóўка, тарфагнóй), тоўста... (тòўстагалóўка, таўстагýбы), трэце... (трэ̀церазрáдны, трэцяклáснік), фона... (фòнакардыёграф, фанаграфія), цвёрда... (цвѐрданасéнны, цвердаскýры), цепла... (цѐплаабмéн, цеплавóз), цёмна... (цѐмнавалóсы, цемнатвáры), чае... (чàеапрацóўка, чаяпíцце), чорна... (чòрнабарóды, чарнавóкі), чырвона... (чырвòнаармéец, чырванафлóцкі), шкло..., шырока...* і інш.

З'яўленне пабочнага націску рэгламентуецца акцэнтна-рытмічнымі і семантычнымі фактарамі. З семантычных важным з'яўляецца магчымасць ужывання другой часткі слова самастойна, што павялічвае верагоднасць пастаноўкі пабочнага націску. Напрыклад, першая частка складаных слоў *рыба...* звычайна мае пабочны націск, калі другая частка ўжываецца як самастойнае слова, і не мае яго, калі другая частка такой самастойнасцю не валодае: *ры̀бааховa, ры̀бакамбінáт,* але *рыбалóў, рыбахóд.* Пабоч-

ны націск устойліва захоўваецца ў складаных словах, калі абедзве часткі дастаткова самастойныя: *збо̀жжаздача, рабо̀ча-сялянскі, азо̀тнакіслы, кало̀нлічба, іго̀лкафільтр, фо̀тасінтэз, во̀семсот* і г. д.

З акцэнтна-рытмічных фактараў найбольш значным з'яўляецца месцараспалажэнне асноўнага націску. Пабочны націск паяўляецца, калі асноўны падае не на першы склад другой часткі, і не паяўляецца, калі ён падае на першы склад. Гэта назіраецца, напрыклад, у словах з наступнымі першымі часткамі: *вада..., вяліка..., добра..., дома..., доўга..., дробна..., жыцце..., закона..., земле..., зерне..., зоа..., золата..., ільно..., камене..., каротка..., коса..., корма..., леса..., лёгка..., лёда..., мона..., медна..., нова..., пара...* і інш.

Акрамя складаных слоў, пабочны націск у літаратурнай мове могуць мець шматлікія складанаскарочаныя словы, якія ўзніклі шляхам злучэння часткі аднаго слова з поўным другім словам: *на̀мдырэ̀ктара, агі̀ткалектыў, тэ̀хсакратар, тэ̀хпрапаганда* і інш.

Тэндэнцыя да пэўнай перыядычнасці ў чаргаванні націскных і ненаціскных складоў у моўнай плыні, адносная семантычная самастойнасць словаўтваральных сродкаў абумоўліваюць узнікненне пабочнага націску ў аднакаранёвых шматскладовых словах. Так, пабочны націск назіраецца ў простых словах з запазычанымі прыстаўкамі *архі- (а̀рхірэакцыйны), анты- (а̀нтымілітарысцкі, а̀нтынавуковы), контр- (ко̀нтратакаваць, ко̀нтррэвалюцыянер), транс- (тра̀нскантынентальны, тра̀нсатлантычны), супер- (су̀первокладка), ультра- (у̀льтрамарынавы, у̀льтрафіялетавы, у̀льтрагукавы), дэ- (дэ̀кваліфікавацца), дэз- (дэ̀зарыентаваць, дэ̀арганізацыя), рэ- (рэ̀арганізавацца, рэ̀мілітарызацыя, рэ̀капітуляцыя), інтэр- (і̀нтэрвакальны), экстра- (э̀кстраардынарны).*

Кожная з гэтых прыставак мае сваё акрэсленае значэнне, якое істотным чынам уплывае на сэнс утвораных з яе дапамогай слоў. Напрыклад, *анты-* ў прыметніках мае значэнне 'накіраваны супраць таго, што абазначана непрыставачным прыметнікам' і да т. п. Акрамя таго, словы, да якіх далучаюцца гэтыя прыстаўкі, шматскладовыя, у большасці выпадкаў з асноўным націскам, блізкім да канца слова. Такім чынам, калі б у гэтых словах адсутнічаў пабочны націск, то націскному складу папярэднічалі б чатыры склады (і нават больш). У той час як свайго роду крытычнай велічынёй адлегласці паміж двума націскнымі складамі ў рытмічна арганізаваным тэксце з'яўляецца велічыня ў два-тры склады.

Пабочны націск узнікае на першым складзе шматскладовых аднакаранёвых слоў не толькі ў тым выпадку, калі яны ўтвораны з прыстаўкамі іншамоўнага паходжання. Яго можна назіраць і ў прыставачных дзеясловах, часцей за ўсё ў тых, у якіх маецца пяць-шэсць складоў. У гэтых словах пабочны націск дапамагае шматскладоваму слову лепш прыстасавацца да патрабаванняў рытмічнай структуры фразы. Звычайна ў такіх выпадках пабочны націск падае на пачатковы склад, а асноўны — на апошні ці перадапошні, такім чынам утвараецца свайго роду рамачная канструкцыя акцэнтуацыі слова. Так, у дзеясловах з прыстаўкай *папа-* пабочны націск звычайна ўзнікае на першым складзе: *па̀пакарчаваць, па̀паґаладаваць, па̀пагаласіць, па̀пасудзіцца, па̀паварочваць, па̀пастругаць, па̀пастраляць* і інш. Гэтыя дзеясловы маюць яркую экспрэсіўную афарбоўку і ўжываюцца пераважна ў гутарковай мове. Відаць, таму яны хутка прыстасоўваюцца да гутарковай рытмікі. У тых жа выпадках, калі гэта прыстаўка далучаецца да слоў з асноўным націскам на першым складзе кораня,

пабочны націск не ўзнікае: *папабе́гаць, папагра́біць, папаво́рваць* і г. д. Размоўны характар маюць таксама дзеясловы, у якіх прыстаўкі *на-* і *па-* далучаюцца да прыставак *а-, аб-, ад-, вы-, за-, пера-, пра-, пры-, раз-*. Калі ў выніку гэтага атрымліваюцца словы з вялікай колькасцю пераднаціскных складоў, тады на прыстаўкі *на-* і *па-* прыпадае пабочны націск: *на̀адраста́ць, на̀ацяро́бліваць, на̀абчышча́ць, на̀вывалака́ць, на̀выпіло́ўваць, на̀перавалака́ць, па̀абклада́ны, па̀выпіра́ць, на̀вытырка́ць, па̀завалака́ць, па̀падпяра́зваць, па̀прывалака́ць, па̀прыпрага́ць* і інш. Калі да дзеяслова, які мае вялікую колькасць складоў і націск, блізкі да канца слова, далучаецца некалькі прыставак, вельмі верагодным робіцца паяўленне на першай з пачатку слова прыстаўцы пабочнага націску: *на̀закантракто́ўваць, на̀перакіда́ць, на̀практыкава́ць, па̀перавыко́нваць, нѐдагава́рваць, нѐабгрунтава́на, нѐапублікава́ны, нѐпадрыхтава́ць, нѐпадпарадкава́ны, нѐпаінфармава́насць, нѐпераадо́льны, па̀дзарабо́так, су̀падпарадко́ўваць* і г. д.

Такая ж з'ява назіраецца ў шматскладовых дзеясловах з прыстаўкай *пера-*. У большасці выпадкаў на гэту прыстаўку асноўны націск не падае. Ён зафіксаваны толькі ў невялікай групе размоўных або дыялектных трох- і чатырохскладовых слоў: *пяро́бары, пяро́зімак, пяро́куп, пяро́рва; пяро́бірак, пяро́смык.* Разам з тым прыстаўка *пера-* надзвычай прадуктыўная, мае шмат значэнняў і далучаецца да многіх шматскладовых асноў. Калі асноўны націск знаходзіцца ў словах з прыстаўкай *пера-* на чацвёртым, пятым і далейшым ад пачатку слова складзе, то пабочны націск можа ўзнікаць на першым складзе прыстаўкі: *пѐраштэмпелява́ць, пѐраразмеркава́ць, пѐраканструява́ць, пѐрагрупава́ць, пѐрадапыта́ць, пѐракатава́ць, пѐрапрадава́цца, пѐракартава́ны, пѐракіпяці́ць* і інш.

Пры складанай рытмічнай структуры пабочны націск падае на аднаскладовыя прыстакі *без-, не-, між-, звыш-* і на першы склад прыставак *перад-, проці-, неда-, супраць-: бѐзыніцыяты́ўны, нѐплацежаздо́льны, нѐпрапарцыяна́льны, нѐрэаліза́ваны, нѐспрактыкава́ны, мі̀жрэспубліка́нскі, звышчалаве́чы, звышчу́ллівы, пѐрадаперацы́йны, пѐрадна-вальні́чны, нѐдаатрыма́ць, су̀працьпастаўле́нне, су̀працьалкаго́льны* і інш.

Такім чынам, з'яўленне пабочнага націску не абмяжоўваецца складанымі словамі і характэрна для многіх простых шматскладовых. Важнейшая прычына яго ўзнікнення ў апошніх — рытмічныя заканамернасці арганізацыі моўнай плыні.

## § 5.11. СЛАБАНАЦІСКНЫЯ СЛОВЫ

Розная ступень выдзялення націскнога склада сярод астатніх залежыць ад шматлікіх прасадычных фактараў, у выніку дзеяння якіх слова можа мець моцны або слабы націск ці наогул яго губляць. Такім чынам, у моўнай плыні ўзнікаюць слабанаціскныя і ненаціскныя словы, якія называюцца дынамічна няўстойлівымі [18].

У славянскіх мовах даследаванне клітык, г. зн. ненаціскных слоў, якія ў фразе далучаюцца да папярэдняга або да наступнага слова, традыцыйна звязваецца з вывучэннем сказа ў фармальных адносінах [19], а таксама з даследаваннем

[18] Иванова-Лукьянова Г. Н. Об ударности динамически неустойчивых слов // Развитие фонетики современного русского языка. М., 1971; Панкрац Г. Я. О некоторых проявлениях ритмической тенденции в немецком предложении // Уч. зап. Казахского пед. ин-та (ф-т иностранных языков). Алма-Ата, 1958. Т. 2, вып. 5.

[19] Цыхун Г. А. Синтаксис местоименных клитик в южнославянских языках. Мн., 1968.

сувязі акцэнталагічных тэндэнцый з асаблівасцямі рытміка-прасадычнай арганізацыі мовы. Мяркуецца, што ў кожнай мове існуюць пэўныя правілы, па якіх фарміруюцца яе тыповыя акцэнтна-рытмічныя адзінкі.

Такім чынам, пры даследаванні дынамічна няўстойлівых слоў адрозніваюцца два аспекты. Першы — даследаванне механізма функцыяніравання клітык у моўнай плыні. Другі — высвятленне парадыгматычных асаблівасцей дынамічна няўстойлівых слоў у параўнанні са словамі, якія пастаянна маюць самастойны націск. У гэтым выпадку прадугледжваецца аналіз уплыву на дынамічную ўстойлівасць слоў іх прыналежнасці да розных граматычных разрадаў. Парадаксальнасць самой з'явы слова-клітыка праяўляецца ў тым, што, паколькі наяўнасць націску лічыцца прыкметай слова, клітыкі нельга разглядаць як словы згодна з вызначэннем. Адмаўленне ж для іх статуса слоў на аснове адсутнасці націску не дае магчымасці адрозніваць самастойныя, знамянальныя словы ад службовых.

Разам з тым важнасць і неабходнасць клітык у тэксце відавочная. «Прыблізна 10% любога тэксту (прымаючы слова за адзінку падліку) складаюць адны толькі прыназоўнікі, не менш працэнт выпадае на долю злучнікаў, нарэшце 1—2% — звязкі» [20]. У мастацкіх творах беларускай літаратуры часціцы складаюць 5% усіх словаўжыванняў (12976 з 257290) [21].

Сэнс выказвання непарыўна звязаны не толькі з лексічным значэннем самастойных слоў, але і са значэннем наяўных у ім клітычных членаў. Функцыя клітык шмат у чым нагадвае функцыю тых інтанацыйных сродкаў, з дапамогай якіх робіцца чляненне выказвання на часткі і аб'яднанне іх у цэлае. Функцыянальнае падабенства клітык і інтанацыйных сродкаў прыводзіць да таго, што яны перадаюць пэўныя мадальныя значэнні, уласцівыя выказванню, якія ўжо пэўным чынам абумоўліваюць інтанацыйны рысунак фразы.

Паказальна, што як пэўная інтанацыйная канструкцыя можа з'яўляцца паказчыкам не толькі частак фразы, але і ўсёй фразы цалкам, так і пэўная клітыка можа належаць не толькі пэўнаму члену сказа, але і сказу цалкам. Так, часціцы *адно, толькі* ў беларускай літаратурнай мове часам губляюць сувязь з якім-небудзь членам сказа і пашыраюць свой семантычны ўплыў на ўсю канструкцыю цалкам [22]. Напр., ...*толькі пяты мільгацяць.* ...*Толькі пер'е ўгору ляціць.* Або: *А човен носам трах у дрэва! А дзядзька раптам — гоп налева! І ногі ў портках адмысловых — Не проста ў зрэбных — шарачковых Адно ў паветры бурканулі Ды ў воду ўмомант байтанулі* (Я. Колас).

Шматлікія пытанні, якія паўстаюць пры звароце да вывучэння дынамічна няўстойлівых слоў, у большасці сваёй яшчэ чакаюць вырашэння, як і ўвесь комплекс праблем фанетыкі тэксту ў беларускай літаратурнай мове. Сярод дынамічна няўстойлівых слоў, якія належаць да розных граматычных разрадаў, найбольш прадстаўнічай з'яўляецца група службовых часцін мовы. Яны, як правіла, перадаюць сінтаксічныя адносіны паміж самастойнымі словамі і словазлучэннямі, дадаюць да іх значэнняў разнастайныя сэнсавыя і эмацыянальныя адценні і выступаюць пры гэтым з рознай акцэнтуацыяй.

Так, да дынамічна няўстойлівых слоў у першую чаргу трэба ад-

---

[20] Шуба П. П. Прыназоўнік у беларускай мове. Мн., 1971. С. 6—10.

[21] Киселев И. А. Частицы в современных восточнославянских языках Мн., 1976. С. 5.

[22] Киселев И. А. Частицы в современных восточнославянских языках. Мн., 1976. С. 24, 32.

несці прыназоўнікі. Іх прымыканне як ненаціскных складоў да знамянальных слоў — тыповая з'ява. Прыкладаў на ўжыванне прыназоўнікаў у якасці праклітык шмат, асабліва ў вершах — рытмічна арганізаваным маўленні: *Чабор на прылесным лужку. Пчала над рукóю на грýдзе* (У. Паўлаў). *Ляжыш на канáпе, што раптам зрабілася лаваю. Васковая свечка гарыць у цябé ў галавах* (Н. Мацяш). *Ад стрáху золка. Ад жáху хмарыць: Можа ў іголку Пярун ударыць!* (Р. Барадулін). *Па гýлкіх старонках — Чыгунных плітах, Жалобаю апавітых,— Пераклічка Праз трыццаць гадоў* (Р. Барадулін) [23].

Невытворныя прыназоўнікі *а, аб, ад, без, да, для, за, ля, між, па, са, у* амаль што заўсёды ўжываюцца як праклітыкі. Можна прывесці цэлы рад характэрных прыкладаў: *а: а◡сёмай гадзіне; аб: гаварыць аб◡падзéях, б'ецца аб◡бéраг; ад: ад◡хáты, ад◡прáцы, час ад◡чáсу; без: без◡арэ̀хаў, без◡вады́; да: да◡хáты, да◡зор; для: для◡вясéлля, для◡слáвы; за: за◡лéта, за◡лес; ля: ля◡фéрмы, ля◡хáты; між: між◡дрэ́ў, між◡сабóй, між◡лéсу; па: па◡сóнцу, па◡кулакý; са: са◡слáвай, са◡зрýба; у: у◡лéсе, у◡дворы́* і г. д. Варта дадаць сюды яшчэ і такія прыназоўнікі, як размоўны *край (край◡сталá)* і *звыш (звыш◡плáна)*.

Выпадкі, калі націск падае на прыназоўнік, а самастойнае слова прымыкае да яго як энклітыка, у беларускай мове вельмі рэдкія. Адзінкавыя прыклады былі вызначаны пры даследаванні прыназоўніка ў беларускай мове: *воб* (прыназоўнік у функцыі прыстаўкі): *вóбземлю, вóбруку; за: зá◡нач, зá◡лаб; по: пóвуху* (параўн. *пóўху*); *со:* у спалучэнні *сó◡сну*, якое мае прыслоўны характар (параўн. прысл. *сóслепу, сóсмеху*) [24]. Націск на прыназоўніках у спалучэннях з назоўнікамі спрыяе іх адвербалізацыі, г. зн. ужыванню спалучэнняў пераважна ў функцыі прыслоўя. Пры гэтым былыя прыназоўнікі пераўтвараюцца ў прэфіксы не без уплыву акцэнтуацыйнага фактару.

Невытворныя прыназоўнікі з былым беглым галосным [о] — *аба, ада, са, ка, нада, перада, ва,* як правіла, выступаюць у ролі праклітык: *аба◡мнé, дзѐнь◡ада◡дня́, са◡скарбóнкі, са◡свéту, са◡свістам, ка◡мнé, нада◡мнóй, перада◡мнóю, ва◡мнé, ва◡ўмóвах, ва◡ўсíх* і інш. Сувязь існавання галоснага [а] ў гэтых прыназоўніках з пэўнымі фанетычнымі ўмовамі, з якасцю ініцыяльных кансанантных спалучэнняў наступнага слова таксама сведчыць аб іх рэгулярным прымыканні, акцэнталагічнай залежнасці ад знамянальных часцін мовы.

Складаныя прыназоўнікі таксама часцей ужываюцца як праклітыкі: *з-за: з-за◡пóяса, з-за◡сталá, з-за◡дрóбязей; з-над: з-над◡ракí; з-пад: з-пад◡нóг, з-пад◡пярá, з-пад◡Налібóк; з-па-над: з-па-над◡Нёмана; паўз: паўз◡гасцíнец, паўз◡чыгýнку* і г. д.

Адначасова ў складаных прыназоўніках у залежнасці ад канкрэтнага ўжывання націск можа захоўвацца: *замѝж◡узóру (але замíж◡вóзера); спамѝж◡кустóў; памíма◡вышэ̀йадзнáчанага (але памíма◡вóлі)*. Колькасць складоў у прыназоўніках аказвае ўплыў на акцэнтуацыю. Неаднаскладовыя невытворныя прыназоўнікі часта маюць уласны націск. Так, прыназоўнікі *дзеля, перад, каля, цераз, паміж* сустракаюцца і як праклітыкі, і як словы са слабым націскам: *дзеля◡яé, дзеля◡гэ́тага*, але *дзѐля забеспячэ̀ння; каля◡рэ́чкі, каля◡*

[23] Тут і далей выкарыстоўваюцца наступныя абазначэнні ступені націску: ´ — поўны, самастойны націск, ` — слабы, пабочны націск, ″ — лагічны націск, ◡ — словы аб'яднаны адным націскам.

[24] Шуба П. П. Прыназоўнік у беларускай мове. С. 27—28.

*поўначы,* але *каля̀ перасяле́нцаў; перад‿і́м,* але *пѐрад доўгачака́най сустрэ́чай; памі́ж‿імі, памі́ж‿сабо́й,* але *памі̀ж дэмакра́тамі і рэспублі́канцамі* і г. д.

Прыназоўнікі, якія страцілі вытворнасць, але захоўваюць яшчэ марфалагічнае чляненне, таксама могуць атрымліваць акцэнтнае выдзяленне пэўнага склада: *акрамя́ старо́й; апрача́ гэ́тага; апрача́ сакратара́; апро́ч усяго́; апро́ч пля́мкі; заме́ст лі́сця; заме́ста бага́цця; нако́нт пра́цы; накшта́лт скрыжава́ння; паво́дле даўжыні́; сяро́д ха́ты; сяро́д ле́су; падча́с ава́рыі.*

Двух-, трох- і чатырохскладовыя прыназоўнікі прыслоўнага паходжання часцей за астатнія маюць самастойны націск: *аба́пал шля́ху; адно́сна спра́вы; акра́й ле́су; блі́зка апо́ўначы; вако́л са́ду; збо́ку стала́; зза́ду сябе́; круго́м ха́ты; мі́ма ве́сніц; нааба́пал чыгу́нкі; наве́рсе во́за; наво́ддаль ву́ліцы; навако́л яе́; наво́кал старшыні́; наво́кала вачэ́й; наўко́л мо́ста; наўко́ла стала́; напе́радзе палка́; напро́ці Максі́ма; насу́праць плыні́; насупро́ць Сымо́на; наўкру́г па́рку; наўкруга́ стала́; непадалёк мяне́; непадалёку свайго́ до́ма; о́бак каліdо́ра; пааба́пал яе́; паблі́зу го́рада; по́бліз сяла́; паве́рх ко́ўдры; папе́рад ўсі́х; папе́радзе ўсі́х; папяро́к даро́гі; по́перак во́за; пасля́ но́вага го́да; пасяро́д быто́ўкі; пасярэ́дзіне шко́лы; паўзве́рх зямлі́; паўскра́й я́ру; по́бач чыгу́нкі; про́ці со́нца; скро́зь зямлю́; су́праць ве́тру; супро́ць ха́ты; уво́ддалі іх; углы́б до́му; уздо́ўж сцен; узаме́н чаго́; узбо́ч даро́гі; уздо́ўж ву́ліцы; укру́г ме́сяца; упе́радзе ўсі́х; упо́перак ла́ўкі; ускра́й по́ля; усця́ж мяжы́.*

Чым больш складаную ўласную акцэнтна-рытмічную структуру мае прыназоўнік, тым больш верагодна, што ў моўнай плыні ён захавае ўласны націск, тым менш здольны ён да праклітычнага прымыкання: ***насу́перак вы́гляду, насу́страч та́нкам, дзя́куючы камсамо́льцам, адпаве́дна дамо́ўленасці, насу́страч*** *Га́лі* і г. д. Вельмі часта пастаноўка націску на прыназоўніках абумоўлена агульнай рытмічнай структурай прыназоўнікавага словазлучэння, бо ў выніку дзеяння тэндэнцыі да чаргавання націскных і ненаціскных складоў вялікія міжнаціскныя інтэрвалы (у 3—4 і больш складоў) скарачаюцца шляхам узнікнення дадатковага націску на прыназоўніках.

Разам з рытмічным фактарам вельмі ўплывовым аказваецца таксама інфармацыйны: больш верагодным з'яўляецца акцэнтнае выдзяленне тых элементаў, якія нясуць значную для слухача інфармацыю. Гэтым можна растлумачыць амаль рэгулярны націск на прыназоўніках прыслоўнага паходжання. Хоць яны і маюць свой уласны націск, усё ж у моўнай плыні такія прыназоўнікі акцэнтна не выдзяляюцца, як гэта ўласціва самастойным разрадам слоў. Яны, як правіла, не нясуць на сабе фразавага або лагічнага націску. У гэтым сэнсе варта параўнаць ужыванне прыназоўнікаў прыслоўнага паходжання з аманімічнымі прыслоўямі, на якія ў фразе можа падаць і лагічны, і фразавы націск. Параўн.: *Хлопчык стаў по̀меж з ба̋цькам* і *Нельга было хлопчыку ісці по̋меж.*

Апошні прыклад выяўляе, праўда, яшчэ адну прычыну акцэнтуацыі службовых слоў — гэта месцазнаходжанне іх у фразе і ў кантэксце наогул. Адрозненне прыназоўнікаў прыслоўнага паходжання ад прыслоўяў у функцыянальных адносінах крыецца між іншым і ў тым, што прыназоўнік рэгулярна папярэднічае слову, граматычную форму якога ён абумоўлівае. Пазіцыя канца фразы, на які больш часта прыпадае фразавы націск, не тыповая для прыназоўнікаў. Толькі ў пэўным сэнсе ў штучных або ў размоўных, эліптычных канструкцыях ён

можа стаяць у канцы фразы і быць інфармацыйным цэнтрам выказвання. Напр., *«Дзе правесці нараду, у го́радзе ці за го́радам?»* — *«Лепш за́»*. *«Ты выходзіш перад плошчай або пасля яе?»* — *«Пе́рад»*. *«Калі ты гэта зробіш?»* — *«Пасля свя́т. Мусіць, толькі пасля́»*.

Вялікая роля шырокага агульнага семантычнага і рытмічнага кантэксту яшчэ больш відавочная пры звароце да другой буйной катэгорыі службовых слоў — да злучнікаў, якія аб'ядноўваюць у адзінае цэлае і раздзяляюць не толькі асобныя словы, але і вялікія па працягласці часткі выказвання. Як і прыназоўнікі, злучнікі і злучальныя словы набываюць або губляюць націск у залежнасці ад сваёй рытмічнай структуры, ад месцазнаходжання ў фразе, а таксама ад інфармацыйнай нагрузкі. Напр., *Не думай, што́ бярэш у стылы свет, Падумай, што́ пакінеш на зямлі* (Р. Барадулін). (Націск на злучнікі пастаўлены аўтарам.) Яны ў гэтым выпадку — прыналежнасць фразы і таму чуткa рэагуюць на ўвесь комплекс яе прасадычных паказчыкаў. Аўтар падкрэслівае іх значнасць.

Аднаскладовыя злучнікі, якія ўжываюцца ў параўнальных зваротах, пры аднародных членах сказа або пры аднародных сказах, вельмі часта ўжываюцца як праклітыкі: *як‿шкло́, што‿па́ні, бы‿кно́т, ці‿ты́, ці‿ён; ні‿сту́ку, ні‿го́ману* і г. д. *Сынам давай І‿га́рт, і‿мо́ц, Шлях бласлаўляй круты* (Р. Барадулін). *То‿по́зіркам абдыме, То‿ра́птам абміне, То‿з гэ́тымі, то‿з‿ты́мі Яна супроць мяне* (Р. Тармола).

У складаных сказах ужываюцца ў якасці праклітык аднаскладовыя злучнікі *каб* і *што*. Напр., *Гаварыла зямля, што‿не‿хо́ча яна, Каб‿палі арашала крывёю вайна, Каб‿слязамі сірот засявалі яе* (М. Танк). Калі ў састаў падобнай праклітыкі ўваходзіць склад з галосным [о], то не пад націскам вымаўляецца агублены і некалькі рэдукаваны гук, але акання не назіраецца.

Вельмі часта выступаюць у якасці праклітык і злучнікі *ды, дый, дык, адно ж*, якія маюць размоўны характар[25]: *хлеб ды‿со́ль, туды дый‿дадо́му, запаліў дый‿кі́нуў; не змянілася, адно‿ж схуднела* і інш. Гэта адбываецца, мусіць, таму, што якраз у размоўным маўленні асабліва яскрава дзейнічае рытмічны фактар, які ўзмацняе тэндэнцыі да больш злітнай рэалізацыі выказванняў[26]. Калі ў стылявых мэтах у вершах неабходна вылучыць злучнік, яго ставяць у асобны радок, у пачатак або ў канец радка: *Самога сябе хоць адкрый, Ды З тугой не заключыш умой* (Р. Барадулін). *У‿тва́ні цішыні, У‿бро́сні дабрабыту Нікога не віні. Віноўнік ёсць нібыта?* (Р. Барадулін).

Дарэчы, у беларускай мове назіраецца значная эліптычнасць гутарковай мовы, што прыводзіць да страты пэўнымі элементамі націску, а таксама да рытмічнай дэфармацыі слоў. Паказальны такія формы, як прыслоўе-злучнік *нат* 'нават', *шчэ* 'яшчэ', *трэ* 'трэба' і інш.

Калі ж у дыялогу ці гутарковай мове злучнікі пачынаюць рэпліку-адказ або рэпліку, якая ўводзіць гаворачага ў размову, то яны маюць акцэнтнае выдзяленне. Напр., *«Дай яму вады».— «Давай. Ды́к ён адно губы памачыў і не піў»* (К. Чорны).

Для акцэнтуацыі злучнікаў вельмі важным з'яўляецца тое, як перадаецца сувязь паміж часткамі выказвання з дапамогай інтанацыйных сродкаў, такіх, як паўза, мелодыка незавершанасці, змяненне тэмпу і інш.[27] Калі інтанацыйныя сродкі рэалізуюцца досыць выразна,

[25] Граматыка беларускай мовы. Мн., 1962. Ч. 1. С. 475, 477.

[26] Русская разговорная речь. М., 1983. С. 5—50.

[27] Кривицкий А. А., Михневич А. Е., Подлужный А. И. Белорусский язык для небелорусов. Мн., 1978. С. 322.

то злучнікі і злучальныя словы могуць губляць сваё выдзяленне. У тым жа выпадку, калі яны недастаткова выразныя, «размытыя», а характар сувязі асобных частак выказвання набывае важнае значэнне для яго разумення, акцэнтнае выдзяленне злучнікаў робіцца сродкам перадачы сэнсу. У якасці прыкладаў можна прывесці ўжыванне націскных злучнікаў тады, калі яны звязваюць процілеглыя выказванні, выказванні з узаемным выключэннем або калі яны злучаюць часткі складаных сказаў з супраціўнымі адносінамі і з адносінамі неадпаведнасці. Напр., *Цябе мазоль твой знойдзе, Ды́ Адчуй, як ён свярбіць, цвярды. Вядома, прэсны ён, Адна́к, Ты сам свой рассмакуй праснак* (Р. Барадулін).

Ускладненне рытмічнай структуры злучнікаў і злучальных слоў, як і ў прыназоўніках, выклікае пастаноўку самастойнага націску. Найбольш рэгулярна ён адзначаецца, напрыклад, у састаўных злучніках. Яны складаюцца з некалькіх частак, якія не ўсе выдзяляюцца націскам, але ўступаюць між сабой у складаныя з акцэнтуацыйнага пункту погляду адносіны. Праклітычны характар прымыкання і ў гэтым выпадку відавочны: *ды‿і́, ды‿і‿то́, і‿то́, а‿то́, як‿то́лькі, ледзь‿то́лькі, чуць‿то́лькі, толькі‿што́, чуць‿што́, абы‿то́лькі, перш‿чы́м, раней‿чы́м, а‿таму́, і‿таму́, а‿то́е, не‿то́, а‿не‿то́, тым‿не ме́нш, тым‿бо́льш, між‿ты́м, а‿і́менна, адным‿сло́вам, гэта‿зна́чыць* і г. д. Энклітычнае ўжыванне часткі злучнікаў рэдкае: *пе́рш‿чым, ране́й‿чым, тады́‿як, я́к‿бы, для‿таго́‿каб, та́к‿што, зат́ым‿што, пасля‿таго́‿як* і г. д.

Састаўныя злучнікі, якія не стаяць побач у сказе, асабліва шматскладовыя парныя злучнікі, часцей маюць два націскі: *не то́лькі...але́, не то́лькі...ко́лькі, не то́‿што...але́‿і*.

У тым выпадку, калі паміж часткамі сказа, якія далучаюцца з дапамогай складаных злучнікаў у маўленні робіцца паўза, то магчымасць узнікнення націску на другой частцы састаўнога злучніка павялічваецца. Напр., *Паку́ль жывеш, Дату́ль пытайся* (Р. Барадулін). Параўн.: *Часта прыходзілася спыняцца, таму́‿што дарога была несамавітая...* (І. Мележ). *Расліны тут заняпалі таму́, / што́ панізіўся ўзровень вады ў глебе* (М. Пасляд овіч). *Валодзя не ведаў ласкавай рукі бацькі, Не ведаў таму́, / што́ ён рана памёр* (В. Данілевіч).

Свае адметныя рысы моўнай плыні мае акцэнтуацыя трэцяй шматлікай катэгорыі службовых слоў — часціц. Хоць часціцы як неабходны элемент для правільнага разумення ўсяго выказвання маюць большую пазіцыйную свабоду ў фразе, што павялічвае іх здольнасць мець самастойны націск, яны таксама падпарадкоўваюцца агульным рытмічным заканамернасцям маўлення. Таму ненаціскнымі і слабанаціскнымі бываюць часціцы, якія адносяцца да розных семантычных груп і выконваюць розныя функцыі.

У словаўтваральных часціцах, як і ў іншых катэгорыях службовых слоў, можна заўважыць пэўную тэндэнцыю да пераважна праклітычнага прымыкання: прэпазітыўныя часціцы, як правіла, не маюць уласнага націску, а постпазіцыйныя стаяць пад націскам: *абы-: абы-хто́, абы-чы́й, абы-куды́, абы-я́к; ані-: аня́к, анідзе́, анікуды́; ні-: ніхто́, нічы́й, ні́як, ніку́ды; -не́будзь: хто-не́будзь, чый-не́будзь, як-не́будзь; -кольвек: хто-ко́львек, чый-ко́львек, куды-ко́львек*. Выключэнне складаюць словаўтваральныя часціцы *не (не́хта, не́чы, не́як, не́куды), -сьці (хто́сьці, куды́сьці)* і формаўтваральная часціца *бы (б)*, якая прымыкае да дзеясловаў. Аднак паказальна, што побач з формамі *-сьці, бы* суіснуюць і такія, дзе ненаціскны склад знікае *(хто́сь, ку-*

*дысь, было́◡б, ста́лася◡б*). Націскная ж часціца *не*, як і націскныя прыназоўнікі, пераасэнсоўваецца як прыстаўка, універбізуецца.

Сувязь службовых слоў з агульнай семантычнай і рытмічнай будовай фразы асабліва яскрава выступае пры звароце да часціц, якія то набываюць, то губляюць самастойны націск. У залежнасці ад мэты выказвання гэтыя часціцы могуць займаць markрознае месца ў сказе, знаходзіцца і ў прэпазіцыі, і ў постпазіцыі да слова, якое яны вызначаюць. Таму яны могуць мець самастойны націск або рабіцца праклітыкамі. Параўн.: *то̀лькі цяпе́р*, але *цяпер◡то́лькі; толькі◡ўсяго́*, але *ўсяго́ то̀лькі; адны◡фра́зы*, але *фра́зы адны́* (у гэтых словазлучэннях лічэбнік *адзін* выступае як выдзяляльна-абмежавальная часціца), *хіба◡то́лькі*, але *то́лькі хіба́* і г. д. Постпазіцыя часціц, якія звычайна сустракаюцца ў прэпазіцыі, падкрэслівае іх асабліва важнае значэнне ў выказванні, робіць абавязковым іх выдзяленне з дапамогай націску, бо, як правіла, слабанаціскное слова можа быць апушчаным без змянення сэнсу выказвання. Так, часціцы, якія варта лічыць акцэнтуючымі, у залежнасці ад пазіцыі ў фразе і характару націску набываюць рознае значэнне[28]. Напрыклад, калі яны ненаціскныя і знаходзяцца ў прэпазіцыі да слоў, якія выдзяляюцца лагічна, то іх функцыя — узмацняць лагічны націск: *Вось◡до̆м хутчэй пабудавалі* (дом, а не нешта іншае).

*А вось◡гэ̆тага на той час не было.*

*Ось◡цяпӗр можна падмесці падлогу. Унь◡алӗшнічак, а гэта сухі грунт...* (К. Чорны). *Вунь◡бяро̆за,*

*значыць вёска блізка. Гэта◡ты̆ мне памагла, бабка!*

У тым жа выпадку, калі лагічны націск падае на ўказальную часціцу, фраза набывае лакальна ўдакладняючае значэнне. *Дом во̆сь.*

*Насупраць. Вўнь ляжыць дрэва. Бачыш? Во̆сь ён. Зусім блізка.*

*Вўнь яны, ля фермы. Гэ̆та што за людзі?*

Некаторыя з часціц, напрыклад пытальныя, пераважна ўжываюцца

ў якасці праклітык: *Ці◡атрымӑла*

*Анежка ліст? А ці◡шкадӑ табе маладосці?* У тых вельмі рэдкіх выпадках, калі слова, што выдзяляецца лагічна з дапамогай часціцы *ці*, знаходзіцца не ў пачатку фразы, пытальная часціца ўсё роўна — праклітыка. *На вяселле ці◡по́йдзеш? Сход ці◡ско́нчыўся?* У прэпазіцыі часцей сустракаюцца і пытальныя часціцы *хіба (хіба́)* і *няўжо*, але яны больш часта захоўваюць націск (*Хіба́ ён скажа праўду? Няўжо́ табе не балюча?*).

Акрамя таго, інфарматыўнае значэнне пытальнай часціцы можа ў размове павялічвацца да такой ступені, што яна пачынае самастойна ўжывацца ў якасці сінтаксічнага непадзельнага сказа, у якасці сло-

ва-фразы (*Няўжо̆? Хі̆ба?*). У такім ужыванні пытальныя часціцы могуць абазначаць не толькі пытанне, але і ярка экспрэсіўны пазітыўны адказ або быць дапаможным запы-

тальным сродкам (*Няўжо̆ ж! Хібӑ*

*ж! Гӑ! Тӑк! Я̆к?!*).

Такімі ж інфармацыйна моцнымі з'яўляюцца ў беларускай літаратурнай мове сцвярджальныя і адмоўныя часціцы, якія яшчэ больш рэгулярна выступаюць як словы-

фразы (*Алӗ. Тӑк. Та-ӑк. Агӑ. Нӗ*

*(не-е). Ані̆. Ані-ні̆!*). Аднак і гэтым часціцам для таго, каб яны набылі самастойнасць, патрэбна падтрымка з боку інтанацыйных сродкаў, знаходжанне ў пэўнай пазіцыі ў фанетычным кантэксце, бо без гэ-

[28] Киселев И. А. Частицы в восточнославянских языках. С. 48—62.

тага яны таксама выступаюць у фразе як праклітыкі (параўн.: *Не̋, не‿хачу́, не‿ва́рта так рабіць. Ані̋ не‿хо́ча есці. Спаць не‿хо́чацца, ані-ні!*). Як вынікае з прыкладаў, спрыяльнай для набыцця самастойнага націску пазіцыяй у часціц з'яўляецца пазіцыя пачатку і канца фразы (*Нӳ, ідзі! Ну́‿іх к ліху. На̋ табе рубель! На-а̋, бяры́! Бада́й‿ты спра̋хла! Ка́б‿ты бо̋кам ездзіў! Во́сь‿бы ёй з'е̋здзіць! Паскача няха̋й!*).

Акрамя таго, у прыведзеных прыкладах можна ўбачыць, што часціцы часта сустракаюцца ў спалучэннях з іншымі часціцамі або з іншымі службовымі часцінамі мовы. Гэта, безумоўна, садзейнічае таму, што па меншай меры адзін з членаў такога ланцужка службовых слоў пачынае набываць націск (*А‿я́к жа! Во́сь калі прыехаў! Ву́нь яны дзе! Ву́нь‿што з ім! А‿вось‿гэ́тага не было́! Але‿што́ гэта за‿ле́с? Не́‿за‿шта дзякаваць!*). Да такога ж акцэнтнага выдзялення прыводзіць і паўтор аднаго і таго ж службовага слова (*Так-та̋к. Унь-ӳнь чарнее. Вось-во̋сь прыйдзе*).

У літаратурнай мове не толькі службовыя часціны мовы, але і словы іншых катэгорый могуць мець моцны або слабы націск ці наогул яго губляюць. Так, асабовыя займеннікі ў спалучэннях з дзеясловамі, канчаткі якіх таксама ўказваюць на асобу, калі лагічны націск падае на дзеяслоў, могуць ужывацца як ненаціскныя. У тым выпадку, калі асабовы займеннік знаходзіцца ў постпазіцыі, ён можа мець нават лагічны націск. Параўн.: *Мне стра̋шна, Каб стала маёю ты̋, Мне‿стра́ціць цябе̋, Жахліва* (Р. Барадулін).

У стылявых мэтах, каб падкрэсліць сэнсавае і акцэнтнае выдзяленне асабовага займенніка, у вершах яго выносяць у асобны радок, разбіваюць займеннік і дзеяслоў іншымі словамі: *Усе мае́ да цябе̋ лісты́ Ты́ Смутку маймý дыктавала!* (Р. Барадулін).

Прыналежныя займеннікі таксама прыстасоўваюцца да агульнай рытмічнай будовы фраз у адносінах націску. У прэпазіцыі да азначаемых слоў яны або зусім губляюць націск, або ён успрымаецца як слабы, нагадвае пабочны ў складаных словах. Толькі спецыяльная пабудова радкоў дазваляе акцэнтна выдзеліць займеннік. Напр., *Без‿твайго́ я начэю святла* (Р. Барадулін). *Вочы світалі твае̋ Нада‿мно́й* (Р. Барадулін).

Аналагічныя прыклады можна знайсці і пры ўжыванні ў маўленні іншых катэгорый займеннікаў (указальных, азначальных, пытальна-адносных, няпэўных), якія ў залежнасці ад інфармацыйных і рытмічных прычын набываюць або губляюць самастойнае акцэнтнае выдзяленне. *Дакладнасць 3 гадзіннікам зверыў — Паверыў з хвіліны тае́* (Р. Барадулін). *Ў адным‿сялé (не важна — дзé) Хадзіў Баран у чарадзе* (К. Крапіва). (У апошнім прыкладзе лічэбнік *адзін* выконвае ролю няпэўнага займенніка — 'нейкі'.)

Сярод лічэбнікаў выпадкі акцэнтнага прымыкання назіраюцца ў спалучэннях з назоўнікамі і іншымі лічэбнікамі, калі колькаснае значэнне першага лічэбніка спецыяльна не падкрэсліваецца: *тры‿сцяны́, два‿дóўгія крокі, дзве‿трэ́цція* і г. д. (але *сцяны́ тры́, кро́кі два́*).

З ліку іншых знамянальных слоў, якія больш рэгулярна маюць слабы націск, у першую чаргу варта назваць дзеясловы, якія ўтвараюць аналітычныя формы выказніка. У гутарковай мове, як вядо-

ма, побач з простымі формамі прошлага часу ўжываюцца формы, якія складаюцца з дапаможнага дзеяслова *быць* у форме прошлага часу і асноўнага дзеяслова таксама прошлага часу[29]. Своеасаблівая дапаможная функцыя дзеяслова *быць* спрыяе таму, што ён можа выступаць як ненаціскны або слабанаціскны пры абазначэнні даўно мінулага дзеяння, у сказах са значэннем перарванасці дзеяння, проціпастаўлення, а таксама ў сказах з часціцамі *каб, бадай,* якія маюць значэнне эмацыянальна афарбаванага пажадання. Напр.: *Я іх раней за цябе быў‿паглéдзеў* (К. Чорны). *Пяць кароў былі‿сышлі, сёння раніцой толькі аказаліся* (Э. Самуйлёнак). *Бадай ты спрóгся‿быў, тупіца!* (Я. Колас). Слабы націск назіраецца і ў іншых дзеяслоўных спалучэннях, дзе значэнне аднаго з дзеясловаў граматыкалізаванае. Варта прыгадаць запазычаную з гаворак сінтэтычную форму будучага часу з асабовымі формамі дапаможнага дзеяслова *імаць (хадзіцьму, стаяцьмем, вéдацьме, карміцьмем, дратавáцьмуць): Салёны пот здаўна, Алé Спазнáцьмеш на сваім чале* (Р. Барадулін). У такіх дзеяслоўных спалучэннях як *буду чакаць, будзе гаварыць, пачаў шукаць, люблю пець* таксама вельмі рэдка абодва дзеясловы выдзяляюцца з аднолькавай сілай, калі значэнне першага дзеяслова спецыяльна не падкрэсліваецца.

Прыметнікі і назоўнікі[30] таксама могуць губляць самастойны націск, або ў іх ён робіцца слабым. Такое паслабленне назіраецца пры паўторы аднаго і таго ж знамянальнага слова: *цішыня-цішыня, ён сіні-сіні, вялікі-вялікі* і інш. Акрамя таго, ва ўстойлівых словазлучэннях з рознай ступенню ідыяматычнасці некаторыя з іх кампанентаў захоўваюць толькі слабы націск або наогул губляюць яго: *Бèлыя рýкі чужую працу любяць. Валочыцца па дзейках, як ліхàя‿дóля. Вóка‿мець. Гарбатага адна‿магіла справіць. Дзесятая‿вадá на кісялі. З бèлага‿свéту. Прышый — прысцябáй.* Вельмі часта пабочныя словы таксама сустракаюцца са слабым націскам або наогул без яго, што прыводзіць часам да дэфармацыі іх рытмічнай структуры: *Ці‿не‿éдзе ён у сваты? Мо', сумýе там дзяўчына?* (Цётка). *Яшчэ ж мы ўчора, здэцца (Не прызнавалі нас?), Насілі — разам з краем — Празванне «малады»* (К. Цвірка). ...*Стары, бывàе, не вытрымае, возьме яго на рукі, як хлапчанё, і зараз жа ўціхамірыць...* (Я. Колас). *Ну, слòвам, чэшуць языкі...* (Э. Валасевіч). У гэтых і шматлікіх іншых прыкладах розная ступень націску ў знамянальных словах залежыць ад шматлікіх прычын, пераважна інфармацыйнага характару.

Адносна дынамічна няўстойлівых слоў у літаратурнай мове можна зрабіць пэўныя вывады.

1. Дынамічная няўстойлівасць слоў звязана з іх інфармацыйнай значнасцю і з рытмікай маўлення.

2. Да ліку інфармацыйных прычын, якія выклікаюць дынамічную няўстойлівасць слоў, можна аднесці самастойнасць (знамянальнасць) значэння; кантэкстуальную і сітуацыйную значнасць; асаблівасці суадносін з рэчаіснасцю; частотнасць; навізну ў кантэксце; экспрэсіўныя і стылявыя характарыстыкі.

3. Да рытмічных фактараў, якія выклікаюць дынамічную няўстойлівасць слоў, можна аднесці ўласцівасці іх акцэнтна-рытмічнай структуры (колькасць складоў, месца націску); месцазнаходжанне слова адносна іншых моцна націскных, а таксама адносна пачатку і канца сінтагмы і фразы; узаемапа-

[29] Граматыка беларускай мовы. Ч. 1. С. 371—372.

[30] Выгонная Л. Т. Фонетические средства выделения номинативных единиц в речи // Словообразование и номинативная деривация в славянских языках: Тез. докл. респ. конф. Гродно, 1982. Ч. II.

лажэнне слоў, звязаных па сэнсу і пазіцыйна.

4. Назіраецца тэндэнцыя да пераважнага ўжывання дынамічна няўстойлівых слоў як праклітык. Але энклітыкі таксама маюць месца, асабліва сярод тых катэгорый слоў, пазіцыя якіх у словазлучэннях не з'яўляецца абавязкова фіксаванай.

5. У вершы акцэнтуацыя службовых слоў абумоўлена яго рытмічнай структурай. У стылявых мэтах для павышэння інфармацыйнага і акцэнтнага выдзялення дынамічна няўстойлівых слоў у паэзіі выкарыстоўваецца іх постпазіцыйнае ўжыванне; вынясенне іх у асобны радок; дыстантнае размяшчэнне кампанентаў словазлучэнняў; пастаноўка іх у пачатак або канец фразы.

## § 5.12. РЭАЛІЗАЦЫЯ СЛОЎНАГА НАЦІСКУ Ў ФРАЗЕ

Звычайна слоўны націск і фразавую інтанацыю лічаць суперсегментнымі сродкамі рознага парадку. Асабліва пашыраны такі падыход пры вывучэнні моў з разгалінаванай і складанай сістэмай слоўнага націску і фразавай інтанацыі, да ліку якіх адносіцца і беларуская мова. Пры разглядзе націску звычайна адзначаецца, што ён бывае слоўны (выдзяляецца адзін склад у слове) і фразавы, або лагічны (выдзяляюцца асобныя словы, часткі сказаў і сказы).

Слоўны націск не толькі цесна звязаны, але ў большасці выпадкаў і абумоўлены фразавай інтанацыяй. У першую чаргу гэта тлумачыцца тым, што адны і тыя ж акустычныя характарыстыкі выкарыстоўваюцца як пры фарміраванні слоўнага націску, так і пры стварэнні прасодыі фразы. Ад тыпу інтанацыі ў беларускай мове, як і рускай [31], не залежыць адна прыкмета слоўнага націску — яго месцазнаходжанне. Таму можна знайсці такія фразы, якія будуць адрозніваццa толькі акцэнтна-рытмічнай структурай аднаго слова ці некалькіх слоў і мець аднолькавы інтанацыйны тып. Напр.:

*Ка́пу трэба добра скласці* /./ /?/ /!/ /,/ *Касу́ перафарбавалі*

*Капу́ трэба добра скласці* /./ /?/ /!/ /,/ *Ка́су перафарбавалі* (У прыкладах пунктуацыйныя знакі абазначаюць пэўны тып інтанацыі — апавядальную, пытальную, клічную, незавершаную.)

Якой прасадычнай рысай і ў якой ступені выдзелены слоўны націск у пэўным слове ў пэўнай фразе, залежыць ад фразавай прасодыі. Так, у пытальнай фразе *яка́я даўніна́*? рухам тону вызначаецца націск першага слова, і другі, націскны склад першага слова будзе вышэйшым за ненаціскныя (—⁻—). Націскны склад другога слова гэтай фразы, які знаходзіцца ў абсалютным канцы слова, у сувязі з агульным рухам асноўнага тону ў пытальнай фразе таксама вышэйшы за астатнія (— —⁻). Пры гэтым абодва націскныя склады па працягласці могуць нязначна адрознівацца паміж сабой. Калі ж гэта фраза вымаўляецца як апавядальна-клічная (*яка̀я даўніна́*!), у першым слове націск фарміруецца не столькі за кошт руху тону, колькі шляхам павелічэння працягласці галоснага, а ў другім слове частата асноўнага тону не ўдзельнічае ў вызначэнні націску. Па-рознаму фарміруецца слоўны націск аднаго і таго ж слова, калі яно займае розныя пазіцыі ў фразе. *Якая даўніна! I дробязь якая!* У першым выпадку націск слова *якая* выдзяляецца і працягласцю галоснага, і размахам ваганняў, і частатой асноўнага тону, і сумарнай энергіяй — усімі магчы-

[31] Светозарова Н. Д. Интонационная система русского языка. Л., 1982. С. 58.

мымі прасадычнымі паказчыкамі. У другім жа выпадку націск гэтага слова вызначаецца толькі двума паказчыкамі — размахам ваганняў і сумарнай энергіяй[32]. І калі зыходзіць з таго, што асноўная прыкмета слоўнага націску — працягласць, то слова *якая* тут яго практычна не мае або мае ў значна меншай ступені, чым у першай фразе.

З інтанацыяй звязана і такая важная прыкмета націску, як ступень выдзеленасці націскнога склада. Уяўленне аб тым, што націскны склад бывае моцна выдзеленым, слаба і нават зусім не выдзеленым, сфарміравалася пры відавочным уплыве прасодыі фразы. Акцэнтна-рытмічная структура слова ў кожнай фразе абумоўлена яе семантыка-камунікатыўным і інтанацыйным тыпам. Таму ў слове, на якое прыпадае асноўная семантычная нагрузка, націск моцна выдзелены, а ў гэтым жа слове, калі яно не з'яўляецца семантычна цэнтральным, ён губляе сваю выразнасць. Параўнаем дзве наступныя фразы: *Да яе прыйшлі дзве‿сябро́ўкі* (г. зн. дзяўчынкі сябруюць і таму прыйшлі разам); *Да яе прыйшлі дзве́ сяброўкі* (г. зн. толькі дзве яе сяброўкі прыйшлі, а астатнія не). Моцны націск у лічэбніку *дзве* ў другой фразе і яго адсутнасць у гэтым жа слове ў першай фразе абумоўлены семантыкай і яе адлюстраваннем у інтанацыі ўсёй фразы.

[32] Галосныя беларускай мовы. С. 18.

## § 5.13. ФРАЗАВЫ, ЛАГІЧНЫ НАЦІСК

Для размежавання паняцця «націск» як прыкметы асобнага слова і паняцця «націск» як прыкметы фразы выкарыстоўваюцца тэрміны «слоўны» і «фразавы», «сінтагматычны», або «лагічны», націск[33]. Прынятыя ў кожнай мове акцэнтна-рытмічныя мадэлі слоў выступаюць у пэўнай фанетычнай рэалізацыі. Звычайна націск слова і фразы змешчаны на адным і тым жа складзе[34] і перадаецца аднымі і тымі ж прасадычнымі сродкамі. Гэта ўскладняе размежаванне з'яў рознага парадку.

Традыцыйна пад фразавым націскам разумеецца адзін з найбольш моцных націскаў у сінтагме. Ён дапамагае лагічна выдзеліць слова, на якое ён падае, засяродзіць на ім увагу слухача. Ад гэтага залежыць сэнс пачутага. Любая фраза набывае розныя сэнсавыя адценні ў залежнасці ад таго, якое слова выдзелена фразавым, або лагічным, націскам: *Ён̋ вярнуўся пад вечар* (ён, а не хто-небудзь іншы); *Ён вярнӳўся пад вечар* (ніхто не чакаў, а ён усё ж вярнуўся); *Ён вярнуўся пад ве̋чар* (а не раніцай). Слоўныя націскі астатніх слоў як бы знаходзяцца ў цені фразавага, што робіць фразу пэўным маўленчым адзінствам.

У фразе існуе пэўная іерархія націскаў, адрозніваюцца ядзерны націск фразы, поўныя і частковыя націскі; часам тут адзначаецца дэакцэнтуацыя слоў. Але, нягледзячы на гэта, слоўны націск характарызуецца пэўнай устойлівасцю і незалежнасцю ад тых фанетычных сродкаў, што маскіруюць слова ў моўнай плыні, напрыклад, такіх, як бесперапыннасць, агульны рытм фразы, знешняе сандхі і г. д.

Калі лічыць націск галоўнай прыкметай фанетычных слоў, сродкам, з дапамогай якога супадпарад-

[33] Болінджэр Д. прапануе адрозніваць два тэрміны: «націск» (stress) — слоўны націск і «акцэнт» (accent) — фразавы націск. Р. Вандэрслайс і П. Ладэфогед адрозніваюць «унутраныя кананічныя акцэнтныя мадэлі слоў і іх паверхнева-фанетычныя рэалізацыі». Гл.: Светозарова Н. Д. Интонационная система русского языка. С. 60.

[34] Зиндер Л. Р. Общая фонетика. М., 1979. С. 275.

коўваюцца націскныя і ненаціскныя склады, то трэба вызначыць у моўнай плыні фанетычныя адзінкі, буйнейшыя за лексічнае слова. Паняцце фанетычнага слова ахоплівае паняцце акцэнтна-рытмічнай структуры ў яе ўзаемасувязі са структурай злучэння фанем, пры гэтым гукавая структура «павінна быць арганізаванай, як «маналітнае» слова, г. зн. з адным націскам і размяшчэннем усіх галосных і зычных у неабходных пазіцыйных мадыфікацыях,— у тых градацыях тэмбру, даўжыні і сілы, якія ўжо адстаяліся» [35].

---

[35] Высотский С. С. О звуковой структуре слова в русских говорах // Исследования по русской диалектологии. М., 1973. С. 23.

*Раздзел* 6

# ІНТАНАЦЫЯ

## § 6.1. ПАНЯЦЦЕ ІНТАНАЦЫІ

Адным са складаных і яшчэ дакладна не акрэсленых паняццяў у фанетыцы з'яўляецца паняцце інтанацыі. Звычайна яго вызначэнне праводзіцца шляхам размежавання з паняццем прасодыкі, якое з'яўляецца больш шырокім па свайму зместу. П р а с о д ы к а — гэта сукупнасць рытміка-меладычных якасцей маўлення, якімі характарызуюцца асобныя адзінкі выказвання. У якасці прасадычных прыкмет ужываюцца пераважна тыя гукавыя характарыстыкі, якія наогул не выкарыстоўваюцца або вельмі абмежавана выкарыстоўваюцца для проціпастаўлення фанем.

Складанасць вывучэння прасадычных характарыстык маўлення тлумачыцца тым, што адны і тыя ж аб'ектыўныя ўласцівасці і ўспрынятыя прыкметы моўных сігналаў служаць адначасова як для сегментнай, так і для суперсегментнай арганізацыі моўнай плыні, а ў межах суперсегментнай арганізацыі — для фарміравання розных сістэм. Так, працягласць галоснага ў беларускай мове не з'яўляецца характарыстыкай, па якой проціпастаўляюцца фанемы. Доўгі [а] і кароткі [а] не існуюць як адзінкі, з дапамогай якіх можна адрозніваць словы па значэнню, як, напрыклад, у літоўскай або чэшскай мове. Але розная працягласць галоснага ў беларускай мове сведчыць аб тым, што ён з'яўляецца націскным або ненаціскным: націскныя галосныя даўжэйшыя за ненаціскныя. Акрамя таго, у залежнасці ад месцазнаходжання ў фразе галосныя таксама маюць розную працягласць. Такім чынам, працягласць галоснага — параметр, якім характарызуюцца дзве прасадычныя сістэмы, што дзейнічаюць у беларускай мове: сістэма націску і сістэма фразавай арганізацыі.

Адначасова адны і тыя ж рытміка-інтанацыйныя параметры могуць выкарыстоўвацца для перадачы інфармацыі рознага характару. Прасадычныя характарыстыкі выкарыстоўваюцца для інтанацыйна-сэнсавага члянення маўлення, перадачы камунікатыўнага тыпу выказвання, выражэння эмацыянальных значэнняў, а таксама для перадачы індывідуальных рыс голасу і маўлення гаворачай асобы. І хоць індывідуалізуючая і экспрэсіўная роля ў прасодыцы больш значная, чым у іншых моўных сродках, гэта не дае падставы лічыць яе пазамоўнай з'явай. Прыгадаем, што індывідуальнасць і экспрэсіўнасць маўлення знаходзіць сваё матэрыяльнае ўвасабленне і ў іншых моўных сродках, у такіх, як лексічныя, словаўтваральныя, сінтаксічныя.

Паняцце інтанацыі больш вузкае, чым паняцце прасодыкі. І н т а н а ц ы я — гэта сукупнасць фанетычных сродкаў, якія служаць для афармлення фразы як адзінага цэлага, а таксама для фарміравання яе асобных частак. Такімі фанетычнымі сродкамі з'яўляюцца: 1) пэў-

ная рытміка-часавая арганізацыя, якая вызначаецца на падставе аналізу суадносін працягласцей галосных гукаў; 2) мелодыка, якая звычайна прасочваецца па руху асноўнага тону голасу; 3) сіла гучання асобных слоў у маўленні (інтэнсіўнасць); 4) тэмп маўлення; 5) перарывы ў маўленні і пэўнае размяшчэнне паўз; 6) тэмбр маўлення. Гэтыя элементы інтанацыі рэальна існуюць толькі ў адзінстве, хоць ў навуковых мэтах іх можна разглядаць і паасобку.

Інтанацыя з'яўляецца абавязковай прыкметай вуснага маўлення, якое наогул без інтанацыі немагчыма. Багацце і змястоўнасць маўлення, яго выразнасць выяўленчыя магчымасці забяспечваюцца не толькі слоўнікавым багаццем і майстэрствам слоўнага выражэння, але таксама інтанацыйнай выразнасцю і разнастайнасцю. Варта падкрэсліць, што інтанацыя мае вельмі важнае значэнне для правільнага разумення выказвання, для ўспрымання разнастайных сэнсавых адносін.

## § 6.2. ПАНЯЦЦЕ СІНТАГМЫ

Даследаванне працэсу сегментацыі моўнай плыні на складаючыя яе часткі і высвятленне функцыянальных магчымасцей гэтай сегментацыі застаюцца надзённымі пытаннямі сучаснай фанетыкі. Эфектыўнасць вывучэння рытміка-інтанацыйнай арганізацыі моўнай плыні залежыць ад выбару адзінак, з дапамогай якіх яно праводзіцца. У гэтым сэнсе і зараз вельмі карысным з'яўляецца прапанаванае Л. У. Шчэрбай паняцце сінтагмы. С і н т а г м а — гэта «фанетычнае адзінства, якое выражае адзінае сэнсавае цэлае... у працэсе маўлення — думкі...» [1] Вызначэнне сінтагмы падкрэслівае тры істотныя планы гэтай адзінкі — інтанацыйны, сэнсавы, сінтаксічны. Як семантыка-сінтаксічная адзінка сінтагма — гэта пэўнае сэнсавае адзінства і прасцейшая сінтаксічная суцэльнасць. Як інтанацыйна-сэнсавае адзінства, якое ўзнікае ў працэсе маўлення, сінтагма з'яўляецца часткай фразы або асобнай фразай. На думку Л. У. Шчэрбы, фанетычнае адзінства сінтагмы абумоўлена перадачай сэнсавых адносін, а з фізічнага боку яно дасягаецца ўзмацненнем слоўнага націску звычайна ў апошнім слове сінтагмы: *дзень‿пры‿днí, чакаеш‿вéтрыку, давялося завітаць у некалькі гарадóў.* Акрамя ўзмоцненага націску, які аб'ядноўвае часткі сінтагмы, фанетычнай прыкметай гэтай адзінкі з'яўляецца і адсутнасць унутры яе паўз. Выказванне, калі яно раздзелена на сінтагмы, больш выразнае па гучанню і сінтаксічнай структуры, больш багатае па зместу і галоўнае — больш зручнае для ўспрымання. У якасці прыкладу разгледзім некалькі сказаў, у якіх вертыкальнай рыскай будзем адзначаць граніцы сінтагм. *Чыясьці згорбленая маці /збірае шчаўе/ на лугах* (П. Глебка). Што датычыцца сінтаксічнай суцэльнасці кожнай з вылучаных сінтагм, то яна ў даным выпадку зразумелая: у першую сінтагму ўваходзіць група дзейніка, у другую — выказніка, у трэцюю — група акалічнасці. Кожная з трох сінтагм з'яўляецца самастойным сэнсавым элементам, які ўносіць істотны ўклад у агульны змест фразы. Няцяжка пераканацца ў тым, што чляненне маўлення на сінтагмы дапамагае ўспрыманню сэнсу фразы. Калі сінтагменныя граніцы не адпавядаюць патрабаванням перадачы сэнсу і калі іх колькасць перавышае неабходную для разумення фразы, тады і сама фраза, як і ў выпадку граматыка-сінтаксічнай неадпаведнасці яе частак, перастае

[1] Щерба Л. В. Фонетика французского языка. М., 1963. С. 86.

быць фразай і ператвараецца ў бессэнсоўны набор слоў. Параўнаем гучанне наступнай фразы з адпаведным і неадпаведным яе сэнсу сінтагменным чляненнем: *Давай людзі па-новаму жыць |ды Багатыра слухаць (народная казка)* і *Давай людзі па-новаму | жыць ды | Багатыра | слухаць* або *Давай | людзі па-новаму | жыць ды Багатыра | слухаць.*

Кідаецца ў вочы, што асобныя моманты члянення фразы не выклікаюць пярэчанняў: *Давай людзі | па-новаму жыць | ды Багатыра слухаць* і *Давай людзі | па-новаму | жыць | ды Багатыра слухаць.* Варыятыўнасць сінтагменнага члянення тлумачыцца тым, што яно ўзнікае ў маўленні як сітуацыйна абумоўленая з'ява, і таму граніцы сінтагмы ў межах аднаго выказвання па-рознаму праходзяць у кожным канкрэтным выпадку. Рухомасць сінтагменных граніц, такім чынам, адлюстроўвае featurelessрознае асэнсоўванне гаворачым зместу выказвання, а разбіўка на сінтагмы замацоўвае гэтае асэнсоўванне.

Тое, што межы сінтагмы вызначаюцца ў кожным канкрэтным выпадку выказвання,— істотная рыса сінтагменнага члянення. Аднолькава абгрунтавана адно і тое ж выказванне можна падзяліць на розную колькасць сінтагм або на розныя сінтагмы.

Чляненне выказвання на сінтагмы адбываецца рознымі шляхамі: з дапамогай міжсінтагменных паўз (якія ў злітным маўленні сустракаюцца зрэдку) або больш часта і рэгулярна з дапамогай спецыфічнага інтанацыйнага афармлення сінтагм.

Дзяленне выказвання на большую ці меншую колькасць сінтагм можа быць абумоўлена жанравай спецыфікай вуснага маўлення. Прыгадаем, што «адметнай рысай такога віду моўнай дзейнасці, як чытанне «Апошніх паведамленняў», з'яўляецца наяўнасць значна большай колькасці паўз (асабліва танальных), чым пры чытанні простым носьбітам мовы або пры натуральным маўленні. Фраза дыктарскага тэксту дзеліцца на вялікую колькасць сінтагм» [2]... Напр., *З цеплынёй | і з вялікай радасцю | нас | сёння | вітаў | наш сябра | з Літоўскай ССР* — у дыктарскім вымаўленні; *З цеплынёй і з вялікай радасцю | нас сёння вітаў | наш сябра з Літоўскай ССР* — у гутарковым маўленні.

Спецыфічнае інтанацыйнае афармленне сінтагм стварае эфект іх адасобленасці, пры гэтым слухачы «чуюць» паўзы там, дзе іх практычна няма (узнікаюць так званыя «псіхалагічныя» паўзы).

Сінтагмы як інтанацыйна-сэнсавыя адзінкі, хоць і застаюцца мінімальнымі з боку выражэння пэўнага сэнсу і з боку іх фанетычнай арганізацыі, могуць ахопліваць сінтаксічныя адзінкі рознай велічыні: асобнае слова, словазлучэнне, сказ.

Так, сказ *Тым вельмі сонечным, сухім і гарачым ліпенем давялося завітаць у некалькі раёнаў Беларусі* (Ф. Янкоўскі) можа быць аднасінтагменным і можа чляніцца на некалькі сінтагм: *Тым вельмі сонечным | сухім і гарачым ліпенем | давялося завітаць | у некалькі раёнаў Беларусі.* У асобныя сінтагмы ў гэтым сказе таксама можа быць вылучана і асобнае слова (*сухім | і гарачым ліпенем*). Як бачым, сінтагменнае чляненне сваёй сітуацыйнай абумоўленасцю прынцыпова адрозніваецца ад сінтаксічнага, якое для пэўнага адрэзка выказвання аднáзначнае (калі пакінуць па-за ўвагай сінтаксічна шматзначныя сказы). Але неабходна падкрэсліць, што розныя варыянты сінтагменнага члянення выказванняў таксама абумоўлены моўнай структурай.

Чляненне на сінтагмы ажыццяўляецца не адвольна, а ў залежнасці ад кантэксту, семантыкі канкрэтнага выказвання—ад сэнсу, які ўклад-

---

[2] Фанетыка слова ў беларускай мове. С. 190.

ваецца ў выказванне гаворачым, а таксама ў залежнасці ад прынятых у кожнай мове пэўных норм перадачы элементаў сэнсу фанетычнымі сродкамі.

Такім чынам, сінтагма — гэта інтанацыйная адзінка члянення і арганізацыі моўнай плыні.

Даследчыкі рускай інтанацыі прапануюць адрозніваць два тыпы сінтагм, якія сустракаюцца ў маўленні: мінімальныя і асноўныя. *Мінімальнымі* сінтагмамі лічацца тыя, якія не дапускаюць далейшага ўнутранага члянення (напрыклад, дзеепрыслоўныя звароты, аднародныя члены сказа, зваротак). *Асноўныя* сінтагмы перадаюць у маўленні члянение, «без якога думку было б цяжка выразіць і зразумець»[3]. Асноўнымі сінтагмамі могуць быць састаўныя часткі складаназлучанага і складаназалежнага сказаў. Калі гаворыцца аб магчымасцях рознага члянення сказа, то маецца на ўвазе тое, што асноўныя сінтагмы можна яшчэ падзяліць на мінімальныя сінтагмы або што асноўныя сінтагмы могуць уключаць у свой склад розны набор ці розную колькасць мінімальных сінтагм. Прапанаваны А. А. Брызгуновай дыферэнцыраваны разгляд двух тыпаў сінтагм[4] уяўляецца карысным і пры звароце да матэрыялу беларускай мовы, бо ён дазваляе лепш зразумець прыроду сінтагменнага члянення.

[3] Брызгунова Е. А. Практическая фонетика и интонация русского языка. М., 1963. С. 169.

[4] Брызгунова Е. А. Практическая фонетика и интонация русского языка. М., 1963. С. 168—170.

## § 6.3. ФУНКЦЫІ СІНТАГМЕННАГА ЧЛЯНЕННЯ

Сінтагменнае члянение разам з інтанацыйнымі сродкамі служыць для канчатковага фарміравання сэнсу выказвання, адлюстроўвае належным чынам думку гаворачага. «Калі ўзяць адзін нейкі сказ, вырваны з кантэксту, то ў адносінах да яго можна толькі эксперыментальна ставіць пытанне: як ён можа быць падзелены на сінтагмы ў залежнасці ад сваёй семантыкі, ад свайго сацыяльнага прызначэння і свайго асэнсавання; якія значэнні і адценні значэнняў у гэтым сказе звязваюцца з тым або іншым магчымым яго сінтагменным расчляненнем»[5]. Але эксперыментальна, зыходзячы з існуючых у кожнай мове заканамернасцей сінтагменнага падзелу з пераадоленнем шматзначнасці асобных фраз, можна выявіць функцыянальныя магчымасці сінтагменнага члянення.

[5] Виноградов В. В. Понятие синтагмы в синтаксисе русского языка // Вопросы синтаксиса современного русского языка. М., 1950. С. 248.

У беларускай мове сінтагменнае члянение мае распазнавальную, стваральную і стылістычную функцыі. *Распазнавальную* функцыю сінтагм звычайна параўноўваюць з функцыяй фанем і таму часам і называюць яе фаналагічнай. *Распазнавальная* функцыя сінтагменнага члянення выяўляецца ў тым, што з яго дапамогай выкрываецца розны сэнс і розная сінтаксічная структура амаграфічных (або амафанічных) фраз.

Параўнаем наступныя фразы, тоесныя па лексіка-граматычнаму складу: *Ціха паклікаў / знаёмы басок іх новага начальніка штаба* і *Ціха паклікаў знаёмы басок / іх новага начальніка штаба. Камандзір першага ўзвода / яго не шанаваў* і *Камандзір / першага ўзвода яго не шанаваў. Калі вярнуўся камсамольцам, / Лукаш гаварыў больш рашуча* і *Калі вярнуўся, / камсамольцам Лукаш гаварыў больш рашуча. Надоўга запомніўся / перавыбарны сход калектыву цэха* і *Надоўга за-*

*помніўся перавыбарны сход / калектыву цэха.*

Ва ўсіх гэтых парах фраз з дапамогай markdownрознага сінтагменнага члянення па-рознаму вызначаецца іх сэнс. У першай фразе, калі граніца першай сінтагмы праходзіць пасля слова *паклікаў,* дзеючая асоба — начальнік штаба, басок якога некага паклікаў; калі сінтагменная граніца пастаўлена пасля слова *басок,* нехта баском паклікаў начальніка штаба. У першай з наступнай пары фраз дзеючая асоба — камандзір першага ўзвода, які некага не шанаваў, а ў другой фразе — камандзір, які не шануе нечага першага ўзвода. У трэцяй пары фраз, па-першае, Лукаш, які стаў камсамольцам, гаворыць рашуча, а па-другое, Лукаш рашуча гаворыць камсамольцам. У чацвёртай пары фраз пры першым чляненні некаму запомніўся сход калектыву, а пры другім — калектыву запомніўся сход. Сэнсавая варыятыўнасць грунтуецца на розным разуменні лагічнага дзейніка і абумоўлена выкарыстаннем аманімічных форм, якія маюць球рознае граматычнае значэнне: *начальніка, узвода* — родны і вінавальны склоны адзіночнага ліку назоўнікаў *начальнік* і *ўзвод; калектыву* — родны і давальны склоны назоўніка *калектыў; яго* — родны склон асабовага займенніка *ён* і прыналежны займеннік; *камсамольцам* — творны склон адзіночнага ліку назоўніка *камсамолец* і давальны склон множнага ліку гэтага ж назоўніка. Пры розным сінтагменным чляненні ў якасці прамога дадатку выступаюць розныя словы: *не шанаваў яго, не шанаваў першага ўзвода.* З дапамогай рознага расчлянення ў кожнай канкрэтнай рэалізацыі ўдакладняецца сінтаксічная роля часткі слоў у сінтагмах.

Звяртае на сябе ўвагу тое, што ўсе двухсэнсоўныя фразы з'яўляюцца такімі толькі па-за кантэкстам. На іх ужыванне ў больш шырокім кантэксце ўказваюць, напрыклад, займеннікі, якія звычайна сустракаюцца ў такіх фразах і адыгрываюць прыкметную ролю ў стварэнні эфекту шматзначнасці. Часам сінтагменнае чляненне можа выяўляць існуючую супярэчлівасць фармальна-граматычнага і сэнсавага зместу фразы, шматбаковасць унутраных сувязей і сэнсавых суадносін паміж словазлучэннямі, якія ўваходзяць у склад фразы. Пры гэтым розны падзел на сінтагмы паказвае розныя семантычныя сувязі і паміж галоўнымі членамі сказа, калі яны выражаюцца словазлучэннямі, і паміж галоўнымі і даданымі членамі сказа. Так, сэнсавая дваістасць наступных фраз прыкметна, калі яны падзелены на розныя сінтагмы: *Урач дазволіў ціха / размаўляць хвораму* і *Урач дазволіў / ціха размаўляць хвораму. У космас / не бяруць дужа рослых* (М. Калачынскі) і *У космас не бяруць дужа / рослых. Туравец / усім сваім выглядам паказваў, / што задача гэта / не абы-якая* (І. Мележ) і *Туравец / усім / сваім выглядам паказваў, / што задача гэта /не абы-якая. Насякомыя ўвогуле / не з'яўляюцца прадметам даследавання гэтай лабараторыі* і *Насякомыя / ўвогуле не з'яўляюцца прадметам даследавання гэтай лабараторыі.* У першых трох парах фраз істотнае значэнне маюць сувязі слоў *ціха, дужа* і *ўсім* з астатнімі словамі: *дазволіў ціха* або *размаўляць ціха, дужа рослых* або *не бяруць дужа, усім выглядам* і *ўсім паказваў.* У чацвёртай пары — двухсэнсоўнасць задаецца сувязямі слова *ўвогуле: насякомыя ўвогуле* (г. зн. насякомыя як від) або *ўвогуле не з'яўляюцца* (г. зн. наогул не вывучаюцца). Адзначым, што пабудова некаторых з амаграфічных фраз успрымаецца ў пэўнай меры як штучная, бо звычайны парадак слоў для гэтых фраз іншы. Ён разам з інтанацыяй прадухіляе двухсэнсоўнасць выказвання: *Урач ціха дазволіў / хвораму размаўляць* і *Урач дазволіў хвораму / ціха размаўляць. Насякомыя*

*ўвогуле / прадметам даследавання гэтай лабараторыі не з'яўляюцца* і *Насякомыя / не з'яўляюцца ўвогуле прадметам даследавання гэтай лабараторыі.*

Розныя сінтаксічныя сувязі паміж словамі выяўляе сінтагменнае чляненне і ў тых фразах, якія амаграфічныя і пры звычайным парадку слоў. Напр., *Пасля нарады ў Мінску / пачалося будаўніцтва спартыўнага комплексу* і *Пасля нарады / ў Мінску пачалося будаўніцтва спартыўнага комплексу.* Пры першым чляненні прыназоўнікавая канструкцыя *ў Мінску* ўказвае на месца, дзе праходзіла нарада, а пры другім—на месца будаўніцтва. Двухсэнсоўнасць часам пераадольваецца шляхам пастаноўкі знакаў прыпынку: у сказе *А там, / дзе сон, / на цёмным небасхіле, бялее ў шэрані аснежаны Эльбрус* (П. Трус), дастаткова апусціць адну з косак, каб ён атрымаў іншае чляненне і набыў іншы сэнс: *А там, / дзе сон на цёмным небасхіле, / бялее ў шэрані аснежаны Эльбрус.* Пры такім сінтагменным чляненні на цёмным небасхіле сон.

Наогул у кантэксце нярэдка пашыраюцца словазлучальныя сувязі, узнікаюць двaістыя сувязі, якія адсутнічаюць у простых словазлучэннях, што спрыяе іх своеасабліваму сінтагменнаму чляненню. Напр., *Жыта шнур каля хаты / выспеў* (Р. Барадулін) і *Жыта шнур / каля хаты выспеў.*

Уласна распазнавальную функцыю сінтагменнае чляненне мае тады, калі з яго дапамогай дыферэнцыруюцца істотна розныя значэнні. У тых жа выпадках, калі, як у Барадулінскім радку, розны падзел перадае розныя варыянты аднаго і таго ж сэнсу, сінтагменнае чляненне мае стваральную або стылістычную функцыю[6]. Як заўважае А. Я. Міхневіч, у мастацкім тэксце сінтаксічная аманімія «не толькі не перашкаджае ўспрыманню сэнсу, але нярэдка ўзмацняе мастацкія асацыяцыі»[7]. Падкрэслім, што ў маўленні сінтаксічна аманімічныя фразы гучаць неаднолькава дзякуючы ў першую чаргу сінтагменнаму чляненню. Напрыклад, наступная фраза можа набыць цэлы рад варыянтаў члянення: 1. *Воўк з гушчару / дарогай няезджанай / бяжыць к вёсцы няпрошаным госцем* (М. Чарот). 2. *Воўк / з гушчару / дарогай няезджанай / бяжыць к вёсцы / няпрошаным госцем.* 3. *Воўк з гушчару / дарогай / няезджанай / бяжыць к вёсцы / няпрошаным госцем* і г. д. Усе гэтыя варыянты ў рознай ступені адлюстроўваюць багатыя магчымасці сінтаксічна апраўданага члянення фразы, удакладняюць яе змест.

Узнікаючыя пры больш дробным чляненні адной і той жа фразы новыя сінтагмы ўтвараюць новыя сінтаксічныя канструкцыі, робяць пэўны дадзены член сказа ўдакладняючым, адасобленым. У гэтым і праяўляецца своеасаблівая стваральная функцыя сінтагменнага члянення. З дапамогай дадатковых сінтагм удакладняецца сэнс фразы, ён набывае тыя адценні, якіх не меў без гэтага ўдакладнення. Параўн.: *Нікому нікуды не адлучацца / і ні з кім ні ў якія размовы не ўступаць* (Э. Самуйлёнак) і *Нікому / нікуды / не адлучацца / і ні з кім / ні ў якія размовы / не ўступаць.* Апошні варыянт сінтагменнага члянення надае ўсёй фразе больш катэгарычнае гучанне і ўраўнаважвае ўсе забароны — *нікому / нікуды / ні з кім / ні ў якія размовы.*

Адасабленне пэўнага дадзенага члена сказа, якое робіцца з дапамогай выдзялення яго ў асобную сінтагму, прыводзіць да сэнсавага выдзялення, падкрэслівае, што гаворачы надае яму асабліва важнае

---

[6] Буланин Л. А. Фонетика современного русского языка. М., 1970. С. 173.

[7] Кривицкий А. А., Михневич А. Е., Подлужный А. И. Белорусский язык для небелорусов. Мн., 1973. С. 244.

значэнне. Пры гэтым, як і ў двухсэнсоўных фразах, вельмі важнае значэнне мае парадак слоў, бо пры яго парушэнні адасабленне робіцца амаль што абавязковым. Прыгадаем такія выпадкі, калі адасобленае азначэнне аддзелена ад слова, якое азначае, або ідзе не перад ім, як звычайна, а пасля яго. Напр., *Спакойны / сыпкі / з самай раніцы спадаў на сцежкі ціхі снег* (Р. Барадулін). *Твой сын і смяг, / і пох, / і ты гібела / хворая* (Р. Барадулін).

У першай фразе дапасаваныя азначэнні аддзелены ад дзейніка, да якога яны адносяцца, іншымі даданымі членамі сказа і выказнікам, і таму набываюць адасобленае гучанне. Пры гэтым і ўся фраза перадае пэўныя нюансы значэння: галоўная ўвага слухача звяртаецца на ўспрыманне вобразнай карціны. У другой фразе адасабляецца азначэнне, якое знаходзіцца ў інверсіі і адносіцца да дзейніка, выражанага асабовым займеннікам. Наогул «у выніку адасаблення група слоў набывае дзяляецца характэрнай інтанацыяй напаўсамастойнага паведамлення, выдзяляецца паўзамі і па сінтаксічным статусе набліжаецца да даданага сказа» [8].

Дадатковымі сэнсавымі элементамі, якія ўзнікаюць пры адасабленні, могуць быць спасылкі на часавую суаднесенасць акалічнасці або азначэння (*у клопаце бягучых дзён / ён забываў пра ўласнае гора*), адценне акалічнаснага, удакладняючага значэння ў дапасаваных і недапасаваных азначэннях (*Больш за дваццаць сосен / тоўстых, / высачэзных / пайшло на збудаванне зямлянкі*) [9]. Часта фразы з адасобленым азначэннем маюць дадатковае прычыннае значэнне.

Больш дэталёвае чляненне на сінтагмы ўзнікае і тады, калі ў сказе з адным словам звязана шмат іншых, залежных ад яго. *Ён выкрыў, / што ў тых мільёнах гукаў, / якія чуе на кожным кроку, / усюды / ў любы час / няма сходных між сабою* (З. Бядуля). У гэтай фразе дадатковыя сінтагмы ўзнікаюць у даданым сказе дзякуючы таму, што да выказніка *чуе* адносіцца цэлы рад акалічнасцей: *на кожным кроку, усюды, у любы час.*

Часта выдзяленне ў асобную сінтагму атрымліваюць аднародныя члены сказа. Гэта выдзяленне выяўляе сінтаксічныя сувязі ўнутры сказа, указвае на раўназначнасць кожнага з аднародных членаў. Напр., *Шырай, / шырай зараніца разнімае крылле* (Я. Колас). *Колькі пастак ты мне прыхавала, / добрае / не дробнае жыццё?* (П. Панчанка).

Стваральная функцыя сінтагменнага члянення праяўляецца асабліва наглядна тады, калі правілы пунктуацыі не прадпісваюць знака прыпынку, а для правільнага разумення фразы яе чляненне з дапамогай паўз неабходнае, бо наогул інтанацыйнае дзяленне больш адпавядае сэнсу выказвання, чым пунктуацыйнае. Так, сінтагменнае чляненне не толькі дапамагае, але і з'яўляецца неабходным кампанентам пры перадачы прэдыкатыўнасці ў бяздзеяслоўных сказах незалежна ад знакаў прыпынку. Напр., *Над галавой / ластаўкі. Над пагрэбнікам — / сонца ў зеніце* (Я. Брыль). *А вакол — / спакойна* (Я. Колас). *На гэта / яны мастакі* (А. Бялевіч). *Стралкі — / на лінію* (Я. Колас). Разбіўка на сінтагмы неабходна і пры эліпсісе, таму што з яе дапамогай указваецца на апушчаныя часткі сказа: *Мы паедзем раніцай, а ён — / вечарам. Прычына... / гэта даўганосая такая, / чарнявая?* (К. Крапіва). Адзначым, што часта там, дзе сінтагменныя межы супадаюць з сінтаксічнымі і паўтараюць граматычную расчлянёнасць тэксту, сустракаюцца так званыя аўтарскія знакі прыпынку, якія адлюстроўва-

---

[8] Кривицкий А. А., Михневич А. Е., Подлужный А. И. Белорусский язык для небелорусов. С. 284.

[9] Там жа. С. 285.

юць імкненне аўтара звярнуць увагу чытача на адасобленае гучанне пэўнай сінтагмы: *Пяршак-мароз быў у гульбе — / учэпісты і прыткі* (В. Зуёнак). *Зеўралі ямы, / траншэі, / зеўралі печы ў друзе — / ранай адной страшэннай / на целе маёй Беларусі* (А. Вярцінскі).

Рэгулярна сінтагменная граніца паўтарае размежаванне галоўных членаў сказа, калі ў сувязі з іх фармальнымі ўласцівасцямі гэта выклікае цяжкасці або калі дзейнік і выказнік фармальна супадаюць. *Апошні ліст — / бярозы крык* (В. Зуёнак). *Калматы вецер — / араты мора* (А. Русецкі).

Нарэшце, стваральная функцыя сінтагменнага члянення выяўляецца ў тым, што з дапамогай выкарыстання паўз рознай велічыні гаворачы паказвае, як звязаны між сабой сінтагмы, і ў залежнасці ад гэтага надае выказванню розны сэнс [10]. Так, калі міжсінтагменная паўза адсутнічае або яна нязначная па працягласці, то абедзве сінтагмы ацэньваюцца як раўназначныя, а інфармацыя, якую змяшчае кожная з іх,— як маючая аднолькавую каштоўнасць. Напр., *Табе да зазімку далёка, / і сонцам твой асветлены твар* (А. Вольскі). З дапамогай павелічэння паўзы паміж сінтагмамі перадаецца дадатковае значэнне проціластаўлення або супастаўлення: *Не дбала пра кубло са слепатой курынаю — // Ты несла ў свет святло кірыліцай Скарынавай* (Р. Барадулін). *Каса не косіць — / каса брые, бо ў дзядзькі рукі залатыя* (Я. Колас).

Павелічэнне паўзы назіраецца таксама тады, калі другая сінтагма носіць характар важнага ўдакладнення: *Клікнуць хацелася — //голас замёр* (П. Броўка). *Яны не ходзяць — //не жывы кожны чацвёрты* (А. Вярцінскі) або мае дадатковае, паясняльнае значэнне: *І лезе ў нос, і дражніць востры пах // (Калісьці Шэф таксама нюхаў порах)* (К. Крапіва).

Пастаяннае пэўнае дзяленне на сінтагмы назіраецца пры вымаўленні складаных сказаў і пры перадачы простай мовы. Як правіла, пры нармальным тэмпе маўлення часткі складаназлучаных сказаў, а таксама галоўны і даданыя сказы складаназалежных сказаў выдзяляюцца ў асобныя сінтагмы. Напр., *Зоркай іншага сусвету бліснуў кляновы ліст, / што раптам з'явіўся перад вачыма на дарозе* (І. Шамякін). *У цемры постаць яе ледзь значыцца, / а твару і зусім не відаць, / але Васіль ведае: / гэта яна* (І. Мележ).

Аўтарскія словы пры простай мове таксама аддзяляюцца сінтагменнымі паўзамі: — *Эх,— / цмокнуў дзядзька,— / наямося* (Я. Колас). *І сасмяглыя вусны дзявочыя прашапталі: / «Ён быў — / паэт...»* (А. Лойка).

Такім чынам, граматыка-сінтаксічная структура фраз вельмі часта робіць сінтагменнае чляненне абавязковым, таму яго прысутнасць неабходна для разумення выказвання. Зразумела, што сэнс выказвання звычайна перадаецца ўсімі фармальнымі сродкамі. Таму распазнавальная функцыя сінтагменнага члянення ў беларускай мове абмежаваная. У якасці адзінага сродку для адрознівання сэнсу амаграфічных фраз яно выступае вельмі рэдка: у беларускай мове адносна мала граматычных форм слоў, якія ў межах аднаго і таго ж лексічнага складу сказа дазвалялі б два граматычныя значэнні і два віды граматычнай сувязі. У той жа час стваральная функцыя сінтагменным чляненнем выконваецца часцей. Гэта відавочна і тады, калі падзел на сінтагмы з'яўляецца адзіным сродкам дадатковага выдзялення сегмента фразы, і тады, калі ён з'яўляецца важным дапаможным сродкам граматыка-сінтаксічнага члянення фразы.

---

[10] Николаева Т. М. Интонация сложного предложения в славянских языках. М., 1969.

Стваральная функцыя сінтагменнага члянення праяўляецца і ў тым, што яно разам з іншымі інтанацыйнымі сродкамі служыць для акцэнтнага выдзялення пэўных элементаў выказвання, што прыводзіць да перадачы розных семантычных, камунікатыўных катэгорый [11]. Так, у выказваннях з часціцамі з дапамогай дадатковага сінтагменнага члянення перадаюцца наступныя камунікатыўныя катэгорыі: прыгадвання, процітастаўлення, крайнасці і экстраардынарнасці, у межах якіх магчыма перадача цэлага шэрага значэнняў [12]. Напр., *Нехта / аб гэтым ведае* (выдзеленае *нехта* перадае значэнне 'той, каго наўмысна не называюць, утойваюць'). *Толькі / зіму я не люблю* (выдзеленае *толькі* набывае значэнне пэўнай перадумовы, характарызуе папярэднюю сітуацыю дыялога). *Толькі зіму / я не люблю* (выдзеленае *толькі зіму* перадае значэнне кантраста). *Дайце ежы / якой-небудзь* (выдзеленае *якой-небудзь* перадае значэнне крайнасці. Параўн.: *Дайце якой-небудзь ежы,* дзе няма такога значэння).

Выдзеленая з дапамогай сінтагменнай граніцы часціца можа ўводзіць пэўнае выказванне ў кантэкст і фармальна не адносіцца ні да якога кампанента фразы: *Нешта / сон морыць. Толькі / ўсмешка ў яе непрыемная. А яшчэ / дзяўчат берацеся праводзіць! Вось / піва не магу. Яшчэ пальто я сабе шукаў. Яшчэ / мая маці захварэла* [13].

Калі сінтагменнае члянненне не звязваецца з раскрыццём граматыка-сінтаксічнай шматзначнасці фраз [14], а дыктуецца ў шырокім сэнсе стылістычнымі прыкметамі тэксту, адзначаецца яшчэ разам з сэнсаадрознівальнай і *стылістычная* функцыя. Трэба адзначыць, што ў гэтым выпадку, як і ў частцы разгледжаных вышэй, сінтагменнае члянненне не з'яўляецца адзіным сродкам перадачы стылістычных характарыстык выказванняў, а спалучаецца з акцэнтным выдзяленнем стылістычна афарбаванага элемента. Так, стылёва нейтральныя камунікатыўныя формы маюць меншае расчляненне, лагічны і фразавы націск у іх часцей у канцы фразы. У той жа час экспрэсіўныя і стылістычна афарбаваныя камунікатыўныя формы маюць больш выдзеленых элементаў, фразавы і лагічны націск у іх перамяшчаецца ў пачатак фразы. Вельмі часта гэта суправаджаецца інверсіяй, пэўнымі зменамі ў нейтральным «нарматыўным» парадку слоў, што дадаткова сведчыць аб стылістычных асаблівасцях камунікатыўнай адзінкі. Параўн.: *Вельмі твой дырэктар на двор углядаецца. У яго / другім / галава занята.* (К. Крапіва) і *У яго галава / другім занята. Якая / цябе / муха ўкусіла?* (К. Крапіва) і *Якая муха ўкусіла цябе? Люду / не бачылі?* і *Не бачылі Люду? Дзверы / былі зачынены?* і *Былі зачынены дзверы? Новыя / нацягнула боты* і *Нацягнула новыя боты. Свежы / ёсць у вас хлеб?* і *Ёсць у вас свежы хлеб?*

З дапамогай спецыфічнага сінтагменнага члянення фраз аўтар з стылістычнымі мэтамі можа перадаць звесткі аб эмацыянальным стане літаратурнага героя, аб асаблівасцях фарміравання маўлення персанажаў, аб шматлікіх асаблівасцях маўлення, звязаных з уздзеяннем экстралінгвістычных фактараў. Так, фраза з дробным члянненнем на сінтагмы ўспрымаецца як прыналежная экспрэсіўнаму маўленню. У якасці прыкладу можна прывесці радкі з верша Р. Барадуліна «Бацьку», якія абгрунтавана лічыцца адным з лепшых у сучаснай беларускай паэзіі. У радках гэтага верша чытач сутыкаецца з прапанаваным аўтарам

---

[11] Николаева Т. М. Семантика акцентного выделения. М., 1982.

[12] Там жа. С. 60—64.

[13] Там жа. С. 64.

[14] Буланин Л. А. Фонетика современного русского языка. С. 174.

больш дробным чляненнем паведамлення на сінтагмы:

І зараз — / еду я здалёк,/
Чакаю ўсё — /зайду, / а маці /
Мне скажа: / Пазнаеш, / сынок?

Сінтагменнае чляненне робіцца выдзяленнем радкоў і ўвядзеннем дадатковых знакаў прыпынку. Яно надае вершу эмацыянальнае гучанне, якое адпавядае аўтарскай усхваляванасці.

У вершах Р. Барадуліна часта вельмі ўдала перадаецца інтанацыйны малюнак, які ўласцівы вуснай форме беларускай літаратурнай мовы. Асаблівае сінтагменнае чляненне, якое аўтар выкарыстоўвае пры вершаскладанні, пачэрпнута ім з гутарковага маўлення і мае выразную стылістычную функцыю.

У аналагічных мэтах больш дробнае, нязвыклае сінтагменнае чляненне выказванняў выкарыстоўваецца таксама ў беларускай мастацкай прозе і драматургіі. Яно перадае эмацыянальнае маўленне.

## § 6.4. ФРАЗА

Сінтагма з'яўляецца найменшай суцэльна афармленай інтанацыйнымі сродкамі адзінкай з самастойным значэннем. Але па свайму вызначэнню гэта паняцце не змяшчае ўказання на тое, якую ролю адыгрывае абазначаная з дапамогай гэтага тэрміна адзінка ў моўных зносінах. Такое ўказанне ўваходзіць у вызначэнне тэрміна «выказванне».

В ы к а з в а н н е — гэта фрагмент маўлення, дастатковы для паведамлення аб чым-небудзь, які выконвае ў пэўнай моўнай сітуацыі камунікатыўную функцыю. Інтанацыя выказвання адпавядае той канкрэтнай мэце і той задачы, якімі характарызуецца данае паведамленне. Дастатковую ў пэўных умовах інфармацыю можна, часам, перадаць асобнай словаформай, спалучэннем словаформ, службовымі часцінамі мовы, калі гэтыя элементы суправаджаюцца належнай інтанацыяй і абапіраюцца на папярэдні моўны кантэкст, на пазамоўную інфармацыю, якой характарызуецца сітуацыя маўлення. У якасці такіх вельмі кароткіх, але сітуатыўна дастатковых элементаў можна прывесці некаторыя рэплікі з дыялогаў:— *Пакрыўджана.— На каго? — На ўсіх.— І на мяне? — І на цябе; — Не. Цёпла; — Хто?; — Ха-ха.— Во тут.— Што «аднак»? Што?; — Што вы; — Ша. Абувайся.*

Кожнае, нават кароткае, выказванне афармляецца інтанацыйна і перадае пэўную інфармацыю або змяшчае пытанне. У шырокім сэнсе слова выказванне — гэта кожная адзінка, здольная несці паведамленне, як граматычна афармленая адпаведным чынам (сказ), так і не маючая такога афармлення (рэплікі). У вузкім сэнсе слова выказванне — гэта адзінка, якая нясе паведамленне і не з'яўляецца граматычным сказам (тыпу рэплік). Пры вызначэнні паняцця «выказванне» асноўная ўвага ўдзяляецца таму, як гэта адзінка афармлена граматычна і як суадносіцца з іншымі сінтаксічнымі паняццямі. Тэрмін «выказванне» ў пэўным сэнсе сінанімічны тэрміну «моўнае паведамленне», якое можа характарызавацца рознымі сінтаксічнымі структурамі.

Ф р а з а — гэта адно выказванне або паслядоўнасць выказванняў, якія ўтвараюць інтанацыйнае адзінства. Фраза можа складацца з адной або з некалькіх сінтагм (*Не спіцца. // Зной і зной / трывога / То затрымціць, / то скалане* (С. Грахоўскі). Сінтагмы другой фразы ўтвараюць інтанацыйнае і семантычнае адзінства:

*Зной і зной / трывога / То затрымціць, / то скалане.* (Звычайна з дапамогай рысак над галоснымі

перадаецца рух мелодыкі. Калі яны ідуць роўна — — —, гэта абазначае, што словы вымаўляюцца адным тонам. Рух тону ўніз абазначаецца знакам \, а ўверх — /.)

З сінтаксічнага пункту погляду фраза можа быць роўная аднаму сказу рознай працягласці або некалькім сказам, маючым розную сінтаксічную структуру:

*А Драгун, | раз-пораз торкаючы алоўкам у тоўсты журнал дыспетчарскай службы, | пачаў аддаваць | распараджэнні* (В. Якавенка). *Там свабадней. Паветра чыстае | І мора... | шуміць* (Г. Каржанеўская).

Галоўнае, што адрознівае выказванні, якія з'яўляюцца самастойнымі фразамі, ад тых, якія ўваходзяць у склад адной фразы, — гэта ступень іх інтанацыйнай злітнасці, узаемаабумоўленасці розных прасадычных параметраў.

Звычайна кароткія, няпоўныя словы-сказы і перарваныя або незавершаныя выказванні абапіраюцца на тую інфармацыю, якая змешчана ў папярэднім кантэксце, на папярэднія факты. Інтанацыйныя сродкі ўводзяць маленькія моўныя ўрыўкі ў больш вялікія, дапамагаюць дасягаць тых мэт, якія меў гаворачы ў пэўнай моўнай сітуацыі.

*Вось выстраліў адзін, | Вось разам — | пах-пах-пах* (К. Крапіва).

*Няхай ён спажыве гэта... | Што нам прыгатаваў* (К. Крапіва).

Фраза перадае сэнсава інфарматыўныя звесткі і разам з іншымі фразамі выконвае шматлікія камунікатыўныя заданні. Кожная фраза суадносіцца з іншымі ў сэнсавым, сінтаксічным і прасадычным аспектах.

Ступень сувязі суседніх фраз у тэксце залежыць ад розных прычын семантычных, лексічных, сінтаксічных і прасадычных. Кожная з іх уплывае пэўным чынам на фарміраванне інтанацыі:

*— Ах, Грышка, нядобры! | Як ты спалохаў мяне, гневаюся не жартам....*

*— Гневаешся? Няпраўда. А чаму ж ты на мяне так міленька пазіраеш?*

*— Так, | са злосці...* (В. Дунін-Марцінкевіч).

У гэтым дыялогу семантычна кожны папярэдні сказ абумоўлівае наступны, а кожны наступны абапіраецца і тлумачыцца семантыкай папярэдняга, існуюць лексічныя, дзякуючы паўторам, і сінтаксічныя, з прычыны эліптычнасці часткі фраз, сувязі.

З самых простых інтанацыйных паказчыкаў выказванняў можна назваць наяўнасць і велічыню паўзы паміж фразамі, мелодыку суседніх фраз, тэмп маўлення.

Калі паміж фразамі адсутнічаюць паўзы, яны ўспрымаюцца як часткі аднаго паведамлення і шмат у чым нагадваюць аб'яднанне, якое існуе паміж асобнымі выказваннямі ў межах фразы.

Павелічэнне працягласці паўзы можа мець значэнне проціпастаўлення або важнага ўдакладнення. Параўн.: *Каму ён належыць — || не было відно: || чарада байцоў скупілася пад высознаю ліпаю, | абкружыла нешта, | і адтуль, з іх асяроддзя, і даходзіў голас...* (К. Кірыенка); *Каму ён належыць, не было відно́, | бо чарада байцоў скупілася пад высознаю ліпаю...*

Звычайна, калі фразы маюць аднолькавае значэнне ў кантэксце і ўспрымаюцца як раўназначныя паведамленні, яны характарызуюцца аднолькавым тэмпам. У вымаўленні дыктара Н. Л. сярэдняя працягласць гукаў у першай фра-

зе раўняецца 75 мс, а ў другой — 74 мс. Інфарматыўна больш важныя фразы характарызуюцца (як і ў аналагічным выпадку з сінтагмамі) больш павольным тэмпам:

— Я ўсміхнуўся, перапытаў:

— Жонку? Сватаеце?

— А дай веры, хлопец! Жонку, прытым сваю жонку, не чужую, сватаць прыехаў... (М. Гіль).

Фразы звязаны з дапамогай мелодыкі, калі першая фраза мае ўзыходны тон, а другая — сыходны.

*Гэтага я не разумею. Навошта ён так зрабіў.*

Звычайна вывучэнне інтанацыі кожнай з моў праводзіцца шляхам аналізу ў першую чаргу прасадычных асаблівасцей сінтагм і фраз.

## § 6.5. ФАРМАЛЬНАЯ СТРУКТУРА ІНТАНАЦЫІ. КАМПАНЕНТЫ ІНТАНАЦЫІ

У маўленні інтанацыя прадстаўлена трыма групамі параметраў: часавымі, меладычнымі і акцэнтнымі. Кожная з гэтых груп мае сваю спецыфіку. Падрабязна тут будуць разгледжаны часавыя і меладычныя характарыстыкі, паколькі акцэнтныя прааналізаваны ў папярэднім раздзеле.

Часавыя характарыстыкі ўключаюць у свой склад такія элементы, як часавая структура, тэмп маўлення, паўзы. Працягласць адзінак маўлення ў часе — неабходная перадумова іх існавання. Для таго каб моўныя элементы былі ўспрынятымі, яны павінны мець дастатковую працягласць для рэалізацыі пэўных характарыстык і для іх асэнсавання ўспрымаючай асобай.

Меладычныя кампаненты абапіраюцца на магчымасць адвольна змяняць вышыню гукаў, якая суадносіцца з частатой самай нізкай складаючай у спектры галосных.

Кожны з прасадычных паказчыкаў маўлення вызначаецца на падставе суадносін яго значэнняў у часавай паслядоўнасці. Фізічная працягласць вызначаецца абсалютнай і адноснай працягласцю акустычнага сігналу. У лінгвістыцы фізічная працягласць гукаў бярэцца пад увагу перш за ўсё тады, калі проціпастаўленне кароткіх і доўгіх гукаў фаналагічна значнае.

У беларускай мове для фаналагічнага проціпастаўлення галосных адрозненне ў іх працягласці не выкарыстоўваецца. Таму адхіленні ў працягласці галосных могуць выкарыстоўвацца для перадачы інтанацыйных асаблівасцей маўлення.

## § 6.6. ТЭМП МАЎЛЕННЯ. ФУНКЦЫІ ТЭМПАВАЙ ВАРЫЯТЫЎНАСЦІ

Працягласць гукаў звязана з хуткасцю маўлення, якая вызначаецца яго тэмпам. Тэмпавыя паказчыкі, якімі характарызуецца моўнае паведамленне, адначасова адпавядаюць асаблівасцям тэксту, індывідуальнасці, фізіялагічнаму і эмацыянальнаму стану гаворачага. Пры лінгвістычным апісанні інтанацыйных асаблівасцей «сувязь з эмацыянальнасцю з'яўляецца адной з асноўных перашкод пры выяўленні інварыянтных прыкмет моўных інтанацыйных адзінак»[15]. Той эмацыянальны стан, які актывізуе дзейнасць чалавека, паскарае тэмп маўлення, а эмацыянальны стан, які

[15] Бондарко Л. В., Вербицкая Л. А., Игнаткина Л. В., Светозарова Н. Д., Сергеева Т. А., Цветкова Л. В. О фонетических коррелятах различной степени выразительности и эмоциональности речи: (на материале чтения) // Речь и эмоции. Л., 1975. С. 84.

зніжае актыўнасць асобы, запавольвае яго. Гэтыя сувязі неаднаразова адзначаліся даследчыкамі розных моў, і, напэўна, яны маюць тыпалагічны псіхалінгвістычны характар. Так, тэмп маўлення паскараецца, напрыклад, пры радасці і гневе, пры хваляванні, паніцы, наогул эмацыянальнай напружанасці.

Па назіраннях псіхолагаў, у стане павышанага эмацыянальнага ўзбуджэння для аператара характэрна павелічэнне тэмпу маўлення на 15—25%[16]. Запавольванне тэмпу перадае прыгнечанасць, інертнасць гаворачай асобы. Як уплывае эмацыянальны стан на тэмп маўлення носьбітаў беларускай мовы, спецыяльна не даследавалася. Але можна сцвярджаць, што існуючыя ўяўленні аб характары сувязі эмацыянальнага стану гаворачага з тэмпам яго маўлення справядлівыя і для беларускага моўнага матэрыялу. Такі вывад можна зрабіць, аналізуючы аўдытыўныя ацэнкі значэння тэмпавых змяненняў у беларускай мове.

У эксперыментальнай фанетыцы склалася пэўная традыцыя пры аналізе канкрэтных фанетычных з'яў прыцягваць ацэнкі, якія ім даюць носьбіты мовы. Сярод аўдытараў варта адрозніваць «свядомых» (у сэнсе іх адносін да моўнага матэрыялу) — аўдытараў-даследчыкаў і «наіўных», «несвядомых» аўдытараў — носьбітаў пэўнай мовы, якія не маюць навыкаў аналізаваць моўны сігнал з боку яго асобных фанетычных асаблівасцей.

Аўдытары-даследчыкі могуць зрабіць свае заключэнні адносна моўнага сігналу як носьбіты мовы, як радавыя слухачы, а таксама суаднесці свае ўражанні аб пэўных фанетычных з'явах з існуючымі лінгвістычнымі паняццямі, якасна ацаніць іх. Такія ацэнкі не з'яўляюцца непасрэднымі, бо аўдытар-даследчык дае іх з улікам пэўных лінгвістычных катэгорый. Але гэта не значыць, што паказанні «свядомых» аўдытараў менш каштоўныя, чым «несвядомых». Праз іх успрыманне, як і праз успрыманне «наіўных» носьбітаў мовы, можна «вызначыць заканамернасці, уласцівыя мове як сістэме»[17].

Вялікі вопыт суб'ектыўнага аналізу розных бакоў інтанацыі маюць «не толькі моваведы, але і — прычым нават у большай меры — дзеячы тэатра, асабліва рэжысёры і педагогі сцэнічнага маўлення»[18]. Ва ўсіх працах па выразнаму чытанню значнае месца адводзіцца тэмпавым характарыстыкам маўлення. Тэмпавыя адрозненні разглядаюцца часцей не ў якасці пэўнай моўнай рысы або індыкатара індывідуальнасці, а як прыкмета, па якой слухач можа меркаваць аб эмацыянальным стане таго, хто гаворыць.

У беларускай спецыяльнай літаратуры найбольш поўныя рэкамендацыі таго, як з дапамогай змянення тэмпу маўлення перадаць пачуцці гаворачай асобы, можна знайсці ў працах А. Каляды па выразнаму чытанню[19]. Парады чытальнікам — каштоўны аўдытарскі матэрыял, які сведчыць аб тых сувязях тэмпу маўлення і эмоцый, што існуюць у беларускай мове.

Нашы назіранні над адпаведнасцю маўлення эмацыянальнаму стану гаворачай асобы паказваюць, што ў носьбітаў беларускай мовы існуюць тыповыя выпадкі выкарыстання тэмпавых змяненняў маўлення для перадачы пачуццяў.

Для таго каб прасачыць, якія эматыўныя значэнні ў маўленні вы-

[16] Никонов А. В., Попов В. А. Особенности структуры речи человека-оператора в стрессовых условиях // Речь и эмоции. С. 13.

[17] Зиндер Л. Р. Некоторые принципиальные основы экспериментально-фонетических исследований // Экспериментально-фонетические исследования речи. М., 1969. Вып. 2. С. 116.

[18] Цеплитис Л. К. Анализ речевой интонации. С. 34.

[19] Каляда А. Выразнае чытанне. Мн., 1976. С. 78.

яўляюцца з дапамогай тэмпавых змяненняў, можна выкарыстаць скарочаны спіс эмоцый, які, па сутнасці, апісвае найбольш істотныя разнавіднасці стану чалавека: 1) радасць, 2) смутак, 3) узбуджанасць, 4) дэпрэсія, 5) раз'юшанасць, 6) страх, 7) апатыя, 8) нейтральны стан (норма) [20].

Транскрыбіраванне магнітафонных запісаў літаратурнага маўлення, прадстаўленага ў фанатэцы беларускага вуснага маўлення Аддзела эксперыментальнай фанетыкі Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР, паказвае, што вельмі часта адзін і той жа тэмп перадае розныя пачуцці.

Хуткі тэмп перадае і ўсхваляванасць, і нецярплівасць, і злоснасць, і страх. Аднолькава хутка, напрыклад (сярэдняя працягласць гукаў 50—60 мс), вымаўляліся наступныя фразы, узятыя з розных тэкстаў, дазваляючых вызначыць эмацыянальны стан гаворачай асобы: *І ты ўсё гэта Галі сказаў?* (узрушана); *Кажы хутчэй, што яны адказалі!* (нецярпліва); *Прыйдуць сюды?!* (напалохана); *Дачакаецца мачаха свайго часу!* (гняўліва).

Павольны тэмп суправаджае не толькі няўпэўненасць, разгубленасць, але таксама і страх, і раз'юшанасць, і пагрозу. Сярэдняя працягласць гука ў межах 100—120 мс (зрэдку 140 мс) у фразах, якія перадавалі вельмі розныя пачуцці. Напр., *А калі пан прагоніць з хаты?* (жахліва); *Ісці або лепш не паказвацца наогул?* (ваганне); *Бадзяецца па дзейках, як ліхая доля!* (раз'юшана).

Умераны, сярэдні тэмп маўлення найбольш пашыраны ў выкананні мастацкіх тэкстаў нейтральнага зместу, у аўтарскім маўленні пры выкананні сваіх твораў беларускімі пісьменнікамі.

Назіранні над перадачай з дапамогай рознага тэмпу эмоцый абагульнены ў табл. 6. 1. Цікава адзначыць, што парады чытальнікам, якія дае А. Каляда адносна хуткасці маўлення, у большасці выпадкаў супадаюць з нашымі данымі.

**Табліца 6.1. Эматыўныя значэнні тэмпу маўлення**

| Эмоцыя | Тэмп маўлення | | |
|---|---|---|---|
| | хуткі | павольны | сярэдні |
| Радасць | + | | + |
| Смутак | | + | + |
| Узбуджэнне | + | + | |
| Дэпрэсія | | | |
| Раз'юшанасць | + | + | |
| Страх | + | + | |
| Апатыя | | + | + |
| Норма | | | + |

Вядома таксама, што тэмп маўлення з'яўляецца адной з індывідуальных характарыстык гаворачага. Адрозніваюцца катэгорыі асоб, якія гавораць з сярэдняй, хуткай і павольнай хуткасцю.

Спецыяльнае даследаванне індывідуальнага тэмпу маўлення гаворачых на беларускай мове, дазволіла вызначыць тры тэмпавыя градацыі [21]. Традыцыйна індывідуальны тэмп маўлення характарызуецца сярэдняй працягласцю гука. Такі паказчык, праўда, з'яўляецца вельмі грубым, бо працягласць такіх відавочна розных па гэтай прыкмеце гукаў, як націскныя і ненаціскныя галосныя або выбухныя і фрыкатыўныя зычныя, абагульняецца, падлічваецца ў сярэднім. Але для атрымання звестак аб індывідуальных тэмпах маўлення на пэўнай мове такі падыход здавальняючы, бо ён дазваляе ўбачыць найбольш істотныя адрозненні ў індывідуальных тэмпах.

Калі даследуюцца часавыя характарыстыкі, якія паказваюць індывідуальную варыятыўнасць маўлення, то звычайна выкарыстоўваюцца абсалютныя велічыні (у мс). Яны

[20] Галунов В. И. Речь, эмоции и личность: проблемы и перспективы. С. 7.

[21] Фанетыка слова ў беларускай мове. С. 45—51.

з'яўляюцца фізічным карэлятам часавай характарыстыкі гукавых адзінак. Але больш часта ў фанетычных даследаваннях звяртаюцца да адносных адзінак, якія дапамагаюць пазбегнуць уплыву на атрыманыя даныя індывідуальных дыктарскіх адрозненняў. Адносныя адзінкі дазваляюць праводзіць супастаўленне працягласцей гукаў, узятых з розных рэалізацый розных гаворачых асоб. У якасці велічынь, якія характарызуюць часавую структуру выказванняў, могуць выкарыстоўвацца 1) сумарная працягласць сінтагмы (фразы); 2) сярэднескладовая працягласць; 3) сярэднегукавая працягласць. З гэтымі паказчыкамі суадносіцца кожнае з атрыманых пры аналізе значэнняў працягласці.

Зварот да сярэдніх значэнняў мэтазгодны тады, калі ёсць дастаткова вялікі матэрыял для параўнання, або ў тым выпадку, калі ён невялікі, але аднародны.

Для вызначэння тэмпавых паказчыкаў індывідуальных варыянтаў маўлення даследавалася хуткасць маўлення 40 носьбітаў беларускай літаратурнай мовы пры чытанні спецыяльна падрыхтаванага тэксту, які складаўся з 21 апавядальнага сказа рознай даўжыні. У выніку апрацоўкі эксперыментальных даных былі атрыманы паказчыкі, якія дазволілі вылучыць сярод носьбітаў беларускай мовы тры групы, якія адрозніваюцца паміж сабой па індывідуальнаму тэмпу. У першую групу ўвайшлі носьбіты беларускай мовы з хуткім індывідуальным тэмпам. Сярэдняя працягласць гукаў у іх складала ад 69 да 80 мс. У маўленні асоб, якія мелі сярэдні індывідуальны тэмп, сярэдняя працягласць гукаў хісталася ад 82 да 88 мс. Для маўлення носьбітаў беларускай мовы, маючых павольны індывідуальны тэмп, была характэрнай сярэдняя працягласць гукаў, якая перавышала 92 мс (ад 92 да 105 мс). Але тое, што чалавек мае пэўны індывідуальны тэмп маўлення, не абазначае, што ён не можа свядома змяняць хуткасць маўлення. Працягласць галоснага можа розніцца ў маўленні адной і той жа асобы ў шырокіх межах. Эксперымент, у ходзе якога асобам, маючым хуткі, сярэдні і павольны індывідуальныя тэмпы маўлення, прапаноўвалася паскараць і замаруджваць чытанне апісанага вышэй тэксту, паказаў, што ўсе яны паспяхова выконвалі заданне. Тыя, хто мае хуткі індывідуальны тэмп, паскаралі хуткасць маўлення на 10—20%. У групе асоб з сярэднім індывідуальным тэмпам паскарэнне дасягала 20—35%, а ў групе павольна гаворачых — 12—25%. Пры ўстаноўцы на замаруджванне хутка гаворачыя носьбіты беларускай мовы чыталі тэкст павольней на 10—22%, гаворачыя з сярэдняй хуткасцю — на 20—47, а павольна гаворачыя — на 6—20%.

Такім чынам, тэмпавыя змяненні могуць выкарыстоўвацца для перадачы інтанацыйнага зместу ўсімі носьбітамі мовы незалежна ад таго, які індывідуальны тэмп уласцівы іх маўленню.

Для таго каб вызначыць, якія тэмпавыя змяненні носьбітамі мовы заўважаюцца на слых, праводзіліся аўдытарскія эксперыменты. Нельга не пагадзіцца з думкай, што «перцэптыўны крытэрый павінен выкарыстоўвацца пры вызначэнні лінгвістычнасці любых гукавых характарыстык»[22].

---

[22] Джапаридзе З. Н. Перцептивная фонетика. Тбилиси, 1985. С. 77.

Варта адзначыць пэўную супярэчлівасць звестак аб успрыманні тэмпавых змяненняў маўлення [23]. Сцвяржаецца, напрыклад, што носьбіты мовы здольны даваць даволі дакладныя ацэнкі свайго і чужога тэмпу маўлення [24], а гэта сведчыць аб існаванні пэўных тэмпамоўных эталонаў. Але адзначаецца і тое, што слухачы не заўважаюць пастаяннай зменлівасці працягласці гукавых адзінак і што гаворачая асоба значна змяняе тэмп маўлення нават калі яе патрабуюць жорстка захоўваць яго стабільнасць [25].

Такім чынам, змяненне працягласці гукавых адзінак можа не заўважацца ў адных выпадках і можа быць інфарматыўным у другіх. Атрымліваецца, што пры ўспрыманні ацэнка інтанацыйна абумоўленых змяненняў тэмпу адрозніваецца ад ацэнкі змяненняў, выкліканых эмацыянальнасцю маўлення [26] і індывідуальнасцю гаворачай асобы.

Тэмпавыя градацыі, якія выкарыстоўваюцца пры афармленні фразы, звычайна не з'яўляюцца адзіным сродкам выражэння пэўных прасадычных значэнняў. Як правіла, яны суправаджаюцца змяненнем і астатніх кампанентаў інтанацыі. Таму, калі неабходна вызначыць, як успрымаюцца пэўныя тэмпавыя змяненні, трэба адабраць пэўны тэкст такім чынам, каб пры яго рэалізацыі вядучым параметрам быў тэмп. Аналіз асаблівасцей успрымання такога матэрыялу дапаможа вызначыць дамінуючыя тэндэнцыі, якія назіраюцца ў мове, і дазволіць прасачыць, у якой ступені слухачы могуць параўноўваць розныя моўныя ўрыўкі па іх інтанацыйнаму рысунку, карыстаючыся пераважна адным з акустычных параметраў — тэмпам. Звычайна на функцыянальна значнае чляненне фразы ўказваюць не толькі ўнутрыфразавыя адрозненні ў тэмпе, але і паўзы, а супрацьпастаўленне частак фразы перадаецца таксама іх лексіка-сінтаксічным складам, бо наогул інтанацыя пастаянна ўзаемадзейнічае з іншымі моўнымі сродкамі. Гэта ўскладняе выбар такога матэрыялу, у якім дзеянне аднаго з прасадычных параметраў магло б адлюстравацца ў чыстым выглядзе. Патрабаванні да эксперыментальнага матэрыялу супярэчлівыя. Трэба, каб матэрыял быў натуральным, а таму ў пэўнай ступені захаваў сваю інтанацыйную сапраўднасць і складанасць, і адначасова неабходна, каб успрыманне яго тэмпавых паказчыкаў не скажалася пад уплывам астатніх прасадычных і іншых моўных якасцей. Такі матэрыял можна атрымаць, калі прапанаваць носьбіту мовы шматразова прачытаць спецыяльна падрыхтаваны тэкст у розным тэмпе. Такое заданне ўспрымаецца як зразумелае, і калі дыктару прапануецца прачытаць тэкст хутка ці павольна, ён робіць гэта паспяхова.

Для вывучэння ўспрымання моўнага тэмпу ў нашым эксперыменце выкарыстоўваўся матэрыял, атрыманы пры чытанні звязанага тэксту носьбітамі беларускай літаратурнай мовы, якія маюць розны індывідуальны тэмп. Кожны з 40 дыктараў пасля папярэдняга азнаямлення чытаў спецыяльна падрыхтаваны тэкст, які складаўся з 21 апавядальнага сказа рознай даўжыні, тройчы: у сярэднім, хуткім і павольным тэмпе. Паскарэнне і замаруджванне

---

[23] Цеплитис Л. К. Анализ речевой интонации. Рига, 1974. С. 126; Светозарова Н. Л. Интонационная система русского языка. Л., 1982. С. 50; Бондарко Л. В. Фонетическое описание языка и фонологическое описание речи. Л., 1981. С. 150.

[24] Речь, эмоции и личность: Материалы и сообщ. Всес. симпоз. 27—28 февраля 1978. Л., 1978.

[25] Рамишвили Г. С. Речевой сигнал и индивидуальность голоса. Тбилиси, 1976. С. 8—22.

[26] Носенко Э. Л. Особенности речи в состоянии эмоциональной напряженности. Днепропетровск, 1975.

праводзілася дыктарам на падставе яго ўласных уяўленняў аб натуральным для беларускай мовы тэмпавым вар'іраванні маўлення.

З усіх атрыманых запісаў для прад'яўлення аўдытарам былі выбраны два як найбольш узорныя з пункту погляду беларускай арфаэпіі і правіл нарматыўнага інтанацыйнага афармлення. Пры паскарэнні і замаруджванні тэмпу захоўваўся інтыповы для літаратурнай мовы інтанацыйны рысунак фраз. Дыктары мелі сярэдні індывідуальны тэмп, сярэдняя працягласць гука ў фразах у сярэднім тэмпе была ў жанчыны Н. Л. 83 мс, а ў мужчыны А. А. — 87 мс. Праводзіліся серыі эксперыментаў.

Для прад'яўлення аўдытарам у першай серыі доследаў выкарыстоўваўся мантаж магнітафоннага запісу чатырох словазлучэнняў, узятых з фразы, прачытанай у складзе эксперыментальнага тэксту дыктарам Н. Л. у сярэднім, хуткім і павольным індывідуальных тэмпах. Разбіўка фразы праводзілася наступным чынам: *Цэлы гай / старасвецкіх дубоў / раскінуўся / на беразе Нёмана.* Урыўкі з запісаных на магнітную стужку фраз выразаліся з дапамогай сегментатара і манціраваліся з інтэрвалам 0,2 с па тры, пры гэтым у кожную групу ўключаліся тоесныя лексіка-сінтаксічныя адзінкі, узятыя з розных тэмпавых рэалізацый тэксту. Напрыклад, прад'яўлялася група, дзе слухач тройчы апазнаваў словазлучэнне *цэлы гай,* вымаўленае спачатку павольна, потым хутка і ў сярэднім тэмпе. Наступная тройка стымулаў аддзялялася ад папярэдняй паўзай у 2 с, яна змяшчала гэта ж словазлучэнне, але парадак тэмпавых рэалізацый змяняўся. Напрыклад, у першай тройцы быў тэмп павольны, хуткі, сярэдні; у другой — сярэдні, павольны, сярэдні; у трэцяй — павольны, хуткі, хуткі; у чацвёртай — хуткі, павольны, сярэдні і г. д. Кожнае словазлучэнне паўтаралася 32 разы, пры гэтым стымулы ў тройцы або былі ўсе розныя, або адна тэмпавая рэалізацыя ў розных спалучэннях выступала два разы і побач з ёй давалася іншая.

У спецыяльна падрыхтаваных анкетах, дзе быў адзначаны парадкавы нумар кожнай тройкі словазлу-




Рыс. 67. Колькасць правільных адказаў пры ацэнцы тэмпу вымаўленых словазлучэнняў. Па гарызанталі — нумары аўдытараў, якія апазнавалі словазлучэнні; па вертыкалі — колькасць правільных адказаў пры апазнаванні тэмпу (у працэнтах). Крыжыкі — хуткі тэмп, кропкі — сярэдні тэмп, кружкі — павольны тэмп

чэнняў, аўдытары адзначалі, у якім тэмпе вымаўлены кожны стымул. Праслухоўванне праходзіла праз галаўныя тэлефоны ТДС-1 з магнітафона, на якім рабіўся запіс. Эксперыментальны матэрыял апазнавалі 10 аўдытараў — носьбітаў беларускай мовы. Было атрымана 2880 адказаў. Кожная тэмпавая рэалізацыя апазнавалася 960 разоў. Вынікі апазнавання розных тэмпавых рэалізацый асобнымі дыктарамі прыведзены на рыс. 67.

Высветлілася, што здольнасцю правільна ацэньваць тэмп маўлення розныя аўдытары валодаюць у рознай ступені. Напрыклад, аўдытар В. Б. дакладна ацэньваў тэмп стымулаў у сярэднім у 89% усіх выпадкаў, у той час як два іншыя аўдытары (Н. Л., А. С.) выявілі малую здольнасць да такога апазнавання: дакладныя ацэнкі складалі ў іх адпаведна толькі 36 і 51%. Аднак для большасці аўдытараў былі харак-

тэрны блізкія сярэднія значэнні дакладных ацэнак ад 60 да 72%.

Неаднаразова выказвалася думка, што здольнасць слухача да аўдзіравання сігналаў, якія паступаюць у розным тэмпе, пэўным чынам звязана з яго ўласным індывідуальным моўным тэмпам[27], але ў нашым эксперыменце такой залежнасці не назіралася. Аўдытар В. Б. мае павольны індывідуальны тэмп маўлення, але ён паспяхова выконваў заданне. Аўдытары Н. Л. і А. С. не здолелі дакладна ацаніць тэмп асобных сігналаў, хаця іх індывідуальны тэмп адпавядаў тэмпу дыктараў, якія начытвалі эксперыментальны тэкст.

Для таго каб вызначыць залежнасць ацэнкі пэўнага тэмпу ад парадку стымулаў пры прад'яўленні, аналізаваліся асаблівасці ідэнтыфікацыі тэмпу, калі стымулы паступалі ў рознай паслядоўнасці. З гэтай мэтай разглядаліся тыя выпадкі памылковага ўспрымання, калі павольны тэмп ацэньваўся як хуткі, а хуткі — як павольны. Сістэматызацыя памылак такога роду пераконвае, што яны не звязаны з парадкам прад'яўлення матэрыялу. Так, павольны тэмп прымаўся за хуткі і хуткі за павольны, калі стымул ішоў першым, у 21% адказаў, калі стымул быў другім — у 39, і калі трэцім — у 40% ад усёй колькасці памылковых адказаў такога тыпу. Колькасць памылковых ацэнак істотна залежала ад таго, які тэмп меў папярэдні стымул у параўнанні з наступным. Калі папярэдні і наступны стымулы мелі розны тэмп, ён ацэньваўся памылкова ў 42%, а калі яны супадалі па тэмпу — у 58% усіх выпадкаў.

Аналіз атрыманых даных таксама паказаў, што аўдытарскія ацэнкі тэмпу лепш адлюстроўвалі аб'ектыўную прыналежнасць моўнага матэрыялу, які прад'яўляўся, у тым выпадку, калі апазнаваліся ўрыўкі з фраз, вымаўленых хутка (дакладныя апазнаванні складалі 79%). Дакладная ацэнка сярэдняга тэмпу склала 60% усіх выпадкаў. Павольны тэмп ацэньваўся яшчэ горш за сярэдні. Дакладныя адказы складалі толькі 48%. Такім чынам, упэўнена аўдытары апазнавалі толькі хуткі тэмп і ваганіся пры ацэнцы сярэдняга і павольнага тэмпаў. Атрыманыя ацэнкі датычыліся тэмпавых змяненняў розных, у тым ліку і невялікіх, па працягласці ўрыўкаў з фраз. Таму можна сцвярджаць, што ўнутрыфразавыя змяненні тэмпу заўважаюцца носьбітамі беларускай мовы і могуць выкарыстоўвацца для стварэння розных інтанацыйных канструкцый.

Разам з тым нестабільнасць ацэнак аднаго і таго ж шматразова прад'яўленага моўнага матэрыялу паказвае, што ўрыўкі з фраз самі па сабе, асабліва ў тым выпадку, калі яны вымаўлены ў сярэднім або павольным тэмпах, не змяшчаюць той неабходнай інфармацыі, якая дазволіла б іх дыферэнцыраваць па тэмпу.

Правільнай ацэнцы тэмпавых характарыстык матэрыялу маглі перашкаджаць 1) невялікая працягласць прад'яўленых урыўкаў, 2) тое, што па працягласці ўзятыя ўрыўкі адрозніваліся паміж сабой не вельмі значна і 3) адсутнасць у іх складзе міжсінтагменных паўз, якія ўплываюць на суб'ектыўныя ацэнкі тэмпаў[28]. Таму ў другой серыі эксперыментаў носьбіты беларускай мовы ацэньвалі тэмп вымаўлення фраз і асобных урыўкаў з іх. Былі адабраны сем апавядальных фраз, узятых з трох тэмпавых рэалізацый эксперыментальнага тэксту ў выкананні дыктара А. А. Яны манціраваліся, як і ў папярэдняй серыі эксперыментаў, і прад'яўляліся для

---

[27] Ильина В. И. К вопросу об изучении вариантов речи // Вопр. психологии. 1965. № 6.

[28] Светозарова И. Л. Интонационная система русского языка. С. 50.

апазнавання 50 аўдытарам. Выкарыстоўваліся розныя тэмпавыя рэалізацыі наступных фраз: *Невысокі хударлявы чалавек размеранаю роўнаю хадою ідзе лесам. Цэлы гай старасвецкіх дубоў раскінуўся на беразе Нёмана. Такі лагодны спакой бывае толькі ў мінуты мудрага разважання. Лес, ахінуўшы сваё плечы белаю накідкаю, урачыста захоўвае цішыню і спакой. Асірацелыя старыя дубы ў чорных шапках бусліных гнёздаў спакойна стаялі, не варушачы ніводным лістам, і купалі ў сонцы свае адвечныя лапы. Зоркай іншага сусвету бліснуў кляновы ліст, што раптам з'явіўся перад вачыма на дарозе.*

Тыя ж аўдытары ацэньвалі тэмп вымаўлення 108 стымулаў—урыўкаў з прыведзеных фраз, якія складаліся з аднаго слова або групы слоў і прад'яўляліся па вышэй апісанай методыцы. Напрыклад, з першай фразы выдзялялі наступныя адрэзкі: *Невысокі хударлявы / невысокі хударлявы чалавек / размеранаю роўнаю хадою / размеранаю роўнаю хадою ідзе / ідзе лесам.* Апрацоўка адказаў аўдытараў дазволіла вызначыць узровень апазнавання фраз і іх фрагментаў. Высветлілася, што ў пераважнай большасці адказаў тэмп цэлай фразы апазнаваўся лепш, чым тэмп асобных яе фрагментаў.

Дакладныя ацэнкі тэмпу складалі 78% ад усёй колькасці адказаў пры апазнаванні фраз, вымаўленых у сярэднім тэмпе, 77% — у павольным і 70% — у хуткім. У параўнанні з вынікамі першай серыі эксперыментаў можна канстатаваць значна лепшае апазнаванне павольнага і сярэдняга тэмпаў. Такім чынам, поўны тэмп (тэмп маўлення з паўзамі) аўдытары ацэньвалі лепш, чым артыкуляцыйны (тэмп маўлення без паўз).

Але і ў другой серыі эксперыментаў фрагменты фраз, вымаўленыя ў хуткім тэмпе, апазнаваліся лепш, чым тыя ж фрагменты ў сярэднім і павольным тэмпах. Правільныя адказы складалі адпаведна 70, 53 і 57% ад усёй колькасці ацэнак хуткага, сярэдняга і павольнага тэмпаў паасобку.

Для тлумачэння варыятыўнасці ацэнак тэмпу пры шматразовым прад'яўленні адных і тых жа ўрыўкаў з фраз варта параўнаць колькасць дакладных адказаў з часавымі паказчыкамі прад'яўленых урыўкаў. З гэтай мэтай для атрымання аб'ектыўных характарыстык эксперыментальнага матэрыялу з магнітафонных запісаў на шлейфным асцылографе Н-102 са скорасцю руху стужкі 250 мм/с былі зняты асцылаграмы. Падлічвалася працягласць гукавых адзінак, якія ўваходзілі ў склад фраз, вымаўленых у трох тэмпах. Пасля гэтага вызначалася ступень адхілення хуткага і павольнага тэмпаў ад сярэдняга для кожнага дадзенага для апазнавання моўнага ўрыўка. Вызначаны такім чынам тэмпавы кантраст параўноўваўся з узроўнем апазнавання тэмпу тых моўных стымулаў, якія характарызаваліся гэтым кантрастам. Параўнанне паказала, што з ростам кантрасту апазнаванне тэмпу моўных адзінак узрастала. Аднак такая залежнасць назіралася пры апазнаванні слоў і груп слоў, калі яны мелі ў сваім складзе толькі 6—18 складоў. Пры гэтым стымулы, вымаўленыя хутка, ацэньваліся правільна, нават калі яны адрозніваліся ад сярэдняга тэмпу на 4—7%, а вымаўленыя павольна — толькі тады, калі яны мелі працягласць, большую на 10—12%. Гэта дае падставы меркаваць, што аўдытары ў сваіх адказах абапіраліся не толькі на часавыя характарыстыкі ўрыўкаў, але і на іх іншыя інтанацыйныя якасці. Таму па асцылаграмах шляхам вымярэння працягласці кожнага перыяду танальных гукаў вызначаўся рысунак частаты асноўнага тону ў фразах, вымаўленых у трох тэмпах. Гэта дазволіла выявіць меладычную структуру фраз. У якасці ілюстрацыі



20. Зак. 1429

можна прывесці фразу, узятую для першай серыі эксперыментаў: *Цэлы гай старасвецкіх дубоў раскінуўся на беразе Нёмана*. Ва ўсіх трох тэмпавых рэалізацыях назіраўся сыходны меладычны контур.

Меладычны рысунак фразы, вымаўленай у сярэднім тэмпе, быў асабліва аднастайным, з некалькімі пад'ёмамі і спадамі, нязначнай велічыні. Яе інтанацыйны контур быў расчлянёным і слаба цэнтрава-




Рыс. 68. Інтанацыя апавядальнага сказа *Цэлы гай старасвецкіх дубоў раскінуўся на беразе Нёмана* (кадэнцыя). Сярэдні тэмп вымаўлення




Рыс. 69. Інтанацыя апавядальнага сказа *Цэлы гай старасвецкіх дубоў раскінуўся на беразе Нёмана* (кадэнцыя). Павольны тэмп вымаўлення

ным (рыс. 68). У фразах, вымаўленых хутка і павольна, ён выглядаў інакш, таму што ў іх асабліва выдзялялася пачатковае слова. У націскным складзе першага слова назіраўся выразны ўзыходны рух тону, пасля якога ішло глыбокае паніжэнне тону ў ненаціскным складзе. Канага, назіраўся значны ўзыходна-сыходны рух тону. Агульная колькасць меладычных пікаў была большай за тую, што назіралася ў фразе, вымаўленай павольна, і набліжалася да колькасці фанетычных слоў (рыс. 70.). Акрамя таго, пры павольным вымаўленні фраза набывала да-




Рыс. 70. Інтанацыя апавядальнага сказа *Цэлы гай старасвецкіх дубоў раскінуўся на беразе Нёмана* (кадэнцыя). Хуткі тэмп вымаўлення

лі фраза вымаўлялася павольна, то асаблівае выдзяленне першага слова прыводзіла да змянення меладычнага рысунка ўсёй фразы: ён рабіўся больш згладжаным, меладычныя пікі на націскных складах астатніх, нявыдзеленых слоў былі выражаны значна менш, іх колькасць была роўнай колькасці сінтагм (рыс. 69).

Інтанацыйны контур хутка вымаўленай фразы шмат у чым нагадваў контур фразы, вымаўленай павольна. Але асаблівае выдзяленне першага слова пры хуткім тэмпе не прыводзіла да змянення меладычнага рысунка ўсёй фразы, націскныя склады астатніх слоў афармляліся больш самастойна. Нават у складзе, наступным пасля асабліва выдзеленага, назіраўся значны ўзыходна-сыходны рух тону.

датковае чляненне з дапамогай паўз велічынёй 60 і 80 мс.

Урыўкі з фраз, вымаўленых у трох тэмпах, якія прад'яўляліся для апазнавання, адрозніваліся не толькі па сваёй працягласці, але і па мелодыцы, што магло садзейнічаць паспяховай ацэнцы іх тэмпавай прыналежнасці. Як правіла, з боку меладычнага афармлення выразна адрозніваліся ад астатніх толькі тыя з урыўкаў, якія былі выразаны з хутка вымаўленай фразы.

Фразы, вымаўленыя ў сярэднім і павольным тэмпах, мелі не такі выразны меладычны рысунак, таму пры невялікіх адрозненнях па агульнай працягласці ўрыўкі, узятыя з іх, не мелі спецыфічных адметных рыс, якія дапамаглі б іх ідэнтыфікацыі.

Такім чынам, пры ўспрымаңні такога часавага паказчыка маўлення, як тэмп, носьбіты мовы абапіраюцца на веданне таго, якія змяненні іншых інтанацыйных параметраў звычайна спалучаюцца з тэмпавымі змяненнямі. Гэта з'ява яшчэ раз падкрэслівае комплексны характар дзеяння ў маўленні інтанацыйных параметраў.

## § 6.8. ЛІНГВІСТЫЧНАЕ ЗНАЧЭННЕ ЗМЯНЕННЯ ТЭМПУ МАЎЛЕННЯ

Часавыя прасадычныя характарыстыкі з'яўляюцца аднымі з найбольш варыятыўных кампанентаў. Яны маюць вялікае значэнне для раскрыцця сэнсу фразы. Калі агульны тэмпавы дыяпазон выяўляе інтанацыйную спецыфіку маўлення ўвогуле, то ўнутрыфразавае змяненне тэмпу служыць для выяўлення семантыка-сінтаксічнай структуры асобных выказванняў. Пэўная частка заканамерных змяненняў часавай структуры маўлення мае універсальны характар.

Пасля аналізу змянення тэмпу ў розных сінтагмах і разгляду семантыка-сінтаксічнай значнасці сінтагм, якія вымаўляюцца ў розным тэмпе, можна канстатаваць, што ў беларускай мове дзейнічаюць некаторыя тэндэнцыі тыпалагічнага характару.

1. Як правіла, большай працяглацю ў параўнанні з астатнімі адзначаюцца сінтагмы, у якіх знаходзяцца акцэнтна выдзеленыя элементы. У якасці ілюстрацыі разгледзім фразы з тэксту, які аналізаваўся пры вызначэнні індывідуальнай тэмпавай варыятыўнасці беларускага маўлення: *Ц э л ы  г а й / старасвецкіх дубоў / раскінуўся / на беразе Нёмана*[29]. Першая сінтагма з'яўляецца акцэнтна выдзеленай. Яна перадае пэўныя сэнсавыя суадносіны выдзеленай часткі фразы з шырокім кантэкстам. Лексема *цэлы* стымулюе акцэнтнае выдзяленне сінтагмы. Сярэдняя працягласць гука ў гэтай сінтагме большая за тую, якой характарызуюцца наступныя, на 30%.

Пры чытанні тэксту, узятага з энцыклапедычных артыкулаў, акцэнтнае выдзяленне, якое спалучалася з павелічэннем працягласці сінтагмы, назіралася тады, калі ў пачатку фразы знаходзіліся зыходныя, апорныя для далейшых разважанняў лексемы: тэрміны або словы, маючыя ўдакладняючае значэнне: *Навальніца — / атмасферная з'ява, / пры якой у магутных / кучава-дажджавых воблаках / і паміж воблакамі і зямлёй / пры вялікай напружанасці атмасфернай электрычнасці ўзнікаюць / моцныя электрычныя разрады — маланкі. Зімнія навальніцы / бываюць вельмі рэдка. Маланкі — / крыніца, / што забяспечвае зямлю / адмоўнымі зарадамі.*

Сярэдняя працягласць гукаў у сінтагмах, маючых акцэнтнае выдзяленне, большая за астатнія на 25—30%. Зразумела, што сярэдняя працягласць гукаў у гэтым выпадку пераважна павялічваецца за кошт павелічэння працягласці націскнога галоснага акцэнтна выдзеленай лексемы, і таму яе змяненне можа быць не вельмі адчувальным, асабліва калі акцэнтнае выдзяленне лексемы ажыццяўляецца не толькі з дапамогай часавага параметра.

Выдзяленне рознымі сродкамі, у тым ліку і з дапамогай часавых характарыстык асобных членаў сказа, адзначалася Т. М. Нікалаевай у наступных фразах: *Ты меў бы машыну. С в а ю, с в а ю ўласную машыну; І спакою не было. Але што іменна, ш т о? Мелодыя вясны — я н а; Першы — з палявой вады бывае. Д р у г і — лясной вадою поўніцца.* Пры гэтым назіраўся неаднастайны па-

---

[29] Разрадкай абазначана замаруджванне тэмпу.

дыход дыктараў пры рэалізацыі выдзеленых частак фразы. Некаторыя дыктары выдзялялі пэўныя словы працягласцю (так рэалізавалася слова *яна* ў пятай фразе), іншыя — павышэннем тону ці ўзмацненнем па дыяпазону[30].

Пры сэнсавым выдзяленні слоў або словазлучэнняў, семантычным, семантыка-эмацыянальным і інш., не звязаным з аўтаматызаванай пастаноўкай фразавага націску, выкарыстоўваецца тэмп вымаўлення асобных частак фразы. Так, у фразах, маючых адваротны парадак слоў, выдзяляюцца словы ў неканцавой пазіцыі: *У мяне н е ч а с т а ўзнікала жаданне пагаварыць з сынам* (інтанацыйна падкрэслена слова *не часта*). *Бацька т в о й загінуў рана* (інверсія, постпазіцыя слоў *твой* і *рана* абумоўлівае ўзнікненне паўзы перад словам *твой* і ўзмацненне націску на слове *рана*). У адмоўнай фразе тыпу *Нічога не бачу* ў пэўных семантыка-сінтаксічных умовах важным з'яўляецца выдзяленне яе абедзвюх частак, таму тэмп усёй фразы замаруджаны[31].

Наогул «незвычайнае» месцазнаходжанне даданых членаў сказа вельмі часта суправаджаецца іх інтанацыйным выдзяленнем, у тым ліку і з дапамогай часавых паказчыкаў. Напрыклад, у прыведзеных ніжэй парах фраз адны і тыя ж даданыя члены сказа маюць розную працягласць. Дадатак вымаўляецца больш павольна тады, калі ён знаходзіцца ў прэпазіцыі, азначэнне, — калі яно змешчана ў постпазіцыі: *Д ы п л о м я заслужыў, здаецца ж, галавою* (К. Крапіва) і *Я заслужыў дыплом, здаецца ж, галавою; Поруч з Ганнаю стаяў загарэлы / абветраны чалавек* і *Поруч з Ганнаю стаяў чалавек — / з а г а р э л ы, / а б в е т р а н ы / ...* (Я. Скрыган).

2. Большай працягласцю характарызуюцца сінтагмы, якія маюць інтанацыю завершанасці. Параўн.: *Сяджу над паплаўком, / задуманы і засяроджаны* (Я. Брыль) і *Ці сяджу над паплаўком? Не. Няма часу; Ты пытаешся, ці сяджу над паплаўком. Не. Няма часу.*

3. Аднасінтагменныя пытальныя фразы пры адсутнасці фармальных паказчыкаў пытання маюць большую працягласць у параўнанні з тымі, што змяшчаюць такія паказчыкі. Параўн.: *Мне дваццаць сем гадоў?* і *Ці ж мне дваццаць сем гадоў? Ты прыйдзеш?* і *Ці ты прыйдзеш?*

4. Аднасінтагменныя фразы, не маючыя лексічна выражанага адмоўя, але адмоўныя па свайму зместу, больш працяглыя за тоесныя ў лексіка-сінтаксічных адносінах фразы, што змяшчаюць яго ў сваім складзе. Параўн.: *Ты прыйдзеш* (сцверджанне. Абавязкова прыйдзеш). *Ты прыйдзеш, тады і паглядзім* (калі ты прыйдзеш, тады і паглядзім). *Ты прыйдзеш!* (іранічна. Цябе не дачакаешся).

5. Выкарыстанне змяненняў тэмпу для выдзялення ў маўленні важнага і няважнага з'яўляецца тыпалагічнай рысай, уласцівай усім усходнеславянскім мовам. Выдзяленне важнага/няважнага з дапамогай часавых паказчыкаў адбываецца не толькі ў межах сінтагм, але і ў межах фраз, у больш шырокім кантэксце.

Звычайна больш важная ў пэўных адносінах інфармацыя вымаўляецца ў больш павольным тэмпе. Так, пры разглядзе розных камунікатыўных відаў фраз у беларускай літаратурнай мове высветлілася, што яны маюць тэмпавыя адзнакі, звязаныя з асаблівасцямі сэнсавай структуры фраз.

Уласна апавяданне (камунікатыўны тып маўлення, які служыць для перадачы пэўнай інфармацыі і звычайна сустракаецца ў размоўным стылі), як правіла, характарызуецца сярэднім тэмпам. Фраза *Бацька твой загінуў рана* як уласна

---

[30] Николаева Т. М. Фразовая интонация славянских языков. С. 110.
[31] Типологія інтонації мовлення. С. 136.

паведамленне вымаўлялася дыктарамі ў сярэднім тэмпе [32].

Паведамленню, якое мае больш сканцэнтраваную, аднапланавую канстатацыю фактаў або іх адмаўленне, характэрны сярэдні і трошкі запаволены тэмп. Пры гэтым фразы тыпу *Хутка крыгаход, Я не люблю курортаў, У нас і міліцыі няма паблізу,* па назіраннях А. І. Багмут, вымаўляліся дыктарамі ў больш павольным тэмпе.

Па яе ж даных, пытальныя фразы набывалі павольнае вымаўленне ў сувязі з асаблівасцямі іх семантыка-сітуатыўных характарыстык [33]. Так, пытальная фраза *Вы рабочы?* вымаўлялася ў сярэднім тэмпе, а пытальная фраза *Вы спартсмен?* усімі дыктарамі вымаўлялася вельмі запаволена. Тэмп яе вымаўлення быў больш павольны за сярэдні, уласцівы кожнаму дыктару, на 14—30%.

Усе дыктары пытанні-перапытванні таксама вымаўлялі ў запаволеным тэмпе, што звязана з іх функцыяй у больш шырокім кантэксце.

Працягласць клічнага сказа значна больш працягласці тоеснага па лексіка-граматычнаму складу сказа іншай структуры. Параўн.: *Яго можна есці!* Сярэдняя працягласць гукаў — 92,1 мсек і *Яго можна есці* — 74,3 мсек; *Колькі табе год!* — 80,8 мсек; *Колькі табе год?* — 70,8 мсек [34].

Спецыфіку часавай арганізацыі беларускага маўлення вызначаюць таксама і такія яго характарыстыкі, як агульная часавая структура сінтагмы і фразы, розная працягласць націскных і ненаціскных складоў у розных інтанацыйных умовах, розная актыўнасць часавых параметраў пры выкананні сэнсава-камунікатыўных задач.

Агульную часавую структуру характарызуюць суадносіны пачатковай, сярэдняй і канцавой частак сінтагмы. Лічыцца, што беларускае маўленне слаба структурыравана ў часе, не мае выразнай часавай структуры [35]. Як і ў іншых славянскіх, у беларускай мове найбольшую працягласць маюць галосныя, якія знаходзяцца пад сінтагменным націскам. У той жа час працягласць націскнога галоснага залежыць ад інтанацыйнага тыпу сінтагмы.

Па даных Т. М. Нікалаевай, пры інтанацыі апавядальнага сказа (канклюзіўнай кадэнцыі) націскны склад — самы працяглы, пераднаціскны складае каля 60% працягласці націскнога складу, абсалютна канцавы паслянаціскны склад роўны 70—75% працягласці націскнога неканцавога складу [36].

Пры інтанацыі незавершанай сінтагмы (паўкадэнцыі) націскны склад звычайна самы працяглы, першы пераднаціскны менш працяглы ў параўнанні з другім пераднаціскным, канцавы паслянаціскны падоўжаны менш, чым пры канклюзіўнай кадэнцыі [37].

Пры інтанацыі пытальнага сказа без пытальнага слова (антыкадэнцыі) націскны склад таксама амаль ва ўсіх выпадках больш працяглы, а канцавы паслянаціскны складае прыблізна 80% націскнога [38].

У выпадку інтанацыі пытальнага сказа з пытальным словам і інтанацыі пытальнага сказа з акцэнтным выдзяленнем націскны склад таксама вызначаецца вялікай працягласцю [39]. Нарэшце, пры інтанацыі клічных сказаў (тыпу *Колькі табе год! Есць родныя! Во каб усюды бы былі такія!*) націскны склад таксама выдзелены працягласцю [40].

---

[32] Типологія інтонації мовлення. С. 148.

[33] Там жа. С. 294—296.

[34] Николаева Т. М. Фразовая интонация славянских языков. М., 1977. С. 109—110.

[35] Николаева Т. М. Фразовая интонация славянских языков. С. 49.

[36] Там жа. С. 103.

[37] Там жа. С. 105.

[38] Там жа. С. 106.

[39] Там жа. С. 108.

[40] Там жа. С. 109.

## § 6.9. МЕЛОДЫКА

Сярод усіх прасадычных сродкаў мелодыка з'яўляецца найбольш важным у вырашэнні тых шматлікіх камунікатыўных задач, якія стаяць у маўленні перад інтанацыяй.

Мелодыка прысутнічае ў кожнай вуснай рэалізацыі моўных адзінак рознай даўжыні: слове, сінтагме, фразе. Гэта абумоўлена вялікімі магчымасцямі яе да змяненняў.

Артыкуляцыйна гукі адрозніваюцца па вышыні ў залежнасці ад хуткасці вагання галасавых звязак, якія ажыццяўляюць мадуляцыю паветранай плыні. У сваю чаргу работа галасавых звязак залежыць ад цэлага комплексу ўзаемазвязаных і ўзаемаабумоўленых артыкуляцыйных параметраў [41].

Акустычна меладычныя характарыстыкі маўлення абумоўлены змяненнем у часе самай нізкай складаючай у спектры гука — частатой асноўнага тону (ЧАТ), якая характарызуе перыядычныя і квазіперыядычныя гукі і мае велічыню, адваротную перыяду ваганняў галасавых звязак.

У гуках мовы поўны перыяд вагання адпавядае поўнаму цыклу работы галасавых звязак. Частата асноўнага тону галосных і звонкіх зычных у маўленні можа вар'іравацца у межах ад 50 да 500 Гц і яшчэ ў больш значных граніцах — пры спяванні. Нізкі тон мужчынскага голасу набліжаецца да 50 Гц, а высокія тоны жаночага і дзіцячага галасоў — да 500 Гц.

Пры даследаванні інтанацыі маўлення дыктары — носьбіты беларускай мовы мелі наступны сярэдні ўзровень частаты асноўнага тону: П. (жанчына) — 138 Гц; С. (мужчына) — 137; Ш. (мужчына) — 108 Гц.

На працягу маўлення частата асноўнага тону пастаянна мяняецца. Гэтыя змены частаты асноўнага тону ў часе маюць складаную структуру. Нават суседнія перыяды асноўнага тону часцей за ўсё маюць розную велічыню. У маўленні існуюць хуткія і параўнальна невялікія па дыяпазону ваганні значэнняў параметра на фоне больш павольнага і плаўнага яго змянення.

Акрамя таго, у пэўных месцах моўнай плыні назіраюцца кароткатэрміновыя, але значныя па велічыні адхіленні ад крывой частаты асноўнага тону, якая змяняецца па пэўнаму закону. Гэта, напрыклад, рэзкія падскокі частаты асноўнага тону ў пачатку галосных пасля глухіх змычных зычных або значныя ваганні яго на працягу дрыжачага сананта.

Але найбольш важнай для інтанацыі з'яўляецца складаючая контуру частаты асноўнага тону, якая рэалізуецца ў межах складоў, слоў і сінтагм. Іменна адносна яе гаворыцца аб мелодыцы, і толькі гэтыя танальныя змены ўспрымаюцца як меладычныя і перадаюць інтанацыйную інфармацыю.

Змяненне значэнняў ЧАТ, якое назіраецца на працягу выказвання, як і ў выпадку з тэмпам, адбываецца пад уплывам шматлікіх прычын. Абсалютныя значэнні ЧАТ залежаць ад індывідуальнай вышыні голасу, якая не ўплывае на лінгвістычныя характарыстыкі маўлення. Акрамя таго, індывідуальныя асаблівасці маўлення гаворачага, яго эмацыянальны і псіхічны стан адбіваюцца на дыяпазоне танальных змяненняў і характары меладычнага рысунка выказванняў.

Вымярэнне ЧАТ моўнага сігналу не выклікае цяжкасцей, але вызначыць, як суадносіцца частата ваганняў з успрыманнем вышыні тону, складана.

Адчуванне вышыні гука зале-

---

[41] Кодзасов С. В., Кривнова О. Ф. Фонетические возможности гортани и их использование в русской речи // Проблемы теоретической и экспериментальной лингвистики. М., 1977. С. 180—209.

жыць не толькі ад частаты асноўнага тону, але і звязана з яго іншымі характарыстыкамі — інтэнсіўнасцю, працягласцю і тэмпам. У даследаваннях па прасодыі вышыня асноўнага тону вымяраецца ў герцах. Часам даследчыкі выкарыстоўваюць яшчэ і такую адзінку, як паўтон. Лічыцца, што ў маўленні іменна паўтон—той найменшы частотны інтэрвал, які ўспрымаецца слухачом.

На працягу сінтагмы частата асноўнага тону голасу мяняецца. У залежнасці ад колькасці ваганняў у адзінку часу асноўны тон можа быць высокім або нізкім. Чым большая колькасць ваганняў у адзінку часу, тым вышэй асноўны тон, ■ чым меншая — тым ніжэй.

У большасці моў выдзяляюцца функцыянальна значныя тыпы тонаў, якія адрозніваюцца паміж сабой вышынным узроўнем. Высокі, сярэдні і нізкі вышынныя ўзроўні існуюць у розных мовах.

Па даных А. А. Мятлюк, максімальны ўзровень ЧАТ у беларускай фразе (безадносна да яе камунікатыўнага тыпу) больш нізкі, ■ дыяпазон ЧАТ больш вузкі ў параўнанні з максімальным узроўнем і дыяпазонам ЧАТ у рускай фразе [42].

Для выражэння разнастайных моўных значэнняў і дасягнення шматлікіх камунікатыўных мэт выкарыстоўваюцца змяненні напрамку руху асноўнага тону. Існуе цэлы рад такіх значных змяненняў. Тон можа быць роўным —; сыходным \; узыходным /; роўна-ўзыходным __/; роўна-сыходным ‾‾\; сыходна-ўзыходным \/; узыходна-сыходным /\.

Сыходны тон літаратурнай мовы характарызуецца нярэзкім паніжэннем вышыні голасу на націскным складзе. Просты сыходны тон у беларускай мове звычайна назіраецца ў фразах, якія маюць значэнне пэўнасці, катэгарычнасці, завершанасці. Ён ужываецца ў сцверджаннях, спецыяльных і альтэрнатыўных пытаннях, загадах, воклічах, агульных пытаннях, а таксама ў просьбах і запрашэннях: *А як вам з навіною. Усё пераробіць. Пачакай.*

Узыходны тон перадае няўпэўненасць, некатэгарычнасць, незавершанасць. Ён мае роўна-ўзыходную («увагнутую»), лінейную ўзыходна-сыходную («выпуклую») і ўзыходна-роўную канфігурацыю. Змяненне вышыні голасу асабліва выразнае ў націскной і паслянаціскной структуры тону. Напрыклад, у такіх фразах, як *У яго нешта з сэрцам? Нам цябе ўнізе пачакаць?,* па даных А. А. Мятлюк, можа назірацца: 1) роўны рух або нязначнае паніжэнне на націскным складзе і павышэнне на паслянаціскных __/ і 2) імклівае, рэзкае павышэнне на націскным складзе (упачатку) і падзенне на паслянаціскных складах / \ [43].

Можна параўнаць значэнне аднасінтагменнай фразы, вымаўленай з узыходным рухам тону, з той жа, маючай сыходны рух. *Пойдзем?* (пытанне). *Пойдзем* (сцверджанне).

Роўны тон выкарыстоўваецца ў незавершаных выказваннях і ў агульных пытаннях: *Няўжо ж ты яшчэ не разумееш? Што казаць...*

Узыходна-сыходны тон ужываецца ў эмфатычных сцверджаннях для выражэння кантрасту, пратэсту, моцнага ўражання. Ён таксама сустракаецца ў агульных пытаннях з вялікай ступенню ўпэўненасці, у адказах, якія ўжо мяркуюцца і вядомы, напр. *У яго нешта з сэрцам?*

Сыходна-ўзыходны тон ужываецца ў некаторых відах агульнага пытання і зваротку. У агульных пытаннях адначасова са значэннем за-

---

[42] Метлюк А. А. Взаимодействие просодических систем в речи билингва. Мн., 1986. С. 86—87.

[43] Метлюк А. А. Взаимодействие просодических систем в речи билингва. С. 66—68.

цікаўленасці ён перадае намер гаворачага не здавацца назойлівым.

— Вазьмі маю кнігу.— *Яна табе сёння не спатрэбіцца?* [44]

Меладычная сістэма беларускай літаратурнай мовы, як і ўся прасодыя, апісаны пакуль што толькі ў самых агульных рысах. Гэта тлумачыцца адсутнасцю агульнай тэорыі інтанацыі і сучаснай апаратуры для даследавання мелодыкі.

[44] Метлюк А. А. Взаимодействие просодических систем в речи билингва. С. 73—75.

Але слыхавыя назіранні паказваюць, што аналіз беларускай прасодыі — вельмі перспектыўны напрамак даследавання гукавога ладу мовы. Беларуская мова мае адметнае інтанацыйнае гучанне дзякуючы павольнаму тэмпу і нярэзкаму руху мелодыкі. Інтанацыйныя асаблівасці мовы з'яўляюцца вельмі ўстойлівымі, таму руская мова беларусаў-білінгваў і руская мова рускіх, якія доўгі час жывуць у беларускамоўным асяроддзі, характарызуецца беларускай інтанацыяй, што прыкметна адрозніваецца ад рускай.

*Раздзел* 7

# АРФАЭПІЯ

## § 7.1. ПАНЯЦЦЕ І ПРАДМЕТ АРФАЭПІІ

Арфаэпія (грэч. orthos — правільны, epos — маўленне) — гэта сістэма правіл вымаўлення, якая вызначае правільнасць вуснай літаратурнай мовы. Акрамя гэтых правіл, у склад арфаэпіі ўключаецца арфафанія (orthos — правільны, phone — гук), якая характарызуе правільную артыкуляцыю асобных гукаў. Арфафанічныя ўласцівасці беларускай мовы апісаны ў раздзеле «Артыкуляцыйная характарыстыка гукаў». Таму ў гэтым раздзеле асноўная ўвага будзе ўдзелена правілам вымаўлення гукаў у словах і больш буйных адрэзках гучання.

Калі ў дачыненні да пісьмовай формы зразумела, што маецца на ўвазе пад яе правільнасцю, то ў адносінах да вуснай мовы паняцце правільнасці з'яўляецца менш выразным і акрэсленым. Вядома, што беларусы з усходу гавораць не так, як беларусы з захаду, гаворка жыхароў Палесся адрозніваецца ад гаворкі прадстаўнікоў цэнтральнай Беларусі. Літаратурная мова поўнасцю не супадае ні з адным дыялектам. Пры авалоданні ёю параўнальна лёгка пазбавіцца ад лексічных і граматычных дыялектызмаў, бо лексіка і граматыка супадаюць у вуснай і пісьмовай форме мовы.

Куды цяжэй пазбегнуць мясцовых рыс у вымаўленні. Фанетычны бок мовы найбольш цяжка кантраляваць, гучанне не фіксуецца ў часе, а адразу ж знікае, таму выхадцы з розных мясцовасцей пры карыстанні літаратурнай мовай захоўваюць пэўныя дыялектныя рысы ў вымаўленні. Каб упэўніцца ў гэтым, дастаткова ўважліва ўслухацца ў літаратурную мову, напрыклад, прадстаўнікоў паўночна-ўсходняга дыялекту. Няцяжка заўважыць, што ў іх вымаўленні ёсць сляды дысімілятыўнага акання ([въ$^{а}$да́], [въдз'аны́]), захаванне звонкасці зычных на канцы слоў і перад глухімі зычнымі ([дуб], [ка́зка]), абумоўленае лексіка-граматычнымі ўмовамі падаўжэнне зычных ([жано́ч:ы], [тре́ц':і]) і г. д.

У выніку паняцце літаратурнай нормы вуснай мовы аказваецца менш строгім, чым паняцце нормы пісьмовай мовы. Тым не менш існуюць фанетычныя рысы, якія лічацца абавязковымі для літаратурнага вымаўлення. З пункту погляду арфаэпіі — гэта характар мяккасці зычных як перад галоснымі, так і перад мяккімі зычнымі, дзеканне і цеканне, цвёрдае вымаўленне [ч] і [р], вымаўленне [ў] і [дж] у адпаведных фанетычных пазіцыях, акаючае вымаўленне ненаціскных галосных, фрыкатыўны характар [г] і інш. Агульнымі для ўсіх носьбітаў літаратурнай мовы з'яўляюцца арфаэпічныя правілы прыпадабнення суседніх зычных па мяккасці, глухасці-звонкасці, шыпячых і свісцячых зычных, аканне і яканне і г. д. Імена гэтыя рысы адрозніваюць беларускую мову ад суседніх славянскіх

моў, найбольш блізкіх да яе па лексічнаму складу.

Большасць фанетычных з'яў беларускай літаратурнай мовы адпавядае фанетыцы сярэднебеларускіх гаворак. Не сталі літаратурнай нормай толькі тыя асаблівасці гэтых гаворак, якія не сустракаюцца ў іншых дыялектах. Таму пры рэкамендацыі той або іншай нормы трэба ўлічваць яе пашыранасць у народных гаворках. У цяперашні час гэта магчыма зрабіць, паколькі дыялектная фанетыка падрабязна апісана ў такіх фундаментальных працах, як «Дыялекталагічны атлас беларускай мовы» (Мн., 1963), і «Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак» (Мн., 1968). Толькі тыя моўныя рысы, якія ўласцівы большасці дыялектаў, могуць стаць нормай літаратурнай мовы. Вузкалакальныя па сваім паходжанні з'явы паступова знікаюць, паколькі яны сустракаюцца ў мове меншасці асоб.

Засваенне беларускага літаратурнага вымаўлення пачынаецца ў школе праз мову настаўнікаў, далей працягваецца ў вышэйшых навучальных установах і ў асяроддзі людзей, якія карыстаюцца літаратурнай мовай. Значны ўплыў на яго фарміраванне аказвае пісьмовая форма мовы. На жаль, пры падрыхтоўцы філолагаў у рэспубліцы да гэтага часу мала ўвагі ўдзяляецца практычнаму курсу фанетыкі. У выніку вусная форма літаратурнай мовы застаецца недастаткова развітой і ўнармаванай і цяпер, аб чым сведчаць шматлікія нараканні на недасканаласць яе ў нацыянальным тэатры, абмежаванае ўжыванне ў бытавой і афіцыйна-дзелавой сферах, неўнармаванасць літаратурнага вымаўлення. Шырока не ахапіўшы сферы грамадскага жыцця і навукі, яна не змагла стаць вядучай і ў сферы матэрыяльнай вытворчасці. У гэтай сітуацыі вусная форма цалкам вымушана падпарадкоўвацца пісьмовай, на аснове якой і фарміруюцца рэкамендацыйныя правілы літаратурнага вымаўлення, хоць на практыцы яны рэалізуюцца далёка не ўсімі носьбітамі літаратурнай мовы.

Як відаць ужо з папярэдніх разважанняў, асноўнай прычынай адхіленняў ад норм літаратурнага вымаўлення з'яўляецца захаванне ў мове дыялектных рыс, якія не супадаюць з фанетычнымі рысамі літаратурнай мовы. Гэта можа быць змяненне якасці галосных, вымаўленне на месцы падоўжаных зычных значна скарочаных, а часам і зусім кароткіх, адступленне ад правіл акання і якання, амаль поўны пропуск зычнага [г] у канчатках прыметнікаў і дзеепрыметнікаў, рэдукаванае вымаўленне спалучэння [с'ц'], парушэнне правіла аглушэння і азванчэння і шмат іншых. У вымаўленні розных асоб зараз можна сустрэць шматлікія варыянты аднаго і таго ж слова: [вадз'аны́], [въдз'аны́], [выдз'аны́]; [шес'ц'], [шес'], [шêс'], [шêс'ц']; [латы́шск'і], [латы́скі]; [б'есц'аб'é], [б'ес'ц'аб'é], [б'іс'ц'аб'é]; [йакбы́ц:ам], [йакбы́цам], [йаgбыц:ам]; [кс'андзы́], [кс'анзы]; [йеш бóл'ей], [ейж бóл'ей]; [раж:ы́ца], [раж-ы́ц:а]; [прасл'éс], [празл'éс], [праз'л'éс]; [брыгадз'íр], [брагадз'íр] і г. д.

Другой прычынай парушэння арфаэпічных норм з'яўляецца двухмоўная сітуацыя, пры якой адзін і той жа чалавек карыстаецца то рускай, то беларускай мовай. Пры слаба выпрацаваных навыках вымаўлення звычайна парушаюцца арфаэпічныя правілы як той, так і другой мовы. Адхіленні, выкліканыя двухмоўем, сведчаць аб недасканалым валоданні рускай і беларускай мовамі. У свядомасці «парушальніка» аказваюцца недастаткова размежаванымі фанетычныя сістэмы абедзвюх моў і няясна ўсведамляюцца адрозненні, якія існуюць паміж імі. Адхіленні ад беларускага літаратурнага вымаўлення назіраюцца ў тых людзей, якія часцей карыстаюц-

ца рускай мовай і для каго рускае вымаўленне больш звычнае. Спрыяльнай умовай для адхіленняў пад уплывам двухмоўя бывае часта тое, што асобныя фанетычныя рысы дыялектнай беларускай мовы супадаюць з фанетычнымі рысамі рускай мовы. Напрыклад, у паўночна-ўсходнім дыялекце назіраецца рэдукцыя ненаціскных галосных, якая ў радзе гаворак нагадвае рэдукцыю ў рускай літаратурнай мове.

Пад уплывам рускай мовы магчыма мяккае або паўмяккае вымаўленне [ч], губна-зубнога [в] на месцы губна-губнога [ў], вымаўленне [дж] як спалучэння гукаў або замена яго на [ж], паўмяккае [р], няпоўнае змякчэнне або цвёрдае вымаўленне [з'], [с'] перад мяккімі зычнымі і іншыя адхіленні: [пла́ч'іш], [ч'іты́р'і], [трав] або нават [траф], [урад-жа́й], [у сн'е́], [зл'іва́ц'], [хажу́], [вы́н'есц'і], [зб'ерахч'і́] і г. д.

Трэцяй істотнай крыніцай памылак у вымаўленні з'яўляецца палітарнае чытанне. Літары не заўсёды абазначаюць тыя гукі, якія трэба вымаўляць. Таму пры выступленнях, калі прамова падрыхтавана раней, частка гукавых асаблівасцей павінна ўзнаўляцца без апоры на запіс. Але гэта магчыма толькі пры добра адпрацаваных навыках вымаўлення. Часта не звяртаюць увагі на адрозненні паміж пісьмом і вымаўленнем і чытаюць, як напісана: [адку́л'], [см'ех], [н'етре́ба], [б'езгро́ша], [расчу́л'ена], [наре́чцы], [мы́йеш-с'а], [гарадск'і́], [камандз'і́р], [сн'е́жан'], а трэба было б вымаўляць: [атку́л'], [с'м'ех], [н'ятре́ба], [б'азгро́ша], [рашчул'ена], [наре́ц:ы], [мы́йес':а], [гарацк'і], [кам'ан'дз'і́р], [с'н'е́жан'].

Палітарнае чытанне прыводзіць да таго, што адхіленні, узнікшыя пад уплывам дыялектнай і рускай мовы, замацоўваюцца. Адначасова ўзнікаюць і спецыфічныя памылкі: вымаўленне ў некаторых выпадках [і] без прыстаўнога [й] у пачатку слова ([ін'ей], [іхн'і]); няправільнае ўжыванне [g] выбухнога, які сустракаецца ў запазычаных галоўным чынам з польскай і літоўскай моў словах, бо асобнай літары для гэтага гука ў беларускай мове няма ([gанак], [gуз'ік]); вымаўленне часціцы *не* і прыназоўніка *без* з [е], калі яны стаяць перад словам з націскам на першым складзе, у той час як тут трэба вымаўляць [а] ([б'ез:бро́йны], [н'езро́б'іш]).

Арфаэпічныя нормы, як і іншыя з'явы мовы, толькі адносна стабільныя. Вельмі паступова, але ўсё ж яны змяняюцца. Напрыклад, назіраецца тэндэнцыя да уніфікацыі вымаўлення ненаціскных галосных: зараз дысімілятыўнасць носьбітаў літаратурнага вымаўлення не так ярка выражана, як у гаворках паўночна-ўсходняга дыялекту, а зводзіцца ў асноўным да нерэгулярнага з'яўлення рэдукаваных галосных пасля цвёрдых зычных і спарадычнага з'яўлення [і] на месцы перадначіскных [е], [а] пасля мяккіх зычных, калі пад націскам аказваецца [а] ([пъпул'а́рнъс'ц'], [н'іма́ла], [в'іра́нда]).

Змены абумоўлены тымі ж прычынамі, якія выклікаюць і адхіленні ад вымаўленчых норм. Для эвалюцыі беларускага літаратурнага вымаўлення найбольшае значэнне маюць прычыны, звязаныя з уплывам дыялектнай мовы. Характэрнай зменай пад уздзеяннем дыялектнай мовы было замацаванне вымаўлення і напісання форм першай асобы множнага ліку дзеясловаў з канчаткам *-ом* (*бяром*). Удакладненне правіл арфаграфіі таксама прыводзіць да змянення гучання слоў. Прыкладам можа служыць гісторыя інтэрнацыянальных слоў *сацыялізм, піянер,* якія раней пісаліся і вымаўляліся *соцыялізм, піонер,* і многіх слоў іншамоўнага паходжання.

Для таго каб мова магла быць зручным сродкам камунікацыі, трэба строга прытрымлівацца вымаўленчых норм, якія існуюць у даны

перыяд, і ні ў якім разе не спрыяць іх больш хуткаму змяненню. Паскарэнне гэтага працэсу прывядзе да хаатычнасці і неўпарадкаванасці мовы, у выніку — да падзення яе аўтарытэту.

Патрабавальнасць да вуснай мовы розная ў залежнасці ад абставін яе ўжывання. Пры звычайнай размове гаворачыя менш уважліва сочаць за сваім вымаўленнем, часам дапускаюць больш поўную іх асіміляцыю, менш выразна артыкулююць гукі: [ацсадз'іц'], [до́сцы], [шес'], [прабáц':е], [до́ш пачáўс'а], [кудыс'], [йго́лка] і г. д. Такі спосаб вуснага выказвання можна назваць *размоўным* стылем вымаўлення.

Пры карыстанні мовай у афіцыйных абставінах дыкцыя больш выразная, тэмп больш павольны, кожны гук вымаўляецца дакладна і ясна. У гэтым выпадку карыстаюцца *поўным* стылем вымаўлення. Тэкст выступлення часта рыхтуецца загадзя, часам проста чытаецца. Гаворачаму вельмі важна не прыцягваць увагу слухачоў асаблівасцямі свайго маўлення, таму ён імкнецца гаварыць асабліва выразна, старанна артыкулюючы гукі. Зразумела, што пры такім спосабе вымаўлення найбольшая небяспека ў пераходзе на палітарнае чытанне.

Абодва стылі з'яўляюцца літаратурнымі і патрабуюць захавання арфаэпічных норм, хоць гэтыя нормы і не цалкам супадаюць. Аднак на практыцы размоўны стыль характарызуецца наяўнасцю фанетычных і лексічных дыялектызмаў, нават русізмаў, што сведчыць аб недастатковай моўнай культуры субяседнікаў.

Для авалодання нормамі літаратурнага вымаўлення неабходна ўважліва ўслухоўвацца ў яго лепшыя ўзоры і засвойваць іх. І хаця вымаўленне — працэс аўтаматычны, усё ж яго можна і трэба кантраляваць. Пры належнай трэніроўцы магчыма навучыцца добра ўсведамляць становішча языка, дзеянне губ, мяккага паднябення і іншых моўных органаў. Пазбегнуць адхіленняў у арфаэпіі можна толькі ў тым выпадку, калі будуць заўважаны адрозненні, якія існуюць паміж узорам і сваім уласным вымаўленнем. А для гэтага неабходна пастаянна трэніраваць моўны слых, настойліва развіваць здольнасць да імітацыі ўзорнага маўлення.

## § 7.2. ЛІТАРАТУРНЫЯ НОРМЫ ВЫМАЎЛЕННЯ ГАЛОСНЫХ

Пад націскам у беларускай мове пасля цвёрдых зычных супрацьпастаўлены пяць галосных гукаў: [а], [о], [е], [у], [ы]. Яны выкарыстоўваюцца для адрознення слоў і іх граматычных форм. Пары слоў *вол : вал, цэп : цап, лудзіць : ладзіць, стыць : стаць, болька : бэлька, кут : кот, сон : сын, бярэ : бяры, шуба : шыба* адрозніваюцца з дапамогай гэтых пяці націскных галосных. Зразумела, што няяснае вымаўленне галосных у такіх парах слоў выклікала б або неразуменне іх, або двухсэнсоўнасць.

Націскныя галосныя, за выключэннем [о], [е], ва ўсіх дыялектах беларускай мовы вымаўляюцца аднолькава. Пры авалоданні літаратурным вымаўленнем на іх варта звярнуць асаблівую ўвагу, таму што ў беларускай мове яны разам з ненаціскнымі галоснымі — самыя частыя гукі, якія складаюць каля 40% тэксту.

Гук [а] — самы часты з усіх гукаў — ва ўсіх дыялектах вымаўляецца аднастайна, але ў невялікай зоне пад націскам на яго месцы можа быць [о] ([насто́ўн'ік], [про́ўда]). Ад гэтай асаблівасці мясцовага маўлення лёгка пазбаўляюцца і пры карыстанні літаратурнай мовай пачынаюць вымаўляць [настáўн'ік],

[пра́ўда], тым больш што і ў гаворках яна пачынае знікаць.

Гук [о], як ужо адзначалася, неаднародны па гучанню. Пачатак яго ўспрымаецца як [у]-падобны гук, а канец у пэўнай ступені набліжаецца да [а]. Аднак яго дыфтангічнае вымаўленне [дуом] або занадта моцнае звужэнне, калі ён пачынае набліжацца да [у] ([ô] закрыты), як у некаторых выхадцаў з поўдня Беларусі, з'яўляецца парушэннем літаратурнай нормы. Вымаўленне яго накшталт [о] ў польскай мове таксама з'яўляецца адхіленнем ад літаратурнай нормы.

Гук [е] ў беларускай мове сустракаецца даволі часта пасля цвёрдых зычных, асабліва ў запазычаных словах: [се́рца], [вузде́чка], [пе́цкац'], [бе́л'ка], [зе́дл'ік], [ре́ха], [ле́пац'], [ве́рхал], [це́гла], [че́знуц'], [те́рм'ін], [де́рма], [де́рб'і], [бес] (бэз) і г. д.

У нязменных запазычаных назоўніках, якія заканчваюцца на [е], вымаўленне адпавядае напісанню ў большасці выпадкаў: [шымпанзе́], [кашне́], [гл'асе́], [кафе́], [падэдэ́], [варйете́]. Паслядоўна змякчаюцца перад [е] зычныя [л] і [к]: [букл'е́], [рел'е́], [суфл'е́], [п'ірк'е́], [кам'ун'ік'е́]. Губны [м] у гэтым выпадку можа змякчацца (што адпавядае напісанню), але дапускаецца і вымаўленне без змякчэння: *рэнаме* [ренам'е́] і [ренаме́], *рэзюме* [рез'ум'е́] і [рез'уме́], *бурыме* [бурым'е́] і [бурыме́]. У запазычаннях, якія заканчваюцца на *-мен,* [м] звычайна памякчаецца: [б'із'н'ес'м'е́н], [туркм'е́н], [пал'іс'м'е́н], [яхтс'м'е́н].

На дыялектнай аснове магчыма адхіленне ў вымаўленні [е] ў напрамку яго звужэння, павелічэння яго «закрытасці» (закрыты [ê], які крыху нагадвае [і] або [ы]: [шêрс'ц'і], [цêп], [л'êс], [хл'êп]). У літаратурным вымаўленні з'яўленне [ê] непажадана.

Шырокае выкарыстанне галоснага [ы] ў запазычаных словах пасля зычных [д], [т] надае спецыфічную афарбоўку літаратурнаму вымаўленню: [парты́йны], [ды́з'ел'], [ды́спут], [ды́скант], [ды́ктар], [тып], [тыгр], [ты́тул'ны], [ты́фус] і г. д. Пасля [г], [к], [х] гэты гук не ўжываецца, за выключэннем гукапераймальных і запазычаных слоў: [гы́ркац'], [кыш], [кы́рхац'].

У дыялектах, асабліва паўночнаўсходніх, [ы] і [е] значна менш пашыраны, носьбіты гэтых гаворак вымаўляюць [с'ерца], [вуз'дз'ечка], [дз'із'ел'], [ц'іф], [дз'іктар] і г. д. Калі ў размоўным стылі такое вымаўленне яшчэ дапушчальна, то ў поўным стылі гэта адступленне ад арфаэпічных норм.

Шэраг слоў дапускае варыянтнасць націскных галосных: [абгава́рвац'] і [абгаво́рвац'], [зам'о́рзлы] і [зам'е́рзлы], [зацурча́ц'] і [зацурчэ́ц'], [дака́нчвац'] і [дако́нчвац'], [махра́сты] і [махры́сты], [шны́рыц'] і [шна́рыц'], [шкра́бац'] і [шкро́бац'], [п'аче́ра] і [п'ачо́ра].

Пасля розных катэгорый мяккіх зычных частотнасць ужывання галосных розная. Рэдка ўжываецца галосны [у] пасля мяккіх зычных [б'], [в'], [ф'], [м'], [п'], а таксама [г'], [к'], [х']. Ён сустракаецца толькі ў запазычаных словах тыпу [б'уст], [б'у́рг'ер], [ф'у́рер], [рев'у́], [м'уры́д], [п'уре́], [г'уго́], [к'ухл'а] і г. д. Радзей ужываюцца пасля мяккіх зычных і ўсе іншыя націскныя галосныя, чым пасля цвёрдых зычных.

У сувязі з рухомасцю націску са змяненнем слова часта адбываецца і змена месца націску, у выніку чаго былыя націскныя галосныя становяцца ненаціскнымі. Ненаціскныя галосныя ў першым пераднаціскным складзе ў параўнанні з націскнымі галоснымі карацейшыя ў 2—2,5 раза, але на слых яны захоўваюць асноўныя свае якасці і ўспрымаюцца даволі выразна. У іншых пераднаціскных і занаціскных складах адбываецца далейшае скарачэнне даўжыні, але і тут галосныя захоў-

ваюць свае якасці і ўласцівасць адрозніваць словы: *вялі : вілі, сырок : сурок, зубіць : забіць, пылок : палок, дымавы : дамавы, ляплю : люблю, купаць : капаць.* Асабліва ўстойлівыя па сваіх адрознівальных якасцях галосныя [і], [у], якія ва ўсіх ненаціскных складах процістаяць не толькі адзін аднаму, але і галосnaму [а]. Ужыванне астатніх ненаціскных галосных значна абмежавана дзеяннем правіл акання і якання.

Аканнем называюць чаргаванне ў вымаўленні націскных галосных [о], [е] пасля цвёрдых зычных з ненаціскным галосным [а], калі з іх сыходзіць націск: [нóг'і] — [нагá], [дрéмл'е] — [драмл'ý], [цéгла] —[цагл'áны], [кол] — [калы́], [шéрс'ц'] — [шарс'ц'аны́] і [трáвы] — [трав'é], [дал'] — [дал'óк'і] і г. д. Такое супадзенне галосных назіраецца як у пераднаціскных, так і ў паслянаціскных складах. Аднак ёсць група слоў, якія аканню не падпарадкоўваюцца. Гэта некаторыя словы з націскнымі складамі [ро], [ло], [ре]. Калі галосныя [о], [е] ў аднакарэнных словах аказваюцца не пад націскам, то яны супадаюць з [ы]: [кроў] — [крыв'í] [хрéз'б'íны] — [хрышчéн':е], [глóтка] — [глытóк], [ блóх'і] — [блыхá], [крóшка] — [крышы́ц'] і г. д. Шмат якія запазычаныя праз рускую мову словы вымаўляюцца з [ы] пасля [р] і [ц]: [брыз'éнт], [цырымóн:ы], [рыз'íна], [трывóга], [рысóра], руск. *брезент, церемонный, резина, тревога, рессора.* Згодна з літаратурным вымаўленнем, словы *лодар, водар* і некаторыя іншыя вымаўляюцца з ненаціскным[а]. Пад уплывам рускага *лодырь* у гэтых словах часам назіраюцца адхіленні ад нормы: [лóдыр], [вóдыр].

Ненаціскны [е] захоўваецца ў шматлікіх запазычаных словах: [реглáм'ент], [тэксты́л'], [еканóм'іка], [желац'íна], [жен'éва], [ревал'ýцыйа] і г. д. Усе з'явы, звязаныя з аканнем, адэкватна адлюстроўваюцца на пісьме.

Чаргаванне націскных галосных [о], [е] з ненаціскным [а] пасля мяккіх зычных называюць яканнем: [в'éц'ер] — [в'атры́], [в'осны] — [в'аснá], [л'от] — [л'адóвы], [м'от] — [м'адóвы], [с'п'ец'] — [с'п'авáц'] і г. д. У асобным вымаўленні словы *вялі* і *вілі, спявацца* і *співацца* добра пазнаюцца і не блытаюцца. Яканне распаўсюджваецца толькі на першы пераднаціскны склад. У астатніх пераднаціскных і паслянаціскных складах галосны [о] пераходзіць у гук [е]: [в'еснавы́], [м'едагóнка] і інш. Галосны [а] тут можа быць толькі ў тых выпадках, калі ён узыходзіць да этымалагічнага [а]: [п'атачóк], [п'ац'арн'á], [л'аскатáн':е], [л'амантавáц'] і г. д. Галосны [е] захоўваецца ў першым пераднаціскным складзе ў запазычанай лексіцы: [с'езóн], [п'ерóн], [ел'ектрóн], [б'енз'íн].

Існуе група аднакарэнных дзеясловаў, у якіх назіраецца чаргаванне [е] — [і] замест якання: [з'дз'éрц'і] —[з'дз'ірáц'], [зап'éрц'і] — [зап'ірáц'], [зац'éрц'і] — [зац'ірáц']. Тое ж і ў некаторых аддзеяслоўных назоўніках: [с'в'ет] — [с'в'ітáн':е], [бл'еск]—[бл'іскав'íца], [прыв'éтна] — [прыв'ітáн':е].

Частка слоў дапускае вымаўленне [і] на месцы [е]: *няма* [н'íма], *дзевяты* [дз'ів'áты], *дзесяты* [дз'іс'áты]. Гук [е] ў ненаціскных складах, акрамя першага пераднаціскнога, часам вымаўляецца з невялікім зрухам у бок [а], таму пары слоў тыпу *аленем : аленям, праўленне : праўлення, рыбацкае : рыбацкая* і г. д. без кантэксту не заўсёды можна адрозніць на слых. Зразумела, што такія галосныя цяжка адлюстраваць на пісьме пад дыктоўку.

Адной з самых распаўсюджаных рыс вымаўлення ненаціскных галосных з'яўляецца ўстойлівае захаванне ў былых прадстаўнікоў гаворак з дысімілятыўным аканнем рознай

ступені рэдукцыі. З-за шырокай распаўсюджанасці гэтай з'явы і шматлікасці яе носьбітаў нельга гаварыць аб ёй як проста аб адхіленні ад літаратурных норм. Тым больш, што элементы дысімілятыўнага акання і якання пранікаюць нават у вымаўленне тых асоб, дыялектнай аснове мовы якіх яно не характэрна.

Нягледзячы на тое што дысімілятыўнасці процістаіць пісьмовая мова, у якой яна не знаходзіць адлюстравання, прапаганда апісаных вышэй норм праз школу і сродкі масавай камунікацыі, яна працягвае суіснаваць побач з недысімілятыўным тыпам вымаўлення нават у колах творчай інтэлігенцыі. Безумоўна, яна не так ярка выражана, як у паўночна-ўсходніх гаворках, а зводзіцца толькі да нерэгулярнага з'яўлення рэдукаваных галосных пасля цвёрдых зычных і спарадычнага вымаўлення [і] на месцы перадначыскных [е], [а] пасля мяккіх зычных, калі націскным з'яўляецца [а]: [н'ел'га н'іскъза́ц'], [н'іхай], [пъжъртава́ў] і [дастáў], [пъртызâнск'ійа], [увъpвáц'], [уз'н'ілáс'а] і г. д.

З гэтым тыпам вымаўлення звязана звычайна і паяўленне рэдукаваных у занаціскных пазіцыях: [жáнрьх], [за м'ёжьм'і], [пóс'п'іхъў], [рáдъс'ц'] і г. д.

Такое вымаўленне, хоць і шырока распаўсюджана, нельга лічыць узорным.

Націскныя галосныя ў пачатку слова ў спрадвечна беларускіх словах сустракаюцца вельмі рэдка. У асноўным тут сустракаюцца толькі ненаціскныя галосныя: *авёс, імавернасць, участак* і г. д. Сярод слоў з пачатковымі ненаціскнымі галоснымі выдзяляецца вялікая група, дзе галосны не каранёвы, а прыстаўны. Прыстаўнымі могуць быць толькі галосныя [а] і [і]. Яны з'яўляюцца перад спалучэннямі зычных [р], [л], [м], [н] з другімі зычнымі і зрэдку перад некаторымі іншымі спалучэннямі зычных: *аржаны, ігруша, імгла, імгненне, імчаць, імшара, іrваць, ірдзець, істужка.* Некаторыя з гэтых слоў дапускаюць як прыстаўны гук [а], так і прыстаўны [і]: *аржаны* і *іржаны, амшара* і *імшара.* З другога боку, некаторыя словы з пачатковымі ненаціскнымі галоснымі могуць ужывацца і без іх: *агарод* і *гарод, іграць* і *граць.*

Пры ўтварэнні новых слоў з дапамогай прыставак на зычны ад слоў, што пачынаюцца некаторымі спалучэннямі зычных, у тым ліку і спалучэннямі, перад якімі ўзнікаюць прыстаўныя галосныя, паміж прыстаўкай і коранем паяўляецца ўстаўны галосны: *абапрэць, абарваць, адабраць, адагнаць, адагнуць, адаспаць, адассаць, падагрэць, падаткнуць,* але *аббрыць, адблытаць, падгніць.*

Прыназоўнікі, якія заканчваюцца на зычны гук, перад формамі асабовага займенніка *мной, мне* набываюць галосны [а]: *пада мной, перада мной, ка мне, са мной.*

Беларуская мова пазбягае спалучэнняў галосных у межах слова. Яны магчымы толькі на марфемных стыках і ў некаторых запазычаных словах: *адажыо, аул, вакуоль, вуаль, дыета, зааранн, паабіваць.* У большасці ж выпадкаў пры засваенні запазычанняў паміж спалучэннем галосных развіўся [й], вымаўленне якога абавязковае: *біялогія, дыялог, радыё, фізіёлаг.*

*Беглымі* называюць галосныя, якія знікаюць пры змене слоў, напрыклад: *пень—пня, дзень—дня, зажынак—зажынкі, пакунак—пакунка, сон—сну.* Беглымі могуць быць націскныя галосныя [о], [е] і ненаціскны [а]: *акно—акон, веяць—адвейваць, дзень—дня, дошка—дошак, лыжка—лыжак, сеяць—прасейваць.* Гэта з'ява назіраецца ва ўсіх славянскіх мовах. У беларускай мове ёсць група слоў, у якіх развіўся галосны ў канцавых спалучэннях «зычны+[л], [л'], [р]». Гэта словы тыпу *асяцёр, бабёр, віхор (ві-*

*хар), карабель, хіцёр.* Пры змяненні слоў гэтыя галосныя знікаюць: *асятра, бабра, віхру, карабля, хітры.*

Пры выпадзенні беглых галосных у шэрагу слоў узнікаюць спалучэнні зычных, перад якімі паяўляюцца прыстаўныя галосныя. Частка з гэтых слоў можа мець фанетычныя варыянты і без беглых галосных: *лёну* і *ільну, лобу* і *ілбу, моху* і *імху.*

Вялікая група запазычаных слоў заканчваецца неўласцівымі беларускай мове спалучэннямі зычных, паміж якімі ў вымаўленні могуць паяўляцца вельмі кароткія беглыя галосныя гукі: *дубль, кадр, кедр, міністр, спектакль* (у размоўным стылі дапускаецца дуб$^{а}$ль, кад$^{а}$р, кед$^{а}$р, мініст$^{а}$р [1]. Словы *дзёран* і *сціран* вымаўляюцца і пішуцца з устаўным *а*, а словы тыпу *гімн, горн* і вымаўляюцца і пішуцца без галоснага ўнутры канцавога спалучэння зычных. Асобныя словы маюць маўленчыя варыянты з галоснымі і без іх. Гэтыя галосныя не з'яўляюцца беглымі: *раздзець* і *раздзець, упіхнуты* і *упхнуты, шамцець* і *шамацець.*

У моўнай плыні галосныя могуць апынуцца ў такіх фанетычных умовах, якія выклікаюць іх змены або чаргаванні. Такія змены адбываюцца з галоснымі [і] і [у]. Словы, якія пачынаюцца з прыстаўкі *у-*, апынуўшыся ў моўнай плыні пасля слова на галосны гук, змяняюць [у] на [ў], калі паміж гэтымі словамі няма паўзы: *ён устаў* і *яна ўстала, ішоў уперадзе* і *ішла ўперадзе, зрабіць умацаванні* і *палявыя ўмацаванні. У* вымаўленні такі пераход адбываецца і ў запазычанай лексіцы: *займаюся ва універсітэце* [ва ўн'ів'ерс'ітэ́ц'е], *гэта утопія* [гэта ўто́п'ійа], *скарбніца унікальных рэчаў* [ска́рбн'іца ўн'іка́л'ных рэ́чаў], *здаць ва утыль* [здац' ва ўтыл'].

Прыназоўнік *у* пасля галоснага гука перад зычным пераходзіць у *ў*: *схадзіць у лес* і *пайсці ў лес, гуляць у футбол* і *гулялі ў футбол, перапішам у сшытак* і *перапішыце ў сшытак.*

Словы з пачатковым [у] захоўваюць яго нязменна і пасля галоснага, калі перад імі ў моўнай плыні ёсць паўза: *ляжалі знаходкі, унікальныя і звычайныя; спытала, у чым справа; гэта дзяўчынка — унучка Адаркі; маладая кабета — урач.*

Ненаціскны галосны [і] ў пачатку слоў, трапіўшы ў становішча пасля слоў, якія заканчваюцца на галосны гук, пры адсутнасці паўзы можа пераходзіць у [й]: [йон ішоў], [йана йшла], [найгрышчы].

Злучнік *і* пасля галосных перад зычнымі, а часам і перад галоснымі таксама можа пераходзіць у *й*: [мац'і й дачка], [ластаўк'і й шпак'і]. У гэтых выпадках дапускаецца і іншы варыянт вымаўлення. У поўным стылі вымаўлення гук [і] тут захоўваецца ў адпаведнасці з напісаннем: *яна ішла, на ігрышчы, маці і дачка.* Пры адсутнасці паўз паміж словамі пасля цвёрдых зычных гук [і] пры вымаўленні мяняецца на [ы]: [зыго́лк'і], [йо̀нышо́ў], [бра̀тысва́т], [сто́лыстул].

Пры словаўтварэнні адбываюцца аналагічныя змены. Калі прыстаўка заканчваецца на галосны гук, а слова пачынаецца з [і], [у], то гэтыя [і], [у] пераходзяць у [й], [ў]: *іграць—зайграць, ісці—увайсці, унук—праўнук, устаць—прыўстаць.*

Калі прыстаўка заканчваецца на цвёрды зычны гук, а слова пачынаецца з [і], то [і] пераходзіць у [ы]: *іменны—адыменны, імправізаваць—зымправізаваць, імчаць—падымчаць, іржавець—падыржавець, ісці—адысці.* Гэта з'ява адлюстроўваецца і на пісьме. У складаных словах пасля

---

[1] Літара $^{а}$ абазначае кароткі [а]-падобны прыгук паміж зычнымі.

21. Зак. 1429

цвёрдага зычнага [і] таксама пераходзіць у [ы] пры вымаўленні: *папалітынфармацыя, педынстытут, спортынвентар* і г. д.

Калі слова пачынаецца з прыстаўнога галоснага, а прыстаўка заканчваецца на галосны, то прыстаўны галосны знікае: *ілгаць—далгацца, ілгаць—прылгнуць, імчаць—дамчаць, ірваць—вырваць, іржавець—заржавець.*

Такім чынам, своеасаблівасць гучання вуснага беларускага слова цалкам абумоўліваецца правіламі вымаўлення ненаціскных галосных, а таксама фанетычнымі працэсамі, звязанымі са змяненнем фанетычных умоў, у якіх ужываюцца ненаціскныя галосныя.

## § 7.3. ЛІТАРАТУРНЫЯ НОРМЫ ВЫМАЎЛЕННЯ ЗЫЧНЫХ ГУКАЎ

Роля зычных гукаў для ўспрымання і адрознення слоў большая, чым галосных. Большасць слоў апазнаецца толькі па зычных гуках, параўн.: *г...л...в —галава, л...тч...к—лётчык, п...ст...ць—постаць.* Адрозненне слоў з дапамогай зычных залежыць ад фанетычных умоў, у якія трапляюць гэтыя зычныя. Тыя з іх, якія ніколі не сустракаюцца ў тоесных фанетычных пазіцыях, не могуць адрозніваць словы. Так, гукі [в] і [ў], [в'] і [ў] не сустракаюцца ў адной пазіцыі, яны чаргуюцца, і таму нельга знайсці двух такіх слоў, якія б адрозніваліся толькі [в] і [ў] або [в'] і [ў]. Гук [ў] з'яўляецца на месцы [в], [в'] перад зычнымі: *галава — галоўка, на траве—на траўцы, човен—чаўны.*

У пэўных выпадках у беларускай мове [ў] з'явіўся на месцы [л]: *браў, быў, воўк, поўны, стаў, тоўсты, шоўк* і г. д. Гэты пераход зараз не адбываецца, а супрацьпастаўленне [л] — [ў] працягвае служыць для адрознення слоў: *ваўкі: валкі, колкі: коўкі, палка: Паўка, тоўк: толк* і г. д.

Чаргаванне [ў] з [у] прывяло да семантычнай тоеснасці прыназоўнікаў *в, у,* бо іх выкарыстанне цалкам вызначаецца фанетычнымі ўмовамі: *ёсць у мяне, забралі ў мяне, зайшоў у дом, зайшлі ў дом, купіла ў мяне,* параўн. руск.: *есть у меня, забрали у меня,* але *зашел в дом* і г. д.

Зычны гук [g] выбухны ўжываецца толькі ў невялікай колькасці слоў небеларускага паходжання: [шваg'ер], [шваg'ерка], [gвалт], [gарн'ец], [gанак], [gуз'ік], [gо'нта], [н'аg'еgлы], [g'ірса], [gаза], [g'ізавац'], [gіл'за], [аgрест]. Вымаўляецца ён таксама ў словах са спалучэннем [зg]: [абрызgаць], [рэзg'іны], [мазg'і], [розg'і], [бразgац'ен':е], [заведзgаны], [м'азgа] і ў некаторых іншых. Здавалася б, што існуе пара слоў, якая адрозніваецца толькі [g] выбухным і [г] шчылінным: [gаз'е] (Т. скл. ад *газа),* [газ'е] (М. скл. ад *газ).* Аднак выбухны [g] у слове *газа,* як і ў многіх іншых, ужываецца непаслядоўна. Існуе многа слоў, запазычаных з [g] выбухным, але цяпер яны вымаўляюцца з [г] шчылінным: *газ, газета, гарнізон* і г. д. Нават пералічаныя вышэй запазычаныя словы ў размоўным стылі таксама вымаўляюцца з [г] шчылінным. Замена ж этымалагічнага [г] шчыліннага на [g] выбухны ніколі не назіраецца. Таму гук [g] выбухны варта разглядаць як рэлікт, што паступова знікае. Гэты гук выконвае часцей за ўсё стылістычную ролю — указвае не толькі на паходжанне слова, але і надае пэўную афарбоўку маўленню. У многіх дыялектах спалучэнне [зg] перайшло ў [ск], вымаўленне якога ў літаратурнай мове з'яўляецца адхіленнем ад нормы. У літаратурнай мове такая замена замацавалася толькі ў слове *віск.*

Пары гукаў [к], [к'], [г], [г']

адрозніваюць вельмі малую колькасць слоў: *гэта: гета, гот(ы): Гёт(э), гыр(каць): гір(а), кыш: кіш(кі)*. Зычныя [х], [х'] не могуць сустракацца ў адной пазіцыі і, значыць, адрозніваць словы: *хата, хеты, хіба, хітры, хутка*. Гук [х'] сустракаецца толькі перад галоснымі [і], [е], гук [х] — перад астатнімі галоснымі, перад зычнымі і ў канцы слоў.

Гук [дз] ужываецца ў некаторых беларускіх словах гукапераймальнага характару і ў нязначнай колькасці слоў, запазычаных з польскай мовы: *вэдзгаць, дзвынкаць, дзылінкаць, дзы́нкаць, дзындра, ксяндза (ксёндз), нэндза, пэндзаль*. Вымаўляецца ён і на месцы [ц] перад звонкімі зычнымі: *палец бы прыняў* [па́л'едз бы прын'а́ў]. Супрацьпастаўленасць [дз] усім іншым зычным вельмі слабая, а пры нядбайным вымаўленні назіраецца замена яго найбольш блізкім гукам [з]. Аднак гэта адхіленне ад нормы. Недапусціма вымаўленне [дз] у гэтых словах як [д] + [з].

Адносна рэдка ўжываецца і гук [дж]. Вымаўляць яго трэба як адзіны гук, а не як спалучэнне [д] + [ж]. Ён сустракаецца галоўным чынам у дзеяслоўных формах і аддзеяслоўных назоўніках. Часам назіраецца яго замена гукам [ж], асабліва ў словах *гараджанін, джэмпер*, што з'яўляецца адхіленнем ад нормы. У запазычаных праз рускую мову словах дапускаецца на яго месцы вымаўленне спалучэння гукаў [д] + [ж]: *джэм, Джакарта, камбаджыец, таджык*. У беларускіх словах раздзельнае вымаўленне [д] + [ж] сведчыць аб тым, што марфемная граніца праходзіць паміж гэтымі гукамі: *ад-жаць, ад-жоўваць, ад-жынаць, ад-жыць, пад-жартаваць, пад-жаць, пад-жоўкнуць*. Супрацьпастаўленне гэтага гука іншым гука́м не вельмі ўстойлівае, але яно выкарыстоўваецца для адрознення слоў *важу : ваджу, жала : джала, хаду : хаджу*.

Большасць цвёрдых і мяккіх зычных утварае пары, якія адрозніваюць словы. Такіх пар 13: [б] : [б'], [п] : [п'], [м] : [м'], [ф] : [ф'], [в] : [в'], [д] : [дз'], [т] : [ц'], [з] : [з'], [с] : [с'], [л] : [л'], [н] : [н'], [к] : [к'], [г] : [г']. Частка гэтых пар адрозніваецца ў канцы слова: *брат : брацъ, воз* [*вос*] *: вось, вугал : вугаль, кон : конь, молат : маладзь*. Пары гукаў [д] : [дз'], [з] : [з'] тут не адрозніваюцца, таму што звонкія зычныя ў канцы слова аглушаюцца. Пары мяккіх і цвёрдых зычных адрозніваюцца і ў сярэдзіне слова перад зычнымі: *банка : банька, воску* (Р. скл. ад *воск*) : *воську* (В. скл. ад *воська*), *колкі : колькі*.

Пары гукаў, якія адрозніваюцца ў канцы слова і ў сярэдзіне перад зычнымі, захоўваюць свае адрозненні і перад галоснымі: *падлог : падлёг, паднос : паднёс, сябе : сабе, цябе : табе*. Астатнія пары цвёрдых і мяккіх адрозніваюцца толькі перад галоснымі: *бары : бяры, ваду* (В. скл. ад вада) *: вяду, гэта : гета, дзяры : дары, куры(ць) : Кюры, ламы : ламі, маты : мяты, пяць : падзь* [*пац'*], *рабы : рабі*.

Гукі [дз'], [ц'] адпавядаюць [д], [т], а не [дз], [ц], таму што пры змяненні слоў яны чаргуюцца з [д], [т], а не з [дз], [ц]. Як ужо адзначалася, [дз] наогул вельмі рэдкі гук, а [ц] не выяўляе марфалагічных сувязей з [ц']: *мост—на мосце, прут—пруцік, хата—у хаце*.

Перад зычнымі і ў канцы слоў гукі [б], [п], [м], [ф], [в], [к], [г] заўсёды цвёрдыя: *абмен, абнесены, бераг, верф, гнілы, крык, патрэбна, сем, штраф*.

Сярод мяккіх зычных выдзяляюцца гукі [дз'], [ц'], якія набылі фрыкатыўны элемент, вельмі часта з шапяляватым адценнем. З'ява пераходу [д] у [дз'] атрымала назву дзекання, з'ява пераходу [т] у [ц'] — цекання: *брат — аб браце, вада—вадзе, тоўсты — таўсцей*. Гэты пераход адбываецца,

калі [д], [т] аказваюцца перад [е], [і] або перад [в']. Дзеканне і цеканне — спецыфічная рыса беларускай мовы, якая адрознівае яе ад іншых славянскіх моў: гукі [ц'] і [дз'] не супадаюць па сваёй артыкуляцыі з адпаведнымі гукамі рускай, украінскай і польскай моў.

Зычныя [з'], [с'] у беларускай мове значна мякчэйшыя, чым у іншых славянскіх мовах, аднак яны не такія мяккія, як польскія [ś], [ź]. Эфект мяккасці беларускіх гукаў, як ужо адзначалася, дасягаецца тым, што кончык языка пры іх вымаўленні апускаецца да ніжніх зубоў, месца ўтварэння шчыліны ссоўваецца да сярэдзіны цвёрдага паднябення, сама шчыліна ў канцавой фразе артыкуляцыі становіцца вельмі шырокай. На слых гэтыя гукі робяць уражанне не чыста свісцячых, а шапяляватых.

Зычныя гукі [ц], [ч], [ж], [ш], [дж], [р] заўсёды цвёрдыя: *цар, цэгла, чаша, жадаць, жоўты, шары, шэры, сяджу, пасаджэнне, радавы, арэх.* Іх цвёрдасць дасягаецца тым, што сярэдзіна спінкі языка крыху прагінаецца, аддаляючыся ад паднябення, а задняя частка спінкі языка падымаецца ў напрамку да мяккага паднябення.

Зычны [х] мяккім бывае толькі перад галоснымі [е], [і]: *хеўра, хеты, хітры, страхі.*

Гук [й] заўсёды мяккі, бо пры яго ўтварэнні сярэдзіна языка набліжаецца да сярэдзіны паднябення. Перад галоснымі гэты гук артыкулюецца з даволі вузкай шчылінай, а ў канцы слоў і перад зычнымі — з больш шырокай, так што тут гучыць фактычна вельмі кароткі [і] (*і* нескладовае): *б'ю* [бйу], *вайна* [вайна], *край* [край], *яма* [йама].

У становішчы перад зычнымі большасць цвёрдых-мяккіх гукаў не можа быць выкарыстана для адрознення слоў, таму што цвёрдыя зычныя спалучаюцца толькі з цвёрдымі, а мяккія — толькі з мяккімі. Адзінкавыя выпадкі адрознення цвёрдых і мяккіх зычных можна сустрэць толькі перад [б], [м], [к], [г], [х]: [дба]ць: бара[дз'б]а, [Волх]аў: [вол']ха, [ватк]а: [вац'к]а (разм. Вадзька).

Перад мяккімі зычнымі парныя па цвёрдасці-мяккасці [д], [т], [з], [с], [н], [л] змякчаюцца. Такое змякчэнне называецца *асімілятыўным.* Характэрна, што пры асімілятыўным змякчэнні зычныя заўсёды дасягаюць той жа ступені мяккасці, што і перад галоснымі і ў канцы слоў. Пад уплывам няпоўнага змякчэння ў рускай мове многія беларусы часта робяць памылкі і вымаўляюць цвёрда: [сн'ех], [см'ех], [зм'ена], [зв'е́сц'і], [дзв'е́ры], [цв'орды], [сцв'арджа́ц'], [св'іта́н':е]. Памылкі гэтыя падтрымліваюцца пісьмом, паколькі мяккасць зычных перад мяккімі зычнымі ў арфаграфіі ў большасці выпадкаў не абазначаецца. Тым не менш як у размоўным стылі вымаўлення, так і ў поўным трэба вымаўляць [с'н'ех], [с'м'ех], [з'м'ена], [з'в'е́с'ц'і], [дз'в'е́ры], [ц'в'о́рды], [с'ц'в'арджа́ц'], [с'в'іта́н':е] — з поўным змякчэннем зычных.

Найбольш паслядоўна змякчаюцца зычныя [з], [с]. Яны вымаўляюцца мякка перад наступнымі гукамі: [з'], [с'], [м'], [б'], [п'], [в'], [л'], [дз'], [ц'], [н'], [й] — [з'з'амл'і], [с'с'еч], [раз'м'а́ц'], [раз'б'іц'], [рас'п'ілава́ц'], [б'аз'дз'е́йн'ічац'], [рас'ц'е́рц'і], [з'йе́с'ц'і].

Не змякчаюцца [з], [с] перад [м'], [в'] у некаторых выпадках не ў пачатку слова: [прыкамун'і́зм'е], [ап:ры́зм'е], [уна́зв'е], [уадо́зв'е], [навы́сп'е], але [напры́з'б'е]. Ніколі не змякчаюцца яны перад мяккімі [г'], [к'], [х']: [зг'іб'е́ц'], [ск'і́нуц'], [сх'іл'і́ц']. Перад [ф'] допускаецца як цвёрдае, так і мяккае вымаўленне: [сф'е́ра] і [с'фе́ра], [атмасф'е́ра] і [атмас'ф'е́ра], [сф'і́нкс] і [с'ф'і́нкс].

Зычныя [дз'], [ц'] заўсёды мяк-

кія перад [в']: [буц'в'éц'], [пац'-в'éл'вац'], [пац'в'ераз'éц'], [дз'в'é-ры], [дз'в'е], [Дз'в'іна́], [м'адз'в'éц']. На стыку прыстаўкі на [д] і кораня змякчэння не адбываецца: [падв'а-за́ц'], [падв'арну́ц'], [адв'іса́ц']. Не змякчаецца [д] у гэтай пазіцыі і перад іншымі мяккімі зычнымі, ак-рамя [дз'], [ц']: [падйéс'ц'і], [адйу-та́нт], [падб'íц'], [атп'íц'], [пад-н'а́ц'], але [падз':éц'], [па-ц':éпл'ены], [пац':éрц'і], [ац':аг-ну́ц'], [адз':му́ц']. Не ў па-чатку слова [д], [т] перад [в'] таксама могуць не змякчацца: [дра́тв'е], [л'ітв'é], [картв'éл'ск'і], [мардв'é]. У размоўным стылі перад [з'], [с'] на стыку прыстаўкі і кора-ня [д], [т] могуць злёгку змякчац-ца, набываючы фрыкатыўны эле-мент: [пад$^{з'}$з'ел'ан'íц'], пат$^{с'}$с'і-н'íц'], [пад$^{з'}$з'éмны] [2]. У поўным сты-лі [д], [т] часцей за ўсё тут цвёр-дыя.

Гук [н] вымаўляецца мякка перад [дз'], [ц'], [й]: [каман'-дз'íр], [блан'дз' íн], [кан'йа́к], [бракан'йéр], [м'ан'ц'íц'], [арыйе-н'ц'íр], [абмун'дз'íрава́н':е]. У сло-ве *дранцвець* [дранц'в'éц'] і іншых з трохгукавым спалучэннем [нц'в'] памякчэнне [н] не адбываецца. Не змякчаецца [н] і перад зычнымі [с'], [з'], [л']: [гаманл'íвы], [б'ен-з'íн], [прэтéнз'ійа], [канс'íл'іум] і г. д.

Зычны гук [л] заўсёды мяккі пе-рад спалучэннем [ск'] і [н']: [кам-самол'ск'і], [с'éл'ск'і], [спа́л'н'а], [шко́л'н'ік].

Гукі [б], [п] перад зычнымі заўсёды цвёрдыя: [абн'а́ц'], [пн'а], [апс'éс'ц'і]. Не памякчаюцца яны і тады, калі аказваюцца перад [б'], [п'], [м'], [в']: [апп'іса́ц'], [абб'íц'], [абв'íц'], [абм'а́кнуц'], [апп'éкчыс'а]. Тлумачыцца гэта тым, што ў [б'], [п'] у ад-розненне ад іншых гукаў інфар-мацыю аб мяккасці нясе самая кан-цавая частка іх гучання і галоўным чынам [і]-падобны пачатковы эле-мент галоснага. Таму мяккімі яны могуць быць толькі перад галосны-мі, дзе для перадачы мяккасці іс-нуюць неабходныя ўмовы.

Зычныя [д], [т] цвёрдыя перад [н'], [л']: [правадн'íк], [дрыво́т-н'а], [дн'а], [тл'ец'], [ус'адл'é]. Не змякчаюцца таксама спалучэнні [цт] і [ст] перад [в']: [умаста́цт-в'е], [абмайст'éрств'е].

Звонкія і глухія зычныя, як цвёр-дыя і мяккія, утвараюць пары. Та-кіх пар у беларускай мове 11: [б] — [п], [б'] — [п']; [д] — [т], [дз'] — [ц'], [з] — [с], [з'] — [с'], [ж] — [ш], [дж] — [ч], [г] — [х], [дз] — [ц], [g] выбухны — [к]. Гэтыя па-ры адрозніваюць словы, калі яны знаходзяцца перад галоснымі або перад [р], [л], [л'], [м], [м'], [н], [н'], [в], [в'], [й]: *дом* : *том*, *біць* : *піць*, *поп* : *боб* [боп], *каса* : *каза*, *вазьмі* : *васьмі*, *жар* : *шар*, *пага-дзіць*: *пахадзіць*.

Існуе невялікая колькасць слоў, якія маюць фанетычныя варыянты з глухім або звонкім зычным, за-стаючыся пры гэтым аднолькавы-мі па значэнню: *бідон* і *бітон*, *су-тарга* і *сударга*, *шаргануць* і *шар-хануць*.

У канцы слоў усе звонкія аглу-шаюцца і вымаўляюцца як адпа-ведныя глухія: [сат], [молац'], [скрос'], [замуш], [дошч], [кс'онц]. Аглушэнне адбываецца незалежна ад таго, якія галосныя і зычныя папярэднічаюць канцавому гуку. Арфаэпічна правільна вымаў-ляць глухія гукі ў наступных выпад-ках: [м'íтынх], [ромп], [доўх], [м'еталу́рх], [лорт] і пад. Калі ў канцы сустракаецца спалучэнне двух звонкіх зычных, то абодва яны аглушаюцца: [моск], [по́йест], [ка-тéчш]. Як адпаведныя глухія вы-маўляюцца таксама звонкія зычныя перад глухімі: [сало́тк'і], [ка́ска] (ка́зка), [атх'іл'íц'].

Перад звонкімі зычнымі глухія

---

[2] Надрадковыя знакі $^{з'}$, $^{с'}$ указваюць на нязначны шчылінны прыгук пасля вы-бухных, нязначную іх афрыкатыўнасць.

становяцца звонкімі: [каз’ба́], [вagза́л] (з *г* выбухным), [фудбо́л], [с’п’едзгру́па].

Такім чынам, у літаратурнай мове дзейнічае агульнае правіла: у адным складзе могуць быць або толькі звонкія, або толькі глухія гукі. Зычныя [в], [в’], [ф], [ф’] па месцы і спосабу ўтварэння адносяцца да губна-зубных шчылінных гукаў. Аднак з імі не адбываюцца тыя фанетычныя пазіцыйныя змяненні, якія характэрны для астатніх пар глухіх і звонкіх. У канцы слоў [в], [в’] пераходзяць у [ў], а не чаргуюцца з [ф], [ф’]. Гукі [ф] і [ф’] не сустракаюцца ў беларускай мове перад звонкімі зычнымі (за выключэннем слоў *Афганістан, афганец, афганка)*, таму і няма пераходу [ф]—[в], [ф’]—[в’].

Звонкі [g] выбухны толькі ў слове *мозг* знаходзіцца ў пазіцыі, дзе ён пераходзіць у [к]. Зычны [к] часцей змяняецца на [g] выбухны, галоўным чынам у запазычаных словах: [г’еgза́м’етр], [пagра́ус], [марgра́ф] і г. д. Іменна так функцыяніруе і пара [дз]—[ц]: гук [дз] аглушаецца толькі ў слове [кс’онц], гук [ц] азванчаецца часцей: [с’п’едзгру́па], [кан’е́дзжа] і г. д.

Хоць правілы аглушэння і азванчэння зычных нескладаныя, іх часта парушаюць. Абумоўлена гэта тым, што на значнай тэрыторыі Беларусі ў дыялектнай мове няма аглушэння звонкіх у канцы слоў і перад глухімі зычнымі. Часцей за ўсё прадстаўнікі такіх гаворак не чуюць глухіх гукаў на месцы звонкіх і ў літаратурным вымаўленні, а таму не набываюць звычкі да аглушэння. Уважлівае ўслухоўванне ва ўзорную мову дапаможа правільна ўжываць глухія і звонкія зычныя.

Санорныя зычныя гукі [н], [н’], [м], [м’], [л], [л’], [в], [в’], [р], [й] не чаргуюцца з глухімі і знаходзяцца непасрэдна перад галоснымі ці непасрэдна пасля іх: *край, лад, вол, двор, вясна, ільну, іржа.* Гукі [н], [н’], [м] часам сустракаюцца пасля зычных і перад зычнымі ў пачатку слова: *горн, гімн, корм, многа, мне.* У некаторых запазычаных словах можа ўжывацца ў не ўласцівай яму пазіцыі гук [в]: *нерв, інтэрв’ю, рэзерв, В’етнам.* Аднак назіраецца тэндэнцыя пазбягаць спалучэнняў, не ўласцівых гэтай катэгорыі гукаў. У частцы слоў унутры спалучэнняў паявіўся галосны поўнага ўтварэння, параўн.: руск. *дерн* і бел. *дзёран,* руск. *челн* і бел. *човен,* руск. *бобр* і бел. *бабёр.* У другіх выпадках адбылося выпадзенне канцавога зычнага, параўн.: агульнаслав. *неслъ* і бел. *нёс,* руск. *боязнь* і бел. *боязь,* руск. *жандарм* і бел. *жандар,* руск. *журавль* і бел. *жорай,* руск. *Мстиславль* і бел. *Мсціслаў.* Гэтыя пазіцыйныя асаблівасці санорных абумовілі з’яўленне прыстаўных галосных.

Абагачэнне слоўнікавага запасу беларускай мовы за кошт запазычанай лексікі вядзе да паяўлення шматлікай групы слоў з санорнымі пасля зычных. У гэтым выпадку санорны не аглушаецца, ■ паміж ім і зычным у размоўным стылі ўзнікае [а]-падобны галосны гук [3]: [арб’іт$^{а}$р], [дыйа́м’ет$^{а}$р], [жан$^{а}$р], [крем$^{а}$л’], [м’ет$^{а}$р], [с’п’екта́к$^{а}$л’], [стог$^{а}$н], [цент$^{а}$р].

Перад санорнымі парныя глухія і звонкія зычныя не змяняюць сваіх якасцей і выкарыстоўваюцца для адрознення слоў, як і перад галоснымі: [з’л’і́ўк’і]: [с’л’і́ўк’і], [слых]: [злых] (ад злы) і г. д.

Часта ў гаворачых узнікае цяжкасць у правільным ужыванні гукаў [р] і [л], асабліва калі ў слове ёсць два [р]. Памылкова робяць іх перастаноўку або распадабненне, вымаўляюць [лабалато́рыйа] (лабараторыя), [палтрэ́т] (партрэт), [дыл’е́ктар] (дырэктар).

[3] Аглушэнне санорных адбываецца ў пэўных пазіцыях у рускай мове. Яно выражаецца ў тым, што пасля глухіх на санорным не ўключаецца голас.

Аднак у слове [кал'ідор] гэта з'ява адлюстроўваецца на пісьме і з'яўляецца нормай літаратурнага вымаўлення.

Заўважым, што, нягледзячы на аднаяўнасць у [с'], [з'] лёгкага адцення шапялявасці, яны ўстойліва адрозніваюцца ад [ш], [ж]. Зусім па-рознаму вымаўляюцца [шэс'ц'] і [с'е́с'ц'і], [з'ац'] і [жац'].

У моўнай плыні шыпячыя могуць аказацца перад свісцячымі і свісцячыя перад шыпячымі. У гэтым выпадку дзейнічае заканамернасць, згодна з якой шыпячыя вымаўляюцца перад свісцячымі як свісцячыя, а свісцячыя перад шыпячымі — як шыпячыя: [ш:ытак] (сшытак), [по́лаццы] (полачцы). У гукавых спалучэннях [шск], [жск] у размоўным стылі адбываецца сцяжэнне і яны вымаўляюцца як [ск]: [сура́ск'і] (суражскі), [ч'е́ск'і] (чэшскі). Але яны могуць вымаўляцца і як [шск]: [сура́шск'і], [че́шск'і]. Спалучэнне [сцк] таксама вымаўляецца неаднастайна: [фашы́ск'і] і [фашы́сцк'і].

У давальным склоне многіх назоўнікаў гукі [ж], [ш] аказваюцца перад [ц]. У поўным стылі вымаўлення гук [ш] захоўваецца: [до́шцы], [но́шцы] (ад *нoшка* і *ножка*), [лы́шцы], [дзяру́шцы]. Спалучэнне [стц] крыху скарачаецца, невыразна гучыць [т]: [зайе́с$^{т}$цы], [іран'іс$^{т}$цы], [па́с$^{т}$цы]. Тое ж самае назіраецца і ў спалучэнні [нтц]: [дыв'ерса́н$^{т}$цы], [дыл'ета́н$^{т}$цы].

У дзеяслоўных формах другой асобы адзіночнага ліку спалучэнне [шся] звычайна вымаўляецца як [с':а]: [агл'ада́йес':а], [купа́йес':а], [мы́йес':а], [ц'іка́в'іс':а].

Словы *чапля, чапляцца, чапіцца, чапляць, счапіцца, счапіць, с付э*п, *сцэпшчык* вымаўляюцца з [ч] і [шч]. Словы *шэры, шабля, шкло, дошка, шкіпінар* пішуцца і вымаўляюцца з [ш]. Слова *скура* вымаўляецца і пішацца з гукам [с]. Слова *калодзеж* мае дзве разнавіднасці ў пісьмовай і вуснай мове: *калодзеж* [кало́дз'еш] і *калодзезь* [кало́дз'ес'].

Змычныя, шчылінныя і змычна-шчылінныя зычныя выкарыстоўваюцца для адрознення слоў: *чын :шын* (Р. скл. мн. л. ад шына) : *тын; цок : сок : ток*. На марфемных стыках сустракаюцца спалучэнні змычных гукаў са шчыліннымі, дзе таксама назіраецца поўная змычка, а затым утварэнне шчыліны. Але гэта спалучэнне гукаў, а не адзіны гук. Па-першае, змычка тут значна даўжэйшая, чым у афрыкат. Па-другое, тут абавязковы элемент імгненнага выбуху. Гэтым і адрозніваюцца такія спалучэнні ад змычна-шчылінных; параўн. вымаўленне [ачум'е́ц'] і [атшум'е́ц'], [пацадз'і́ц'] і [патсадз'і́ц'], [ад-жа́ла] і [а джа́ла]. Вось чаму парушэннем літаратурнай нормы з'яўляецца вымаўленне афрыкат [дж], [дз] як спалучэння гукаў [д] + [ж], [д] + [з].

Пры словаўтварэнні, калі словаўтваральная аснова заканчваецца на [д], [т], [к], [ч], а суфікс пачынаецца з [с], узнікае афрыката [ц]: *савет+ск=савецкі, кулак+ств=кулацтва* і г. д.

Калі змычныя гукі аказваюцца перад змычна-шчыліннымі зычнымі, то яны могуць вымаўляцца як адпаведныя змычна-шчылінныя, асабліва ў размоўным стылі: [ач:уц'] (адчуць), [ач:ын'іц'] (адчыніць), [налач:ык] (наладчык), [карыц:а] (карытца), [склац:ы] (складцы). У інфінітывах дзеясловаў і ў формах трэцяй асобы адзіночнага і множнага ліку вымаўляецца і пішацца падоўжаная афрыката [цц]: *купаецца, купацца, купаюцца, мыецца, мыюцца, мыцца.*

Перад свісцячымі [з], [с], [з'], [с'] змычныя [д], [т] у канцы гучання набываюць шчылінны элемент а ў размоўным стылі могуць вымаўляцца як афрыкаты: [пад$^{з}$з'ам'е́л':е] і [падз'з'ам'е́л':е], [пад$^{з}$з'ел'ан'і́ц'] і [падз'з'ел'ан'іц'], [пад$^{з}$зо́рны] і [падззо́рны], [пат$^{с}$с'ін'і́ц'] і [пац'с'ін'іц'], [пат$^{с}$садз'і́ц'] і

[пацсадз'іц']. У некаторых словах афрыкаты перайшлі ў фрыкатыўныя гукі: *што, пошта, яешня* (дапускаецца і *яечня*). Спалучэнні гукаў [чн], [чц'] вымаўляюцца так, як і пішуцца: *пачціва, смачна, ячны, явачны і г. д.*

Частка слоў мае фанетычныя варыянты са змычнымі або шчыліннымі, шчыліннымі або афрыкатамі: *крактаць* і *крахтаць, хруст* і *хрушч, штык* і *штых, чвыр* і *жвір, дапускаць* і *дапушчаць, гушчаць* і *гусцець*.

Характэрнай асаблівасцю беларускай фанетыкі з'яўляецца наяўнасць падоўжаных зычных. Частка з іх узнікае на марфемных межах у працэсе словаўтварэння: [ат:ул'], [з:аду], [двац:ац'], [ж:ац'], [аб':іц'], [пад:ац'], [выхоўвац'], [с:адз'іц'], [раз:ван'іц'], [ш:ытак]. Збег аднолькавых зычных на марфемных стыках уласцівы многім мовам. Асаблівасцю беларускай мовы з'яўляюцца падоўжаныя зычныя ў словах тыпу *зелле, вараннё, калоссе.* Узніклі яны на месцы былых спалучэнняў «зычны+ьй». Такія падоўжаныя зычныя сустракаюцца ў становішчы паміж галоснымі: *касс-ё, падарожж-а, сучч-а, угнаенн-е.*

Падоўжваюцца наступныя зычныя:

[л'] : [гал':ó], [в'ас'éл':е], [кры́л':е], [мóл':у], [навакóл':е], [гн'íл':у], [рал':á]. У словах *чуллівы, гуллівы* і вытворных ад іх падоўжаны [л':] узнік пры словаўтварэнні: *чул+лів=чуллівы, гуляць+лів=гуллівы.* У формах дзеяслова *ліць* прынята пісаць *лью, льеш* і г. д. У вымаўленні дапускаецца і падоўжаны зычны: [л':у], [л':еш] і г. д. Сказанае адносіцца і да ўласнага імені *Ілья;*

[н'] : [жадáн':е], [пытáн':е], [рáн':е], [с'в'ін':á], [с'в'ітáн':е], [с'н'адáн':е];

[з'] : [грáз':у], [мáз':у], [палóз':е], [рыз':ó]. У слове *ззяць* і вытворных ад яго падоўжаны зычны ўтварыўся ў пачатку слова;

[с'] : [вóс':у], [калóс':е], [кас':ó], [пал'éс':е], [ры́с':у]. У слове *ссаць* і вытворных ад яго вымаўляюцца падоўжаныя [с], [с'] у пачатку слова;

[дз'] : [абóдз':е], [мóладз':у], [павóдз':е], [развóдз':е], [судз':á];

[ц'] : [выц':ó], [п'атнáц:ац':у], [рáц':у], [свáц':а], [с'м'éц':е], [трыц:ац':ý]. Слова *трэці* і вытворныя ад яго, а таксама *смяцяр, смяцярка* не маюць падоўжанага зычнага;

[к'] : толькі ў слове *мяккі* і вытворных ад яго, а таксама ў запазычаным слове *Мекка;*

[ш] : [зац'íш:а], [мы́ш:у], [ц'íш:у];

[ч] : [зарéч:а], [нóч:у], [сýч:а];

[ж] : [залýж:а], [збóж:а].

У многіх словах іншамоўнага паходжання падоўжаны гук [н:]: *бонна, ванна, донна.* Ён паяўляецца таксама ў прыметніках, утвораных ад назоўнікаў з асновай на [н]: *заганны, карэнны, насценны, прыгонны.* Словы тыпу *чырвоны, юны* (але *юннат*), *паветраны, прачытаны* і г. д. вымаўляюцца і пішуцца з адным [н]. Пры засваенні запазычанняў з падоўжанымі зычнымі іх падоўжанасць звычайна знікае. Вымаўляюць і пішуць: *алея, каса, маса, металы, Місісіпі, прафесар* і г. д. Спалучэнне «зычны+[й]» у адных выпадках дае падоўжаныя зычныя, у другіх захоўваецца без змен: *камарылля, эскадрылля,* але *дасье, каньяк.* Спалучэнне «зычны+[й]» захоўваецца ў беларускіх па паходжанні словах, калі зычны губны або [р]: *вераб'ёў, зуб'е, пер'е.*

Супрацьпастаўленне падоўжаных і звычайных зычных шырока выкарыстоўваецца для адрознення слоў: *варанё : вараннё, веццe :* веце[р], *жывіца : жывіцца, ззяць : зяць, насенне : на сене, разводдзе : аб разводзе, цішшу* (Т. скл. ад *ціша*) : *цішу* (В. скл. ад *ціша*).

Прыстаўныя зычныя паяўляюцца перад націскнымі галоснымі. Часцей за ўсё прыстаўным бывае зычны гук [в]: *востры, вугаль, павук.* Гэта вель-

мі адметная з'ява беларускай фанетыкі. Прыстаўны зычны [в] паяўляецца перад націскным [о] ў пачатку і ў сярэдзіне слоў: *возера, вокны, вольха, восем, вострьы, завочны, навобмацак, навокал.* Не паяўляецца ён у словах *одум, опера, оптыка, оргія, осмій* і г. д. Словы *воцат* і *вохра* (дапушчальна і *охра*) ужываюцца з прыстаўным зычным. Калі націск сыходзіць з [о], то звычайна адпадае і прыстаўны зычны: *азёры, акно, альховы, астрыць.* У некаторых выпадках прыстаўны зычны захоўваецца і тады, калі націск з [о] сыходзіць: *вачэй, васьмі, наваколле.* Часам дапускаюцца формы з прыстаўным зычным і без яго: *заастрыць* і *завастрыць, акно* і *вакно, аколіца* і *ваколіца.*

Прыстаўны [в] паяўляецца і перад галосным [у], націскным і ненаціскным: *вуха, вутка, ву́чыцца* і *вучы́цца, навука.* Такім чынам, тут прыстаўны зычны не залежыць ад націску. Перад прыстаўкай *у-*, перад *у*, якое ўзыходзіць да прыставачнага, і *у*, узнікшым з *в*, прыстаўны зычны не ўзнікае: *узнікненне, усход, учарашні, участак.* Няма прыстаўнога зычнага перад *у* і ў запазычаных словах: *кансіліум, прэзідыум, умбра, універсітэт, унія, унтэр.*

Шырока распаўсюджаны і прыстаўны [й]. Па-першае, ён з'яўляецца ў пачатку слоў перад націскным [і]: [йі́м'і], [йі́н'ей], [йі́скра], [йі́хн'і] і г. д. Па-другое, у запазычаных словах пасля галосных [ы], [і] перад наступнымі [а], [о], што адлюстроўваецца і на пісьме: [б'ійо́лах], [ак'ійа́н], [ра́дыйо], [сацыйа́л'ны], [стацыйана́р] (параўн., аднак, *адажыо, дыэтан, капрычыо, сальфеджыо*). Не бывае прыстаўнога [й] перад [і], які сам з'яўляецца прыстаўным: *ільняны, ірдзець, іржышча, істужка.* Без прыстаўнога зычнага вымаўляецца і ненаціскны [і] ў запазычаных словах, а даволі часта і ў словах славянскага паходжання: *заінтрыгаваць, ігольчаты, індустрыя, інжынер, інстытут, інтарэс* і г. д.

У звязнай мове адбываюцца змены зычных на стыку слоў, характар якіх нагадвае змены спалучэнняў зычных унутры слоў.

Змены на стыку слоў звязаны з такімі прыкметамі гукаў, як глухасць-звонкасць, цвёрдасць-мяккасць, шыпячасць-свісцячасць. Звонкія зычныя на канцы слоў перад санорнымі гукамі і перад галоснымі аглушаюцца: [наро́т, йак в'адо́ма], [гало́ўнайе ш у ты́м], [кап н'е згуб'і́ц'], [бо́х йаго в'е́дайе], [дро́б'ас' йака́йа]. Вымаўленне звонкіх зычных у гэтай пазіцыі з'яўляецца адхіленнем ад літаратурнай нормы. Толькі прыназоўнікі на звонкія зычныя не змяняюць іх на глухія: [адйаго́], [з'йі́м], [б'ез в'інто́ўк'і], [п'е́рад йо́йу]. Перад глухімі зычнымі звонкія аглушаюцца вельмі паслядоўна: [с таго́ ча́су], [с кл'о́катам], [ус'о́ ш так'і], [камбры́х спрабава́ў], [а шта́п тым ча́сам].

Для вымаўлення глухіх зычных перад звонкімі не існуе адзінай нормы. Пры хуткім тэмпе маўлення глухія гукі ў гэтай пазіцыі азванчаюцца. Найбольш паслядоўнае азванчэнне глухіх назіраецца ў прыназоўніках, злучніках: [поб-здрав'іла], [пятрузь быў жартаўн'ік], [йа́g бы] (g выбухны), [бо́л'ж буду́ц'], [н'а го́рж за м'ан'е́], [хло́п'едз быў]. Пры запаволеным тэмпе часцей за ўсё азванчэнне не адбываецца: [го́лас дру́га], [кн'іх б'ела-ру́ск'іх выда́н':аў], [пае́т глыбо́ка нацыйана́л'ны], [бо́л'ш даста́тку].

Найбольш разнабой назіраецца ў вымаўленні цвёрдых і мяккіх зычных на стыках слоў. Калі самастойнае слова заканчваецца на цвёрды зычны, а наступнае слова пачынаецца з мяккага зычнага, то гэты цвёрды зычны ніколі не змякчаецца. Што да службовых слоў, то яны часцей за ўсё, асабліва ў размоўным стылі, мяняюць цвёрдыя [з], [с] на мяккія [з'], [с']: [з'йі́м], [з'йак'і́х крайо́ў], [бес':аб'е́].

Не адбываецца змякчэнне апошняга зычнага ў прыназоўніках *праз*, *цераз* і ў прыназоўніках на [д]: [ц'ераз ц'аб'е́], [ад м'ан'е́], [ад дз'ейаслова].

У поўным стылі часам не змякчаюцца [з], [с] і ў іншых прыназоўніках, але гэта адхіленне ад літаратурнай нормы.

Шыпячыя перад свісцячымі на стыку слоў змяняюцца толькі па глухасці-звонкасці: [н'а го́рж за м'ан'е], [тава́рыж з'ан'ко́]. Свісцячыя перад шыпячымі змяняюцца не толькі па глухасці-звонкасці, але адначасова часцей за ўсё вымаўляюцца як шыпячыя: [б'аш ша́пк'і], [ж:а́л'ем]. На мяжы самастойных слоў свісцячыя захоўваюцца нязменна: [л'ес шум'е́ў], [го́лас чу́йу] і г. д.

Калі слова заканчваецца на [с' ц'], а наступнае пачынаецца з [т], то [ц'] скарачаецца па даўжыні і амаль пазбаўляецца фрыкатыўнага элемента: [хо$^{ц'}$ ты йаго́], [шес'т$^{ц}$ тамо́ў]. Асабліва выразная гэта з'ява ў размоўным стылі. Вымаўленне [ць] у лічэбніках тыпу *пяцьдзесят. шэсцьдзесят, пяцьсот, шэсцьсот* характарызуецца не толькі яго азванчэннем, але і скарачэннем, у размоўным стылі — амаль да поўнага знікнення.

## § 7.4. АРФАЭПІЯ І ПІСЬМО

У сувязі з тым што зараз кола людзей, якія свабодна валодаюць вуснай формай літаратурнай мовы, істотна зменшылася, асаблівае значэнне набывае авалоданне правіламі чытання, бо іменна праз пісьмовую форму мовы многія спасцігаюць вусную. Паколькі літары і гукі, асабліва зычныя, неадназначныя, правілы чытання аказваюцца досыць складанымі, нягледзячы на тое, што беларускае пісьмо ў цэлым нядрэнна адлюстроўвае гукавы лад мовы.

Беларускае пісьмо заснавана ў асноўным на двух прынцыпах — фанетычным і марфалагічным. Так званы фанетычны прынцып не азначае «пішы, як чуеш», бо гэта можна рэалізаваць толькі ў транскрыпцыі. І справа не толькі ў тым, што колькасць літар і гукаў у слове не заўсёды супадае. Галоўнае заключаецца ў тым, што ў большасці выпадкаў, калі гук знаходзіцца не ў пазіцыі максімальнай дыферэнцыяцыі, пры пісьме чалавек адлюстроўвае не рэальнае яго гучанне з усімі магчымымі адценнямі, а пэўным чынам абагульняе сваё слыхавое ўражанне, суадносячы яго з уражаннем ад гучання ў пазіцыі максімальнай дыферэнцыяцыі. Напрыклад, калі трэба напісаць слова *едакі,* якое можа быць вымаўлена і як [йідакі́], пішучая асоба, безумоўна, суадносіць гэта слова з дзеясловам *есці,* дзе першы галосны знаходзіцца пад націскам, і такім чынам звужае варыянтнасць напісання да выбару літар *е* або *я,* што ўжо абумоўлена толькі месцам націску ў слове. А гэта азначае, што, нягледзячы на ўстойлівую традыцыю, дакладней было б гаварыць аб фанематычным, а не фанетычным прынцыпе.

Згодна з гэтым прынцыпам, на пісьме перадаюцца галосныя гукі ў незапазычанай лексіцы. Адступленнем ад яго з'яўляецца захаванне карэннага *я* ў занацiскных і перадвацiскных (акрамя першага) складах: *па́мяць, лямантава́ць, пякі́, ляскаце́ць* і г. д. Улічваючы, што такіх слоў нямнога, па наяўнасці літары *я* можна часта вызначыць месца націску, бо яна бывае ў першым складзе перад націскам (параўн. *лясні́чыха* і *лесні́чыха)* або пад націскам *(ля́мпавы, ця́жкасць)*, дадатковай падказкай у апошнім выпадку з'яўляецца перадача акання. З большай упэўненасцю націск можна вызначыць, калі ў слове ёсць *о* або *ё*, бо гэтыя літары

абазначаюць адпаведныя галосныя пад націскам (*прастора, вавёрка, восень, вёсны* і г. д.), выключэнне — нешматлікія запазычанні тыпу *ада́жыо, ра́дыё, То́кіо*.

Такім чынам, правілы чытання галосных грунтуюцца на правільнай пастаноўцы націску ў словах. Вызначэнне яго месца ў тэксце немагчыма сфармуляваць у выглядзе правіл, але названыя вышэй агульныя заканамернасці ў многіх выпадках аблягчаюць задачу. Калі месца націску ўстаноўлена, прачытанне галосных любога слова якіх-небудзь асаблівых цяжкасцей не мае, бо гэтыя літары перадаюцца дастаткова паслядоўна ў адпаведнасці з правіламі вымаўлення.

Правілы чытання зычных з'яўляюцца значна больш складанымі, бо што абумоўлена асаблівасцямі беларускай графікі і марфалагічным прынцыпам іх перадачы ў складзе слова і больш буйных моўных адзінак.

З асаблівасцямі графікі звязана рознае чытанне спалучэнняў літар *дз* і *дж*, якія ў адных выпадках перадаюць паслядоўнасць з двух гукаў [д] + [з], [д] + [ж] (*пад+зываць, ад+жоўваць*), у другіх з'яўляюцца дыграфамі і перадаюць адзіныя змычна-шчылінныя гукі (*падзвынкаць, падзелены, уджаліць, ураджай, ваджу*). Правільнае чытанне ў гэтым выпадку непасрэдна звязана з марфалагічным аналізам: на марфемных стыках звычайна *дз* і *дж* абазначаюць спалучэнні гукаў, а ў межах марфемы — адзіны гук (*пад-зеляніць, па-дзяліць, ад-жаваць, у-джгнуць*). Трэба памятаць, што падоўжаны [дз'] перадаецца на пісьме як спалучэнне літар *ддз* (*суддзя, разводдзе*).

Адсутнасць у алфавіце спецыяльнай літары для абазначэння змычнага [g] патрабуе ад чытача ведання слоў, у якіх ён вымаўляецца, або звяртацца да слоўніка, дзе даецца арфаэпія. Літара *г* адпавядае гуку [g] у нешматлікіх запазычаннях з польскай або літоўскай моў, з ідыш (*гузік, гірса, гвалт*) і ў большасці слоў са спалучэннем *зг* (*мазгі, розгі, брызгаць*).

Для абазначэння губных шчылінных гукаў у нашым алфавіце маюцца літары *в* і *ў*. Пры гэтым літара *ў* заўсёды абазначае губна-губны [ў], а *в* можа абазначаць як губна-зубны ([*в'іц'*]), так і губна-губны ([*ўузел*]). У апошнім выпадку правільнае чытанне літары фактычна залежыць ад навыкаў вымаўлення чытача. Завучванне пазіцый, у якіх вымаўляецца губна-губны або губна-зубны варыянт, з-за тонкасці адрозненняў з'яўляецца практычна справай вельмі цяжкай.

Ускладняе правілы чытання зычных і марфалагічны, або марфематычны, прынцып іх перадачы на пісьме ў складзе слова, бо ён патрабуе захавання тоеснасці марфем, у выніку чаго на пісьме не перадаюцца жывыя фанетычныя чаргаванні гукаў, звязаныя з асіміляцыйнымі працэсамі і іншымі пазіцыйнымі зменамі. У сувязі з гэтым зычныя гукі перадаюцца на пісьме так, як яны гучаць у пазіцыях максімальнай дыферэнцыяцыі, не так, як гучаць у канкрэтнай пазіцыі, дзе назіраюцца іх фанетычныя змены. Так, перад [к] з прычыны часткова прыпадабнення ў вымаўленні магчымы гук [ш] і немагчымы [ж], але на пісьме [ш] перадаецца літарай *ш* або *ж* у залежнасці ад таго, якая марфема запісваецца *ношка* (бо *ношачка*), *ножка* (бо *ножачка*). Тоеж назіраецца і з мяккімі зычнымі, калі яны знаходзяцца перад мяккімі зычнымі: пасля іх пішацца мяккі знак толькі ў тых выпадках, калі мяккасць зычнага захоўваецца, і тады, калі наступны становіцца цвёрдым: *на пісьме*, бо *пісьмо*, але *на прызбе* [напры́з'б'е], бо *прызба*.

Марфалагічны прынцып напісання, такім чынам, не забяспечвае рэгулярную перадачу вымаўлення зычных, і прачытанне, згодна з ар-

фаэпіяй, у адных выпадках адпавядае напісанню *(пісьме, ношка)*, у іншых не адпавядае *(на прызбе, ножка)*. Зычныя літары як бы выступаюць у двух гукавых абліччах: перад галоснымі і ў некаторых спалучэннях зычных яны абазначаюць гукі, якія замацаваны за імі ў графіцы; у іншых спалучэннях зычных яны абазначаюць гукі, звычайна парныя да гукаў, замацаваных за імі ў графіцы па глухасці-звонкасці, цвёрдасці-мяккасці, шыпячасці-свісцячасці, выбуховасці-афрыкатыўнасці: *касьба* [каз'бá], *радасць* [рáдас'ц'], *сшытак* [ш:ы́так], *лётчык* [л'óч:ык]. У радзе выпадкаў зычныя літары абазначаюць гукі, якія адрозніваюцца ад замацаваных за імі ў графіцы адразу некалькімі прыкметамі, напрыклад глухасцю-звонкасцю і цвёрдасцю-мяккасцю (*падцякаць* [пац':акáц'] — літара *д* абазначае гук [ц'], які адрозніваецца ад [д] глухасцю і мяккасцю), глухасцю-звонкасцю, шыпячасцю-свісцячасцю і цвёрдасцю-мяккасцю (*зарэжся* [зарéс':а] — літара *ж* абазначае гук [с'], які адрозніваецца ад [ж] глухасцю, свісцячасцю і мяккасцю), глухасцю-звонкасцю, цвёрдасцю-мяккасцю і выбуховасцю-афрыкатыўнасцю (*адцвісці* [ац':в'іс'ц'í] — літара *д* абазначае гук [ц'], які адрозніваецца ад [д] глухасцю, мяккасцю і афрыкатыўнасцю) і г. д.

Як вынік марфалагічнага прынцыпу перадачы зычных на пісьме ўзнікае гукавая шматзначнасць большасці зычных літар. І гэта шматзначнасць тым большая, чым у большую колькасць карэляцыйных пар уваходзіць гук, замацаваны за зычнай літарай у графіцы. Справядліва і адваротнае сцверджанне: чым у меншую колькасць пар уваходзіць гук, што замацаваны за зычнай літарай, тым меншая яе гукавая шматзначнасць. Відавочна, што літары для гукаў, якія не ўваходзяць у парныя рады, з'яўляюцца адназначнымі. У беларускай мове да такіх адносяцца літары для санорных гукаў *р, л, м, н* (часткова), *в, ў, й*. Для літар *л, м, н*, як і для іншых зычных, парных па цвёрдасці-мяккасці, характэрна двухзначнасць, бо яны суадносяцца з цвёрдымі і мяккімі гукамі, але гэта двухзначнасць абумоўлена складовым прынцыпам графікі, згодна з якім мяккасць папярэдніх зычных абазначаецца галоснымі літарамі *і, е, ё, я, ю*.

Неаднолькава адлюстроўваюцца на пісьме і сцяжэнні зычных, якія адбываюцца на марфемных межах: *савет — савецкі* [сав'éцк'і], *Асіповічы — Асіповіцкі* [ас'іпóв'іцк'і], *агент — агенцтва* [аг'éнцтва], *наборшчык — наборшчыцкі* [набóршчыцк'і] і г. д. У прыведзеных прыкладах гэта фанетычная з'ява перадаецца на пісьме, але калі корань слова заканчваецца на [д], то яна на пісьме не перадаецца: *горад — гарадскі* [гарацк'і], *сусед — суседскі* [сус'éцк'і], *казнакрад — казнакрадства* [казнакрáцтва] і г. д.

Перадача сцяжэння зычных з'яўляецца адступленнем ад марфалагічнага прынцыпу напісання, бо ў гэтых выпадках яно перадае фанетычную асаблівасць. Цалкам фанетычнаму (дакладней фанематычнаму) прынцыпу падпарадкуецца перадача на пісьме прыставак на [з]: *з-, без-, раз-, уз-, абез-, цераз-, праз-* перад глухімі і звонкімі зычнымі. Перад глухімі зычнымі пішацца ў адпаведнасці з гучаннем літара *с*, перад звонкімі — *з*: *бездарожжа, узгорак, разбіць, абяззброіць*, але *цераспалосіца, спасылацца, раствараць, бесперапынна* і г. д.

Асаблівасцю беларускай мовы з'яўляецца тое, што асноўным тут выступае варыянт з гукам [з], бо ён ужываецца перад галоснымі і перад санорнымі зычнымі: *зусім* (параўн. рус. *совсем*), *зрасціся* (параўн. рус. *срастись*), *безназоўны* і г. д. У сувязі з гэтым з прыстаўкай *з-* павінны ўжывацца і словы тыпу *зэканоміць, зарыентавацца, зараць, зарганізаваць* і г. д.

# ЗМЕСТ

## УВОДЗІНЫ



## *Раздзел 1*

## АРТЫКУЛЯЦЫЙНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА ГУКАЎ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ



## *Раздзел 2*

## АКУСТЫЧНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА ГУКАЎ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

## *Раздзел 3*

## УСПРЫМАННЕ ГУКАЎ МОВЫ



## *Раздзел 4*

## СПАЛУЧЭННІ ГУКАЎ У МЕЖАХ СЛОВА



## *Раздзел 5*

## НАЦІСК

## *Раздзел 6*

## ІНТАНАЦЫЯ



## *Раздзел 7*

## АРФАЭПІЯ

Научное издание

**Бурлыко** Василий Григорьевич
**Выгонная** Лилия Тихоновна
**Лосик** Георгий Васильевич
**Подлужный** Александр Иосифович

**ФОНЕТИКА БЕЛОРУССКОГО ЛИТЕРАТУРНОГО ЯЗЫКА**

Минск, издательство «Наука и техника»

На белорусском языке

Навуковае выданне

**Бурлыка** Васіль Рыгоравіч
**Выгонная** Лілія Ціханаўна
**Лосік** Георгій Васільевіч
**Падлужны** Аляксандр Іосіфавіч

**ФАНЕТЫКА БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЫ**

Загадчык рэдакцыі *Г. Ф. Юрчанка*
Рэдактар *А. М. Садоўская*
Мастак *А. Н. Пятроў*
Мастацкі рэдактар *В. А. Жахавец*
Тэхнічны рэдактар *Т. В. Лецьен*
Карэктар *З. Я. Губашына*

ІБ № 3397

Друкуецца па пастанове РВС АН БССР. Здадзена ў набор 09.08.88. Падпісана ў друк. 14.03.89. Фармат $70 \times 100^{1}/_{16}$. Папера друк. № 1. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 27,09. Ум. фарб.-адб. 27,09. Ул.-выд. арк. 28,38. Тыраж 1050 экз. Зак. № 1429. Цана 4 р. 50 к.
Выдавецтва «Навука і тэхніка» Акадэміі навук БССР і Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220072. Мінск, Ленінскі праспект, 68. Друкарня імя Францыска Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка». 220072. Мінск, Ленінскі праспект, 68.